№4(65)
/ліпень-жнівень/ 2013

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Святлана Алексіевіч



...Наперадзе чакала невядомае жыццё,
яно ўсіх прыцягвала.
Здавалася, што царства свабоды
ўжо на парозе...

# Час second-hand

## *(Канец чырвонага чалавека)*

*Ахвяра і кат аднолькава агідныя,*
*і ўрок лагера ў тым,*
*што гэта братэрства ў падзенні.*
Давід Русэ. Дні нашай смерці

*У кожным разе, нам трэба памятаць,*
*што за перамогу зла ў свеце*
*ў першую чаргу адказваюць*
*не яго сляпыя выканаўцы,*
*а духоўна відушчыя служыцелі дабра.*
Ф. Сцяпун. Былое і неажыццёўленае

### Нататкі саўдзельніка

*Фрагмент з новай кнігі.*

*Пераклад з рускай – Валера СТРАЛКО.*

Мы развітваемся з савецкім часам. З тым нашым жыццём. Я спрабую шчыра выслухаць усіх удзельнікаў сацыялістычнай драмы...

У камунізму быў вар'яцкі план – перарабіць «старога» чалавека, старазапаветнага Адама. І гэта атрымалася... можа быць, адзінае, што атрымалася. За семдзясят з

лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып – «homo soveticus». Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, поплеч, пражыла шмат гадоў. Ён – гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, бо *homo soveticus* – гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі... Цяпер мы жывем у розных дзяржавах, размаўляем на розных мовах, але нас ні з кім не зблытаеш. Пазнаеш адразу! Усе мы, людзі з сацыялізму, падобныя і не падобныя да астатніх людзей – у нас свой слоўнік, свае ўяўленні пра дабро і зло, пра герояў і пакутнікаў. У нас асаблівыя адносіны са смерцю. Пастаянна ў расповедах, якія я запісваю, рэжуць вуха словы: «страляць», «расстраляць», «ліквідаваць», «пусціць у расход» ці такія савецкія варыянты знікнення, як: «арышт», «дзесяць гадоў без права перапіскі», «эміграцыя». Колькі можа каштаваць чалавечае жыццё, калі мы памятаем, што нядаўна гінулі мільёны?

Мы поўныя нянавісці і забабонаў. Усё адтуль, дзе быў ГУЛАГ і страшная вайна. Калектывізацыя, раскулачванне, перасяленне народаў...

Гэта быў сацыялізм, і гэта было проста нашае жыццё. Тады мы мала пра яго гаварылі. А цяпер, калі свет незваротна змяніўся, усім стала цікавае тое нашае жыццё, усё роўна якое яно было, гэта было нашае жыццё. Пішу, шукаю па крупінках, па драбках гісторыю «хатняга»... «унутранага» сацыялізму. Тое, як ён жыў у чалавечай душы. Мяне заўсёды прыцягвае вось гэтая маленькая прастора – чалавек... адзін чалавек. На самой справе там усё і адбываецца.

Чаму ў кнізе так шмат расповедаў самагубцаў, а не звычайных савецкіх людзей са звычайнай савецкай біяграфіяй? У рэшце рэшт, зводзяць рахункі з жыццём і з-за любові, і з-за старасці, проста так, дзеля цікавасці, і з-за жадання разгадаць сакрэт смерці... Я шукала тых, хто намёртва прырос да ідэі, упусціў яе ў сябе так, што неададраць – дзяржава стала іх космасам, замяніла ім усё, нават уласнае жыццё. Яны не змаглі сысці з вялікай гісторыі, развітацца з ёй, быць шчаслівымі інакш. Нырнуць... прапасці ў прыватным існаванні, як гэта адбываецца сёння, калі маленькае стала вялікім. Чалавек хоча проста жыць, без вялікай ідэі. Такога ніколі не было ў нашым жыцці, гэтага не ведае і руская літаратура. Увогуле, мы ваенныя людзі. Ці ваявалі, ці рыхтаваліся да вайны. Ніколі не жылі інакш. Адсюль ваенная псіхалогія. І ў мірным жыцці ўсё было па-вайсковаму. Біў барабан, лунаў сцяг... сэрца выскоквала з грудзей... Чалавек не заўважаў свайго рабства, ён нават любіў яго, сваё рабства. Я таксама памятаю: пасля школы мы збіраліся ўсім класам паехаць на цаліну, пагарджалі тымі, хто адмаўляўся, да слёз шкадавалі, што рэвалюцыя, грамадзянская вайна – усё здарылася без нас. Азірнешся: няўжо гэта мы? Я? Я ўспамінала разам са сваімі героямі. Хтосьці з іх сказаў: «Толькі савецкі чалавек можа зразумець савецкага чалавека». Мы былі людзі з адной камуністычнай памяццю. Суседзі па памяці.

Бацька ўспамінаў, што ён асабіста ў камунізм паверыў пасля палёту Гагарына. Мы – першыя! Мы ўсё можам! Гэтак яны з мамай нас і выхоўвалі. Я была акцябронкам, насіла значык з кучаравым хлопчыкам, была піянеркай, камсамолкай. Расчараванне прыйшло пазней.

Пасля перабудовы ўсе чакалі, калі расчыняць архівы. Іх адкрылі. Мы зведалі гісторыю, якую ад нас хавалі...

«Мы павінны захапіць з сабою 90 мільёнаў са ста, якія насяляюць

Савецкую Расію. З астатнімі нельга размаўляць – іх трэба знішчыць». (Зіноўеў, 1918).

«Павесіць (абавязкова павесіць, каб народ бачыў) не менш за 1000 заўзятых кулакоў, багацеяў... адабраць у іх увесь хлеб, прызначыць закладнікаў... Зрабіць так, каб на сотні вёрст вакол народ бачыў, трымцеў...» (Ленін, 1918).

– Масква літаральна памірае ад голаду (*прафесар Кузняцоў – Троцкаму*). «Гэта не голад. Калі Ціт браў Ерусалім, габрэйскія маці елі сваіх дзяцей. Вось калі я прымушу вашых маці есці сваіх дзяцей, тады вы можаце прыйсці і сказаць: “Мы галадаем”». (Троцкі, 1919)

Людзі чыталі газеты, часопісы і маўчалі. На іх абрынуўся непад’ёмны жах! Як з гэтым жыць? Многія сустрэлі праўду, як ворага. І свабоду таксама. «Мы не ведаем сваю краіну. Не ведаем, аб чым думае большасць людзей, мы іх бачым, сустракаем кожны дзень, але пра што яны думаюць, чаго хочуць, мы не ведаем. Але бярэм на сябе смеласць іх вучыць. Хутка пра ўсё даведаемся – і жахнёмся», – казаў адзін мой знаёмы, з якім мы часта сядзелі ў мяне на кухні. Я з ім спрачалася. Было гэта ў дзевяноста першым годзе... Шчаслівы час! Мы верылі, што заўтра, літаральна заўтра пачнецца свабода. Пачнецца з нічога, з нашых жаданняў.

З «Запісных кніжак» Шаламава: «Я быў удзельнікам вялікай прайгранай бітвы за сапраўднае абнаўленне жыцця». Напісаў гэта чалавек, які адседзеў сямнаццаць гадоў у сталінскіх лагерах. Туга аб ідэале засталася... Савецкіх людзей я падзяліла б на чатыры пакаленні: сталінскае, хрушчоўскае, брэжнеўскае і гарбачоўскае. Я – з апошняга. Нам было лягчэй прыняць крах камуністычнай ідэі, бо мы не жылі ў той час, калі ідэя была маладая, моцная, з нерастрачанай магіяй пагібельнага рамантызму і ўтапічных надзей. Мы выраслі пры крамлёўскіх старых. У посныя вегетарыянскія часы. Вялікая кроў камунізму ўжо была забытая. Пафас лютаваў, але захавалася веданне, што ўтопію нельга ператвараць у жыццё.

Гэта было ў першую чачэнскую вайну... Я пазнаёмілася ў Маскве на вакзале з жанчынай, яна была аднекуль з-пад Тамбова. Ехала ў Чачню, каб забраць сына з вайны: «Я не хачу, каб ён паміраў. Я не хачу, каб ён забіваў». Дзяржава ўжо не валодала яе душою. Гэта быў вольны чалавек. Такіх людзей было няшмат. Болей было тых, каго свабода раздражняла: «Я купіў тры газеты і ў кожнай свая праўда. Дзе ж сапраўдная праўда? Раней прачытаеш раніцай газету «Праўда» – і ўсё ведаеш. Усё разумееш». З-пад наркозу ідэі выходзілі павольна. Калі я пачынала размову аб пакаянні, у адказ чула: «За што я павінен каяцца?» Кожны адчуваў сябе ахвярай, але не саўдзельнікам. Адзін казаў: «я таксама сядзеў», другі – «я ваяваў», трэці – «я свой горад з разрухі ўздымаў, днём і ноччу цэглу цягаў». Гэта было зусім нечакана: усе п’яныя ад свабоды, але не гатовыя да свабоды. Дзе ж яна, свабода? Толькі на кухні, дзе па звычцы працягвалі лаяць уладу. Лаялі Ельцына і Гарбачова. Ельцына за тое, што змяніў Расію. А Гарбачова? Гарбачова за тое, што змяніў усё. Усё дваццатае стагоддзе. І ў нас цяпер будзе, як у іншых. Як ва ўсіх. Думалі, што на гэты раз атрымаецца.

Расія змянялася і ненавідзела сябе за тое, што змянялася. «Нерухомы Мангол» – пісаў пра Расію Маркс.

Савецкая цывілізацыя... Спяшаюся захаваць яе сляды. Знаёмыя твары. Распытваю не пра сацыялізм, а пра каханне, рэўнасць, дзяцінства, старасць. Пра музыку, танцы, прычоскі. Пра тысячы падрабязнасцяў зніклага жыцця. Гэта адзіны спосаб загнаць катастрофу ў рамкі звыклага і паспрабаваць

нешта расказаць. Пра штосьці здагадацца. Не стамляюся дзівіцца таму, якое цікавае звычайнае чалавечае жыццё. Бясконцая колькасць чалавечых праўдаў... Гісторыю цікавяць толькі факты, а эмоцыі застаюцца за бортам. Іх не прынята ўпускаць у гісторыю. Я ж гляджу на свет вачыма гуманітарыя, а не гісторыка. Здзіўленая чалавекам...

Бацькі ўжо няма. І я не магу дагаварыць з ім адну нашую размову... Ён сказаў, што ім паміраць на вайне было лягчэй, чым неабстраляным хлопчыкам, якія сёння гінуць у Чачні. У саракавыя – яны з пекла траплялі ў пекла. Перад вайной бацька вучыўся ў Мінску ў Інстытуце журналістыкі. Успамінаў, што калі яны вярталіся з канікулаў, часта ўжо не сустракалі ніводнага знаёмага выкладчыка, усе былі арыштаваныя. Яны не разумелі, што адбываецца, але было страшна. Страшна, як на вайне.

У мяне з бацькам было мала шчырых размоваў. Ён шкадаваў мяне. Ці я шкадавала яго? Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне... Мы былі бязлітасныя да сваіх бацькоў. Нам здавалася, што свабода – гэта вельмі проста. Прайшло трохі часу, і мы самі сагнуліся пад яе цяжарам, бо ніхто не вучыў нас свабодзе. Вучылі толькі, як паміраць за свабоду.

Вось яна – свабода! Ці такую мы яе чакалі? Мы былі гатовыя памерці за свае ідэалы. Змагацца ў баі. А пачалося «чэхаўскае» жыццё. Без гісторыі. Разбурыліся ўсе каштоўнасці, акрамя каштоўнасці жыцця. Жыцця наогул. Новыя мары: пабудаваць дом, купіць добрую машыну, пасадзіць агрэст... Свабода апынулася рэабілітацыяй мяшчанства, звычайна замардаванага ў рускім жыцці. Свабодай Яго Вялікасці Спажывання. Велічы цемры. Цемры жаданняў, інстынктаў – патаемнага чалавечага жыцця, пра якое мы мелі прыблізнае ўяўленне. Усю гісторыю выжывалі, а не жылі. А цяпер ваенны досвед ужо не патрэбны, на яго варта было забыцца. Тысячы новых эмоцыяў, станаў, рэакцый... Неяк раптам усё вакол стала іншым: шыльды, рэчы, грошы, сцяг... І сам чалавек. Ён стаў больш каляровым, асобным, маналіт узарвалі, і жыццё рассыпалася на выспачкі, атамы, ячэйкі. Як у Даля: свабода-воля... волечка-раздолечка... абшар. Вялікае зло ператварылася ў далёкую легенду, у палітычны дэтэктыў. Ніхто ўжо не казаў пра ідэю, казалі пра крэдыты, адсоткі, векселі, грошы не зараблялі, а «рабілі», «выйгравалі». Ці надоўга гэта? «Няпраўда грошай у рускай душы невытручальная», – пісала Цвятаева. Але быццам ажылі і разгульваюць па нашых вуліцах героі Астроўскага і Салтыкова-Шчадрына.

Ва ўсіх, з кім сустракалася, я пыталася: «Што такое – свабода?» Бацькі і дзеці адказвалі па-рознаму. У тых, хто нарадзіўся ў СССР, і тых, хто нарадзіўся не ў СССР, няма агульнага досведу. Яны – людзі з розных планет.

Бацькі: свабода – адсутнасць страху; тры дні ў жніўні, калі мы перамаглі путч; чалавек, які выбірае ў краме са ста гатункаў каўбасы, вальнейшы, чым чалавек, які выбірае з дзесяці гатункаў; быць нябітым, неадхвастаным, але неадхвастаных пакаленняў нам ніколі не дачакацца; рускі чалавек не разумее свабоду, яму патрэбен каз*а*к і бізун.

Дзеці: свабода – каханне; унутраная свабода – абсалютная каштоўнасць; калі ты не баішся сваіх жаданняў; мець шмат грошай, тады ў цябе будзе ўсё; калі ты можаш жыць так, каб не задумвацца аб свабодзе. Свабода – гэта нармальна.

Шукаю мову. У чалавека шмат моваў: мова, на якой размаўляюць з дзецьмі, яшчэ адна, гэта тая, на якой гавораць у каханні... А яшчэ ёсць мова, на якой мы гаворым самі з сабой, вядзем унутраныя размовы. На

вуліцы, на працы, у падарожжах – усюды гучыць нешта іншае, мяняюцца не толькі словы, а і штосьці яшчэ. Нават раніцай і ўвечары чалавек гаворыць па-рознаму. А тое, што адбываецца ўначы паміж двума людзьмі, цалкам знікае з гісторыі. Мы маем справу толькі з гісторыяй дзённага чалавека. Самагубства – начная тэма, чалавек знаходзіцца на мяжы быцця і небыцця. Сну. Я хачу гэта зразумець з уніклівасцю дзённага чалавека. Пачула: «Ці не баіцеся, што спадабаецца?»

Едзем па Смаленшчыне. У адной вёсцы спыніліся каля крамы. Якія знаёмыя (я ж сама вырасла ў вёсцы), прыгожыя, якія добрыя твары – і якое зняважальнае, жабрацкае жыццё вакол. Разгаварыліся пра жыццё. «Пра свабоду пытаецеся? Зайдзіце ў наш магазін: гарэлка стаіць якая хочаш: “Стандарт”, “Гарбачоў”, “Пуцінка”, каўбасы навалам, і сыру, і рыбы. Бананы ляжаць. Якая яшчэ свабода патрэбна? Нам гэтай хопіць». – «А зямлю вам далі?» – «Хто на ёй будзе надрывацца? Хочаш – бяры. У нас адзін Васька Круты ўзяў. Малодшаму сыну восем год, а ён побач з бацькам за плугам ідзе. У яго, калі ноймешся на працу – не ўкрадзеш, не паспіш. Фашыст!»

У Дастаеўскага ў «Легендзе пра Вялікага інквізітара» ідзе спрэчка аб свабодзе. Пра тое, што шлях свабоды цяжкі, пакутлівы, трагічны... «Для чаго спазнаваць гэтае чортава дабро і зло, калі яно столькі каштуе?» Чалавек павінен увесь час выбіраць: свабода або дабрабыт і ўладкаванне жыцця, свабода з пакутамі або шчасце без свабоды. І большасць людзей ідзе другім шляхам.

Вялікі інквізітар кажа Хрысту, які вярнуўся на зямлю: «Навошта Ты прыйшоў нам перашкаджаць? Бо Ты ж прыйшоў нам перашкаджаць і сам гэта ведаеш».

«Гэтак паважаючы яго (чалавека), Ты паступіў, як быццам перастаўшы яму спачуваць, бо занадта шмат ад яго запатрабаваў... Паважаючы яго менш, менш ад яго і патрабаваў бы, а гэта было б бліжэй да любові, бо лягчэй была б ноша яго. Ён слабы і подлы... У чым вінаватая слабая душа, якая не ў моцы змясціць гэтакіх страшных дароў?»

«Няма клопату больш безупыннага і пакутлівага для чалавека, як застаўшыся свабодным, адшукаць хутчэй таго, перад кім пакланіцца... і каму б перадаць хутчэй той дар свабоды, з якім гэтая няшчасная істота нараджаецца...»

***

У дзевяностыя... так, мы былі шчаслівымі, да тае нашай наіўнасці ўжо болей не вярнуцца. Нам здавалася, што выбар зроблены, камунізм безнадзейна прайграў. А ўсё толькі пачыналася...

Прайшло дваццаць гадоў... «Не палохайце нас сацыялізмам», – кажуць дзеці бацькам.

З размовы са знаёмым універсітэцкім выкладчыкам: «У канцы дзевяностых студэнты смяяліся, – распавядаў ён, – калі я ўспамінаў пра Савецкі Саюз, яны былі ўпэўненыя, што перад імі адкрываецца новая будучыня. Цяпер карціна іншая... Сённяшнія студэнты ўжо даведаліся, адчулі, што такое капіталізм – няроўнасць, беднасць, нахабнае багацце, перад вачыма ў іх жыццё бацькоў, якім нічога не дасталося ад разрабаванай краіны. І яны радыкальна настроеныя. Мараць аб сваёй рэвалюцыі. Носяць чырвоныя футболкі з партрэтамі Леніна і Чэ Гевары».

У грамадстве з’явіўся попыт на Савецкі Саюз. На культ Сталіна. Па-

лова маладых людзей ад 19 да 30 гадоў лічыць Сталіна «найвялікшым палітычным дзеячам». У краіне, у якой Сталін знішчыў людзей не менш, чым Гітлер, новы культ Сталіна?! Зноў у модзе ўсё савецкае. Напрыклад, «савецкія» кафэ – з савецкімі назвамі і савецкімі стравамі. З'явіліся «савецкія» цукеркі і «савецкая» каўбаса – з пахам і смакам, знаёмымі нам з дзяцінства. І вядома, «савецкая» гарэлка. На тэлебачанні дзясяткі перадачаў, а ў інтэрнэце дзясяткі «савецкіх» настальгічных сайтаў. У сталінскія лагеры – на Салаўкі, у Магадан вы можаце патрапіць турыстам. Рэклама абяцае, што для паўнаты адчуванняў вам выдадуць лагернае адзенне, кірку. Пакажуць адрэстаўраваныя баракі. А ў канцы арганізуюць рыбалку...

У Расіі адраджаюцца старамодныя ідэі: аб вялікай імперыі, аб «жалезнай руцэ», «аб адмысловым рускім шляху»... Вярнулі савецкі гімн, ёсць камсамол, толькі ён называецца «Нашы», ёсць партыя ўлады, якая капіюе камуністычную партыю. У Прэзідэнта ўлада, як у Генеральнага сакратара. Абсалютная. Замест марксізму-ленінізму – праваслаўе...

Перад рэвалюцыяй сямнаццатага года Аляксандр Грын напісаў: «А будучыня неяк перастала стаяць на сваім месцы». Прайшло сто гадоў і будучыня зноў не на сваім месцы. Настаў час second-hand.

Барыкада – небяспечнае месца для мастака. Пастка. Там псуецца зрок, звужаюцца зрэнкі, свет губляе фарбы. Там чорна-белы сусвет. Адтуль чалавека ўжо не адрозніш, а бачыш толькі чорную кропку – мішэнь. Я ўсё жыццё – на барыкадах, я хацела б сысці адтуль. Навучыцца радавацца жыццю. Вярнуць сабе нармальны зрок. Але дзясяткі тысячаў людзей зноў выходзяць на вуліцы. Бяруцца за рукі. У іх белыя стужачкі на куртках. Сімвал адраджэння. Святла. І я з імі.

Сустрэла на вуліцы маладых людзей у майках з сярпом і молатам і партрэтам Леніна. Ці ведаюць яны, што такое камунізм?

***<u>Частка першая</u>***

## Суцяшэнне апакаліпсісам
## З вулічнага шуму і гутарак на кухні (1991-2001)

### Пра Івана-дурака і залатую рыбку

«Што я зразумеў? Я зразумеў, што героі аднаго часу рэдка бываюць героямі іншага часу, апроч Івана-дурака. І Ямелі. Любімых герояў рускіх казак. Нашыя казкі – пра шанцаванне, пра імгненне ўдачы. Пра чаканне цудоўнай дапамогі, каб усё ў рот само звалілася. Лежачы на печы, мець усё. Каб печ сама бліны пякла, а залатая рыбка ўсе жаданні выконвала. Хачу тое і хачу гэтае. Хачу царэўну чароўную! І хачу жыць у царстве іншым – з малочнымі рэкамі і кісельнымі берагамі. Мы – летуценнікі, вядома. Душа працуе і пакутуе, а справа мала рухаецца, бо на яе сілаў ужо не хапае. Справа на месцы. Загадкавая руская душа... Усе спрабуюць яе зразумець... чытаюць Дастаеўскага... Што там у іх за душой? А за душой у нас толькі душа. Пагаварыць любім на кухні, пачытаць кнігу. Галоўная прафесія – чытач. Глядач. І пры гэтым адчуванне сваёй асаблівасці, выключнасці, хоць падставаў дзеля гэтага ніякіх, акрамя нафты і газу. З аднаго боку, гэта якраз і перашкаджае перамяніць жыццё, а з другога боку дае адчуванне сэнсу ці што. Заўсёды вісіць у паветры, што Расія павінна стварыць, паказаць свету штосьці незвычайнае. Богаабраны народ. Аса-

блівы рускі шлях. Спрэс у нас Абломавы, ляжаць на канапе і чакаюць цуду. Але не Штольцы. Дзейныя, спрытныя Штольцы пагарджаныя за тое, што ссеклі любімы бярозавы гай, вішнёвы садзік. Заводзікі там будуюць, робяць грошы. Чужыя нам Штольцы...»

«Руская кухня... Убогая "хрушчобная" куханька (дзевяць-дванаццаць квадратных метраў – шчасце!), за тонкай сценкаю прыбіральня. Савецкая планіроўка. Цыбуля на акенцы ў слоічках з-пад маянэзу, у чыгуне альяс ад катару. Кухня ў нас – гэта не толькі месца для прыгатавання ежы, гэта і сталовая, і гасцёўня, і кабінет, і трыбуна. Месца для калектыўных псіхатэрапеўтычных сеансаў. У дзевятнаццатым стагоддзі ўся руская культура жыла ў дваранскіх сядзібах, а ў дваццатым – на кухнях. І перабудова таксама. Усё "шасцідзясятніцкае" жыццё – гэта "кухоннае" жыццё. Дзякуй Хрушчову! Гэта пры ім выйшлі з камуналак, завялі асабістыя кухні, дзе можна было лаяць уладу, а галоўнае – не баяцца, бо на кухні ўсе свае. Там нараджаліся ідэі, фантастычныя праржэкты. Травілі анекдоты... Анекдоты квітнелі! Камуніст – гэта той, хто Маркса чытаў, а антыкамуніст – той, хто яго зразумеў. Мы выраслі на кухнях, і нашыя дзеці таксама, яны разам з намі слухалі Галіча і Акуджаву. Круцілі Высоцкага. Лавілі Бі-бі-сі. Размовы пра ўсё: пра тое, як вакол хрэнова, і пра сэнс жыцця, пра шчасце для ўсіх. Успамінаю смешны выпадак... Заседзеліся неяк за поўнач, нашая дачка, ёй было дванаццаць гадоў, тут, на маленькай канапцы і заснула. А мы нешта гучна заспрачаліся. І яна праз сон як зараве: "Не трэба больш пра палітыку! Ізноў Сахараў... Салжаніцын... Сталін..." (*Смяецца.*)

Бясконцая гарбата. Кава. Гарэлачка. А ў сямідзясятыя гады пілі кубінскі ром. Усе былі закаханыя ў Фідэля! У кубінскую рэвалюцыю! Чэ ў берэце. Галівудскі прыгажун! Бясконцая балбатня. Страх, што нас праслухоўваюць, напэўна праслухоўваюць. У сярэдзіне размовы абавязкова хто-небудзь паглядзіць са смехам на люстру або на разетку: "Вы чуеце, таварыш маёр?" Быццам бы рызыка... быццам бы гульня... Атрымлівалі нават нейкае задавальненне ад гэтага ілжывага жыцця. Нікчэмная колькасць людзей супрацівілася адкрыта, больш было "кухонных дысідэнтаў". З дуляй у кішэні...»

«Цяпер сорамна быць бедным, неспартыўным... Не паспяваеш, карацей. А я з пакалення дворнікаў і вартаўнікоў. Быў такі спосаб унутранай эміграцыі. Ты жывеш і не заўважаеш таго, што вакол, як пейзаж за вакном. Мы з жонкай скончылі філасофскі факультэт Пецярбургскага (тады Ленінградскага) універсітэта, яна ўладкавалася дворнікам, а я – апальшчыкам у кацельні. Працуеш адны суткі, двое – дома. Інжынер у той час атрымліваў сто трыццаць рублёў, а я ў кацельні – дзевяноста, гэта значыць, пагаджаешся страціць сорак рублёў, але затое атрымліваеш абсалютную свабоду. Чыталі кніжкі, шмат чыталі. Размаўлялі. Думалі, што выпрацоўваем ідэі. Марылі аб рэвалюцыі, але баяліся – не дачакаемся. Закрытае, увогуле, вялі жыццё, нічога не ведалі пра тое, што дзеецца ў свеце. Былі "пакаёвыя расліны". Усё сабе прыдумалі, як пасля высветлілася, нафантазавалі – і Захад, і капіталізм, і рускі народ. Жылі міражамі. Такой Расіі, як у кніжках і на нашых кухнях, ніколі не было. Толькі ў нас у галаве.

У перабудову ўсё скончылася... Грымнуў капіталізм... Дзевяноста рублёў сталі дзесяццю далярамі. На іх – не пражыць. Выйшлі з кухняў на вуліцу, і тут высветлілася, што ідэй у нас няма, мы проста сядзелі ўвесь гэты час і размаўлялі. Аднекуль з'явіліся зусім іншыя людзі – маладыя хлопцы ў малінавых пінжаках і з залатымі пярсцёнкамі. І з новымі правіламі гульні: грошы ёсць – ты чалавек, грошай няма – ты ніхто. Каму гэта цікава, што

ты Гегеля ўсяго прачытаў? “Гуманітарый” гучала як дыягназ. Маўляў, усё, што яны ўмеюць – гэта трымаць томік Мандэльштама ў руках. Адкрылася шмат незнаёмага. Інтэлігенцыя агідна дайшла да жабрацтва. У нашым парку па выхадных днях крышнаіты ўсталёўвалі палявую кухню і раздавалі суп і нешта просценькае на другое. Выбудоўвалася такая чарга акуратненькіх старых, што спазм у горле. Некаторыя з іх хавалі свае твары. У нас да таго часу было ўжо двое маленькіх дзяцей. Галадалі натуральным чынам. Пачалі з жонкай гандляваць. Бралі на заводзе чатыры-шэсць скрынак марожанага і ехалі на рынак, туды, дзе шмат людзей. Халадзільнікаў ніякіх, праз некалькі гадзінаў марожанае цякло. Тады раздавалі яго галодным хлапчукам. Колькі радасці! Гандлявала жонка, а я то паднясу, то падвязу – усё, што заўгодна гатовы быў рабіць, толькі не прадаваць. Доўга адчуваў сябе некамфортна.

Раней часта ўспамінаў нашае “кухоннае жыццё”... Якая была любоў! Якія жанчыны! Гэтыя жанчыны пагарджалі багатымі. Іх нельга было купіць. А цяпер часу на пачуцці ні ў кога няма – усе грошы зарабляюць. Адкрыццё грошай – як выбух атамнай бомбы...»

## Пра тое, як мы палюбілі і разлюбілі Горбі

«Гарбачоўскі час... Вялізныя натоўпы людзей са шчаслівымі тварамі. Сва-бо-да! Усе гэтым дыхалі. Газеты былі нарасхват. Час вялікіх надзеяў – вось-вось трапім у рай. Дэмакратыя – невядомы нам звер. Як вар’яты, бегалі на мітынгі: зараз даведаемся ўсю праўду пра Сталіна, пра ГУЛАГ, прачытаем забароненыя “Дзеці Арбата” Рыбакова і іншыя добрыя кнігі – і станем дэмакратамі. Як мы памыляліся! З усіх радыёкропак крычала гэтая праўда... Хутчэй-хутчэй! Чытайце! Слухайце! Не ўсе апынуліся гатовымі да гэтага... Большасць людзей не былі антысавецкіх настрояў, яны хацелі толькі аднаго – добра жыць. Каб можна было купіць джынсы, “відзік” і мяжу мараў – аўтамабіль! Усім хацелася яркага адзення, смачнай ежы. Калі я прынесла дадому салжаніцынскі “Архіпелаг ГУЛАГ”, мая мама была ў жаху: “Калі ты зараз жа не знікнеш з гэтай кнігай, то я цябе выганю з дому”. У бабулі расстралялі мужа перад вайной, а яна казала: “Ваські не было шкада. Арыштавалі правільна. За доўгі язык”. “Бабуля, чаму ты нічога мне не распавядала?” – пыталася я. – “Няхай маё жыццё здохне разам са мной, абы вы не пацярпелі”. Так жылі нашыя бацькі, і іхнія бацькі. Усё катком было адпрасавана. Перабудову зрабіў не народ, гэта зрабіў адзін чалавек – Гарбачоў. Гарбачоў і кучка інтэлігентаў...»

«Гарбачоў – сакрэтны амерыканскі агент... Масон... Здрадзіў камунізму. Камуністаў – на сметнік, камсамольцаў – на звалку! Я ненавіджу Гарбачова за тое, што ён скраў у мяне Радзіму. Савецкі пашпарт, як самую дарагую рэч, захоўваю. Так, мы стаялі ў чарзе за ссінелымі куранятамі і гнілою бульбай, але гэта была Радзіма. Я яе любіў. Вы жылі ў “Верхняй Вольце з ракетамі”, а я жыў у вялікай краіне. Расія заўсёды для Захаду – вораг, яе баяцца. Костка ў горле. Нікому не патрэбная моцная Расія – з камуністамі ці без іх. На нас глядзяць як на склад – нафты, газу, лесу і каляровых металаў. Нафту мяняем на трусы. А была цывілізацыя без шмотак і барахла. Савецкая цывілізацыя! Камусьці трэба было, каб яе не стала. Аперацыя ЦРУ. Намі ўжо кіруюць амерыканцы. Гарбачову добра за гэта заплацілі... Рана ці позна яго будуць судзіць. Спадзяюся, Іуда дажыве да народнага гневу. Я з задавальненнем прастрэліў бы яму патыліцу на Бутаўскім палігоне. (*Стукае кулаком па стале.*) Надышло шчасце, так?

З’явіліся каўбаса і бананы. Валяемся ў га...не і ямо ўсё чужое. Замест Радзімы – вялікі супермаркет. Калі гэта называецца свабодай, то мне такая свабода не патрэбная. Цьфу! Народ ніжэй за плінтус апусцілі, мы рабы. Рабы! Пры камуністах кухарка, як казаў Ленін, кіравала дзяржавай: рабочыя, даяркі, ткачыхі – а цяпер у парламенце сядзяць бандыты. Даляравыя мільянеры. Ім у турме трэба сядзець, а не ў парламенце. Падманулі нас з перабудовай!

Я нарадзіўся ў СССР, і мне там падабалася. Мой бацька быў камуністам, вучыў мяне чытаць па газеце “Правда”. Кожнае свята мы з ім хадзілі на дэманстрацыю. Са слязьмі на вачах... Я быў піянерам, насіў чырвоны гальштук. Прыйшоў Гарбачоў, і я не паспеў стаць камсамольцам, пра што шкадую. Я – савок, так? Мае бацькі – саўкі, дзед і баба – саўкі? Мой саўковы дзед загінуў пад Масквой у сорак першым... А мая саўковая бабулька была ў партызанах... Спадары лібералы адпрацоўваюць сваю пайку. Хочуць, каб мы сваё мінулае лічылі чорнай дзіркай. Я іх усіх ненавіджу: гарбачова, шэварнадзэ, якаўлева, – напішыце з маленькай літары, так я іх ненавіджу. Я не хачу ў Амерыку, я хачу ў СССР...»

«Гэта былі выдатныя, наіўныя гады... Мы паверылі Гарбачову, цяпер ужо нікому так лёгка не паверым. Многія рускія людзі вярталіся з эміграцыі на Радзіму... Быў такі ўздым! Думалі, што зломім гэты барак. Пабудуем нешта новае. Я скончыла філалагічны факультэт МДУ і паступіла ў аспірантуру. Марыла займацца навукай. Кумірам ў тыя гады быў Аверынцаў, на яго лекцыі сыходзілася ўся адукаваная Масква. Сустракаліся і падтрымлівалі адзін у адным ілюзію, што хутка будзе іншая краіна, і мы за гэта змагаемся. Калі я даведалася, што мая аднакурсніца з’язджае ў Ізраіль, вельмі здзівілася: “Няўжо табе не балюча з’язджаць? У нас усё толькі пачынаецца».

Чым больш гаварылі і пісалі: “Свабода! Свабода!”, тым хутчэй з прылаўкаў знікалі не толькі сыр і мяса, але і соль, і цукар. Пустыя крамы. Страшна. Усё па талонах, як у вайну. Нас выратавала нашая бабуля, яна цэлымі днямі бегала па горадзе і “атаварвала” гэтыя талоны. Увесь балкон быў забіты пральным парашком, у спальні стаялі мяшкі з цукрам і крупамі. Калі выдалі талоны на шкарпэткі, тата заплакаў: “Гэта канец СССР”. Ён адчуў... Тата працаваў у канструктарскім бюро на ваенным заводзе, займаўся ракетамі, і яму гэта шалёна падабалася. У яго былі дзве вышэйшыя адукацыі. Замест ракет завод стаў штампаваць пральныя машыны і пыласосы. Тату скарацілі. Яны з мамай былі заўзятымі “перастроечнікамі”: пісалі плакаты, разносілі ўлёткі – і вось фінал... Разгубіліся. Не маглі паверыць, што свабода – яна вось такая. Не маглі з гэтым змірыцца. На вуліцах ужо крычалі: “Гарбачову грош цана, беражыце Ельцына!”. Неслі партрэты Брэжнева ў ордэнах, а партрэты Гарбачова – у талонах. Пачыналася валадаранне Ельцына: гайдараўскія рэформы і вось гэтае ненавіснае мне “купі-прадай”... Каб выжыць, я ездзіла ў Польшчу з мяшкамі лямпачак і дзіцячых цацак. Поўны вагон: настаўнікі, інжынеры, урачы... Усе з мяшкамі і торбамі. Усю ноч сядзім і абмяркоўваем “Доктара Жывага” Пастарнака... п’есы Шатрова... Як у Маскве на кухні.

Успамінаю ўніверсітэцкіх сяброў... Мы сталі кім заўгодна, але не філолагамі – топ-менеджарамі рэкламных агенцтваў, банкаўскімі служачымі, “чаўнакамі”... Я працую ў агенцтве нерухомасці ў адной дамы, якая прыехала з правінцыі, былы камсамольскі работнік. У каго сёння фірмы? Вілы на Кіпры і Маямі? У былой партыйнай наменклатуры. Гэта да таго, дзе трэба шукаць грошы партыі... А нашы правадыры... шасцідзясятнікі... Яны крыві

на вайне нанюхаліся, але былі наіўныя, як дзеці... Нам трэ было дняваць і начаваць на плошчах. Давесці справу да канца – дамагчыся Нюрнберга для КПСС. Мы занадта хутка разышліся па дамах. Фарцоўшчыкі і мянялы ўзялі ўладу. І насуперак Марксу, пасля сацыялізму будуем капіталізм. (*Маўчыць.*) Але я шчаслівая, што жыла ў гэты час. Камунізм сканаў! Усё, ён ужо не вернецца. Жывём у іншым свеце і глядзім на свет іншымі вачыма. Свабоднае дыханне тых дзён я ніколі не забуду...»

## Пра тое, як прыйшло каханне, а пад вокнамі – танкі

«Я была закаханая, ні пра што іншае больш не магла думаць. Жыла выключна гэтым. І вось мама раніцай будзіць: "Танкі – пад вокнамі! Здаецца, пераварот!". Я скрозь сон: "Мама, гэта вучэнні". Фіг вам! Пад вокнамі стаялі сапраўдныя танкі, я ніколі не бачыла танкі так блізка. Па тэлевізары ішоў балет "Лебядзінае возера"... Прыбегла маміна сяброўка, яна вельмі хвалявалася, што завінавацілася партыйныя ўзносы за некалькі месяцаў. Казала, што ў іх у школе стаяў бюст Леніна, яна яго вынесла ў бакоўку, а цяпер – што з ім рабіць? Усё адразу стала на свае месцы: гэта нельга і тое нельга. Дыктар зачытвала Заяву аб увядзенні надзвычайнага становішча... Маміна сяброўка пры кожным слове ўздрыгвала: "Божа мой! Божа мой!" Бацька пляваўся ў тэлевізар...

Патэлефанавала Алегу... "Едзем да Белага дома?" – "Едзем!" Прыкалола значок з Гарбачовым. Нарэзала бутэрбродаў. У метро людзі былі негаманкія, усе чакалі бяды. Усюды танкі... танкі... На брані сядзелі не забойцы, а спалоханыя хлопцы з вінаватымі тварамі. Бабулькі кармілі іх варанымі яйкамі і блінамі. На душы стала лягчэй, калі ля Белага дома я ўбачыла дзясяткі тысячаў людзей! Настрой ва ўсіх цудоўны. Адчуванне, што мы ўсё можам. Скандавалі: "Ельцын, Ельцын! Ельцын!" Ужо фармаваліся атрады самаабароны. Запісвалі толькі маладых, а сталым адмаўлялі, і яны былі незадаволеныя. Нейкі стары абураўся: "У мяне камуністы жыццё скралі! Дайце хоць бы памерці прыгожа!" – "Бацька, адыдзіце..." Цяпер кажуць, што мы хацелі абараніць капіталізм... Няпраўда! Я абараняла сацыялізм, але нейкі іншы... не савецкі... І я яго абараніла! Я так думала. Мы ўсе так думалі... Праз тры дні танкі выходзілі з Масквы, гэта ўжо былі добрыя танкі. Перамога! І мы цалаваліся, цалаваліся...»

*Сяджу на кухні ў маіх маскоўскіх знаёмых. Тут сабралася вялікая кампанія: сябры, сваякі з правінцыі. Успомнілі, што заўтра чарговая гадавіна жнівеньскага путчу.*

– Заўтра – свята...

– А што святкаваць? Трагедыя. Народ прайграў.

– Пад музыку Чайкоўскага саўдэпію пахавалі...

– Першае, што я зрабіла, узяла грошы і пабегла ў крамы. Ведала, чым бы яно ні скончылася, а кошты вырастуць.

– Узрадаваўся: Горбі прыбяруць! Надакучыў ужо гэты балбатун.

– Рэвалюцыя была дэкаратыўная. Спектакль для народа. Памятаю поўную абыякавасць, з кім ні загаворыш. Чакалі.

– А я патэлефанаваў на працу – і пайшоў рабіць рэвалюцыю. Выграб з буфета ўсе нажы, якія былі дома. Разумеў, што вайна... трэба зброю...

– Я быў за камунізм! У нас у сям'і – усе камуністы. Замест калыханак мама спявала нам рэвалюцыйныя песні. І ўнукам зараз пяе. «Ты

што, звар'яцела?» – кажу. А яна: «Я іншых песняў не ведаю». І дзед быў бальшавік... і бабка...

– Вы яшчэ скажыце, што камунізм – прыгожая казачка. Бацькі майго таты зніклі ў лагерах Мардовіі.

– Я пайшоў да Белага дома разам з бацькамі. Тата сказаў: «Хадзем. А то каўбасы і добрых кніг не будзе ніколі». Разбіралі брук і будавалі барыкады.

– Зараз народ працверазеў, і стаўленне да камуністаў мяняецца. Можна не хаваць... Я працаваў у райкаме камсамола. У першы дзень усе камсамольскія білеты, чыстыя бланкі і значкі забраў дадому і схаваў у склепе, потым бульбу не было куды складваць. Я не ведаў, навошта яны мне патрэбныя, але ўявіў, як прыйдуць апячатваць і ўсё гэта знішчаць, а гэта былі дарагія для мяне сімвалы.

– Мы маглі пайсці забіваць адзін аднаго... Бог выратаваў!

– Нашая дачка ляжала ў радзільні. Я прыйшла да яе, а яна: «Мам, рэвалюцыя будзе? Грамадзянская вайна пачнецца?»

– Ну, а я скончыў ваеннае вучылішча. Служыў у Маскве. Далі б нам загад кагосьці арыштаваць, дык, без усялякіх сумневаў, мы б гэты загад выканалі. Многія б выканалі яго са стараннасцю. Надакучыў бардак у краіне. Усё раней было дакладна і ясна, усё па загадзе. Быў парадак. Вайскоўцы любяць так жыць. Наогул людзі любяць так жыць.

– Я баюся свабоды, прыйдзе п'яны мужык і спаліць лецішча.

– Якія, браткі, ідэі? Жыццё кароткае. Давайце вып'ем!

*19 жніўня 2001 года – дзесяцігадовы юбілей жнівеньскага путчу. Я ў Іркуцку – сталіцы Сібіры. Бяру некалькі бліц-інтэрв'ю на вуліцах горада.*

*Пытанне:*

– Што было б, калі б "ГКЧП" перамог?

*Адказы:*

– Захавалі б вялікую краіну...

– Паглядзіце на Кітай, дзе камуністы ва ўладзе. Кітай стаў другой эканомікай у свеце...

– Гарбачова і Ельцына судзілі б як здраднікаў Радзімы.

– Залілі б краіну крывёй... І забілі людзьмі канцлагеры.

– Не здрадзілі б сацыялізму. Не падзяліліся б на багатых і бедных.

– Не было б ніякай вайны ў Чачні.

– Ніхто не адважыўся б казаць, што Гітлера перамаглі амерыканцы.

– Я сам стаяў ля Белага дома. І ў мяне такое адчуванне, што мяне падманулі.

– Што было б, калі б путч перамог? А ён і перамог! Помнік Дзяржынскаму зрынулі, а Лубянка засталася. Будуем капіталізм пад кіраўніцтвам КДБ.

– Маё жыццё не змянілася б...

## Пра тое, як рэчы ўраўнаваліся з ідэямі і словамі

«Свет рассыпаўся на дзясяткі рознакаляровых кавалачкаў. Як нам хацелася, каб шэрыя савецкія будні хутчэй ператварыліся ў салодкія карцінкі з амерыканскага кіно! Пра тое, як мы стаялі ля Белага дома, ужо мала хто ўспамінае... Тыя тры дні ўзрушылі свет, але не ўзрушылі нас... Дзве тысячы чалавек мітынгуюць, а астатнія едуць міма і глядзяць на іх,

як на ідыётаў. Шмат пілі, у нас заўсёды шмат п'юць, але тады асабліва шмат пілі. Грамадства замёрла: куды рушым? Ці то будзе капіталізм, ці то будзе добры сацыялізм? Капіталісты тоўстыя, страшныя – гэта нам убівалі ў галовы з дзяцінства... (*Смяецца.*)

Краіна абрасла банкамі і гандлёвымі намётамі. З'явіліся зусім іншыя рэчы. Не "тапорныя" боты і старэчыя сукенкі, а рэчы, пра якія мы заўсёды марылі: джынсы, дублёнкі... жаночая бялізна і добры посуд... Усё каляровае, прыгожае. Нашыя савецкія рэчы былі шэрыя, аскетычныя, яны былі падобныя на ваенныя. Бібліятэкі і тэатры апусцелі. Іх замянілі кірмашы і камерцыйныя крамы. Усе захацелі быць шчаслівымі, атрымаць шчасце цяпер. Як дзеці, адкрывалі для сябе новы свет... Пераставалі губляць прытомнасць у супермаркеце... Знаёмы хлопец заняўся бізнэсам. Распавядаў мне: першы раз прывёз тысячу слоікаў распушчальнай кавы – расхапалі за пару дзён, купіў сто пыласосаў – таксама ў момант размялі. Курткі, швэдры, усялякая дробязь – толькі давай! Усе пераапраналіся, перaабуваліся. Мянялі тэхніку і мэблю. Рамантавалі дачы... Захацелі рабіць прыгожыя агароджы і дахі... Пачнем часам з сябрамі ўспамінаць, дык са смеху паміраем... Дзікуны! Цалкам убогія былі людзі. Усяму трэба было вучыцца... У савецкі час дазвалялася мець шмат кніг, але не дарагую машыну і дом. І мы вучыліся добра апранацца, смачна гатаваць, раніцай піць сок і ёгурт... Я да гэтага пагарджала грашыма, бо не ведала, што гэта такое. У нашай сям'і нельга было гаварыць пра грошы. Сорамна. Мы выраслі ў краіне, у якой грошы, можна сказаць, адсутнічалі. Я, як усе, атрымлівала свае сто дваццаць рублёў – і мне хапала. Грошы прыйшлі з перабудовай. З Гайдарам. Сапраўдныя грошы. Замест "Наша будучыня – камунізм" усюды віселі расцяжкі "Купляйце! Купляйце!" Хочаш – падарожнічай. Можаш убачыць Парыж... Ці Іспанію... Фіеста... бой быкоў... Я пра гэта чытала ў Хэмінгуэя, чытала і разумела, што ніколі гэтага не ўбачу. Кнігі былі замест жыцця... Так скончыліся нашыя начныя няспанні на кухнях і пачаліся заробкі, падзаробкі. Грошы сталі сінонімам волі. Гэта хвалявала ўсіх. Самыя моцныя і агрэсіўныя заняліся бізнэсам. Пра Леніна і Сталіна забыліся. Так мы выратаваліся ад грамадзянскай вайны, а то зноў былі б "белыя" і "чырвоныя". "Нашы" – "не нашы". Замест крыві – рэчы... Жыццё! Выбралі прыгожае жыццё. Ніхто не хацеў прыгожа паміраць, усе хацелі прыгожа жыць. Іншая справа, што пернікаў на ўсіх не хапіла...»

«Савецкі час... У Слова быў святы, магічны статус. І па інерцыі на інтэлігенцкіх кухнях яшчэ гаварылі пра Пастарнака, варылі суп, не выпускаючы з рук Астаф'ева і Быкава, але жыццё ўвесь час даказвала, што гэта ўжо ўсё роўна. Словы нічога не значаць. У дзевяноста першым... Мы паклалі нашую маму ў шпіталь з цяжкай пнеўманіяй, і яна вярнулася адтуль гераіняй, у яе рот там не закрываўся. Распавядала пра Сталіна, пра забойства Кірава, пра Бухарына... Яе гатовыя былі слухаць дзень і ноч. Людзі тады хацелі, каб ім адкрылі вочы. А нядаўна яна зноў трапіла ў шпіталь, і колькі там была, столькі маўчала. Гадоў пяць прайшло ўсяго, і рэальнасць ўжо размеркавала ролі інакш. Гераіняй на гэты раз была жонка буйнога бізнэсмена... анямелі усе ад яе апавяданняў... Які ў яе дом – трыста квадратных метраў! Колькі прыслугі: кухарка, нянька, кіроўца, садоўнік... Адпачываць з мужам ездзяць у Еўропу... Музеі – зразумела, а буцікі... Буцікі! Адзін пярсцёнак столькі вунь карат, а іншае... А падвескі... залатыя кліпсы... Поўны аншлаг! Пра ГУЛАГ ці пра нешта такое ні слова. Ну было і было. Што цяпер спрачацца са старымі?

Я заходзіла па звычцы ў букіністычны – там спакойна стаялі ўсе дзвесце тамоў “Всемирки” і “Библиотеки приключений”, той самай – аранжавай, якой я трызніла. Глядзела на карэньчыкі і доўга ўдыхала гэты пах. Ляжалі горы кніг! Інтэлігенты распрадавалі свае бібліятэкі. Публіка, вядома, збяднела, але не з-за гэтага кнігі выносілі з хаты, не толькі з-за грошай – кнігі расчаравалі. Поўнае расчараванне. Стала ўжо непрыстойна задаваць пытанне: “А што ты цяпер чытаеш?” У жыцці занадта шмат што змянілася, а ў кнігах гэтага няма. Рускія раманы не вучаць, як дамагчыся поспеху ў жыцці. Як стаць багатым... Абломаў ляжыць на канапе, а героі Чэхава ўвесь час п’юць гарбату і скардзяцца на жыццё... (*Маўчыць.*) Не дай Бог жыць у эпоху пераменаў – кажуць кітайцы. Мала хто з нас захаваўся такі, які быў. Кудысьці зніклі прыстойныя людзі. Усюды локці і зубы...»

«Калі пра дзевяностыя... Я б не сказаў, што гэта быў прыгожы час, ён быў агідны. Адбыўся пераварот у розумах на сто восемдзесят градусаў... Хтосьці не вытрымаў і звар’яцеў, бальніцы для псіхічна хворых былі перапоўненыя. Я наведваў там свайго сябра: адзін крычыць: “Я – Сталін! Я – Сталін!”, а другі: “Я – Беразоўскі! Я – Беразоўскі”. Іх цэлае аддзяленне – сталінаў і беразоўскіх. На вуліцах увесь час стралялі. Забілі велізарную колькасць людзей. Кожны дзень ішлі разборкі. Урваць. Паспець. Пакуль іншыя не паспелі. Кагосьці разарылі, кагосьці пасадзілі. З трона – у сутарэнне. А з другога боку, кайф – усё адбываецца на тваіх вачах...

У банках стаялі чэргі людзей, якія жадаюць пачаць сваю справу: адкрыць булачную, прадаваць электроніку... Я таксама быў у гэтай чарзе. І мяне здзівіла, як нас шмат. Нейкая цётка ў вязаным берэце, хлопчык у спартыўнай куртачцы, здаравенны мужык, падобны на зэка... Семдзесят з лішкам гадоў вучылі: не ў грашах шчасце, усё лепшае ў жыцці чалавек атрымлівае бясплатна. Каханне, напрыклад. Але варта было з трыбуны вымавіць: гандлюйце, багацейце – на усё забыліся. На ўсе савецкія кніжкі забыліся. Гэтыя людзі зусім не былі падобныя на тых, з кім я сядзеў да раніцы і дрынькаў на гітары. Тры акорды з ліхам напалам я вывучыў. Адзінае, што іх аб’ядноўвала з “кухоннымі” людзьмі, дык гэта тое, што ім таксама надакучылі кумачовыя сцягі і ўся тая мішура: камсамольскія сходы, палітзаняткі... Сацыялізм лічыў чалавека дурненькім...

Я вельмі добра ведаю, што такое мара. Усё дзяцінства я прасіў купіць мне веласіпед, і мне яго не купілі. Бедна жылі. У школе я фарцаваў джынсамі, у інстытуце – савецкай ваеннай формай плюс сімволікай рознай. Замежнікі куплялі. Звычайная фарца. У савецкі час за гэта саджалі на тэрмін ад трох да пяці гадоў. Бацька бегаў за мной з папругай і крычаў: “Спекулянт! Я пад Масквой кроў праліваў, а выгадаваў такое гавенца!” Учора злачынства, сёння – бізнэс. У адным месцы купіў цвікі, у іншым набойкі – спакаваў у поліэтыленавы мяшэчак і прадаў як новы тавар. Прынёс дадому грошы. Накупляў усяго, поўны халадзільнік. Бацькі чакалі, што за мной прыйдуць і арыштуюць. (*Рагоча.*) Гандляваў пабытовай тэхнікай. Скараваркамі, параваркамі... прыганяюць з Германіі машыну з прычэпам гэтага дабра. Усё ішло валам... У мяне ў кабінеце стаяла скрынка з-пад кампутара, поўная грошай, я толькі так разумеў, што гэта грошы. Бярэш, бярэш з гэтай скрынкі, а там усё не канчаецца. Ужо быццам бы ўсё купіў: тачку, кватэру... гадзіннік “Ролекс”... Памятаю гэтае ап’яненне... Ты можаш здзейсніць усе свае жаданні, таемныя фантазіі. Я шмат даведаўся пра сябе: па-першае, што ў мяне няма густу, а па-другое, што я закамплексаваны. Не ўмею з грашыма абыходзіцца. Я не ведаў, што вялікія грошы павінны

працаваць, яны не могуць ляжаць. Грошы – такое ж выпрабаванне для чалавека, як улада, як каханне... Марыў... І я паехаў у Манака. У казіно Монтэ-Карла прайграў велізарныя грошы, вельмі шмат. Несла мяне... Я быў рабом сваёй скрынкі. Ёсць там грошы ці не? Колькі іх? Іх павінна быць больш і больш. Мяне перастала цікавіць тое, што цікавіла раней. Палітыка... мітынгі... Памёр Сахараў. Я пайшоў з ім развітацца. Сотні тысячаў людзей... Усе плакалі, і я плакаў. А тут нядаўна чытаю пра яго ў газеце: "памёр вялікі юродзівы Расіі". І я падумаў, што ён своечасова памёр. Вярнуўся з Амерыкі Салжаніцын, усе кінуліся да яго. Але ён не разумеў нас, а мы яго. Замежнік. Ён прыехаў у Расію, а за вакном Чыкага...

Кім бы я быў, калі б не перабудова? ІТР з убогім заробкам... (*Смяецца.*) А цяпер у мяне свая вочная клініка. Некалькі сотняў чалавек залежаць ад мяне са сваімі сем'ямі, дзядулямі, бабулямі. Вы капаецеся ў сабе, рэфлексуеце, а ў мяне гэтай праблемы няма. Я працую дзень і ноч. Закупіў найноўшае абсталяванне, адправіў хірургаў у Францыю на стажыроўку. Але я не альтруіст, я добра зарабляю. Усяго дамогся сам... У мяне было толькі трыста даляраў у кішэні... Пачынаў бізнэс з партнёрамі, ад якіх вы прытомнасць страцілі б, калі б яны цяпер зайшлі ў пакой. Гарылы! Люты погляд! Цяпер іх ужо няма, яны зніклі, як дыназаўры. Хадзіў у бронекамізэльцы, у мяне стралялі. Калі хтосьці есць каўбасу горшую, чым я, мяне гэта не цікавіць. Вы ж усё хацелі, каб быў капіталізм. Марылі! Не крычыце, што вас падманулі...»

## Пра тое, што мы выраслі сярод катаў і ахвяраў

«Ідзём вечарам з кіно. У лужыне крыві ляжыць мужчына. На спіне ў плашчы дзірка ад кулі. Каля яго стаіць міліцыянер. Так першы раз я ўбачыў забітага чалавека. Неўзабаве прывык да гэтага. Дом наш вялікі, дваццаць пад'ездаў. Кожную раніцу ў двары знаходзілі труп, і ўжо мы не ўздрыгвалі. Пачынаўся сапраўдны капіталізм. З крывёю. Я чакаў ад сябе ўзрушэнняў, а іх не было. Пасля Сталіна ў нас іншыя адносіны да крыві... Памятаем, як свае забівалі сваіх... І пра масавыя забойствы людзей, якія не ведалі, за што іх забіваюць... Гэта засталося, гэта прысутнічае ў нашым жыцці. Мы выраслі сярод катаў і ахвяраў... Для нас нармальна – жыць разам. Няма мяжы паміж мірным і ваенным становішчам. Заўсёды вайна. Уключыш тэлевізар – усе балбочуць па фене: і палітыкі, і бізнэсмены, і прэзідэнт: адкаты, хабары, распілоўванні... Чалавечае жыццё – плюнуць і расцерці. Як у зоне...»

«Чаму мы не асудзілі Сталіна? Я вам адкажу... Каб асудзіць Сталіна, трэба асудзіць сваіх родных, знаёмых. Самых блізкіх людзей. Распавяду пра сваю сям'ю... Тату пасадзілі ў трыццаць сёмым, дзякуй Богу, ён вярнуўся, але адсядзеў дзесяць гадоў. Вярнуўся і вельмі хацеў жыць... Сам здзіўляўся, што яму пасля ўсяго, што ён бачыў, хочацца жыць... Так было не з усімі, далёка не з усімі... Маё пакаленне вырасла з татамі, якія вярнуліся або з лагераў, або з вайны. Адзінае, пра што яны маглі нам расказаць, дык гэта пра гвалт. Пра смерць. Яны рэдка смяяліся, шмат маўчалі. І пілі... пілі... У рэшце рэшт співаліся. Другі варыянт... Тыя, каго не пасадзілі, баяліся, што пасадзяць. Усё гэта не месяц ці два, а гадамі доўжылася – гадамі! А калі не пасадзілі, то пытанне: чаму ўсіх пасадзілі, а мяне не? Што я раблю не так? Маглі арыштаваць, а маглі накіраваць на працу ў НКУС... Партыя просіць, партыя загадвае. Выбар непрыемны, але многія павінны былі яго зрабіць... А цяпер пра катаў... Звычайных, не страшных... Данёс на тату

наш сусед... дзядзька Юрый... З-за дробязі, як казала мама. Мне было сем гадоў. Дзядзька Юрый браў на рыбалку сваіх дзетак і мяне, катаў на кані. Папраўляў наш плот. Разумееце, зусім іншы партрэт ката атрымліваецца – звычайны чалавек, нават добры... Нармальны... Арыштавалі тату і праз некалькі месяцаў забралі татавага брата. Пры Ельцыне мне далі яго справу, там ляжала некалькі даносаў, адзін напісала цётка Оля... Пляменніца... Прыгожая жанчына, вясёлая... Добра спявала... Яна ўжо была старая, я спытаў: “Цётка Оля, раскажы пра трыццаць сёмы год...” – “Гэта быў самы шчаслівы год у маім жыцці. Я была закаханая”, – адказала яна мне... Татаў брат не вярнуўся дадому. Знік. У турме ці ў лагеры – невядома. Мне было цяжка, але я ўсё ж такі задаў пытанне, якое мяне мучыла: “Цётка Оля, навошта ты гэта зрабіла?” – “Дзе ты бачыў сумленнага чалавека ў сталінскі час?” (*Маўчыць.*) А яшчэ быў дзядзька Павел, які служыў у Сібіры ў войсках НКУС... Разумееце, не існуе хімічна чыстага зла... Гэта не толькі Сталін і Берыя... Гэта і дзядзька Юрый, і прыгожая цётка Оля...»

*Першае мая. У гэты дзень камуністы праходзяць па вуліцах Масквы шматтысячным маршам. Сталіца зноў «чырванее»: чырвоныя сцягі, чырвоныя шарыкі, чырвоныя футболкі з сярпом і молатам. Нясуць партрэты Леніна і Сталіна. Партрэтаў Сталіна больш. Плакаты: “У труне мы бачылі ваш капіталізм!”, “Чырвоны сцяг – на Крэмль!” Звычайная Масква стаіць на тратуары, «чырвоная» коціць лавінай па праезнай частцы. Паміж імі ўвесь час ідзе сварка, якая месцамі даходзіць да боек. Паліцыя не ў змозе падзяліць гэтыя дзве Масквы. А я не паспяваю запісваць усё, што чую...*

– Пахавайце Леніна, прычым без ушанаванняў.

– Амерыканскія лакеі! За што прадалі краіну?

– Дурні вы, браткі...

– Ельцын і яго банда скралі ў нас усё. Піце! Багацейце! Калісьці гэта скончыцца...

– Баяцца народу адкрыта сказаць, што будуем капіталізм? Зброю гатовыя ўзяць усе, нават мая мама хатняя гаспадыня.

– Штыком шмат чаго можна зрабіць, але сядзець на ім нязручна.

– А я буржуінаў праклятых танкамі душыў бы!

– Камунізм прыдумаў габрэй Маркс...

– Выратаваць нас можа толькі адзін чалавек – таварыш Сталін. Яго б нам на два дні... расстралялі б іх усіх і няхай ідзе, кладзецца.

– І слава табе, Госпадзе! Я ўсім святым пакланюся.

– Сталінскія сукі! У вас кроў на руках яшчэ не астыла. Царскую сям'ю навошта забілі? Не пашкадавалі нават дзяцей.

– Вялікую Расію не зробіш без вялікага Сталіна.

– Зас...алі народу мазгі...

– Я просты чалавек. Сталін простых людзей не чапаў. У нашым родзе ніхто не пацярпеў – усе рабочыя. Ляцелі галовы начальнікаў, а просты чалавек жыў спакойна.

– Чырвоная гэбня! Хутка дагаворыцеся да таго, што ніякіх лагераў не было, акрамя піянерскіх. Мой дзед быў дворнікам.

– А мой каморнікам.

– Машыністам...

*Каля Беларускага вакзала пачаўся мітынг. Натоўп выбухаў то апла-*

*дысментамі, то крыкамі: «Ура! Ура! Слава!» У канцы ўся плошча грымнула песню на матыў «Варшавянкі» – рускай «Марсельезы», з новым тэкстам: «Сбросим с себя либеральные цепи, / Сбросим кровавый преступный режим». Пасля гэтага, згарнуўшы чырвоныя сцягі, адны заспяшаліся да метро, іншыя сталі ў чэргі каля кіёскаў з піражкамі ды півам. Пачаліся народныя гулянні. Скакалі і весяліліся. Старая жанчына ў чырвонай хустцы кружылася і прытупвала вакол гарманіста: «Мы весело пляшем /У елки большой. /На Родине нашей, /Нам так хорошо. /Мы весело пляшем, /Мы звонко поем, / И песенку нашу /Мы Сталину шлём...» Каля самага метро мяне дагналі п'яныя прыпеўкі: «От...бися всё плохое, при...бись хорошее».*

## Пра тое, што нам трэба выбіраць: вялікую гісторыю ці банальнае жыццё?

*Каля піўнога шапіка заўсёды шумна. Народ розны. Тут сустрэнеш прафесара, рабацягу, студэнта, бамжа... П'юць і разважаюць. Усё пра тое ж – аб лёсах Расіі. Аб камунізме.*

– Я – чалавек пітушчы. Чаму п'ю? Мяне маё жыццё не грэе. Хачу зрабіць галавакружны кульбіт з дапамогай алкаголю і нейкім чынам апынуцца ў іншым месцы. І там усё будзе прыгожа і добра.

– Для мяне пытанне стаіць больш канкрэтна: дзе я хачу жыць – у вялікай краіне або ў нармальнай?

– Я любіў імперыю... Мне жыццё пасля імперыі сумнае. Нецікавае.

– Вялікая ідэя патрабуе крыві. Сёння ніхто не хоча паміраць недзе. На нейкай вайне. Як у той песні: «Всюду деньги, деньги, деньги. Всюду деньги, господа...» А калі вы настойваеце, што ў нас ёсць мэта, то якая яна? Кожнаму па «Мерсэдэсу» і пуцёўцы ў Маямі?

– Рускаму чалавеку трэба ў нешта верыць... Верыць у светлае, узвышанае. У нас у падкорцы закладзена імперыя і камунізм. Гераічнае нам бліжэй.

– Сацыялізм змушаў чалавека жыць у гісторыі... прысутнічаць пры чымсьці вялікім...

– Бляць!! Мы такія духоўныя, мы такія адмысловыя.

– Не было ў нас дэмакратыі. Якія мы з вамі дэмакраты?

– Апошняя вялікая падзея ў нашым жыцці – перабудова.

– Расія можа быць толькі вялікай ці не быць зусім. Нам патрэбна моцная армія.

– Ну на хрэна мне вялікая краіна? Хачу жыць у маленькай, такой, як Данія. Без ядзернай зброі, без нафты і газу. Каб ніхто мяне не біў рэвальверам па галаве. Можа, тады мы таксама навучымся тратуары шампунем мыць...

– Камунізм – непасільная для чалавека задача... У нас заўсёды так: ці то канстытуцыі хочацца, ці сяўружыны з хрэнам...

– Як я зайздрошчу людзям, у якіх была ідэя! А мы зараз жывем без ідэі. Хачу вялікую Расію! Я яе не памятаю, але ведаю, што яна была.

– Была вялікая краіна з чаргой па туалетную паперу... Я добра памятаю, як пахлі савецкія сталовыя і савецкія крамы.

– Расія ўратуе свет! І сама так уратуецца!

– Мой бацька да дзевяноста гадоў дажыў. Казаў, што ў яго жыцці нічога добрага не было, толькі вайна. Гэта ўсё, што мы ўмеем.

– Бог – гэта бясконцасць, якая закладзена ў нас... Мы створаныя па вобразе і падабенстве...

## Пра ўсё…

«Ува мне савецкага было дзевяноста адсоткаў... Я не разумела, што адбываецца. Памятаю, як выступаў па тэлебачанні Гайдар: вучыцеся гандляваць... рынак нас выратуе... Купіў на адной вуліцы бутэльку мінеральнай вады і прадаў яе на іншай – гэта бізнэс. Людзі слухалі са здзіўленнем. Я прыходзіла дадому. Зачыняла дзверы і плакала. У мамы інсульт, так яе ўсё гэта напалохала. Можа, яны хацелі нешта добрае зрабіць, але ім не хапіла спагады да ўласнага народу. Ніколі не забуду старых, тых, хто просіць міласціну, яны шэрагамі стаялі ўздоўж дарогі. Пазамываныя капялюшыкі, зацыраваныя пінжачкі... Бягу на працу і з працы – баюся вочы падняць... Працавала я на парфумнай фабрыцы. Замест грошай выдавалі нам духі... касметыку...»

«У нас у класе вучылася бедная дзяўчынка, яе бацькі загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Яна засталася з бабуляй. Увесь год хадзіла ў адной і той жа сукенцы. Дык вось яе нікому не было шкада. Неяк хутка стала сорамна быць бедным...»

«Аб дзевяностых не шкадую... Бурлівы светлы час. Я, якая раней не цікавілася палітыкай і не чытала газетаў – пайшла балатавацца ў дэпутаты. Хто былі прарабы перабудовы? Пісьменнікі, мастакі... Паэты... На Першым З'ездзе народных дэпутатаў СССР аўтографы можна было збіраць. Мой муж – эканаміст, ён вар'яцеў ад гэтага: "Глаголом жечь" сэрцы людзей – гэта паэты ўмеюць. Рэвалюцыю вы зробіце. А далей, далей – што? Як будзеце будаваць дэмакратыю? Хто? І сёння зразумела, што ў вас атрымаецца". Смяяўся з мяне. Мы з-за гэтага з ім развяліся... Але ён меў рацыю...»

«Страшна стала, таму народ і пайшоў у храмы. Калі я верыў у камунізм, мне не патрэбна была царква. А жонка мая ходзіць са мной з-за таго, што ў царкве бацюшка кажа ёй: "Галубачка"».

«Мой бацька быў сумленным камуністам. Я камуністаў не вінавачу, я вінавачу камунізм. Да гэтага часу не ведаю, як мне ставіцца да Гарбачова... Да гэтага Ельцына... Чэргі і пустыя прылаўкі забываюцца хутчэй, чым чырвоны сцяг над Рэйхстагам».

«Мы перамаглі. А каго? Навошта? Па тэлебачанні на адным канале ідзе фільм, дзе "чырвоныя" б'юць "белых", а на іншым – адважныя "белыя" б'юць "чырвоных". Шызафрэнія!»

«Увесь час гаворым пра пакуты... Гэта наш шлях пазнання. Заходнія людзі здаюцца нам наіўнымі, таму што яны не пакутуюць, як мы, у іх ёсць лекі ад любога прышчыка. Затое мы сядзелі ў лагерах, у вайну зямлю трупамі завалілі, голымі рукамі грэблі ядзернае паліва ў Чарнобылі. І цяпер сядзім на абломках сацыялізму. Як пасля вайны. Мы такія цёртыя, мы такія бітыя. У нас свая мова. Мова пакуты.

Спрабаваў загаварыць пра гэта са сваімі студэнтамі... Смяяліся мне ў твар: "Мы не хочам пакутаваць. Для нас жыццё – гэта нешта іншае". Нічога яшчэ не зразумелі аб нашым нядаўнім свеце, а жывём у новым. Цэлая цывілізацыя – на сметніку...»

## Дзесяць гісторый у чырвоным інтэр'еры
## *аб прыгажосці дыктатуры і таямніцы матылька ў цэменце*

***Алена Юр'еўна С. – трэці сакратар райкама партыі, 49 гадоў***

*Чакалі мяне ўдзвюх – сама Алена Юр'еўна, з якой мы дамаўляліся аб сустрэчы, і яе маскоўская сяброўка Ганна Ільінічна М., што прыехала*

*пагасцяваць. Яна адразу ўключылася ў размову: «Даўно хачу, каб нехта патлумачыў мне, што з намі адбываецца». Нічога ў іх расповедах не супадала, апрача знакавых імёнаў: Гарбачоў, Ельцын... Але ў кожнай быў свой Гарбачоў, і свой Ельцын. І свае 90-ыя.*

*Алена Юр'еўна:*

– Хіба ўжо трэба распавядаць пра сацыялізм? Каму? Яшчэ ўсе – сведкі. Слова гонару, здзіўленая, што вы да мяне прыйшлі. Я – камуністка... наменклатура... Нам жа цяпер не даюць слова... затыкаюць рот. Ленін – бандыт, Сталін... Мы ўсе злачынцы, хоць на маіх руках няма ні кроплі крыві. Але на нас таўро, на ўсіх...

Магчыма, праз пяцьдзясят альбо сто гадоў пра тое нашае жыццё, якое называлася сацыялізмам, будуць пісаць аб'ектыўна. Без слёз і праклёнаў. Пачнуць раскопваць, як старажытную Трою. Нядаўна ўвогуле добра сказаць пра сацыялізм было нельга. На Захадзе пасля крушэння СССР зразумелі, што марксісцкія ідэі не скончыліся, іх трэба развіваць. Не маліцца на іх. Маркс не быў там ідалам, як у нас. Святым! Спачатку мы яго абагаўлялі, а потым аддалі анафеме. Усё перакрэслілі. Навука таксама прынесла чалавецтву незлічоныя беды. Давайце тады знішчаць вучоных! Праклянём бацькоў атамнай бомбы, а яшчэ лепш – пачнём з тых, хто порах вынайшаў! З іх... Хіба я не маю рацыі? (*Я не паспяваю адказаць на яе пытанне.*) Правільна... правільна, што з Масквы выбраліся. У Расію, можна сказаць, прыехалі. Па Маскве калі гуляеш, здаецца, што і мы Еўропа: раскошныя машыны, рэстараны... Залатыя купалы блішчаць! А вы паслухайце, пра што ў нас людзі гавораць у правінцыі... Расія – гэта не Масква, Расія – гэта Самара, Тальяці, Чэлябінск... жопінск які-небудзь... Што на маскоўскіх кухнях можна даведацца пра Расію? На тусоўках? Бла-бла-бла... Масква – сталіца нейкай іншай дзяржавы, а не тае, што за кальцавой дарогай. Турыстычны рай. Маскве не верце...

Да нас прыязджаюць і адразу: ну, гэта савок. Людзі жывуць вельмі бедна нават па расійскіх мерках. Лаюць багатых, злуюцца на ўсіх. Лаюць дзяржаву. Лічаць, што іх падманулі, ніхто ім не казаў, што будзе капіталізм, яны думалі, што сацыялізм пачнуць выпраўляць. Тое жыццё, якое ўсе ведалі. Савецкае. Пакуль яны на мітынгах дралі горла: «Ельцын! Ельцын!» – іх абабралі. Без іх падзялілі заводы і фабрыкі. І нафта, і газ – тое, што як кажуць, ад Бога. Але гэта толькі цяпер зразумелі. А ў дзевяноста першым усе ў рэвалюцыю пайшлі. На барыкады. Хацелі свабоды, а што атрымалі? Ельцынскую... бандыцкую рэвалюцыю... Сына маёй сяброўкі ледзь не забілі за сацыялістычныя ідэі. Слова «камуніст» было абразай. Свае хлопцы ў двары ледзь яго не забілі. Знаёмыя. Сядзелі ў альтанцы з гітарамі і размаўлялі: хутка, маўляў, пойдзем сценкай на камуністаў, вешаць будзем іх на ліхтарах. Мішка Слуцэр – тата яго ў нас у райкаме працаваў – ён хлопчык начытаны, працытаваў ім англійскага пісьменніка Чэстэртана: «чалавек без утопіі значна больш страшны, чым чалавек без носа...» І яго за гэта – чаравікамі... ботамі... «А, жыдзёнак! Хто рэвалюцыю ў сямнаццатым годзе рабіў?» Я памятаю гэты бляск у вачах людзей у пачатку перабудовы, ніколі яго не забуду. Камуністаў гатовы былі лінчаваць, адпраўляць па этапе... У смеццевых кантэйнерах валяліся кнігі Маякоўскага, Горкага... Здавалі на макулатуру сачыненні Леніна. Я падбірала... так! Вось!! Я ні ад чаго не адракаюся! Нічога не саромеюся! Не мяняла масць і не перафарбоўвалася з чырвонага колеру ў шэры. Ёсць такія людзі: «чырвоныя» прыйдуць – яны радасна сустракаюць

«чырвоных», «белыя» прыйдуць – радасна – «белых». Кульбіты здараліся агаломшвальныя: учора – камуніст, сёння – ультрадэмакрат. На маіх вачах «сумленныя» камуністы ператвараліся ў вернікаў і лібералаў. А я люблю і ніколі не разлюблю слова «таварыш». Добрае слова! Савок? Прыкусіце язык! Савецкі чалавек быў вельмі добры чалавек, ён мог паехаць за Урал, у пустыню – дзеля ідэі, а не за даляры. Не за чужыя зялёныя паперкі. Днепрагэс, Сталінградская бітва, выхад у адкрыты космас – гэта ўсё ён. Вялікі Савок! Мне да гэтага часу прыемна пісаць – СССР. Гэта была мая краіна, а цяпер я жыву не ў сваёй краіне. У чужой краіне я жыву.

Савецкай я нарадзілася... Нашая бабуля не верыла ў Бога, але верыла ў камунізм. А наш тата да самай смерці чакаў, што сацыялізм вернецца. Ужо абрынулася Берлінская сцяна, разваліўся Савецкі Саюз, а ён усё роўна чакаў. Назаўсёды пасварыўся са сваім лепшым сябрам, калі той назваў сцяг чырвонай анучай. Наш чырвоны сцяг! Кумачовы! Тата быў на фінскай вайне, за што яны ваявалі, ён так і не зразумеў, але трэба было ісці, і ён пайшоў. Пра гэтую вайну маўчалі, называлі яе не вайной, а фінскай кампаніяй. Але тата нам расказваў... Ціха. Дома. Рэдка, але ўспамінаў. Калі вып'е... Пейзаж яго вайны – зімовы: лес і метровай вышыні снег. Фіны ваявалі на лыжах, у белых маскхалатах, з'яўляліся ўсюды нечакана, як анёлы. «Як анёлы» – гэта татавы словы... Маглі за ноч выразаць заставу, цэлую роту. Мёртвыя... У татавых успамінах мёртвыя заўсёды ляжалі ў лужынах крыві, з соннага чалавека крыві выходзіць вельмі шмат. Крыві было столькі, што яна праядала метровы снег. Пасля вайны тата не мог зарэзаць нават курыцу. Труса. Моцна хваляваўся ад выгляду любой забітай жывёлы і цёплага паху крыві. Ён баяўся вялікіх дрэваў з густой кронай, на такіх дрэвах звычайна хаваліся фінскія снайперы, іх называлі "зязюлямі". (*Маўчыць.*) Хачу дадаць... Ад сябе... Пасля Перамогі наш гарадок тануў у колерах, гэта буйства нейкае было. Найгалоўная кветка – вяргіня, яе клубні трэба было зімою захоўваць, каб не змерзлі. Крый Божа! Іх ахіналі, укладвалі, як быццам гэта маленькае дзіця. Кветкі раслі каля дамоў, за дамамі, каля студняў і ўздоўж платоў. Пасля страху асабліва хочацца жыць, радавацца. А потым кветкі зніклі, зараз гэтага ўжо няма. А я памятаю... Успомніла цяпер... (*Маўчыць.*) Тата... праваяваў наш тата ўсяго паўгода і трапіў у палон. Як ён трапіў у палон? Яны наступалі па замёрзлым возеры, а артылерыя праціўніка біла па лёдзе. Мала хто даплываў да берага, а тыя, хто даплывалі, яны ўжо былі без сілаў і без зброі. Напаўголыя. Фіны ім тады працягвалі рукі. Ратавалі. Хтосьці хапаўся за гэтую руку, а хто... Было шмат такіх, хто не прымаў дапамогу ад ворага. Іх так вучылі. А тата ўхапіўся за чыюсьці руку, яго выцягнулі. Я добра памятаю татава здзіўленне: «Яны далі мне шнапсу, каб я сагрэўся. Апранулі ў сухое. Смяяліся і пляскалі па плячы: «Жывы, Іван!» Тата раней ніколі не бачыў ворагаў паблізу. Не разумеў, чаму яны радуюцца...

У саракавым годзе скончылася фінская кампанія... Савецкіх ваеннапалонных абмянялі на фінаў, якія знаходзіліся ў нас у палоне. Насустрач адзін аднаму яны ішлі калонамі. Фінаў, калі яны параўняліся са сваімі, сталі абдымаць, ціснуць ім рукі... Нашых сустрэлі не так, іх сустрэлі як ворагаў. «Браткі! Родненькія!» – кінуліся яны да сваіх. – «Стаяць! Крок у бок – страляем!» Калону ачапілі салдаты з аўчаркамі і павялі іх у спецыяльна падрыхтаваныя баракі. Вакол баракаў – калючы дрот. Пачаліся допыты... «Як ты трапіў у палон?» – спытаў следчы тату. – «Мяне фіны выцягнулі з возера». – «Ты – здраднік! Ты ратаваў сваю скуру, а не Ра-

дзіму». Тата таксама лічыў, што ён вінаваты. Іх так вучылі... Не было ніякага суда. Вывелі ўсіх на пляц і зачыталі перад строем загад: шэсць гадоў лагераў за здраду Радзіме. Адправілі ў Варкуту. Там яны будавалі чыгунку ў вечнай мерзлаце. Бог мой! Сорак першы год... Немцы пад Масквой... А ім не казалі, што вайна пачалася – яны ж ворагі, будуць радавацца. Ужо ўся Беларусь пад немцамі. Узяты Смаленск. Калі яны даведаліся пра гэта, адразу ўсе захацелі на фронт, пісалі лісты начальніку лагера... Сталіну... Ім адказвалі: вы, маўляў, сволата, працуйце на перамогу ў тыле, на фронце нам здраднікі не патрэбныя. І яны... тата... я ад таты гэта чула... Яны ўсе плакалі... (*Маўчыць.*) Вось з кім бы вам сустрэцца... Але таты ўжо няма. Лагер яму жыццё скараціў. І перабудова. Ён вельмі пакутаваў. Не разумеў, што здарылася. З краінай, з партыяй. Наш тата... У лагеры за шэсць гадоў ён забыўся, што такое яблык і качан капусты... прасціна і падушка... Тры разы на дзень ім давалі баланду, бохан хлеба – на дваццаць пяць чалавек. А спалі – пад галаву палена, замест матраца – дошкі на падлозе. Наш тата... Дзіўны ён быў, не такі тата, як у іншых... Не мог ударыць каня ці карову, штурхануць нагой сабаку. Мне заўсёды было тату шкада. А іншыя мужчыны над ім смяяліся: «Ну, які ты мужык? Баба!» Мама плакала, што ён... ну што ён не такі, як усе. Возьме ў рукі качан капусты й разглядвае... Памідор... Першыя часы наогул маўчаў, нічым з намі не дзяліўся. Гадоў праз дзесяць загаварыў. Не раней... так... Адзін час у лагеры ён вазіў мёртвых. За дзень збіралася дзесяць-пятнаццаць трупаў. Жывыя вярталіся ў бараки пешшу, а мёртвыя – на санях. З мерцвякоў ім загадвалі здымаць адзенне, і мёртвыя ляжалі на санях голыя, як тушканчыкі. Гэта я кажу татавымі словамі... блытана ў мяне атрымліваецца... З-за пачуццяў... хвалююся, так... Першыя два гады ў лагеры ніхто з іх не верыў, што выжыве; пра дом успаміналі тыя, у каго быў тэрмін пяць-шэсць гадоў, а ў каго тэрмін дзесяць-пятнаццаць гадоў, пра дом маўчалі. Нікога яны не ўспаміналі: ні жонак, ні дзяцей. Ні бацькоў. «Калі пачнеш успамінаць, не выжывеш», – татавы словы. А мы яго чакалі... «Вось тата вернецца... і мяне не пазнае...», «Наш татачка...» Хацелася лішні раз вымавіць гэтае слова «тата». І ён вярнуўся. Бабуля ўбачыла каля брамкі чалавека ў салдацкім шынялі: «Салдацік, каго вы шукайце?» – «Мама, ты мяне не пазнала?» Бабуля дзе стаяла, там і ўпала. Так тата вярнуўся... Увесь быў абмарожаны, ногі й рукі ён ніколі не мог сагрэць. Мама? Мама казала, што тата вярнуўся пасля лагера добрым, а яна баялася... яе палохалі... што адтуль вяртаюцца злымі. А наш тата хацеў радавацца жыццю. На ўсе выпадкі ў яго была прымаўка: «Будзь мужным – горшае яшчэ наперадзе».

Забылася... Забыла, дзе гэта адбывалася... у якім месцы? У перасылачным лагеры ці што? На карачках па вялікім двары поўзалі і елі траву. Дыстрофікі, пелагрыкі. Пры тату нельга было ні на што паскардзіцца, ён ведаў: «Каб выжыць, чалавеку трэба тры рэчы – хлеб, цыбуля і мыла». Усяго тры рэчы... усяго... Гэтых людзей ужо няма, нашых бацькоў... Калі хто застаўся, то іх трэба ў музей, пад шкло, рукамі не чапаць. Колькі яны ўсяго перанеслі! Калі тату рэабілітавалі, яму выдалі дзве салдацкія зарплаты за ўсе пакуты. Але ў нас у доме вельмі доўга вісеў вялікі партрэт Сталіна. Вельмі доўга... я гэта добра памятаю... Жыў тата без крыўды, ён лічыў: то час быў такі. Жорсткі час. Будавалі моцную краіну. І пабудавалі, і перамаглі Гітлера! Татавы словы...

Я расла сур'ёзнай дзяўчынкай, сапраўднай піянеркай. Цяпер ва ўсіх такое меркаванне, што раней у піянерскую арганізацыю заганялі. Нікуды

не заганялі. Усе дзеці марылі быць піянерамі. Хадзіць разам. З барабанам, з горнам. Спяваць піянерскія песні: «Родной край, навек любимый, / Где найдёшь ещё такой», «У власти орлиной орлят миллионы, и нами гордится страна...» На нашай сям'і ўсё-такі была гэтая пляма, што тата сядзеў, мама баялася, што мяне не прымуць у піянеры ці не адразу прымуць. А мне хацелася быць з усімі. Абавязкова, так... «Ты за каго: за месяц ці за сонца?» – ладзілі мне допыт хлапчукі ў класе. Тут трэба быць напагатове! «За месяц да спыну» – «Правільна! За савецкую краіну». А скажаш «За сонца» – «За праклятага японца». Засмяюць, зацвеляць. Кляліся мы адзін аднаму так: «чэснае піянерскае» або «чэснае ленінскае». Самая вялікая клятва – «чэснае сталінскае слова». Бацькі ведалі: калі я сказала «чэснае сталінскае», я не падманваю. Бог мой! Успамінаю не Сталіна, а ўспамінаю нашае жыццё... Я запісалася ў гурток і вучылася граць на акардэоне. Маму за ўдарную працу ўзнагародзілі медалём. Не адны толькі брыдкасці былі... і казарменнае жыццё... У лагеры тата часта бачыў адукаваных людзей. Больш нідзе ён такіх цікавых людзей не сустракаў. Некаторыя з іх пісалі вершы, і яны часцей выжывалі. Як і святары, яны маліліся... І тата хацеў, каб усе яго дзеці атрымалі вышэйшую адукацыю. Мара яго. Мы ўсе – нас чацвёра дзяцей – скончылі інстытуты. Але ён навучыў нас і хадзіць за плугам, і касіць траву. Я ўмею падаць на воз сена, скласці стог. «Усё можа спатрэбіцца», – лічыў тата. Ён меў рацыю.

Мне цяпер хочацца ўзгадваць... Я хачу зразумець тое, што пражыта. Не толькі сваё жыццё, а нашае... савецкае... Я не ў захапленні ад уласнага народа. І ад камуністаў таксама, і ад нашых камуністычных лідэраў. Сёння асабліва. Усе здрабнелі, абуржуазіліся, усе хочуць добра, салодка хочуць жыць. Спажываць і спажываць. Ухапіць! Камуністы таксама ўжо не тыя. У нас ёсць камуністы з гадавым прыбыткам у сотні тысячаў даляраў. Мільянеры! Кватэра ў Лондане... палац на Кіпры... Што гэта за камуністы? У чым жа іх вера? Спытаеш – як на дурнічку паглядзяць. «Не расказвайце нам савецкія казкі. Вось гэтага не трэба». Разбурылі такую краіну! Распрадалі па дэмпінгавых цэнах. Нашую Радзіму... Каб нехта мог лаяць Маркса і ездзіць па Еўропе. Час такі ж страшны, як і пры Сталіне... Я адказваю за свае словы! Напішаце гэта? Не веру... (*І я бачу – не верыць.*) Ужо няма ні райкамаў, ні абкамаў. Развіталіся з савецкай уладай. А што атрымалі? Рынг, джунглі... Улада злодзеяў... Хапалі – хто хутчэй, пірог вялікі. Бог мой! Чубайс... «прараб перабудовы»... Цяпер ён хваліцца, што лекцыі па ўсім свеце чытае. Маўляў, у іншых краінах капіталізм складваўся стагоддзямі, а ў нас за тры гады. Дзейнічалі хірургічным метадам... А калі нехта накраў, то і дзякуй Богу, можа, іх унукі будуць прыстойнымі людзьмі. Брррр!! І гэта дэмакраты... (*Маўчыць.*) Амерыканскі гарнітурчык прымяралі, слухалі дзядзьку Сэма. А амерыканскі гарнітурчык не лезе. Крыва сядзіць. Вось!! Не па свабоду пабеглі, а па джынсы... у супермаркеты... купіліся на яркія ўпакоўкі... Цяпер і ў нас у крамах поўна ўсяго. Багацце. Але горы каўбасы ніяк не звязаныя са шчасцем. Са славай. Быў вялікі народ! Зрабілі з яго гандляроў і марадзёраў ...лабазнікаў і менеджэраў...

Прыйшоў Гарбачоў... Загаварылі аб вяртанні ленінскіх прынцыпаў. Усеагульная радасць. Узбуджэнне. Народ даўно чакаў пераменаў. У свой час паверылі Андропаву... Ну кадэбісты, так... Як вам растлумачыць? КПСС ужо не баяліся. Ля піўнога ларка мужыкі маглі партыю абмацюкаць, а кэдэбэ – ніколі.... Вы што! У памяці сядзела... Ведалі, што жалезнай рукой, калёным жалезам, яжовай рукавіцай... гэтыя хлопцы навядуць парадак. Не

хочацца паўтараць банальныя рэчы, але Чынгісхан гены нам сапсаваў... і прыгоннае права... Прывыклі, што біць усіх трэба, без біцця нічога не атрымаецца. Андропаў з гэтага і пачаў – з закручвання гаек. Усе разбэсціліся: у працоўны час хадзілі ў кіно, у лазню, бегалі па крамах. Гарбату распівалі. Міліцыя стала рэйды праводзіць, аблавы. Правяралі дакументы і хапалі прагульшчыкаў проста на вуліцах, у кавярнях, у крамах і паведамлялі на працу. Штрафавалі, звальнялі. Але Андропаў цяжка хварэў. Хутка памёр. Мы іх хавалі, хавалі. Брэжнеў, Андропаў, Чарненка... Самы папулярны анекдот да Гарбачова: «Перадаём паведамленне ТАСС. Вы будзеце моцна смяяцца, але памёр чарговы Генеральны сакратар ЦК КПСС...» Ха-ха-ха... Народ на сваіх кухнях смяяўся, а мы на сваіх. На пятачку волі. Кухонная балбатня... (*Смяецца.*) Выдатна памятаю, як падчас размоваў уключалі гучна тэлевізар ці радыё. Цэлая навука. Вучылі адзін аднаго, як ухітрыцца, каб гэбістам, што праслухоўвалі тэлефонныя размовы, нічога не было чуваць: пракручваеш дыск – старыя тэлефоны былі з дзірачкамі для лічбаў – устаўляеш у адну з іх аловак і фіксуеш... можна пальцам трымаць, але палец жа стамляецца... Напэўна, вас таксама вучылі? Памятаеце? Трэба што-небудзь «сакрэтнае» сказаць, адыходзілі на два-тры метры ад тэлефона, ад трубкі. Стукацтва, праслухоўка – гэта было ўсюды, ва ўсім грамадстве зверху і да нізу, і мы ў райкаме варажылі: хто ў нас стукач? Як потым высветлілася, падазравала я нявіннага чалавека, а даносчык быў не адзін, іх было некалькі. Вось на тых я ніколі б не падумала... Адна з іх – нашая прыбіральшчыца. Ветлая, добрая жанчына. Няшчасная. Муж – п’яніца. Бог мой! Сам Гарбачоў... Генеральны сакратар ЦК КПСС... Чытала ў адным яго інтэрв’ю, як падчас канфідэнцыйных гутарак у сябе ў кабінеце ён рабіў тое ж самае – уключаў тэлевізар на ўсю гучнасць, ці радыё. Увогуле, азбука. Запрашаў для сур’ёзных размоваў на сваю дачу за горад. І яны там... Там яны выходзілі ў лес, гулялі і размаўлялі. Птушачкі не данясуць... Усе чагосьці баяліся, баяліся і тыя, каго баяліся. Я баялася.

Апошнія савецкія гады... Што я памятаю? Пачуццё сораму не пакідала. За абвешанага ордэнамі і Зоркамі Брэжнева і за тое, што Крэмль у народзе празвалі камфартабельным домам састарэлых. За пустыя прылаўкі. Планы выконваем і перавыконваем, а ў крамах нічога няма. Дзе нашае малако? Мяса? Я і цяпер не разумею, куды гэта ўсё падзелася. Малако канчалася праз гадзіну пасля таго, як адкрываліся крамы. З абеду прадаўцы стаялі каля чыста вымытых латкоў. На паліцах – трохлітровыя слоікі бярозавага соку і пачкі солі, чамусьці заўсёды мокрыя. Кілька ў бляшанках. Усё! Выкінуць у продаж каўбасу – яе размятуць у момант. Сасіскі і пельмені – далікатэс. У райкаме ўвесь час нешта дзялілі: гэтаму заводу – дзесяць халадзільнікаў і пяць футраў, а гэтаму калгасу – два югаслаўскія мэблевыя гарнітуры і дзесяць польскіх жаночых сумачак. Рондалі і жаночую бялізну дзялілі... калготкі... Такое грамадства магло трымацца толькі на страху. На надзвычайцы – паболей страляць і паболей саджаць. Але сацыялізм з Салаўкамі і Беламорканалам скончыўся. Патрэбны быў нейкі іншы сацыялізм.

Перабудова... Быў момант, калі людзі зноў пацягнуліся да нас. Уступалі ў партыю. Вялікія ва ўсіх чаканні. Усе тады былі наіўныя – левыя і правыя, камуністы і антысаветчыкі. Усе – рамантыкі. Сёння за гэта сорамна, за тую сваю наіўнасць. Моляцца на Салжаніцына. Вялікі старац з Вермонта! Не адзін Салжаніцын, многія ўжо разумелі, што так, як мы жывём, жыць нельга. Забрахаліся. І камуністы – верыце вы мне ці не? – таксама гэта разумелі. Сярод камуністаў было нямала разумных і сумленных людзей.

Шчырых. Я асабіста ведала такіх людзей, асабліва часта яны сустракаліся ў правінцыі. Як мой бацька... Бацьку не прынялі ў партыю, ён пацярпеў ад партыі, але ён ёй верыў. Верыў партыі і краіне. Кожная раніца ў яго пачыналася з таго, што ён адкрываў газету «Праўда» і прачытваў яе ад і да. Камуністаў без партбілета было больш, чым з партбілетамі, яны душой былі камуністы. (*Маўчыць.*) На ўсіх дэманстрацыях неслі лозунг «Народ і партыя – адзіныя!» Гэтыя словы – не выдумка, гэта была праўда. Я нікога не агітую, я расказваю, як яно было. Ужо ўсе забыліся... Многія ўступалі ў партыю па сумленні, а не толькі з-за кар'еры або з іншых прагматычных меркаванняў: калі я беспартыйны і ўкраду – мяне пасадзяць, калі я ўступлю ў партыю і ўкраду – мяне выганяць з партыі, але не пасадзяць. Я абураюся, калі пра марксізм гавораць пагардліва, з насмешкай. Хутчэй яго – у сметцевы бачок! На звалку! Гэта вялікае вучэнне, яно пераживе ўсе ганенні. І нашую савецкую няўдачу – таксама. Таму што... ёсць шмат прычынаў... Сацыялізм – гэта не толькі лагеры, стукацтва і жалезная заслона, гэта і справядлівы, ясны свет: з усімі дзяліцца, слабых шкадаваць, спачуваць ім, а не падграбаць усё пад сябе. Мне кажуць: нельга было купіць машыну, але ні ў каго не было машыны. Ніхто не насіў касцюмы ад Версачы і не купляў дом у Маямі. Бог мой! Правадыры СССР жылі на ўзроўні бізнэсменаў сярэдняй рукі, да алігархаў ім не дацягнуць. Слаба! Не будавалі яны сабе яхт з душам з шампанскага. Падумаць толькі! Па тэлевізары перадаюць рэкламу: купляйце медныя ванны – коштам з двухпакаёвую кватэру. Для каго яны, скажыце? Пазалочаныя дзвярныя ручкі... Гэта – свабода? Маленькі, радавы чалавек – ніхто, ён – нуль. На дне жыцця. А тады ён мог напісаць у газету, пайсці і паскардзіцца ў райкам: на начальніка або на дрэннае абслугоўванне... на здрайцу-мужа... Былі глупствы, не адмаўляю, але хто сёння гэтага простага чалавека наогул слухае? Каму ён патрэбны? Памятаеце савецкія назвы – вуліца Металургаў, Энтузіястаў... Заводская, Пралетарская... Маленькі чалавек... ён быў галоўны... Дэкларацыя, шырма, як вы кажаце, а цяпер і хавацца нікому не трэба. Няма грошай – пайшоў вон! Пад лаўку! Вуліцы пераназываюць: Мяшчанская, Купецкая, Дваранская... Нават каўбасу я бачыла «Княжая», а віно «Генеральскае». Культ грошай і поспеху. Выжывае наймацнейшы, з жалезнымі біцэпсамі. Але не ўсе здольныя ісці па галовах, вырываць кавалак у іншага. У адных прырода такая, таму што не могуць, а іншым брыдка.

З ёй... (*Ківае ў бок сяброўкі.*) Спрачаемся, вядома... Яна мне даказвае, што для сапраўднага сацыялізму патрабуюцца ідэальныя людзі, а іх няма. Ідэя гэтая бязглуздзіца... казка... Наш чалавек ужо ні за што не памяняе сваю патрыманую іншамарку і пашпарт з шэнгенскай візай на савецкі сацыялізм. А я веру ў іншае: чалавецтва ідзе ў бок сацыялізму. Да справядлівасці. Іншага шляху няма. Паглядзіце на Нямеччыну... Францыю... Ёсць шведскі варыянт. А якія каштоўнасці ў рускага капіталізму? Пагарда да «людзішак»... Да тых, у каго няма мільёна, няма «мерсэдэса». Замест чырвонага сцяга – Хрыстос уваскрос! І культ спажывання... Чалавек засынае з думкай не пра штосьці высокае, а пра тое, што ён сёння чагосьці не купіў. Вы думаеце, што краіна развалілася таму, што даведаліся праўду пра ГУЛАГ? Так думаюць тыя, хто кнігі піша. А чалавек... нармальны чалавек гісторыяй не жыве, ён жыве працай: закахаўся, ажаніўся, дзеці нарадзіліся. Дом пабудаваў. Краіна знікла з-за дэфіцыту жаночых ботаў і туалетнай паперы, з-за таго, што апельсінаў не было. Гэтых джынсаў праклятых! Цяпер нашыя крамы падобныя на музеі. На тэатры. І мяне хочуць пераканаць, што анучы ад Версачы і Армані

– гэта ўсё, што неабходна чалавеку. Яму гэтага дастаткова. Жыццё – гэта фінансавыя піраміды і векселі. Свабода – гэта грошы, а грошы – свабода. А нашае жыццё капейкі не вартае. Ну, гэта... ну, гэта... разумееце... Я нават словаў не знаходжу, як назваць... Мне шкада маіх маленькіх унучак. Шкада. Ім гэта па тэлевізары кожны дзень убіваюць у галаву. Я не згодна. Я была і застаюся камуністкай.

*Перапыняемся надоўга. Нязменны чай, на гэты раз з вішнёвым варэннем, звараным па ўласным рэцэпце гаспадыні.*

Восемдзесят дзявяты год... Я да гэтага часу ўжо была трэцім сакратаром райкама партыі. На партработу мяне забралі са школы, я выкладала рускую мову і літаратуру. Маіх любімых пісьменнікаў – Талстога, Чэхава... Калі прапанавалі – спалохалася. Такая адказнасць! Але ні хвіліны не вагалася, быў шчыры парыў – служыць партыі. У тое лета я прыехала дадому ў адпачынак. Звычайна ўпрыгожанняў не нашу, а тут купіла сабе нейкія каралі танныя, мама мяне ўбачыла: «Ты – як царыца». Была ў захапленні... ну не каралямі ж! Тата сказаў: «Ніхто з нас цябе ні пра што прасіць не прыйдзе. Ты павінна быць чыстай перад людзьмі». Бацькі ганарыліся! Былі шчаслівыя! А я... я... што перажывала я? Ці верыла я партыі? Шчыра адкажу – верыла. І зараз веру. З партыйным білетам не расстануся, што б ні здарылася. Ці верыла я ў камунізм? Шчыра скажу, не буду хлусіць: я верыла ў магчымасць справядлівага ладу жыцця. І зараз... я ўжо казала... веру. Мне надакучыла слухаць расказы пра тое, як нам дрэнна жылося пры сацыялізме. Ганаруся савецкім часам! Шыкоўнага жыцця не было, але жылі нармальна. Было каханне і сяброўства... сукенкі і туфлі... Прагна слухалі пісьменнікаў і артыстаў, а цяпер перасталі. Месца паэтаў на стадыёнах занялі ведзьмакі і экстрасэнсы. Ведзьмакам верaць, як у Афрыцы. Нашае... савецкае жыццё... гэта была спроба альтэрнатыўнай цывілізацыі, калі хочаце. Калі з пафасам... Улада народа! Ну не магу супакоіцца! Дзе вы сёння ўбачыце даярак, токараў ці машыністаў метро? Няма іх – ні на старонках газетаў, ні на экранах тэлевізараў, ні ў Крамлі, калі ўручаюць ордэны і медалі. Нідзе іх няма. Усюды новыя героі: банкіры і бізнэсмены, мадэлі і інтэрдзяўчынкі... мэнэджары... Маладыя яшчэ могуць прыстасавацца, а старыя паміраюць моўчкі, за зачыненымі дзвярыма. У галечы паміраюць, у забыцці. У мяне пенсія – пяцьдзясят даляраў... (*Смяецца.*) І ў Гарбачова, я чытала, пяцьдзясят даляраў... Пра нас кажуць: «Камуністы жылі ў палацах, елі чорную ікру лыжкамі. Сабе яны пабудавалі камунізм». Бог мой! Я вас вадзіла па сваіх «палацах» – звычайная двухпакаёвая кватэра, агульная плошча – пяцьдзясят сем метраў. Нічога не схавала: савецкі крышталь, савецкае золата...

– А спецпаліклінікі і спецпайкі, «свае» чэргі на атрыманне кватэраў і казённыя дачы... партыйныя санаторыі?

– Шчыра? Было гэта... ну было... але больш там... (*Падымае руку ўверх.*) А я заўсёды ўнізе, самае ніжняе звяно ўлады. Унізе, каля людзей. Заўсёды на вачах. Калі недзе і было... не спрачаюся... Не адмаўляю! Чытала, як і вы, у перабудоўных газетах... што дзеці сакратароў ЦК лёталі на паляванне ў Афрыку. Брыльянты скуплялі... Усё адно не параўнаць гэта з тым, як жывуць цяпер «новыя рускія». З іх замкамі ды яхтамі. Паглядзіце, што панабудавалі яны вакол Масквы. Палацы! Двухметровыя каменныя платы, дрот з электрычным токам, відэаназіранне. Узброеныя ахоўнікі. Як у зоне або на сакрэтным ваенным аб’екце. Што, там Біл Гейтс жыве, кампутарны геній? Ці Гары Каспараў, чэмпіён свету па шахматах? Там жывуць пераможцы.

Грамадзянскай вайны быццам бы не было, а пераможцы ёсць. Там яны – за каменным плотам. Ад каго яны хаваюцца? Ад народу? Народ думаў, што прагоніць камуністаў, і наступяць цудоўныя часы. Райскае жыццё. Замест вольных людзей з'явіліся гэтыя... з мільёнамі і мільярдамі... Гангстэры! Страляюць сярод белага дня... Нават у нас аднаму бізнэсоўцу балкон разнеслі. Нікога не баяцца. Лётаюць у асабістых самалётах з пазалочанымі ўнітазамі, яшчэ і выхваляюцца. Сама бачыла па тэлевізары... адзін паказваў свой гадзіннік коштам у бамбардзіроўшчык. А другі – мабільнік з дыяментамі. І ніхто! Ніхто не крыкне на ўсю Расію, што гэта сорамна. Брыдка. Калісьці былі Успенскі і Караленка. Шолахаў напісаў Сталіну ліст у абарону сялянаў. Цяпер я хачу... Вы мяне пытаецеся, а я хачу ў вас запытацца: дзе нашая эліта? Чаму я чытаю кожны дзень у газетах меркаванне з любой нагоды Беразоўскага і Патаніна, а не Акуджавы... Іскандэра... Як так здарылася, што вы саступілі свае месца? Сваю кафедру... І першымі пабеглі да аб'едкаў са стала алігархаў. У слугаванне. Руская інтэлігенцыя раней не бегала і не служыла. А цяпер нікога не засталося – няма нікога, хто скажа пра дух, апрача папа. А дзе перабудоўшчыкі?

У камуністаў майго пакалення было мала агульнага з Паўкам Карчагіным. З першымі бальшавікамі з партфелямі ды рэвальверамі. Ад іх засталася толькі ваенная лексіка: «салдаты партыі», «працоўны фронт», «бітва за ўраджай». Мы ўжо не адчувалі сябе салдатамі партыі, мы былі служачыя партыі. Клеркі. Існаваў такі абрад – светлая будучыня: у актавай зале вісеў партрэт Леніна, у кутку стаяў чырвоны сцяг. Абрад... рытуал... Салдаты былі ўжо непатрэбныя, патрабаваліся выканаўцы: «давай-давай», а не – дык «партбілет на стол». Загадалі – зрабіў. Даклаў. Партыя не ваенны штаб, а апарат. Машына. Бюракратычная машына. Гуманітарыяў на службу бралі рэдка, партыя ім не давярала з часоў Леніна, які пісаў пра інтэлігенцкае саслоўе: «не мозг, а гаўно нацыі». Такіх, як я, было мала. Філолагаў. Кадры кавалі з інжынераў, заатэхнікаў, з тых, чыя спецыяльнасць – машыны, мяса і збожжа, а не чалавек. Кузні партыйных кадраў – сельскагаспадарчыя інстытуты. Патрэбныя былі дзеці рабочых і сялянаў. З народу. Даходзіла да смешнага: ветэрынара, напрыклад, маглі ўзяць на партыйную працу, а ўрача-тэрапеўта – наўрад. Не сустракала там ні лірыкаў, ні фізікаў. Што яшчэ? Субардынацыя, як у войску... Пад'ём наверх павольны, з прыступкі на прыступку: лектар райкама партыі, затым – загадчык парткабінета... інструктар... Трэці сакратар... другі сакратар... Я ўсе прыступкі за дзесяць гадоў прайшла. Гэта цяпер малодшыя навуковыя супрацоўнікі і загадчыкі лабараторый кіруюць краінай, старшыня калгаса або электрык становіцца прэзідэнтам. Замест калгасу – адразу краіна! Такое здараецца толькі ў рэвалюцыю... (*Пытанне – ці да мяне, ці да сябе.*) Не ведаю, як назваць тое, што адбылося ў дзевяноста першым...

Рэвалюцыя ці контррэвалюцыя? Ніхто не спрабуе нават растлумачыць, у якой краіне мы жывем. Якая ў нас ідэя, акрамя каўбасы? Што будуем... Ідзём наперад – да перамогі капіталізму. Так? Сто гадоў лаялі капіталізм: пачвара... монстр... А цяпер ганарымся, што ў нас будзе як ва ўсіх. Калі станем як усе, каму мы будзем цікавыя? Народ-баганосец... надзея ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва... (*Іранічна.*) Аб капіталізме ва ўсіх такое ж уяўленне, як нядаўна пра камунізм. Мары! Судзяць Маркса... вінавацяць ідэю... Ідэя-забойца! А я вінавачу выканаўцаў. У нас быў сталінізм, а не камунізм. А цяпер ні сацыялізму, ні капіталізму. Ні ўсходняй мадэлі, ні заходняй. Ні імперыі, ні рэспублікі. Боўтаемся, як... памаўчым... Сталін!

Сталін! Хаваюць яго... хаваюць... А закапаць ніяк не атрымліваецца. Не ведаю, як у Маскве, а ў нас яго партрэты ставяць пад ветравое шкло ў аўтамабілях. У аўтобусах. Дальнабойшчыкі асабліва яго любяць. У мундзіры генералісімуса... Народ! Народ! А што народ? Народ сам пра сябе сказаў: з яго і дубіна, і абраз. Як з дрэва... Што зробіш, тое і будзе... Гайдаецца нашае жыццё паміж баракам і бардаком. Зараз маятнік пасярэдзіне... Палова краіны чакае новага Сталіна. Вось прыйдзе ён і навядзе парадак... (*Зноў маўчыць.*) У нас... вядома... у райкаме таксама было шмат размоваў пра Сталіна. Партыйная міфалогія. Яе перадавалі з пакалення ў пакаленне. Усе любілі размовы аб тым, як жылі пры Гаспадары... Сталінскія парадкі былі такія: напрыклад, загадчыкам сектараў ЦК разносілі гарбату з бутэрбродамі, а лектарам – проста гарбату. Увялі пасаду намесніка загадчыка сектара. Як быць? Ім вырашылі падаваць чай без бутэрбродаў, але на белай сурвэтцы. Ужо яны адзначаны... узлезлі на Алімп да багоў, да герояў. Цяпер трэба праціснуцца да месца ля карыта... Так было і пры Цэзары, і пры Пятры Першым. І так будзе заўсёды. Паглядзіце на сваіх дэмакратаў... Узялі ўладу і адразу ж бегма – куды? Да кармушкі. Да рогу дастатку. Кармушка прыкончыла не адну рэвалюцыю. На нашых вачах... Ельцын змагаўся з прывілеямі і называў сябе дэмакратам, а цяпер любіць, калі яго называюць царом Барысам. Стаў хросным бацькам...

Перачытала «Акаянныя дні» Івана Буніна. (*Дастае з паліцы кнігу. Знаходзіць закладку і чытае.*) «Памятаю старога рабочага ля варот дома, дзе раней былі “Одесские новости”, у першы дзень панавання бальшавікоў. Раптам выскачыла з-пад дзвярэй чарада хлапчукоў са стосамі толькі што аддрукаваных «Известий” і з крыкамі: “На адэскіх буржуяў накладзена кантрыбуцыя ў 500 мільёнаў!” – Рабочы захрыпеў, захліпнуўся ад лютасці і зларадпасці: «Мала! Мала!». Вам гэта нічога не нагадвае? Мне... так... Нагадвае... Гарбачоўскія гады... першыя бунты... Калі народ стаў вывальваць на плошчы і патрабаваць – то хлеба, то свабоды... то гарэлкі і курыва... Страх! Інсульты і інфаркты ў шматлікіх партработнікаў. «У коле ворагаў», як партыя вучыла, жылі, у «абложанай крэпасці». Да сусветнай вайны рыхтаваліся... Больш за ўсё баяліся ядзернай вайны, а развалу не чакалі. Не чакалі... ніяк... Прывыклі да майскіх і кастрычніцкіх калонаў, да плакатаў: «Справа Леніна пераможа стагоддзі», «Партыя – наш рулявы». А тут не калоны, а стыхія. Не савецкі народ, а нейкі іншы, незнаёмы нам. І плакаты іншыя: «Камуністаў пад суд!», «Раздавім камуністычную гадзіну!» Адразу ўспомніўся Новачаркаск... Інфармацыя была закрытая, але мы ведалі... як пры Хрушчове галодныя працоўныя выйшлі на вуліцы... іх расстралялі... Тых, хто застаўся жывым, распіхалі па лагерах, да гэтага часу іх родныя не ведаюць, дзе яны... А тут... тут перабудова... Страляць нельга, саджаць таксама. Трэба размаўляць. А хто з нас мог выйсці да натоўпу і трымаць гаворку? Пачаць дыялог... агітаваць... Мы былі апаратчыкі, а не прамоўцы. Я, напрыклад, чытала лекцыі і капіталістаў кляйміла, неграў у Амерыцы абараняла. У маім кабінеце стаяў поўны збор твораў Леніна... пяцьдзясят пяць тамоў... Але хто яго па-сапраўднаму чытаў? Прагортвалі ў інстытутах перад экзаменамі: «Рэлігія – опіум народа» і «кожны Божачка ёсць трупаложаства».

Панічны быў страх... Выкладчыкі, інструктары, сакратары райкамаў і абкамаў – усе мы баяліся выязджаць да працоўных на завод, да студэнтаў у інтэрнат. Палохаліся тэлефонных званкоў. А раптам спытаюць пра Сахарава ці пра Букоўскага... што адказваць? Ворагі яны савецкай улады ці

ўжо не ворагі? Як ацэньваць «Дзеці Арбата» Рыбакова і п'есы Шатрова? Ніякой каманды зверху... Раней табе сказалі – ты выканаў даручэнне, правёў лінію партыі ў жыццё. А тут: страйкуюць настаўнікі, патрабуюць павышэння заробку, малады рэжысёр у нейкім заводскім клубе рэпетуе забароненую п'есу... Бог мой! На кардоннай фабрыцы рабочыя на тачцы вывезлі за вароты свайго дырэктара. Гарлапанілі. Білі шкло. Ноччу зачапілі жалезным тросам і звалілі помнік Леніну. Паказвалі яму кукіш. Партыя разгубілася... Я памятаю разгубленую партыю... Сядзелі ў сваіх кабінетах за зашморгнутымі шторамі. Ля ўваходу ў будынак райкама днём і ноччу дзяжурыў узмоцнены нарад міліцыі. Баяліся народа, а народ яшчэ па інерцыі баяўся нас. Потым баяцца перасталі... Збіраліся на плошчы тысячы людзей... Плакат запомніла: «Даеш 1917! Рэвалюцыю!» Была ўзрушаная. Пэтэвэшнікі нейкія з ім стаялі... маладыя хлопцы... Птушаняты! Адзін раз прыйшлі ў райкам парламенцёры: «Пакажыце свой спецмагазін! У вас там усяго поўна, а нашыя дзеці галодныя, губляюць прытомнасць на ўроках». Ніякіх норкавых футраў і чорнай ікры ў нашым буфеце яны не знайшлі, але ўсё роўна не паверылі: «падманваюць просты народ». Усё прыйшло ў рух. Захісталася. Гарбачоў быў слабы. Лавіраваў. Быццам бы ён за сацыялізм... і капіталізму хочацца... Больш думаў пра тое, як спадабацца ў Еўропе. У Амерыцы. Там яму апладзіравалі: «Горбі! Горбі! Вось дык Горбі! Забалбатаць перабудову...» (*Маўчыць.*)

Сацыялізм паміраў на нашых вачах. І прыйшлі гэтыя хлопчыкі жалезныя».

*Ганна Ільінічна:*

– Гэта было нядаўна, але гэта было ў іншую эпоху... У іншай краіне... Там засталася нашая наіўнасць, наш рамантызм. Даверлівасць. Хтосьці не хоча пра гэта ўспамінаць, бо непрыемна, мы перажылі шмат расчараванняў. Ну хто сказаў, што нічога не змянілася? Біблію нельга было перавезці праз мяжу. На гэта забыліся? У падарунак з Масквы я вазіла сваякам у Калугу муку і макароны. І яны былі шчаслівыя. Забыліся? Ніхто ўжо не стаіць у чарзе па цукар і мыла. І няма талонаў на паліто.

Я палюбіла Гарбачова адразу! Цяпер яго праклінаюць: «Здраднік СССР!», «Гарбачоў прадаў краіну за піцу!» А я памятаю нашае здзіўленне. Узрушэнне! Нарэшце ў нас нармальны лідар. Не сорамна за яго! Адзін аднаму пераказвалі, як у Ленінградзе ён спыніў картэж і выйшаў да народа, а на нейкім заводзе адмовіўся ад дарагога падарунка. Падчас традыцыйнага застолля выпіў толькі шклянку гарбаты. Усміхаецца. Выступае без паперкі. Малады. Ніхто з нас не верыў, што савецкая ўлада калі-небудзь скончыцца і ў крамах з'явіцца каўбаса, а за імпартнымі бюстгалтарамі не будуць выбудоўвацца кіламетровыя чэргі. Прывыклі ўсё па знаёмству даставаць: падпіску на «всемирку», шакаладныя цукеркі і гэдээраўскія спартыўныя касцюмы. Сябраваць з мясніком, каб купіць кавалак мяса. Савецкая ўлада здавалася вечнай. Хопіць яшчэ на дзяцей і ўнукаў! А яна нечакана для ўсіх скончылася. Цяпер ясна, што і сам Гарбачоў гэтага не чакаў, ён хацеў нешта змяніць, але не ведаў – як. Ніхто не быў гатовы. Ніхто! Нават тыя, хто дзёўб гэтую сцяну. Я – шараговы тэхнолаг. Не герой, не... і не камуністка... Дзякуючы свайму мужу, ён – мастак, я рана трапіла ў багемнае асяроддзе. Паэты, мастакі... Сярод нас не было герояў, ні ў каго не хапіла адвагі стаць дысідэнтам, адсядзець у турме ці ў вар'ятні за свае перакананні. Жылі з дуляй у кішэні.

Сядзелі на кухнях, лаялі савецкую ўладу і травілі анекдоты. Чыталі

самвыдат. Калі хтосьці даставаў новую кнігу, ён мог прыйсці ў дом да сяброў у любы час сутак – нават у дзве-тры гадзіны ночы, усё роўна гэта быў жаданы госць. Я добра памятаю тое начное маскоўскае жыццё... асаблівае... Там былі свае героі... свае баязліўцы і здраднікі... Сваё захапленне! Растлумачыць гэта чалавеку недасведчанаму немагчыма. Перш за ўсё нашае захапленне я не магу растлумачыць. І не магу растлумачыць іншае... Вось гэта... Начное нашае жыццё... ну зусім яно не было падобнае да дзённага. Ні кроплі! Раніцай мы ўсе ішлі на працу і рабіліся звычайнымі савецкімі людзьмі. Як і ўсе астатнія. Трубілі на рэжым. Альбо ты канфарміст, альбо табе трэба ісці ў дворнікі і вартаўнікі, іншага спосабу захаваць сябе не было. Вярталіся са службы дадому... І зноў пілі гарэлку на кухнях, слухалі забароненага Высоцкага. Лавілі праз трэск глушылак «Голас Амерыкі». Я да гэтага часу памятаю той цудоўны трэск. Круцілі бясконцыя раманы. Кахаліся, разводзіліся. І многія пры гэтым адчувалі сябе сумленнем нацыі, лічылі, што мелі права павучаць свой народ. А што мы пра яго ведалі? Тое, што прачыталі ў «Запісках паляўнічага» Тургенева і ў нашых «дзеравеншчыкаў». У Распуціна... Бялова... Я нават свайго бацькі не разумела. Крычала яму: «Тата, калі ты не вернеш ім свой партбілет, то я з табой размаўляць не буду». Тата плакаў.

У Гарбачова было ўлады больш, чым у цара. Неабмежаваная ўлада. А ён прыйшоў і сказаў: «Так болей жыць нельга». Яго знакамітая фраза. І краіна ператварылася ў дыскусійны клуб. Спрачаліся дома, на працы, у транспарце. З-за розных поглядаў сем'і распадаліся, дзеці сварыліся з бацькамі. Адна мая знаёмая так пасварылася з сынам і нявесткай з-за Леніна, што выгнала іх на вуліцу, яны жылі зімой за горадам на халоднай дачы. Тэатры апусцелі, усе сядзелі дома перад тэлевізарам. Ішлі прамыя рэпартажы з першага З'езду народных дэпутатаў СССР. Перад гэтым была цэлая гісторыя, як мы выбіралі тых дэпутатаў. Першыя свабодныя выбары! Сапраўдныя! Па нашай акрузе праходзілі дзве кандыдатуры: нейкі партыйны чыноўнік і малады дэмакрат, выкладчык універсітэта. Памятаю і цяпер яго прозвішча – Малышаў... Юры Малышаў. Цяпер ён, я выпадкова даведалася, займаецца аграбізнэсам – памідорамі і гурочкамі гандлюе. А тады – рэвалюцыянер! Выступаў і казаў такую крамолу! Нечуваную! Марксісцка-ленінскую літаратуру называў макулатурай... нафталіннай... Шосты артыкул Канстытуцыі патрабаваў адмяніць, а гэта артыкул – аб кіруючай ролі КПСС. Краевугольны камень марксізму-ленінізму... Я слухала і не магла сабе гэта ўявіць. Трызняціна! Хто дасць... дазволіць зачапіць? Усё разваліцца... Гэта ж скрэпы... Настолькі мы былі ўсе замбаваныя. Я савецкага чалавека выціскала з сябе гадамі, вёдрамі вычэрпвала. (*Маўчыць.*) Нашая каманда... Нас набралася чалавек дваццаць добраахвотных памочнікаў, пасля працы мы абходзілі кватэры ў сваім раёне і агітавалі. Малявалі плакаты: «Галасуй за Малышава!» І ўявіце сабе – ён перамог! З вялікай перавагай. Першая нашая перамога! Потым мы ўсе балдзелі ад прамых рэпартажаў са з'езду – дэпутаты выказваліся яшчэ больш адкрыта, чым мы на кухнях. Ці не болей за два метры ад кухні. Усе тырчалі каля тэлевізараў, як наркаманы. Не маглі адарвацца. Вось зараз Траўкін ім дасць! Да-а-аў!! А Болдыраў? Цяпер ён... Во малайчына!

Неапісальны запал да газетаў і часопісаў, да перыёдыкі больш, чым да кніг. Тыражы «тоўстых часопісаў» ірванулі ўверх да мільёнаў асобнікаў. Раніцай у метро з дня ў дзень на вачах адна і тая ж карціна: увесь вагон сядзіць і чытае. Тыя, хто стаяць – таксама чытаюць. Абменьваюцца адзін з адным га-

зетамі. Незнаёмыя людзі. Мы з мужам выпісвалі дваццаць найменняў, адну зарплату цалкам трацілі на падпіску. З працы я бегла хутчэй дамоў, каб залезці ў чырвоны халат і чытаць. Нядаўна памерла мая мама, яна казала: «Я паміраю, як пацук на памыйніцы». Яе аднапакаёвая кватэра нагадвала чытальную залу: часопісы, газеты – стосікамі на кніжных паліцах, у шафе. На падлозе і ў пярэднім пакоі. Каштоўны «Новы мір» і «Знамя»... «Даўгава»... усюды – скрынкі выразак. Вялікія скрынкі. Я адвезла ўсё на дачу. Выкінуць шкада, аддаць – каму? Макулатура зараз! А ўсё чытана-перачытана. Шмат падкрэсліванняў – чырвоным алоўкам, жоўтым. Чырвоным – самае важнае. Паўтоны, я думаю, у мяне ляжыць. Уся дача забітая.

Вера была шчырая... наіўная вера... Паверылі, што вось зараз... ужо стаяць на вуліцы аўтобусы, якія павязуць нас у дэмакратыю. Будзем жыць у прыгожых дамах, а не ў шэрых «хрушчоўках», пабудуем аўтабаны замест раздзёўбаных дарог, станем усе добрымі. Рацыянальных доказаў гэтаму ніхто не шукаў. Іх і не было. А навошта? Верылі сэрцам, а не розумам. І галасавалі на выбарчых участках сэрцам. Ніхто канкрэтна не казаў, што трэба рабіць: свабода – і ўсё. Калі ты сядзіш у закрытым ліфце, то марыш аб адным – каб ліфт адчыніўся. У цябе шчасце, калі яго адкрылі. Эйфарыя! Ты не думаеш пра тое, што ты цяпер павінен нешта рабіць... ты нарэшце дыхаеш на поўныя грудзі... Ты ўжо шчаслівы! Мая сяброўка выйшла замуж за француза, ён працаваў у маскоўскай амбасадзе. І вось ён увесь час ад яе чуў: паглядзі, маўляў, якая ў нас, у рускіх, энергія. «Ты мне растлумач, для чаго гэтая энергія?» – пытаўся ён у яе. Ні яна, ні я не маглі нічога яму растлумачыць. Я яму так і адказвала: б’е энергія – і ўсё. Я бачыла вакол сябе жывых людзей, жывыя твары. Якія ўсе былі ў той час прыгожыя! Адкуль узяліся гэтыя людзі? Учора ж іх яшчэ не было!

Тэлевізар у нас у доме не выключаўся... Праграму «Новости» глядзелі кожную гадзіну. У мяне толькі нарадзіўся сын, я выходзіла з ім у двор і абавязкова брала з сабой прыёмнік. Людзі сабак прагульвалі з прыёмнікамі. Смяемся цяпер з сына: ты ў нас змалку – у палітыцы, а яму гэта нецікава. Слухае музыку, вучыць мовы. Хоча ўбачыць свет. Іншым жыве. Нашыя дзеці не падобныя да нас. Да каго яны падобныя? Да свайго часу, адзін да аднаго. А мы тады... Ой-ой! Зараз Сабчак на з’ездзе выступае... Усе кідаюць справы і бягуць да экрана. Мне падабалася, што Сабчак у нейкім прыгожым, здаецца, аксамітным пінжаку, гальштук завязаны «паеўрапейску». Сахараў на трыбуне... Значыць, у сацыялізму можа быць «чалавечы твар»? Вось яно... Для мяне гэта быў твар акадэміка Ліхачова, а не генерала Ярузельскага. Калі я казала «Гарбачоў», то мой муж дадаваў «Гарбачоў... і Раіса Максімаўна таксама». Першы раз мы ўбачылі жонку генеральнага сакратара, за якую было не сорамна. Прыгожая фігура, добра апранутая. Любяць адзін другога. Нехта прынёс нам польскі часопіс, дзе пісалася, што Раіса – шык! Як мы ганарыліся!.. Бясконцыя мітынгі. Вуліцы патаналі ва ўлётках. Канчаўся адзін мітынг, пачынаўся іншы. Людзі йшлі і йшлі, кожны думаў, што ён прыйдзе туды і атрымае нейкае адкрыццё. Вось зараз правільныя людзі знойдуць правільныя адказы... Наперадзе чакала невядомае жыццё, яно ўсіх прыцягвала. Здавалася, што царства свабоды ўжо на парозе...»

Алесь Каско



…гнеў з мальбою мяшаю –
выбуховая сумесь!..

# Богашукальніцтва

### *МІМ*

Народ наш
як ёсць
цнатлівы,
не чуем
душы мы ў ім;
немітуслівы,
падатлівы,
сарамлівы,
вынослівы,
звышцярплівы
і ў таленце
асаблівы:
маўклівы –
грунтоўны
гуртоўны
мім.

* * *

Першы снег...
Для вас ён любы?
Неба, нібы зрэбны мех,
смеццем высыпала груба
ля пад'ездаў гэты снег.
Ён ляжыць, пярэста-шэры,
з лісцем, пылам напалам.
Замыкаюся ў кватэры,
шпацыр пакідаю вам.
Мне заменіць прагулянкі
аркуш –
з бляскам снегавым,
балазе, на ім ні плямкі,
ані літаркі на ім...

* * *

Пасля снегу – ні травінкі,
ні пялёстка; чорна спрэс.
Цішыня. Нібы памінкі
правіць сакавіцкі лес.
То з бярэзіны самотнай,
то з крывога лазняку,
быццам сокам, пырсне слотай
часам вецер на шчаку.
Хоць бы кволыя пралескі,
хоць бы рэха, дух лясны,
збочыць змусілі са сцежкі,
ад знаёмае сасны, –
вунь яна на мху калодай,
як нябожчыца, ляжыць...
Што ж халодная прырода
не спяшаецца ажыць?
Што мяне вяло туляцца
ў ейнай спозненай вясне:
ці не кліч, што страціў маці,
распавесці той сасне?..

***ВЕРАБЕЙ***

На голлі абляпіхі,
над мітуснёй людской
чырыкае і пырхае
ля ўправы гарадской.

І ягады нясмачныя,
пракіслыя клюе,

і з верхавіны мачтавай
лушпінкамі плюе.

Блазнуе, пацяшаецца,
яму якой бяды,
што чынны люд спяшаецца,
снуе туды-сюды;
што сотавік працінькае,
як ён, хвалу вясне,
што ягаднай лушпінкаю
паперка шабурсне...

Яму ніякай справы –
ён вольны верабей, –
што ў ім ніхто з управы
не пазнае сябе.

### *МАТЫЎ ЧЫСТАЙ КРАСЫ*
### *(З нізкі "Фрыволікі")*

Соладка спаць на світанку,
сніць сінь нябёсаў, сады,
сок-вінаград, схоў-альтанку,
росныя ў травах сляды.

Соладка ўсмак з салаўямі
сэрцу дазволіць спяваць,
соладка срэбнымі снамі
вусны і стан спавіваць.

Соладка несці суседку
ў засень, дзе скалкі зары,
і сумаваць, што ў сукенку
соваюць нос камары...

### *СТРАЎСЫ*

Замест прасторы цёплага пяску –
сталёвыя рабрыны, сеткі зонаў
для тых, хто мае шыі саксафонаў
і ногі алімпійскіх бегуноў.

Наш еўразійскі шчодры кантынент
ім, пералётна-перавозным птушкам,
у латаках вады, яды ў кармушках
удосталь даў – куды ім уцякаць?

Яны рахманыя; бяруць ласункі з рук
і тычкамі стаяць для кіна-фота,
і гэта – звыклая для іх работа,
як несці яйкі і нагульваць тлушч.

Глабалізацыя няведамая ім,
не памятаюць, скуль іх продкі родам,
няўцям зусім, хто ўладны над прыродай,
за што і для чаго ўчыняе гвалт.
Калі б іскрынкай згадка апякла,
калі б прачнуліся аднойчы гены,
о, як бы біліся яны аб сцены
і як ламалі б ногі аб пруты!

Ды волю дай – з кустоўяў і балот,
дзе не бліснеш ні хуткасцю, ні спрытам,
вярнуўся б вяла кожны да карыта
і ў сораме схаваў бы галаву.

## ***ПОЗНІЯ СПАТКАННІ***

Сонца ўзгарэлася, пэўна,
адсвяціць за ўсе хмурныя дні –
на мільёны сонцаў разбілася
ў роснай лістоце,
у мокрых шыбінах,
у лужынах з небным блакітам;
а два з іх, не менш прамяністыя, –
пад выцвілай аблачынкаю,
пад здвоенаю вясёлкаю, –
плывуць мне насустрач...
Так лёгка ўгадаць, што і сёння
яны не кінулі ані позірку
на каляндар,
на гадзіннік
і нават на зваблівае люстэрка:
нашто, калі ход свой змяніла Зямля
і Сонца ўзышло з маладосці?..
– Якая гадзіна, паненка?
І што вы робіце сёння ўвечары?
– За поўдзень ужо... А ты
сказаў бы што-небудзь новае.
– Вось кніжка, якую прасіла... –
кажу і зноў угадваю беспамылкова:
будзе блукаць адзінока яна
і пасля заходу сонца.
О, непапраўная летуценніца!..

## *МАЛІТВА*

*А. С.*

Божа, чакай: не карай заняпадам,
покуль душа свету беламу рада, –
рада траве, збажыне і лістоце
ў фарбах бурштынавых ці ў пазалоце,
цішы лясной, салаўіным руладам;
рада бяссонным сваім парыванням
і дараваць, і прасіць даравання;
рада, што ёсць ледзь кранутае ляда
вершаў, якім узыходзіць да ладу
з боляў яе, і трывог, і сумненняў,
рада, што здатная шчэ да малення.
Божа, не дай жа душы заняпаду,
покуль свет белы таксама ёй рады
ці хоць цярплівы; дай спраўдзіцца ў лёсе,
многа ці мала ёй быць засталося,
покуль яна ані трошкі не рада
вечнасці – спрату ці светламу саду.

## *ГАДЗІННІКАВА ПЕСНЯ*

Як непадкупны веснік,
бяссрэбранік-паэт,
вядзе гадзіннік песню
так проста, неўпрыкмет.

Цік-так – ні ноты лішняй,
бы ручаёк бруіць.
Штуршок даў Усявышні,
нікому не спыніць.

І не змяніць нікому,
не заўладаць; з таго
дачасніку любому
нялюбы спеў яго.

Цік-так – за хвіляй хвіля:
сатрапу, ліхвяру
прадказвае няўхільна
ён судную пару.

Дачаснікі з адчаю
яго прарочы такт
збіваюць, залачаюць,
а ён сваё: цік-так...

Няхай яны хоць купна
сквітаюцца з жыццём,

спявацьме непадкупна
пра кару забыццём.

Цік-так – з-за шкліны шэрай,
са змроку, з нематы,
як бы кашэль ні шчэрыў
свой выскал залаты.

### *РЭДКІ НАСТРОЙ*

Даўно няма чуллівасці,
а вось кіпіць вясна –
і кліча смех залівісты
ў расхрыстанасць акна,
у сад, дзе ў белай замеці
чаромхі – вобраз той,
што вымкнулася з памяці
маланкай шаравой.
І я – яе палоннікам
да ўскрыку: ма-ла-ды!..
Няхай шугае полымя
і хмеліць скроні дым
маёй чаромхі сонечнай,
што зараз прамільгне, –
э-э, мне зусім не сорамна,
што многа вёснаў мне.
Дажыў да сцюж на свеце я,
але ж не да таго,
каб струшчыць гронку квецені
і кінуць у агонь!..

* * *

Забываю з адчаю:
незваротная сувязь.
Гнеў з мальбою мяшаю –
выбуховая сумесь!
Яе страшна захоўваць
у душы дні без ліку,
нематою акоўваць
і зрывацца да крыку.
А калі ўсё ж прыйду я
і ўпаду галавою –
ты мяне пашкадуеш,
ахвяруеш сабою?..
Не прашу гэтак многа:
сквапнасць – д’яблавы чары.

Моцы дай, каб самога
змог падняць да ахвяры.
Змог пранесці свой вырак
і ля самага краю
мовіць ціха, як выдых,
слова-выбух:
кахаю.

*** 

Дзіўна жыць пасля рысы сталасці:
з кожным крокам чуй паварот,
за якім напраскі і мала йсці
праз імглу, па гразі, уброд.

Дзесьці там, у жыцця на хутары,
наўзгатоў твой і дол, і крыж,
і касмічны знайшоў кампутар
кропку-знічку, якой згарыш.
Там, дзе сонца ўжо не ўваскрэсне,
ні адно не гукне "ку-ку",
белым сцягам павесіш песню
лебядзіную на суку...

***Р.Б.***

Імю твайму, Беларусь,
запабягае
агульна-хадульнае
Рэспубліка,
і так рэдка – простае
Радзіма.
Утрая засмучаюся,
калі імя тваё
ўрэзваюць
да сухога і куцага
РБ –
як да чужое арбы,
гружанай камянямі.
Калі гэты гвалт сустракаю
(а ён скрозь і паўсюль),
прастаўляю кропкі:
Р.Б. –
і расшыфроўваю як
Рыгор Барадулін
або – хоць бы зрэдку –
Рычард Бялячыц.

## БОГАШУКАЛЬНІЦТВА

Душа вымагае, а голас слабы
ў шчырых маленнях, думных трактатах...
Мо сам Усявышні, о Госпадзі, быў
першы дыктатар?

За плод, што ў пазнанні даброці і зла
з Дрэва кахання прыгубілі двое,
хіба сувымерная кара была –
пекла зямное?

Найлепшыя гінуць за свет і святло,
каб нараджалася людства свабодным.
Чаму ж і цяпер, хоць шмат жыццяў сышло,
грэх – першародны?

Душа вымагае, а голас слабы
ў верных, сумніўных і ў багаборцаў...
Няўжо-ткі дарэмна твой Сын палюбіў
нас, Усятворца?!

## НАЧЛЕЖНАЕ

Эдэмскі сад я сам намеціў
і сам стварыў, з'імітаваў
з бярозавых і хвойных веццяў,
з травы, агню... А духам вецер
з садоў сядзібных наплываў.

Мне духу ўласнага ставала
адно на ўяву, і таму
віню сябе: цаніў замала
людзей, якіх жыццё ламала
так, бы мяне, – па аднаму.

Яшчэ патрэскваюць вуголлі.
Не морыць ноч, не хіліць сон.
Бадзяжнай і самотнай волі,
бязлюднасці – з мяне даволі:
усё мінае, нат агонь.

З цяпельцам разам дагараю,
гусцее хмарнасць нада мной,
і страшыць водбліск небакраю,
і нават верагоднасць раю
не раз'ядноўвае з зямлёй.



проза

Эрнест Ялугін



...колькі костак людскіх ды чарапоў
адгарадзілі ўрэшце Масковію
ад Вялікага Княства...

# Перад Патопам

***Гістарычны раман***

*Саколе, саколе,*
*Што ляціш над полем,*
*Круціш галавою?*
*Як мне не круціці,*
*Недзе гнязда віці*

Старажытная казацкая песня.

*І, як было ў дні Ноя,... елі, пілі,*
*жаніліся... і не думалі,*
*пакуль не прыйшоў Патоп.*

Евангелле ад Лукі, 17, 26-27.

*У рамане "Перад Патопам" аўтар працягвае аповед аб няпростым лёсе бортніка з-пад Мсціслава Зыха (гл. раман "Ідзі і кажы"), які цудам ацалеў падчас разні, учыненай у яго вёсцы зграяй ваяводзіча Пятра Шуйскага. Ачуняўшы ад цяжкага ранення, Зых збірае ватагу казакоў і з імі робіць дзёрзкія напады на маскоўцаў усцяж памежжа ад Оршы да Пскова, адначасова адшукваючы сляды захопленай у палон маладой жонкі і спадзеючыся сустрэцца ў двубоі з*

*Часопісны варыянт.*

*разбойным ваяводзічам. Але яму не шанцуе: аднойчы пасля цяжкога ранення Зых становіцца калекаю і вымушаны асесці на ціхае жыхарства ў лясной вёсцы каля Чашнікаў. Ён у роспачы, адчуваючы вінаватасць перад дзядамі, – загінулымі родзічамі, пакуль аднойчы пакручасты лёс не зводзіць яго з ведзьмаком Твардоўскім, у чароўным люстэрку якога (венецыйскім "зерцале") Зых і ўбачыў: сутыкненне з Шуйскім адбудзецца, калі войска маскоўскага цара Іаана Грознага захопіць Полацк. Праўда, дабра ад таго самому Зыху не будзе. Тым не меней, упарты бортнік не стаў ухіляцца ад небяспечнай для свайго жыцця сустрэчы.*

*Падзеі адбываюцца ў часе падрыхтоўкі да Люблінскай уніі, так бы мовіць "саюзнай дзяржавы" – Рэчы Паспалітай двух народаў.*

*Дзеючыя асобы ў рамане, акрамя некаторых другасных персанажаў, даюцца паводле гістарычных крыніц і дакументаў.*

***Заступ першы***

## ЦЁМНА Ў ЛЕСЕ БЕЗ БЯЛУНА

### 1. Зерцала Твардоўскага

Перад тым, як сягнуць у XVI стагоддзе, некалькі слоў пра зерцала, якое, магчыма, ты сам, дарагі чытач, бачыў, калі наведаў у Польшчы фарны касцёл у ціхім (ой, не заўсёды!) Венграве. Ты, канечне, заўважыў, што яно расколатае на тры кавалкі, выглядае, быццам след маланкі з двума хвастамі. Па акантоўцы цьмянага срэбра выбіты надпіс на лаціне, пачатак якога зверху чытаецца так: Gicas Twardovivs Artes... Кажуць, раскалолася люстэрка, калі, угневаўшыся, яго шпурнула каралева Бона, і лепей бы яна таго не рабіла.

А глядзела ў зерцала каралева, калі наважылася развітацца з Польшчай ды Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жэмайцкім, каб вярнуцца на радзіму, у крыўдзе на сына марачы пасля шматгадовага дзяржаўнага тлуму ў вялікай, але разбэрсанай і халоднай краіне бясконцых пушчаў, балот і рэк з азёрамі нарэшце бесклапотна папесціцца з каханкам пад італійскім сонцам у райскай мясціне Бары з тузін гадкоў ці болей, адчувала Бона сябе даволі бадзёра, а продкі яе славіліся даўгалеццем. Убачыла ж у зерцале свой хуткі скон. І які!

Праз колькі гадоў зерцала спатрэбілася ўжо і яе сыну, Жыгімонту Аўгусту, калі агарнула караля нясцерпная роспач-туга па мілай сваёй Барбары, чыё аблічча нават на старой парсуне і цяпер, трэба прызнаць, прымушае проста-такі чароўнай вабнасцю шчымець ад нязбыўнасці і самыя загартаваныя мужчынскія сэрцы.

Не іначай Дзіў паспрыяў, каб і просталюдзін, Зых-бортнік сутыкнуўся ў сутарэнні каралеўскага палаца з уладальнікам таго зерцала ведзьмаком Твардоўскім і ўбачыў сваю будучыню (як калісьці ў маладосці ў Мсціславе ў начараванай вадзе), але, упарты, не захацеў памяняць паводзіны, хоць і даведаўся, чым усё для яго скончыцца.

Не будзем згадваць тут усіх, хто скарыстаўся зерцалам і на працягу наступных стагоддзяў, занепакоены ўласным лёсам у ліхую гадзіну, не ў шчаслівую ж варожаць – а што наперадзе?

Ну і які, здавалася б, сэнс варажыць пра тое, што ўжо наканавана нябёсамі? Каб у выпадку горшага веданне азмрочыла і апошнюю рэштку

жыцця чаканнем бяды? Ці не шчаслівей птушка: вось яна радасна спявае, а не падазрае, што, магчыма, ужо ў наступную хвіліну смяротна крыкне ў кіпцюрах драпежніка.

Толькі ж не так сабе Усявышні даў чалавеку дасціпны розум. А каб мог спасцігнуць вынік уласных учынкаў, а зразумеўшы, уведаўшы, чым усё можа скончыцца, у некага хапіла волі-жадання пры патрэбе змяніць пакуль не позна паводзіны. Праўда, што з таго ўрэшце атрымаецца, ні ў начараванай вадзе не ўгледзець, ні ў шэпце варажбіткі не ўчуць. Уяўляй сам ды спадзявайся, хто на Усявышняга, а нехта – на нячыстую сілу, выбірай, думай. Няпросты ён, Боскі дар чалавекам – воля.

А варажба... Ці грэх яна? Ды хто ж дакладна ведае, якія сілы за ёй – белыя ці чорныя, сатанінскія? Само сабой, блізка, блізка тады нячысцік, але ж і Усявышні ці не пасылаў прарокаў, каб прадказвалі чалавекам будучыню ў залежнасці ад іх учынкаў.

Прарокаў слухаюць не ўсе, зазірнуць паўночнай парою пры святле лучыны ў цэбарку з начараванай вадой ахвотнікаў чамусьці куды болей. Страшацца, не без таго, а ўглядаюцца, углядаюцца.

Ці трэба тлумачыць, што зерцала Твардоўскага нагадвала начараваную ваду, толькі пераўтвораную ў таемнай плавільні вострава Мурана, што бліз італійскай Венецыі, у зеленаватае шкло, адмыслова аздобленае срэбрам. Мо, дарагі чытач, ты і сам бачыў нашчадкаў тых старажытных венецыйскіх асаў за іх магічным заняткам. А ўжо якім магутным чарадзействам, здабытым недзе ў пячорах кельцкіх, у друідаў, якія па некалькі гадоў навучаліся ў падзямеллях самімі дэманамі, валодалі іх папярэднікі, чытай у Герадота, а мы таго нашым простым пяром і апісваць не бяромся. Адно і дадамо ў пацвярджэнне праўдзівасці нашай гісторыі – пісьмовыя сведчанні сучаснікаў пра хаўруснікаў Твардоўскага, асабліва пра нейкага германца, некраманта-чарнакніжніка Фаўста ды яго патрона – д'ябла Мефістофеля. Сведчанні людзей паважаных і годных.

МУЦЫЯН РУФ, яго свяцейшасць абат:

Сей Фаўст, абазначаны ў актах як Johannes Faust ex Simern, ва ўніверсітэце слаўнага Гейдэльберга ў 1509 годзе 15 януарыя атрымаў з рук годнага магістра дэкана Вольфа са Шпэера пасведчанне бакаляўра.

З ПРАТАКОЛА ПАСТАНОЎ МАГІСТРАТА

горада Інгальштадт:

Сёння ў сераду пасля дня св. Віта 1528 г. прадпісана нейкаму чалавеку, які назваўся пракорам, доктарам Фаўстам з Гейдэльберга, пакінуць горад і ўзята абяцанне ўладам за гэты загад не помсціць і непрыемнасцей не ўчыняць.

ЗАПІСАНА ІАГАНАМ МАНЛІУСАМ

са слоў доктара тэалогіі Меланхтона:

Ведаў я чалавека па імені Фаўст з Кундлінга. Калі той быў студэнтам у польскім Кракаве, то вывучаў магію, якою там адкрыта і заўзята займаліся і публічна чыталі лекцыі.

ІАГАН ВІРУС, вучоны лекар:

Фаўст, родам з Кундлінга, навучыўся магіі ў польскім Кракаве, дзе ёю ва ўніверсітэце займаліся адкрыта, і недзе каля 1540 года ілжывым чынам прак-

тыкаваў яе потым у розных месцах, за што нават сядзеў у турме. Аднойчы ён сустрэў майго знаёмага, у якога барада была чорная, а твар цемнаваты, што сведчыла аб меланхоліі з-за хворай селязёнкі, і сказаў яму:"Да таго ж ты падобны на майго куманька, што я нават зірнуў табе на галаву – ці няма рожак, і на нозі – ці не ўбачу кіпцяў". Гэта ён прыняў яго за д'ябла, Мефістофеля, якога чакаў да сябе і звычайна называў куманьком.

З "ЗАСТОЛЬНЫХ ГУТАРАК"
пастара Марціна Лютара:
...Чарнакніжнік абат Шпангеймскі здолеў паказаць імператару Максіміліяну ў яго пакоях замка яго нявесту, якую адабраў кароль Францыі.

АЎГУСЦІН ЛЯРХЭЙМЭР, доктар тэалогіі:
Дастахвальны імператар Максіміліян Першы меў супругаю Марыю, дачку Карла Бургундскага, і кахаў яе неймаверна, усім сэрцам, таму надта сумаваў, калі яна памерла. Тады абат-чарнакніжнік паабяцаў імператару, што пакажа яе перад ім. Імператар пагадзіўся на гэту небяспечную справу. Зайшлі яны ў тайныя пакоі палаца, і папярэдзіў вядзьмак імператара, каб той абавязкова маўчаў і ані слова, пакуль прывід, з'явіўшыся, будзе перад ім. І супруга сапраўды ўзнікла, бы Самуіл цару Савулу з Бібліі, і была так падобная на жывую, не адрозніш, хоць за руку бяры. Так што імператар прызнаўся, што ледзьве ўстрымаўся ад спакусы, каб не загаварыць з ёю. Але каб здарылася так, злы дух імператара знішчыў бы.

Калі прагнуць ваpar жбы слабыя духам ці надта асцярожныя (а значыць, таксама не волаты), такое можна зразумець. Але ж *зерцалам* імкнуліся скарыстацца і ўсемагутныя дыктатары, вось што цікава. Такія, здавалася б, бязмежныя ўладары над лёсамі і жыццямі мільёнаў насельнікаў цэлых дзяржаў! Прыкладам, маскоўскі самадзержац, якога ці не няшчасныя наўгародцы першымі празвалі Крывавым. А гэты, што распачаў Другую сусветную бойню народаў. Як толькі ягоны Вермахт захапіў Польшчу, ён, такі ўвогуле саманадзейны, загадаў даставіць зерцала ў сваю берлінскую канцылярыю. Ды хутка высветлілася, што магічныя ўласцівасці яно праяўляе толькі паблізу ад месца пахавання, відаць, адзінага свайго гаспадара – ведзьмака Твардоўскага. І ўсемагутны дыктатар едзе ў Венграва. А там мусіў лезці ў замшэлае скляпенне. У адзіноце седзячы ў магільным сутарэнні, саманадзейны пераможца ўсіх краін кантынентальнай Заходняй Еўропы нарэшце і ўбачыў у затуманеным вэлюмам часу венецыйска-муранскім шкле свой нечакана блізкі агідны скон.

А спярша ўгледзеў уласны сапраўдны твар – зусім не такі, які прывык бачыць на парадных партрэтах, змайстраваных спрытна-хлуслівымі лісліўцамі фатографамі і жывапісцамі. Вочы... Галоўнае, вочы – нахабна-ашалелыя, у атожылках ранняга склерозу, адутлаватыя шчокі, порыстую нездаровую скуру праз атынкоўку макіяжным крэмам і французскай пудрай, перакрыўленыя сутаргай ужо хранічнай істэрыкі губы... і, надзелены ад прыроды мастацкім абвостраным уяўленнем, нават пачуў хруст на зубах ампулы з атрутай, якая яшчэ і не рыхтавалася ў берлінскай хімічнай лабараторыі гестапа.

Але ж надта ён прызвычаіўся за гады фюрэрства да ап'яняючай усемагутнасці-ўседазволенасці, каб ацверазець за адзін сеанс. Праўда, ужо было папярэджанне Месінга, але ж не такое канкрэтнае. Ды і што словы ў параўнанні з відовішчам у старажытным люстэрку!

Секундную роспач ён звычна задушыў выбухам раз'юшанасці, адштурхнуў зерцала і выскачыў са скляпення, каб апынуцца пасярод натоўпу ўгодлівых лісліўцаў і зграі драпежных ахоўнікаў. Ён магутны, як ніхто! Ворагі! Яны, яны, мярзотнікі, адмарозкі, хітрым штукарствам у чарговы раз спрабуюць пахіснуць яго сталёвую волю. Не выйдзе! Адшукаць варожых агентаў і знішчыць! Зерцала таксама. Звычны ўчынак дыктатараў усіх часоў, якім здавалася: калі ліквідаваць усякі напамін пра немінучую цяжкую расплату за свае дзеянні, то ўжо нічога такога і не здарыцца. Галоўнае – знішчыць зерцала.

Эх, глядзеў жа ў тое зерцала і твой сын, разумніца-руплівіца найяснейшая каралева! Ды што ж, цікаваў там адно: сваю каханую, мроіў пра мінулае.

Не, усё ж неяк прыкмеціў Жыгімонт Аўгуст плынь хвалі дзіўнай, бязмерна-высачэзнай. Нешта ўвогуле падобнае ўжо на апакаліптычны Патоп, ды вырашыў: мроіцца. Хоць адчуваў, адчуваў: такі кепска можа скончыцца ўсё ў ягонай шалапутнай дзяржаве, калі рашуча не ўзяцца за пераўтварэнне, за грунтоўную перабудову сістэмы, ужо і распытваў знаўцаў-падарожнікаў пра Англію, Францыю, блізкія суседзі яму не падабаліся. Трэба нарэшце наводзіць прагрэсіўны дзяржаўны парадак, пакуль шляхта канчаткова не разбэсцілася і не спілася. Неадкладна трэба дзейнічаць. Presto! – як апошнім часам перад сваім ад'ездам патрабавала маці... Прэста!..

## 2. Яго вялікасць прачынаецца

Хіхікаў з'едліва Станьчык.

Станьчык? Адкуль у яго таемных думках узяўся стары скамарох?

Апошняе зусім проста: Жыгімонт Аўгуст памалу абуджаўся і спрабаваў узнімаць бы свінцом набрынялыя павекі, а стары смяхач, падкурчыўшы пад сябе станчэлыя ногі, сядзеў каля дзвярэй і адтуль падслепавата ўглядаўся ў яго вялікасць, ламаючы галаву – як бы гэта ўмудрыцца нешта сказаць каралю, калі прачнецца канчаткова, каб той усё ж і ў цяперашнім стане ацаніў жарт і засмяяўся. Бо следам давядзецца паведаміць і такое, што гаспадару будзе ўжо не да смеху. А хто яму яшчэ ў Вільні гэта скажа?

Адразу па прыездзе з Кракава, пасля цяжкай дарогі, адчуваючы, як стомлена тахкае старое сэрца і ломіць косці, Станьчык ужо і шкадаваў, што не застаўся дома, няхай бы тут, у Літве, караля забаўляў пляменнік, таму-сяму навучыўся каля дзядзькі, і пільным розумам, які гэтак патрэбны ў скамарошай справе, Усявышні не абдзяліў. Але хутка пераканаўся, што сама Маці Боская натхніла яго ў дарогу, а не толькі прымас Ян, яшчэ раз, мо, апошні, паслужыць Польшчы.

Лукаш, ложнічы, хоць і даўні сябра і адначарачнік, тым не меней на гэты раз ледзьве дазволіў Станьчыку ўтачыцца ў каралеўскую апачывальню, баяўся Радзівілаў. Ну вядома, не ложнічаму, няхай і каралеўскаму, станавіцца насуперак іх волі ў Літве. Усё ж Станьчык яго ўлашчыў. І няхай за ўмельства ўтачыцца ў любую шчыліну пан Рэй назваў каралеўскага смехача блыхой у кароне, з вуснаў такога майстра прыгожага слова гэта хутчэй ухвала, чымся кпін. Як і слынны зямляк-паэт, Станьчык цешыў сябе не аднойчы ў гадзіну тугі, што служыць не нейкім там можнаўладцам, а Радзіме. О, Польшча любая, ты як паветра!

У спальні стаяла халадэча, хоць учора ўвечары і палілі ў печах, але палілі паспешліва, са спазненнем, бо дварэцкі з раніцы меркаваў, што яго вялікасць застанецца начаваць у Радзівілаў, ажно не. А цяпер паліць не пачыналі, каб

не патрывожыць усё яшчэ спачываўшага караля. Але яго вялікасці, відаць, холад не назаляў – балдахін над вялізным ложкам быў рассунуты. Добра, значыць, грэла яго вялікасць дзябёлая русінка, у замшэлага Станьчыка і то нешта слодычна напружылася ў чрэслах, калі яе ўгледзеў, і можна ўявіць, як ноччу каля яе завіхаўся ўвогуле прагны да жаноцкага мяса найяснейшы гаспадар. Можна меркаваць, няблага пагрэўся, таму і балдахін у такім выглядзе, і стары смяхач можа назіраць, як кароль спрабуе разляпіць набрынялыя ліловыя павекі.

А наложніца прачнулася зусім, толькі робіць выгляд, што дрэмле. Ага: цішком не-не ды і зіркне ясным вочкам на яго вялікасць, гатовая аднавіць салодкія начныя ўцехі, вунь ружовыя цыцкі старчаком і сцёгны напружыліся – тая яшчэ кабылка. Станьчык міжволі зноў дакрануўся далоняй да сваіх чрэслаў, нешта там ажыло, быццам ён скінуў з сябе тузіны са два гадкоў, памаладзеў.

Спакусную наложніцу здабыў яго вялікасці пан Ленцкі, што і казаць. Увішней па гэтай частцы хіба пан Мнішак, але той звычайна слугаваў зводнікам каралеўскім у Кракаве. Хаця пры патрэбе мог абслужыць яго вялікасць у любым месцы дзяржавы нямалай. І канечне, неперераўзыдзеным подзвігам пана Мнішка было тое, як хітра ён змог у свой час здабыць каралю ажно з манастырскага замка бернардзінак найяснейшую Барбару Гальштольдаву з магутнага рода некаранаваных валадароў ці не ўсяго Вялікага Княства Радзівілаў, што б там астатнія тутэйшыя магнаты пра сябе не мроілі. О, гэты ліс Мнішак! Атрымаў каралеўскі заказ – і дарэмна асцярожлівыя браты запраторылі сястру за высокія муры святога прытулку, каб запыніць хцівую ўвагу да яе Жыгімонта Аўгуста, дай божа, яму здароўя на многае лета. А каб яго вялікасць не аказаўся настолькі закаханым і не адважыўся насуперак усяму магнацтву ўзяць шлюб з Барбарай? Мнішак у такім выпадку адназначна б галавы не знасіў, тырчэла б на ражне перад варотамі радзівілаўскага замка. А так – вось ужо і найяснейшая Барбара цешыцца райскай музыкай на нябёсах, а гуляка і каралеўскі зводнік параненйшаму ў вялікім фаворы нават у Радзівілаў. О, гэтыя Радзівілы! Хай бы іх нячыстая сіла ўхапіла.

Кароль з цікавасцю назіраў за старым смехачом: не паленаваўся ж прыцягнуцца з Кракава, хоць яго ўжо ніхто не клікаў. Зусім замшэлы пянёк, падумаў Жыгімонт Аўгуст са шкадаваннем, бо памятаў Станьчыка ого якім увішным і з’едлівым пралазаю. Ды сядзеў бы ўжо дома ля печы і жартаваў са слугамі і суседзямі, калі за доўгае жыццё не надакучыла скамарошнічаць. Падумаў пра пяшчоту агню ў добрым каміне, бо адчуў, як патыхае ад акна нейкім чужым сырым холадам. Панесла ж яго нялёгкая зноў у Вільню. У Польшчы, здаецца, зімні холад не такі пранізлівы. Адно добра – ласкавая цеплыня струменілася ад наложніцы. Ды што ж, кабылку трэба адпускаць, хоць яна яму спадабалася, Ленцкі не хлусіў, калі абяцаў нешта асаблівае. Вядома, перабольшваў, але гэта ўжо якасць любога прыдворнага. Русінкі ўвогуле вельмі прывабныя. Дарэмна яму ўводзіць у вушы Мнішак, што лепей палячкі. Але найпекнейшай звабы, чымся была мілая горліца Барбара, Усявышні, відаць, і стварыць болей не здолеў ці не захацеў і паспяшаўся ўзяць яе да сябе ў сад райскі. Яго воля, што тут пярэчыць, толькі ж навошта было галубку так мучыць перад сконам? Нават дзяржаўным валадарам не спасцігнуць ісціннага сэнсу ўчынкаў гасподніх, і не верылася, што такое даступна царкоўным служкам, у якім бы чыне не былі.

О, Барбара! Як жыць без цябе і навошта? На Жыгімонта Аўгуста зноў

навальвалася невыносная туга па нябожчыцы жонцы, яна пачалася яшчэ там, у Польшчы, думалася, лягчэй стане ў Вільні, і ён загадаў ехаць, а не толькі таму, што трэба дамаўляцца з тутэйшымі магнатамі пра вальны сейм. І вось замест таго, каб адразу наведаць грабніцу Барбары, ён ужо трое сутак не вылазячы амаль з-за стала цешыцца п'янкамі з яе братамі, і тыя нечага хочуць, ён скурай адчувае, ад яго дамагчыся. А туга не праходзіла, і тут Ленцкі, няйначай зноў жа падасланы Радзівіламі. Але ўслужыў, нічога не скажаш кепскага, услужыў.

Жыгімонт Аўгуст пагладзіў наложніцу, і яму прыемна было адчуць, як тая чулліва напружвалася пад яго далоняй, імкнула бліжэй-бліжэй, наліваючыся вабнай пяшчотай, саладзейшай за якую нічога на свеце няма, і гаспадарскае ўладарства перад гэтым другаснае, хацеў жа ён калісьці нават скласці з сябе вялікакняскае званне, калі яно перашкода, каб узяць шлюб з Барбарай. І няхай нават гэта было чыёсьці чараванне, як яму нашэптвалі, дзяржаўная ўлада і блізка ніколі не давала яму такога задавальнення-асалоды, як уцехі з Барбарай.

Калі зусім шчыра перад сабой, ён і на гэты раз ахвотна з'ехаў з Польшчы ў Вільню не толькі таму, што вымагалі пільныя дзяржаўныя справы. Думалася, мужчынская слабасць міне, калі апынуцца падалей ад каралевы, адзін напамін пра якую выклікаў, здаецца, гэтае злавеснае імпатэнта. Напачатку, у першыя заезды ў Вільню так і атрымлівалася: тут, абдымаючы ў змроку чарговую наложніцу, уяўляў: Барбара, яшчэ тая, далёкая, маладзенькая, кветка вясновая, толькі што з манастыра, амаль нявеста Хрыстова. Але гэтай ноччу ці таму, што надоечы надта перабраў мальвазіі і рэнскага, ці па іншай прычыне... згадваць не хочацца, таму Станьчык са сваімі блазенскімі выбрыкамі не весяліў, а раздражняў.

Толькі каралеўскі блазан мог гэтак аглядаць наложніцу яго вялікасці ды яшчэ й запытацца:

– Прызнайся, бы на споведзі, яго міласць здолеў табе дагадзіць, бо не заўсёды ж дагаджаць толькі яму?

Панна зіркнула на насцярожанага і занепакоенага караля і сказала тое, што ён так хацеў пачуць:

– О, яшчэ як!

Жыгімонт Аўгуст запляскаў у далоні, засмяяўся, пацалаваў наложніцы тугія грудзі, зняў са свайго пальца важкі пярсцёнак і паклаў ёй у далонь.

– А цяпер ступай, – прамовіў ціха, як мага ласкавей, але з прыхаванай журботнасцю.

– Я не дагадзіла? – у позірку наложніцы шырыўся адчай.

– Ты сама слодыч, мёд з малаком, – Жыгімонт Аўгуст зноў пацалаваў наложніцу, у лоб.

– О, твая міласць! – наложніца схапіла і пацалавала каралеўскую руку. – Ты самы лепшы на белым свеце, – на вачах наложніцы дыяментамі бліснулі слёзы. – Ты самы-самы... – Жанчына похапкам апранулася і ценем мільганула міма скурчанага старога скамароха.

– Скажы там, каб неслі гарачае віно, – нягучна сказаў ёй услед Жыгімонт Аўгуст, і быў пачуты.

Кароль па-дзіцячаму працёр далонямі вочы і з лёгкім пасміхам зірнуў на Станьчыка.

– Сядзіш скурчыўшыся і калоцішся. Нехта ў Вільні асмеліўся напалохаць нашага найсмялейшага блазна?

– Холад напалохаў, – Станьчык пацёр пасінелыя пальцы. – Дзіўлюся:

няўжо ў Вільні так кепска з дрывамі, што не змаглі нагрэць як мае быць хаця б каралеўскую апачывальню?

– О, я толькі зараз адчуў, што сапраўды холадна, – кароль перасмыкнуў плячыма і слізгануў пад мехавую коўдру. – Дзе там віно?

– Яго вялікасць, відаць, і без каміна няблага грэлі, калі так, – Станьчык пацёр рукі. – Але ж цана! Хапіла б дзвюх – ад сілы трох залатовак, пярсцёнак ваяводы за баявыя заслугі не заўсёды ўхопяць.

– Скамарох, ведай каму гаворыш! – заславаў кароль. – Ваяводам даюцца вёскі і староствы, і ўвогуле, я ж не маскоўскі жывадзёр, які нават уласных жонак знішчаць загадвае, калі надакучаць, не кажучы пра наложніц.

– Залатоўка з рук самога караля – ого якая міласць, – не здаўся Станьчык. – Ці многа іх яшчэ звініць у сундуках на Вавелі.

– Вось гэта ўжо зусім не клопат нашага блазна, – Жыгімонт Аўгуст гэтак жа адтапырыў ніжнюю губу, як некалі рабіў ягоны бацька-нябожчык, калі быў нечым незадаволены.

– Ага, ну дык адгадай, твая міласць, загадку, якую я пачуў учора. Якраз тады, калі стралялі гэтыя новыя гарматы канцлера, а панства ў каторы раз піло за здароўе тваёй каралеўскай міласці, – Станьчык з гжэчным вывертам пакланіўся, правай рукой прытрымліваючы сваю пярэстую двурогую шапку са званочкамі.

– Пачакаў бы са сваёй блазенскай загадкай, пакуль не прынясуць віна, – адмахнуўся кароль. – А лепей да вечара.

Станьчык развёў рукамі, смешна-пакорліва пакланіўся, дзынкнуўшы званочкамі:

– Гэтак заўсёды, калі самы дурны дурань абодвух народаў асмельваецца нешта сказаць іх каралеўскім і вялікакняскім вялікасцям. У лепшым выпадку загадаюць чакаць да вечара.

– Не ў маіх правілах нешта загадваць дурням, – кароль шчыльней загарнуўся ў коўдру і сеў, ужо зусім пазбавіўшыся санлівасці.

Цяпер самы раз, вырашыў Станьчык і зноў з грымасай смяшлівасці пакланіўся.

– Усё ж адгадай, твая міласць, пакуль тое віно, – Станьчык прыжмурыў спачатку адно вока, потым другое, – каторы з князёў-рымлянаў, памяняўшы веру, не сёння-заўтра абвесціць сябе каралём Літвы-Русі з Жэмайцю ў дадатак, а цябе па-сяброўску ласкава запросіць на каранацыю?

Жыгімонт Аўгуст ад нечаканасці ўтаропіўся ўважлівым позіркам на старога пляткара, потым страсянуў галавой, бы ўгледзеўшы нейкі прывід, і не надта каб весела засмяяўся.

– Вось, твая каралеўская міласць смяецца, – зажурыўся Станьчык.

– Як жа не смяяцца, калі мне гэткае кажа наш галоўны блазан ды ажно з раніцы, нашча? – кароль зноў засмяяўся.

– Але ж, твая каралеўская міласць, я зусім не жартам, – Станьчык быў амаль у роспачы.

– А калі не жартам, – нахмурыўся Жыгімонт Аўгуст, – то я загадаю табе неадкладна вяртацца ў Польшчу.

Звонку ў дзверы стукнулі тройчы. Следам на парозе з'явіўся заклапочаны Лукаш Ленцкі, ложнічы, а за ім пан Дарагастайскі, стольнік, які і абвесціў:

– Віно яго міласці вялікаму князю і каралю!

Дарагастайскі прапусціў наперад слугу, той абедзвюма рукамі ўрачыста трымаў перад сабой срэбраны паднос, дзе ўзвышаўся срэбраны ж гарлачык,

ад якога патыхала цяплом і салодкім водарам мальвазіі, і зіхацела пустая чарка чырвонага золата з каралеўскім вензелем на баку.

– Віно яго міласці вялікаму князю і каралю! – цяпер гэтак жа ўрачыста абвесціў крайчы, як мага пачцівей кланяючыся ў бок Жыгімонта Аўгуста, які зацікаўлена назіраў за набліжэннем срэбнага падноса.

Станьчык далікатна выслізнуў вон, ледзьве пазбегшы сутыкнення з каралеўскім цырульнікам Лукашом Вольфам, – той несумненна прыслухоўваўся да галасоў у апачывальні.

Каля каміна, з пашчы якога весела шугала полымя, стаяў пан Масальскі, побач двое дваранаў аховы, за імі кухар і яшчэ нехта з пакаёвай абслугі, во колькі спатрэбілася народу, каб кароль змог раніцай сагрэцца чаркай-другой мальвазіі, звычна-з'едліва адзначыў пра сябе Станьчык, прыкідваючы, дзе б самому пажывіцца кубачкам калі ўжо не мальвазіі, дык медавухі. Ды каб кавалак смажаніны.

Доўгі нос скамароха даволі хутка вызначыў напрамак да кухні, з таго боку цягнула пахам смажанай рыбы. Станьчык аднаго не разабраў – карп гэта, сцерлядзь ці што іншае, а лепей бы лешч, засмажаны на свежай вяпрыне, учора ж кароль быў з Радзівіламі на паляванні, а здабычу прывезлі на трох санях.

Тут Станьчык зноў успомніў пра сваю загадку каралю і пра тое, як іншым разам менавіта ў часе паляванняў вырашаліся найважнейшыя дзяржаўныя справы, у тым ліку каму сядзець на прастоле бліжэйшым часам і ў будучыні. Эх, такі Усявышні даў яму нямалы век, даўно ўжо ён і стаміўся высочваць не заўсёды забаўныя хітрыкі вышэйшага панства, агучваючы ўсё так, каб выглядала смешна. А не насмяшыў адзін раз, другі – і развітвайся з пасадай самага дурнаватага дурня дзяржавы, адпраўляйся назаўжды ў вёску паміраць, як у падобных выпадках казалі ў даўнім Рыме: eo rus! Што ж, скон ужо, мабыць, недалёка, чуў, чуў, як за спінай, асабліва па начах, мярзотна хіхікала Кашчавая, але ад гэтага агортваў адно сум, а не страх, усё-ткі па натуры ён, Станьчык быў ваяром і з ваярскага роду, рыцар, хоць яго зброяй быў ужо не меч, як у продка, а смех, але такі, якога страшыліся і самыя загартаваныя ў баях віцязі і ваяводы, такім трэба і застацца ў памяці суродзічаў.

Пах смажанай рыбы станавіўся ўсё гусцейшым, значыць, нос яго не падводзіць, кухня блізка, а ў дадатак да гарачай смажаніны калі ўжо не медавуха, то добры кубак бражкі для старога смехача там знойдуць, не кранаць жа запас уласнага вінца, прывезенага з Кракава, мабыць, яшчэ спатрэбіцца ў бліжэйшай будучыні для якой далікатнай справы, прыкладам, пагутарыць з тутэйшымі пісарчукамі.

## 3. Рыбацкае шчасце

Да вабных пахаў з кухні прынюхваліся і княскі рыбар Мацей па мянушцы Зызь з сынам Косцем, вячэралі яны кіслай капустай з лустай хлеба і печанай рэпай, а ўжо на досвітку, да ўзыходу сонца мадзелі на рацэ, над загадзя высечанымі ў тоўстым лёдзе прадухамі, молячыся ўсім багам, каб каторы дапамог здабыць тое, чаго пажадаў нібыта сам князь – сома. Стары Зызь ведаў запаветную мясцінку, але князя вадзяннога віра ўпаляваў не сам, удача дасталася маладому, Косцю. Той ледзь не ўпусціў чорна-бліскучае страшыдла, тлумачыў потым – спалохаўся, падумаў: сам вадзянік яму паказаўся, але ж, схамянуўшыся, садануў-такі астрогай у вусатую галавішчу, нема залямантаваўшы: “Бацька! Бацька!”

Удвох ледзь выцягнулі з прадухі вадзяное дзіва, і толькі тады канчаткова асэнсавалі: сом!

Маршалак княскай кухні асабіста назіраў, як сома ўзважвалі, аказалася – пуд і шэсць фунтаў. Будзе чым падзівіць яго міласці князю госця – самога караля. Сома засмажвалі асаблівым чынам, цалкам, а ў сталовую залу ўнясуць на адмысловых насілках чатыры кухаронкі ў белых каўпаках, напакаванага смажаным гусем з яблыкамі і тушанай зайчацінай з грыбамі, як было пажадана яго міласці князю.

Рыбар жа, атрымаўшы за здабычу колькі пенязяў, сядзеў з сынам ля ўвахода ў кухannae царства, умільна паглядаючы то на прасторныя нізкія печы, каля якіх завіхаліся спацелыя кухары, то на маладзіц, што спрытна мылі і патрашылі рыбін паменей, шчупакоў, сцерлядзь, у той час як кухаронак вымаў з вялікага кошыка і раскладваў на блюды прынесенае з цяпліцы пахучае зяленіва.

Зызь паважна апавядаў, як рыба хораша гуляе ў затоках улетку, калі толькі-толькі апусціцца за небакрай, за лес сонца, і становіцца наўкола так вусцішна, што чуваць бомканне званоў у Троках.

– Язёк ці плотка якая выскачыць на паверхню за камаром – чуваць толькі: плясь! – і пайшлі па вадзе ціхія колцы-зморшчынкі. А ўжо калі сам гаспадар, калі сом хвастом ці тулавам бабухне, такая хваля шугане, толькі трымайся.

Зызь памацаў схаваныя ў шапку пенязі, заўсміхаўся ўспаміну.

– Адноечы, – працягваў ён няторапка, – як даў мне сом у човен, дык той – гульк і дном дагары.

Маладухі весела ўзнялі галовы, засмяяліся.

– А ты, дзядзька, куды падзеўся? – смеючыся, спытала ўвішная чарняўка з татарскім разрэзам карых вачэй.

– Куды падзеўся? – Зызь аглядзеў каторы раз ладны стан чарнаўкі, які вабна калыхаўся ад смеху. – А да сома ў госці.

– Авой, божачка! – весяліліся маладухі.

Кухаронак таксама заўсміхаўся і ўжо намерыўся нешта ўставіць сваё, ды тут з глыбінных пакояў першага паверха палаца з'явіўся сам княскі крайчы, пагрозліва павёў вусамі па баках, і ўсе на кухні старанна замітусіліся, сціхлі, а чарняўка паказала рыбарам на дзверы:

– Сагрэліся? Ідзіце, староннім у нас нельга.

Сын першым падаўся вонкі, Зызь без паклона следам. Адчуў, як нешта цвёрдае торкнулася ў далонь, на вуліцы зірнуў – ладны акраец хлеба. Чарняўка адшкадавала. А ён ужо думаў, пашанцуе сагрэцца кавалкам гарачай вяпрынай трыбухі, прыкмеціў – варылася ў вялікім медным катле, відаць, для слуг, наўрад ці ўжываюць такое самі паны.

Надзелі шапкі. Зызь падзяліў хлеб з сынам, пасля кухні есці хацелася асабліва.

– Толькі не спяшайся, еш памалу, – Зызь уздыхнуў, – сытней будзе, кажу.

У ноздры ўпіўся мароз. Пах рыбы з бліжніх саней быў яшчэ моцны, некалькі сабак, адштурхоўваючы адна адну, старанна вылізвалі рыбіну кроў і луску на суседніх санях, таксама рыбацкіх, з адмысловым корабам, возчыкаў холад разагнаў куды каго, у асноўным на блізкую стайню.

“Накалеліся сёння, не прывядзі гасподзь”, – з палёгкаю ўздыхнуў Зызь, назіраючы, як сын моцнымі маладымі зубамі заўзята распраўляецца з чарстваватым хлебам. Зызь не адчуваў зараз аніякай радасці, што менавіта

яны з сынам здабылі рыбіну, якую асабліва жадаў мець яго міласць князь. Дзякаваць богу, што ўдалося, а то ўсім бы рыбарам зараз, хутчэй за ўсё, давялося гібець на рацэ – не было выпадку, каб загад пана не выконваўся. Хоць іншай рыбы і налавілі – на два вазы.

– І жаруць жа паны! – сказаў сын тое, пра што Зызь толькі падумаў. – Каб усе людзі столькі з'ядалі, мабыць, і вераб'ёў давялося б лавіць, як пазалетась, у галодны час.

Сын хіхікнуў і выцер рукавом соплі.

– Цыц! – рэзка прамовіў Зызь і азірнуўся на стайні, куды глядзеў сын. Там на яшчэ дымных грудках конскіх катыхоў заўзята карміліся дзве чародкі вераб'ёў, адна пасярод двара, другая – каля самай канюшні, дзе гігаталі і сыта фыркалі магутныя стаеннікі, якіх агладжвалі-чысцілі машталеры.

Коней аглядаў ажно сам канюшы літоўскі пан Ваўчок Юравіч. Зызю некалькі разоў даводзілася бачыць гэтага грознага пана, але ён, канечне, не ведаў, чаму такая важная асоба сама займаецца справай, якую звычайна выконваў старшы страмянны. А справа была ў тым, што ўчора яго міласць паабяцаў новую забаву ў гонар вялікага князя і караля – паляванне на аленя. Не ўдакладніўшы, праўда, што забава адбудзецца ў агароджаным прыгарадным лесе, менаваным у германскіх землях парквальд, папярэдне ачышчаным ад усялякага ламачча. Каня высокаму госцю падбіралі адпаведнага, гэтым якраз і быў заклапочаны ажно сам літоўскі канюшы, бо ведалі даўно, які вершнік з яго міласці Жыгімонта Аўгуста. Яно і сам дзяржаўны валадар на гэты конт быў даволі самакрытычны, але каб разам і падтрымаць свае мужчынскія якасці, заўважаў са смехам з той мерай шчырасці, на якую здольныя толькі каралі, ды і то нямногія:

– Што і казаць, на кані я сапраўды не Васіль Рагоза і нават не Гарабурда, але ж у пасцелі я, па боскай міласці, як кажа наш Станьчык, годны нашчадак Ягелонаў.

Панства смяялася. Далікатна: ці мала што мог сам пра сябе сказаць гаспадар дзяржавы, а вось пра яго самога калі нехта не надта ласкавае і балбатаў, то не для старонніх вушэй.

Хоць, калі ўжо на тое, па частцы джыгітавання з жанчынамі ў пасцелі кожны з панства стараўся не адставаць ад свайго гасудара, і, як казаў у асяродку блізкіх найяснейшы Ян Еранімавіч Хадкевіч, за бабскім падолам літоўскае і польскае рыцарства скача куды ўвішней і смялей, чымся за маскоўцам і туркам. "За чаркай тако ж, – дадаваў ягоны стрый Грыгор Ляксандравіч. – Ды каб тая чарка з конскую цыбарку".

Пан Жэмайцкі і маршалак земскі з-за сваёй гарачнасці калі і перабольшваў, то не надта. А вось яго міласць Жыгімонт Аўгуст апошнім часам ужываў рэнскага і мальвазіі значна меней, чымся ў маладосці, у спаборніцтва ж шляхецкае хто каго перап'е ніколі не ўступаў, памятаючы запавет бацькі: гэта не па чыну гасудару. Тым не меней, падчас гасцявання ў канцлера Вялікага Княства, князя Рымскай Імперыі германскай нацыі і свайго сябра Мікалая Радзівіла па мянушцы Чорны пад заздраўныя тосты і гарматныя салюты незаўважна для сябе ці не паўтузін кубкаў такі асушыў. На чацвёрты ж дзень запрасіў літоўскае панства:

– Цяпер усе да мяне!

Паколькі радзівілаўскі палац з той пары, калі была патрэба без лішніх сведкаў сустракацца з Барбарай, так і заставаўся злучаны адмысловай галерэяй з каралеўскім, чэлядзі не склала асаблівых высілкаў, каб перасяліць рыцарства за гаспадарскія сталы.

Заздравіцы пачаліся наноў, аглушальна ў садзе гахалі гарматы, пад што добра п'ецца не толькі рэнскае, але і медавуха. Ну і тое новае зелле, якое неўзабаве нядобрым словам мусіў успомніць і згаданы ўжо старшы пісар каралеўскай канцылярыі Міхал Гарабурда. Вось тады яго вялікасць дабавіў-такі. Ніхто не лічыў, крый божа! колькі, але шмат хто заўважыў, з якімі высілкамі рабіў вясёлы выгляд Станьчык, пільнуючы караля. Словам, справа далікатная, лепей пакінем Вольфу меркаваць, чаму Жыгімонт Аўгуст, угледзеўшы побач сябе на ложку Артэміду літоўскую, і на Страшным Судзе не змог бы цвёрда адказаць, няхай бы яму за тое пагражалі пеклам, ці атрымалася ў яго годнае каралеўскаму статусу чароўнае паляванне.

А пачалося гэта з часу, калі па волі польскіх магнатаў яму паклалі ў ложак чарговую прынцэсу-аўстрыячку. Яго ад брыдоты скруціла такая немач, што лекар мармытнуў на лаціне: "Miserare impatenta". Старая каралева, найяснейшая Бона тады спалохана перапытала: імпатэнт? Бо гэта азначала б – сын не зможа мець нашчадка, некаму будзе перадаць карону па спадчыне, перапыняецца такі магутны і таленавіты род! І вось, здавалася б, радавацца, што ў яго ложку такая зваба, толькі ж упэўненасці ў сабе, мужчынскай радасці, даступнай любому здароваму простаму мужчыну, не адчуваў.

Жыгімонт Аўгуст зірнуў на пальцы сваіх рук: усяго адзін пярсцёнак! Той, які дарыць ужо нельга, калі не расставацца з дзяржаўнай уладай, – яго асабістая каралеўская пячатка, сыгнет. Але ён не шкадаваў, што шчодра адарыў гэтую літвінку (ці русінку?), яна ўсё ж натхніла яго.

Водар выдатнага гарачага віна нарэшце пераключыў каралеўскія думкі на дзяржаўныя клопаты: ці запрашаць на паляванне французскага пасла?.. Аднак іх перапыніла паведамленне ложнічага:

– Ваша каралеўская міласць, ванна гатова!

– Цудоўна! – кароль пляснуў у далоні. – Дзе мой цёплы халат?

## 4. Першы заступ – не пройгрыш

Такім было абуджэнне Жыгімонта Аўгуста ў стольнай Вільні ў чацвертую сераду студзеня, або, скарыстаўшы каляндарныя вызначэнні суайчыннікаў яго маці Боны з выдатнага італійскага роду Сфорца, – януарыя, названага так у гонар яшчэ язычніцкага бога Януса, а року 1557-га. Насельнікамі ж Вялікага Княства яшчэ не забываўся здавён устаноўлены звычай, да таго, як землі займелі назву нарманскую Русь, жыццё чалавечае адмерваць ад лета да лета, ад хлеба да хлеба, з чым пагадзіліся і апосталы хрысціянскія, старцы кіева-пячэрскія, дабраславіўшы інака Нестара пісьмова засведчыць найважнейшыя дзеі тутэйшыя ў "Аповесці мінулых гадоў". А значыць – лета 1557-га. На Маскве манахі і дзякі вялікакняскія гэтак пісаць і працягвалі, аднак у Вільні, а значыць, паўсюдна ў дзяржаве паяднаных усходнеславянскіх плямён, чыёй сталіцай гэтае месца аказалася, к таму часу, калі пісарам стаў Міхал Гарабурда, прымянялася ўжо іншая назва летазлічэння – рок, і ў слове гэтым чулася нешта няўмольнае, бязлітаснасць часу, аднолькава да ўсіх, да слуг і іх магутнаўладных гаспадароў. І нямала разоў Зямля адкружыла сваё вакол Сонца, пра што першым на шкоду сабе адважыўся абвесціць сучаснік Гарабурды слаўны кракаўскі астраном Капернік, пакуль гэты рок не быў заменены на ўтульнае, добрае на славянскі слых слова "год". Гарабурда ж, рыхтуючы дзяржаўныя паперы – указы, прывілеі, звароты гаспадарскія на подпіс яго вялікасці Жыгімонта Аўгуста, яшчэ пазначаў іх так: року 1557-га. Рок!...

Паперы, якіх нехта гэтак чакаў, ад якіх залежалі нечы дабрабыт, а то і жыццё, былі цалкам гатовыя, двойчы вычытаныя і дадаткова праверaныя панам Валовічам, заставалася чакаць аднаго – што пажадае яго вялікасць рабіць сёння, як вып'е гаючы кубак гарачага віна, нашча, згодна з парадай свайго лекара, і ці з'явіцца ў яго настрой займацца нарэшце неадкладнымі дзяржаўнымі справамі пасля мыцця ў карыце, называным на рымскі манер ваннай.

У прыёмнай зале віленскага каралеўскага Палаца Абуджэння і Волі Жыгімонта Аўгуста чакала нямала вяльможнага люду. Гарабурда асабліва адзначыў пасла французскага караля, затым – малодшага брата лівонскага магістра Фюрстэнберга, а яшчэ – бадзёрага прэлата папы Рымскага, да якога праваслаўны Гарабурда адчуваў асаблівую насцярожанасць. Да француза ён ставіўся абыякава, а вось Фюрстэнбергу спачуваў, ведаючы, якая ліхая нагода прымусіла таго цягнуцца ўзімку з утульнага Мальбарка.

Ад папіста Вялікаму Княству нічога добрага чакаць не даводзілася: хутчэй за ўсё, спробу ўцягнуць у вайну супраць турак, у той час як хаця б з поўдня цяпер так патрэбна мець бяспеку, няхай і хісткую, бо ад звестак, здабытых панам Філонам Кмітою з Масковіі (а вось жа, амаль тыдзень ужо рыцар маркоціцца ў Вільні, чакаючы, пакуль запросяць на даклад паны-рада, ці на рымскі манер – сенатары), працінаюць дрыжыкі. Чаго прыпёрся ў Вільню папскі прэлат? Сядзеў бы, чакаў свайго ў Кракаве. Нешта ж паганае, значыць, рыхтуецца для Вялікага Княства. Тое, што пачалося з часу, калі Рымскі Папа дабраславіў на святы подзвіг новы ордэн – Езуса, езуітаў, як іх называюць па-простаму, які ўзначаліў, па чутках, нядаўні салдат-грабежнік Лаёла. Мала нарабілі (і робяць!) інквізітары, святыя суддзі-дазнавальнікі, цяпер яшчэ езуіты. Кажуць, у Іспаніі сябе ўжо ого як паказалі.

– Маці боская, – уздыхнуў прэлат, разам з французам уважліва каторы раз разглядаючы яскравыя сведчанні каралеўскіх паляўнічых здабыткаў, развешаныя на абшытых цёмным дубам сценах, – бывала, да Жыгімонта Старога, царства яму нябеснае, мяне дастаўлялі неадкладна, нават калі яго вялікасць бавіўся на паляванні, а цяпер я сам на старасці, нібы паляўнічы, пільную магчымасць перадаць архітэрміновае пасланне святога айца. Чулі, што туркі вытвараюць пад Косавам?

– Нахабства Асманаў трэба нарэшце рашуча пакараць, – кіўнуў француз. – У Парыжы вітаюць захады святога прастола. Аб'яднаць для супрацьву ўсе хрысціянскія краіны Еўропы нехта павінен тэрмінова. Як заўважыў мой зямляк Мантэнь крыху з іншай нагоды, нават для таго, каб гадзіннік на ратушы ў Венсэне паказваў адно з гадзіннікам у Парыжы, патрэбен хоць нягегленькі, а кароль, так і ў справе з туркамі. Але што сабе думае тутэйшы гасудар?!

У каралеўскай прыёмнай набралася народу, сярод якога рэдка хто ведаў хоць крыху мову старажытнага Рыма, да таго ж суразмоўцы абменьваліся думкамі амаль шэптам, аднак Станьчык, сноўдаючы ад адной купкі панства да другой, нейкім чынам умудраўся чуць усіх, старасць з'ядала яго зрок і жвавасць, але не слых і востры розум.

– Ходзяць чуткі, што дукаты, якія пазычыла нябожчыца каралева Бона свайму родзічу неапалітанскаму каралю, – француз памацаў на сцяне сякеру Міндоўга, – недзе каля паўмільёна дукатаў, з боскай дапамогай апынуліся ў банку святога прастола.

– Нам гэта невядома, – прэлат уважліва сачыў за рукамі француза.

– Ці мог бы святы прастол дапамагчы неапалітанцам сабраць дастатковы флот для крыжовага пахода супраць Асманаў?

– Жалобы варта...

Паслу Рымскага Папы не ўдалося паведаміць французу, з якой нагоды гэтая жалоба: ці таму, што святлейшая Бона неабачліва пазычыла гэтулькі золата сваім прагным родзічам не толькі ў Неапалітаніі, але і Іспаніі, а цяпер Жыгімонт Аўгуст каторы раз просіць святы прастол дапамагчы хоць частку пазычанага вярнуць у казну Рэчы Паспалітай, ці па прычыне дурасці суседзяў Турцыі, якія замест рашучага аб'ядананага адпору Асманам, паасобку плоцяць ім вялікую даніну.

Не ўдалося таму, што да яго прычыкіляў Станьчык і, апырскваючы слінай, залапатаў на такой мярзотнай лаціне, што ад яе вучонага прэлата перакрывіла не горш за каралеўскага скамароха:

– Вось вы цяпер смуткуеце і плачаце, але вы яшчэ атрымаеце магчымасць пасмяяцца.

Што, вядома ж, трэба было разумець зусім наадварот, у гэтых блазнаў заўсёды ўсё, можна сказаць, дагары нагамі. Прыкладам, аднойчы, калі каралева Бона, раззлаваўшыся на чарговую нахабную балбатню Станьчыка, загадала яму больш у яе пакоі ні нагой, той у хуткім часе ўвайшоў на руках і сказануў не меней дзёрскае. А ўвогуле, як заўважыў паэт Мікола Рэй, у Станьчыка пад дурацкім каўпаком прыхаваныя паганскія рожкі, нездарма ён з мазуроў, якія, падобна палачанам на Русі, гэтак працягла не давалі сябе ахрысціць, а калі ўрэшце патрапілі пад крыж, то аказалася – візантыйскі, а гэта ж па суседству з туркамі.

Дарэчы, нямала хто з панства дзівіўся, калі ў свой час Станьчыка выпрасіў сабе ў бацькі малады яшчэ каралевіч, і гэта пасля таго, як блазан дзёрзка яго абсмяяў.

– Ты, куманёк, дарэмна пастараўся, – заўважыў свайму новаму маладому гаспадару скамарох, – гэта разумнаму можна заткнуць рот, кінуўшы аб'едкі з панскага стала.

– Толькі паспрабуй мне стаць разумным! – пагразіў Жыгімонт Аўгуст. – І замест каралеўскіх пакояў я адпраўлю цябе на псарню падручным загоншчыка.

– Ого! – узрадаваўся Станьчык. – Сапраўды варта пастарацца. У цябе ганчакі тлусцейшыя за кухараў, дык што казаць пра псароў, харчуюцца добра, а палююць хіба на пакаёвак, забыліся, як і лес выглядае.

Жыгімонт Аўгуст толькі пасмяяўся, хоць Станьчык жартаваў дзёрзка, не справа блазна разважаць, калі і ў якім месцы займацца паляваннем яго маладому гаспадару.

Шкада, што па натуры я не дыктатар, – не аднойчы думаў Жыгімонт Аўгуст. А ўслых прамовіў, калі маці, каралева Бона, уздумаўшы перабірацца ў Італію, забрала столькі золата і розных каштоўнасцей, што ледзьве ўмясціліся на двух дзесятках вазоў. Сам каронны гетман Тарноўскі раіў прапусціць праз мяжу вазоў няхай ужо з дзясятак, і то, пільна агледзеўшы. Кароль не адважыўся, усё ж маці. Тады ён яшчэ не чытаў Макіявелі.

А хоць бы і чытаў, падумаў бы: урэшце ўсё залежыць ад натуры і выхавання ў дзяцінстве, у сталасці перарабляць сябе складана, не кожнаму па сілах. А ён надта доўга не асэнсоўваў сябе дзяржаўным уладаром. Хоць тым жа вялікім князем, а значыць паўнапраўным вярхоўным кіраўніком Літвы, Русі і Жамойці быў абвешчаны па вышэйшых палітычных меркаваннях бацькоў васьмі гадоў ад нараджэння, калі яшчэ толькі вучыўся задзіраць

спадніцы прыдворных паненак сваёй маці, а тая пасмейвалася з гэткіх ранніх залётаў любага сына. З другога боку, у Масковіі Іаан Васільевіч таксама ж змалку абвешчаны вялікім князем, паміж тым, як усім запраўляла яго маці з каханкам, а цяпер што вытварае – жах.

Вось жа, магутны, багаты, прыгожы, жанчыны ажно млеюць, на яго дзівячыся, толькі працягні руку – ніводная не заўпарціцца, а няшчасны, – думаў пра свайго вярхоўнага гаспадара ягоны старшы пісар Міхал Гарабурда, каторы раз выціраючы пот на крутым ілбе, хоць у пакоі, дзе ён уладкаваўся з пісарчуком падскарбія Вайтулем згуляць у шахматы, стаяла сырая прахалода. Выціраў і стараўся засяродзіць позірк на шахматнай дошцы, яна пагойдвалася туды-сюды, уверх-уніз, бы на хвалях. Звычайна падчас гульні ў шахі ў Гарабурды ў думках усталёўваўся асаблівы парадак, праяснялася галава для вырашэння дзяржаўных спраў, якія яму ўсё часцей даручаў ягамосць Валовіч, а то і сам вялікі канцлер, толькі не сёння. Пан Валовіч як у ваду глядзеў, хоць папярэджваў нібыта жартам: “Бойся кальвініста, старанна хрысціся, убачыўшы, а то патрапіш у цянёты нячысціка”. А калі гэта не нейкі там местачковец Сымон Будны, а Сам? Наймагутнейшы і найслаўнейшы. Пан Міхал Радзівіл Чорны, найвышэйшы канцлер Вялікага Княства, набліжаная асоба і сябра яго каралеўскай міласці? А вось жа недзе на Захадзе гэткі магнат і ў дадатак князь Рымскай Імперыі германскай нацыі разам з братам падчапіў кальвіністасць. Гарабурда ўжываў гэтае азначэнне рэлігійнай скіраванасці Радзівілаў, бы нейкае ачмурэнне, а не духоўны стан.

<...>

Супрацiўнік прыглядаецца да ягоных пальцаў з ледзьве прыкметным посмехам, чакае промаху. Хоць і сябра быццам, а што будзе расказваць пра Гарабурду ў асяродку гэткіх жа ўвішных маладых пісарчукоў? Калі гэтак во выйграе, абавязкова пачне мянташыць языком, каб пахваліцца ды павесяліць грамаду, надаць сабе значнасці. Зараз бы глыток-другі піва. Не, не насміхацца табе, сябра, з Гарабурды. Пан Міхал зноў выцер спацелы лоб і рашуча стукнуў канём па клетцы.

– Шах!

Пісарчук вырачыў вочы на шахматную дошку, шавяліў губамі, лічачы хады, напружваў глузды, шукаючы паратунку: то за туру ўхопіцца, то за каралеву, прыкідваючы, чым ахвяраваць, каб уратавацца. Ага, не чакаў такога ад Гарабурды сёння. Нарэшце з выдыхам паклаў свайго караля набак:

– Здаюся.

Пан Міхал чмыхнуў носам:

– Яшчэ ж не мат.

– Дык праз два хады. – Пісарчук паклаў рукі на калені і, угнуўшы вузкія плечы, яшчэ болей схіліўся над дошкай, углядаючыся.

– Гэта калі сюды, – паказаў Гарабурда. – А калі ты так?

Пісарчук позіркам палічыў:

– Тады праз тры хады.

– А гэтак.

Пісарчук зацікавіўся, потым апусціў плечы.

– Таксама праз тры.

– Умееш наперад разлічваць, – пахваліў Гарабурда.

– Лепей за цябе, пане, у шахі не гуляе ніхто ва ўсім Вялікім Княстве, – у позірку пісарчука шчырае захапленне. – А мо, і ў Кароне.

– Я прайграваў пану Астрожскаму. – Гарабурда цішком зіркнуў на свае рукі, пальцы падрыгвалі, магчыма, ад напружання разумовага.

– Яго міласць князь Астрожскі сказаў ягамосці пану канцлеру, што табе, пане, пад сілу згуляць з самім Маскоўскім Іванам. А той жа, кажуць, не мае сабе роўных ва ўсёй ягонай дзяржаве немалой.

У Гарабурды затрымцела ў грудзях: выходзіць, Валовіч не так сабе апошнім часам перакладае на яго замежныя стасункі Вялікага Княства, асабліва на ўсходнім накірунку. Вайтуль сказаў пра Іаана Маскоўскага... Звычайна ў вось гэткіх нязмушаных размовах з пісарчуком падскарбія Гарабурда вызнаваў важныя для сябе рэчы. Праз Вайтуля даведваўся як, куды і колькі тайна перацякае грошай з дзяржаўных сховішчаў, далёка не кожны сенатар меў такія звесткі. Блізкае сяброўства з пісарчукамі іншых аддзелаў кіраўнічага апарата дзяржавы, пачынаючы з таго ж сенатарскага асяродка і каралеўскай канцылярыі, было не меней карысным: усё вызнанае, калі асэнсаваць як след, дазваляла няхай збольшага ўявіць, у якім стане знаходзіцца Вялікае Княства, і нешта важнае такім чынам прадбачыць, каб мець магчымасць даваць карысныя парады Валовічу.

Значна меней удавалася даведацца пра тайныя справы польскія, толькі пра тое, бадай, што паведамляў кароль, але ці ўсё было вядома яму? Адчувалася, мажнаўладныя Кароны вялі сваю, прыхаваную ад яго вялікасці гульню. Гэта трэба выпраўляць, а як – пакуль невядома, галоўны здабытчык звестак быў касцёл, а ён апекаваўся мажнаўладнымі. Кепска. Думаць, думаць...

– Адчуваю, ты неўзабаве здолееш гуляць лепей за мяне, умееш дакладна лічыць наперад, – Гарабурда, па-ранейшаму лагодна ўсміхаючыся, паклаў перад пісарчуком срэбную манету. – Зрабі ласку, адскоч у карчму і прынясі збанок квасу, бо мне нельга адлучацца, сам разумееш, у любы момант могуць паклікаць да караля, во колькі папер чакае подпісу яго вялікасці. На рэшту сабе вазьмі чаго пажадаеш.

– Не, ласкавы пан Міхал, я прайграў, мне і плаціць, – пісарчук годна пакланіўся і прыбраў шахматы ў акаваны меддзю куфэрак.

– Адзін заступ – не пройгрыш. – Гарабурда зацiснуў пад паху прыгожа аздобленую залатым цісненнем скураную вокладку з паперамі. – А ў квас няхай бы крыху мёду. Лыжку.

– То лепей бы, можа, пану медавухі? Ці піва. – Пісарчук далікатна ўзяў са стала манету.

– Яго вялікасць на дух не пераносіць ні піва, ні медавухі, – Гарабурда даверліва, па-свойску ўсміхнуўся пісарчуку.

Той у адказ таксама ўсміхнуўся, з разуменнем.

– Мой пан даведаўся, што яго вялікасць кароль нібыта сказаў “заўтра”, а грашовыя ж справы яго цікавяць болей, чымся вашы, замежныя.

Хоць у гэтым пісарчук падскарбія хацеў параўнацца з каралеўскім старшым пісарам, які ў бліжэйшы час стане дзяржаўным сакратаром Вялікага Княства, а там і сенатарам, па пасадзе, ціхая чутка ўжо прашапацела па канцылярскіх закутках. Высокі ўзлёт для сына худароднага шляхціца, ужо цяпер дапушчанага на магнацкі пір з выпадку прыезду караля.

– Па-рознаму здаралася, – Гарабурда разумеў пачуцці Вайтуля і стараўся размаўляць з ім як мага далікатней, – таемныя зайдроснікі небяспечней, чымся адкрытыя ворагі, а тых і другіх яшчэ набярэцца многа.

– Гэта так, – пагадзіўся Вайтуль. – Дык з мёдам?

– Не больш лыжкі, каб не перасаладзіць.

– Разумею пана, – пісарчук пакланіўся і, даволі нязграбна павярнуўшыся, паклыпаў, крыху горбячыся, да выхаду.

“Не ваяр, але пісарчук здатны. І ў шахі гуляе вельмі нават някепска”, – Гарабурда ўздыхнуў: перад вачыма па-ранейшаму час ад часу мітусіліся чарцяняты, тым не меней паказацца ў каралеўскай прыёмнай патрэбна. Ішоў, узняўшы галаву, з дзяржаўным клопатам на твары.

## 5. Дзе стаіўся здраднік?

Наведвальнікаў паменела. Сышло некалькі вядомых паноў, знік войт віленскі, не было і папскага прэлата, затое каля француза аказаўся пан Валовіч. Хоць і бачыліся раніцай, Гарабурда зноў пачціва павітаўся са сваім патронам і асобна пакланіўся французскаму паслу. Намерыўся ісці далей, да пана Васіля Цяпінскага, знаёмства з якім адбылося ў мінулы аўторак, у карчме, але Валовіч падаў знак наблізіцца. Гарабурда падышоў, зноў пачціва пакланіўся.

– Заставайся паблізу. Перш чым пойдзем да яго міласці караля, трэба перагаварыць, – Валовіч неяк асабліва ўважліва зірнуў у вочы Гарабурдзе, нібы ў нечым хацеў канчаткова пераканацца. Француз жа далікатна стаў вывучаць сякеру Міндоўга, робячы выгляд, што не разумее па-русінску.

– Як пану заўгодна.

Валовіч нецярпліва павярнуўся зноў да француза. Гарабурда з паклонам адступіў, адшукаў позіркам Цяпінскага. Той не надта каб ветліва размаўляў з рослым шыракаплечым незнаёмым Гарабурдзе шляхціцам з цвёрдым, пасечаным глыбокімі зморшчынамі тварам.

У камін падкінулі свежае бярэмя сасновых дроў, і ў залу павалілі клубы шызага дыму.

Да акна. Тут зімна, затое свежае паветра, ад якога святлее ў галаве. Нягледзячы на дым, панства працягвала гуртавацца ля каміна. Той-сёй з асалодай цягне рукі да агню. Іншым разам не так і многа патрэбна для радасці, вось гэтая цеплыня марознай раніцай.

Валовіч смяецца ад нейкай заўвагі француза. Смяецца, а на твары не знікае прыхаваная заклапочанасць. Размаўляюць на лаціне, Гарабурда гэтую мову ведае слаба, трэба вучыць, настаўніка ў Вільні знайсці не цяжка. Па вуснах можна пазнаць: гавораць пра караля. Цікава – што?

Ці падалося? Бо сам Гарабурда не перастае разважаць пра яго вялікасць. Так, Жыгімонт Аўгуст нешчаслівы. Вось жа, і добры для насельнікаў Вялікага Княства, а на душы ад яго паводзінаў трывожна. Можа б лепей, каб цалкам даверыў кіраванне сенатарам, як выказаўся нядаўна ў цесным асяродку прыхільнікаў пан Радзівіл Чорны. Сам бы няхай сядзеў там, у Польшчы, у цудоўным палацы на Вавелі, граў на сваёй лютні, спяваў вабным голасам валошскія серэнады, кніжкі ўсялякія чытаў, а калі надакучыць – паляваў на бабскія спадніцы, няхай, калі ўжо гэтак з жонкамі не шанцуе.

Хаця як сказаць, задумваецца Гарабурда. Гэта ж, калі паслухаць яго міласць пана Радзівіла. А калі ўспомніць, чым скончылася для краіны свавольства Міхайлы Глінскага, які пажадаў ні многа ні мала – кіраваць каралём? Ды для пачатку і насадзіў на піку галаву свайго непрыяцеля князя Забярэзскага. Каб урэшце самому згніць у вязніцы на Маскве, а радзіме нарабіць столькі бяды-разору.

Не, яго міласць князь Радзівіл Чорны не падобны на праклятага Глінскага, і шкада, што кароль апошнім часам болей слухае кракаўскіх мажнаўладных.

Чаму? Ах, як шкада, што Усявышні так заўчасна ўзяў на нябёсы яснавокую Барбару! І тое хоць добра, што мудра папрасіла пахаваць сябе ў Вільні, а не засталася ў скляпеннях Вавеля, сярод саюзных ляхаў і мазуроў. Кароль яе памятае. Як упарта ён крочыў за яе трунoй ад самага Кракава да Вільні! Подзвіг, што казаць. Асабліва для спешчанага Жыгімонта Аўгуста. Прамерыць пешкі, учапіўшыся рукамі ў рыдван з трунoй любай жонкі, калдобістую дарогу праз дзве краіны ад адной сталіцы да другой – такога не зрабіў ніводзін гасудар у Еўропе. Эх, няшчасце, што хітрыя Габсбургі знайшлі сапраўды сатанінскі спосаб перасекчы, па ўсяму бачна, дынастыю Ягелонаў па мужчынскай лініі. Ну трэба ж: адна аўстрыйская прынцэса аказалася хворай і няздатнай, каб нарадзіць дзіця, дык следам і сястра такая ж.

Не, але хто апошнюю, Кацярыну, сасватаў у Вене Жыгімонту Аўгустуу? Вось тое і яно: пан Міхал Радзівіл. Удружыў сябру!

Ці ўдасца Жыгімонту Аўгустуу ўсё ж атрымаць дазвол Рымскага Папы на развод? Запярэчаць Габсбургі, а Рым лічыцца з імі куды болей, чымся з Рэччу Паспалітай. Ды ўрэшце Кацярына можа і сама ў хуткім часе, кажуць, аддаць богу душу. Вось толькі каб кароль зноў не апёкся з жаніцьбай: нехта ж яму няйначай увёў у вушы, што наступную нявесту трэба здабываць у Францыі. Той жа Радзівіл? Ён не аднойчы наведваў гэтую краіну. Але ж тамтэйшы каралеўскі двор таксама вымарачны. Раз за разам гэтыя Валуа жаніліся на стрыечных сёстрах, а Рымскі папа за багатыя дары даваў на тое дазвол. Увогуле, што карысці ад французскіх каралёў, калі тых саміх, вымарачных і бяздарных, зусім прыцiснула цяжкай імперскай далонню Іспанія?

Што Жыгімонту Аўгустуу ўсё ж патрэбна ад Францыі? Вопыт, як не трэба кіраваць дзяржавай? Такая моцная была краіна! Бліжнія і дальнія суседзі, акрамя, вядома, Англіі, зайдросцілі яе народу, набіваліся ў сяброўства, усе адукаваныя людзі ў Еўропе чыталі творы французскіх пісьменнікаў і філосафаў. Глупства каралёў можа за паўтузін гадоў звесці на нішто стогадовыя высілкі таленавітых і ўдачлівых продкаў. А тут яшчэ аднекуль узяліся гэтыя пратэстанты, пачалі рэзацца з каталікамі. Усё пайшло праз пень-калоду, навука, гаспадарчыя справы... Трывожна, што пратэстанцкая ерась з Францыі перакінулася спачатку ў Польшчу, а цяпер вось у Вялікім Княстве яснавяльможныя паны Радзівілы Хрыста спрабуюць замяніць Кальвінам. Значыць, у даволі хуткім часе трэба чакаць калатнечы. Ці не гэтым заклапочаны Валовіч?

Тут важна, на чыім баку акажацца кароль, працягваў разважаць Гарабурда, назіраючы то за Валовічам, то за панам Цяпінскім, які нарэшце пакінуў ваяўнічага шляхціца. Ці той Цяпінскага. У любым выпадку, яго вялікасць не з праваслаўнымі, уздыхнуў Гарабурда. Дзякаваць богу, хоць нібыта роўны з усімі і не зважае, дзе хто моліцца – у праваслаўным храме, у касцёле ці ў мячэці. Але ж папісты нешта задумалі. Узяць гэты новы ваяўнічы ордэн Ісуса. У Іспаніі ён пачаў з кастроў над адступнікамі ад хрысціянскай веры, следам – за іудзеяў-ліхвяроў, якія амаль усё дваранства аблыталі даўгамі, а потым за ўсіх, хто нечым не дагадзіў, возьмуцца. Цяпер езуіты з’явіліся ў Вільні... Не прывядзі гасподзь, каб у краіне ўсчалася ўнутраная калатнеча.

Гарабурда спыніў позірк на постаці інфлянцкага пасла Фюрстэнберга-малодшага. Стаіць ля каміна, цягне рукі да агню, зусім адзінокі, значыць, ад яго ўжо патыхае няшчасцем. Божа, божа! Францыя робіцца няшчаснай з-за вымарачных гасудараў, Інфлянты, ці Лівонія, як краіну называюць у

Маскве, з-за прагнасці ўсходняга магутнага суседа да набытых яе руплівым народам багаццяў і выхадаў у Варажскае мора. Чакаць бяды Інфлянтам, відаць, нядоўга: маскоўскі драпежнік расправіўся з Казанскім ханствам і дабівае Астраханскае, на чарзе не інакш Лівонія. І не прывядзі гасподзь, каб удалася яе захапіць. Мала таго, што Вялікае Княства апынецца ў варожых жалезных абцугах, дык яшчэ будуць перакрытыя гандлёвыя выхады да мора. Гарабурда рыхтаваўся дакласці гэтае сваё меркаванне каралю і сенатарам, але не скажа яшчэ аднаго – хутчэй за ўсё, каронныя мажнаўладныя будуць усяляк перашкаджаць вайсковай і палітычнай падтрымцы Інфлянтаў, і ёсць некалькі меркаванняў, чаму менавіта.

Гарабурда так задумаўся, што толькі тады заўважыў Валовіча, калі той апынуўся зусім побач. Коратка пакланіўся яму, спытаўся:

– Да яго вялікасці?

Валовіч таргануў сябе за вус, паназіраў, як слугі запальваюць насценныя шандалы, бо ў зале было даволі змрочна, ледзьве разляпіў губы:

– Заўтра.

Гарабурда пастараўся прыхаваць у вусах усмешку шкадавання-разумення.

– Чым магу пану паслугаваць сёння?

Валовіч паназіраў, як бліскаюць агеньчыкі свечак, дакрануўся да вусаў, павольна прыгладзіў указальным і вялікім пальцамі, звёўшы іх пад ніжняй таўставатай губой.

– Не мне паслужыш, Айчыне.

– Чым толькі змагу.

– Веру, пане. Таму і скажу табе тое, што скажу. – Валовіч уважліва зірнуў па баках. Ахвотнікаў мерзнуць ля шчыльна пакрытых ледзянымі ўзорамі разнаколерных аконных шыб, акрамя іх дваіх, не аказалася.

– Тое, што я зараз скажу, вядома толькі дзвюм асобам. Ты будзеш трэцім, і каб нікому.

– Як пану пажадана.

Валовіч надзьмуў губы, бы пакрыўджана, выдыхнуў з сябе паветра.

– У асяродку вышэйшага панства, магчыма, завёўся здраднік. Магчыма, паўтару.

Гарабурда насцярожана напружыўся. Павагаўшыся і паразважаўшы пра сябе, сказаў:

– Халера! З нейкага часу ў мяне таксама складваецца такое ўражанне.

– Ты нешта прыкмеціў? – ажывіўся Валовіч.

– Проста такое адчуванне. І ў чыю карысць, пан мяркуе, здрада: Габсбургаў? Свеяў? Асманаў?

– Куды горш: маскоўцаў.

– Халера! – паўтарыў Гарабурда. – Маскоўцаў?

– Іначай адкуль бы на Маскве стала вядома, пра што дамаўляўся кароль з паслом Вялікага Ноўгарада.

– Пра пасла было вядома многім, – заўважыў Гарабурда. – І ў самім Ноўгарадзе ёсць каму даносіць, можна не сумнявацца.

– Яно так, – Валовіч павёў шыяй, быццам яму стала цесна ў каўняры. – Але пра што менавіта дамовіліся ведалі толькі вышэйшыя паны-радцы, і то не ўсе.

– Баюся, бяда будзе наўгародцам. – Гарабурда ўхіліўся казаць пра сенатараў.

Валовіч, ужо загадна гледзячы проста ў вочы Гарабурдзе, сказаў:

– Так ці гэтак, наўгародцам ад Івана Маскоўскага добрага не дачакацца. Тыя ўсё разумеюць, таму многія жадалі б далучыць свой край да нашага Вялікага Княства. Але асобна ад Кароны, бо не давяраюць палякам. Дык пакуль што якое, паслу прапанавана было сем'і знаных асоб наўгародскіх, хто пажадае, пераправіць да нас. У Віцебск ці ў Полацк, а то і глыбей. Кепска, што малавата звестак пра маскоўскія дзеі, асабліва ж вайсковыя намеры.

– Мяркую, масковец сапраўды, перш, чым разявіць пашчу на Лівонію, канчаткова зруйнуе Вялікі Ноўгарад. Точыць іклы і на Вялікае Княства, гэта, хутчэй, наступным скокам, пасля паглынання Лівоніі, – сказаў Гарабурда. – Я размаўляў з панам Філонам Кмітою з Оршы. Кажуць, ваяр, якіх мала.

– Ваяр добры, – кіўнуў Валовіч. – У нас з табой усё ж галоўнае іншае – ціхая выведка. Яго міласць пан канцлер лічыць, і я з ім цалкам згодны, што адшукаць здрадніка сярод сенатараў мусіш ты, пане Міхал, твой гэта клопат, дадам хіба – і не разавы.

Гарабурда ўздыхнуў:

– У маім распараджэнні хіба што пісарчукі, з паўтузіна, а для такой справы, адразу і сказаць не здолею, якія людзі патрэбны і колькі. Мяркую ўсё ж – болей за тых, хто мне даступны.

– Прыглядайся, падбірай, – не адступаў Валовіч. – Ведай таксама: ніхто не будзе цікавіцца, як, што і з кім ты робіш, галоўнае – вынік, за гэта спытаем, і я, і пан канцлер.

– Дакладаць абодвум? Ці і яго міласці каралю таксама?

– Толькі мне, – твар Валовіча набыў нечаканую жорсткасць. – Дадам, пан канцлер дае табе таксама права карыстацца людзьмі ягонай ахоўнай харугвы, ваўкі на падбор.

– У справе выведкі лісіцы лепей, – Гарабурда памарудзіў, прыкідваючы, як дамовіцца пра яшчэ адно вельмі важнае. Вырашыў выказацца прама: – Мяркую, з панам канцлерам дамоўлена пра грошы. Відаць, спатрэбяцца немалыя. І каб ніводзін сенатар не здагадваўся, нашто яны мне.

– Тут будуць складанасці, сам ведаеш, – Валовіч хітнуў шыяй. – Калі ўжо яго вялікасць пазычае ў свайго цырульніка... Ага, дык пра ваўкоў. Як заўзяты паляўнічы скажу: шэры ўмее высочваць здабычу не горш за лісіцу. А ўжо калі ўхопіць за глотку... Так... З казны нешта будзе перападаць, але галоўнае – за вялікія паслугі дзяржаве і як сенатар, а ты ім хутка станеш, атрымаеш староства, не меней, будзеш браць падаткі, будзеш прадаваць за мяжу хлеб, лес, поташ, мёд, воск, сам усё ведаеш. Цяпер, чуў, нямала расходуеш на пераклад і выданне кніг, дык размяркуй, каб тое-сёе заставалася на найважнейшую, скажу нават, на святую дзяржаўную справу, якую мы з панам канцлерам табе даручаем.

Бакавым зрокам Гарабурда ўгледзеў, як да французскага пасла падыходзіць дварэцкі. Заўважыў гэта і Валовіч.

– Во, – сказаў ён, усмешліва жмурачы вока, – яго вялікасць усё-ткі вырашыў прыняць француза сёння.

Гарабурда назіраў, як годна і з нейкай гжэчнасцю крочыў француз праз бліскучую залу следам за каралеўскім распарадчыкам.

– Лепей бы спярша яго міласць паслухаў лівонца, – буркнуў, не стрымаўшыся ад расчаравання, і азірнуўся на панылага Фюрстэнберга.

– Заўтра, магчыма, заўтра, як і мы, – Валовіч хітануў шыяй. – А ты, пане, рыхтуйся згуляць у шахі з яго вялікасцю маскоўцам.

## 6. У каралеўскім мармуровым карыце

Жыгімонт Аўгуст назіраў, як яго асабісты лекар правяраў ваду ў ванне, слугі паміж сабой называюць яе карытам, няхай, гэта нечым збліжае яго з народам. Цікавае слова: КАРЫТА. Мармур загадала прывезці з Італіі яго маці, у Кракаў, пасля ўжо ён сам распарадзіўся зрабіць гэткую ванну тут, у Вільні, для любай Барбары, да таго яна мылася ў дубовай бочцы, што таксама някепска, ён паспытаў, у бочцы адчуваеш сябе болей абароненым, чымся лежачы распластаным у ванне голым брухам дагары. Некаторы час ён нават пазбягаў так мыцца, пасля таго, як у ёй разглядала яго няўрымслівая маці.

Бедная венцаносная Бона Сфорца! Так марыла хоць на старасці зноў купацца ў паўднёвым моры, а не ў польскім карыце, хоць і залачоным, зробленым для цябе з італійскага мармура. А ён, яе сын, яе мара пра будучыню? Ён увогуле так і не ўбачыў мора, нават бліжняга, халоднага, Варажскага. Любы вольны жыхар яго дзяржавы, нават не шляхціц, можа такое ажыццявіць, – праз тыдзень адбудзецца сейм, прыме адпаведны закон, а ён, гасудар, падпіша яго. Толькі не для сябе. А так яшчэ змалку хацелася пабачыць Італію! Неапаль, Бары, дзе цяпер і спачывае яго гаротніца-маці, у зямлі. Учора мінула гадавіна жахлівага скону, ніхто не ўспомніў гэта ў Вільні, пілі за яго вялікакняска-каралеўскае здароўе, а варта было памаліцца за яе. Вялікаму Княству яна зрабіла добрага, магчыма, нават болей, чымся Кароне.

Што? Французскі пасол упарта чакае аўдыенцыі? Ажно просіць прыняць яго неадкладна? Адчуваецца гальскі нораў. Ну, пасля ванны няхай правядуць у бібліятэку. Пасланца Папы Рымскага? Трэба падумаць... Век бы яго не бачыць. Заўтра! Можна ўявіць яго балбатанне. Што святейшы не можа скасаваць шлюб з аўстрыячкай, бо шлюбы заключаюцца на нябёсах, і гэтак далей. О, колькі чаго чамусьці церпяць нябёсы ад рымскіх першаіерархаў! Не адных рымскіх.

Яго лекар, надзейны і дасведчаны ў сваёй справе дойч Руперт Фінк усё яшчэ прынюхваецца да вады. Фарфоравым бялюткім кубачкам зачэрпнуў з карыта, нюхае. Пахне французскай парфумай, Жыгімонт Аўгуст і сам мае тонкі нюх, але не пярэчыў завядзёнцы, хоць і не верыў, што яго могуць атруціць праз ваду ў ванне, для гэтага ёсць нямала іншых правераных сродкаў. Самы просценькі, адпрацаваны яшчэ ў старажытнасці, персамі, іудзеямі, рымлянамі, візантыйцамі, непрыкметна капнуць атруту ў чару з віном, не абавязкова ў першую. Русінскія князі мелі свае атрутныя сродкі, пераняўшы ад візантыйцаў, ад ардынцаў. Жанчыны з роду Медычы, апынуўшыся ля каралеўскага стала ў Францыі, карысталіся багатым наборам атрут ад лекараў-іудзеяў. Яго маці... Не, ён так і не дазнаўся, хто ж сапраўды знішчыў Барбару.

Уважліва прыгледзеўшыся, лекар сербануў з кубачка, смакуючы, трымаў ваду ў роце, як заўзятары добрае віно. Нарэшце праглынуў і прыслухаўся да свайго страўніка, ажно вочы прыкрыў. Сербануў яшчэ. Пасмакаваў, праглынуў, прыслухаўся да сябе. Нарэшце задаволена кіўнуў паслужліваму дзецюку-двараніну і аддаў кубачак. Пакланіўся каралю:

– Ванна гатова, ваша вялікасць.

Каб не паслізнуўся, караля прытрымлівалі двое дваранаў-слуг.

Яго вялікасць з уздыхам апусціў нагу ў мармуровае карыта: прыемна. Апусціў другую, слугі спрытна дапамаглі легчы, паклалі пад галаву падушку з мяккай саломы.

Асалода. Тым не меней, кожны раз вось гэтак укладваючыся ў ванну, Жыгімонт Аўгуст міжволі ўспамінаў, як на яго глядзела маці.

О, яго маці! Угневаўшыся, яна рэзала праўду бязлітасна. Ці шкадавала потым? Ужо не спытаеш. Нават калі б здарылася неверагоднае – апынуцца ля грабніцы ў Бары. У яе апошняга каханка і, як высветлілася, адзінага спадкаемцы па завяшчанні, вось у каго трэба было б распытаць падрабязнасці.

А тады Бона даведалася, што ён не дазваляе вывозіць з Польшчы столькі багацця. Ахоўнікі не асмеліліся спыніць раз'юшаную Старую каралеву, і тая з'явілася, калі ён ляжаў у ванне. Служка пяшчотна, бы дзіця, цёр яго губкай, прывезенай якраз з Неапалітаніі, калі за дзвярыма пачуўся гнеўны голас маці, а ёй нешта спрабаваў растлумачыць лекар.

– Не пускаць! – шэптам загадаў Жыгімонт Аўгуст ахоўніку. Але дзе там!

– Прэч! – сказала Бона магутнаму дзецюку, і той адступіў бы саплюк-малалетак.

Бона паўстала ля ванны раз'юшаная і ўсё яшчэ прыгожая, нягледзячы на сівізну ў валасах. Утаропіла ў яго пранізлівы позірк, і – Божа! Жыгімонт Аўгуст заўважыў, што вочы ў яе падведзеныя чорным і сінім, як у спарахнелай грэхаводніцы. Нават мудрыя і вялікія жанчыны не ў стане зразумець, як брыдка-вульгарна выглядаюць, абпэцканыя парфумай. Каб гэтак зрабіў мужчына, ён бы ўмомант згубіў павагу да сябе, на яго паказвалі б пальцамі, як на прыдурка.

– Хочаш мяне абабраць? Хочаш, каб з'явілася на радзіму не каралевай магутнай краіны, а маркітанткай, выкупленай з палону? – крыкнула Бона.

– Маці, – Жыгімонт Аўгуст стараўся гаварыць ветліва, – няўжо мала таго, што вамі перапраўлена ў Неапалітанію раней? Бочкі залатых дукатаў!

– Я вываджу ўрэшце свой пасаг, – адрэзала Бона. – Ты ж не пярэчыў, калі Габсбург запатрабаваў назад пасаг памерлай Лізаветы, тваёй няўдалай жонкі!

– Ваша вялікасць, – Жыгімонт Аўгуст з апошніх сілаў стараўся захаваць сыноўную ветлівасць. – Няўжо ўсё, што вамі вывозіцца, – пасаг?

– Астатняе – толькі справядлівая плата за маю цяжкую шматгадовую працу, – у гневе Бона цяжка дыхала.

– Ого! – Жыгімонт Аўгуст ажно весела засмяяўся. – А што вы пакідаеце тады пасля сваёй працы сыну – пустыя амбары і сундукі на Вавелі?

Вось тады Бона па-жаноцку ўважліва агледзела яго распластанае ў ванне раздабрэлае ад залішняга тлушчу цела, і Жыгімонту Аўгусту стала не па сабе.

– Сыну? Яму пакідаю моцную дзяржаву з наладжанай гаспадаркай. Калі сын здолее трымаць умелых і чэсных слуг, а не хапуг, сабраных падаткаў хопіць на многае. Толькі не трэба кідаць дукаты на дурныя забавы і фаварытаў. Нарэшце час стаць дзяржаўным мужам, а не скакаць падлеткам-купідончыкам, які ўжо столькі гадоў займаецца адно танцамі і паляваннем за разбэшчанымі паненкамі. А ўрэшце да гэтага часу так і не змайстраваў сабе нашчадка, а мне ўнука. Срэбная калыска Ягелонаў пустуе!

– І гэта кажаш мне ты, якая толькі і клапацілася, каб яе сынок гуляў падалей ад дзяржаўнага стырна, не перашкаджаў! – Жыгімонт Аўгуст зайшоўся тым з'едлівым і адначасова трагічным смехам, якому навучыўся ў Станьчыка.

– Што ж, цяпер стырно ў цябе, паглядзім, як ты з ім управішся без

мяне, – амаль роспачна сказала Бона і дадала: – І няхай дапаможа табе Усявышні.

У Боны на вачах выступілі слёзы, але яна не заплакала. Толькі гэтак жа імкліва, як уварвалася ў яго ванную, выйшла вонкі. Моцная жанчына, ісцінна каралеўскі нораў. Толькі як у такой выхаваўся сын, які куды больш упэўнена пачуваецца ў ложку з куртызанкай, чымся ля дзяржаўнага стырна. Гора краіне, у якой у магутных гасудараў вырастаюць распешчаныя і разбэшчаныя нявдарныя спадкаемцы.

Не, час дзейнічаць. Ён не нявдарны. І ў яго ўвогуле няма наследніка, ніякага.

Вада астыла, і Жыгімонт Аўгуст зрабіў знак дваранам, каб дапамаглі вылезці з карыта. Лекар адразу ж агледзеў караля і даў знак абгарнуць посцілкай. Тканіна была мяккая і папярэдне сагрэтая. Слугі працавалі зладжана і ўвішна. Заслуга каморніка і лекара.

Люстэрка на процілеглай сцяне запацела, і Жыгімонт Аўгуст быў вымушаны прыглядацца, як бы з тумана пакрысе выяўляецца яго цела. Служэбнік здагадаўся хуценька працерці шкло.

Цяпер кароль бачыў сябе выразна. Але гэта не палепшыла яго настрой. Пульхныя перакормленыя шчокі, час адрошчваць бараду, каб прыхаваць. Рукі... Не, не ваяр. Жыгімонт Аўгуст шырэй расхінуў спераду накрыўку, разглядаючы жоўты тлушч на жываце... Абвіслы, бы ў замшэлага дзеда, ніз... Сённяшняя яго начная краля ці хлусіла, ці была ўсцешаная ўжо тым, што дагаджала самому каралю. Але ж праўда ў тым, што ён толкам так і не даказаў сваю мужчынскую годнасць, як, бедная, ні дапамагала. Такое здаралася з ім і раней, асабліва з перапою, аднак апошнім часам надта ўжо часта. І навошта тады дамагацца разводу з жонкай, улашчваць багатымі дарамі рымскага пантыфіка?

– Ваша каралеўская міласць, зараз цырульнік вас паголіць, зробім масаж, потым вып'еце ўзвар з рогу аленя і к вечару адчуеце сябе шаснаццацігадовым юнаком, – лекар бы падслухаў яго сумненні. А вочы надта рухавыя, прыхавана-насмешлівыя, бы ў Станьчыка. Ці так падалося?

– Мне непрыемна гэтае паляпванне і пагладжванне мужчынскімі рукамі.

– Калі пажадана, масаж будзе рабіць паненка. А там загадайце сядлаць коней, яго міласць пан Мікалай Радзівіл будзе шчаслівы суправаджаць вас у пагоні за аленем.

– Заўтра. – Кароль кідае апошні позірк у люстэрка і ўжо загадна глядзіць на дворнага маршалка: – Французскага пасла ў бібліятэку, прыму яго там. – І пасцельнічаму: – Надзень мне фалюндышавыя нагавіцы, тыя, з кутасамі. Дык дзе цырульнік?

## 7. Яго вялікасць загадвае

Жыгімонт Аўгуст рыхтаваўся да сустрэчы з французам грунтоўна, нават успомніў колькі слоў гальскіх. Вось ужо сітуацыя ў духу Станьчыка: панства краіны называе сябе французамі, напамін пра заваёўнікаў германскіх – франкаў, а ганарыцца пераможанымі тамтэйшымі карэннымі насельнікамі галамі і карыстаецца іхняй мовай. У Вялікім Княстве куламеса таксама няпростая: спачатку тутэйшае баярства, падпарадкаваўшыся вялікаму князю з нарманаў, пагадзілася называцца гэтак, як ягоная дружына-родзічы – русінамі, а потым з'явіўся гасудар са збеглых да Полацка ад германцаў літаў, калі верыць на-

таткам дапытлівага біскупа Леўпранда, – а чаму не верыць? – прызначыў з суродзічаў новае, сваё баярства, і вось ужо і ранейшае, прыкормленае прывілеямі, таксама не супраць называцца літвінамі. Захаваўшы, праўда, звычаі і мову тутэйшых продкаў. А што народ просты? А хто ў яго калі пытаецца? Як панства загадае, так і назавецца, з часам прывыкне.

Ergo: можна чакаць, што калі не самі, то нашчадкі вялікакняскай шляхты яшчэ стануць ганарыцца, запісаўшыся ў палякі, як ужо робяць ляхі і мазуры. Для гэтага патрэбны тры чыннікі: адзін гасудар, унітарная краіна і агульная дзяржаўная мова. Многа таксама значыць агульная вера, якая можа быць не абавязкова каталіцкай. Хаця і не ад Канстанцінопаля, не праваслаўная, тую зацугліў маскоўскі вялікі князь. Ці цар, як яму апошнім часам надта карціць называцца; няхай, але за гэта ў яго трэба нешта выгандляваць.

А вера... Радзівілы запэўніваюць, што сама лепш пратэстантызм, не той, які абвесціў Лютар, а распрацаванае французам Кальвінам. І паколькі сярод кракаўскіх можнаўладных таксама нейкім чынам развялася процьма кальвіністаў, то ёсць пра што моцна падумаць і яму, каралю.

Падумаць... І зразумець, што адбываецца ў французаў. Па звестках выведнікаў кракаўскага біскупа, у Парыжы вось-вось адны хрысціяне другім пусцяць кроў. Але хто каго пераможа ў разні, яшчэ незразумела, паціху рэжуцца даўно, а кароль хінецца то да аднаго лагера, то да другога.

Увогуле ж дзяржаўны лад Францыі яму падабаўся. Дзяржава, нават заціснутая цяпер з двух бакоў Іспаніяй з яе магутным нідэрландскім сатэлітам, якім усяляк дапамагаюць Англія з саюзнай ёй Даніяй, а з паўднёва-ўсходняга боку Рымскай Імперыяй германскай нацыі, усё ж застаецца магутнай, і ён, Жыгімонт Аўгуст, верыць у яе добрую будучыню.

Маці, каралева Бона, дарэмна папракала яго, што заняты толькі палюваннем за яе фрэйлінамі. Ён не так сабе занепакоены зняважлівым стаўленнем магнацтва і шляхты як у Кароне, так і ў Вялікім Княстве да простага люду. Пазбаўлены магчымасці займацца дзяржаўнымі справамі, ён чытаў, збіраў звесткі пра розныя краіны, распытваў падарожнікаў і паслоў, параўноўваў, разважаў, у тым ліку пра Францыю. А на яе прыкладзе асабліва – пра схаваную цёмную сілу простага люду, якая ў пэўны момант можа выбухнуць, каб стаць усепаглынальным бязлітасным патопам. І ці не ў тым сакрэт імклівага ў свой час нарастання магутнасці Францыі, што яе кароль вось ужо паўтара, а то і два стагоддзі яшчэ таму зразумеў пільную патрэбу, адкінуўшы прэч грэблівасць, сесці за адзін стол з простымі смяротнымі? Не дзеля вонкавага выгляду, палітычнай гульні, а ці не прызнаўшы сябе з імі блізкай раднёй. Як жа яго клікалі? Філіп Аўгуст? Так. Ён, таксама Аўгуст, але і Жыгімонт, як бацька, пры ўсіх сваіх хрысціянскіх якасцях на такое яшчэ не адважыцца, не. Але як іншым чынам стаць сапраўды каралём усяго народа, а не толькі народа-шляхты? Можнаўладныя не дадуць. Ды і шляхта таксама, нават загонавая, мала чым розніцца ад простага люду, апроч наяўнасці шаблі і гонару саслоўнай адметнасці.

Як пераадолеў гэта Філіп Аўгуст? Як цэлы гурт рознаязыкіх плямёнаў пераплаўляецца ў адно, і зброд прызнае ўрэшце нейкім чынам злепленую дзяржаву не ў часовы загон, а ў Радзіму? Вера – вось што ў першую чаргу павінна стаць адзіным. Вера! Наймагутнейшая гэта сіла. Вельмі небяспечна, калі яна розніцца ў дзяржаве.

У бібліятэцы цёпла, у каміне варушылася грыўка агню. Жыгімонт Аўгуст трасянуў срэбным званочкам. З-за дзвярэй імгненна ўзнік дворны маршалак.

– Ваша вялікасць...

– Запрасі француза.

– Ваша вялікасць, – дворны маршалак, часцей званы па-простаму дварэцкі, нізка пакланіўся. – Асмелюся сказаць, але як каралеўскай міласці будзе пажадана, то надта просіць яго выслухаць паручнік Гжэгаж Крук па мянушцы Жалезнарукі. Кажа, ты яго ведаеш.

Жыгімонт Аўгуст паспрабаваў успомніць. Як быццам нешта знаёмае. Дварэцкі дакладна зразумеў караля, дадаў:

– Кажа, абараняў твой стан у часе нападу крымчакоў пад Валынню. Быў паранены. За адвагу ты нібыта даў яму грунт у сваім сталовым маёнтку бліз Чашнікаў.

Калі дварэцкі сказаў пра сутычку з крымчакамі-грабежнікамі на Украіне, Жыгімонт Аўгуст яе ўспомніў, але не паручніка Гжэгажа Крука.

– Ён што, паляк, мазур?

– Гжэгаж з-пад Кнышына, твая міласць.

– Тады чаму я даў зямлю бліз Чашнікаў?

– Ягоныя сямейнікі вымерлі ад чорнага паветрыя, а ў Чашнікі запрасіў сябра вайсковы, каб аддаць у жонкі сястру сваю, удовую ротмістравую, на што і была атрымана вялікакняская згода.

– Гм, і што?

– Дык на двор гэтага паручніка Гжэгажа быў учынены наезд. Маёмасць абрабаваная, а паранены гаспадар з вялікімі стратамі мусіў ратавацца ўцёкамі.

– Гэтыя наезды! – ад абурэння Жыгімонт Аўгуст не змог уседзець у крэсле, зрабіў некалькі хуткіх крокаў да каміна, павярнуўся да акна, мімаходзь схапіў з паліцы кнігу ў прыгожай скуранай вокладцы, фаліянт француза Мантэня, які ў чарговы раз праглядаў. – Дзікунства паганскае! Але чаму паручнік да мяне? У суд! – кніга імкліва вяртаецца на ранейшае месца, стомлены позірк утароплены на дварэцкага. – Абавязак ваяводы строга караць за наезды.

– Суда паручнік не дамогся, – патлумачыў надзіва дасведчаны дварэцкі.

– Як?! – у караля канчаткова знікла прыемная млявасць пасля купання, амаль подбегам ён наблізіўся да стала, слепа разгарнуў паперы.

– Гэта паручнік і хацеў бы паведаміць тваёй каралеўскай міласці. І нешта яшчэ. Сказаў, вялікай дзяржаўнай важнасці.

Жыгімонт Аўгуст падраўняў нешматлікія паперы, паглядзеў на агонь у каміне, потым незадаволена на дварэцкага.

– Няхай зойдзе. Але наступны – французскі пасол.

Удзячна-адданы паклон і позірк служэбніка.

– Слухаюся! – дварэцкі высунуўся за дзверы і махнуў рукой.

Перад каралём стаў на калена высокі шыракаплечы дзяцюк са шнарам на ілбе, з глыбокімі касымі складкамі на шчоках. Вусы, кароткая светлая бародка, позірк цвёрды, рашучы. Прамовіў па-польску:

– Ваша каралеўская міласць, б'ю чалом!

– Навошта чалом? – кароль азваўся таксама па-польску і жэстам загадаў наведніку ўзняцца. – Шляхціц?

– Так.

– Ды ўстань жа! Ты, значыць, быў маім абаронцам?

Паручнік, не зводзячы адданага позірку з караля, прыўзняўся.

– Даў мне Усявышні такую міласць, – глуха, але цвёрда сказаў ён. – Але

цяпер я просьбіт, амаль жабрак безабаронны і прашу заступніцтва ў вашай каралеўскай міласці, болей няма да каго звярнуцца.

– Магчыма, ты перабольшваеш, рыцар, гэта здараецца ў крыўдзе, – Жыгімонт Аўгуст з цікаўнасцю прыглядаўся да паручніка. “Надзейны ваяр, – думаў ён. – І адчуваецца, не п’янтос, твар здаровы, хоць на ім і бачны сляды пераражытых пакут”. – Рука ў цябе... Гэта ў часе бою з крымскімі разбойнікамі?

Гжэгаж узняў пакалечаную правую руку – замест кісці выслізнуў прымацаваны хітрым чынам жалезны кручок, які асабліва зацікавіў караля.

– Не, твая вялікасць, – з ніякаватай усмешкай паручнік засунуў пакалечаную руку за крысо кунтуша. – Гэта пасля таго нападу на маю сядзібу. Куляй. Астатняе дарабіў лекар. У Рызе потым мне змайстравалі жалезны крук, там надта ўмелыя кавалі. У нас, можа, такіх і няма.

– Я так зразумеў, ты незадаволены выракам суда над злачынцамі, – Жыгімонт Аўгуст усё не мог адвесці позірку ад жалезнай рукі паручніка.

– Суд яго міласці пана ваяводы Полацкага вырашыў, што ўказаныя мною злачынцы не вінаватыя, на маю сядзібу напалі не яны, а бадзяжныя казакі, якіх так і не злавілі. Але ў мяне ёсць доказы, што гэта тыя людзі, на якіх я паказаў, а не казакі. Маіх сведкаў ваявода не пажадаў выслухаць.

– Многа абрабавана?

– Грабёж – прыкрыццё, – са скрухай адказваў паручнік. – Я не паспеў нажыць вялікага дабра, а пасаг жонкі – два кані, статак авечак, дзве каровы з цялушкай, падсвінак ды сундук з бабскімі ўборамі, не золата і не дыяменты.

– Сварка з суседзямі? – Кароль зіркнуў на вялізны швейцарскі гадзіннік.

Паручнік прасачыў за позіркам караля, упарта насупіўся, сказаў, варушачы напятымі сківіцамі:

– Сварка была, так. І ўвогуле, – паручнік прымружыўся, як бывае ў часе раптоўнага вострага болю, – увогуле, я нават таго не ведаў дый ведаць не хацеў: да паненкі, якая стала маёй жонкай, раней сватаўся сусед-зямянін. Так, а тут я, і мне шанцуе. Галоўнае ж, мяркую, таму што прыхадзень, не мясцовы, а паляк.

– Ты ўпэўнены?

– Мне наўпрост да таго колькі разоў казалі: з’язджай, бо зямля толькі для падданых Вялікага Княства. Але ж ёсць каралеўская воля! А за тваю ласку я не шкадуючы жыцця гатовы збройна служыць пад сцягам тваёй каралеўскай міласці.

– Ты сваё адслужыў, – ласкава ўсміхнуўся Жыгімонт Аўгуст, зіркнуўшы на жалезную руку паручніка. – Мы ўдзячныя табе за зробленае.

– Думаеш, ваша вялікасць, калі я з жалезнай рукой, то ўжо і калека непатрэбны? – пакрыўдзіўся паручнік. – Я заўсёды валодаў аднолькава абедзвюма рукамі, змалку сябе прывучыў, і потым, ужо з адной рукой за дванаццаць гадоў...

– Як – дванаццаць? – здзівіўся Жыгімонт Аўгуст. – Праз столькі часу ты ўрэшце пачаў дамагацца пакарання нападнікаў!

– Ваша каралеўская міласць! – глуха, у адчаі, але ўпарта ўсклікнуў Гжэгаж Крук. – Я доўга лячыў руку ў Дэрпце-Лівонскім, затым у Рызе. А як змайстравалі жалезную руку, наняўся на службу вайсковую свейскаму каралю, затым у Францыі быў паручнікам, біўся з іспанцамі і перамагаў у паядынках... А калі вярнуўся ў Чашнікі з грашыма і адбудаваўся на дара-

ванай табой зямлі, то на мяне зноў напалі, сядзібу спалілі, а сам вось стаю перад табою.

– Маршалак, – ужо іншым тонам, абурана, але цвёрда прамовіў кароль. – Запрасі пана канцлера.

– Яго міласць князь канцлер з панам лоўчым і машталерамі падбірае коней для палявання каралеўскага на аленя. – Дварэцкі адказваў, выпрастаўшы рукі ўздоўж грузнага тулава, але з выпраўкай старога ваякі.

– Я сказаў, – кароль высунуў напятую ніжнюю губу і ляпнуў далонямі па дубовых адглянцаваных падлакотніках.

Змрочна прасачыў, як знікала за дзвярыма шырокая спіна дварэцкага. – Значыць, нападнікаў не высветлілі?

– Зноў вырашана, што нейкія казакі, – у вачах паручніка гарэла ярасць. – Але на гэты раз я маю ў сведках не толькі ўласных слуг, якім не паверыў ягамосць ваявода. Магу...

У дзверы пагрукалі тройчы, і на парозе з’явіўся дварэцкі, абвесціў:

– Яго міласць пан канцлер найвышэйшы Вялікага Княства.

Жыгімонт Аўгуст паказаў у бок каміна:

– Прасі...

Здаралася не аднойчы, князь Мікалай Радзівіл заяўляўся ў пакоі караля зусім па-свойску, без абвестак дварэцкага. Але на людзях абавязкова выконвалася ўрачыстая цырымонія, заведзеная пры ўсіх каралеўскіх дварах у Еўропе.

– Мой пане міласцівы, гасудар, – Радзівіл годна пакланіўся, у цёмных крыху пукатых вачах ззяла ласкавая радасць бачыць караля, – коні гатовыя, загоншчыкі таксама, паляванне абяцае быць удалым, за што ручаецца лоўчы.

Жыгімонт Аўгуст сустрэў сябра юнацтва з цеплынёй у позірку. Канечне, гэта было ўжо не тое, як яны сустракаліся ў пару, калі Барбара рыхтавалася стаць каралевай, тым не меней ласкава, нягледзячы на загадку, зададзеную Станьчыкам. Можа, крыху болей прыхаванай запытальнасці.

– Міласцівы пане канцлер, – кароль адной рукой абапіраўся на стол, другой паказаў на паручніка, – вось тут рыцар годны, які ў свой час адважна абараніў нас ад крымчакоў пад Валынню, і за тыя паслугі і яшчэ многія яму быў дадзены надзел у маёнтку нашым бліз Чашнікаў.

Радзівіл больш уважліва агледзеў паручніка, стараючыся даўмецца, навошта гэта ўсё кажа кароль, замест таго, каб збірацца на паляванне.

– Дык цяпер гэты рыцар стаў перада мной з чалабітнай, – працягваў кароль, па-дзіцячаму пакрыўджана адтапырваючы ніжнюю губу. – Вось так. Бо не мае на што жыць і нават дзе галавы прыхінуць.

Канцлер ужо іншым позіркам акінуў паручніка, грэблівым.

– Здараецца. Прапіў маёнтак ці ў карты прагуляў? Што ж, не надта многа сярод нас праведнікаў, грашым.

– Іншае, – позірк караля зацвярдзеў, але прыхаваная пакрыўджанасць засталася. – На яго дараваную намі бліз Чашнікаў сядзібу ўчынены дзёрзкі збройны наезд.

– Мяжа блізка. Маскоўцы? Мы гаварылі з польным гетманам: у тых мясцінах патрэбна болей войска і хаця б яшчэ тры, а то і пяць замкаў з добра ўзброенымі гарнізонамі. Але грошы... – Радзівіл развёў рукамі.

– Пане канцлер! – узвысіў голас кароль, – нашага зямяніна абрабавалі і ледзь не забілі свае, суседзі-шляхцічы!

Радзівіл строга і патрабавальна ўтаропіўся ў паручніка, вялікі твар суворы, дзяржаўны.

– Нападнікі мусяць быць павешанымі, а іх маёмасць у казну. Але ж гэта не каралеўскі клопат – а прыставаў ваяводы.

– На Бібліі паклянуся, ваявода не жадае браць сапраўдных рабаўнікоў, бо з мясцовай шляхты, я ж навалока-чужынец, бо паляк, – паручнік адказваў па-русінску, і толькі спрактыкаванае вуха магло ўлавіць у яго вымаўленні вялікапольскасць, але кароль гэта заўважыў.

– Паляк? – Радзівіл паглядзеў на паручніка ўжо з прыкрасцю, незадаволена. – Але ж у нашым дзяржаўным Статуце прама ўказана: у Вялікім Княстве зямельнымі грунтамі могуць валодаць толькі тутэйшыя падданыя. Ты парушыў закон, а ў нас жа хапае гарачых шляхецкіх галоў, якія гатовыя па-свойму разбірацца з парушальнікамі, не звяртаючыся ў суд, што я нікольки не вітаю, наадварот, рабаўнікам – вісельня. Толькі ж яны не выяўленыя? Можа, сапраўды бадзяжныя казакі?

– Я ведаю – хто! – з выклікам адказаў канцлеру паручнік. – І ў мяне ёсць сведкі. Сваяк...

– Ну, сваяк, – недаверліва хмыкнуў Радзівіл. – Ён, вядома ж, будзе за цябе.

– Слугі, – паручнік, пакрыўджаны, угледзеўшы ў позірку Радзівіла зноў недавер і адчужанасць, дадаў: – А яшчэ – тамтэйшы бортнік манастырскі. Лясніčы мяне, параненага, схаваў ад расправы нападнікаў, а бортнік вылечыў, бо – знахар, якіх я не сустракаў.

– Не можна дакараць нашага зямяніна, хоць бы з якога іншага народа прыхадзень, што асеў на зямлі пад Чашнікамі, – голас у караля набраў рашучай цвёрдасці, бо яго вялікасць у тлумачэнні Радзівілам Статута Вялікага Княства адчуў абразу сваёй каралеўскай годнасці. – Я як вялікі князь даў зямельны надзел нашаму годнаму ваяру за добрую вайсковую службу і асабістыя паслугі немалыя. Я!..

– Твая вялікасць, – Радзівіл вырашыў за лепшае не ўцягвацца ў спрэчку з каралём, ды яшчэ ў прысутнасці слуг, – я не супраць, каб паслы сеймавыя пацвердзілі папраўку ў Статут аб асаблівым праве вялікакняскім даваць зямельныя грунты ва ўладанне таксама прыхадням з іншых краёў. У каго зараз служыш? – звярнуўся ён да паручніка.

– Пакуль шукаю да каго падацца, але гэта канчаткова вырашу, калі адбудзецца справядлівы суд над нападнікамі, – у голасе паручніка была рашучасць адчаю, бо адчуваў, што кароль не надта настроены ўступаць у спрэчку з полацкім памежным ваяводаю, якому таксама болей выгадна падтрымаць сваю мясцовую шляхту, чымся нязнатнага чужынца.

– Пойдзеш паручнікам у ахоўную харугву майго брата? – хутчэй загадаў, чым спытаўся згоды Радзівіл. І дадаў: – Тады твой надзел пад Чашнікамі, каб не доўжыць звягі, я са згоды яго вялікасці вазьму сабе, а ўзамен атрымаеш гэткі ж ці лепшы, ведаю я чашніцкія балоты і супесі, ля Нясвіжа. Падыйдзеш да майго служэбніка і дамовіцеся канчаткова. – Убачыўшы разгубленасць, але і радасны ківок згоды Гжэгажа Крука, схіліў сівую галаву, звяртаючыся да Жыгімонта Аўгуста: – Твая каралеўская вялікасць, то няхай будзе ўжо так?

Жыгімонт Аўгуст моўчкі згодна варухнуў далонню і дварэцкаму:

– Француза.

Дварэцкі дакрануўся да пляча паручніка, які ўсё яшчэ знаходзіўся ў нейкім здранцвенні:

– Ступай цяпер.

Задам, кланяючыся то яго вялікасці каралю, то Радзівілу Чорнаму, Гжэгаж Крук падаўся за дзверы. Следам дварэцкі. Калі выйшлі, ён сказаў Круку:

– Ну, з цябе магарыч. Сам пагавару са служэбнікам пана канцлера.

– Я буду ўдзячны табе, хросны, да скону, – з нізкім паклонам сказаў Гжэгаж Крук дварэцкаму. І скрыпнуў зубамі: – Але няўжо так і застануцца неадпомшчанымі нягоднікі?

– Чакай свайго часу, высочвай. І нікому не паказвай выгляду, што не забыў абразу, – на хаду павучаў дварэцкі.

Бліз каралеўскай бібліятэкі яны мінулі лекара Руперта Фінка і пана Масальскага. У тых аказаўся свой агульны клопат, і хіба толькі вядзьмак Твардоўскі мог бы дазнацца, што клопат той урэшце зачэпіць галоўнага сведку, на якога меў асаблівы спадзеў абражаны і абрабаваны Гжэгаж Крук. Такі вось ён, нерат лёсу, нябачны і бязлітасны. Бывае, і доўга чалавек жыве сабе, мадзее, аніяк не здагадваючыся, што пра яго ўжо недзе задумана, сілок сплецены, болей за год міне, калі ў ім тарганецца ў здзіўленні і адчаі кульгавы недарэка бортнік з лясной вёсачкі каля абкладзенага глухімі пушчамі і балотамі ціхага мястэчка Чашнікі.

– Хваліўся ты, пане, хваліўся, а не надта пастаралася твая дзеўка, каб улагодзіць яго вялікасць, – журыўся Руперт Фінк, паглядаючы на пана Масальскага так, быццам гэта яму ўласна не дагадзіла ўцехамі віленская паненка. – Я ж папярэджваў: лепей бы шляхцянку, тыя больш пекныя, простыя гараджанкі грубейшыя, і целам, і норавам, а яго вялікасць тонка здольны адчуць розніцу.

– І-і, пане, – пакрыўдзіўся Масальскі, – лекар ты выдатны, не адмаўляю, а ў жаноцкіх справах усё ж пянёк пяньком асінавым, калі такое вярзеш. Ды Марылька ж гэта такі смак, такі... дакраніся – і гатова, спёкся любы, што шляхцюк, што месціч, у дзеда старога і то ўзнімецца. Не, пане. А можа, ты яго вялікасці не тыя зёлкі даў?

– Спярша я на сабе зёлкі спрабую, – у сваю чаргу абурыўся лекар. – Дадзены быў яго вялікасці добры ўзвар з суцэльнага ласінага капыта. Ого як яшчэ дзейнічае!

– А, можа, лепей бы – бабровую струю? Ды з гарэліцай.

– Струю колькі разоў, – уздыхнуў заклапочаны Руперт Фінк. – Слімакоў неапалітанскіх даваў, малозіва каровіна, малады часнык, яйкі сырыя перапёлкі... Я ж адчуваю свой высокі абавязак: у хуткім часе нягодная жонка яго вялікасці памрэ...

– Памрэ?

– Дзіўлюся, што яна яшчэ ўвогуле жыве. Бедная, што ні ноч – прыпадкі. І якія цяжкія. А прыбярэ яе вялікасць Кацярыну Усявышні, – каралю ж неабходна хуценька ажаніцца наноў і мець сілу рабіць наследніка.

– Без наследніка – дзяржаве бяда, – уздыхнуў Масальскі. – Не прывядзі гасподзь, шукаць недзе новага караля.

– Спадзяюся, узвар з маладых рагоў аленя ў сукупнасці з новым французскім зеллем...

– А я так думаю, давядзецца пашукаць урэшце добрага знахара, – усумніўся спадзяванням лекара на французскія зёлкі надта дасведчаны ў такіх справах Масальскі. – Нядаўна была ў мяне размова з князем Лукомскім, дык той пахваліўся, ёсць у яго там у балатах, недзе каля Чарэі, вядзьмарка адна, мёртвага разагрэе на подзвіг.

– Фу! Толькі не вядзьмарка! – Руперт Функ азірнуўся наўкола спалохана. Але ніхто, здаецца, не прыслухоўваўся да іх небяспечнай гутаркі.

## 8. Зых Гуд трапляе ў нерат

Зых па мянушцы Гуд (а бортнік, згаданы Жалезнарукім, быў ён) і ў дурным сне ўявіць не мог, чым абернецца кароткая згадка пра яго ў палацы караля. Яму ж здавалася, што ў гэтай богам забытай вёсачцы ён нарэшце можа дажываць век спакойна. Вёсачка прытулілася адным бокам – праз балотца і хмызняк – да яшчэ адной, больш люднай – Іванска, а другім, з поўдня, падступала да звілістай даволі глыбакаводнай Улы, тады як з усходу за лесам, вёрст ужо ці не за дваццаць, было мястэчка Чашнікі, умацаванае земляным валам з драўляным замачкам. З заходу ж на яе насоўваўся не проста лес, а велізарная пушча з прыхаванымі азёрцамі, ручаінамі і такімі багнамі, у якіх, казалі, яшчэ не перавяліся розныя нячысцікі са старых часоў, аб чым сведчылі магутныя дубы на рэдкіх курганах і выспах, дзе заўсёды было кімсьці натаптана, а ўначы бліскалі таямнічыя вогнішчы. І лепей туды не совацца. А калі ўжо якая важкая патрэба, то ісці, папярэдне хаця б тройчы пераказаўшы “Ойча наш”, не лянуючыся пераражагнацца. А пасля яшчэ і гучна прамовіць “Ды ўваскрэсне бог і растачацца ворагі яго!” Зых помніў сваё, а ў моц новых, хрысціянскіх абярэгаў не надта верыў, хоць і быў не проста бортнікам, а як правільна сказаў Жалезнарукі, пчаляром манастырскім. І толькі адзін ён ведаў, што гэты яго выбар месца жыхарства і адпаведных заняткаў дзеля пракорму аказаўся звязаны з Жалезнарукім.

Даўно заўважана: уласнае аблічча добраму малойцу лепей не разглядаць, а бачыць хіба ў вачах сяброў ці жонкі, каб не здарылася якое ліха. Сяброў у Зыха даўно не было, жонкі таксама. А разглядаў, бо трэба ж нарэшце падкараціць адрослую за зіму бараду ды й валасы на галаве. Бо стаў, бы мядзведзь. А то лясун. Вяскоўцы між сабой яго іншым разам так і называюць, часцей жа – Гуд, па-тутэйшаму – мацёры воўк. Нехта – чубок, казак, бо стала ж неяк вядома, чым Зых займаўся раней на памежжы з Масковіяй. Яшчэ – вядзьмак, што ўжо небяспечна. За тое, што ўмее як ніхто ўпраўляцца з пчоламі, і за гэтую вось кадзь з вадой, у якую Зых углядаецца, бо думаюць – варожыць.

Не, Зых не варожыць, а вось такія-сякія замовы сапраўды ведае. Нешта ад бабулі, а многае ад суседа, Крывейты. Эх, эх, такой цяжкай смерцю загінуў стары вяшчун разам з яго, Зыха, дзедам у лясной вёсачцы пад Мсціславам! І бабуля загінула, і маці. І малы брат, Міколка, распяты варожымі стрэламі на дрэве пад буслiным гняздом. Бацька са сватам таксама, але хоць у змаганні, з нейкай зброяй у руках. Як успомніцца, дык у грудзях выбухне полымя нянавісці-роспачы! Здаецца, спапяліць самога. Таму спапяліць, што спадзяванне на помсту страціў. Адно – у думках час ад часу, калі ўжо надта пачынае смылець у грудзях, пасылае праклёны ваяводзічу Шуйскаму, ды надта ж той далёка недзе гойсае, наўрад ці даляціць слова Зыха.

Цыбарка з вадой стаяла ў густым ценю пад самым плятнём, а твар Зыха, наадварот, асвятляла і грэла сонца позняй раніцы, адчувалася: бярэцца дружная вясна. Можа, заўтра ці яшчэ праз ноч пчолы з борцяў выйдуць на першы аблёт, завіхурацца, весела замітусяцца перад сваім гняздом, а ён стане побач, убіраючы ў сябе іх радасць і імпэт жыцця: мінула цяжкая зіма, выжылі! Да гэтай доўгачаканай нагоды і рыхтаваўся Зых, бы да свята. Адна-

вяскоўцы гэтак рыхтаваліся да першага веснавога наведвання манастырскай царквы ў Іванску, а ён – да борцяў, назіраць аблёт пчол. Напаленымі ў печы камянямі нагрэў вады ў бочцы з назапашаным летась бярозавым веццем, увесь памыўся, надзеў чыстую вопратку, цяпер настала чарга ўпарадкаваць валасы, каб не раздражняць імі пчол, таму і зазіраў у цыбарку.

Падкараціўшы бараду і вусы, узяўся падразаць валасы над ілбом, але так, каб усё ж заставаліся пасмы над левай пустой вачніцай. Ён так і не прызвычаіўся спакойна ўспрымаць гэтую шызую з ірванымі краямі баразну праз брыво ўніз да шчакі – след шабельнага ўдара маскоўца яшчэ пад Мсціславам, тады, калі і загінула яго сваяцтва, і разумеў тых, каму здаралася разглядаць яго твар. З падобнай агідай і нават жахам, здавалася Зыху, глядзелі толькі на кляймёных калёным жалезам злодзеяў і рабаўнікоў, тыя напускалі на лоб валасы, каб прыхаваць ганебную мету, але і яму не хацелася паказваць сваю, а не заўсёды ж будзеш хадзіць у насунутай на вочы шапцы. Начэсваць на лоб валасы лясныя людзі пазбягалі яшчэ і таму, што гэта вяло да сустрэчы з ваўком. І сапраўды – Зых з ім такі сутыкнуўся, ды не з адным.

З аднавяскоўцамі было складана, але для сябе Зых ужо даўно ўспрымаў сваё калецтва як належнае, як расплату за непаслушэнства, якое прывяло да такіх страшэнных наступстваў для яго блізкіх. Крывейта ж папярэджваў: не бяры ў жонкі маскавітку, абавязкова забі чужынца, які высачыў тваё гняздо. А Зых пашкадаваў чалавека: то ж быў аднавясковец яго нявесты, хоць і супернік, не хацелася азмрочваць вяселле забойствам. Атрымалася ж – пашкадаваў гнюсь, якая і навяла рабаўнікоў і забойцаў на ўсю вёску, пір свой крывавы ўчынілі людзі ваяводзіча Шуйскага на яго вяселлі. А жаніху памятны падарунак вось гэты – шабляй па чэрапе. Так ад таго захмялеў – і не ачнуўся б, ды ўжо, відаць, ці не з нябыту голас маці паклікаў: уставай, гукала, ачуняй, рабіць трэба. Маці не заклікала помсціць, ды і ён не думаў, ачуняўшы, што на такое будзе здольны, а вось урэшце і аказалася – нямздольны-такі.

Хоць калі апынуўся на памежжы на чале казацкай ватагі і дастаў клінком ці не з паўтузін маскоўскіх дваран, вельмі стаў спадзявацца, што аднойчы і да Шуйскага дабярэцца, няхай і высока, пёс, узляцеў, ужо не памежную зграю галаварэзаў ачольваў, вялікім царскім войскам ваяводзіў. Ды цяпер застаецца адно – слаць праклёны нямоглага калекі.

Зых міжволі ўзважыў на далоні такі паслухмяны ў яго руцэ нож старога Крывейты. Запомніўся гэты клінок маскоўцам памежжа. І сам ён запомніўся. Ды яшчэ быў такі прыкметны – з пасечаным крывым тварам. Урэшце за ягоную галаву маскоўскім памежным ваяводаю была абвешчана нават плата. І нехта ж урэшце паспрабаваў яе атрымаць, не так сабе яго ватага патрапіла ў хітрую засаду.

Бараду падрэзаць яшчэ карацей, пчолы не любяць лохмы. Ён бы ўвогуле паспрабаваў пагаліцца, але патрэбны надта тонкі і востры ножык, такі ў Чашніках паабяцаў яму здабыць крамнік. Хаця не, нельга асабліва адрозніваццa ад аднавяскоўцаў.

Трывожна крыкнуў певень, яго падтрымалі куры, разбягаючыся па двары хто куды. Так рана каршук? Тхор? Лісіца?

Зых уздрыгнуў, убачыўшы ў вадзе выяву збройнага чужынца.

Павярнуцца не паспеў, яго схапілі спрактыкавана, за абедзьве рукі.

Як ён не ўчуў нападнікаў! Праўду кажуць, шкодна надта ўжо ўглядацца на самога сябе.

Зых імкліва ўскочыў, рэзка таргануў рукі ўніз і адначасова садануў аднаго нападніка галавой, другога локцем пад дых. Сілу ён яшчэ меў і казацкі спрыт таксама застаўся, значыць. Рывок да плятня, развярнуўся, правую руку з нажом перад сабой, левай, не гледзячы, зноў так штурхануў нападніка, які ачомаўся першым, што той ледзь утрымаўся на нагах, але ўтрымаўся, пёс. Гучна заквахталі спалоханыя куры, на двары суседа Смаляка забрахаў сабака.

Другі нападнік адскочыў падалей сам. Правай рукой ён пяражагнаўся, а левай наставіў шаблю на Зыха.

– З намі хросная сіла! Выпусці з рукі нож, чортаў вядзьмак! – крыкнуў ён са страхам у хрыплым голасе.

Нападнікі маладыя, відаць, дужыя, абодва ў аднолькавых скураных калетах з круглымі меднымі бляхамі на грудзях. Каб хацелі забіць, не хапалі б за рукі, а секанулі ззаду. А маглі заарканіць, дурні, калі ён ужо спатрэбіўся ім для нечага жывым. Няўжо за яго галаву ўсё яшчэ нехта гатовы заплаціць? Але за жывога, каб пакараць прылюдна на гарадскім пляцы?

– Выпусці нож, сказана!

На такой блізкай адлегласці аднаго ён здолеў бы супакоіць, імкліва шпурляць нож налаўчыўся даўно, патрапіў бы ў шыю. Уцячы вось няма як з пакалечанай нагой.

– З намі хросная сіла! Апошні раз кажу: выпусці долу нож і стань на калені, а то адсяку руку!

Зых шумна выдыхнуў праз сцятыя зубы, адкінуў нож і нязграбна, абапіраючыся рукой аб лавіцу, стаў павольна апускацца на адно калена.

Нападнікі падскочылі, зноў ухапілі Зыха за рукі, заводзячы іх яму за спіну.

– Стань на калені, бадай, не шляхціц перад ваяводаю, – ужо ўпэўнена, гулліва-пераможна сказаў нападнік, перад тым так удала адкінуты кулаком Зыха. Тонкія губы ў яго знявечаныя шызым шнарам, не хапае аднаго ці двух пярэдніх зубоў, таму шапялявіць, адзначыў Зых, вусы тонкія, віслыя, падбародак паголены і таксама пазначаны шнарам, ужо бела-ружовым, навейшым – ваяр.

У другога нападніка мелася і барада, кароткая, затое вусы шырэйшыя, таксама апушчаныя ўніз, з пушыстымі кончыкамі. Абодва, падобна, не проста вайскоўцы, а шляхціцы. Ого!

Не дачакаўшыся, каб Зых падпарадкаваўся, барадаты нападнік моцным штуршком паваліў яго, затым абодва завярнулі яму рукі за спіну і спрактыкавана сцягнулі вяроўкай. Звязалі і ногі, і толькі затым, падхапіўшы пад пахі, рэзка ўзнялі.

– Стаяць!

Безбароды падняў Зыхаў нож, паспрабаваў пальцам лязо. Зыха гэта занепакоіла. Няхай з ім самім будзе што будзе, а нож яны не атрымаюць, спатрэбіцца малому.

– Лепей, пане, табе яго не чапаць, бо паганскі, загавораны. Памерлы стары вядзьмак сочыць за ім з таго свету, не будзе табе ад нажа карысці, – прамовіў Зых як мага спакайней.

Безбароды, скрывіўшы губы, непрыязна зірнуў на Зыха.

– І табе ён ужо без патрэбы, – сказаў, ужо насцярожана аглядаючы клінок і яўна ў роздуме, што з ім рабіць.

– Укінь яго, пане, у хаціну, – прапанаваў Зых.

– Халупу патрэбна б спаліць, гняздовішча паганскае.

– Паліць – справа няхітрая, і ёлуп справіцца, пабудаваць паспрабуй, – агрызнуўся Зых.

– Ага, згарыць і суседская, а як вецер – уся вёска ў попел, – барадаты злёгку таўхануў Зыха ў плечы. – Пайшоў з двара!

Не казакі. І не маскоўцы, тыя б дзейнічалі іначай і не пасярод белага дня, нікога, здаецца, не баючыся. Але ўсё адно чамусьці ворагі. Каб не прыніжацца тлумачэннямі, Зых паспрабаваў ісці, таргануўся ў путах, страціўшы раўнавагу, пахіснуўся і бездапаможна пачаў валіцца набок.

– А каб цябе ваўкі! – Барадаты ўхапіў Зыха ў абдымкі, паставіў на ногі. – Ідзі, не прыдурвайся, а то ў каршэнь.

– Як жа яму ў путах, калі нага скалечаная? – раптам пачуўся спалоханы, але гучны жаночы голас знадворку.

Нават Зых здзівіўся, не толькі нападнікі. Ля невысокага плятня стаяла яшчэ маладая, але ўжо змарнелая жанчына з дзіцем на руках і то спачувальна дзівілася на Зыха, то збянтэжана на нахабных чужынцаў. Анісея, суседка, жонка смалакура, якому і такое прозвішча было – Смаляк, а Зых лічыў яе ці не самай ціхмянай кабетай у вёсцы.

Сляза раптам затуманіла позірк – ад прыкрай прыніжанасці, але і ад нечаканай падтрымкі.

– Нага? – Галабароды нарэшце са шкадаваннем кінуў-такі нож пад парог хаціны. – Што, на вядзьмарскім шабашы, за чартоўкай улягаючы, паслізнуўся? Га-га-га! – зарагатаў з уласнага жарту.

Барадаты таксама хіхікнуў, бы скіс. Галабароды ж прысеў і абмацаў Зыху ногі. На левым калене яго хваткія пальцы затрымаліся. Імгненне павагаўшыся, падцягнуў уверх штаніну.

– О! – пацокаў языком і знізу ўверх зірнуў на Зыха. – Чым гэта цябе так?

– Куляй, – буркнуў Зых.

– Бач ты: па галаве атрымаў ці не шабляй, нагу ледзьве не адарвала куляй. І чыёй жа?

– Маскавіцкай.

– Ага, мы й паверылі, – коратка рагатнуў Галабароды. – І шабляй тады ж?

– Шабляй на чатыры гады раней.

Галабароды ўзняўся, уважліва агледзеў Зыха, нечакана твар яго палагаднеў. – Пад чыім сцягам быў у войску?

– Сам па сабе, – Зыху было ніякавата за сваю слязу, і ён, адвярнуўшы твар ад нападнікаў, глядзеў на дзіця на руках Анісеі, быццам са сваім родным развітваўся. А можа, так і было, бо...

– Значыць, казакаваў, рабаваў. – Зыха ажно пеканулі грэблівыя словы Барадатага, які не спытаў, а сцвердзіў, быццам ісціну.

Тым не меней той нахіліўся і пачаў разблытваць палоннага.

– Помсціў, – сказаў Зых, зноў гледзячы на малога на руках Анісеі. – Ведаю, простаму чалавеку законам такое забаронена. Ці ж не таму вы па маю душу і завіталі.

Узняўшыся, Барадаты шпурнуў вяроўку пад сцяну хаціны і запытальна паглядзеў на свайго таварыша.

– Ідзі са двара! – загадаў той Зыху, і твар яго бы знерухомеў у рашучасці.

Сцяўшы зубы, Зых яшчэ раз зірнуў на жанчыну і дзіцё, ужо развітальна, і паклыпаў на вуліцу, калі так можна было назваць той прагал у сухім

мінулагоднім быльнягу, скрозь які рэдкія тут вазы і прахожыя пратапталі сякую-такую дарогу, бо ніякіх пабудоў блізка не стаяла, а толькі праз вялізную лужыну, падобную на балотца, – там і чародка качак целяпалася.

Ужо абмінуўшы пляцень, Зых заўважыў, што Барадаты застаўся на падворку, аглядаючы, а потым і ўвогуле падаўся ў хаціну.

"Няўжо, ваўчына, учуў малога?"– устрывожыўся Зых. Знешне ён нічым не выдаў трывогі і нават не зірнуў, чаго гэта зноў запалошна закрычаў певень. Што ж, будзе як будзе, нічога тут не пераменіш. Зых прывык пры хадзе абапірацца на дубец, кульбу, таму непрыемна для сваёй годнасці хістаўся, яшчэ ж і рукі звязаныя, але што каму патлумачыш.

Толькі зараз Зых заўважыў, што воддаль, ля самай лужыны, стаяў вазок, запрэжаны буланым крутабокім конікам, а побач таптаўся яго гаспадар, Рудзяк, старац, галава вёскі. Яшчэ два кані, рослыя, асядланыя, старац трымаў за аброці.

– Сядай на калёсы! – загадаў Галабароды.

Зых узяўся за драбіны і азірнуўся на суседку. Тая стаяла на ранейшым месцы, разгублена-спалоханая, паціху пагойдваючы на руках дзіцё, а побач з'явілася дачушка, дзяўчынка гадоў чатырох, Зых дакладна не памятаў, асабліва не звяртаў увагі на суседскіх дзяцей, нават калі ў яго самога з'явіўся Міколка. Дзяўчынка адной рукой чаплялася за спадніцу маці, а другой паказвала ў бок Зыха і яго нападнікаў, аб нечым пытаючыся. Наперадзе, на ўзгорку сабралася маўклівая купка вяскоўцаў, у асноўным жанчыны. Падобна, усе спалоханыя, на цёмных тварах некаторых Зых заўважыў спачуванне. Што ж, ён нікому не зрабіў тут шкоды, а некаторых лячыў як умеў: каго зёлкамі, каго суцяшаў-падбадзёрваў добрым словам, ого, як гэта бывае дарага чалавеку ў няшчасці. А вось у позірку старца ці не зламыснасць.

Зых паспрабаваў узлезці на вазок. Не надта атрымлівалася са звязанымі рукамі. Галабароды пераняў у старасты коней і сказаў, кіўнуўшы на Зыха:

– Дапамажы яму.

Стараста паслухмяна ўчапіўся ў Зыха, таўхануў на вазок.

– Рукі лепей бы вызваліў, – не вытрымаў Зых здзеку.

– Не мой тут загад, – стараста перарывіста соп, уладкоўваючы ногі палоннага.

– Ты і без рук здольны нарабіць клопату, – Галабароды назіраў, крывячы губы. – Яшчэ дасі знак які нячысціку. – Гэй! – гукнуў ён у бок хаціны Зыха. – З'язджаем! – спрытна сеў на каня і паражагнаўся, кажучы: – З намі хросная сіла! З намі хросная сіла!

З двара Зыха паспешліва выйшаў Барадаты. У руцэ нёс нейкую адзежыну.

– Пакінь мне свае борці, а я за цябе малебен замоўлю, – ціха звярнуўся да Зыха стараста, цяпер ужо ласкава ўсміхаючыся. Левай рукой ён напружваў новыя пяньковыя лейцы, правай хрысцячыся.

У лёгкай апратцы, Зых, скурчыўшыся ад пранізлівага ветру, не адказваючы, спадылба сачыў за сваім падворкам.

Нібы разгадаўшы яго таемныя невясёлыя думкі, стараста, па-ранейшаму лагодна ўсміхаючыся, дадаў:

– Малебен само сабой і, гэта, за малога не перажывай. Калі не забяруць з табой, а могуць, дазнаўшыся, я вазьму яго ў сваю сям'ю, то ж лепей, чымся ў манастыр служкаю. Ахрышчу як мае быць.

– Міколка ахрышчаны, крыжык на шыі мае, – Зых з усяе моцы

стрымліваўся, каб не нарасталі злыя пачуцці да Рудзяка. Грудзі яго і так ірваў дзікі адчай. Пра што ціхенька перамаўляюцца, паглядаючы на яго хаціну, нападнікі, няўжо ўнюхалі Міколку?

– У лесе, ля дуба ахрышчаны твой малы, – бубніў сваё Рудзяк. – Ты ж ведаеш, што ў вёсцы пра яго кажуць, і адкуль ты яго прыдбаў. Жонку ж у цябе ніхто не бачыў, і раптам – дзіцё.

Небяспечнае плявузганне, ад бездапаможнасці Зых што ёсць сілы ўціскаўся патыліцай у сена, каб не ўчапіцца ў Рудзяка зубамі, калі ўжо рукі звязаныя. О, каб яму цяпер вядзьмарскае ўмельства!

– Была ў мяне жоначка, – выдыхнуў Зых. – Маскоўцы бліз памежжа ля Оршы наскочылі, калі сюды дабіралася, паранілі, а неўзабаве памерла.

Гэта было амаль праўдай, а таму і казаць было лёгка. Бо так Зых адчуваў, ажно ўрэшце перакананаў сябе самога: памерла.

Такое адчуванне аднойчы працяла яго каля Себежа ў часе крывавай вандроўкі ўсцяж памежжа з Масковіяй. Меў ён тады намер дайсці да Вялікага Ноўгарада. Спачатку думаў пра Пскоў, але напарнік, які далучыўся да яго ля Дрыбіна, пераканаў: варта дабірацца да Вялікага Ноўгарада, калі хоча што-небудзь дакладна дазнацца пра ваяводзіча Шуйскага і захопленых ім у палон мсціслаўцаў, у ліку якіх і аказалася маладая жонка Зыха. Там самы вялікі рынак і туды сцякаюцца не толькі тавары, але і звесткі як з Інфлянтаў, інакш – Лівоніі, так і з Масковіі.

Сам напарнік меў намер урэшце падацца ў Інфлянты, во дзе народ жыве багата, таму можна і сваю здабычу добра прадаць. Таксама выгадна наняцца ў ахоўнікі да якога барона, а то ў войска. Ля Оршы гэткіх казакаў прыбілася яшчэ пяцёра, кожнаму палец у рот не кладзі, Зыху не так проста было прывучыць іх падпарадкавацца, даводзілася і за нож брацца ў двубоях за атаманства. І нож Крывейты быў у руках Зыха бы замоўлены.

Усцяж памежжа гойсалі казацкія зграі іншых атаманаў, але ягоная займела асаблівую славу, бо смела налятала не толькі на асобных маскавіцкіх стральцоў і дваранаў, а і на вайсковыя абозы. Таму за галаву Крывога Гуда, як Зыха празвалі, урэшце і была абвешчана ўзнагарода.

Гойсаючы са сваімі казакамі ўздоўж памежжа з Масковіяй, Зых дзівіўся і шкадаваў, што такія, аказваецца, велізарныя прасторы ўсцяж памежжа ляжаць не асвоеныя земляробамі, бязлюдныя з-за хцівых бясконцых нападаў маскоўцаў. І колькі костак людскіх ды чарапоў адгарадзілі ўрэшце Масковію ад Вялікага Княства! На памежжы, бадай, нават рэкі і тое ўтварыліся ад слёз чалавечых, а начамі ці не стогны ахвяр нявінных чуюцца ў лясах і над велізарнымі запусцелымі абшарамі. А калі даводзілася часам адбіваць у маскоўцаў запалоненых імі тамтэйшых мірных насельнікаў, то чуў Зых столькі ад іх аповедаў пра здзек з іх, што ўспамінаючы пра сваю захопленую зграяй Шуйскага ды царскага дваранііна Сукіна прыгажуню мілую жонку, ужо не пра сустрэчу з ёю стаў марыць, а зубамі заскрыгатаў, мармычучы:

– Усявышні, ты не абараніў нявінную і мне перашкодзіў тое зрабіць, дык хоць не пакінь у жывых, дай ёй лёгкую смерць. Дай ёй лёгкую смерць, і каб я пра тое дазнаўся, і я ўкленчу перад тваім абразам у царкве і прызнаю, што ты ўсё ж міласэрны.

Зых колькі разоў паўтараў гэтую сваю малітву, задзіраючы галаву ў раўнадушнае бляклае вечаровае неба, а то і ноччу, калі не спалася і трэба было правяраць ахову, бо, успамінаючы аповеды вызваленых яго казакамі палонных, жыва ўяўляў, ох, як яскрава! – што ўжо выпала на долю жонкі і што яшчэ выпадзе, калі яшчэ застаецца жывая.

– Дык, божа, – прасіў Зых, – спыні яе пакуты, вазьмі яе чыстую, такую ясную душу ў свае райскія сады, калі яны ў цябе сапраўды ёсць і калі ты яшчэ не зусім страціў шкадобы да ні ў чым не вінаватых, а наадварот, добрых людзей, якія табе да таго ж гэтак шчыра маліліся, і я, я таксама, ты ж павінен памятаць. І хіба ж я не цалаваў у знак паслухмянства твой крыж, ці ж не стаяў (шчыра, самахоць!) на каленях пакоры перад святаром, табой прызначаным. Ужо не кажу пра тое, што ты дазволіў учыніць зграі ваяводзіча Шуйскага з тым Сукіным над тваім служкаю-святаром. То хоць цяпер дай смерць лёгкую маёй жонцы бязвіннай!..

## *У зерцале Твардоўскага*

*Але Наста, жонка Зыха не загінула, як таму хацелася думаць, калі яе заарканілі маскоўцы. А вось усё астатняе, як Зых і меркаваў, аказалася падобным на становішча ўсіх маладых жанчын Беларусі і Украіны, крыху пасля – Інфлянтаў, якіх так многа з прагнасцю захоплівалі ў палон ісцінна праваслаўныя браты па веры і крыві з Усходу. Ды яшчэ цягнучы з сабой не меней прагных памагатых з ліку ардынцаў – татараў розных улусаў, чарамісаў, мардвы, уйгураў і ўсіх астатніх, хто перад тым сам трапіў у маскавіцкае ярмо, але ж затым пагадзіўся служыць захопніку збройна, у сваю чаргу дапамагаў агнём і мечам нішчыць і палоніць суседзяў. Наста, маладая жонка Зыха, стала забавай для маскавіцкіх ратнікаў. Спачатку па праву першаздабытчыка ёю цешыўся крываногі і плоскатвары дзесятнік-ардынец, потым дзеўку ў яго адабраў кастрамскі дваранін, а нацешыўшыся, прадаў, выгадна, абмяняўшы на рыжага каня-гадавічка, стралецкаму сотніку з Таржка. А пасля ўжо ласаваўся яе целам зноў ардынец, а ў дадатак зарабляў, прадаючы на ноч-другую сябрам і знаёмым. І калі пад сэрцам у Насты варухнулася дзіця, яна ўжо нават прыблізна не змагла б вызначыць – ад каго панесла. Адно спадзявалася – спыніцца гвалт. Ды памылілася: Масква ў чарговы раз задобрывала крымчакоў, каб тыя зноў ваявалі Украіну ды Белую Русь з Літвой, таму рыхтаваўся адпаведны падарунак: вазы каштоўнай сібірскай пушніны, сундукі золата, а яшчэ тысячы маладых хрысціян, у тым ліку асобна – прыгожых жанчын, захопленых у Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім ды Жэмайцкім. Палонных пешкі гналі да Чорнага мора, а там бы скаціну пакавалі ў карабельныя трумы, каб везці на базар у Турцыю, і Наста маліла пана бога свайго ўжо аб адным – аб смерці.*

*Далей у Зерцале віднелася толькі бясконцае хвалістае мора. Бы ў Патоп.*

– Анісея, – звярнуўся Зых да суседкі, якая па-ранейшаму так і стаяла, бы зачараваная, разгубленая і спалоханая. – Анісея, чуеш? Запомні: калі што са мной... Ну, не вярнуся, падтрымайце малога, пакуль крыху не падрасце.

У суседкі бліснулі слёзы.

– Ды ўжо ж, – выціраючы вочы рогам хусткі, ціха адказала яна. – Як мы, так і ён.

– Дык калі не вярнуся, возьмеце сабе мае борці, яны пазначаныя асобна ад манастырскіх, – ужо гучней прамовіў Зых і павярнуў твар да натоўпу вяскоўцаў, які хутка стаў прыкметна гусцейшым. – Возьмеце таксама іншае маё – і што ў хаце, і курэй з казой. Людзі добрыя, будзьце ўсе сведкамі. Нічога майго нікому іншаму.

– Ніхто і не возьме вядзьмарскае, – адгукнулася з натоўпу Марута,

жонка крывога Аверкі, баба языкастая і чырванатварая ад пастаяннай зайдрасці да чужога дабрабыту. – Усё трэба спаліць.

У Маруты знайшліся прыхільнікі, але былі і тыя, хто Зыху спачуваў, а Гучок, дзяцюк моцны і з твару пагрозлівы, той увогуле моўчкі даў ёй ладнага кухталя.

Непакоіў Зыха стараста: зіркнуўшы з нейкай патаемнай зламыснасцю, той падыйшоў да нападнікаў і амаль шэптам пачаў іх у нечым ці не пераконваць, паказваючы то на палоннага, то на яго хаціну.

Галабароды, – ён, падобна быў начальнікам, – выслухаўшы, важка прамовіў, паціскаючы плячыма:

– Пра шчанюка загаду не было... Паехалі!

Стараста зноў забубніў сваё, але марна. Барадаты падаў яму сярмягу і шапку, сказаў, паказваючы на Зыха:

– Накінь на яго... і ў дарогу! – сцебануў буланага старасты кароткай плёткай: – Нэ-э!

Стараста незадаволена, але выканаў загад. Сіпла выгукнуў:

– Нэ-э!

Калымага тарганулася, мякка стукнулі колы, адольваючы каляіну. Буланы ў роздуме прыпыніўся перад вялізнай лужынай.

– Нэ-э! – ляснуў стараста вожкамі. Пад конскімі капытамі і коламі забулькатала мутная вада.

Вершнікі раздзяліліся: Галабароды наперадзе, яго таварыш следам за калымагай.

Толькі даволі нядбайна ўкрыты сваёй старай, але яшчэ надзейнай сярмягай, Зых адчуў, як акалеў, і яго ўрэшце затрэсла. Зых як мага скурчыўся.

Куды ж яго вязуць? Каму гэта спатрэбілася? Ці ведае стараста? Вось жа падпарадкаваўся і стаў возчыкам, асабіста, а мог некаму даручыць. І адкуль ведае, што Зыху не вярнуцца?

Ягоная хаціна ўсё аддалялася, аддалялася, прылепленая да гэткай жа, але больш замшэлай, старэйшай, смалакура Івашкі, яму, калі што, і застанецца, добра, бо лепей, можа, дагледзяць Міколку.

Калісьці ён угнездаваўся ў гэтай вёсцы хутчэй таму, што сама бліжэй было да маёнтка пана Гжэгажа, а цяпер вось пакідае быццам і родную. І людзі ўжо нібыта не чужынцы, амаль кожнага тут ён можа пазнаць здалёк, прыкмеціў, хто на што здатны. Сам ён хацеў сябраваць з усімі, але па нейкай прычыне некаторыя, адчуваў, ставіліся да яго насцярожана, а то і з прыхаванай, праўда, варажнечай. А іншыя дык і пабойваліся, чутку пусцілі – з лесавіком сябруе, з нячыстай, паганскай сілай.

І на Міколку сіпелі: ваўчок. Эх, як яму будзе аднаму і такому малому! Ды яшчэ ж і дзёрзкаму норавам. Немагчыма было прывучыць яго хаця б мацнейшым за сябе аказваць пачцівасць, няхай прыдурваючыся, гэта ж мудра. Не! Вось жа, казаў малому, ты ваўкоў паважаеш, а ў іх як: слабейшыя і маладзейшыя паважліва падпарадкоўваюцца мацнейшаму і ў яго вучацца. Дык у адказ:

– А ваўкі слухаюцца мяне.

Было ад чаго занепакоіцца. Перасцярог малога:

– Толькі ж нікому не балбатні гэткага. Ці мала што нядобрыя людзі яшчэ выдумаюць.

– А яны ведаюць.

Паспрабаваў усё ж ссадзіць малога з аблокаў на зямлю:

– Балбочуць не ведаючы. Адзін ваўчок цябе слухаецца, гэта праўда.

– Вырасту, будуць усе.

Давялося не раз і не два вяртацца да таго, хто, як, каму і чаму падпарадкоўваецца, параўноўваць парадкі ў ваўчынай зграі з чалавечым табарам, дзе адносіны адзін да аднаго куды хітрэйшыя. Яшчэ казаў пра пчол, жыццё якіх мог назіраць бясконца. Але ці паспеў Міколка сваім дзіцячым розумам нешта засвоіць. Эх, малы, малы! Можна было, вядома, іншым разам вучыць папружкай, як яго самога калісьці бацька, але шкадаваў небараку. Ды й не хацелася гадаваць яшчэ аднаго слабага духам, іх і так мноства.

Адразу за апошняй хацінай вёскі ледзьве заўважная дарога вужакай уцягвалася ў густы ельнік. Пад конскімі капытамі захлюпала вада, месца нізіннае, падсохне хіба да Купалля, да сярэдзіны лета, калі не лінуць дажджы. З правага боку скрозь альхоўнік з рэдкімі зноў жа ёлкамі праглядаўся нізінны лог, за ім цьмяна выблісквала рэчка, Ула. Дарога была адна і вяла яна ў Чашнікі.

Коні зафыркалі, стрыглі вушамі, іх нешта непакоіла. Рысь? Ваўкі?

– Ды паганяй жа! – нягучна, але ўладна загадаў старасце барадаты ахоўнік.

Яго таварыш наперадзе азірнуўся, дадаў, выскаляючыся ва ўсмешцы:

– Не спі!

Стараста страпянуўся, прыўзняў локці і ляснуў лейцамі па крупу буланага. Яшчэ.

– Нэ-э!

– Пугі не шкадуй, пугі! – ззаду раіў Барадаты.

– Дык жа грузка, пане, – стараста азірнуўся, глядзеў пакорліва, але ў той жа час у ягоным позірку хавалася змрочная ўпартасць. – Каб не ўлезці ў багну, у мяне колы старыя.

– Паганяй, паганяй! – Барадаты ляснуў бізуном паверх калымагі, да каня не сягнуў, а збочыць з дарогі, каб падабрацца бліжэй, не захацеў, гразка і галіны дрэў блізка навісаюць.

– Нэ-э! – гундосіў возчык і зноў некалькі разоў ляснуў лейцамі па кані, не пугай. Конік узбадзёрыўся, але ненадоўга, колы часцяком заглыбляліся ў вязкі глей па ступіцы.

Зых варушыў пальцамі рук, каб канчаткова не анямелі, звязалі яго моцна. Іншым разам, калі асабліва даймаў холад, перакотваўся з боку на бок. Напхаць бы пад адзежыну сена. Добра хоць Барадаты (Зых адзначаў гэта быццам прозвішча ахоўніка) здагадаўся прыхапіць у хаце сярмяжку. Значыць, вязуць некуды не блізка, але Чашнікі ім будзе аб'ехаць няпроста, а там раптам нешта ўдасца. Прыкладам, перадаць звестку пану Васілю ў Цяпіна. А раптам той сам у мястэчку па якой справе. Спадзяванні, вядома ж, марныя, ды нечым трэба цешыцца, пакуль жывы.

Дык што за людзі яго некуды вязуць? Чаму ім падпарадкаваўся сам стараста вёскі? Не здагадацца, не ўмее Зых варажыць. Ад таго, што з ім так нечакана адбылося, стала буркатаць у жываце. Трэба ж: загледзеўся на сябе бы дурань – і гатова, у нераце. Звычайна ж ён старонняга чуе здалёк, зблізу – і носам унюхае. Заўважыў бы хоць за колькі крокаў – слізгануў бы ў патаемную нару за ачагом, а адтуль у калючае кустоўе і залёг лісіцай. Магчыма, малы так і зрабіў. Барадаты нешта западозрыў, таму і падаўся ў хаціну, не дзеля ж сярмягі, адзежына трапілася на вочы і ўспомніў, што на двары яшчэ халадэча. Такое адчуванне, быццам нехта за калымагай цікуе з лесу. Каб не ўздумаў малы: яшчэ пападзецца ж.

Як сілы таемныя распарадзіліся: нібыта выпадкова заўважыў у Чашніках

нявесту нейкага паручніка-паляка – і вось пацягнула за ёй, бы зачараванага. А не патрапіў бы пад Іванск, не было б у яго Міколкі, і не ўявіў бы сабе нават, што недзе ў лясных нетрах нейкі безыменны малы стаў здабычай ваўкоў.

Зноў палахліва фыркаюць коні, а насычаная вадой зямля чвякае і чвякае пад капытамі, парыпваюць сёдлы, глуха пастукваюць, трапляючы на карані дрэў, колы, везучы запалоненага Зыха ўсё далей ад вёскі, у якой ён ужо збіраўся і скончыць існаванне зямное, разумеючы, што пастаўленай ім для сябе мэты помсты за зло вышнія сілы чамусьці ўспрацівіліся.

## 9. Прозвішча пана – Цяпінскі

Іншым разам Зых ужо і шкадаваў, што паддаўся слабасці, калі ўвесь паранены, губляючы прытомнасць, уцякаў ад пагоні, а не сустрэў ворагаў з суліцай наперавес і з верным пулгакам. Абедзвюма рукамі ён пістоль утрымаў бы, і яшчэ аднаго зладзюгана адправіў на той свет. Хоць гэта і было б, канечне, не тое, чаго прагнулі душы яго родзічаў, дзяды. Душа маці, Зых адчуваў, не патрабавала помсты, а вось голас жонкі не аднойчы заклікаў: “Вызвалі!”, а праз некаторы час толькі адно: “Забі! Забівай! Спальвай усё!” Пра вызваленне ўжо не прасіла. Тады Зых і вырашыў, што Наста разам з дзядамі, Усявышні ўчуў-такі яго маленне.

Магчыма, у чарговы раз згубіўшы прытомнасць, Зых і зваліўся б урэшце пад конскія капыты, каб яго не падтрымліваў таварыш. Астатнія з ватагі, прарваўшыся скрозь засаду, сыпанулі хто куды, а той усё трымаўся побач. Маскоўцы ў запале і нахабнасці працягвалі пагоню і сягнуўшы праз мяжу Вялікага Княства. Што ім мяжа, пазначаная толькі падгнілымі слупамі, але без збройнай аховы!

Спынілі іх урэшце забалочаныя лясныя нетры, дзе прасоўвацца можна было толькі па вузкіх звілістых звярыных сцежках і лёгка нарвацца на засаду ці трапіць у прыхаваную ваўчыную яму.

У лесе ён канчаткова згубіў прытомнасць. Ачнуўся ўжо ў цёмным будане. Таварыша побач не аказалася, а пільна разглядаў яго, як Зыху падалося, драпежна, нейкі стары. І нічога іншага не заставалася, як ляжаць пластом на бярэмцы яловага лапніку, хапаць асмяглым ротам дымнае паветра і бездапаможна чакаць свайго далейшага лёсу: ці ўсё ж дабяруцца да яго маскоўцы, ці сам урэшце акачурыцца. Нясцерпным болем пранізвала левы бок, пякло ля вуха і, здавалася, нейкі люты звер угрызаўся ў нагу, пачынаючы ад калена. Трэба ж: і ў часе ўцёкаў балела моцна, але нават губляючы прытомнасць, ён усё адно ўчэпіста ўтрымліваўся ў сядле, а вось разлёгшыся, ужо, здаецца, не ў стане паварушыцца. І сапраўды, спроба сесці і ўсё ж агледзець рану на назе скончылася тым, што пасля выбуху рэзкага болю, ён праваліўся ў цемру бяспамяцтва. Правальваўся ўсё глыбей, глыбей, як калісьці ў лесе пад Мсціславам ад шабельнага ўдару маскоўца. Нябыт спачатку палохаў, але ён жа суцішаў боль, і ўрэшце ўжо з-за чакання, што яна адновіцца, не надта імкнула ачуньваць.

Ды тут зноў голас, той жа, імгненна пазнаны:

– Сынок, пара, дзіцятка, уставай!

Дзеля чаго?! Калі тады, пад Мсціславам, Зых ведаў сваё далейшае прызначэнне, то што ягонае жыццё зараз? Якраз напярэдадні, у Веліжы варажыла яму тамтэйшая вядзьмарка, шукала па белым свеце ягоную жонку – і не знайшла. “Відаць, яна ўжо з дзядамі і, не ўгневайся, саколік,

там цябе чакае”, – сказала нарэшце. Ён паверыў, бо сам так адчуў. Але ж вось душа маці знайшла яго, кліча: “Ачніся! Спыні кроў!”

Як параненыя сцякаюць крывёю, Зых нагледзеўся. А тут яшчэ заклік маці. І ён зноў адчуў пякельны боль. Значыць, зусім ачомаўся. Можа, яшчэ з-за таго, што на яго нехта пільна глядзеў. Зых пачуў свой шэпт:

– Вады...

Глыток, яшчэ... Нехта падтрымліваў ягоную пабітую галаву. Гаючая вільгаць вяртала жыццё, такое балючае!

Яшчэ праз нейкі час змог разгледзець, што гэты “нехта” – сівы, зморшчаны стары, вочы слязяцца, рот правалам, бяззубы. Але позірк учэпісты. І ў ім разуменне – як гэта, трываць ад цяжкіх ран.

Што з галавой? Дрыжачай рукой паспрабаваў сцягнуць шапку. Стары дапамог. Пад шапкай была місюрка з тонкіх металёвых пласцін, здабытая Зыхам у сутыкненні з аховай стралецкага абоза.

– Іш, прагнулася, – стары з цікаўнасцю аглядаў місюрку. – Хітрая шапка. Каб не яна, то чэрап так і хруснуў бы. Абушком жахнулі?

– Чаканам, – Зых прымушаў сябе гаварыць праз боль, гэтым утрымацца ад зноў падступаўшага бяспамяцтва. – Рана вялікая?

– Не, – стары сіпла хіхікнуў і зноў паднёс да асмяглых вуснаў Зыха збанок з вадой. – Але гуз – з кулак. Чаканам, значыць?

Зых з прагнасцю піў, піў... Аддыхаўшыся, ужо не так квола папрасіў:

– Анучу б якую, чыстую – на рану.

Стары зноў хіхікнуў прыдуркавата:

– Трасцу тут знойдзеш, не анучу.

Кажучы так, стары лінуў сабе з гарлачыка ў худую далонь і змачыў вадой пылаючую агнём галаву Зыха. Яшчэ...

– Анучу б, – прашаптаў Зых і сам абмацаў мокры гуз на месцы ссечанага калісьці шабляй вуха. Трэба ж: і цяпер яму пацэлілі амаль у тое ж месца. Не здолеў своечасова ўхіліцца. Замаха не заўважыў. Такі з яго, аднавокага, ужо ваяка, праўду казаў ягоны настаўнік па вайсковай вывучцы, аглядаючы пасля ранення маскоўцамі. Ды ўсё ж бог удачы і так доўга яго аберагаў, у якіх толькі баявых сутычках не давялося пабываць, пакуль не гэтая праруха з засадай. Нехта прадаў са сваіх? Ці гэтак хітра высачылі? Палявалі ж на яго ватагу маскоўцы даўно, узяліся яшчэ, калі ўдалося разбіць абоз пад Веліжам. Праспаў сваю вайсковую ўдачу атаман, агруз, людзей перастаў строжыць. А цяпер невядома якім бокам лёс павернецца. Але і тое добра, што не патрапіў у рукі маскоўцаў, ужо яны б учынілі не гэткае пекла. То сцісні зубы і змагайся, не так сабе маці зноў паклікала, лічы, з таго свету.

Ён ледзьве стрымаўся, каб не ўскрыкнуць, калі стары пачаў кранаць яго параненую нагу.

– Крыві многа выцякае, – прашамкаў той, як мага далікатней прыціскаючы скрываўленыя ашмёткі штаніны да раны і перавязваючы нагу вышэй калена жорсткім лыкам.

Кароткімі моцнымі ўдыхамі стараючыся суцішыць боль, Зых прасіпеў:

– Вяроўкай перацягні. Вазьмі з сядла... Ды конь, конь добра прывязаны?

Стары неяк здзіўлена і са шкадаваннем лыпнуў выцвілымі вачыма на Зыха:

– Дзе ж прывязаны, калі твой напарнік звёў?

– Пасвіцца?

– Наўрад, – стары хіхікнуў, кашлянуў, зірнуў ужо са шкадаваннем.

– Сюды, у будан, цябе занёс, а сам на конь, твайго варанога за повад і ходу.

Зых прыкрыў вочы, асэнсоўваючы: у глухім лесе, без каня, без зброі ды яшчэ цяжка паранены... Не ўратавацца.

– Баяры да цябе прыглядаліся, – працягваў стары.

– Маскоўскія? – Зых ад навіны ажно паспрабаваў прыўзняцца. Пацямнела ўваччу, з ціхім стогнам мусіў апусціцца долу.

– Ляжы ціха... Не, ці не полацкія, памежныя. Прозвішча іхняга пана – Цяпінскі.

Зых шумна выдыхнуў. Насцярожыўся: блізка ля будана перамаўляліся хрыплыя мужчынскія галасы.

– Там – баяры?

– Гамоняць? Нашы, буднікі.

– Ты смалакур?

– Ну.

Зых уцягнуў скрозь сціснутыя зубы паветра, суцішваючы боль, трэба набрацца сілы, самому зірнуць на параненую нагу, нечым перавязаць, крыві і так многа страчана.

– Тарок на кані быў, мех скураны, там палатно, мяккае.

– Адзінае, што твой напарнік пакінуў, – стары хіхікнуў, – дык цябе, і мне торкнуў ажно залатоўку. “Пахавай, – загадаў, – калі памрэ”. І подбегам да каня. Аддаць грошы, бо ты ж не сканаў?

– Не я табе іх даваў. Адрэж з маёй кашулі, з ніжняй, яна мякчэйшая, і перавяжы. Калі выжыву – аддзячу. А сканаю – возьмеш маю вопратку.

– Апратка на табе добрая, – стары нязграбна, відаць, баючыся прычыніць лішні боль, развязаў на Зыху шырокі скураны пас, якім быў перацягнуты кунтуш. – Гэ, і бок паранены!

– Адчуваю, – Зых ледзьве стрымліваўся, каб не стагнаць. – Моцна?

– Не разабраць, скрываўлена. Хіба прамыць?

– Рану не чапай. Піць мне, – хрыпеў Зых.

Ад вады моцна патыхала балотам, відаць, з якога азярца, не крынічная, ды выбіраць не выпадала.

Усё яшчэ піў, похапкам, прагна, калі ўваход у будан загарадзіла чыясьці постаць. Разглядалі яго насцярожана, адчуваў Зых, нават варожа.

– Сыдзі са святла, не засць! – прамовіў стары, не азіраючыся, працягваючы далікатна прамываць вялікую крывавую пляму вакол раны. Рукі ў яго трэсліся, але дзейнічаў даволі спрытна, відаць, меў вопыт у такой справе, у лясных нетрах без хоць малага лекарскага ўмельства не абысціся: як ні сцеражыся, а раны будуць.

Вузкі нож у касцяных похвах застаўся вісець у Зыха на шыі, Зых і ўхапіў яго з нечаканым для старога імпэтам, і тады той зіркнуў нарэшце на ўвайшоўшага. Зіркнуў і прыўзняўся крыху ніякавата, бо, відаць, думаў перад тым, што крычыць на свайго, на смалакура якога, а падыходзіў вайсковец-памежнік, і не шараговы, а нейкі ж пан. Стары, перахрысціўшыся, гэтак і звярнуўся да яго, здымаючы шапку з зашмальцаванай аўчыны, якую насіў, нягледзячы на даволі цёплае летняе надвор’е:

– Няхай пану будзе здарова! Пану нешта патрэбна?

– О, ажыў?

У памежніка былі ўважлівыя ўсмешлівыя вочы, і Зых расслабіўся, хоць далонь па-ранейшаму заставалася на нажы. Хутчэй па звычцы, бо ў ягоным становішчы абараніцца не выпадала, а вось каб вораг ды памкнуў захапіць,

магчыма, удалася б апошнім высілкам з дапамогай клінка старога Крывейты ўцячы да Дзядоў.

– І як яшчэ ў казака душа ліпіць. – Стары цьмяна бліснуў вялікай жоўтай лысінай у паклоне. – На целе дзюрка на дзюрцы, і з кожнай Кашчавая пазірае. Моцны дзяцюк.

– Казак? Гм... А мне паведамілі – сканаў. – Прышлы вайсковец у шляхецкім убранні прысеў на кукішкі, працягваючы ўглядацца ў параненага, быццам стараўся пазнаць. Скасавурыўся на груба каваны нож, які той прыціскаў да сябе, потым на шырокі старанна наточаны зломак, што быў у трасучай руцэ старога. Спытаў усмешліва: – Збіраешся, дзеду, сваім кордам дапамагчы бедаку хутчэй патрапіць у лепшы свет? А раптам у дзецюка столькі грахоў, што адразу яму нябесная дарога ў пекла? Дык ці не лепей, каб на гэтым свеце яшчэ затрымаўся і тое-сёе адмаліць паспеў?

– Воля твая, пане, гэтак жартаваць з мяне ўбогага, – стары пераклаў нож у левую руку, каб правай перахрысціцца. – Думаю – ад чаго б кавалак тканкі адрэзаць, перавязаць жа трэба, бо крывёю сцячэ. Хіба што ад ягонай кашулі?

– Можна і ад кашулі... – вайсковец засяроджана агледзеў параненага і, павярнуўшы твар да ўваходу ў будан, нягучна паклікаў: – Стэх! – паўтарыў ужо гучней: – Стэх!

У будан зазірнуў дзяцюк таксама ў вайсковай апратцы, але простай, гайдуцкай.

– Ці пан клікаў? – дзяцюк з цікаўнасцю зіркнуў на параненага.

– Стэх, прынясі торбу з лекарскім прыпасам.

– Ага, – дзяцюк увішна павярнуўся, і пан дадаў ужо яму ўслед:

– Ды прыхапі сулейку, полацкую!

Адказу не пачулася, крокі гайдука таропка аддаляліся.

– Але ж і сапраўды дзюрак казаку нарабілі, – вайсковец зноў агледзеў параненага.

– Скуру б свежую, зайца, – азваўся стары, скамечваючы ў далонях павуцінне.

– Сабачая, кажуць, сама лепей, – сказаў вайсковец.

– Толькі ж аніякай няма і хлеба таксама, каб з павуціннем размочаным заляпіць, – стары папляваў сабе ў далонь. – Дык трыпутнікам заляплю, попелам прысыплю.

– Хлеба і ў нас няма,– неяк не па-панску, давяральна, як свайму, сказаў вайсковец. – Нічога, сухароў размочым.

Пахолак вярнуўся даволі хутка, падаў начальніку торбу і даволі ёмістую сулею, якую той адразу і ўзяў аберуч, кажучы:

– Дастань палатно, малы сувойчык, ён мякчэйшы. – А сам тым часам ухапіў зубамі драўляную затычку.

Водар з сулейкі аказаўся выразнейшым за пах крыві і застарэлай дымнасці ў будане, смалакур ажно задаволена носам павёў.

– Панскі, мусіць, напой, не бражка, – вызначыў ён, – дарагі.

– У Полацку разжыўся, – па-простаму пахваліўся вайсковец. – Кляўся Янкель, з Рыгі прывёз бочачку. Асаблівай ачысткі. Ды, мяркую, полацкая. Аднак сапраўды добра ачышчаная, сляза анёльская, толькі да ран і прыкладаць.

Тым часам пахолак дастаў з торбы вузкі скрутачак тканкі і два сухары, стары смалакур паклаў іх у шчарбатую гліняную конаўку з вадой, тады як сам вайсковец павярнуўся да параненага. Адматаўшы з сувойчыка з локаць

палатна, загадаў пахолку яго адрэзаць. Затым пасля вокамгненнага новага агляду параненага быў адрэзаны яшчэ шматок, з далонь, шчодра змочаны з сулейкі і прыкладзены да раны на галаве Зыха. Той ад нечакана вострага новага болю часта і гучна засоп.

– Цярпі, цярпі, калі гэтак галаву не ўбярог... Вось, гатова, – вайсковец уздыхнуў з уяўнай палёгкай, было заўважна, што справа, якою давялося нечакана займацца, яму не надта звычная. – Нічога, рана неглыбокая, але гуз нехта табе, чалавеча, набіў адмысловы. Ці не абушком. Цябе, бачу, і раней дзіравілі, а ты, выходзіць, не ўгаманіўся?.. Дзеду, кладзі зверху хлеб са сваім павуціннем ды абвязвай, – працягваючы прыцiскаць да раны анучку, загадаў вайсковец.

Управіўшыся з ранай на галаве, вайсковец з упартым выглядам чалавека, якому ўласціва даводзіць справу да канца, нават калі гэта зусім не даспадобы, асцярожна адгарнуў крысо падшытага цялячай скурай армяка Зыха, каб агледзець рану на баку.

– Эге ж, – нарэшце прамовіў хутчэй незадаволена, чым спачувальна, і раптам зморшчыўся, – тут справа, бачу, складанеей. – Вайсковец апусціў крысо армяка Зыха, ўзняўся, абедзвюма рукамі рэзкімі рухамі расціраючы сабе паясніцу. – Стэх, здымі з яго верхняе адзенне ці адгарні так, каб можна было ўпраўляцца з ранай, – загадаў ён пахолку. І назіраючы, як той стараецца далікатней сцягнуць груваскі армяк і развязаць пояс, зноў загаварыў з Зыхам: – Ці не на суліцу ты, саколе, наскочыў? У сустрэчным, выходзіць, баі? Крыху б яшчэ – і кішкі вон... – Вайсковец, левай рукой працягваючы трымацца за ўласны бок, правай з ранейшай асцярожнасцю стаў праціраць краі раны на жываце Зыха. – Ох, мнагавата з цябе крыві выцекла!.. Не, дзякаваць Богу, кішкі не прапоратыя... Вось костка – бачная, бялее.

– Мусіць, рабрына, – смалакур блізка нахіліўся да Зыха, па-старэчы лыпаючы пачырванелымі вачыма. – Каб чым склеіць... Ці зашыць.

– Сапраўды, – пагадзіўся вайсковец. – Толькі ж як? І хто ўзяўся б?

– Піць... – прашаптаў Зых з цяжкім выдыхам.

Вайсковец задумліва паглядзеў на параненага, запаволена нахіліўшыся, левай рукой асцярожна прыўзняў яму галаву, а правай прыклаў да вуснаў адкаркаваную сулейку.

– Пакуль, відаць, глыні гэтага зелля, казак, бо цярпець давядзецца.

Ён, Зых, і так ужо трываў з усяе сілы, таму не надта проста аказалася нават разляпіць вусны. Усё ж нарэшце глынуў. Гарэліца апякла рот, выклікаўшы кашаль. Не здолеў ён утрымаць і хрыпучы стогн.

– Цярпі, што ж, – паўтарыў сваё шляхціц, зноў прыкладаючы яму да вуснаў сулейку. Затым, змачыўшы гарэліцай яшчэ адзін лапік мяккай тканкі, не надта ўпэўнена пачаў прымервацца да раны.

– А зверху трыпутнік прыкласці і прысыпаць попелам, – параіў стары смалакур.

– Дык трымай напагатоў! – амаль злосна сказаў вайсковец.

У наступны момант бок, які і без таго смылеў, апякло агнём так, што Зых заскрыгатаў зубамі, а хацелася ўвогуле зараўці мядзведзем і крыкнуць: “Не чапайце мяне! Нічога не рабіце, нічога!”

Шляхціц заўважыў, у якім стане Зых, і сапраўды адступіўся. Толькі спытаў:

– Пеканула? А што зробіш? Цярпі і маліся, чалавеча. Мінулым летам я на ўласнай скуры ўпэўніўся, як яно гэта... Усё пакуль. Перавязвай надзейней!

– сказаў старому смалакуру, і той паспешліва пачаў абгортваць зробленую з тканкі павязку шырокімі языкамі намочанага лыка.

Вайсковец назіраў за перавязкай, абхапіўшы сабе паясніцу абодвума абедзвюма далонямі і болей звычайнага прымружваючы вочы так, што можна было зрабіць выснову: яму і самому балела. Нарэшце прамовіў:

– У яго ж і з нагой кепска? Стэх, адгарні.

Пахолак паслухмяна пацягнуў за край скрываўленай анучы, даволі грубавата, няўмела, ад чаго паранены спачатку цяжка засоп, а потым ажно зубамі скрыгатнуў, стрымліваючы стогн.

Шляхціц уважліва зірнуў Зыху ў твар.

– Давядзецца яшчэ цярпець... Ого! Пацэлілі табе, чалавеча, дык пацэлілі.

– Ага, відаць, патрушчана ўсё калена, – удакладніў гэты вокліч смалакур.

Шляхціц, моршчачыся, нахіліўся, змачыў гарэліцай шматок тканкі і стаў асцярожна ачышчаць рану, прыгаворваючы:

– Цярпі, цярпі... Бач, кроў у цябе даволі хутка цячы перастала, ужо добра... Цярпі... О, сапраўды, костка патрушчаная. Ого, якая куля! Ды глыбака, халера, упілася. І гэты аскаболак косткі трэба выдаляць, інача тут будзе гніць і гніць.

– Ой, пане, я на такое і глядзець не ў сілах! – смалакур пачаў адмахвацца рукамі, быццам ад якога прывіда.

– І з мяне ж лекар ніякі, – уздыхаў шляхціц, тым не меней працягваючы апрацоўваць рану новым шматком намочанай у гарэліцы тканкі. – Такое змог бы хіба лекар пана ваяводы ў Полацку.

– Ды хто ж гэта небараку ў Полацк павязе! – усклікнуў смалакур. – Нашага войта, калі яго на паляванні мядзведзь зачапіў, і то толькі знахарка з Замошша лячыла. Некалькі тыдняў! І зёлкамі, і ці не вядзьмарскімі забабонамі. Яна і ад трасцы загаворвае, і крывацёк спыніла таму ж пану войту. Але каб кулю выкалупаць ды яшчэ й косткі ўправіць... Не, не здолее.

– Да Замошша далёка?

– Ну, калі нацянькі, праз балота...

– Далёка – не далёка, а бліжэй, чым да Полацка, – вайсковец прымружыўся, вырашаючы, – ідзі, дзеду, за вядзьмаркай.

– Ды яна ж...

– Усё роўна ідзі.

– А бо-о... – стары перахрысціўся і з вялікай неахвотай заварушыўся, ужо не спачувальна, а незадаволена зіркаючы на параненага.

Зых набраў у грудзі як мага болей паветра, сціснуў зубы і, тарганула ўшы смалакура за штаніну, мармытнуў:

– Чакай. Дапамажы сесці, – ужо і сам, паклаўшы рукі абапал тулава, спрабаваў прыўзняцца.

Атрымлівалася не надта, ад болю цямнела ўваччу і хацелася ляжаць ціха-ціха. Ці ўвогуле зноў праваліцца ў беспрытомнасць. Велізарным высілкам Зых працягваў прыўзнімацца.

Смалакур, хоць і не разумеючы намеру параненага, нарэшце схамянуўся і пачаў дапамагаць. Пахолак шляхціца няўпэўнена падтрымаў Зыха з другога боку.

Усё ж сеўшы, Зых нейкі час аддыхваўся, суцішаючы боль. Нарэшце, хоць і праз чырвоны туман, змог-такі разглядаць сваё параненае калена.

Ад гэтага відовішча браў горкі адчай. Шляхціц вызначыў правільна – і пра кулю, і пра аскаболкі косткі.

– Дзёгаць... знойдзецца? – па-ранейшаму шэптам звярнуўся да старога.

Той здзіўлена лыпнуў вачыма. Думаў, перш чым адказаць:

– Гэта, нядаўна звезлі ў Полацк. Ды, мусіць жа, не да кроплі.

– Калі выдалю кулю і косткі, то хоць, мо, і буду без прытомнасці, рану – якой анучай, няхай і з маёй кашулі, а паверх... абмазаць дзёгцем, густа.

Зых нагледзеўся на розныя чужыя раны і нарэшце няблага навучыўся іх лекаваць, а вось як управіцца са сваёй? Асабліва праз крывавы туман, калі дзейнічаць трэба дакладна, упэўненай рукой. Папрасіў:

– Піць...

Прагна смактаў з драўлянай конаўкі цёплую ваду, якая патыхала балотам, і міжволі раз-другі зіркнуў на сулейку шляхціца. Прасіць у яго ён не будзе, не.

Шляхціц звярнуў увагу на гэтыя зіркі і дакладна зразумеў іх, бо, адкаркаваўшы сулейку, паднёс яе да вуснаў параненага.

– Глыні, – прапанаваў проста. – Колькі зможаш...

Глыток пякучай вабнай вадкасці... Другі, трэці... Усё, хоць і хацелася. Рука павінна быць цвёрдай, зрок пільным. Не гледзячы намацаў свой нож. Дух Крывейты, дапамажы!

Спачатку ўгледзець і дастаць аскаболачкі косткі, пакуль не надта скрывяніла. Зых напружыўся, успамінаючы замову аб спыненні крыві. Паўтарыў яе як мага больш упэўнена. Самым кончыкам ляза... Промах! Аскаболачак саслізнуў і знік у згустку крыві. Угледзець...

Вайсковец зразумеў, што да чаго і кончыкам тканкі пастараўся выдаліць згусцелую кроў.

Ну, не прамахнуцца... Патрапіў! Ад нясцерпнага болю Зых глуха гмыкнуў і цяжка засоп.

Удалося! Яшчэ... Яшчэ... Аддыхацца... Цяпер – кулю... Набраў у грудзі паветра.

– Глыні! – голас шляхціца недзе з ружовага туману.

Выцерпець і не прамахнуцца! Самым кончыкам ляза... Зачапіў!

А куля не вылузваецца!.. Рука павінна быць цвёрдай... Спыніся, кроў! Спыніся! Зачапіў... Калі нож сарвецца, усё, болей не вытрываць...

Пасля даведаўся, колькі ляжаў у непрытомнасці. Ачуняў, бы вынырнуў з цёмнага віру, і здзівіўся, бо ў адчынены ўваход будана асляпляльна ззяла сонца, як бывае напрыканцы лета ясным полуднем. А мінула іх, аказваецца, ажно тры і сыходзіў чацвёрты.

Гэта паведаміў даўгарукі пахолак шляхціца, Стэх. Ён жа з гонарам назваў імя свайго гаспадара – пан Васіль з Цяпіна, таварыш, а хутка стане паручнікам памежнай харугвы Полацкага ваяводства. Пан Цяпінскі ўзначальваў аддзел, які яшчэ на Ярылавіцу быў накіраваны ў дазор усцяж памежжа да Езярышча.

Пад вечар стары смалакур прынёс малака. Зых з прагнасцю выпіў амаль увесь збанок, каб зноў праваліцца ў цяжкі сон.

Прачнуўся праз суткі. Ад таго, што ў сне ўбачыў, нібы ляжыць звязаны ў бацькоўскай хаце, а наўкол зусім блізка шугае пажар.

Сапраўды, у будане моцна патыхала дымам. Хвойным. Так, нібы блізка гарэў лес. Зых пачаў выбірацца з будана, хоць усё балела – і галава, і жывот, і нага. Звычна прымусіў сябе цярпець. Што ж яшчэ зробіш?

Ад іншага агортваў ціхі адчай: нага ў калене не згіналася не толькі ад болю. Уявіўшы наступствы, Зых і выбірацца з будана перастаў. Уткнуўся тварам у дол, пажадаўшы, каб будан найхутчэй узяўся полымем. Ужо лепей бы згарэць, чым, выжыўшы, урэшце гібець у жабрацтве. Бессэнсоўна, галоўнае. У забалочаных нетрах пашанцавала натрапіць на буднікаў, але таварыш, пакідаючы яго непрытомнага, нават заплаціў за людскае пахаванне. Так бы няхай і здарылася, а ён вось жа ўсё яшчэ жывы, бо гэты стары смалакур, гэты дзіўны шляхціц аднекуль з Цяпіна... Стараліся, каб па здратаванай старонцы бадзяўся яшчэ адзін калека. Мала, што быў крывым страшыдлам, дык у дадатак стаў кульгавым! Які нябесны ўладар і за што пасмяяўся з яго?

Адно ўсё ж добра: ён не патрапіў у лапы маскоўцаў.

Зых падабраў нож, потым вырашыў вынесці з будана свой армяк. І як жа быў здзіўлены, калі, узяўшы яго ў руку, другой намацаў тое, пра што ўжо думаў – прапала, і нават не шкадаваў, бо, з аднаго боку, рэч магла аказацца ў яго абставінах надта патрэбнай, але з іншага, зноў жа з-за гэтых самых абставін і нашкодзіць.

Да канца не верачы ва ўдачу, Зых запусціў руку ў глыбокую патаемную кішэню адзежыны. У грудзях соладка варухнулася сэрца – пальцы звычна сціснулі супакойваючую цвёрдасць зброі.

Пераканаўшыся, што блізка нікога няма, Зых выцягнуў пістоль і ў каторы раз падзівіўся дасканаласці сталёвай “цацкі”. Цацкі, бо ў параўнанні з пулгакам, якім ён звычайна карыстаўся ў баях і трымаў у прымацаванай да сядла кабуры, гэты быў меншым амаль у два разы і зусім не выглядаў пагрозліва. Тым не меней на адлегласці ў дзесяць крокаў пістоль прабіваў жалезны панцыр і да таго ж меў два ствалы. Зыху стала адразу спакайней: у выпадку з’яўлення маскоўцаў адна куля – самаму нахабнаму ворагу, а другую можна было пакінуць для сябе, каб не трапіць жывым у палон. У асобным капшучку знаходзіліся дадатковыя чатыры зарады, Зых і гэтую каштоўнасць дастаў, каб узважыць на далоні. Затым паклаў назад, у кішэню армяка, тады як сам пістоль, падсыпаўшы з капшучка пораху на палічкі куркоў, вырашыў схаваць у шырокі пояс, няхай знаходзіцца пад рукой, як і нож ведзьмака Крывейты.

Зых не паспеў як мае быць справіцца са сваім хвалюючым клопатам, калі бліз будана пачуў трэск ламачча пад нечымі важкімі крокамі. І быў нямала здзіўлены, калі нарэшце ўбачыў перад сабой пахолка пана Цяпінскага, Стэха. Дзяцюк урэшце і дапамог Зыху выбрацца з будана.

Навокал сапраўды гарэла. Але гэта быў не лясны небяспечны пажар, а вынік працы смалакураў. Трымаючы агонь у вялікіх гаршках, тыя абпальвалі ствалы соснаў, ад чаго з абсечаных на канцах тоўстых галін часта капала, а то і лілася тонкім цурком расплаўленага чысцюткага золата жывіца – бы хваіна плакала ад болю, так Зыху падумалася. І гэтыя слёзы дрэва людзі ўвішна збіралі ў розны посуд, каб напоўніць імі бочкі. Зых і раней бачыў, не надта цікавячыся, як буднікі выплаўлялі смалу, але ў ямах, таму здзівіўся гэткаму вялікаму марнатраўству, калі абпаленыя дрэвы да канца не выкарыстаўшы, пераўтвараюць яшчэ і ў пажаранебяпечны сухастой. Ён сказаў пра гэта Стэху, той толькі пацяснуў плячыма:

– А як іначай? Гэтак здабываецца не зусім і смала, а жывіца, з якой вырабляюць затым шкіпінар. У Вільні за яго добрыя грошы плацяць, а ў немцах, кажуць, утрая большыя. Калі ж без агню здабываць, а ўвесну толькі кару падразаючы, то надта марудна. А лесу ж у паноў багата.

Зых паглядзеў наўкола: паўсюдна тырчэлі счарнелыя ад агню хваіны, бы абгарэлыя мерцвякі-веліканы, якія ўсё ж не палеглі на дол. Калі мёртвыя ляжаць, то робяцца малапрыкметнымі, здаюцца зусім нікчэмнымі, заплакаць над імі, пашкадаваўшы, могуць хіба блізкія суродзічы.

Трэба ўстаць. Падпоўз да танклявай сасонкі з высока абсечанымі галінамі і, учапіўшыся за яе, пачаў, перамагаючы боль, узнімацца.

Паспрабаваў зрабіць крок – і ледзьве не паваліўся: нага, каб гэтак не балела, магла падацца драўлянай, у калене не згіналася, такой хутчэй за ўсё і застанецца, калі загоіцца рана.

І што рабіць? Навошта яго, гэткага, людзі і ратавалі? Ажно шляхціц нейкі ўласнаручна перавязваў і гарэліцай ад нясцерпнага болю суцяшаў. Ну, гэта, вельмі магчыма, і не зусім ад дабрыні душы. Вось жа сам некуды з'ехаў, але пахолка пакінуў. Для нагляду? Каб не знік?

Паміж тым пахолак пана Цяпінскага, паназіраўшы за высілкамі Зыха, пайшоў да смалакураў, узяў у іх сякеру і ў гушчары, дзе дрэўцы навыперадкі цягнуцца стромка ўгару, да святла, высек пару таўставатых дубцоў.

## 10. Карта памежжа па-казацку

Цяпінскі з'явіўся на трэці дзень, з цікавасцю нейкі час назіраў, як Зых, заціснуўшы пад пахі дубовыя кульбы, спрабаваў хадзіць, а Стэх крочыў побач, даючы розныя парады, пакуль урэшце не заўважыў свайго пана. Пахолак тут жа, кланяючыся, паспяшаўся да Цяпінскага, а Зых мусіў стаць, абапёршыся на абедзьве кульбы. Рухацца аднаму па зыбучаму пясчанаму ўзгорку ён яшчэ не спрабаваў і без падтрымкі баяўся спатыкнуцца ды паваліцца на посмех людзям.

– О, нядаўна пластом ляжаў, а цяпер, бачу, ужо хоць на конь, сапраўды казак, – прамовіў Цяпінскі, лагодна пасмейваючыся.

– З твае ласкі, міласцівы пане, – Зых пакланіўся, перамагаючы ў сабе збянтэжанасць. – Але ж на конь мне ўжо, мусіць, не сесці ніколі.

– На ўсё воля боская, і ўсяму свой час, – азваўся Цяпінскі, уважлівей агледзеўшы Зыха. – Яшчэ ж не зажыло. Я думаў, горш будзе, а ты, бачу, перамогся. Нічога, загоіцца, і, значыць, пажывеш на белым свеце, грахі замольваючы... Калі, гм, раптам не патрапіш-такі ў рукі маскоўцам...

Цяпінскі засмяяўся, а разам трое моцных узброеных дзецюкоў у гайдуцкай апратцы, якія з ім з'явіліся і ўсё яшчэ заставаліся на конях. Сам пан сядзеў у калымажцы, запрэжанай двуконь, а яшчэ адзін, асядланы аргамак, быў побач на прывязі. Калымажка мела абцягнутую на абручах з арэшніку скураную накрыўку, напалову ссунутую назад, так што заўважаўся розны гаспадарчы прыпас: мех, падобна, з аўсом ці ячменем, торбы, вопратка, зброя, бачонак і дзве-тры сулейкі.

– Дапамажы яму сесці, – Цяпінскі паказаў Стэху на Зыха і тут жа, нязграбна выбіраючыся з калымажкі, загадаў астатнім гайдукам: – Табарымся!

Стэх памкнуўся дапамагчы свайму пану, але той адмахнуўся, паказаўшы жэстам, каб займаўся даручанай справай. Хоць сам і трымаўся левай рукой за бок і першыя крокі зрабіў крыху прыгорбліваючыся.

На пясчаным узгорку бліз Зыха той жа Стэх разгарнуў папону, яшчэ двое гайдукоў гэпнулі на яе бачонак, уладкавалі сулейку, трэці прынёс абгорнуты старым ручніком вялікі гліняны гаршчок, ад якога патыхала грэчневай кашай з салам, дробнымі лустамі нарэзаў хлеб, сыпануў бярэмца

драўляных абгрызеных лыжак, побач паставіў місу з варанай рэпай і паклаў з паўтузіна ці крыху болей сушаных рыбін, і нарэшце, бы ваявода перад войскам, бліснуў срэбрам высокі кубак, побач з якім заззяла начышчанай пяском чырвонай меддзю ладная конаўка-брацiна.

– Паснедаем чым бог парадаваў, – прамовіў Цяпінскі, здымаючы шапку і хрысцячыся, – сядайце ўсе. І ты з намі, – паказаў Зыху.

Кожны, прыладжваючыся на край папоны, хрысціўся неяк па-свойму, і Зых абмахнуўся дробна, як прывык рабіць, калі яго буйная ватага, узяўшы здабычу ды стаіўшыся ў лясных нетрах, спраўляла свой ваўчыны пір, не надта і часты, звычайна насычаліся похапкам, калі і як давядзецца, баючыся нечаканага нападу маскавіцкіх памежнкаў.

Трапезай узяўся распараджацца Стэх. Першым чынам ён наліў з сулеі у кубак пану, для астатніх была медная брацiна. Аднак Цяпінскі выліў туды і пітво са свайго кубка. Зых зірнуў здзіўлена, упершыню бачыў, каб пан такое рабіў.

– Тут мы, ваяры, усе роўныя, – сказаў Цяпінскі, заўважыўшы яго здзіўленне. – То і вып’ем за нашу агульную ваярскую ўдачу. – І, зноў перахрысціўшыся, першым зрабіў з брацiны добры глыток.

Зых, калі дайшла да яго чарга, таксама сербануў напоўніцу. Медавуха аказалася добрай вытрымкі – і амаль адразу закружыла ў галаве. Хутчэй не ад асаблівай хмельнасці напою, а ад слабасці і голаду.

Якое яно пакручастае, жыццё: яшчэ нядаўна канаў ад смагі і адчаю, а ўжо вось праз зусім кароткі час п’е з адной брацiны ажно з панам і сыціцца яшчэ цёплай грэцкай кашай з салам таксама ж з панскага посуду. Ходзіць брацiна па кругу, а Стэх спраўна ў яе падлівае з пузатай сулейкі. І лагоднеюць памалу звычна зацятыя ваярскія твары, бліскаюць маладыя моцныя зубы ва ўсмешках прыязнасці, і выклікае вольны смех кімсьці ўкінутае жартаўлівае слоўца, і сам пан гэтаму завадатар.

Цяпінскі ж пір і спыніў. Двое пахолкаў накіраваліся аглядаць наваколле, каб не здарылася якой непрыемнай неспадзяванкі – граніца ж побач, Стэх прыбіраў рэшткі харчу ў адпаведную паходную лубяную скрыню, чацвёрты гайдук клапаціўся пра коней.

– А з табой, – звярнуўся Цяпінскі да Зыха, – глынем крыху яшчэ ды таксама справай зоймемся. Налі нам, Стэх...

Пахолак паставіў чарачкі, гліняныя. На розныя выпадкі ў пана, значыць, адпаведны посуд, заўважыў пра сябе Зых. Настрой у яго прыкметна палепшыўся, але апошнія словы пана зноў насцярожылі: выходзіць, прадчуванне яго спраўджваецца.

– Ну, за пані нашу ўдачу вайсковую, атаман! – Цяпінскі ўзняў налітую да краю чарку.

– Дзіўлюся, упершыню сустрэў пана, які з мужыкамі за адным абрусам харчуецца, – сказаў Зых, калі абодва выпілі. – Толькі ж пан памыляецца: я не атаман. А вось казакаваць сапраўды давялося.

Цяпінскі, з прыжмурам зірнуўшы на Зыха, глынуў з чаркі і прыцмокнуў.

– Зусім неблагі мёд трапіўся. На гэты раз не схітраваў Янкель. Трэба будзе набыць у яго адразу бачонак.

– Неблагі, – ад выпітага ці яшчэ ад чаго Зых зусім распаволіўся: хай будзе як будзе. – Праўда, у мяне з бацькам, бывала, і знатнейшы атрымліваўся. Тут трэба і з хмелем, і з вытрымкай угадаць. Ды і мёд жа розны. Для напою лепей за ўсё верасовы.

– Няўжо, казакуючы, яшчэ і мёд удавалася варыць? З такім заняткам на адным месцы не ўседзець. Вось жа і ты, хоць удалым разбойнікам у маскоўцаў лічыўся, даводзілася пра цябе чуць, а на сваю кулю ўрэшце натрапіў.

– Эх, пане, відаць, не паверыш, не казакаваннем-разбоем я шчыраваў, бяда чорная на чужыну з роднага гнязда гнала. Жонку маскоўцы бліз Мсціслава паланілі, вось і шукаў. Дык што ж мне было – жабраком з торбаю бадзяцца? Не, я і з сакам хадзіў. А зразумеў, што лепей з шабляй і з пулгакам.

Цяпінскі глынуў з чары і Зыху паказаў, каб частаваўся. Потым важка сказаў:

– Такое ўжо яно, наша жыццё. А з табою галоўнае – я пытаўся ў баяраў памежных, – няма на тваю ватагу скаргаў у Вялікім Княстве. А што рабілі на маскавіцкай старане – дык гэта ж вайна, у яе свае законы. Бог усім суддзя. Словам, хацеў я, калі раны твае падзагояцца, везці цябе на роспыт у Полацк, да ваяводы... Ды перадумаў. Ён, праўда, пан справядлівы і мудры, толькі ж па дабрыні сваёй і памяркоўнасці каб раптам не выдаў цябе маскоўцам, у абмен на родзіча старасты Лёзненскага, які, лічу, па ўласнай жа дурасці ў палон патрапіў.

У Зыха ажно дыхаўку захаланула ад пачутага.

– Пан, – прамовіў нарэшце асеўшым голасам, – пан, ты, відаць, пасапраўднаму служыш Ісусу Хрысту.

– Ды ўжо як умею. – Цяпінскі паказаў на бачонак: – Сядай-ка сюды, справа ёсць да цябе. – З гэтымі словамі Цяпінскі дастаў са скуранога куфэрка скрутак пергамену, разгарнуў. – Кажаш, у многіх мясцінах быў на маскавіцкай старане.

– Конна і пешкі, а то паўзком, як патрэба здаралася. Ад Смаленскай зямлі да Пскова, – пацвердзіў Зых. – Яшчэ – у Рызе, коней мы аднойчы захапілі добрых вайсковых дык рызыкнулі туды загнаць на продаж. Вельмі ў Ноўгарад хацеў, не ўдалося.

– Цяперашнім часам войска маскавіцкага многа каля нашага памежжа заўважыў?

– Найбольш рухаецца ці не з самай Масквы ў Вялікія Лукі. Туды ж цягнуць гарматы. Абозы вайсковыя даволі значныя. Да іх падабрацца не ўдалося, бо наўкола з'явілася многа малых конных атрадаў, час ад часу заскокваюць на нашу старану рабаваць.

– І ты ж не з сакам жабрацкім да маскоўцаў наведваўся, – Цяпінскі засмяяўся.

– Я, пане, не спажыву шукаў, а жонку. Ну, калі ўдавалася, і вайсковыя абозы разбівалі, гэта было, бо помсцілі. Паверыш, але ніводнага разу сялянмаскоўцаў не чапалі, хоць, здаралася, і галадаць даводзілася, калі стральцы абкладвалі, як ваўкоў. Было, усё было, па-рознаму. Я і лес па Дзвіне на ніз сплаўляў. А жонку каб адшукаў, то не з кульбай жа жабрацкай давялося б вызваляць.

– Ды ўжо ж. Ты пра вайсковя абозы кажаш, – працягваў распытваць Цяпінскі, – яны асобна ішлі, не з войскам? І тады – куды?

– І мяне ж гэта зацікавіла. Заўважыў – бальшыня асобна, толькі з моцнай аховай. Ішлі ў замачкі на нашым памежжы.

– Успомні пра замачкі. – Цяпінскі дастаў з куфэрка некалькі гусіных пер'яў, чарніліцу, паперу. – Іх пашыраюць ці ўмацоўваюць ранейшае?

– Дзе як. – Зых задумаўся. – Што адметнае – абозы цягнуцца і цягнуцца. Пачынаючы з зімы. А цяпер, можа, іх і паболела.

– Мяркуеш, вязуць болей таго, як папоўніць звычайны запас? – Цяпінскі зрабіў некалькі запісаў.

– Падалося, надта болей, – Зых дзівіўся, як пан імкліва водзіць пяром па паперы, пакідаючы на ёй чорную повязь загагулін, відаць жа, так памячаючы ім сказанае. – Бо ваяроў у замачках, здаецца, не дабаўлялася. Праўда, я не лічыў. А таварышам маім было цікавей дазнацца – што на вазах.

– Гэта зразумела, – Цяпінскі ўзняў вочы ад паперы, усміхаючыся. – Дазналіся?

– Як калі. Надта ахова пільнавала. Але ў асноўным не казацкая спажыва.

– Захапіць вайсковы абоз – на такое не кожны адважыцца. Зразумела, чаму маскоўцы гэтак стараліся тваю ватагу знішчыць.

– Але хто выжыў, хутчэй за ўсё недзе збяруцца разам зноў. Ужо без мяне. – Зых уздыхнуў.

– Дык што ў асноўным вязуць?

– Амаль аднолькава: мяхі аўса, крупы, сала, вяндліну. Ядры гарматныя рознага памеру.

– Рознага?

– Многа вялікіх. Для іх і гармат адпаведных, мабыць, ні ў адным з замачкаў я не прыкмячаў. Яшчэ вязуць цёплае адзенне простае, для стральцоў. Ну, і багата добрага пораху. Гэтым мы некалькі разоў пажывіліся. Шкадавалі, прадаць няма каму. Да Лівоніі далёка, а прапанаваць свайму ваярству не адважыліся.

– Абачліва. – Цяпінскі, смеючыся, адклаў пяро і разгарнуў жаўтлявы і пругкі пергамен. – А цяпер сюды зірні. Вось гуляў ты з ватагай усцяж памежжа... Кажаш – многа дзе.

– Многа.

– Ага. Дык тут, – Цяпінскі ўзяў пяро і далікатна кончыкам паказаў на пергаміне, – гэтыя ўсе мясціны, памежжа, намаляваныя. Глядзі, вось лес. Пасярод пакручастая звіліна – рэчка. Яшчэ рэчка, вузейшая, меншая. Балота... Паселішча... Уцяміў?

– І гэта лес? – папрыглядаўшыся, спытаў Зых.

– Угадаў, – задаволена прамовіў Цяпінскі. – Лісцевы. Бярозы, ліпы. А гэта ельнік. Балота заўважыў? На ім нізкі лес, хмызняк. Тут – возера. Так... Тут рэчка ўпадае ў значна большую, у Дзвіну. Дарога...

– А сонца з якога боку?

– Усходняе? Ці поўдзень?

– Няхай – поўдзень.

– Вось, з самага верху... Дык пастарайся ўспомніць, што насупроць з маскоўскага боку ёсць усцяж мяжы, дзе ты быў. Дарогі, сцежкі, балоты, рэчкі, паселішчы. Тут, бачыш? пазначана... Але ці дакладна і ці ўсё, на твой погляд?

Зых прыглядаўся доўга. Нарэшце прамовіў вінавата:

– Але ж не надта, пане, цямлю па тваім малюнку. У паноў, мусіць, зрок іншы.

– Ды гэткі ж! – ад расчаравання Цяпінскі таргануў сябе за вус. – У бога ўсе роўныя. Не дзеліць Усявышні людзей на паноў і мужыкоў! Прызвычаіцца трэба, толькі і ўсяго.

Зых яшчэ паўглядаўся ў малюнкі на пергамене, торкаючы пальцам і прыгаворваючы:

– Лес... Рэчка... Балота...

Нарэшце вінавата зноў зіркнуў на Цяпінскага:

– А мо, пане, спачатку б мы на зямлі разбіраліся, дзе і што? – і правёў кульбай лёгкую рысу па пяску.

Цяпінскі спачатку пазіраў на пясчаную баразёнку недаўменна, потым на карту...

– Ладна, – прамовіў нарэшце. – Дык заўважай. – Адыйшоўшы на два крокі, Цяпінскі ўторкнуў у пясок прамую галінку. – З гэтага боку сонца, калі поўдзень. – Другой галінкай абвёў выспачку з чэзлым кусточкам верасу, – тут наш замачак Лёзна... Каля яго з паўночнага краю рэчка.

– Лёзенка, – Зых пазіраў задаволена. – Упадае ў Дзвіну.

– Так. За рэчкай, – Цяпінскі праводзіў баразёнкі па пяску знарок запаволена, – памежжа з Масковіяй. Спачатку нізінны лог...

– З алешнікам, – удакладніў Зых. – У ім прыхаванае азярцо. За логам вялікі лес, у асноўным хвойнік.

– А дарога?

– Была. Цяпер сцяжыны. Але калі крыху расчысціць, можна, мяркую, праехаць на калёсах.

– За лесам?

– Не ведаю, але ад мяжы праз колькі вёрст... Можа, з пяць... Вёска. Вось тут, – Зых торкнуў кульбай. – Двароў з тузін. Праз вярсту ці дзве – другая, меншая. Глыбей, на ўзгорку – Рудня. Умацаваная насыпам. Акапаная і мае некалькі гарматак і з паўсотні стральцоў. Адзін абоз туды сам бачыў, і былі, казалі, яшчэ. Ля самай Дзвіны – Веліж. Туды абозы часцей.

– Да Рудні доўга дабірацца ад Лёзна?

– Калі конна і рыссю – блізу дня, – Зых памалу набываў упэўненасць.

Заўважыўшы гэта, Цяпінскі разгарнуў перад ім пергамен і паказаў на ім:

– Цяпер так... Глядзі, гэта наш замак Езярышча. Тут – дарога да замка Каз’яны. Рэчка... Вось – мяжа. А насупроць, з маскоўскага боку, дакладна пазначана?

– Крыху інакш. – Зыха так заахвоцілі пытанні пана Цяпінскага, што ён, забыўшы пра боль, ажно прыўзняўся, каб лепей зірнуць на карту. – Калі па сонцу, то рэчка ад замка вось гэтак угінаецца, – правёў кульбай па пяску, – і тады ўваходзіць у лес. Тут дарога, тут вёсачка. Далей – дарога на Невель... Во... І – на Апочку.

Начырканае на пяску Цяпінскі старанна пераносіў пяром на пергамен, распытваючы адначасова пра адлегласці і вайсковыя станы. Маскавіцкі бок на яго карце, перад тым амаль пустынны ці няпэўнымі пазнакамі лясоў і балот, набываў рыскі дарог, рачулак, пераправаў, паселішчаў, прычым з амаль паўгадзіннай дакладнасцю велічыні пераходаў, конна і пешкі.

Ужо ў вечаровым прыцемку абмяркоўваўся шлях ад Езярышча на Невель і да самых Вялікіх Лук, пакуль ужо зусім не стала магчымым рабіць запісы. Пахолкі вярнуліся з дазору і таропка пачалі збіраць ламачча для вогнішча. Стэх, упарадкаваўшы коней, прынёс вады і прыгатаваў вячэру. Ля суседняга будана, згуртаваўшыся ля цяпельца, ціха гаманілі смалакуры. Ветру амаль не адчувалася, таму стала больш дымна, чым удзень, хоць абпаленыя дрэвы і курыліся значна меней. “Дымна, затое не будуць дакучаць камары”, – знайшоў суцяшэнне Стэх, сам тым часам раздзьмухваючы прыдбаную ў смалакураў галавешку.

Вячэралі зноў усім гуртам. Хлеб, крыху вяндліны, хрусткая маладая рэпа, медавуха з адной брацiны. Зых радаваўся, што змог аказаць пану Цяпінскаму паслугу. Тыя, хто склаў карту памежжа, канечне, нямала пастараліся, а вось жа і ён, Зых, нешта ж дадаў такое, што пан Цяпінскі не хаваў задаволенасці. Так шкада стала, што той заўтра з'язджае, уражанне – быццам з добрым сябрам ці блізкім нават суродзічам давядзецца развітацца. І няма спадзеву зноў яго сустрэць. Пан накіроўваецца ў Чашнікі, затым ці не зноў вернецца ў Полацк, служба вайсковая абавязкова закіне яшчэ некуды ўсцяж памежжа, а яму, Зыху, туды ўжо не трапіць да скону. Напачатку трэба яшчэ ж неяк патрапіць у якую бліжнюю вёску, наняцца парабкам за хлеб і прытулак. Гэта яшчэ калі нехта возьме кульгавага. Пакуль жа і ўвогуле раны смыляць і ныюць, і які з яго парабак?

Не меней за раны смылела і ў грудзях ад усіх гэтых думак. Вось дзякуючы добрым людзям, здаецца, выжыве, а сэнс? Балелі раны, смылела ў грудзях, раіліся, раіліся невясёлыя думкі ў пабітай галаве... Каб не панская медавуха, так і не забыўся б да новага дня хоць якім сном.

А прачнуўся – як апрытомнеў, на досвітку, пачуўшы блізкае фырканне коней. Зірнуў: людзі Цяпінскага па-вайсковаму зладжана і сцішана рыхтаваліся ў дарогу. Цяпінскі, седзячы на возе, амаль не ўмешваўся. Заўважыўшы, што Зых выпаўз з будана, махам рукі паклікаў да сябе.

– Вось нам ужо і ў дарогу, – паведаміў, трымаючыся адной рукой за бок, а другой дастаючы са скрыні карту. – Не паспеў учора толкам распытаць пра Вялікія Лукі. Ат! Што твае раны? Смыляць, вядома. Нікуды не падзецца ад гэтага.

– Цяпер вытрываю, пане, дзякую за ласку.

– І слава богу. А ў мяне, бач, зусім сярэдзіну працяла. Халера! На конь аніяк. Давядзецца ляжаць на возе.

– Няхай бы па дарозе хлопцы лавілі пчол на кветках і торкалі пану на сярэдзіну, каб джалілі, – параіў Зых.

– Ого! – Цяпінскі засмяяўся. – Баліць, баліць, а ты ўжо хочаш, каб увогуле смылела.

– А што мне пан раіў пра цярпенне? – пажартаваў Зых у тон Цяпінскаму. – Хаця б паўтузіна.

– Шэсць джалаў! – ахнуў Цяпінскі, але весела, нораў у пана, нягледзячы на боль, заставаўся па-ранейшаму лёгкім.

– І гэтак з тыдзень, – дадаў Зых. – Напрыканцы ж – тузін пчолак каб джыганула.

– А каб на цябе мухі з камарамі! – засмяяўся Цяпінскі, моршчачыся і трымаючыся рукой за бок. – Дык ты ці не знахар, а то вядзьмак? Тота я яшчэ прыкмеціў, як ты сам сябе адважна нажом.

– О, каб я быў ведзьмаком! Мой бацька, бортнік, пчоламі лекаваў, і сусед, той сапраўды быў знахарам. Што ж, абодва разам ад маскоўцаў і загінулі.

– Маці жывая?

– Уся радня тады палягла ад ватагі княжыча Шуйскага. Я адзін неяк і ацалеў. Ды жонка недзе ў палоне. Думаў, адшукаю. А вось чым скончылася. Няхай бы мяне ўжо забілі.

– Ацалеў – думай пра жывое. Але нам пара ў дарогу, браце, Стэх знак падае. Заставайся з богам, казак, удачы табе.

– І табе таксама, пане. Скончылася мая казацкая ўдача! Вось пакланюся смалакурам, раптам возьмуць. Дрэвы ж падсякаць ды агнём мучыць, каб жывіцай плакалі, неяк жа здолею. Бо жабраком пабірацца – гэта не для

мяне. Ці ў крайнім выпадку здабуду якую зброю, выберуся на мяжу ды паспрабую яшчэ раз, апошні, сутыкнуцца ў двубоі з якім маскоўцам.

Цяпінскі працягнуў вузельчык.

– Тут пенязей крыху. Стэх сухароў дасць. Што яшчэ табе пакінуць? Сулейку, ваду набіраць?

І зноў Зых адчуў, як сціскае глотку ад шкадавання, што даводзіцца развітвацца, можа, з апошнім чалавекам, які сапраўды праявіў да яго хрысціянскую міласэрнасць.Чым аддзякаваць, акрамя слоў? Раптам успомніў...

– Пане Васіль, – прамовіў, таропка абмацваючы пояс, – бедаваў я, што здольны аддзячыць табе за ўсё хіба словам, але ж не, вось, вазьмі ад мяне. – Зых пацалаваў пістоль і падаў Цяпінскаму. – Мяне гэта цацка аднойчы выручыла, няхай цяпер табе паслужыць.

– Ого! – толькі і прамовіў Цяпінскі, зачаравана ўзважваючы пістоль у руцэ. – Ну і цацка! Падобную я толькі два разы і бачыў – у Кракаве. У баі здабыў ці ў абозе? – Цяпінскі то прыцэльваўся, то куркі разглядаў, а вочы так і ззялі сапраўды хлапчуковым захапленнем.

– Купіў, пане. У Рызе, у германца.

– Відаць, калі коней прадаваў?

– Тады.

– Ну, цацка! – паўтарыў Цяпінскі. – Немалыя грошы за яе можаш узяць. А кажаш – жабракаваць давядзецца. У Полацку, а лепей у Вільні дамовішся з якім купцом ці з жыдам, каб прадаў, бо да самога людзі кашталяна могуць прычапіцца, ты ж не шляхціц.

– Мне гэтую цацку знахар замовіў як ваенны абярэг, пістоль і служыў ім, такое не прадаецца, грэх, а табе, пане, вайны яшчэ не мінуць, вось і за мяне, нябогу, маскоўца ўпалюеш, а лепей бы самога Шуйскага, Пятра.

Цяпінскі ўзважваў на далоні пістоль і паглядаў на Зыха, думаў. Нарэшце прамовіў:

– Слухай, браце. А навошта табе тут у смалакуры? Сядай-ка да мяне на вазок і айда ў Чашнікі. Там я табе здолею колькі грошай даць... І не пярэч! А затым у Цяпіна. У майго брата пчаляр памёр. Пчэльнік вялікі, а застаўся на гаспадарцы толькі падмайстэрак, падлетак... Усё! Стэх, дапамажы яму ўзлезці... Во. А па дарозе будзеш мяне пчоламі лячыць і пра шляхі да Вялікіх Лук раскажаш як мае быць...

Зых як прадчуваў, што ў невядомым Цяпіне брат пана Васіля кульгаваму пчаляру не надта ўзрадуецца. Бо сапраўды: трэба ж борці даглядаць, на дрэвы лазіць. Ды неяк жа ўрэшце прыстасаваўся, добра – памочнік увішным і кемлівым аказаўся. Хоць пчэльнік быў вялікі, борці ў розных месцах, умовы такія, што і трэцяму пчаляру знайшоўся б занятак. Але казаць пра гэта пану Васілю не выпадала, той, падлячыўшы паясніцу, зноў рыхтаваўся на сваю вайсковую службу і ўвогуле гаспадаркай не займаўся, ёю цалкам апекаваўся старэйшы брат, які з самага пачатку да Зыха паставіўся даволі грэбліва з-за калецтва. Словам, адчуць, што ў Цяпіне можна спакойна век дажываць, не выпадала.

Затое Зых неаднойчы падумаў: ды ці не сам старажытны бог спагады і ўдачы Бялун вырашыў паспачуваць яму, даўшы магчымасць сустрэцца з панам Васілём, калі здарыўся другі цуд – у Чашніках. І колькі разоў ён потым ні ўспамінаў тое, столькі і скаланаўся ад нясцерпнага балюча-радаснага пачуцця: вось дзе яна, яго жоначка! Яна, яна выходзіць на сонечную паперць разам з іншымі ўрачыста настроенымі вернікамі пасля малебства на Духаў дзень!

Нават ніколькі не здзівіўшыся – а чаму з касцёла, калі Наста праваслаўная?

## 11. Ачмурэнне ў Чашніках

Цяпер у Чашнікі яго везлі са звязанымі рукамі, і яны здранцвелі, хоць Зых стараўся варушыць і варушыць пальцамі. Прыставы-ахоўнікі то пачыналі мармытаць паходную песеньку, панылую, як навакольны прыбалочаны лес: “Саколе, саколе, што ляціш над полем, круціш галавою? Гэй!”, то вярталіся да абмеркавання чутак пра набліжэнне нейкага ліхалецця, не то новага моравага паветрыя, не то патопа. Схіляліся да паветрыя. Нездарма апошнім часам аднекуль з’явілася паўсюдна мноства featureрознага выгляду ведзьмакоў. Дык з Рыма нават прыбыў новы папскі высокі пасланец, а з ім сам генерал новага ордэна, святога Ісуса, каб уратаваць Вялікае Княства ад бяды, дзеля чаго ў Вільню вязуць самых небяспечных прыслужнікаў д’ябла. Іх, паставіўшы на памост, які ўжо будуецца, дзеля ачышчэння душ святым агнём спаляць пад малітоўныя спевы. Разважаць пра спаленне разам вялікай колькасці нячысцікаў ахоўнікам было асабліва прыемна, яны пасмейваліся.

Сцішыліся ахоўнікі, калі на ўзгорку паказаліся Чашнікі. Зых ужо даўно, болей за паўгода, не быў у горадзе і адчуў у грудзях нават нейкае прыемнае шчымленне, калі разглядаў абарончыя валы і варотныя вежы, зробленыя з тоўстага бярвення. Дубовыя вароты, акаваныя жалезам, былі яшчэ адчыненыя, ля брамы стаялі ўзброеныя кароткімі коп’ямі-суліцамі вартаўнікі. Яны ўважліва агледзелі прыезжых, з некаторай апаскай кідаючы позіркі на Зыха, пра якога ім нешта ж такога нашаптаў барадаты прыстаў. І воз укаціўся ў Чашнікі.

Зых не здзівіўся, калі мінулі пастаялы двор, тым не меней яго з новай сілай агарнула туга ад аднаго ўжо выгляду турмы-вязніцы. Хоць спадзявацца на нешта іншае для сябе не даводзілася, мяркуючы па балбатні гайдукоў, якія яго захапілі, і намёках старасты.

Што да апошняга, той ажно павесялеў, дапамогшы ссадзіць Зыха з воза на брудным двары вязніцы. Падалося не лішнім напомніць яму:

– Дык сусед, зноў папрашу, заступіся за майго малога, калі хто ўздумае крыўдзіць, бо як вярнуся, аддзякую і за добрае, і за злое.

Падобны на печаны яблык твар Рудзяка зайграў зморшчынамі зламыснасці:

– Табе ўжо не вярнуцца, Гуд. Што да гудзёнка... Сам разумееш, я твае борці мог бы забраць і ўсё, але няхай будзе за догляд малога. Дык перадай мне сваю пчалярскую замову.

Магчыма ён ухапіў бы Рудзяка за глотку, каб рукі былі развязаныя, а так толькі варухнуў плячыма і адказаў, стараючыся, каб як мацней гучалі заклён і папярэджанне:

– Маё слова цяпер у малога, а без замовы, сам жа ведаеш, ад грабежкі заможней не станеш, хутчэй будзе ўбытак. Тым болей, кажу табе, неяк жа ўсё адно вярнуся, не насміхайся, чалавеча. На худы канец – хоць бы і ваўкалакам. Як тады будзе, сам разумееш. Няхай кожны пасцеражэцца.

– І трэба ж, каб цябе такога менавіта да нас прынесла нячыстая сіла, – прамармытаў Рудзяк, адхістваючыся і жагнаючыся.

Гайдукі тарганулі Зыха, прымушаючы ісці, а старасту сказалі, што можа вяртацца дадому. Той адразу ж моўчкі памкнуўся да каня і пачаў ладзіць вупраж. Потым пачулася сцішанае “нэ-э!”, пляск вожак, конскі тупат, ры-

пенне і пастук колаў. Зых, не азіраючыся, міжволі ўслухоўваўся ва ўсё гэта і думаў пра свайго малога, які ўбачыць вазок пустым.

У змрочнай каморы Зыху нарэшце развязалі анямелыя рукі, затым павялі і ўштурхнулі ў іншую, цямнейшую, толькі тады ён адчуў моцны боль у пальцах, быццам іх праціналі шылам, затое можна было намацаць сцяну, каб абаперціся і не ўпасці.

– Вядзьмарка! – гукнуў за яго спінай ці не барадаты гайдук. – Жаніха табе здабылі, забаўляйцеся.

– Чакай, будзе і табе забава, у пекле! – аднекуль з дальняга покута пачуўся хрыпаты жаночы голас, які заглушыў вясёлы мужчынскі рогат.

Зых рэзка павярнуўся да жартаўнікоў, і ў яго выглядзе было нешта такое, што адразу суцішыла іхнюю весялосць, а Барадаты прамовіў пагрозліва-занепакоена:

– Ты, гэта, вядзьмак, не ўздумай чаго такога, а то па рагах.

– Да ветру б мне. – Зых адразу ўзненавідзеў усю гэту зграю ахоўнікаў – а да тых, што прыцягнулі яго сюды, далучылася яшчэ двое ці трое, у тым ліку, як можна было зразумець, сам начальнік вязніцы, бо астатнія яму падпарадкаваліся, – ненавідзеў люта, як воўк, злоўлены ў пастку, але асабліва за сваю змушанасць прасіцца, прыніжаючыся, куды ж падзецца, і так нацярпеўся за дарогу. Ну, і за чаканне кпінаў, пацехі з сябе безабароннага.

Ахоўнікі яго настрой заўважылі ці ўчулі, бо прыціхлі, а начальнік сказаў:

– Спаражніцца табе, нябога? А сапраўды: што ж вы яго адразу ў вязніцу на ўсю ноч, калі самі, толькі прыехаўшы, дружна ўзяліся завуголле мачыць?

– Дык, пане, думалі, ведзьмакі такое робяць па-іншаму, чымся добрыя хрысціяне, – апраўдваўся Барадаты. І да Зыха: – Працягні, вядзьмак, наперад рукі, звяжу.

– Думалі, – у голасе начальніка чулася з'едлівасць. – Не тым месцам. А каб ваш вязень ды нам тут за ноч напаскудзіў? І навошта яму рукі вяжаш, у штаны ён будзе мусіць спаражняцца ці як?

І зноў вясёлы мужчынскі рогат ажно працяў Зыха. Эх, каб ды сапраўды ён быў ведзьмаком!

– Я, пане, колькі разоў забойцаў-разбойнікаў браў, а ведзьмака ўпершыню, – апраўдваўся Барадаты.

– Тое і розніцы, што абавязкова тройчы перахрысціцца не забыць. Ну і свечку святому Мікалаю паставіць не лішне, – павучаў начальнік вязніцы.

...Яго вярнулі ў тую ж камору. Пасля вольнага паветра ў ноздры асабліва востра патыхнула смярдзючым, моташным. Зых прыгледзеўся, дзе б уладкавацца. Крыху асвойтаўшыся, у дальнім покуце заўважыў адзінокую скурчаную чалавечую постаць. Ага, гэта ж яна і ёсць, пра каго ахоўнікі казалі – чарэйская вядзьмарка. З невялічкага акенца сачылася вечаровае святло, і ці не ад яго вочы ў кабеты нядобра паблісквалі. Кабета нешта мармытала-мармытала, ці то перамаўлялася са сваімі нячысцікамі, ці то малілася. Зых вырашыў павітацца, каб паказаць, што суседку заўважыў і што не мае да яе варожасці. Звычайна ў такім выпадку ўспамінаюць бога, славяць Ісуса. А раптам гэта вядзьмачцы абраза?

– Добрага здароўя суседзям! – прамовіў самым ветлівым тонам, на які быў яшчэ здольны.

У адказ ранейшае няўцямнае мармытанне ды змрочнае зірканне. Няхай. Што належыць годнаму чалавеку пры сустрэчы, ён зрабіў. Угледзеўшы ля сцяны бярэмца саломы, Зых ужо было рушыў туды, каб сесці, але тут у камору неяк праслізнуў кволы сонечны праменьчык і павёў у іншым накірунку, да акенца.

Сонца ўжо знікла за невысокімі гарадскімі будынкамі, але промні яго, як звычайна ў такі час сумна-шчымлівыя, развітальныя, агарнулі твар. Зых ажно зажмурыўся, каб лепей успрыняць іх ласку.

І раптам расплюшчыў вока. Бо тое, што перад тым, калі глядзеў на будынкі чужога паселішча, здавалася другасным, малаістотным, раптам перамянілася, прымусіла схамянуцца. Зых ужо зусім з іншай цікаўнасцю зірнуў у акенца: касцёл! Зіхоткай і амаль прывіднай сонечнай чырванню той быў агорнуты ці не адзін. Ужо і не ўвесь, не цалкам, а толькі самая высь, спічак, унізе ж ткаўся-гусцеў загадкавы прыцемак. Той самы касцёл!

А тады, калі ён, Зых, разам з дзядзькам пана Васіля Мацеем і пахолкам Стэхам, прыехаўшы з Цяпіна ў Чашнікі на кірмаш, дзівіўся велічнай стромкасці каменнага будынка, касцёл быў ахоплены іншым, па-ранішняму ўрачыстым сонечным золатам. Для яго, Зыхава, паўсядзённага існавання і гэта ўспрымалася падарункам нябёсаў. Але неўзабаве, як аказалася, яму было даравана адчуць радаснае захапленне куды мацнейшае.

Цяпер Зых стаяў, ужо ўхапіўшыся за жалезныя краты акенца, прагна ўдыхаў паветра нечакана страчанай волі і ўглядаўся, углядаўся, як паступова, але няўхільна гонкі абрыс касцёла паглынае змрок. І толькі калі ў змроку растварыўся і крыж на спічаку, Зых схамянуўся.

Удыхнуўшы апошні раз пахаладалага паветра на ўсе грудзі, Зых неахвотна павярнуўся, позіркам спрабуючы адшукаць месца, якое надоечы вызначыў, каб залегчы нанач.

У прыцемку апасаючыся спатыкнуцца, рушыў усцяж сцяны, кранаючы яе далонямі і раз-пораз намацваючы жалязякі крукоў і ланцугоў – саўдзельнікаў і сведак чыіхсьці чалавечых здзекаў і пакут. Можна аднаму і радавацца: яго, Зыха, хоць не затачылі, сцяўшы шыю ці ногі турэмным жалезам, вось і рукі засталіся развязаныя.

Нарэшце, падгарнуўшы паболей скудлачанай нясвежай саломы, сеў, прыхінуўшыся спінай да сцяны, а позірк зноў міжволі скіраваўся да акенца. У грудзях так і заставался ўзрушанасць ад успаміна таго, што адбылося ці не болей за дзесяць мінулых летаў таму, калі ён агаломшана выгукнуў-паклікаў: “Наста!” Сумнення тады не ўзнікала – Наста, хоць бачыў жа: гэтая маладзіца ніколі не зграбала сена на балотах, не калола босыя ногі на жніўі, не цягала ваду з крыніцы, не варочала зямлю на агародзе, не слязіла вочы ля дымнага ачага, не... Словам, не тая сельская дзяўчына са Смаленшчыны, якую ён сасватаў, нягледзячы на папярэджанне вяшчуна Крывейты і варажбіта з Мсціслава, і за што давялося неўзабаве расплаціцца гэтак жахліва. І няхай яшчэ адна варажэя, з-пад Полацка, сказала потым: не знаходзіць Насту на белым свеце, няхай і сам аднойчы з невыносным болем у грудзях адчуў – усё, няма яе, а вось жа стаіць ля чашніцкага касцёла, па-ранейшаму маладая, вабная... трымаючыся за руку рослага шыракаплечага дзецюка ў панскай вопратцы і сама апранутая па-панску. Яна, Наста!

Ён тады памкнуўся міжволі бліжэй-бліжэй, прыглядаючыся, успамінаючы кожную рыску твару. Надта ж пекная стала, і валасы пацямнелі, вусны ці не вузейшыя... Здаецца, стала нават больш вабнай. Можа, яшчэ і таму, што ўвогуле даўно не абдымаў жанчыну. Апошнімі месяцамі яго казацкай ватазе

даводзілася бесперапынна перамяшчацца, тоячыся ў лясах. Пакуль усё ж не патрапілі ў жалезны нерат хітра ўчыненай засады. Хутчэй за ўсё, нехта навёў. Ці здрада. Ужо не дазнацца.

– Што за пан, не з тутэйшых? – звярнуўся ён тады да суседа па назіранні, па вопратцы нейчы слуга.

– Прыблуда, лях, – у адказе дзецюка адчувалася непрыязнасць. – Іш, пыхлівы... Ён яшчэ сваё атрымае.

– І кабета ягоная з ляхаў?

– Каб жа. Тутэйшая, з Іванска ротмістравая.

Але нават гэтыя дакладныя звесткі чамусьці нікольkі не астудзілі ягоную, Зыха, веру, што адшукалася Наста. Не, розум пакрысе пачаў сумнявацца, а душа ўсё роўна святкавала: Наста!

Зых падыйшоў яшчэ бліжэй і нарэшце змог нават злавіць яе позірк, крыху збянтэжаны, але ж не тым, што яна ўбачыла яго, а паводзінамі натоўпу. Цікаўныя змянялі прайсці, і далёка не ўсе былі настроены прыязна. Тым не меней і тыя, і другія, згрудзіўшыся, перашкаджалі дабрацца да панскага вазка, і ніхто не слухаў патрабаванняў кучара саступіць дарогу яго гаспадарам. У такіх выпадках патрабаваліся рашучасць і сіла, лях паказаў, што яны ў яго ёсць, загадаўшы страмяннному ісці наперадзе і расчышчаць шлях, ён і сам не стаў нікога ўпрошваць, каб далі прайсці, моўчкі адкідваючы разявакаў прэч. А калі якраз той дзяцюк, з якім Зых перад тым перакінуўся словам, нахабна заўпарціўся, даў яму кулаком у лоб так, што ў таго зляцела шапка, а сам грымнуўся на калені.

Рашучы пан, сапраўдны ваяр, ацаніў Зых. Пані таксама, нягледзячы на сваю пекнасць, пазірала ўпэўнена і ішла годна. Разявакі мусілі расступацца, нехта падбадзёрваючы ляха пачцівымі ўсмешкамі, такіх было мала, нехта неахвотна і мармычучы пагрозы. Дзяцюк, які атрымаў кулаком у лоб, хоць ужо і стаяў на нагах, абтрасаючы шапку, але даволі няўпэўнена.

Проста неадольная сіла цягнула да ротмістравай, як тую называлі ў натоўпе, і калі вазок нарэшце крануўся, аддаляючы яе да непазбежнага знікнення, Зых адчуў ажно адчай: вось знайшоў нечакана тое, што ўпарта шукаў, а зноў застаецца ні з чым, бы сустрэча прыснілася.

Ён пачаў асцярожна распытваць каго толькі мог пра ляха і яго малжонку. Гэтаму спрыялі паездкі ў Чашнікі то на базар, то ў краму. Першымі, ад каго ён дакладна дазнаўся, дзе знаходзіцца маёнтак ляха, былі манастырскія смалакуры з вялікай вёскі Іванска. Аказалася – недзе там блізка. Прозвішча пана – Курч, імя – Гжэгаж. Нядобразычлівасць, а то і варожасць да яго грунтавалася, як удалося зразумець, не столькі нават з-за прышласці і каталіцкага веравызнання, колькі на тым, што сеў на зямлі, якую хітрыкамі раней здолеў адхапіць сабе ў сялянскай грамады шляхціц-ротмістр, далучыўшы да той, што атрымаў за службу з каралеўскага сталовага маёнтка ў пажыццёвае валоданне. Але сяляне з ім упарта судзіліся.

Калі ж стары захопнік сканаў, так і не паспеўшы перапісаць маёнтак на вечнасць, а сяляне ўжо спадзяваліся па суду нарэшце вярнуць захопленае, з'явіўся Курч. Лях, прыгожы і рашучы, мала таго, што даволі хутка ажаніўся з маладзенькай удавой прыгажуняй ротмістравай, а тая пайшла з ім у касцёл, хоць і ахрышчаная змалку, як і ўся яе радня, у грэцкай веры, званай яшчэ "рускаю", галоўнае – надзел яе памерлага мужа не вярнуўся ў казну, а згодна з каралеўскім прывілеем, за вялікія заслугі стаў ужо "навечна" ўласнасцю паручніка Гжэгажа Курча. Гэтага мясцовая шляхта ўжо вытрываць не здолела, няхай сабе Курч і атрымаў сваё непасрэдна ад караля

і вялікага князя. Тады і ўспомнілі Статут Вялікага Княства, дзе дакладна пазначана: права на валоданне зямлёй у дзяржаве маюць толькі яе вольныя спрадвечныя насельнікі.

Упершыню Курчу загарадзілі дарогу ў часе вясельнага поезду, нібы і жартам, але ўжо тады гучаў намёк. Жаніх адкупіўся, а вось намёк зразумець не пажадаў, хоць швагер, жончын брат, яму і параіў падумаць, каб пайсці маліцца ў праваслаўную царкву, а галоўнае найхутчэй займець грамадзянства Вялікага Княства з належнымі абавязкамі. А ў даволі хуткім часе дарогу ляху дзёрзка заступіў малады шляхціц Хведзька Скорка, які перад тым двойчы сватаўся да ротмістравай, згоды так і не атрымаўшы. У Курча хапіла вытрымкі не ўдарыць нахабніка, але штурхануў так, што дзяцюк, таксама не з квёлых, ледзьве ўтрымаўся на нагах. З пагрозлівай лаянкай Скорка выхапіў шаблю. Курч таксама. Драпежна дзынкнула сталь аб сталь, раз і другі, да горшага не дайшло толькі таму, што своечасова з'явіўся ксёндз з узнятым крыжам, смела стаўшы паміж паядыншчыкамі. А следам прыбег і праваслаўны бацюшка, таксама з узнятым крыжам міралюбнасці. Раз'юшаных ваякаў ледзьве развялі, але пагрозы з боку Скоркі працягваліся, да таго ж прыхільнікаў у яго аказалася значна болей, чым у "прыблуды". З таго часу і павялося, што на цвінтары Курчу нехта амаль заўжды заступаў дарогу, падбухторваючы на бойку, але той кожную нядзелю наведваўся ў касцёл у Чашніках ды яшчэ і з жонкай.

Для Зыха нічога не змянілася, калі ён даведаўся пра ўсё гэта, у тым ліку і імя Курцэвічавай – Алена. Па-ранейшаму жыло адчуванне: Наста! У грудзях ад таго радасць амаль невыносная, калі яе бачыў, і адначасова боль. Бо глядзела на яго – і не пазнавала. Наадварот, заўважыўшы яго першым разам, ці не спалохалася, бо адхіснулася і адвяла позірк, мацней ухапіўшыся за ляха. Ды што ж, выгляд у яго стаў сапраўды надта ж адрозны ад таго вясёлага ліхога дзецюка, які касіў сенажаць на памежжы пад Мсціславам, марачы ажаніцца з прыгажуняй суседкай са Смаленшчыны. А яшчэ – стаць вайскоўцам. А яно вось жа як абярнулася, яго пакрэмзанага ад раненняў аблічча людзі палохаюцца, бы небяспечнага звера ці духа цемры.

Што ж, вырашыў для сябе, будзе назіраць зводдаль, усё душы ўцеха, бо нібы і патрэбны. Ва ўсякім разе, хоць зрэдку, а бачыць яе – яму самому патрэба. Каб не задыхнуцца ад адзіноты і нікчэмнасці існавання.

Пра нікчэмнасць ён упершыню задумаўся ў будане смалакураў, адчуўшы, што канае ад ран: вось памрэ, зарыюць у зямлю – хоць і гэта добра, бо колькі давялося пабачыць увогуле непрыбраных парэшткаў, на абочынах дарог, у разораных рабаўніцкім нападам вёсачках, у хмызняках, на пір крумкачам, якія крыкліва змагаюцца адзін з адным за спажыву. І ўсё? Тады навошта ўвогуле чапляцца за жыццё, нешта рабіць высільваючыся, цярпець нечы прымус, нярэдка голад, боль, роспач ад няўдач, ратавацца ад заліўных дажджоў ці лютасці зімовай сцюжы? Дзеля чаго нейкая сіла вось і яго ўвесь час шпурляе то туды, то сюды, выпрабоўваючы рознымі нястачамі і болем, болем, ажно калечачы? Бо існуюць жа яшчэ і ворагі. Тыя ж маскоўцы. А што худога зрабілі ім яго суродзічы? Хіба толькі, што не захацелі падпарадкавацца і аддаць свой набытак, а самім пакорліва ісці ў палон?

Кепска мець суседзяў-рабаўнікоў, ласых на твой падворак, звычна перакідваліся думкі на маскоўцаў, гэта была рана незагойная, бо ўспамінаў суродзічаў ці жонку – і тут жа пачынала мроіцца зграя Шуйскага. А следам ужо віхурыліся і цяжкія развагі пра бога: калі ён сапраўды

ўсемагутны і міласэрны, як пра яго кажуць у царкве, чаму дазваляе гэткую гнюснасць? Ды яшчэ ў адносінах да сваіх шчырых і міралюбных вернікаў?

Бог, канечне, ёсць, прызнаваў Зых, існуе на свеце нешта незвычайнае, сіла, якая натхняе душу змагацца за жыццё, і не толькі асабістае. Іначай чаму няма ніякай радасці ад адзіноты, няхай вольнай і сытай. Вось ён, Зых, ужо, здавалася, зусім зміры ўся з тым, што давядзецца дажываць век бабылём, гэта кара, вырашыў, за сыноўную непаслухмянасць. А вось жа раптам нейкая нябачная сіла штурхае дзівіцца на чашніцкую незнаёмую паненку, усяляючы ажно адчуванне: далей жыць ён зможа толькі побач з ёю і дзеля яе.

Увесь тыдзень потым радасна рыхтаваўся да новай паездкі ў горад. Бадай так, як у свой час пад Мсціславам, калі ехаў сватацца. Са шчолакам памыў галаву, двойчы купаўся ў азярцы, папрасіў суседа-парабка коратка падрэзаць бараду і вусы, падрыхтаваў чыстую вопратку. І ўсяляк стараўся дагадзіць гаспадарам, каб раптам не перадумалі прызначыць яго возчыкам. Пан Васіль ужо з'ехаў па вайсковых справах у Вільню, гаспадаркай распараджаўся, як аказалася, не ягоны брат, а стары, але яшчэ рухавы дзядзька Мацей.

І якую ж самоту і расчараванне потым адчуў, калі ўбачыў: Курч пасля малебства выходзіць з касцёла адзін! Ляху зноў давялося сілай пракладаць сабе дарогу ў натоўпе, да яго спрабаваў задзірацца, ляскаючы шабляй, малады шляхціц, якога ўтрымлівалі старэйшыя. Не звяртаючы на гэта ўвагі, Курч падыйшоў да каня, лёгка ўскочыў у сядло, яго пахолак таксама, і абодва няспешліва паехалі ўніз па вуліцы да гарадскіх варот. Ад людзей пачуў – у маёнтак бліз Іванска.

Пакуль пан Мацей бавіўся ў царкве, дамаўляючыся пра нешта з архіерэем (у адрозненне ад пляменніка-кальвініста, дзядзька заставаўся праваслаўным), Зых, хоць намулянае за доўгі працоўны дзень калена балела так, што хацелася прылегчы ля воза і не варушыцца, як мага шпарчэй паклыпаў у закутак рынкавага пляца, дзе знаходзілася дзягцярная лаўка Іванскага манастыра.

Намер Зыха пакінуць Цяпіна ніколькі не засмуціў пана Мацея.

– Воля твая, – пацiснуў ён плячыма. – Папрасіў пляменнік падтрымаць цябе, я не пярэчыў па-хрысціянску, работнік жа з цябе быў ніякі. Акрыяў – і слава богу, не трымаю.

Зых пакланіўся. Ведаў, магло быць і іначай.

– Дзякую за ласку, міласцівы пан.

– З богам, чалавеча. Працаваў ты старанна і бортнік, адчуваецца, умелы. Возьмеш у кухаркі бохан хлеба... І вось табе крыху пенязяў.

Зых у адказ не толькі зноў пакланіўся як мага пачцівей, а і руку пану пацалаваў, уявіўшы, што гэта пану Васілю. Відаць, той не сказаў дзядзьку, што заплаціў за пістоль, іначай скупаваты, як і належыць гаспадару, стары Мацей наўрад ці расшчодрыўся на пенязі. Пан Васіль таксама адсыпаў не надта, сказаўшы: дасць яшчэ, калі вернецца, але Зых на гэта не разлічваў, зброю ж ён падарыў, а яшчэ ж, акрамя дапамогі параненаму, яму быў дадзены і прытулак, каб ачуняць.

– Паедзеш заўтра з вазамі ў Чашнікі, дык падсобіш там разгрузіцца і што іншае па патрэбе.

– Абавязкова, міласцівы пан. А калі раптам спатрэблюся пану Васілю, то можна пра мяне будзе спытаць у келара манастырскага ў Іванску.

– Паслушнікам у манастыр, грахі замольваць? – падзівіўся пан Мацей.

– Зямляк там мой аказаўся, – лёгка схлусіў Зых. – А то ж я зусім адзінокі.

Ну не казаць жа пра свае дзіўныя мроі, бо пан можа падумаць – з глузду з'ехаў калека.

## 12. Смалакур манастырскі

Не сказаць, каб келар, гаспадарнік манастырскі, так ужо адразу прыязна паставіўся да просьбы Зыха ўзяць на працу. Разглядаў, як каня на кірмашы, нешта абдумваў, падцінаючы вусны, цікаваў на кульбу і скалечаную нагу, здавалася, вось-вось пачне абмацваць плечы і рукі, а то і зубы лічыць. Нарэшце спытаў:

– У войску служыў?

– Шчыра прызнаюся, сам па сабе ваярствам займаўся, казакуючы... Змушана.

– Казакаваў, значыць? Усе кажуць пра змушанасць гультайства. Дык хоць раскаяўся?

Зых апусціў галаву, каб не выдаць дзёрзкасці позірку.

– Раскаяўся, – не хацелася казаць пра свае невясёлыя прыгоды. – Таму і хачу працай шчырай паслужыць святому манастыру.

– Богаўгоднае жаданне. Але цябе часам не шукаюць? Не беглы?

Можа, і шукаюць, непрыязна падумаў Зых. А ці трэба лічыць, што беглы, бо ўцякаў жа ад маскавіцкіх стральцоў?

– Апошнім часам я рабіў у паноў Цяпінскіх, – адказаў. – Мяне пахрысціянску з ласкай адпусцілі, калі сказаў пра манастыр.

– Па-хрысціянску! – манах абурана фыркнуў. – Гняздо кальвініста-адступніка. Кары нябесныя яго чакаюць. Калі ты з Васілём адной веры, то блізка не падыходзь да нашай святой абіцелі.

– Нават не ведаю, ойча, хто гэта – кальвіністы. А самы ў Цяпіне галоўны гаспадар – пан Мацей, на мае вочы маліўся ў праваслаўнай царкве і дзёгаць загадваў купляць толькі ваш, манастырскі.

Келар свідраваў Зыха позіркам, вывучаў.

– Не ведаеш – і добра, – прамовіў нарэшце. – Перахрысціся і скажы малітву галоўную.

– Гэта... "Ойча наш"? – ледзьве ўспомніў Зых.

– А якую ж яшчэ? – у позірку келара ўзмацнілась насцярожанасць.

Зых пачаў, спатыкаючыся, мармытаць малітву, якую чуў неаднаразова ад сваіх таварышаў па зброі, якіх келар назваў гультаямі. Пераражагнаўся.

– Амін, – манастырскі гаспадарнік таксама перахрысціўся. Выраз падазронасці ў яго позірку так і застаўся, відаць, па звычцы. – Кажаш, смалакурам рабіў? – перапытаў ранейшае. – Што яшчэ ўмееш?

Можна было б пажартаваць, што ўмее страляць някепска. Хоць з лука, хоць з пулгака. Сякеру баявую трапна і далёка шпурляць, ёю ж секчы, як і шабляй, але раптам келар мог успрыняць гэта ўмельствам, з манастырскім звычаем не сумяшчальным.

– Умею жывіцу збіраць, агонь у будзе падтрымліваць.

– Мы робім самыя лепшыя дзёгаць і смалу ў воласці, іх цэняць у Полацку і возяць у Рыгу.

– Пан Цяпінскі набывае...

– Ні слова болей нікому пра Цяпінскага, – абарваў келар.

Начаваць яго завялі ў прыбудову да манастырскай царквы, там ужо

корпаліся з тузін рознага падарожнага люду, у асноўным, як стала зразумела, жабракоў-бадзягаў. Манах прынёс драўляную цэбарку з вадой і дзве гліняныя кружкі, на вячэру раздаў па кавалку чорнага асцістага хлеба. Хто не пасціўся, а такіх не знайшлося, у дадатак выцягваў нейкі харч з уласнай торбы.

Зых падзяліўся цяпінскім добрым хлебам з бліжнім суседам, услухоўваючыся ў аповеды бадзягаў пра вандроўныя прыгоды, раптам што пачуе патрэбнае. У асноўным расказвалі, дзе хто пабываў на малебствах і ў якіх месцах шчадрэйшая міласціна. Зайдросцілі тым, хто ў Кіеве прыкладаўся да тамтэйшых жыватворных іконаў. Цаніліся ў гэтым сэнсе таксама святыні Полацка, асабліва месца, дзе раней знаходзіўся забраны маскоўцамі святы крыж прападобнай Ефрасінні. Усе згадвалі галадаморы і баяліся хуткай вайны з тымі ж усходнімі суседзямі.

На працу яго паклікалі на досвітку. Манастырская смалакурня – буда аказалася адрознай ад той, дзе Зых апынуўся паранены. Наколькі яму ў яго становішчы тады ўдалася разгледзець, там галоўным чынам здабывалася жывіца для шкіпінара, смалу ж курылі ў спрошчанай яме, абмазанай глінай, таму невысокай якасці. У манастыры яе выганялі ў дзвюх вялікіх печах, абкладзеных цэглай. Таксама мелася дзягцярня. Акрамя смалы і дзёгцю, вырабляўся драўнінны цвёрды кокс для кузні і выплаўкі жалеза, а яшчэ – асабліва адмысловы вугаль для прыгатавання пораху. І для той жа ваеннай мэты – поташ, чым займаўся асобны майстар, як аказалася, пакалечаны мо яшчэ болей, чым Зых. Выгляд яго, нават у манаскай апратцы, выдаваў былога вайскоўца.

Для вырабу смалы патрабаваўся хвойнік, дзёгцю – старая бяроза з тоўстай карой, на кокс падыходзіла амаль усякая здаровая драўніна, аднак сама лепш цвёрдая – дуб з клёнам, для поташу – бяроза, вольха, асіна, але збіраўся і іншы чысты попел. У адным месцы патрэбнай драўніны ўжо не хапала, таму пошук вёўся па ўсім лесе, і не толькі навакольным, меўся дазвол для вайсковых прыпасаў скарыстоўваць і каралеўскую пушчу.

Дзе што браць паказвалі леснікі. З адным з іх, Кушалем, Зых даволі хутка наладзіў ажно ці не сяброўства, дзякуючы свайму бортніцкаму ўмельству. А вось з майстрам па вырабу парахавых рэчываў прыязнасць умацавалася на грунце вайсковасці. Аднойчы, папрыглядаўшыся, майстар заўважыў у часе кароткага роздыху:

– Можа, ты, браце, калісьці і працаваў у буднікаў, але, відаць, з якога боку мушкет зараджаюць, ведаеш лепей і не забыўся.

Зыха такі паварот размовы насцярожыў, хоць заўвагу можна было ўспрыняць як простае пасміханне з мэтай прымусу да больш стараннай працы. Таму адказаў жартам:

– Ат, пане! Гары яно гарам. Мушкет чортаў днём не ўспомніш, дык ноччу прысніш.

– Пра што ж і я, – скупая, змрочная, як падалося, усмешка перакрывіла парэзаны глыбокімі рубцамі і зморшчынамі твар майстра. – У Полацку, вядома ж, таксама быў?

– Здаралася. Праўда, похапкам. А то ўсё каля, хоць бывала і паблізу.

– Значыць, дарогу туды павінен уяўляць.

– Мне яно ўжо без патрэбы, пане.

На тым і разышліся, кожны заняўся сваёй справай, але Зых заўважаў часам цікаўныя позіркі ў свой бок. Значыць, яго яшчэ вывучаюць, што і зразумела: новы, прыблуда, у той час калі астатнія работнікі смалакурні

з тутэйшых, у рознай ступені залежныя, сядзелі на манастырскай зямлі, збудаваўшы сабе хаціны ці атрымаўшы па розных прычынах апусцелыя. З адным такім смалакурам Зых і дамовіўся пра падсяленне, заняўшы невялічкую зямлянку-прылепак з асобным уваходам знадворку. Зых прыкінуў, як можна хацінку пашырыць, зрабіць сенцы, хлевушок – гаспадар быў не супраць.

Ляснік вялікакняскай пушчы, часцей яе называлі каралеўскай, з якім Зых пазнаёміўся дзякуючы цікаўнасці да набыцця борцяў, параіў спачатку абзавесціся хоць якой, але ўласнай хацінай. Такую можна купіць у таго ж манастыра, пазычыўшы ў манахаў і грошай, калі не хапае, а лепей хацінку набыць увогуле на землях вялікакняскага сталовага маёнтка.

Зых падзякаваў, абяцаючы падумаць. Ляснік жа параіў яшчэ спосаб надзейнага, на яго думку, жыццёвага ўладкавання: ажаніцца, пайшоўшы ў прымы да даволі заможнай удавіцы, такая на прыкмеце маецца. Праўда, сяліба знаходзіцца на гонях пана Скоркі.

– Тут і прыхаваная мужыку пастка, – адказаў Зых, – вядомыя мне падобныя выпадкі. Дык не кожны бацька здолее пакінуць нашчадкам заможнасць ці хаця б дабрабыт, а вось каб мелі ў спадчыну волю – гэта яго найпершы святы абавязак.

– Разважаеш, бы які шляхцюк, – у словах новага сябра чулася раздражненне. – Мужыку ягоная доля панам падпарадкавацца самім богам вызначана. Я колькі разоў чуў, як поп пра гэта са святой кнігі чытаў.

– Шляхцюк? – Зых засмяяўся. – Так мяне нябожчык бацька навучаў, а быў ён лясны пчаляр, бортнік. Але сам па сабе.

– Выходзіць, проста не паспеў у якую кабалу патрапіць, пашанцавала, – стаяў на сваім ляснік.

– Пашанцавала дык пашанцавала, – уздыхнуў Зых. – А што да чутага табою ў царкве, то дужа сумняваюся, каб бог не прадугледзеў выбар. Скажам, не ўпэўнены, што забяспечыш дзецям волю, дык хаця б не жаніся. Вунь як манахі.

– О, не так усё проста, – ляснік засмяяўся нейкаму свайму ўспаміну.

Зых моўчкі мусіў урэшце з гэтым пагадзіцца, бо вось жа і яго самога нейкая ж магутная сіла пацягнула з надзейнага месца ў гушчар ля Іванска, пра які да таго і не ведаў, што недзе існуе такое паселішча. І замест таго, каб даволі ўежна мадзець у Цяпіне, займаючыся любым пчалярствам, вымушаны тужыцца, выцягваючы з долу смаляныя карчы, так што лопаюцца і крывавяць рубцы на слаба загоеных ранах. Ці махаць сякерай з ранку да вечаровага змроку, пастаянна рызыкуючы, што аднойчы на сваёй кульгавай назе не паспее ўхіліцца ад падсечанага дрэва, і добра будзе яшчэ, калі яно прыдушыць насмерць. Куды горш аказацца яшчэ болей скалечаным. А гэты бясконцы густы дым са смалакурні, ад якога задыхаешся і дурэеш! І ўсё толькі дзеля таго, каб мець магчымасць раз у тыдзень наведаць царкву ў Іванску і хоць зводдаль падзівіцца на жонку Курча.

Звесткі, здабытыя ў дзягцярнай крамцы, аказаліся дакладнымі: паручнік Курч таму і прыязджаў упарта адзін у чашніцкі касцёл, што ягоная жонка такі вярнулася да грэцкай веры, а бліжэйшая да іхняга маёнтка праваслаўная царква знаходзілася ў Іванску.

Убачыўшы там Курцэвічаву першы раз, Зых адчуў такое дзіўнае захапленне, што следам за ёю, паўтараючы, у слодычнай апантанасці пачаў хрысціцца, хоць у душы маліўся, славячы, свайму нейкаму богу, хутчэй то быў старажытны Бялун, але не Хрыстос.

Затым зводдаль кілдыбаючы, праз увесь прыцаркоўны пляц праводзіў Курцэвічаву назад да вазка.

Наступным разам ён ужо чакаў прыезду Курцэвічавай на паперці і ўвайшоў за ёю ў царкву. А там, купіўшы свечку, пакілдыбаў да ўтрапёнай набажэнствам пані і жэстам папрасіў дазволу запаліць сваю ад яснага агеньчыка ейнай. Запальваў, а сам зачаравана-расчулена глядзеў на Курцэвічаву, і тая, адчуўшы гэта, урэшце сустрэлася з ім позіркам. Дзіўна, што не адчужаным, панскім, і не спалоханым, а нейкім ажно ласкава-даверлівым, у якім свяцілася спагада, падобная на іконную – Маці Ісуса Хрыста, да якога ён, Зых, ставіўся недаверліва-адчужана.

І ўчыніў яшчэ адну дзёрзкасць: запальваючы свечку, зрабіў так, каб яго пальцы дакрануліся да пальцаў пані, на адно імгненне, ледзь-ледзь. Тым не меней. Тады, адступаючы, Зых як мага пачцівей яшчэ і пакланіўся, гэтым пацвярджаючы, што з усіх астатніх, хто знаходзіўся ў царкве, выдзеліў менавіта яе, Курцэвічаву. Каб гэта ды ўбачыў паручнік Курч, жыццё Зыха хутчэй за ўсё на тым і скончылася. Яно і двум гайдукам, што суправаджалі пані, ён не хацеў бы патрапіцца дзе-небудзь у бязлюдным месцы, дзецюкі яго, Зыха, безумоўна прыкмецілі.

Тым не меней, выбраўшыся з царквы перад самым заканчэннем багаслужэння, Зых стаў так, каб прасачыць, па якой менавіта дарозе пані паехала дадому.

Маёнтак Курча аказаўся вярсты за тры ад Іванска, а сама панская сядзіба – на паўвыспе, якая вузкім зубам утыркалася ў лясное возера.

Каб не адвярнулася ўдача, больш Зых ужо не падыходзіў да Курцэвічавай не тое што запальваць свечку, а блізка, памятаючы пра пільных гайдукоў. Стаяў і ціха радаваўся, што вось нарэшце мае магчымасць бачыць яе, знаходзіцца ў адным памяшканні, хоць раз у тыдзень. І вельмі смуткаваў, калі пані ў царкву не з’яўлялася. Тады ён калдыбаў па слаба наезджанай дарозе да сядзібы Курцэвічаў і, стаіўшыся дзе на высокім месцы ля возера, прагна чакаў з’яўлення пані на падворку.

Аглядаючы наваколле, ён адшукаў з паўночнага боку месца, дзе водная заатока, што аддзяляла паўвыспу ад берага, была прыкметна вузейшая за паўднёвую. Прычым бераг бугрыўся пясчаным узвышшам, зарослым дубняком у атачэнні сасонніка і ядлоўца. А ў самым гушчары, рассунуўшы падлесак, прыземіста высіўся дуб з абламанай калісьці вершалінай, па выгляду, хутчэй за ўсё, ударам маланкі. Пазбаўленае магчымасці цягнуцца ўверх, дрэва пачало разрастацца ўшыркі крыху ніжэй крон старых соснаў, ды так, што пачысціўшы сякерай, там можна было б уладкаваць дзве, а то і тры калоды, каб удалося ўсцягнуць іх праз мноства галін і галінак. Пчолы абавязкова знойдуць такое месца, не трэба і пасяляць. Шкада, дабрацца туды берагам з боку няпроста і часу спатрэбіцца да таго ж нямала. Тым не меней месца было надта прываблівае, і аднойчы Зых, узброіўшыся сякерай і нажом, адважыўся на падарожжа.

Прабірацца ўсцяж звілістага берага возера да дуба сапраўды аказалася цяжка, праз густы хмызняк, двойчы давялося з рызыкай адольваць забалочаныя ручаіны. Часам можна было ісці, спусціўшыся да самай вады, па наплешчанаму веснавымі хвалямі пясчанаму ўскрайку, гэта быў роздых. Выбраўшыся ў падарожжа досвіткам, Зых скончыў яго, калі ўжо сонца скрозь набрынялыя дажджом хмары часам праблісквала з поўдня. Уважліва агледзеўшыся, а разам і аддыхаўшыся, Зых пачаў асцярожна прасякаць

гушчар галінак, каб пракласці праход на верх дрэва, узлезці туды з яго скалечанай нагой аказалася складаней нават, чым адольваць нетры ўзбярэжжа, ухапіўшыся за моцныя галіны, падцягваўся на руках.

І ажно збянтэжыўся, калі гэтак зблізу, як спачатку падалося, пад сабой убачыў сядзібу Курча, на адлегласці, можа, не намнога большай за палёт стралы. А значыць, і яго, Зыха, адтуль лёгка заўважыць, калі не асцерагчыся.

Сядзіба Курча мала чым адрознівалася ад той, якая належала панам Цяпінскім, калі не ўлічваць, што гэтая знаходзілася на пляцы, з трох бакоў аточаным вадой, і з іншымі абарончымі збудаванямі. А пра абарону, заўважна было, Курч паклапаціўся: нават ужо ўваход на паўастравок засланяў не толькі высокі паркан з тоўстых бярвенняў, ці не дубовых, але ад адной затокі да другой быў прарыты равок, праз які ляжаў вузкі, як толькі праехаць калымажцы, масток, падобна, пад'ёмны. Усцяж усяго ўзбярэжжа паўвыспы таксама шчацініўся паркан, але ўжо ніжэйшы, чым перад уваходам. А ў аддаленым месцы, хітра прыхаваным хмызняком, стаяла даволі вялікая лодка, а каля яе туліўся невялічкі човен, чалавекі, мо, на тры. Сама хата, складзеная з тоўстага бярвення, была добра абаронена. Устык да хаты стаялі гаспадарчыя прыбудовы з вузкімі байніцамі пад самым дахам, зацягнутымі бычынымі пухірамі. Вакенцы меліся толькі з боку двара.

Гэта ўсё Зых заўважыў двума-трыма хуткімі зіркамі, па казацкай звычцы, а на падрабязны агляд, як аказалася, ужо і часу не было, нават не паспеў ямчэй уладкавацца: з лесу на паўвыспу выязджаў знаёмы вазок.

З хаты выскачыў слуга і кінуўся адчыняць высокія, акаваныя жалезнымі палосамі і шышакамі вароты.

Вазок спыніўся ля самага ганка. З запятак скокнуў гайдук, адкінуў скураную накрыўку, у Зыха ад радасці варухнулася сэрца – з вазка выходзіла пані Курцэвічава! Побач з рослым парабкам яна здалася кволай, хаця ў царкве амаль на галаву ўзвышалася над сялянкамі. Не дзіва: чым з дзяцінства маглі харчавацца дзеці мужыцкія і чым шляхецкія. Але для яго, Зыха, Курцэвічава была проста жанчына, якая прывабіла да сябе так, што без таго, каб бачыць яе, і жыццё не жыццё.

Зых сядзеў, назіраючы за сядзібай Курча, пакуль не пачало сутонець. Бачыў прыезд гаспадара, а ўрэшце зноў саму пані. І толькі тады, радасна ўсхваляваны, рушыў дадому. А міжволі ачомаўся, калі ўлез у багну. Дабірацца да запаветнага дуба было няпроста, а вяртацца паздарову аказалася яшчэ складаней. Асабліва прыцемкам было лёгка патрапіць у такую прорву, што і следу праз якую гадзіну не застанецца.

## 13. З мушкетам у Полацк

У наступную нядзелю ён меў намер паўтарыць падарожжа да дуба, калі келар у чацвер паведаміў, што ў пятніцу трэба ехаць з абозам у Полацк, спытаўшы пры гэтым – якой зброяй Зых лепей умее валодаць, мушкетам ці гаркабузай.

– Ямчэй у дарозе мушкет. А для абароны зблізку, то ўвогуле пулгак. Ці пістоль. Ды каб двуствольны.

– Такога я і не бачыў, – адмахнуўся манастырскі гаспадарнік. – Дык айцец скарбнік будзе мець пулгак, а табе дам мушкет.

Везці трэба было вугаль і поташ. Нават самай нікчэмнай і згаладалай ватазе рабаўнікоў гэта непатрэбна. Ну, хіба паквапяцца на коней. Але калі пачуў пра скарбніка, то зразумеў: такі давядзецца ўсур'ёз рызыкаваць

скурай, бо пахне не поташам і не ладанам, а золатам, а каб яго абараніць, недастаткова крыжоў і манаскіх апратак.

Тым не меней кожны абознік аказаўся ў расе, і Зых таксама. Спачатку ў гэткім адзенні адчуваў сябе няўтульна, аднак даволі хутка прывык. А ўжо ў Полацку ўвогуле зразумеў немалыя перавагі манаскай расы ў параўнанні са сваёй мужыцкай сярмягай. Нават замкавыя шляхціцы пры сустрэчы калі і не саступалі дарогу, дык паглядалі з пачцівай асцярогай, бы на якога служку важнага пана.

Хадзіць, дзякаваць богу, давялося нямнога, але не без таго. Як толькі вугаль і поташ здалі на парахавы млын і абознікі атабарыліся ў Ніжнім горадзе на падворку Богаяўленскага манастыра, які апекаваўся над тым, што знаходзіўся ў Іванску, скарбнік загадаў Зыху суправаджаць сябе ў паездках па горадзе. Ездзілі яшчэ на адзін парахавы млын, амаль на самым мысу рэчкі Полаты, адкуль добра праглядаўся Заполацкі пасад і яшчэ адзін, на дзвінскім востраве. У той бок, на невялічкую драўляную царкву з высокай вежай скарбнік кланяўся і хрысціўся, патлумачыўшы, што там знаходзіцца звон, зняты са званніцы святой Сафіі ў Вялікім Ноўгарадзе ажно яшчэ адважным князем Усяславам, якога за ўдачлівасць называлі Чарадзеем.

Затым накіраваліся ў Верхні замак, на ваяводскі двор. Скарбнік там затрымаўся надоўга. Зых з павозкай чакаў ля варот, паспеў нагледзецца на мітусню людскую, шляхты і простага люду. Вырашыў, што ў такім тлуме жыць, каб і плацілі добра, не захацеў бы. На смалакурні і то лепей, бо лес побач. І абагрэе, і чым-небудзь накорміць, і суцешыць, а раптам небяспека – схавае. Гэта не гарадскія сцены. Ну дубовыя, ну падвойныя, а то і патройныя з земляным засыпам. Яно так, ад якой разбойнай зграі абароняць. А калі войска вялікае возьме ў аблогу? Тыя ж маскоўцы, якія блізка. Драўляныя сцены навучыліся рознымі спосабамі знішчаць – падпальваючы порахам, разбіваючы з гармат. Калі ўжо сцены, то няхай бы каменныя. Як у Рызе. Ці ў Пскове. Во дзе моц! Мала што сцены каменныя, дык яшчэ ў тры ці чатыры абводы. Ды вежы магутныя, ды равы з вадой. Полацк, канечне, таксама добра акапаны. І рака шырокая з крутым узбярэжжам. А ўсё ж мала гэтага, калі супраць Масквы абараняцца. Каб ён, Зых, быў ваяводаю, то загадаў бы дзень і ноч сцены пашыраць і каменем умацоўваць, асабліва ў Ніжнім горадзе.

Зых працягваў разважаць пра гэта і ноччу, бо не спалася,назалялі блохі, а яшчэ і ўспомнілася, як давялося абараняцца яго суродзічам у акапанай ровікам ды абстаўленай частаколам вёсачцы ад нападу маскоўцаў на чале з ваяводзічам Пятром Шуйскім. Думаў і назаўтра раніцай, калі манастырскі абоз нарэшце пакідаў Полацк, а ён, Зых, гледзячы на сцены горада, адчуваў чамусьці, быццам выбіраецца з вялікай драўлянай пасткі, а не з магутнага, прыстасаванага для працяглай абароны замка.

А неўзабаве аказалася, у лесе небяспека і падсцерагала.

Зых скурай адчуваў, што за абозам сочыць драпежнае чужое вока. Па сваёй колішняй казацкай гульбе памятаў, як гэта бывае: пільнуюць, канечне, у першую чаргу за напакаванымі таварам вазамі (асабліва з невялікай ахо-вай), але ж і парожнія калі едуць з горада, значыць, хутчэй за ўсё з рынка, з грашыма. Са згоды скарбніка, ён распараджаўся аховай: на апошні воз загадаў сесці дзецюку з лукам і рагацінай ды не драмаць, на пярэднім было два лучнікі. Сам ён сеў на каня, выпрагшы прысцяжнога. А ў сярэдзіне абоза ў крытым вазку стаіўся скарбнік, абшчапіўшы левай рукой скрыню з царкоўным вінам, а правай, паклаўшы на калена, сціскаючы стары пулгак,

які даўно трэба было хоць паказаць майстру-збройніку, перш чым браць у дарогу для абароны.

Але ж блізу Полацка нічога такога пагрозлівага не здарылася, ці таму што час ад часу трапляліся вайсковыя раз'езды, ці ў мясцовых рабаўнікоў знаходзіліся больш прывабныя ахвяры, таму манастырскае войска ўрэшце не надта пачало і зважаць на папярэджанні асцерагацца. Так і дабраліся да Сарочына. І хоць Зых працягваў адчуваць прыхаванае варожае назіранне, і ноч на пастаялым двары таксама мінула без непрыемных прыгод. Там, пасяліўшы скарбніка ў дальнюю камору, дзверы ў ёй Зых вырашыў вартаваць сам на змену з дзецюком-манахам, узброеным сякерай і рагацінай. Але ўсё абышлося. Дык наступнай раніцай манахі ўжо зусім страцілі ваярскі настрой. Частка, збіўшыся ў гурт, замілавана разважала пра полацкія святыні, а нехта драмаў, радуючыся яснаму надвор'ю, кляваў час ад часу носам і ён, Зых, бо ноччу ж давялося спаць нібы зайцу ў навальніцу.

Тым часам дарога, і без таго нягеглая, стала заглыбляцца ў лясныя нетры, робячы паварот. Яшчэ б крыху прадрамаў – і апынуўся б хутчэй за ўсё на тым свеце, разважаў Зых пра гэты момант пазней. Але ж праз салодкую дрымоту пачуўшы нейкі трывожны выгук, звычна страпянуўся, хістануўшыся ўбок і прыгінаючыся. Зіркнуў – а сама больш у пяці кроках, ля арэшніка конны дзяцюк настаўляе лук, а за поясам сякерка на доўгім дзержаку. Як мага хутка, не разважаючы, зусім прыціснуўся да конскай грывы – і ў бок нападніка дула мушкета. Забыўшы ўзвесці курок.

Страла дзынкнула ля самай галавы, абдаўшы ветрыкам. І толькі ўзвёў курок і хацеў націснуць, як блізка наперадзе тахнуў стрэл з пулгака. Значыць, не скарбнік стрэліў, той ззаду, мільганула думка, зіркнуў – з пярэдняга воза на дол манах-лучнікваліцца. А яшчэ адзін конны нападнік, трымаючы ў левай руцэ разраджаны задымлены пулгак, правай заносіць сякерку ўжо над галавой наступнага манаха. Ліхаманкава навёў мушкет, амаль не цэлячыся націснуў курок – стрэл гахнуў так, што нязвычны да такога манастырскі конік узвіўся на дыбкі, толькі трымайся. Можа, гэта і ўратавала крыху ад наступнай стралы, але ж зусім міма не праляцела. У запале хапіла сілы павярнуць спуджанага каня на стралка ды, пакуль той ставіў на цяціву новую стралу, урэзаць яму па галаве прыкладам. І, ярасна хрыпучы, рынуцца да яшчэ аднаго рабаўніка, які з сякеркай падскочыў да вазка скарбніка.

Заўважыўшы Зыха з узнятым мушкетам, дзяцюк, не ўступаючы ў бой, імкліва шуснуў у зарасці арэшніка. Пачуўся пранізлівы свіст, і ўжо ўсе рабаўнікі сыпанулі ў лес. Відаць, не рыхтаваліся сустрэць рашучы адпор, меркавалі, з манахамі лёгка ўправяцца. А можа, адступілі, страціўшы правадыра. Таго, што стрэліў з пулгака. Зых адразу адчуў у ім атаманства.

Ну вось, пасміхаўся ён з сябе, каб неяк суцішыць боль у баку, хутка ж яго зноў прадзіравілі, ужо нават і на манастырскай службе. Яшчэ пашанцавала, паспеў крыху ўхіліцца, ды і складкі шырокай манаскай адзежыны суцішылі імклівасць палёту стралы, выпушчанай з блізкай адлегласці, іначай было б значна горш. Стралу ўдалося выцягнуць даволі лёгка, і наканечнік не захрас у целе, як часцяком здараецца, сярод манахаў знайшоўся ўмелец лекаваць баявыя раны. Сама лепш было б ляжаць на возе, але баяўся зусім расслабіцца, вырашыў паспрабаваць трымацца на кані, бо вельмі верагодна, што рабаўнікі, ачомаўшыся, паўтораць напад. Хаця б і для таго, каб забраць свайго атамана. Тым болей, маглі думаць, што ён жывы, толькі паранены.

Тады як злодзей ляжаў мёртвы з вялікай крывавай дзіркай у грудзях

навылёт, куля з мушкета дзіравіць дык дзіравіць. Па вопратцы падобна шляхціц, хутчэй з мясцовых, вывеў сваю чэлядзь на паляванне на людзей, і манаскае аблічча падарожных не спыніла, а ўрэшце вось сам валяецца падстрэленым вепруком у прыдарожным брудзе.

– А сапраўды падобна шляхціц, – занепакоіўся манах. – О, божа!

Зразумець манаха было можна. У Вялікім Княстве такі закон: басякам шляхціца ўдарыць голай рукой небяспечна, судовае пакаранне за гэта суровае, а ўжо забіць... Ды за такое – чацвартаванне на рынкавай плошчы, прынародна! Бо яшчэ ж ці ўдасца даказаць суддзям, што знішчаны разбойнік дарожны. Праўда, вось ён, як быццам прамы доказ – побач з разбойнікам ляжыць ягоная ахвяра, труп манаха з прабітай куляй галавой.

– Ой, ой! – тужыў манах, і было не зусім зразумела па кім, па сваім таварышу ці па няўдаламу шляхціцы-рабаўніку.

Зых сказаў усё яшчэ напалоханаму возчыку, каб падаў пулгак нападніка, зняўшы ў таго з пояса і рог з порахам і мяшэчак з кулямі, а потым паклаў на воз свайго забітага таварыша.

Як мага хутчэй зарадзіўшы зброю, Зых паехаў да вазка скарбніка. Той сядзеў з крыжам у руцэ і маліўся. Ягоны пулгак ляжаў побач, са спушчаным курком. Ці то асечка, ці скарбнік не адважыўся стрэліць.

– Хвала Айцу нябеснаму! – прамовіў скарбнік радасна. – Малітваю смірэнных інакаў адрынуты акаянныя рабаўнікі.

– Трэба найхутчэй выбірацца адсюль, – сказаў яму Зых, бо да вазка скарбніка пацягнуліся манахі з аховы. – Напад вельмі верагодна можа паўтарыцца. Зброю ўсім трымаць напагатоў!

Яму падпарадкаваліся. Толькі псалмы спяваць не пераcталі. Так і ехалі, гучна славячы Усявышняга і абаронцу падарожных святога Мікалая.

Бачачы, што скарбнік так і не дакрануўся да зброі, Зых узяў у яго пулгак, узвёў курок, падсыпаў на палічку пораху і стрэліў. Гэта ўзбадзёрыла і ахоўнікаў, і коней. Забітага злодзея па прапанове Зыха пакінулі на месцы, так прасцей.

У Лепелі той жа манах зноў агледзеў рану, наклаў зёлкі, якія ўдалося здабыць, зрабіў яму лепшую перавязку, але на конь Зых ужо не садзіўся. А па вяртанні ў Іванск давялося адлежвацца яшчэ: рана загнаілася.

Лячыў сябе сам. Давялося ўспамінаць і веды, набытыя яшчэ калі падлеткам круціўся каля старога Крывейты. Іванскую царкву змог наведаць толькі тыдні праз два і, радасць! – там аказалася Курцэвічава. Крыху змянілася з твару, пагрузнела, падалося. Яшчэ прыгледзеўся: няўжо цяжарная?

Так, пані была цяжарная. Спачатку гэта ад яе адхіснула, выклікаўшы пачуццё ажно абразы. Не чакаючы канца малебства, Зых пакінуў царкву, хацелася ўвогуле сысці з Іванска як падалей, а жыццё страціла хоць нейкі сэнс.

Ляжаў у сваёй хаціне, бы мядзведзь у берлагу, тым болей што не толькі новая рана, а і ранейшыя разбалеліся, есці не хацелася, нават раніцай мыцца перастаў. Думаў: куды б падацца? Зноў пакланіцца Цяпінскім? Пакуль аднойчы не дайшло, што не мае ён сілы пакінуць Іванск. Мала таго, недзе ў самым аддаленым куточку душы пачынала цепліцца дзіўнае спадзяванне: яго яшчэ тут нешта чакае важнае, і гэта неяк звязана з пані Курцэвічавай. Магчыма, то было проста жаданне ўсё ж зноў убачыць пані, словам, насланнё, чараванне, якое колісь узнікла на цвінтары ў Чашніках, ажыло.

Урэшце скончылася тым, што ён пайшоў у царкву. Разумеючы бессэнсоўнасць сваіх паводзін. Ды чужая гэта жанчына, не Наста!

І проста такі жыватворнай сілай напоўніліся грудзі, калі яе заўважыў. Набыў свечачку, умацаваў запаленую ў шэрагу перад абразам святога Мікалая. Падалося, Курцэвічава заўважыла яго. Зірнула, бы пазнаючы, ласкава! Можа, ёй сказалі, як ён абараніў манастырскі абоз? Слава галоўнага выратавальніка дасталася скарбніку, але нейкі водбліск крануў і яго, Зыха. Ён адчуваў гэта па позірках прыхаджанаў у царкве. І смалакуры, людзі насцярожаныя, а нярэдка азлобленыя, пачалі выказваць яму павагу. Майстар паведаміў, што келар збіраецца прызначыць яго, Зыха, дзясятнікам.

Але далейшае вырашылі зноў паводзіны Курцэвічавай. Пані перастала наведваць царкву. А неўзабаве ён заўважыў, як па дарозе да маёнтка Курча павезлі папа. Няйначай нешта здарылася нядобрае. Устрывожыўся, быццам за некага вельмі блізкага.

Хоць надвор'е было кепскае, з-за дажджоў балоты сталі яшчэ болей небяспечнымі, у запале неадкладна выправіўся ўсцяж возера да запаветнага дуба. Сам потым дзівіўся, як ацалеў, пераадольваючы ручаіны і багны. Затое ў грудзях адлягло: нічога, здаецца, з Курцэвічавай кепскага не здарылася, убачыў, як хадзіла па двары са служанкай. Радасна назіраючы за паняй, ён канчаткова вырашыў пакінуць смалакурню, а заняцца пчалярствам.

Пчол можна было набыць у манастыры, але пераважыла прапанова ляснічага: за адну борць, заселеную, той прасіў, праўда, дарагавата, затое другую, пустую аддаваў у прыдатак з умовай год бясплатна даглядаць ягоныя, якія знаходзіліся каля возера, што надта адпавядала намерам Зыха, бо яшчэ ж атрымліваў і дазвол колькі хацеў наведваць пушчу, а лес, калі не здабычаю мёду, тут поспех залежаў і ад спрыяльнага летняга надвор'я, то чым іншым руплівага чалавека пракорміць. Можна крадком, каб не ўпільнавалі ахоўнікі, з лука падстрэліць цецерука, валасяной пятлёй здабыць зайца, у глухіх азярцах налавіць карасёў, і з вясны да позняй восені запасацца грыбамі. Чырвоных звяроў – казулю, само сабой – зубра, лася, бабра, лісіцу, куніцу, ды і вепрука, лепей не чапаць, расправа за іх бязлітасная, а вось калі ваўка ўпаляваць ды прынесці скуру пану каралеўскаму лоўчаму, то можна атрымаць колькі пенязяў узнагароды. Яшчэ болей цаніліся жывыя ваўчаняты, якіх пастаўлялі ў панскія звярынцы – на пацеху і для навучання паляўнічых сабак. Не вельмі забаранялася паляваць на мядзведзя, толькі хто ж у цвярозым розуме на такое адважыцца. Гэта пацеха для панства з добрай зброяй, адпаведна навучанымі магутнымі сабакамі і слугамі-целаахоўнікамі.

Мядзведзі назалялі ўсім, якіх толькі выпадкаў з іх удзелам не здаралася. Асабліва ж касалапыя цікавіліся борцямі. Іх нямала сноўдала і ў бары ля возера. Ці не таму, што выламаўшы пчалінае гняздо, касалапыя злодзеі маглі ратавацца ад раз'юшаных абаронцаў, нырнуўшы ў ваду. Зых зразумеў, чаму менавіта ў гэтым бары ляснічы так ахвотна прадаў борці.

Што толькі не даводзілася рабіць, каб уратаваць пчол ад нахабнага і небяспечнага звера! Клопатаў аказалася многа, а з пакалечанай нагой па дрэвах не надта палазіш. Тым не меней Зых быў задаволены, бо з'явілася магчымасць час ад часу наведвацца на бераг возера і назіраць за чужым, панскім жыццём, уяўляючы сябе часам нябачным саўдзельнікам у ім, накшталт хатніка. Але і гэта, аднак, як аказалася, працягвалася нядоўга.

Нягледзячы на калецтва, Зых, каб пракарміцца, мусіў шмат вандраваць па лесе. Праз нейкі час дзякуючы гэтаму стаў адчуваць сябе ў Прыазер'і, як на сваім падворку. Прыкмеціў ці не ўсе звярыныя лазы і ледзь прыкметныя сцяжыны, піў ваду з многіх патаемных крынічак, якія насычалі навакольныя вялізныя балоты, часцяком непралазныя, з прыхаванымі травой багнамі-

пасткамі, з выгляду быццам і цвёрда, а ступіў неасцярожна – і гулькнеш з галавой у царства вадзяніка. Якраз на невялічкіх выспачках пасярод такіх прорваў часта меліся пасохлыя старыя асіны і яліны, магутныя, аднаму не абхапіць. Некаторыя ляжалі вываратнямі, з прагнілым нутром, праткні сучок, зрабі даўжню, каб праз яе выграбсці труху, а потым выразаць соты з мёдам, – і борць гатова, застанецца толькі прыладзіць кавалкі са два сотаў – прывабіць пчаліны рой. Павалушы можна было рассекчы на цурбаны-калоды ды ўсцягнуць на дрэвы, абараніўшы затым ад мядзведзяў біткамі. Калоды тры ці болей Зых хацеў, карыстаючыся зімнім часам, прыцягнуць на санях нават да сваёй хаціны і ўладкаваць побач з падворкам. Гэта значна дзешавей, чым купіць гатовую борць.

Ляснічы на такое пагаджаўся, старых дрэў са спарахнелым нутром на балотах было многа, але ў дадатак да аплаты грашыма, пан хацеў яшчэ мець і долю ў мядовым здабытку. Зых жа марыў займець цалкам незалежны пчэльнік, таму падумваў, калі ляснічы не пагодзіцца ўсё ж на канчатковы выкуп падгнілых калод, сплесці борці ўвогуле з лазы, абмазаўшы глінай з каравяком ды паверх чым уцепліўшы, карой ці нават дзёрнам. Ад аднаго з казакоў ён чуў: нешта падобнае ладзяць пчаляры ў нізоўях Дняпра. Канечне, там зімы карацейшыя і не такія лютыя, ды нічога, паўзверх можна ж яшчэ абкласці яловым лапнікам і зноў дзёрнам.

У любым выпадку трэба яшчэ прыдумаць, як надзейна ўберагчыся ад нахабства мядзведзяў, іх адмеціны на дуплах сустракаліся даволі часта. Аднойчы такое расцярэбленае дупло ён заўважыў ажно даволі блізка ад свайго насеста на бязверхім дубе. Ён назіраў за падворкам Курцэвічаў, дзе пані, зусім пагрузнеўшая ад цяжарнасці, але па-ранейшаму для яго балюча-прывабная, разам са служанкай карміла мітуслівых курэй, за якімі, па-змяінаму выцягнуўшы шыю, ганяўся гусак, калі раптам падалося, што дзесьці с правага боку мільганула ці не куніца.

Павярнуў галаву, прыгледзеўся – яна. Бліжэй да берага на стогадовай яліне з пашкоджаным, як і ў дуба, верхам і з тае ж, магчыма, прычыны, куніца скрэблася ў вялікую наўскос разадраную ўжо раней, хутчэй за ўсё, мядзведзем дзірку. Спачатку падумаў, куніца палюе за вавёркай, паназіраў уважлівей – эге, мёд унюхала, у дупле пчолы.

Яліна, узвышаючыся над прыбярэжным кустоўем ажыны і арэшніка, стаяла амаль ля самага абрыва, ад настойлівых нават улетку паўночна-заходніх вятроў ужо і нахіліўшыся крыху ў бок возера, але магутная, трымалася ўчэпіста. Канечне, дрэва добра праглядалася з двара Курча, але ж імпэт здабытчыка пчаліных гнёздаў пераважыў асцярожлівасць. Зых злез з дуба і паспешліва, быццам патрэбна было кагосьці апярэдзіць, памкнуўся да яліны. І толькі дакрануўшыся да яе прыемна шурпатай, напластаванай за мноства гадоў кары, перавёў дух, і, цверазеючы, стаў прыглядацца – ці няма чужога кляйма, знамяні. Убачыў толькі мноства глыбокіх драпін не інакш ад кіпцюроў мядзведзя, -- болей у лесе зрабіць такое не было каму. Дрэва калі і было, магчыма, бортным, то вельмі даўно і гаспадаром пакінутае, разваленае наўскос дупло ўсцяж абрасло мохам і лішайнікам, на якім выразна азначаліся адно свежыя драпіны, пакінутыя кіпцюрамі куніцы, сам звярок паспеў знікнуць.

Ці быў калі ў дупла гаспадаром які бортнік, ужо не пазнаць, а вось пчолы там гняздзіліся, пасяляючыся, мяркуючы па выкідах парэштак старых сотаў, пастаянна, адна сям'я гінула ад нападу злодзея-мядзведзя ці, выройваючыся, злятала ў іншае, больш бяспечнае месца, другая засялялася

ў спустошанае і разламанае дупло, у сваю чаргу спадзеючыся выжыць. Ну чым не як у людзей!

Яшчэ раз уважліва агледзеўшыся наўкола і прыслухаўшыся, Зых дастаў з торбы сплеценае з пяці тонкіх пяньковых шнуроў лазіва, прыцэліўся прывязаным на канцы каменем і закінуў яго на тоўсты надзейны сук.

Падцягвацца яму было зусім няпроста, і толькі, можа, праз чвэрць ці болей гадзіны Зых здолеў дасягнуць дупла. Так, яно не аднойчы раздзіралася мядзведзем, аднак пчолы ў ім былі і, учуўшы чужынца, пачалі выпаўзаць вонкі, але мала з іх узнялася на крыло, каб абараніць гняздо. Сям'я, такая жвавая і небяспечная для ворага ў цёплае надвор'е, у халадэчу толькі сціскалася ў вялікі клуб, трапяткі і цёплы.

Уваход у дупло шчэрыўся надта ўжо вялізнай цёмнай зяпай, каб сям'я змагла ацалець. Не адолеюць, магчыма, зімовыя сцюжы, затое абавязкова лёгка дабяруцца да гнязда ласыя да мёду ворагі. Вось ці не першай з'явілася куніца, а калі ляжа снег і нешта застанецца, абавязкова наведаюцца сінічкі з дзятламі, якія пакуль адшукваюць кузюрак пад карой і апалым лісцем. А ўвесну, прачнуўшыся, з'явіцца згаладалы мядзведзь і выдзера нават пустыя соты. Такое яно, жыццё, хто не здолее надзейна зладзіць сабе абарону, у таго век асабліва кароткі і незайдросны.

Прызвычаіўшыся да паўзмроку дупла, Зых беспакарана зрабіў тое, на што не адважыўся б у цёплае надвор'е, хіба што ўжыўшы той спосаб курадыму, які яму за чаркай адкрыў стары курп-вядзьмак у гушчарах каля Рыгі, – далоняй разгарнуў цёплы ільсняны жывы камяк трапяткіх стварэнняў, каб убачыць іхнюю гаспадыню, як яе называлі бортнікі. Усе ведалі, што яна ёсць, але мала каму была ўдача ўбачыць: пчолы мёд гэтак ярасна не аберагалі, як яе. Пра занятак гаспадыні казалі рознае, і Зыху самаму карцела дазнацца ісціну.

Ён асцярожна далоняю разгортваў клуб, а пчолы торапка счэпліваліся зноў, віруючы, імкнучы ў сярэдзіну гнязда. Нарэшце вызначыў куды менавіта: вось яна, Гаспадыня! Амаль удвая большая за любую іншую пчалу, паважная, а навокал – атачэнне, світа.

## 14. Паны б'юцца

Зых так захапіўся назіраннем за пчоламі, што ледзьве не зваліўся з дрэва, калі зусім блізка гахнуў стрэл. Адразу ж другі, грамчэйшы. Унізе, зусім блізка, можа, за тры дзясяткі крокаў, ля самай гарлавіны ўваходу на паўвостраў на мышастым аргамаку быў Курч. Курч трымаў перад сабой стрэльбу, з доўгага ствала якой яшчэ віўся дымок. Паабапал пана таксама на добрых конях – гайдукі, двое. Зых ад нечаканасці не адразу і зразумеў, што не яго асоба займае ўвагу Курча са слугамі – усе глядзелі ў іншым накірунку: ля самага лесу, дзе ледзь пазначаная дарога абгінала возера, мітусліва варушыўся невялікі атрад таксама ўзброеных коннікаў, і сярод іх – той самы шляхціц, які дзёрзка заступаў дарогу Курчу каля касцёла ў Чашніках. Відаць, яму і прызначалася куля ляха, але патрапіла конніку, які выступаў наперадзе, па вопратцы складана было зразумець – казаку-слугу ці шляхціцу з загонавых, якіх ад простага люду часцяком адрознівала хіба ганарыстасць аблічча ды шабля на баку, звычайна старая, хутчэй спадчынная, ад продкаў, якіх вялікі князь Вітаўт вадзіў пад Грунвальд. Нешта падобнае меў і гэты, зброя валялася пад капытамі яго каня, і сам ён ужо зваліўся б, напэўна, каб яго, паніклага, не падтрымліваў магутны гайдук.

У той час як яшчэ адзін цэліўся ў бок Курча з лука, а другі паспешліва перазараджаў пулгак.

Гайдук Курча таксама перазараджаў зброю – аркебузу, а сам пан ужо трымаў напагатоў пістоль. Варожыя бакі знаходзіліся на адлегласці, калі ні з лука, ні куляй з пулгака адзін аднаго дакладна не дасягнуць, а каб яшчэ наблізіцца, пакуль не стае досыць ярасці. Аднак відавочна было, што становішча зменіцца, калі будзе зараджана аркебуза. І не таму, што гаспадар маёнтка адступіць, схаваўшыся за акаванымі жалезам варотамі, наадварот, пан меў выгляд чалавека, які вось-вось выкарыстае сваю перавагу ва ўзбраенні, ён ужо даказаў, што цырымоніцца з нападнікамі намеру не мае, а страляць з аркебузы ўмее. Куля не дасталася атаману пры першым стрэле, але наступным разам хутчэй за ўсё яго не абміне.

Ды тут на высокім ганку з'явілася пані. Дзіва: устрывожаная, але не спалоханая варожым нападам і стралянінай. Што значыць дачка патомнага памежнага баярына, з сямейства, спадчынна прывучанага да ліхой ваеннай жыткі.

Паміж тым з'яўленне прыгажуні-пані міралюбства варожым атрадам не дадало. Наадварот, па тым, як напружыліся нападнікі, адчувалася: яшчэ нейкае імгненне – і яны рынуцца ў наступ.

Курч зразумеў іх настрой. Адным жэстам загадаўшы сваім людзям падрыхтавацца да бою, выхапіў у гайдука ўжо зараджаную стрэльбу, наставіў у бок нападнікаў, гучна-ўладна крыкнуў:

– Пан Скорка, гэй! Дарэмна хаваешся за спіны слуг, толькі хто з тваіх варухнецца – табе першая куля ў грудзі. Мне зараз працей забіць цябе, чымся варону. Ды плюгавіцца не хачу. Ужо няхай лепей станеш перад судом князя-ваяводы. Не рыцарам, а з вяроўкай ганьбы на шыі, як подлы таць падарожны, на шляхту нападнік.

Пачуўшы такое ад Курча, Скорка імгненна выехаў наперад.

– Таць – гэта ты, лях чортаў! – выгукнуў ён, узнімаючы каня на дыбкі. – Мазурскім чараваннем ачмурыў маю нявесту, сеў нахабна на зямлю майго суродзіча... Цябе ж папярэджвалі: не лезь.

– Сам яго міласць кароль даў мне тут грунт за заслугі, – годна адказваў Курч. І з прыхаванай насмешкай: – Ці ты, пане, супраць волі яго вялікасці, ужо такі незалежны?

– Кароль, яго міласць перавысіў свае правы ў Вялікім Княстве, і нашу скаргу ўзяла на разгляд найвышэйшая рада паноў дзяржавы, а табе ці ж не раілі пачакаць выраку, не парушаць закон.

– Найвышэйшы закон для мяне – воля караля, – у голасе Курча гучала непахіснасць. – А ты, Скорка, за напад пазбавіцца можаш не толькі шляхецкай годнасці і маёнтка, але ў кайданах пасядзіш нямала ў вязніцы ў Крычаве.

Скорка торкнуў у бок Курча пальцам і грэбліва зарагатаў. Рогат, палохаючы коней і варон, дружна падхапілі людзі атамана.

– Відаць, ты ўяўляеш сябе дзе-небудзь пад Варшавай, у Мазурыі, – насмешліва прамовіў Скорка, калі рогат сціх, – а тут жа, – паказаў ён на наваколле, – наша! А не захацеў папярэдне добрай парады паслухацца – з'язджай, пане, хоць цяпер, апошняе табе папярэджанне.

– Такі станеш ты, Скорка, перад судом пана ваяводы. А цяпер – гэць з маёй сядзібы! – адгукнуўся Курч.

– Ой, абрэжу я табе вусы, мазурык, а то і вушы! – Скорка з'едліва засмяяўся, яго людзі таксама весяліліся.

– Які адважны, – Курч узвёў курок стрэльбы. – О, пан ужо зноў гатовы за спіны слуг схавацца?

Цяпер ужо гайдукі Курча дружным смехам абудзілі сцішанае было наваколле. Смяяліся і тыя яшчэ двое, што ўзніклі ў прыадчыненых варотах з лукамі ў руках.

Скорка, якога было сапраўды саўдзельнікі памалу пачалі засланяць, зноў выехаў наперад, адмахнуўшыся ад шляхціца, які спрабаваў яго прытрымаць.

– Вы толькі зірніце на мазурыка, – са смехам паказаў сваім на Курча, – наша – ужо ягонае, са мной будзе ваяваць у судзе... А ты адважся памерацца ў чэсным паядынку з добрым шляхціцам. Га? Ды ад такой нагоды ў пана ўжо і нагавіцы мокрыя! Га?

Заўвага выклікала новы выбух рогату нападнікаў.

Курч тарганууўся і ўскінуў галаву.

– Што ж, – гучна прамовіў ён. – Шкадаваць мне цябе няма за што. Відаць, самому нячысціку пажадана, каб ты, Скорка, паклаў сваю дурную галаву не дзе на памежжы, абараняючы айчыну ад варожага нашэсця, а на гэтай пусташы. Выходзь жа!

– Гжэгаж! – раптам зводдаль устрывожана паклікала яго жонка. – Ужо едзь дадому, абед стыне.

Словы пані ў гурце Скоркі выклікалі смех і новыя кпіны. Твар Курча бы акамянеў.

– Ад кулі ці ад шаблі жадаеш, Скорка, развітацца са сваім пустым жыццём? – голас Курча гучаў бы вырак.

Скорка азваўся весела:

– Куля – дурніца. Ці ты, мазурык, мяркуеш: стрэлім мы адзін у аднаго і раз'едземся на абед? Не-е, пане. Тым болей, я ж абяцаў абрэзаць табе вусы і вушы. Значыць, скрыжуем шаблі.

– Гжэгаж! – зноў паклікала пані. Курч толькі зіркнуў на жонку і, выцягнуўшы з похваў шаблю, выгукнуў:

– То ўжо едзь сюды, балбатун!

– А сам? Баішся? – кпін Скоркі ягоная зграя падтрымала бадзёрым рогатам.

– Няхай твае гайдукі ад'едуць падалей, на палёт стралы, – сказаў Курч, скіроўваючы каня наперад.

– Твае таксама, – азваўся Скорка і, перахрысціўшыся, пацалаваў дзяржальна шаблі з выявай крыжа.

Наўрад ці на поўны палёт стралы (ды яшчэ гледзячы з якога лука і чыёй рукой выпушчанай), але абедзьве дружыны так-сяк адступілі.

– Гэй-я! – раптам пагрозліва выгукнуў Скорка, пускаючы каня наўскач.

– Сячы! Бі! – падбадзёрвалі яго хаўруснікі, патрасаючы зброяй.

Курч, прыўзняўшы шаблю, рушыў насустрач, таксама разганяючы варанога аргамака.

Абодва паядыншчыкі, магутныя і грозныя, зближаючыся, наставілі зброю перад сабой так, каб можна было, нацэльваючы ў грудзі ворагу, усадзіць клінок адным рухам, нейкае фехтаванне пры такой імклівасці бегу коней было амаль немагчымым. Ён, Зых, такі нямала паказакаваўшы, бачыў падобныя выпадкі, але сам так і не памерыўся спрытам з ворагам у імклівым шабельным двубоі, ухіляўся, надта дарослым дзецюком давялося спасцігаць фехтавальнае майстэрства, гэтаму патрэбна навучацца змалку,

што звычайна і рабілі шляхціцы, калі клапаціліся пра выжыванне сваіх сынкоў, якім амаль абавязкова лёс рыхтаваў суровыя вайсковыя выпрабаванні. Ды і ў мірны час шляхціцы, пасварыўшыся, часам па дурасці і п'яні, нярэдка хапаліся за шаблі. Ім увогуле, відаць, проста свярбела, каб з кім счапіцца ды пачаць рэзацца. Але тут, ля сядзібы Курча, біцца, выглядала, сышліся не з-за дробязі, і лютасць адчувалася асаблівая, як на вайне. Коні імкліва збліжаліся, вось-вось гатовыя сутыкнуцца грудзі ў грудзі. І толькі спрактыкаваны рубака мог ацаніць, як умела, ледзь прыкметнымі рухамі накіроўвалі іх вершнікі.

Коні прамчаліся так блізка адзін ля аднаго, што здалося, паядыншчыкі змаглі б біцца кулакамі. Маланкай мільганула шабля Скоркі, але яе ўсё ж сустрэў клінок Курча. Коратка дзынкнула сталь, а на другі выпад ужо часу не хапіла – коні размінуліся.

Раз'ехаўшыся, паядыншчыкі абодва амаль разам уздыбілі коней, паварочваючы іх, і з яшчэ большай ярасцю рынуліся адзін на аднаго. Зноў тонка ляскае сталь аб сталь – а вынік ранейшы, байцы імкліва разляцеліся.

– На ляха! На ляха! Гэй-я! – падахвочвалі Скорку хаўруснікі.

– Сячы! Забівай! – не меней ярасна крычалі чаляднікі Курча.

Пані нейкі час пазірала на двубой моўчкі, сцяўшыся, прыціскаючы да грудзей рукі, толькі вусны варушыліся, можа, шэпчучы малітву, але выраз твару ў яе быў зноў жа зусім не спалоханы. І такі натхнёна-прыгожы, што ён, Зых, сам гатовы быў, здаецца, біцца хоць з д'яблам, каб гэты позірк прызначаўся яму.

– Сячы! Забівай! – разносіўся па наваколлі кліч болей дзясятка мужчынскіх глотак, аднолькавы з абодвух бакоў.

Паядыншчыкі ўжо не разганялі коней, стараючыся хутчэй наскочыць на ворага, а кружыліся адзін ля аднаго так блізка, што маглі б карыстацца нажамі, кордамі, каб аказалася імгненне іх выхапіць. Клінкі бліскалі і бліскалі з тонкім свістам і звонам. Уверх, уніз, з віхурнымі вывертамі. Конскія капыты вытапталі дол да чарнаты.

– Сячы! Бі!

Людзі абодвух паядыншчыкаў ужо амаль з самага пачатку бою пачалі памалу ў запале насоўвацца бліжэй да сваіх паноў, прагнучы ім падсобіць. Хоць крыкам. А нарэшце адбылося тое, што прадчувалася.

Здавалася ўжо: бойка скончыцца на карысць таго, хто акажацца болей вынослівым, і значыць, хутчэй за ўсё пераможа Курч. Скорка, канечне, выглядаў не слабейшым, а то і дужэйшым, ды ж, відаць, надта заўзята завіхаўся ў застольных баталіях, змагаючыся са свінымі кумпякамі і смажанымі каўбасамі, шчодра запіваючы іх бражкай і гарэліцай, чымся сем патоў праліваючы, назапашваў вынослівасць у баявых практыкаваннях. Вось і чэрава пачало ўжо выпіраць пад суконным жупанам у супрацьлегласць паджараму ляху. Так што Курчу варта было б як мага даўжэй працягваць ліхое фехтаванне – да канчатковай стомы супраціўніка, каб і шаблю з рукі выпусціў ці з каня споўз. Аднак ці то блізкая прысутнасць устрывожанай цяжарнай жонкі, ці, можа, набліжэнне прыцемкаў надало яму імпэту адным спрытным наступам нарэшце скончыць з ворагам. У нейкае імгненне ён крыху аддаліўся ад Скоркі і тут жа, наставіўшы шаблю сталёвай дзюбай, рынуўся на яго імклівым чорным каршуком.

Курч усё ж ці не памыліўся, вызначаючы, наколькі ўжо стомлены праціўнік, каб не паспець ухіліцца ад хітрага рашучага нападу. Ва ўсякім разе атрымалася як напачатку двубою: шаблі дзынкнулі, сутыкнуўшыся, Скорка

ўвішна адхіснуўся – і Курч прамчаўся міма. Новым аказалася іншае: перад яго канём не аказалася былой свабоднай прасторы, там знаходзіліся людзі Скоркі. Яны пачалі размахваць зброяй, падскокваць да каня, ярасна равучы:

– Бі мазура! Сячы! Гэй!

Ад нечаканасці конь Курча спалохана ўздыбіўся, сутаргава разварочваючыся, і тут, калі ён ужо пачаў апускацца на пярэднія ногі, дзяцюк з варожай зграі спрытна саўгануў яму пад бруха кап'ё. Жарабок з дзіка вылупленымі вачыма ў жаху рэзка адхіснуўся і, спатыкнуўшыся, паў на калені. У гурце людзей Курча пранёсся стогн адчаю.

Рэдкі вершнік у такіх абставінах не вылецеў бы з сядла. Курч утрымаўся. Адно – торкнуўся галавой да конскай шыі, левай рукой учапіўшыся ў грыву, а правай выпрастаўшы за сабой шаблю, каб прыкрыцца ад варожага нападу. Толькі ж надта аказаўся ён нахілены ды заняты клопатам, каб не кульнуцца праз конскую галаву на дол. Павісшы над амаль бездапаможна распластаным праціўнікам, Скорка з пераможным выгукам маланкава махнуў шабляй, мерачыся з пацягам рассекчы яго ад пляча да пояса.

Здалося ўсім – канец! Не! І ў такіх абставінах Курч паказаў сябе ваяром выдатнай вывучкі і жалезнай вытрымкі: ён неяк здолеў таргануць каня ўперад і ў апошні момант ледзь-ледзь адхіліцца. Клінок ворага ў выніку ўжо не імкнуў рубам, як быў скіраваны, а слізгануў крыху бокам і толькі ўжо самым канцом ляза ўсё ж рассек Курчу сцягно.

Рассек глыбока. Курч нема ахнуў, а ягоная кроў шчодра лінула на чорны стаптаны дол. Скорка на імгненне прыпыніўся, разглядаючы вынік, але яго людзі наадварот, ажно страпянуліся.

– Гэй-я! – пераможна загаласілі яны. – Дабі ляха! Сячы!

Курч, нягледзячы на раненне, не зваліўся з каня, не выпусціў з рук ні повад, ні зброю, а рыхтаваўся супрацьстаяць нападу, дамоўленасці ж папярэдне не было – біцца да першага ранення. І новы напад адбыўся, бо Скорка, які прагнуў смерці праціўніка, імгненна ўсвядоміў: як бы Курч ні напружваўся, а з такой ранай ужо не ваяка, у хуткім часе павінен зваліцца ў непрытомнасці, сцякаючы крывёю, значыць, усё ж маючы шанц выжыць. А непрытомнага ўжо дабіваць нельга, на гэты конт існуе звычай рыцарскай годнасці. Не навідавоку ж яго парушаць, як ні хацелася б. Але прыхільнікі заўзята падбухторвалі, нібы такім чынам і даючы дазвол:

– Дабі ляха! Сячы!

Выскаліўшыся ў зламыснай усмешцы пераможцы, Скорка прыўзняўся на страмёнах, імкліва бліснуў яго ўжо акрываўлены клінок... Як раптам – гах! Радасна-ўзрушанае галёканне падбухторшчыкаў заглушыў блізкі стрэл з пулгака.

Ахутаны шэрым саванам парахавога дыму, Скорка са здзіўленнем на твары адхіснуўся назад, выпускаючы шаблю і хапаючыся за грудзі. І зваліўся б з каня, каб да яго не падскочыў гайдук на буланым жарабцы, падхапіўшы за плечы. Тады нарэшце ачомаліся і астатнія хаўруснікі атамана, ярасна зараўлі, выхопліваючы шаблі, а трое паспешліва напяльвалі стрэлы на цеціву лукаў.

– Таму, хто паспрабуе дакрануцца да майго мужа ці хоць наблізіцца да яго, – куля!

Гэта выгукнула тонкім дзявочым, але гучным і рашучым голасам пані Курцэвічава. Ніхто, у тым ліку і ён, Зых, у запале назірання за паядынкам не заўважыў, калі тая з'явілася. А яна, па-мужчынску ўпэўнена седзячы

на мышастым бахмаце, спакойна, ва ўсякім разе знешне, перадала свайму пахолку разраджаны пулгак, узяўшы другі, і, трымаючы абедзвюма рукамі, нацэліла на сагнутага ад болю Скорку. Гайдукі Курча таксама ўзялі зброю напагатоў, некалькі пулгакаў, стрэльбу і два арбалеты, з двара спяшалася яшчэ некалькі слуг, кожны з рагацінай ці сякерай.

– Не хачу смерці тваёй, пане, нельга такое між суседзямі, – звярнулася да Скоркі Курцэвічава. – З'язджай, пакуль жывы, і маліся святой Маці Боскай, яна міласэрная. Усе пачуйце: муж узяў мяне не чараваннем і не гвалтам. Са згоды агульнай у царкве Хрыстовай мы павянчаныя. А зямля тут – мой пасаг, яго міласцю вялікім князем і каралём пацверджаны. Будзьце сведкамі ўсе, бо вас не вінавачу, вы людзі паднявольныя: дзеля замірэння адпускаю пана Скорку жывым. За разбой учынены няхай шляхта яго судзіць. Забірайце!

Тады і другі гайдук, касавурачыся на наведзены па-ранейшаму пулгак, падхапіў Скорку пад пахі. Яшчэ адзін, узяўшы каня атамана за аброць, павёў у напрамку лясной дарогі. Курч змрочым позіркам суправаджаў ад'язджаючых нападнікаў, збялелы ад страты крыві, ён выглядаў пагрозліва-незадаволеным, быццам лях шкадаваў, што двубой спынены гэткім нечаканым чынам – жанчынай!

Скорка таксама нарэшце з высілкам павярнуў да ворага змярцвелы твар і хрыпнуў з нянавісцю:

– З'язджай, з'язджай! Ведай, выжыву – вярнуся.

– Вяртайся, калі жыць надакучыць, – азваўся Курч, павесялеўшы, і перавёў позірк на жонку, якая ўсё яшчэ трымала напагатоў пулгак.

Ён, Зых, таксама глядзеў на пані, уражана, на яе тонкі, устрывожана-рашучы твар, такі вабны, што агортвала ціхая радасць проста бачыць яго. Шчаслівы ж гэты чортаў лях!

Ды раптам пачало агортваць шчымлівае адчуванне – бачыць ён сваю горкую ўцеху жывою апошні раз. Так і здарылася.

*(Працяг будзе)*



Фелікс Баторын



…Сплаціў усім, каму быў вінаваты,
І дараваў усім, каму пазычыў…

# Познім вечарам у дождж

## АПОКРЫФ

І было: я ішоў праз пустэльню,
Чый пясок быў утвораны з душаў,
А каменне – з грахоў і злачынстваў,
А ў нізінах стаялі азёры,
І былі яны поўныя слёз.
І гукнуў я да Госпада Бога:
“Як жа гэта пустэльня завецца?”
І пачулася з неба: “Жыццё”.

І было: перайшоў я ў аазіс,
Дзе крыніца, як чыстая праўда.
І цвілі там духмяныя кветкі.
То – чароўныя кветкі кахання.
А на дрэвах руплівае працы
Выспявалі мядова плады.
І гукнуў я да Госпада Бога:

“Як жа гэты аазіс завецца?”
І пачулася з неба: “Жыццё”.

І было: я дабраўся да мора.
І свісталі вятры па-над морам,
Віравалі віхуры змагання,
І раз-пораз амаль што да хмараў
Уздымаліся хвалі страсцей.
І гукнуў я да Госпада Бога:
“Як жа гэтае мора завецца?”
І пачулася з неба: “Жыццё”.

І было: увайшоў я ў пячору,
Скуль ніяк не разгледзець пустэльні,
Ні аазіса, мора – таксама.
Нат святло там нідзе не мігцела,
Не чуваць было ветру і хваль.
І гукнуў я да Госпада Бога:
“Як жа гэтае месца завецца?”
І пачулася з неба: “Нябыт”.

І было: я памкнуўся вярнуцца –
І калі не да пеннага мора,
І калі не ў цудоўны аазіс,
Дык тады хоць сабе і ў пустэльню,
Але выйсця нідзе не было.
І гукнуў я да Госпада Бога:
“Падкажы, дзе жаданае выйсце?”
І нічога ў адказ не пачуў.

* * *

Я ўсё адно пайду на дно,
Дзе бляску сонца не відно,
Дзе дзень пры дні, у цішыні,
Не адбываецца ані
Нічога – толькі вечны змрок,
Але й яго не бачыць зрок.

Плыву, жыву з апошніх сіл.
Нічога ў Бога не прасіў:
Што мне патрэбным можа быць,
Умеў зрабіць і зарабіць.
Адно адзінае прашу:
Не супакой маю душу
І мне як долей часу плынь,
Каб з ёю дужацца, пакінь.

Мне мала веку: прагны я!
Нат у абдымках багны я
Чапляцца буду за трысцё,
Карэнне траў, асцё, жыццё.
Хай у яго і горкі смак,
А толькі ж лепей, чым ніяк!

## *ПУСТЭЛЬНЯ*

Я ў пустэльні крычаў, – і далёка разносіўся гук,
І за хваляю хваля вярталася доўгае рэха.
І кружыў нада мной, на мой голас азваўшыся, крук,
І падобна да плачу гругбнне было і да смеху.

Нарадзіцца прарокам – то міласць нябёсаў ці не?
Мёд пашаны і веры альбо недаверу гаркота?
Я ў натоўпе стаяў, а пустэльня палала ўва мне
Пад распаленым сонцам пякельнай маёй адзіноты.

* * *

Прыцішана гамоняць сёння птушкі,
Не блісне ні расінкі на сіўцы,
І золата схавалі ў белых пушках
На сонечным пагорку дзьмухаўцы.

Гасцінна рэчка бераг разаслала
І спакушае летняю вадой.
У белай козкі вымя набрыняла,
Вось-вось пачне сачыцца сырадой.

Не паліць сонца, а лагодна грэе,
Над галавою чысты сіні шоўк.
"Штось цягне на ідылію. Старэю..." –
З усмешкаю падумаў сыты воўк.

## *Я ЗЫЧУ ВОРАГУ*

Я зычу ворагу дабра,
Я зычу ворагу здароўя.
Ён у маленстве недабраў
Таго, што мы завем любоўю.

Душой спачваранай стары
Ён непапраўна з маладосці,
І топіць ён сябе ў віры
Сваёй нямеранае злосці.

Зраслася маска змагара
За праўду з ворага аблiччам.
Я зычу ворагу дабра,
Здароўя i любовi зычу

З надзеяй тайнай, што ў яго
З рукамi ў неадмыўным брудзе
Хаця на калiва ўсяго
Аднойчы людскасцi прыбудзе.

## НАСЛЕДАВАЛЬНIК

Сабою ганарыўся ён бясконца –
Адметнае ў жыццi ў яго было:
Калiсь ён, як Максiм, глядзеў на сонца.
Аднак жа праз закуранае шкло!

* * *

Паэт – як хворае дзiця:
Капрызiць, кволiцца i плача,
Калi ж ледзь-ледзь палёгка, – скача,
Гуляе весела, хаця
Наўкола ўсё не так i слаўна –
Струменiцца зусiм не плаўна
Вiрыстая рака жыцця.

Паэт – дзяўчо ў шаснаццаць год,
Што, не засвоiўшы манераў,
Паўсюды бачыць кавалераў,
Чакае радасных прыгод.
Але нi ласкi, нi букетаў.
Яго прыпрэ да парапету
У тлуме клопатаў народ.

Паэт – прарок i прайдзiсвет,
Мудрэц наiўна-неразумны,
I аптымiст з усмешкай сумнай,
I марантравец, i аскет,
Iгрок па банку, жоўцьны сквапнiк,
Адданы муж, распусны бабнiк –
Усё ў сябе ўвабраў паэт.

Развеецца лятункаў хмель,
Пахмелле горкае настане.
Душа ж у нерашучым стане:
Ёсць дзве дарогi – на панель

Ці ў цесны каземат самоты.
Сам вырашай, паэце, хто ты:
Магутны дуб? Паўзучы хмель?

* * *

Дарага плацяць за поспех у танных жанчын.
Кілішак здольны да кропелькі вычарпаць кварту.
Знойдзецца многа для гнюсных учынкаў прычын.
Шмат вылятае на вецер пад ногі азарту.

Страсці высокія з нізкімі д’ябал змяшаў.
Як раздзяліць іх, ці ж Богу самому вядома?
Лёс навылёт ачышчэння благае душа.
Промні Эдэма на твары і блікі Садома...

* * *

Вялізны грыб, цяжэнны ад чарвей,
Пануе над палянаю грыбною.
Я з сумам зазначаю, што ў людзей
Як правіла здараецца такое.

## ЦІШКА ГАРТНЫ

“Аўроры” стрэл, завозны Смольны.
Грэх незамольны. Лёс няўмольны.
Чужы алтар. Чужы прастол.
І плач жалобы неадольнай,
Жалеза ў горле, быццам кол,
І кол асінавы – у доле...

## ПА́ЛЯЧЫ Ў ПЕЧЦЫ

Як вінтоўка, страляе чыгунная печка,
Рулю-комін наставіўшы ў холад і ноч.
Ты б заснула, душа, як пад крыгамі рэчка,
Каб не гэты па тронак засаджаны нож.

Мо знайшла б цябе некалі ўрэшце патоля,
А забойцу твайго напаткала турма,
Але снег засыпае сляды ў наваколлі,
Але пальцаў адбітку на тронку няма.

## *СКРЫПКА, ПАЧУТАЯ ПОЗНІМ ВЕЧАРАМ У ДОЖДЖ*

Раптам вуліца
Перакуліцца
У заліты дажджом асфальт.
Дожджык джаліцца.
Скрыпка жаліцца:
Дзе падзеўся ты, любы альт?

Мо забавіўся,
Мо адправіўся
У далёкую старану?
Голас стончыцца,
Песня скончыцца –
Абарвала туга струну.

Дождж раз’юшыўся,
Змоклі душы ўсе
Аж да рубчыка, як плашчы.
Скрыпка згінула,
З плынню зрынула,
І не знойдзеш яе ўначы.

* * *

Як шмат у рэчаіснасці парой
Таго, чаму б іначай адбывацца.
І я нібы ў тэатры, дзе авацый
Не заслужыў ніхто сваёй ігрой.

А хто ж на сцэне? – Я. І ў зале – я.
І пры чужым адзенні ў гардэробе,
І ў закуліссі – у рабочай робе,
І роля не акрэслена мая.

Пісаць я тую ролю мушу сам
І вывяраць дакладнай рэжэсурай.
А некаму карціць мяне дрэсурай
Утаймаваць – і ў цырк. Альбо ў бедлам.

Але ж бедламу мне і так стае,
Аж хочацца хутчэй заплюшчыць вочы.
Баюся толькі, што заснуўшы ўночы,
Не дачакацца ўжо канца яе.

* * *

Свет як пустка. Ці як пасека.
А ў душы – надзеі зман.
Я пражыў свой лёс падпаска,
А наперадзе – туман.

Толькі маятніка рухі,
Стрэлкі вечныя ўваччу.
“Наталі мае Ты скрухі!” –
У пустэльні я крычу.

## *СОН НА КУРГАНЕ*
## *(Наследванне Янку Купалу)*

Трушчацца труны, ад веку збуцвеўшы
Ў нетрах жвірова-жарсцвяных.
Кожны наш сон неспасціжны і вешчы,
Поўны прароцтваў ён цьмяных.

Толькі апошні наш сон не прарочы,
Цемра ў ім вечная стыне;
Сыплецца жвір праз буцвень нам не ў вочы –
У вачаніцы пустыя.

Але пакуль не заціснула ў дошкі
Цяжкай магільнай зямлёю,
Хочацца шчасця нам зведаць хоць трошкі
Альбо хоць долі нязлое.

Кожнае ночы, заплюшчыўшы вочы,
Снім свае сны-спадзяванні,
Простае, сціплае шчасце прарочым –
Вочы расплюшчыць уранні.

## *ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ*

*Jeszcze Polska nie zginęła,*
*Poki my żyjemy.*
Гімн Польшчы

І Беларусі жыць, пакуль ёсць мы –
Не проста Панямонню й Падняпроўю.
Яе жывіцьмем мы сваёю кроўю,
На папялішчах ставячы дамы.

А непаўторнасць велічы яе
Не ў краявідах, храмах і палацах,

А ў плёне паўсядзённай шчырай працы,
Той працы, ад якой душа пяе.

А калі нас у дол уцісне смерць,
То ў той, дзе спяць Скарына і Купала.
Хай скажуць: “Беларусі не бывала!” –
Мы прарасцем быллём зямную цвердзь.

* * *

Сабою застаюцца цвердзь і воды,
І доўжыцца бясконцае жыццё.
Хто ж быць хацеў усім і назаўсёды,
Той небыццю сышоў у небыццё.

* * *

Сплаціў усім, каму быў вінаваты,
І дараваў усім, каму пазычыў,
Падрахаваў набыткі ўсе і страты –
І атрымаўся вынік, як заззычай.

Калі чытаў, перачытай наноў
Эклізіяста – там ёсць вынік гэты:
Маленькі нуль, з якім у свет прыйшоў,
Вялікі нуль, з якім сышоў са свету.

* * *

*Кожны свой дзень назязюлены*
*Бачу наперад.*
А. Сыс

Зірну наперад. Там праменьчык днеецца.
А з цемрыва пад ногі – корч ці крушня,
Ці вырубкаю шлях бясконца пнеецца...
Каб не дарма, крычаў бы адчайдушна.

Мой лес – са скупасэрнымі зязюлямі,
Таму не назязюлена мне лёсу.
Прабіты грудзі днямі, быццам кулямі,
І чырванеюць пад нагамі росы.

* * *

Што з намі, грэшнымі, дзеецца? –
Месца не знойдзеш таўру...

Хоча душа абнадзеіцца,
Што ўсё паверне к дабру.

Можам яшчэ мо ачысціцца
Мы ад смуроднай брыды
І пад скляпенні ўрачыстыя
Выйсці з дрыгвянай жуды.

Хоць бы ў падмурак цаглінамі
Легчы прыземленым нам,
Абы над нашымі спінамі
Ўзвысіўся велічны храм.

Промнямі продкавай спадчыны
Будуць там ззяць алтары,
Мовай высокаю матчынай
Казань казаць святары.

Навалач злая развеецца,
Месца расчысціць дабру...
Што з намі, грэшнымі, дзецца?
Месца не знойдзеш таўру!

### *МУДРЭЦ*

*...Толькі слухаць душой...*
Янка Купала.

Я глядзеў – і не бачыў, я слухаў – не чуў,
Я спасцігнуць хацеў – і не ўведаў.
Я нарэшце да праўды дабіцца хачу,
Каб пазнаць, дзе прычына ўсіх бедаў.

І прамовіў мудрэц мне з тугою ўваччу:
– А прычына такая ўсіх бедаў,
Што глядзеў – і не бачыў ты, слухаў – не чуў,
Не душой спасцігаў – і не ўведаў.

Што па сіле душы, не па сіле плячу,
Не рассунеш плячом ты ўсіх бедаў. –
Паглядзеў я – і ўбачыў, паслухаў – пачуў,
І душу я параніўшы ўведаў.



Ігар Бабкоў



...няясна было толькі адно: ці ён
сапраўды прачнуўся і ўсё гэта яму прыснілася,
ці гэта наадварот агонія, апошнія секунды,
у якія ён патрапіў ва ўспаміны...

# Паветраны шар (1984)

*Другая аповесць з рамана-павуты. Пачатак у № 53.*

## 1.

Праз пару кіламетраў мусіў быць паварот направа, на грунтоўку.

Багдан вырашыў не рызыкаваць і ехаць праз пушчу, па лясных дарогах. Гэта зойме значна больш часу, затое можна расслабіцца, не звяртаць увагі на патрулі і падазроныя машыны, не адсочваць хвасты, якія маглі цягнуцца ад самага Менску.

На трасе паўсюль стаялі патрулі: праз месяц павінны былі быць выбары, і ДАІ ўзмацніла пільнасць. Цяпер яны спынялі не толькі тых, хто штосьці парушаў, альбо быў у спісах, але і іншых, тых, хто быў непадобны на астатніх, на ўсялякі выпадак.

І ўсё ж пушча была не проста манеўрам. Ён выехаў за чатыры дні да сустрэчы: яго чакалі толькі на наступным тыдні і ён планаваў у гэтыя дні спыніцца дзе-небудзь на беразе ляснога возера альбо каля ракі. Адключыць

мабільнік, забыць пра ўсе абавязкі і нарэшце дазволіць сабе невялікі адпачынак.

Ён быў цалкам падрыхтаваны да такой выправы: у багажніку ляжаў намёт, спальнік, дыванок і невялічкая надзіманая падушка. А таксама сала, тушаніна, цыбуля, крыху морквы, пяць кіло бульбы і боханы запакаванага хлеба, якія ён набыў ужо на выездзе.

Была яшчэ і вуда з бахіламі, хаця ён і не быў аматарам рыбнай лоўлі. Апошні раз ён лавіў рыбу год дзесяць таму і, па шчырасці, ужо не памятаў, што трэба чапляць і навошта. Проста вуда дадавала скончанасць і пазнавальнасць гештальту: з ёй ён адразу патрапляў у пэўную катэгорыю людзей, і ДАІшнікі, калі б яны яго выпадкова спынілі, не мусілі далей корпацца ў багажніку, лезці туды, дзе за фальшывай сценкай ляжалі агітацыйныя матэрыялы і грошы на выбарчую кампанію, грошы, якія ён мусіў развесці па шасці мястэчках на паўночным захадзе, каля самай літоўскай мяжы.

Вуда была часткай абсталюнку вандроўніка, ён збіраў яго больш за пятнаццаць год. Туды ўваходзілі таксама сякерка, нож, рондалі з трыногай і шмат якія іншыя рэчы, пра якія звычайна прыгадваеш ужо на месцы, *калі позна*.

Асабліва ён ганарыўся намётам: устойлівы, цёплы, добра прадуманы. Канечне, можна было спаць і ў машыне, выцягнуўшы сядушкі, – у ягоным старэнькім мінівэне месца хапала. Але намёт даваў адчуванне малога дома, і гэта было важна.

***

Адзіная рэч, што выбівалася з прадуманай турысцкай ідыліі, ляжала на самым бачным месцы, над бардачком.

Гэта была кніга.

На вокладцы можна было прачытаць назву: *Падарожжа на Захад*. І ўнізе, значна меншымі літарамі: *класічны кітайскі раман XVI стагоддзя*. Прозвішча аўтара не было, затое была карцінка: кампанія з чатырох сяброў, вельмі дзіўных, ішла па дарозе. Наперадзе – маленькі чалавечак з тварам малпы, які вёў будыскага мніха. За імі ішоў чалавек з тварам дзіка. Замыкала шэсце дзіўная істота, падобная адначасова на каня і дракона.

Можна было падумаць, што гэта кітайскія народныя казкі, калі б кніга не была такая тоўстая. Яна без сумневу мела больш за тысячу старонак. А можа, нават і паўтары.

Кніга ляжала ўпэўнена, яна відавочна прыжылася. І ўсё ж калі Багдана хтосьці запытаўся б наўпрост, што яна робіць у машыне, ён не адразу знайшоў бы, што адказаць.

Яе падарыў Францішак, на пачатку іх знаёмства. Перадаў праз Эву Дамініку. Сказаў, што гэта адна з самых важных і вясёлых гісторый, што прыдумалі кітайцы. І што чытаць яе зусім не абавязкова. Але, калі яму прыйдзе час адправіцца ў сваё падарожжа, кніга мусіць быць побач. Як талісман, ці нават як дарожная мапа.

Багдан тады пакрывіўся, і, ясна, вырашыў прачытаць усю кнігу. Прынцыпова. Але гэта апынулася не так проста.

Галоўны герой кнігі, Сунь У-кун, князь малпаў, выпраўляўся ў падарожжа на Захад, каб знайсці і прывесці будысцкія сутры сапраўднай мудрасці. Уласна кажучы, выправіўся па сутры мніх Сюань Цзан, а Сунь У-кун вырашыў быць ягоным спадарожнікам.

Кніга была хронікай гэтай вандроўкі. Напоўненай прыгодамі, духамі і пярэваратнямі, страшнымі пячорамі, магіяй, сябрамі і ворагамі.

Ён пачаў чытаць з энтузіязмам, але хутка выдыхся. Паспрабаваў другі і трэці раз. І быў здольны дацягнуць максімум да пяцісотай старонкі. А калі збіраўся працягваць чытанне, разумеў, што ўсё забыў і трэба пачынаць ад пачатку.

***

Аднойчы, у спадзяванні дайсці да канца, ён павёз кнігу з сабой на адпачынак, у Крым. Там ён не змог прачытаць ані радочка. Але пры вяртанні з ім здарылася вясёлая гісторыя.

Набліжаліся чарговыя выбары, ён, канечне ж, быў у адпаведных спісах. І на пераходзе памежнік адразу выклікаў па тэлефоне *чалавека без формы*, які ўзначаліў праверку. Пачалі з квіткоў, распыталі праваднiцу, ці ён сапраўды сядаў у Феадосіі і ці не падсаджваўся хто да яго па дарозе. Пасля пачаўся агляд рэчаў. Здавалася, яны гатовыя былі перагледзець усё, да апошняга гузіка. Гэта было не дзіўна – на памежных пераходах шукалі кур'ераў з грашыма і патрабавалі надзвычайнай пільнасці.

Багдан тады зусім не хваляваўся. На ім быў шакаладны загар, побач у купе сядзела прыгожая спадарожніца, у гонар вяртання быў ужо адкаркаваны крымскі партвейн. Усё гэта настройвала на лагоднае і крыху паблажлівае стаўленне да людзей, што займаюцца сумнай і, па вялікім рахунку, нікому не патрэбнай працай у такую чароўную летнюю раніцу.

Але тут чалавек без формы знайшоў кнігу.

У першыя секунды ён, напэўна, падумаў, што перад ім муляж, у якім і схавана ўсё, што ім патрэбна. І рынуўся на яе, як каршук на здабычу. Бо такіх вялікіх кніг не бывае, прынамсі, іх не возяць з сабой на адпачынак.

Але гэта была толькі кніга.

Відавочна расчараваны, ён пачаў меланхалічна гартаць старонку за старонкай. Як быццам штосьці спадзяваўся знайсці між імі. Уважліва вывучыў вокладку і выходныя дадзеныя. Урэшце запытаўся, пра што яна.

Адказ Багдана – *пра пошукі заходняй мудрасці* – яго ўзбадзёрыў, прымусіў узяцца за выбарачнае чытанне.

Скончыўся час, адведзены на праверку, потым час, адведзены на затрымку, а капітан (Багдан пра сябе пачаў называць яго капітанам) аніяк не мог адарвацца. Відавочна, кніга яго інтрыгавала і прыцягвала сама па сабе.

Было такое ўражанне, што ён забыў на сваё важнае заданне і цяпер блукаў разам з героямі па лабірынтах кармы, у пошуках адказаў на так і не зададзеныя пытанні.

Урэшце цягнік скрануўся і асцярожна рушыў. Капітан застаўся ў купэ ажно да Гомеля. Ён апынуўся аматарам дэтэктываў і дасціпна разважаў пра заняпад жанру: плыткія матывацыі персанажаў, шаблоннасць характараў і неразуменне спецыфікі следчай работы.

Цягнік паплыў далей, на поўнач, неўзабаве сышла і цудоўная спадарожніца (Багдан пазнаёміўся з ёй ужо ў цягніку, яна вярталася ў Красны бераг ад сваёй Палтаўскай цёткі і з радасцю пагадзілася згуляць ролю яго сяброўкі).

Прыгажосць гэтай гісторыі палягала яшчэ і на тым, што на вакзале ў Чарнігаве, дзе цягнік стаяў паўгадзіны, да Багдана падышоў нікому не-

вядомы, зусім непрыкметны чалавечак. І скрутак з грашыма, які яны так упарта шукалі, ляжаў у правай кішэні яго джынсаў.

***

Ён пабачыў паварот здалёк і зрабіў кантрольны прыпынак: пастаяў хвілінаў дзесяць, корпаючыся ў рухавіку, цішком прыглядаючыся да наваколля. Усё было спакойна, аніякіх хвастоў, аніякіх сведкаў.

Праехаўшы паўгадзіны па грунтоўцы, ён пабачыў наступны паварот, на лясную дарогу. Дарога была вельмі старая і зарослая, як быццам ёй не карысталіся год трыццаць, а можа нават пяцьдзясят. На мапе яе не існавала: на шмат кіламетраў наперад была толькі пушча. Багдан пашкадаваў, што не знайшоў кіламетроўку: там мусяць быць пазначаныя сцежкі і нават узгоркі. Незнаёмыя дарогі ў лесе – амаль заўсёды праблема: добра, калі яны проста вялі да якой лесьнічоўкі, ці на іншы прасёлак. Звычайна ж яны пачыналі гуляцца: падвойваліся і патройваліся, ішлі ў розныя бакі, і ўрэшце можна было гадзінамі кружляць на невялікім лапіку, думаючы, што ты едзеш наперад.

Але тут было штосьці іншае, ён практычна не вагаўся: рашуча налева і праз хвіліну ягоны мінівэн паплыў праз хваёвы акіян на другой хуткасці.

Дарога віхляла, ішла разам з краявідам, абмінаючы пагоркі і невялічкія балотцы. Яна сапраўды была вельмі старая, і часам Багдан амаль навобмацак пазнаваў завароты, схаваныя сярод густой травы. Пару разоў прыходзілася вяртацца, але гэта было не страшна.

Гэтым разам ён быў упэўнены: і ў дарозе, і ў лесе, і нават у канчатковай мэце свайго падарожжа.

Усё складвалася так, як трэба, так, як у глыбіні душы яму хацелася.

Ён адключыў мабільнік і выцягнуў батарэйку.

Можна было ўрэшце расслабіцца. Забыцца.

Адамкнуць дзверы ў патаемныя пераходы памяці, паспрабаваць выйсці гэтымі пераходамі ў пэўныя месцы ў мінулым.

*Крыніцы радасці, я хачу знайсці там крыніцы радасці*, – сказаў ён раптоўна ўголас, як быццам бы спрабаваў нешта камусьці патлумачыць ці нават пераканаць. Кагосьці, хто не быў да канца згодны з маршрутам, альбо ўвогуле не разумеў, што адбываецца.

І гэта прагучала як заклён, а крыху нават і як апраўданне.

***

Што адбываецца, ён сам разумеў не да канца.

Пэўна, штосьці здарылася з часам.

Ён, відавочна, стаў больш хуткім. Дні і тыдні ўжо не цягнуліся доўга, ці хаця б заўважна, а згаралі ўмомант, як запалкі. Зрэшты, ён і сам паслабіў хватку, перастаў за іх трымацца, дазволіў ім сплываць ціха і незаўважна.

Раней тое, што пражывалася месяц, год таму, стаяла перад вачыма і не хацела сыходзіць, а цяпер тое, што было на мінулым тыдні, адразу праваьвалася ў палонку адсутнасці, а калі ўсё ж выбіралася адтуль навонкі, выглядала шэрым, халодным і безнадзейна далёкім, нібы гэта тычылася не яго, а некага чужога, амаль незнаёмага.

Да ўсяго гэтага дадаліся іншыя трывожныя сімптомы.

Знікла адчуванне чагосьці новага, што мусіць адкрыцца за даляглядам. І што трэба было выглядаць і цікаваць, чакаць, нават прыспешваць.

Кудысьці прапала зацятасць, вечная гатоўнасць кідацца ў бой, у работу.

Ён усё менш звяртаў увагу на знешняе. Блытаў імёны, забываўся на сустрэчы. Мог увесь дзень прасядзець перад школьнымі фотаздымкамі альбо гартаць старыя, не раз перачытаныя кнігі.

У пэўны момант яму нават здалося, што ён страціў здольнасць гаварыць з людзьмі. Дакладней, гаварыў хтосьці іншы, за яго, а ён проста паўтараў чужыя словы, што складаліся недзе самі сабой. Паўтараў, як аўтамат, не напаўняючы іх сваім зместам.

Ён перастаў чакаць ад жыцця нават не падарункаў – проста нечага яснага і ўцямнага, за што можна было б зачапіцца. Што дазволіла б прачынацца зранку без стомы, без гэтага гаркавага прысмаку нерэальнасці ўсяго, які знікаў толькі пад вечар, і тое пасля келіху добрага віна альбо віскі.

Ён усё больш сыходзіў унутр сябе – і нічога не знаходзіў там, усярэдзіне, акрамя пустаты і горычы.

***

Крыху ратавалі ўспаміны.

Яны былі не проста магчымасцю заплюшчыць вочы, на хвіліну забыцца. Там быў прытулак.

Там, у мінулым, у яго былі свае ўлюбёныя месцы, светлыя, надзейныя. Якія ўжо былі пражытыя, здарыліся, і цяпер мусілі заставацца з ім да самага канца, а можа, нават і далей, пасля ўсяго.

Ён адкрыў для сябе гэтыя месцы зусім выпадкова, некалькі год таму.

Ён тады ехаў на сустрэчу ў далёкае мястэчка адзін. Ехаць трэба было доўга, і ён ужо крыху нудзіўся, за вакном аўтобуса цягнуўся лес, звычайная прыдарожная лесапасадка, перад ім сядзела бабулечка з клункамі, зусім як калісьці ў дзяцінстве, калі бацькі вывозілі яго на лета ў вёску альбо ў піянерскі лагер.

І раптам ён перанёсся ў мінулае, у зусім іншы лес, вялікі, страшны, поўны загадак.

Яму пяць ці шэсць год, яго завезлі на першую змену, і цяпер ён хадзіў па тэрыторыі, разам з усімі, вырваны з цёплага і знаёмага дому, упершыню без бацькоў. І неяк адразу пачаў чакаць, калі ўсё гэта скончыцца.

А потым бацька – зусім выпадкова – заехаў яго праведаць і вывеў на пару гадзінак прагуляцца за агароджу.

Аднекуль выплывалі падрабязнасці: прыгожы і гостры сцізорык, карабель з кары дрэва, маленькі ветразь, ручай, яны пускаюць гэты карабель на ваду, гэта быў адзін з першых момантаў шчасця, не проста прыемнасць, а менавіта шчасце, і яно раптоўна вярнулася, – ужо тут, у аўтобусе – і зноў агарнула яго, наплыло цёплай хваляй.

Ён быў шчаслівы ў той момант успаміну, нейкім асаблівым дзяцінным, дзіўным пачуццём, у якім было намяшана многа ўсяго: многа радасці ад простых і цёплых рэчаў вакол, крыху бяспекі і спакою, але самае галоўнае – даверу, там было многа даверу: да свету, да дрэваў, да бацькі, што ўсё ж такі прыехаў, да вострага сцізорыка, і да ветразя, які так прыгожа імкнуў яго ў будучыню.

Ён тады падумаў, што ў сваіх пошуках шчасця мы звычайна глядзім

наперад і думаем, што яно прыйдзе адтуль, а яно проста ціха ляжыць у мінулым, у тым нябачным куфэрку, які заўсёды з намі, – і чакае, калі мы будзем да яго гатовыя.

***

Але адкуль усё гэта паўстала? І дзе захоўвалася? Яшчэ хвіліну таму ён не памятаў анічога, гэтага відавочна не існавала ў ягонай свядомасці, дарэшты запоўненай рознымі мэтамі і задачамі.

А памятаць было варта. Гэты хлопчык у лесе быў надзвычай важны, ад яго ішла пэўная сцежка ў будучыню, сплятался з іншымі і, у рэшце рэшт яе, *ягоную будучыню*, стварала і вызначала.

Ён тады ўпершыню зразумеў сэнс чалавечай памяці, усю яе незвычайнасць. Убачыў, як час штохвілінна і штосекундна замятае, адпраўляе ў нябыт усё, што адбылося. І як мы стаім на гэтым краі, адважна ўглядаючыся наперад, чакаючы чагосьці важнага адтуль, з неіснавання, замест таго, каб захоўваць тое, што было і адбылося, і што цяпер мусіць быць з намі заўсёды.

Яшчэ ён падумаў, што тыя важныя падзеі, пра якія пішуць у кнігах і якія лічацца *сапраўднай гісторыяй*, чамусьці ніколі не дораць нам радасці.

Праўда, можна было ўявіць сабе іншую гісторыю, гісторыю ўсяго, для якой не існавала розніцы ў маштабе і для якой гэты хлопчык у лесе быў істотны, сам у сабе. Але пры гэтым звязаны з усім астатнім: з войнамі і рэвалюцыямі, паўставаннем і заняпадам народаў, нараджэннем зорак і кантынентаў.

Тады, у аўтобусе, ён выпадкова дастаў з куфэрка часу часцінку свайго жыцця, і далей гэты кавалачак шчасця не толькі не забываўся, а абрастаў падрабязнасцямі, грэў і цешыў.

Паступова да яго далучыліся іншыя ўспаміны.

Цяпер у яго была цэлая калекцыя, і ён не проста патрапляў у пэўнае месца, ён вандраваў па іх, пераходзіў ад аднаго да другога, застаючыся тут альбо там, у залежнасці ад настрою.

Урэшце ён зразумеў, чаму старыя людзі так цешацца прамінулым. І чаму ў старасці, напрыканцы жыцця, яны памятаюць значна больш, чым у момант пасля падзеяў.

Больш насычана. І неяк больш сэнсоўна.

Праўда, было крыху дзіўна, што тое, чаго больш няма, аказваецца не менш важным, чым тое, што было навонкі.

Але ўрэшце стала лягчэй і нават вясялей жыць, не так страшна адпускаць імгненне, разумеючы, што нічога не знікае, ўсё патрапляе ў гэты нябачны куфэрак.

І ён вярнуўся і жыў далей, і, часам, пражываючы пэўныя рэчы, ён ужо наперад прадчуваў, які гэта будзе рэдкі і прыгожы ўспамін.

Магчыма, ён падумаў пра гэта таксама, аднойчы ўсё ягонае жыццё, завершанае і дасканалае, насычанае сэнсамі, паўстане перад ім як завершаны твор. І будзе не страшна ставіць апошнюю кропку.

***

Што здарылася?

Як і калі ўсё пачало ламацца?

Як і калі замест радасці паўстала гэтая шэрая стома?

І якім чынам ёй атрымалася пафарбаваць у шэрае не толькі тое, што ёсць, разлягаецца перад вачыма, але і тое, што было, што мусіла бяспечна і шчасліва ляжаць у мінулым?

І чаму цяпер ён едзе па лясной дарозе з адным жаданнем: сысці, знікнуць назаўсёды *з гэтай рэальнасці*?

Жаданне было новым: такога ён не памятаў, хаця патрапляў у розныя сітуацыі. Ён падаў і падымаўся, але ніколі не дазваляў сабе расклейвацца, ішоў наперад.

Так, у яго былі пэўныя пытанні – да свайго жыцця, да сяброў, зрэшты, да эпохі. Былі здрады і адхіленні, былі расчараванні.

І ўсё ж тут было іншае. Больш простае і ў той жа час больш трывожнае, незразумелае.

Было адчуванне, што пакуль ён разбіраўся з абставінамі, у жыцці здарылася дзюрка, прабоіна. І праз гэтую дзюрку ад яго паціху пачало сыходзіць нешта важнае. І цяпер, калі ён быў за два крокі да разумення, што насамрэч здарылася – з эпохай і з ім самім – *яго самога* амаль не засталося.

***

Таму два дні каля возера мусілі быць не проста турысцкай забавай. Яны павінны былі *загойваць*.

Ён іх прыдумаў, калі раптам зразумеў, што сілы сканчаюцца і ён можа сарвацца, не дацягнуць да канца выбарчай кампаніі.

Што цяпер самае важнае адляжацца, заціхнуць, як кацянятка, дазволіць цяпельцу жыцця, што ўсё яшчэ жыло, там, пад прысакам, зноў адрадзіцца.

І ён не памыліўся, ён адчуваў гэта з кожнай новай хвілінай, з кожным кіламетрам.

Ён заглыбіўся ў пушчу, лес вакол быў стары, але дыхаць станавілася лягчэй, і, самае галоўнае, у сэрцы пачыналі прачынацца радасныя прадчуванні.

Дарога зрабіла яшчэ адзін паварот, і ён выехаў на лясную палянку. Магчыма, яна і была мэтай ягонага падарожжа.

Налева ішла сцяжына. Досыць шырокая, яна нібы запрашала збочыць і працягнуць вандроўку. Але ўсё ж такі на машыне там не праехаць. Да таго ж было ўражанне, што сцяжына не вяла да нейкага месца, а наадварот, аднекуль вярталася. І, калі паехаць па ёй, стужка пачне адкручвацца назад: лясная дарога, потым прасёлак, а потым нейкая вёсачка. І ўрэшце ён проста прыйдзе да таго, з чаго ўсё пачалося.

Направа сцежкі амаль не было, але штосьці ўгадвалася ў самім ландшафце. Там можна было праехаць, хаця і не было ясна куды.

Наперадзе нічога не праглядалася, там відавочна быў гушчар.

Трэба было выйсці з машыны, агледзецца.

Але раптам накаціла цёплая хваля, адкрылася яшчэ адна доўгачаканая сцежка, ён заглушыў рухавік, дастаў тэрмас з кавай і адправіўся ў пошукі *іншага раздарожжа*.

***

Дваццаць год праляцелі, як птушка: здавалася, яны толькі ўчора ладзілі тое Купалле, каля далёкага ляснога возера.

Дзве гадзіны электрычкай, яшчэ столькі ж пешкі, стомленыя і напружаныя, яны дайшлі да месца толькі пасля абеду. Але калі выйшлі па паляну і адкрылася возера, лясная затока, стома кудысьці знікла і сэрцы запаліліся радаснымі прадчуваннямі.

Ён тады спрабаваў трымаць рытуал, расказваў што трэба рабіць і навошта, але ўсе і так ведалі, што рабіць, гэтая веда была разлітая ў паветры, вільготным і неспакойным. Галоўнае – натрапіць на правільнае месца, і яно само цяпер нашэптвала ім, куды ісці, у якіх кірунках.

Вогнішча шуганула ў неба, потым крыху прыціхла і далей трымалася роўным вагнём, і ўжо ніхто не звяртаў увагі на лёгкі дожджык, які распачаўся надвячоркам, на камароў, якія нечакана прыляцелі і потым гэтак жа нечакана прапалі.

Дзяўчаты плялі вянкі, хлопцы паставілі намёты, зрабілі навес ад дажджу. Расклалі абрус, выцягнулі канапкі, парэзалі хлеб, цыбулю, гурочкі. Гарэлкі ўзялі з сабой няшмат, толькі на крупнік. Але знайшлася яшчэ бутэлька бальзаму, а ў дзяўчат было віно, і ўсе неяк расслабіліся, абжыліся. Было адчуванне, што яны даўно ведалі гэтае месца альбо месца ведала іх, і неяк адразу прыняло, прытуліла, узяло пад абарону.

Пачаліся спевы. Напачатку ціха, недзе па кутах, як быццам шукаючы патрэбны тон, па двох-трох.

Потым дзяўчаты сабраліся чародкай і кудысьці зніклі. А калі вярнуліся, у прыцемках, гэта былі ўжо німфы, наяды, русалкі з навакольных затокаў.

І спевы былі ўжо зусім не тыя, гарадскія, вывучаныя па кніжках. Яны імкліва грамчэлі, набывалі тэмбр і жарснасць.

Ён таксама адчуў гэтае месца, перастаў камандаваць, за ўсім сачыць і на ўсё звяртаць увагу, і проста прысеў ля вогнішча.

Поруч села дзяўчына, крыху разгубленая і агаломшаная, у лёгкай вышыванцы. Яна відавочна дрыжала, ад хвалявання і ад вечаровай прахалоды. Сонца амаль зайшло, а вогнішча грэла толькі з аднаго боку, і ён накінуў ёй на плечы вятроўку, прытуліў да сябе, і сказаў, што ўсё будзе добра, зараз яна сагрэецца, трэба толькі глытануць крупніка і расслабіцца.

Хацеў запытацца, як яе завуць, але адразу ж зразумеў, што імёны тут недарэчныя. І ўвогуле, усё адбывалася не так, як яны планавалі, калі збіралі і развучвалі песні, пісалі сцэнар і раздавалі ролі.

Па сцэнару ён мусіў весці рэй, выбраць купалінку. Былі пэўныя дамоўленасці, усе чакалі, што гэта будзе хтосьці з іх вузкага кола, са сваіх.

Але ён выбраў менавіта яе, незнаёмку, якую амаль ніхто не ведаў. І далей усё было так, як трэба, спевы, карагоды, зноў спевы, начныя купанні, душэўныя размовы каля вогнішча.

І ўсё ж пад раніцу здарылася тое, што ён пэўны час баяўся прыгадваць.

Песні былі праспяваныя і не адзін раз, кола спаленае, усе прытаміліся і разбрыліся па лагеры. Пачынала святлець, пакуль толькі як намёк, недзе на ўскрайку неба.

Багдан тады крыху прыдрамаў, яны ляжалі на дыванку каля вогнішча, пад ягоным спальнікам, а калі расплюшчыў вочы, пабачыў, не, хутчэй адчуў, што ўсё змянілася.

Паўсюль былі шэпты, прыцішаныя, але жарсныя. Плёск і смех там, каля возера. Там купаліся русалкі, і яны спакушалі, клікалі далучацца.

Пазней, на рэтраспектыве Таркоўскага, гледзячы поўную версію *Андрэя*

*Рублёва*, у яго было адчуванне *дэжа вю*, як быццам бы гэта іх здымаў *міліцэйскі аператар*. Ён нават убачыў самога сябе, яму так здалося, *на заднім плане, за дрэвамі*.

Тады ж, прачнуўшыся і пабачыўшы, што адбываецца, ён паспеў толькі падумаць, што калі міліцыянты сапраўды іх *вялі і высочвалі*, цяпер самы час забраць усіх разам, і гэта будзе сапраўдны *канец усяго*.

Падумаць перад тым, як аддацца хвіліне, праваліцца разам з усімі ў гэтую амароку.

Пачаць шукаць сваімі вуснамі яе вусны...

***

Ён так ніколі і не даведаўся, як яе завуць. Тады, у тую ноч, імёны былі недарэчныя, больш важнымі былі датыкненні, пахі.

У электрычцы яны сядзелі побач, стомленыя, з пачуццём лёгкай няёмкасці. Зрэшты, не толькі яны.

Ён быў упэўнены, што сустрэне яе на Клубе, альбо на канцэрце. І нават пачынаў ужо ўяўляць, як падыдзе і прапануе пазнаёміцца яшчэ раз. Скажа, што аднойчы бачыў яе ўва сне, вельмі дзіўным. А пасля яны пойдуць гуляць і ўжо больш ніколі не развітаюцца.

Але на сустрэчах яе не было, і ён пачаў хвалявацца.

Роспыты анічога не далі. Ніхто яе не ведаў, ніхто нават не ўяўляў, адкуль яна і хто яе запрасіў.

***

А далей усё закруцілася як у калаўроце.

Генсекі пачалі мерці як мухі, выбухнуў Чарнобыль, прыйшоў Г. і абвясціў спачатку паскарэнне, потым галоснасць, а потым яшчэ і перабудову. Усе заціхлі ў прадчуванні зменаў, і змены сапраўды адбыліся.

Першыя мітынгі прайшлі ў страшным напружанні, ніхто не разумеў тады, чым гэта можа скончыцца, усе падсвядома чакалі арыштаў, разгромаў, танкаў на вуліцах.

Арышты здарыліся пазней, тады ж час працаваў на іх. Яны выйшлі на паверхню, пачалі ствараць партыю, і ён нават не заўважыў, як патрапіў на выбары і стаў дэпутатам. Гэта было надзіва лёгка, яны хадзілі па кватэрах, і нават не трэба было агітаваць – усе і так усё разумелі.

*Імперыя знікла як дым* і распачалася эпоха радасці. Такое ўражанне, што мы тады *танчылі на карнавале эпохі*, – сказаў яму М. значна пазней, калі радасць ужо мінула.

Хаця і працы было многа, трэба было штосьці рабіць з эканомікай, уводзіць свае грошы, а яшчэ межы і мытня, бо *раскрадалася і вывозілася*, і трэба было *бараніць сваё*.

Яны кідаліся ў розныя бакі, засядалі, прымалі нейкія пастановы, законы. І ўсё было лёгка і магчыма.

Калі ён першы раз выехаў у Парыж, з парламенцкай дэлегацыяй, у іх на чатырох дэлегатаў было дзесяць франкаў у кішэні, адзіная валюта, што знайшлася ў скарбніцы. Затое былі боханы чорнага хлеба, гарэлка і селядзец, якія яны памянялі на франкі ва ўжо расейскай амбасадзе.

Замаўляючы кубачак кавы каля Нотр-Дам, у дарагой і пошлай кавярні, пад завязку набітай японскімі турыстамі, Багдан, на пытанне, адкуль ён, упершыню горда адказаў – *фром Беларусь*.

Паколькі гэта нічога нікому не казала, прыйшлося дадаць: *фомэ юэсэса.* І яшчэ далей: *Чарнобыль.*

Японцы ціха і асцярожна рассунуліся, і ён застаўся за стойкай адзін.

***

Менавіта тады Багдан зразумеў, што можна жыць звычайным жыццём і адчуваць прыемнасць ад простых рэчаў.

Сапраўды, тое, пра што яны баяліся марыць, здарылася і здарылася неяк проста, па-будзёнаму.

Праўда, надалей гэтая звычайнасць прыцёрлася, перастала вабіць. І, самае непрыемнае, пасля яе заставаўся прысмак лёгкай трывогі: як быццам ён проста адклаў штосьці на пэўны час, і гэтае *штосьці* ціха і няўхільна чакала.

Ён усё яшчэ шукаў сваю *Купалінку*, хаця цяпер забываў пра яе на тыдні і нават на месяцы.

І ўсё ж, калі аднойчы пабачыў на вуліцы знаёмую паставу, сэрца шалёна загрукатала, а яшчэ праз секунду ён зразумеў, што тая ідзе з калыскай, і раптам падумаў, што гэта магло быць іх дзіцё.

І тады ён яшчэ раз абвясціў агульны пошук, пераразваніў усім сябрам і знаёмым, хто быў на Купаллі, і нават тым, хто проста мог штосьці ведаць.

Аніякага выніку.

Можа быць, тады ўпершыню ў яго паўстала кепскае прадчуванне. Ён падумаў, што лёс не абавязкова можа быць на іх баку, і яны могуць так ніколі і не сустрэцца.

***

А потым са светам пачало адбывацца нешта дзіўнае.

Усё страшна і раптоўна пагоршылася.

Як быццам скончылася свята, і тыя, хто на ім гулялі ў герояў, пачалі здымаць маскі.

Напачатку анічога не выглядала занадта трагічна.

Яны прайгралі выбары прэзідэнта, прыйшоў *Лу*, і распачалася наступная эпоха. Зусім іншая. Больш простая і шэрая. Гераічная і пачварная – адначасова. Эпоха *чаркі і шкваркі.*

Зрэшты, усё было заканамерна. Тое, што яны прайгралі, было нават карысным: яны забеглі наперад аж занадта, і таму цяпер мусілі крыху адступіць, узяць паўзу.

У іх аб'ектыўна не было сілаў, каб весці ўсю краіну, і супрацьстаянне мусіла мабілізаваць усіх, і, галоўнае, даць ім час прыгледзецца, зразумець, што адбываецца.

Праўда, да таго, што здымуць *сцяг і пагоню*, яны гатовыя не былі. Гэта было зашмат, і да таго ж бессэнсоўна, не было аніякіх сумневаў, што, хто б ні перамог на наступных выбарах, верне іх назад. І ўсё гэта будзе выглядаць як пошлы і камічны карнавал.

Тады яны сказалі сабе, што будуць стаяць да смерці, да канца, не аддадуць ані сантыметра *свайго*, і ў гэтай клятве было штосьці такое, што мусіла даць сэнс і сілы.

Нічога так не гадуе сілы, як супольнае змаганне, супольны вораг. І цяпер яны яго мелі.

Зрэшты, гэта была ўсяго толькі затрымка, адно з выпрабаванняў, гісторыя была на іх баку. І што важна, на іх баку мусіла быць будучыня.

Яны тады былі ўпэўненыя, што будучыня неўзабаве прыйдзе і ўсё раставіць на свае месцы.

Але чым далей, тым болей у гэтым паўставалі сумневы.

***

Калі яны пачыналі, яны былі ўпэўненыя, што яны вызваляюць народ: з прыгнёту, з цемры, з бяспамяцтва.

Што яны выводзяць усіх на свабоду. Адкрываюць новую старонку гісторыі. І там будзе ўсё: і незалежнасць, і мова, і дабрабыт, і культура, і годныя пенсіі.

Варта толькі зрабіць правільны выбар і крыху патрываць, бо, ясна, чагосьці дасягнуць можна было толькі праз намаганні.

Калі ж сапраўды з'явіўся выбар, большасць выбірала зусім іншае. Яны зусім не збіраліся нічога чакаць ад будучыні, а спрабавалі ўзяць усё, што магчыма, ад сёння. Будавалі свае хаткі. Садзілі кветачкі. Куплялі "фалькс-вагены" і "мэрсэдэсы".

І ўсё ж такі будучыня пэўна была.

Але, – чым далей, тым болей ён адчуваў гэта, нейкім шостым пачуццём, – гэта была *не іх будучыня.*

Будучыня, якая пакуль толькі прыглядалася да іх і ціха пільнавала свой момант, відавочна *анічога не хацела ведаць* пра іх сцягі і пагоні, пра мову і культуру, пра песні і незалежнасць. І нават пра годныя пенсіі.

Будучыня глядзела на іх скептычна.

І ён яе баяўся.

***

Таму, калі на партыйных выбарах упершыню не выбралі *З.*, ён на пэўны час паверыў, што гэта *абнаўленне.* І што з новымі людзьмі партыя будзе больш моцная.

І, можа быць, усё абыдзецца.

*З.* быў незаменным у сваім часе, ніхто гэтаму не пярэчыў. Але цяпер ягоны час прамінуў, і тое, што тады было новым і вартым, сёння выглядала амаль як музейная архаіка.

Ён быў добры ў той момант, калі трэба было ісці на барыкады, калі камусьці трэба было пракрычаць *радзіма альбо смерць.* І так пракрычаць, каб ні ў кога не паўстала і думкі, што могуць быць яшчэ нейкія іншыя, трэція варыянты.

Гэта ён сапраўды ўмеў. Багдан памятаў першыя мітынгі, на якіх З. стаяў, як скала, і крычаў у самаробны дынамік, што *мы пераможам.* І, што дзіўна, яны тады сапраўды перамагалі.

Праблема была ў тым, што нічога іншага ў З. так добра не атрымлівалася.

І ўсё ж, калі яго не выбралі, партыя раскалолася.

Амаль трэць пайшла за ім.

Ён таксама тады ледзьве не застаўся з З., абсалютна нечакана, для сябе і для астатніх, выступіўшы на сойме супроць раскола.

Чаму? Ён тады патлумачыў, ім і самому сабе, што нельга дзяліцца па лініі нянавісці. Па лініі асабістых крыўдаў.

Трэба, каб заставаліся масты, пераходы.

Ён быў упэўнены, што ягоная прысутнасць на *тым* баку прымусіць усіх зразумець недарэчнасць падзелу. І што наступны з'езд будзе аб'яднаўчым.

Але атрымалася зусім не так. І, да таго ж, ягоныя сябры былі *за абнаўленне*.

***

А потым і між тымі, хто застаўся, раптоўна пачаліся разломы. Зайздрасць, узаемная варажнеча. Дробязныя і пустыя сваркі.

Ён доўга не мог зразумець, што адбываецца. Яны відавочна сталі больш сталымі, у параўнанні з пачаткам. І больш мудрымі.

І ўсё ж палітычныя кампаніі сыпаліся адна за адной.

Магчыма, гэта была проста стома. Яны звыкліся ўвесь час прайграваць, і, па праўдзе, мала хто верыў, што магчыма выбрацца з заганнага кола.

Часам у яго складалася ўражанне, што кампаніі былі прайграныя яшчэ да пачатку, у іх уяўленні.

Але што, зрэшты, здарылася?

Яны былі на правільным баку, і гаварылі рэчы, з якімі толькі дурань мог не пагадзіцца.

Чаму ж яны прайгравалі?

Тактычныя пралікі? Выпадковы і трагічны збег абставінаў? Недасканаласць чалавечай прыроды?

Ён адчуваў, што яны выскачылі са свайго часу, дзе ўсё атрымоўвалася, і ішлі цяпер па шэрай і незнаёмай пустэчы, біліся ілбамі аб мяккую шэрую сценку *іншай эпохі*.

І далей будзе толькі горш.

***

Радаваліся толькі журналісты.

Адзін з іх напісаў яго *палітычны партрэт*, здзеклівы і несправядлівы.

Ён пісаў пра яго як пра наіўнага хлопчыка, рамантычнага героя *эпохі змагання*, які так і не выйшаў у першы шэраг дарослай палітыкі, так і не стаў *галоўным*. І які цяпер стаіць недзе ўбаку – маленькі цынавы жаўнерык, у кароткіх штоніках, з бел-чырвона-белым сцяжком – сумны і забыты.

Багдан пакрыўдзіўся і напачатку хацеў асабіста прыйсці, пазнаёміцца з аўтарам і *пагаварыць пра штонікі*. Але потым вырашыў прыгледзецца і сабраць больш інфармацыі.

Аўтара, зрэшты, апынулася не так проста знайсці. Нарыс быў падпісаны рэдакцыйным псеўданімам: *Кася Трэш*. І за ім мог хавацца хто заўгодна.

Гэта мог быць галоўны рэдактар, які вырашыў *размяцца на полі*. Мог быць хтосьці з рэпарцёраў, вясёлых і крыху звар'яцелых хлопцаў, што гойсалі разам з імі па ўсіх акцыях. Але магла быць увогуле маладзенькая журналістачка з першым сур'ёзным матэрыялам. Якой проста хацелася выглядаць важнай у гэтым тэксце.

Пытацца наўпрост было недарэчна, як зрэшты і выказваць прэтэнзіі. Тым больш што факты, збольшага, адпавядалі. А вось тон, інтанацыя...

Багдан тады ўпершыню зразумеў, наколькі па-рознаму можна пражываць адную і тую ж эпоху, па-рознаму бачыць і ацэньваць адну і тую ж рэальнасць.

Зрэшты, журналісты былі мілыя і вясёлыя людзі, шмат каго з іх ён памятаў яшчэ па ўніверсітэце.

Яны выдавалі *дзелавую* газетку, у якой пісалі пра бізнес, пра *тэндэнцыі*, але і пра модныя буцікі, пра тое, у якія рэстарацыі яны ходзяць і як яны *самі сябе зрабілі.*

Яны пісалі так, як быццам не сумняваліся, што менавіта яны гаспадары той будучыні, за якую змагаліся Багдан і яго сябры. І што яны ў тую будучыню амаль ужо ўступілі і пісалі пра ўсё адтуль, з перспектывы адбытага.

Урэшце, ён вырашыў параіцца з М., калегам па партыі.

М. быў ягоным даўнім прыяцелем і ўзначальваў у партыі крыло *цынічна-памяркоўных*. І меў толькі адну, як сам казаў, кепскую звычку. Сябрам часам гаварыў праўду, чаго б гэта ні каштавала.

М. тады толькі пасмяяўся.

Ніякія яны не *гаспадары*, сказаў ён. Гаспадары яшчэ прыйдуць. З разбухлымі ад грошай гаманцамі і жаданнем скупіць усё, што варушыцца. І вось з імі, сапраўды, прыйдзецца лічыцца.

А гэта, хутчэй, абслуга, што стаіць на ўваходзе. І якая нюхам адчувае, што гэтага можна не пускаць далей, прынесці халоднае, нахаміць, а таму трэба глядзець у вочы аддана і стаяць на дыбачках.

Мы для іх відавочна не запрошаныя на свята будучыні. Штосьці накшталт дыназаўраў, якія выпадкова захаваліся ў тутэйшых рэзервацыях. Магу сабе ўявіць, што яны гавораць пра нас без сведкаў.

У тым новым свеце, дадаў М., у які, яны лічаць, яны ўжо ўступілі, палітыкі мусяць быць альбо цынічным лайном, што трымаецца на паверхні бясконцых шоў, альбо шэрай пераходнай тканкай, што сядзіць у офісе і строчыць розныя праграмы, рэзалюцыі і пастановы.

Яны ведаюць, што пра лайно дазволена пісаць толькі ў інтанацыі радаснага захаплення.

Астатніх можна *тантаць*, бо яны *не мусяць нікому падабацца.*

***

На мітынгах ён сапраўды стаяў у другім шэрагу і крыху збоку ад асноўнай каманды. Але зусім не таму, што быў *пераходнай тканкай.*

Ён займаўся рэчамі, пра якія не раскажаш журналістам.

У партыі ён быў заўсёды адным з намеснікаў і адказваў за *аргработу*, альбо, як яны гаварылі, за *чалавечы фактар.*

Ездзіў па краіне, гаварыў з людзьмі. Натхняў, дапамагаў, вырашаў праблемы. Гэта была амаль нябачная праца, але тое, што ў пэўны момант на акцыю выходзілі тысячы, а не адзінкі – у гэтым была і яго заслуга.

Трэба было *трымаць дух*, інакш усё хутка патанула б у багне штодзённасці.

Ніхто не ўмеў гэта лепш за яго.

І ніхто больш за яго не ведаў пра рэальнае жыццё. Асабліва ў вёсках і малых мястэчках, дзе ўсе навідавоку і дзе важна было адчуваць сілу і дапамогу.

Зрэшты, і гэта было не самае важнае.

Ён трымаў сувязь з *баявым крылом*, якое пачалі рыхтаваць амаль адразу. Ціха, канспіратыўна і *крыху наводдаль.* Напачатку дзеля аховы мітынгаў,

потым, калі з’явіўся партыйны офіс і крыху маёмасці – каб адбівацца ад бандытаў.

Потым бандыты зніклі, разам з *той* эпохай. Затое прыйшоў К., і ўсё стала зусім сур’ёзна.

К. быў баявы афіцэр і адразу паставіў кропкі над *і*.

Першае, што ён зрабіў, – вывез усіх у лес і прапанаваў разысціся і сустрэцца заўтра. У мястэчку Л., за пяцьдзясят кіламетраў на поўначы. Дайшла толькі палова групы.

Мы гэта робім не дзеля таго, каб пагуляцца ў вайнушку, сказаў ён тады. Проста мусяць застацца людзі сур’ёзныя, гатовыя выканаць загад, якім бы дзіўным і незразумелым той ні выглядаў. Зрэшты, аддаць свае жыцці. За Радзіму. Калі будзе патрэба, прыйдзе час.

Ясна, такая задача была няпростай, і яна была не для ўсіх.

Ён зразумеў гэта, калі час дзеянняў амаль надышоў.

Гэта было яшчэ да расколу.

Нарэшце здарыўся крызіс, і яны былі за тры крокі ад перамогі. Абвяшчалі імпічмент. Парламент і канстытуцыйны суд былі на іх баку. Ужо і вайскоўцы гатовыя былі выступіць, на ўсялякі выпадак сем’і афіцэраў некаторых вайсковых частак паехалі адпачываць ва Украіну. І тыя чакалі толькі сігнала.

Багдан тады тыдзень жыў на партыйнай кватэры, пра якую ніхто не ведаў. Ніякіх асабістых рэчаў. На кухні – запас ежы на месяц. А ў суседнім пакоі – дванаццаць вялікіх скрыняў. З акаэмамі і боекамплектамі.

Ён не пытаўся, адкуль і як усё гэта да іх патрапіла.

За гэты час ён пражыў некалькі жыццяў. Адно, у радаснай эйфарыі, як бывае перад чымсьці важным. Іншае, у трывозе і нават страху. Напрыканцы ён патрапіў у здранцвенне, амаль кому, і апошнія дні проста слухаў радыё і чакаў сігнала.

Але сігнала не было. Шукалі кампраміс, распачаліся перамовы. З Масквы прыехаў П. з цэлай камандай. Урэшце там, наверсе, паверылі, што можна дамовіцца.

Яны тады зноў прайгралі.

І некалькі вядомых асобаў леглі ў безыменныя магілы.

***

Пра ўсё гэта журналісты не здагадваліся, і *дзякаваць богу.*

Пытанне было ў іншым. Як і калі ён паспеў *для іх* стаць гэтай шэрай тканкай, якая не мусіла падабацца і аб якую можна было так беспакарана выціраць ногі?

Ён яшчэ памятаў часы, калі на вуліцы з ім віталіся незнаёмыя, дзякавалі за Гістарычны клуб, расказвалі пра ўзрушэнні, пра ўпершыню адкрытую мінуўшчыну. Пра тое, як яны чакалі, каб *хтосьці гэта прамовіў*.

Потым усё паступова знікла: мінуўшчына заняла сваё месца ў мінулым, а на першае месца выйшла крыху мітуслівая і няўцямная, але пэўная ў сабе цяпершчына.

Ён зусім не быў наіўным, і чым далей, тым больш у ім нараджалася штосьці бязлітаснае – і ў дачыненні да гэтай цяпершчыны, і нават да меркаванай будучыні.

Ён бачыў і разумеў многа.

Як усё мянялася. У партыі і ў жыцці.

Як вакол партыі паўставалі розныя арганізацыі, і на важныя месцы пачыналі выходзіць *бухгалтары*. Тыя, хто пісаў праекты і размяркоўваў грошы.

Як яны ціха фармавалі свае лобі, праз семінары і школкі, на якіх кармілі і выдавалі *кішэнныя*.

Як розныя *людзі звонку* пачыналі ўплываць на рашэнні, нашэптваць: гэты добры, а гэты крыху падазроны, а вось пад таго ніколі не дадуць падтрымку.

Ён бачыў, як незаўважна знікала жывая эмоцыя – і заставаліся толькі правільныя словы, сухія, фармальныя, якія ў новых абставінах мала што значылі.

А потым прыйшло новае пакаленне. Якое думала і адчувала зусім не так, як яны.

Было відавочна, што эпоха шчырасці прайшла, прамінула, і што новыя людзі, *сіліконавыя хлопчыкі,* як сказаў аднойчы М., проста такімі нарадзіліся. І нічога з гэтым не зробіш.

І ўсё ж было неяк крыўдна, што яго залічылі нават не ў *ворагі* новага часу, а ў нейкія *астатнія*. На якіх можна было не зважаць, не лічыцца.

Але самае страшнае было ў іншым.

У пэўны момант ён злавіў сябе на сімпатыі да *Лу*.

І гэта было як *здрада*.

***

Лу, без сумневу, быў ворагам, ён знішчаў тое, што здавалася ім самым важным. Ён краў у нацыі яе годнасць, яе вышыні. Зрэшты, ён закрыў сабой іх будучыню, і цяпер, каб туды патрапіць, трэба было праз яго пераступіць. Праз жывога альбо мёртвага.

Адкуль тады сімпатыя?

Ён памятаў яго другім.

Калісьці, *у дэпутацкім жыцці*, яны сядзелі амаль побач у зале паседжанняў. І часам ён запрашаў да сябе, у *апартаменты*, даведацца, *што там чуваць у вас, ідэйных*.

У дэпутацкім гатэльчыку, тады сціплым, амаль жабрацкім, яны размаўлялі пра мінулае і пра будучыню.

Гаварыў пераважна Багдан.

Лу тады відавочна прыглядаўся да іх, пільным вокам, так, як глядзяць на вёсцы, недаверліва, хаця тады і нязлосна.

І усё ж такі *Лу* быў *свой*.

Такіх, як ён, была амаль уся краіна. Гэта былі іх бацькі, дзяды і бабулі. І не дзіва, што як толькі надарылася магчымасць выбару, яны выбралі менавіта яго, а не З.

Але калі і якім чынам яны сталі ворагамі? І не на жыццё, а на смерць? Адкуль гэтая узаемная нянавісць?

Потым *Лу* пачалі апрацоўваць *камсамольцы*, прафесійныя інтрыганы і паскуднікі. У іх ужо была сетка кааператываў па ўсёй краіне, крыху капіталу, і яны не сумняваліся, што менавіта яны прыйдуць на змену *ўсім гэтым кебічам*.

Іх пакуль не пускалі на сур’ёзныя сустрэчы, і асноўныя грошы таксама ішлі паўз іх, і яны крыўдзіліся, сур’ёзна крыўдзіліся.

Яны называлі яго міжсобку *наш прадсядацель* і думалі што пралічылі ўсё.

Зрэшты, камсамольцы былі першымі, хто быў выкінуты за борт, як толькі ў яго *ўсё атрымалася.*

***

Багдан разумеў, што ворагі, сапраўдныя ворагі, мусяць цаніць і паважаць адзін аднаго. Да таго ж, не ўсё было так блага.

Краіна пасоўвалася наперад, не ў тым тэмпе, не з тымі людзьмі, без сцяга і пагоні, але пасоўвалася.

Раптам аказвалася, што робяцца рэчы, якія яны калісьці прапаноўвалі і на якія самі ўжо забыліся.

Ні з кім так і не аб'ядналіся. Наадварот, незалежнасць умацоўвалася – распачаліся дурныя войны з Захадам, а потым і з Масквой, і ў пэўны момант нават здавалася, што іх сінявокая бацькаўшчына засталася адзінай *сапраўды незалежнай* на постсавецкіх руінах. Незалежнай па-дурному, па-калгаснаму, але ж незалежнай.

Маёмасць так і не распрадалі. *Лу* лічыў кожную капейку і патрабаваў асабістай справаздачы ад кожнага.

Але і гэта было не самае галоўнае.

Цяпер, на закінутай лясной дарозе ён раптам зразумеў:

Лу, які іх так ненавідзеў, дзіўным чынам трымаў іх мрою па-ранейшаму жывой і істотнай.

Сцяг, забаронены, а таму небяспечны. Сапега з Вітаўтам. Касцюшка з касінерамі. Генерал Булат-Балаховіч і рыцары БНР. Усё гэта працягвала жыць толькі таму, што было і для яго *важным.* Хаця і *класава чужым*, амаль варожым, як сказала бы прамінулая эпоха.

І што будучыня, якая непазбежна прыйдзе, пахавае іх *разам, у адной братэрскай магіле.*

***

Самае страшнае – усе тыя людзі, якія ім тады паверылі. На самым пачатку. Пайшлі з імі. Якія гатовыя былі пакласці свае жыцці.

І якія цяпер адчувалі сябе пакінутымі і здраджанымі. Выбітымі са сваёй праўды.

Іх заставалася ўсё меней.

Большасць ціха занялася асабістым жыццём. І пры сустрэчах адводзіла вочы. Некаторыя пайшлі ў бізнес і прасілі забыць нумары іх тэлефонаў. Былі і такія, што пайшлі ва ўладу. Тыя наадварот, прагнулі сустрэчаў, і доўга тлумачылі, што нашыя мусяць быць паўсюль, і што, працуючы ва ўладзе, мы зробім значна больш, чым *там у вас, у акопах.* Няясна было толькі, чаго больш.

Ад баявой дружыны засталася толькі назва.

Канечне, маладых хлопцаў, каб выйсці на мітынг з павязкамі, заўсёды хапала. Але падрыхтаваныя байцы, гатовыя на акцыю, былі распушчаныя. І сапраўды, што было ім рабіць? Ахоўваць семінарчыкі, на якіх дзяліліся гранты?

Засталіся адзінкі, і яны трымаліся самі па сабе.

Баранавіцкая харугва амаль уся пайшла ў АМАП і трымала ў страху мясцовых бандзітаў.

К. *з сваімі людзьмі* з’ехаў, спачатку ў Сібір, а потым увогуле кудысці ў горы. Падалей ад камітэтчыкаў, якія ўвесь час дыхалі ў патыліцу і спрабавалі завербаваць.

Тыя, зрэшты, хто яго бачыў, круцілі пальцамі каля скроні, і гаварылі што ён *з’ехаў у астрал*. І што адтуль назад ужо не вяртаюцца.

К. урэшце вярнуўся, але трымаўся здаля і крыху насцярожана.

Багдан неяк сустрэўся з ім на выпадковай імпрэзе, і потым яны заехалі пасядзець вечарок, прыгадаць былое. Ён будаваў домік пад Менскам. Маладая жонка. Маленькае дзіцё.

К. гаварыў амаль увесь вечар – расказваў пра Непал, пра паходы праз Індыю. Пра горы і медытацыю, пра новую энергетыку і новыя ідэі.

Ён гаварыў многа, глядзеў на Багдана разумнымі і крыху хітраватымі вачыма і пад канец вечара Багдан зразумеў сэнс яго пагляду: акрамя ўсяго іншага, астрал – ідэальная *тактыка адыходу*.

Сапраўды: пасля году астралу з яго знялі наружку, яшчэ праз пэўны час перасталі чапляцца да бізнеса і дазволілі набыць кавалак зямлі пад Мінскам. І цяпер у яго нарэшце быў шанец пажыць нармальна.

***

Засталіся бухгалтары. Якія пісалі бясконцыя праекты, дзе падрабязна распісвалі, як спакусіць, мабілізаваць, вывесці на вуліцы. І колькі пад гэта патрэбна *рэсурсаў*.

Акцыі пераўтвараліся ў дурныя і бессэнсоўныя шоў, на якіх галоўнае было патрапіць у аб’ектыў журналістаў і сесці на суткі. Гэтымі суткамі ганарыліся, як нейкай важнай перамогай.

Зрэшты, моладзь кідалася на амбразуры, радасна і самаахвярна, і сядала зноў і зноў. Некаторых бралі па крымінальных артыкулах і саджалі сур’ёзна, на гады. Напачатку была эйфарыя, стваралася ўражанне, што паўстае пакаленне герояў. Але час ішоў, яны ўсё сядзелі, і нічога ад гэтага не змянялася. І нараджаўся сумнеў.

Гэта тое самае, што падчас акупацыі выводзіць людзей на плошчу з плакатамі *іх бін партызанен*, сказаў аднойчы Багдан на Радзе, ды яшчэ папракаць іншых, што *слабо быць разам*. У нашыя часы мы ганарыліся зусім іншым, – здольнасцю адбіцца, не сесці падчас акцыі. Здольнасцю пераконваць нават ворагаў, збіраць і натхняць.

Агітацыя і прапаганда дэградавала. І зводзілася да распальвання зайздрасці *шэрай невыразнай масы*, якой паведамлялася, што ў суседзяў значна лепш, і яны цяпер мусяць выйсці на вуліцу і патрабаваць тое, на *што таксама маюць права*.

Зрэшты, і агітацыяй назваць *гэта* было складана. Былі тры ці чатыры хлопчыкі, якія сядзелі за маніторамі і цюкалі каментары на форумах, пад артыкуламі, на сваіх і чужых сайтах. Задача была простая – нагадзіць пад чужымі і захвальваць сваё, імітуючы голас народа.

Раз на месяц яны давалі справаздачу: расказвалі пра рэйтынгі, пра арыгінальных наведвальнікаў і пра тое, якія яны эфектыўныя.

Ці бачыў хто-колечы ў твар гэтых арыгінальных наведвальнікаў, запытаўся аднойчы Багдан у аднаго з іх. Ці ведаюць яны, што тыя думалі, гледзячы на *такую прапаганду*?

***

Частка старой гвардыі, праўда, яшчэ і цяпер трымалася насуперак усяму. Асабліва ў мястэчках і вёсках, дзе ўсё навідавоку. Дзе не так проста схавацца, стаць іншым.

Але яму не было чаго ім больш сказаць. Ён перастаў разумець, што адбываецца – і з краінай, і з ім самім.

Ён канчаткова заблытаўся.

Быў толькі адзін чалавек, з якім ён мог бы пра ўсё гэта паразмаўляць. Але той жыў у Варшаве.

## 2.

Прафесар Вайцэхоўскі.

Ён патрапіў да яго на семінар амаль выпадкова.

Быў выезд у Варшаву, на чарговую палітшколку. Дзе іх абяцалі навучыць, як правільна спакушаць электарат ды розным іншым сакрэтным тэхнікам непазбежнай перамогі.

Наперадзе былі выбары, і гэта звыкла трывожыла.

Яшчэ трывожыла тое, што на агульнага кандыдата прапанавалі Г., савецкага прафсаюзнага боса, які нечакана вырашыў перайсці на другі бок.

Тады ў кулуарах казалі, што Г. проста купілі, што, па чутках, амерыканцы даюць грошы менавіта пад яго. І, нават калі перамагчы зноў не атрымаецца, сама гульня – з такімі рэсурсамі – можа быць вясёлай.

І ўсё ж Багдан не пагадзіўся з рашэннем і настаяў, каб яго меркаванне на Радзе было запісана асобна.

У выніку яго ціхенька адхілілі ад падрыхтоўкі і саслалі на два месяцы ў Варшаву, вучыць партактыў.

Іх размясцілі ў *Кляновым*, але заняткі мусілі быць гэтым разам ва ўніверсітэце.

Чакалі модных брытанскіх паліттэхнолагаў. І яны з'явіліся. Два маладыя хлапцы, *тоўсты і тонкі*, як адразу зашапталася аўдыторыя. Праз хвіліну высветлілася, што мальцы былі з Гданьска, але мелі нейкі брытанскі сертыфікат і, як самі абвясцілі напачатку, належалі да брытанскай школы.

Яны абяцалі ўсім *тэхналогіі поспеху*, сыпалі прыкладамі і схемамі, расказвалі пра паспяховыя кампаніі.

Расказвалі таксама, якія яны запатрабаваныя і высокааплочваныя, і, калі ў іх спонсараў ёсць грошы, каб наняць такіх кансультантаў, за перамогу можна не хвалявацца.

Яго званітавала амаль адразу, ад першых жа іх словаў.

***

Ён тады спазняўся. І, што было горш, не памятаў аўдыторыю.

Можа быць, і не хацеў памятаць, гэта таксама было праўдай.

Наперадзе ў яго былі два месяцы ў Варшаве, амаль адпачынак.

Заняткі распачаліся, усе тэхнічныя пытанні былі вырашаныя, і можна было пачынаць лайдачыць.

Ён не мусіў хадзіць на заняткі разам з групамі, але раз-пораз варта было з'яўляцца, каб не лайдачылі астатнія.

Ён зазірнуў у некалькі аўдыторыяў.

Калі ён адчыняў дзверы *яшчэ адной*, у яго былі пэўныя прадчуванні.

У аўдыторыі сядзела шэсць чалавек. Стары прафесар стаяў каля дошкі і маляваў нейкую схему.

Ён ужо быў гатовы сказаць *бардзо пшэпрашэм* і закрыць дзверы, але ўсе глядзелі так, як быццам чакалі менавіта яго, і прафесар сказаў заходзьце калі ласка, *мы якраз гаварылі пра Вас, пра вашае інтэрвію двуйцы.*

І працягнуў гаворку, пра *тэорыю палітычнага дзеяння.*

***

Прафесар быў легендай супрацiву, адсядзеў пяць год у часы *ранняга ПэРэЭлю*, два гады ў часы *позняга* і нарэшце быў, як ён казаў, на заслужаным адпачынку.

Адпачынкам ён называў факультатыўны семінар, па тэорыі палітычнага дзеяння, які існаваў *пры ўніверсітэце*. Семінар ён трымаў дзеля асалоды і гаварыў там усё, што думаў. І ўсё, што лічыў патрэбным.

Гаварыў зусім не пра тое, пра што пісалі газеты і паведамляла тэлевізія.

Ды і ягоныя слухачы былі іншымі, чым палякі, якія дагэтуль сустракаліся Багдану.

*Мы звыкла лічым*, працягнуў ён тады, што, каб дзейнічаць, каб перамагчы і застацца ў рэальнасці, мы мусім выскачыць з свайго ўяўлення. І патрапіць у свет, якім ён ёсць насамрэч.

Праблема толькі ў тым, што ніхто не ведае, якім свет ёсць сам у сабе, без нашага ўяўлення. І ці ён сапраўды існуе, у такой якасці.

Таму, выскачыўшы са свайго ўяўлення пра свет, палітык імкнецца патрапіць *у адзін з іншых светаў*, а менавіта ў той, які існуе ва ўяўленні звычайных людзей.

Зразумець і прыняць чалавека не ў яго высокіх і рэдкіх формах, а ў самых паспалітых, нізкіх, часам нават агідных.

Палітыкі – праз усю чалавечую гісторыю – гэта тыя, хто ведае гэты свет, і хто хоча на яго ўплываць. Альбо кантраляваць. І нават, чаму не, ім валодаць – гэта ўвогуле іх залатая мара.

Тут прафесар зрабіў паўзу і паглядзеў на ўсіх пераможна.

Але сёння гэты свет не проста вывучаецца і даследуецца. А ствараецца.

Палітыка, сапраўдная палітыка, адбываецца цяпер не на агорах, і не на барыкадах, а ў цішыні сакрэтных лабараторый, дзе праектуецца свет звычайнага чалавека, ягоныя думкі, эмоцыі, каштоўнасці.

І тое, што вы бачыце вакол сябе, што прадстаўляе сябе як трэш, кіч, масавая культура, і хоча, каб яе лічылі стыхійнай, народнай, – чымсьці натуральным, – насамрэч, гэта тонкі і высокатэхналагічны прадукт, зроблены на замову.

І яшчэ, запомніце, сказаў прафесар, раптоўна мяняючы тэму.

Стаўцеся сур’ёзна да грошай і маёмасці.

Хаця б дзеля таго, што сёння *не бывае бедных дэмакратый.*

Не таму, што бедныя не ў стане дамовіцца, запачаткаваць пэўныя працэдуры.

Проста дэмакратыі сёння – гэта кансэнсус тых, хто багатыя.

Бедных туды проста *не прымаюць.*

***

Першай рэакцыяй была нязгода, унутраны супраціў. І не толькі таму, што ўсё гэта было занадта *канспіратыўна*, а да таго ж і неяк зусім абстрактна, *інтэлігенцкія штучкі*, а трэба ведаць, што канкрэтна рабіць – сёння, заўтра, паслязаўтра.

Багдан інтуітыўна адчуў, што *канкрэтнага* далей можа быць шмат. Але адчуў таксама, што іх месца ў гэтай карціне свету не надта пачэснае.

І ўсё ж атмасфера была ўтульная, амаль хатняя.

Адразу знайшоўся экземпляр рыдара, *Палітычная тэорыя – ад Арыстоцеля да Жыжэка*, а яшчэ побач сядзела Агнешка, якая пачала апекавацца ім, паказвала, што трэба глядзець і на якіх старонках.

І ён расслабіўся, дазволіў сабе забыцца, і далей нават не асабліва ўслухоўваўся ў сэнс, занатоўваючы для сябе толькі самыя важныя думкі.

Канечне, сакрэтныя лабараторыі, гэта ўжо на мяжы фола. Але яму, напэўна, можна гаварыць такія рэчы – стары, крыху звар'яцелы прафесар, амаль як у кіно.

І гэта ўсё ж такі ўніверсітэт, а не мітынг.

І не партыйная сустрэча, дзе заўсёды прыходзілася выбіраць словы, каб не адпужнуць патэнцыйных саюзнікаў.

Да таго ж, Агнешка яму *спадабалася*.

***

Прафесар быў відавочна правым, але большасць студэнтаў ягонага семінара складалі скрайне левыя, нават анархісты.

У яго была свая версія таго, што адбываецца. Зрэшты, гэта больш выглядала не на версію, а на дыягназ. Ён выклаў яго ў кнізе, што выйшла пару год таму ў невялікім нішавым выдавецтве і выклікала сапраўдны скандал.

Кніга называлася *Гнілая мадэрнасць і* выйшла з прысвячэннем *Зыгмунду Байману*, старому сябру. У прадмове дырэктар выдавецтва пісаў, што ў польскай традыцыі не было анічога падобнага ад Анджэя Фрыча Маджэўскага, і што ўсё, пра што піша прафесар, паасобку нібыта і вядомае, але мала хто адважваецца дайсці да канца з гэтымі пасылкамі.

У рэцэнзіях, праўда, асцярожна намякалі, што прафесар зайшоў занадта далёка, а ў кулуарах проста круцілі пальцам каля скроні.

Ён пачынаў не ад Маджэўскага, а ад Арыстоцеля.

Усе ведаюць яго апісанні палітычных рэжымаў, пісаў прафесар у прадмове, але не зважаюць на самае важнае. На сувязі ўсяго з усім. І на кірунак пераходаў.

Арыстоцель намякае на тое, што чалавечае грамадства падлеглае часу – і таму непазбежна старэе, псуецца, *загнівае*.

Псуецца ўсё і ўсе, і ўтрымацца толькі дзякуючы *правільным працэдурам* немагчыма. Урэшце нормы і працэдуры ператвараюцца ў шырму, за якой пачынаюцца *арганічныя працэсы*.

Менавіта так загінуў сацыялізм: ён сапсаваўся *пад сонцам гісторыі*. А зусім не таму, што хтосьці выйграў змаганне.

Сёння мы жывем у эпоху, калі амаль усё падгніла, напісаў прафесар. І ўжо ў глабальным маштабе. Усе формы жыцця, усе абяцанні мадэрнасці, якія калісьці выглядалі такімі новымі – і былі такімі прывабнымі.

Ідэі застаюцца, і яны ўсё яшчэ значаць штосьці, – прынамсі, для

некаторых. Але сёння яны ўжо нічога не вызначаюць, і нават нічога не тлумачаць. Яны як масточкі, па якіх мы ходзім па-над багнай рэальнага.

У якой паціху патанае карабель заходняй цывілізацыі. Усё глыбей і глыбей.

Два сімптомы паказваюць, як глыбока мы ўсе загрузлі.

Першае: у публічнай прасторы людзі пачынаюць сябе паводзіць, як быццам яны не на агоры, а на кірмашы.

Палітычныя войны ідуць цяпер не за праўду і справядлівасць, не за вартасці. І, ясна, не за Радзіму. Хаця, канечне, можа быць і *праўда*, і *радзіма*. Але толькі як *каштоўны тавар*, добра ўпакаваны і дакладна ацэнены, а таксама пажадана, каб ад вядомага якаснага прадуцэнта.

Галоўны рухавік еўрапейскай гісторыі цяпер не самаадмаўленне Духа, як лічыў Гегель, і не вайна класаў, як думаў Маркс.

А істэрыка масавага спажыўца, які падазрае, што ў ягоным гіпермаркеце свету штосьці адсутнічае, а ён мае на гэта права.

І другое. Пра сэнс чалавечага жыцця і ўладкаванне космасу гэтаму самаму масаваму спажыўцу паведамляе ўжо не царква, не навука і нават не абкам партыі.

А *ток-шоу*, у перапынку між спевамі і скокамі.

У выніку, пакуль мы так важна апекаваліся працэдурамі і ідэямі, на заднім двары эпохі ціха памёрлі тыя, каму гэтыя працэдуры і ідэі прызначаліся.

*Грамадзяне.*

Тое ж, што засталося, – закормленая і адурманеная маса, якая ўсе свае думкі і ўсе эмоцыі бярэ з вечаровай тэлепраграмы. Альбо з ранішняга коміксу, у які даўно пераўтварылася наша *свабодная прэса.*

Таму, калі прыйдзе час *ісці на агору*, абмяркоўваць сапраўды важныя рэчы, яны прыйдуць туды з поп-корнам. І спытаюць, *колькі каштуе квіток і хто на разагрэве.*

У гэтай сітуацыі патрэбнае не *направа Рэчы Паспалітай*, як калісьці прапаноўваў Маджэўскі, а штосьці значна больш радыкальнае.

Што менавіта, прафесар абяцаў напісаць у наступнай кнізе.

***

Амаль месяц ён хадзіў на сустрэчы, абмяркоўваў разам з усімі *ідэі і дыскурсы.* І нават піў піва ва ўніверсітэцкім барчыку пасля семінара. Пакуль прафесар не сказаў, што вырашана правесці калоквіум па Беларусі і што спавешчанне будзе рабіць іх *лепшы эксперт.*

Багдан насцеражыўся. Ён быў на дзясятках такіх сустрэчаў, з экспертамі і навукоўцамі. І нават сам іх арганізоўваў. Напачатку рабіў гэта з энтузіязмам, потым усё надакучыла.

Адны і тыя ж тэмы, развагі, адна і тая ж рыторыка. М. аднойчы паўжартам прапанаваў арганізаваць семінар з адказам на "галоўнае пытанне": *чаму мы зноў прайгралі, хаця ва ўсіх заяўках на рэсурсы планавалі толькі поспех.*

Але тут мусіла быць штосьці іншае.

Нечакана для яго выйшла Агнешка. У яе левай руцэ быў пульт, у правай – аркушы паперы з дакладам.

Зайграла "пагоня", якая няўлоўна нагадвала "варшавянку", "інтэрнацыянал" і ўсе рэвалюцыйныя песні адразу.

Багдан міжволі ўсміхнуўся.

Уключыўся праектар, і на экране з'явіўся чысты бел-чырвона-белы аркуш. На ім паступова, адна за адной, пачалі праступаць літары.

*Не аддамо нашую хатку банкірам і брокерам з Ўол Стрыт, каб не ўмёрлі!*

*Мацей Бурачок.*

Семінар радасна загуў. Будзе весела, падумаў Багдан.

Выступ Агнешкі быў кароткім.

Мы, палякі, пачала яна, звыкла разглядаем беларускі праект як калгасную дыктатуру. Правінцыйную і крыху смешную. Якая глядзіць на нас з мінулага.

І ставімся да яе з пачуццямі няёмкасці і шкадавання. Як да няшчаснага сваяка з Усходу, якому *не пашэнціла*. Спрабуем дапамагчы, але ж і крыху саромеемся. І злуемся.

Праблема ў тым, што сёння Беларусь глядзіць на нас з іншага месца.

Усё сапраўды пачыналася калісьці як бунт беларускай вёскі. Якая ўпершыню ўзбілася на ўладу. Уздыхнула з палёгкай – без паноў і падпанкаў. Без першых сакратароў і замаў па ідэалогіі. Без *вызваляльнікаў*, адным словам.

Далей жа гэтае калгаснае шчасце не проста выжыла і ўмацавалася. Але і перарадзілася.

Праектар крыху зашумеў, і на экран выпаўзлі наступныя словы:

*У свеце, дзе ўсё перакуленае дагары нагамі, праўда – гэта асклепак падманнасці.*

*Гі Дэбор*

Мацей Бурачок так і не прадаў гнілую хатку. Наладзіў вытворчасць. Ціха, незаўважна для сябе і іншых, стаў капіталістам. Мінуў стадыю першапачатковага назапашвання. Выйшаў на глабальныя рынкі.

Зразумеў, што чэсна канкураваць на іх са сваім прасунутымі заходнімі калегамі – гэта як спрабаваць выйграць у зграі напарснікаў на кірмашы. Адчуў, што будзе непазбежна абдзелены і падмануты – у той вайне за маёмасць і за рэсурсы, якая складае асноўны змест эпохі посткамунізму.

Калі будзе гуляць па іх правілах.

І ён распачынае вайну перыферыі супраць цэнтру.

Праектар заскрыгатаў, пстрыкнуў, і на экране з'явіліся наступныя словы.

*Да жады няўтольнай дапаўшы, лжой поўныя, пыхай, нядбаньнем, зь няістымі ўявамі ў змане дзеяць, нячыстыя воляй. |10|*

*У нязьмерную ўпаўшы трывогу, чый канец толькі росчын сусьвету,*
*"над усім – спатоля пажады, досыць гэтага" – пэўныя гэтак, |11|*
*вязьні сотняў путаў надзеяў, адданыя гневу і жадзе,*
*яны дзеля пажады спатолі крыўдай імкнуць да багацьцяў. |12|*

*Бгагаватгіта, песьня XVI*

Усе заціхлі. Было незразумела, ці так было задумана, ці праектар ўціснуў гэтую цытату ад сябе, у якасці бонуса. Агнешка зрабіла паўзу і працягнула выступ.

Сёння – гэта ўжо не лакальны бунт, заціснуты ў палескіх балотах. А частка рэвалюцыі перыферыі, глабальнага маштабу. Чарговы перападзел свету.

Неўзабаве такія бунты пачнуцца па ўсёй Еўропе.

І будуць, паверце, зусім не ціхія і лагодныя.

*Таму Беларусь сёння – гэта Грэцыя і Трансільванія заўтра!*

На апошніх словах Агнешка падняла ўгору руку са сціснутым кулаком і энергічна закрычала: но пасаран!

Праектар уздыхнуў, рыпнуў, і пачалося слайд-шоў.

Карцінкі мяняліся ў рваным рытме.

На іх албанскія паўстанцы, якія чымсьці нагадвалі вампіраў з галівудскага кіно, лезлі абдымацца да НАТАўскіх жаўнераў. Далей было многа руінаў, з розных частак свету. Бамбаванні Іраку, нафтавыя плямы, знямоджаныя афрыканскія дзеткі. І ўсё гэта ўрэшце пераходзіла ў бязлюдны горны ландшафт з сумнай і пяшчотнай кітайскай музыкай.

Усе заціхлі. Прайшло хвілінаў пяць альбо нават болей. Праектар перайшоў на другое кола, крыху павагаўся, пстрыкнуў і спыніўся сам сабой, на албанскіх вампірах.

Агнешка тэатральным жэстам падкінула ў паветра аркушы з дакладам і выгукнула: смерць гамбургеру! Няхай жыве тутэйшая рулька!

Аркушы павольна апусціліся на падлогу, і семінар выбухнуў у апладысментах.

***

Ён прапанаваў ёй пайсці ў маленькую кавярню на Хмельнай. Яны пілі чырвонае віно, і ён расказваў пра *тое, чаго яна не ведала.* Потым блукалі і расказвала пераважна яна. А ўвечары яны пайшлі глядзець *іншую Варшаву.*

Яму здавалася, што ён адчувае места досыць някепска. Але высвятлялася, што сапраўднае жыццё хаваецца ў незаўважных пад'ездах і дворыках. А зусім не на шырокіх плошчах і праспектах. І, ясна, не сярод турысцкіх тлумаў на старувцы.

Яны скончылі дзень у маляўнічых сутарэннях, падобных аднначасова да кавярні і да прытону.

Сутарэнні апынуліся рэдакцыяй левага часопіса. Які, як сказала Агнешка, аніяк не можа выдаць свой першы нумар. Бо рэдкалегія не можа прыйсці да згоды па галоўным пытанні нашай эпохі.

Пытанне можна было прачытаць на вялікім плакаце, што вісеў каля ўваходу ў прыбіральню.

*Ці мае сэнс супраціў у грамадстве, якое паспяхова асімілюе ўсялякую нязгоду, робіць яе часткай паноўнага ладу?*

Унізе хтосьці дапісаў тры варыянты адказу:

а) мае сэнс б) не мае сэнсу в) до дупы вшыстко.

Увесь час прыходзілі і сыходзілі нейкія людзі. Знаёміліся, пра штосьці спрачаліся, спявалі рэвалюцыйныя песні. Яны даўно перайшлі на мацнейшае, і ён расслабіўся, перастаў унутрана ўпірацца і думаць *пра іх змаганне.* Жартаваў, весяліўся, расказваў смешныя гісторыі, адчуваў сябе ўтульна, *амаль сваім.*

Калі ён прачнуўся зранку, у гатэльным пакоі, настрой быў святочны. Праз фіранкі прабівалася сонейка, і галава надзіва была светлая.

Агнешка ляжала побач.

Самае дурное, ён не памятаў, як яны сюды патрапілі.

Апошняе, што засталося ў свядомасці, гэта таксоўка, якая іх кудысьці везла, па прыгожай начной Варшаве. Але ўжо не памятаў адкуль. Не мог нават прыгадаць, хто плаціў таксоўшчыку, і колькі.

Таксама не было ясна, як яны апынуліся ў яго пакоі. Як прайшлі рэцэпцыю, як адмыкалі дзверы. І што рабілі пасля таго, як зайшлі. Дакладней, ці рабілі яны хаця б штосьці.

Ён асцярожна вылез з ложку і зразумеў, што на ім толькі кашуля і чамусьці адна шкарпэтка.

Агнешка таксама паднялася, і са здзіўленнем аглядалася вакол. На ёй быў толькі станік. Але замест таго, каб пачаць апранацца, яна яго скінула.

***

Бацькі Агнешкі паходзілі з каталіцкіх радзінаў з-пад Бельска, і там лічылі сябе стопрацэнтовымі палякамі. Але патрапіўшы ў Варшаву, пачалі сумнявацца, і ўжо гатовыя былі прызнаць сябе калі не беларусамі, дык хаця б ліцвінамі.

Вакол буялі оргіі талеранцыі, і быць крыху іншым, не такім, як усе, было нават модна.

Яна ж сама, як яна потым патлумачыла, ставілася да Усходу як да рамантычнай спакусы. У якой галоўнае – даць сабе спакусіцца.

Яны бачылі яго выступленне па двуйцы, сказала яна, і адразу адзначылі разгубленасць, і тое, што ён раптоўна адчыніў дзверы і ўрэшце застаўся, выглядала як пэўны знак, неверагоднае супадзенне.

Зрэшты, навонкі ўсё працягвалася так, як і было.

Прафесар сам папрасіў Агнешку заапекавацца ім, і яна, ясна, не адмовілася, склала для яго праграму чытання і прынесла цэлую торбу кніжак.

Звычайна яны сустракаліся ў бібліятэцы. Чыталі, штосьці абмяркоўвалі і далей ішлі блукаць па Варшаве.

Ён канчаткова забыў пра свае абавязкі, перадаручыў усё кіраўнікам групаў. І бачыўся *са сваімі* толькі на гатэльных сняданках.

*Вы шчаслівыя. Вам яшчэ ёсць з кім змагацца.*

Ён потым часта прыгадваў яе словы, сказаныя ў матэльчыку на ўзбярэжжы, у які яны выехалі на яго апошні ўікэнд.

Тады ён узрадаваўся, і нават крыху заганарыўся, літаральна на пару секундаў. Але потым яна дадала тое, што ён адчуваў даўно і чаго падсвядома баяўся пачуць менавіта ад яе.

*Хаця ўжо няма за што.*

Будучыня, за якую вы змагаецеся, ужо здарылася – з вашымі суседзямі.

Канечне, вы можаце перамагчы і пайсці нашым шляхам. Але вы мусіце ведаць, чым усё скончыцца. Каб потым не было слёз і скаргаў, што вас падманулі.

***

Пра гэта гаварылі ўсе. У розных інтанацыях і з рознымі высновамі.

Радасна паведамлялі, што ў іх атрымалася, яны патрапілі, прасунуліся крыху далей у часе, і цяпер былі гатовыя дапамагаць тым, хто адстаў.

Казалі літоўцы, якія адразу абуджаліся, прыгадвалі часы Вітаўта і сцвярджалі, што для сяброў яны гатовыя на ўсё.

Казалі палякі, якія годна прымалі абавязак апекавацца *братамі нашымі меншымі па рэчыпаспалітай.*

Казалі немцы, трымаючы ў памяці *вядома што.*

Не кажучы ўжо пра амерыканцаў, брытанцаў і розных *протчых* французаў. Тыя ўвогуле былі як небажыхары і апускаліся да размовы з сваімі нешчаслівымі братамі *з усходу* вельмі рэдка. Звычайна на фуршэтах, пасля добра аплочаных семінараў.

Але як гэта можа быць?

Яны відавочна былі разам, у адным часе. І ў той жа самы момант, у выніку нейкіх хітрых маніпуляцый аказвалася, што іх праўдзівы час – мінулае.

А іх будучыня ўжо наступіла – з іх больш шчаслівымі суседзямі.

Тут было штосьці не так, ён адчуваў гэта *дакладна*.

***

У Варшаве змянілася многае.

Раней падчас прыездаў ён гадзінамі ўглядаўся ў тэлеэкран. Шалёныя дыскусіі, спрэчкі і сутыкненні, новае польскае кіно, музыка.

На вуліцы было іншае: шэрае заклапочанае жыццё, у якім людзі спяшаліся зарабляць капейчыну.

А потым з тэлевізара ўсё раптоўна знікла. Як быццам бы хтосьці важны выгнаў усіх на вуліцу.

Прыйшло іншае. Бясконцыя і бессэнсоўныя серыялы. Дэбільныя шоў. Дыска-пола, ад якога адразу хацелася ванітаваць. І рэклама, рэклама, рэклама.

Аднойчы, на нейкіх партыйных перамовах, ён запытаўся ў сваіх польскіх прыяцеляў: хто гэта з вамі зрабіў? Як і чаму паўсталі ўсе гэтыя скокі? І чаму вы здаліся, пагадзіліся на такі маразм?

Гэта відавочна не было камфортным пытаннем.

Хаця адказаў апынулася многа, і яны былі рознымі. Некаторыя нават аптымістычнымі. Напрыклад, што гэта народная, дэмакратычная культура, якой доўга не дазвалялі *ўсплыць на паверхню*. Альбо новы культурны код, новая мова, з дапамогай якой спрабуюць адказаць на старыя, вечныя пытанні.

Як на ягоны густ, гэта была проста сметніца.

Але тыя, хто туды патраплялі, хто ўсё гэта рабіў, паводзілі сябе так, як быццам *гэта яны героі*.

***

Цяпер, *пасля семінара*, усё стала на свае месцы.

Наступная стадыя. Не спрабаваць зразумець карціну свету простага чалавека. А самім ствараць яе. Ствараць свет, у якім жыве большасць. Дзеля гэтага і патрэбна была *такая* тэлекарцінка.

Багдан раптам зразумеў, што адчувае амаль нянавісць да новага часу. Да будучыні, за якую ён так доўга змагаўся, чакаў і прыспешваў.

І да людзей, ад якіх цяпер залежала, што будзе лічыцца правільнай рэальнасцю. Для большасці.

А яшчэ ён адчуў, што спрачацца з імі немагчыма. І не толькі таму, што яны былі з *чужой будучыні*. Але і таму, што гэтую большасць цяпер ніхто не прымушаў, не няволіў.

Усе сапраўды былі *свабоднымі*.

***

*Лу* застаўся адзіны з той старой эпохі, *багоў і герояў*, хто выжыў сярод гэтага спектаклю.

Больш за тое, гэты былы кіраўнік саўгасу пакуль не толькі перамагаў сваіх супернікаў, але і новы час, які няўхільна на іх насоўваўся.

Ён сапраўды затрымаў усіх у мінулым.

Але і адкрываў іншую будучыню. Не тую, якая ўжо здарылася, – з іх суседзямі. У якой хітрыя і цынічныя тэлевядучыя старанна ляпілі з сябе тупых ідыётаў *як узор для большасці*. І ў якой прафесар Вайцэхоўскі збіраў шэсць грамадзянаў на паўпадпольным семінары, шукаючы выйсця.

А будучыню больш трывожную, і больш небяспечную.

Можа, гэтая затрымка ў часе – не проста спазненне, але і падарунак? Можа быць, у гэтым ёсць нейкі сэнс? Ці нават місія?

І ўся іх барацьба толькі пралог, уводзіны ў сапраўдную гісторыю, якая яшчэ мусіць пачацца.

Ён запісаў гэтыя пытанні на сурвэтцы, у вакзальнай кавярні, чакаючы цягнік на Мінск.

Зрэшты, быць маленькім папяровым жаўнерыкам са смешнага комікса пра змаганне, – падумаў ён, – не так ужо і блага. Для аднаго чалавечага лёсу.

Лепш, чым корпацца *там, унізе*, спакушаючы *венозных*.

***

Тады ён вярнуўся з Варшавы натхнёны і абуджаны.

Расказваў сябрам пра *новы бунт*, пра *вайну на два франты* і нават пачынаў рыхтаваць глебу. Актыўна выступаць, хадзіць на семінары. Размаўляць з людзьмі.

Прыглядацца да таго, што адбывалася.

Аказалася, што і тут усё было няпроста.

Са здзіўленнем натрапіў на інтэрвію Францішка, у якім той гаварыў пра новую эпоху. І амаль у тых самых словах, што і прафесар Вайцэхоўскі. Не толькі Францішак – шмат хто іншы ведаў і разумеў многае.

Пра ўсё гэта пісалася і гаварылася тут. І толькі яны ішлі ўсе гэтыя гады з заплюшчанымі вачыма. Ішлі як сляпыя.

А потым яго ўпершыню не выбралі намеснікам старшыні і нават не ўвялі ў Раду. Раптам знайшліся іншыя кандыдатуры. Трэба было абнавіць склад, знайсці новыя формы работы – усе гэтыя няўклюдныя *апраўданні* не маглі схаваць галоўнага: яго актыўнасць заўважылі і ацанілі.

Ён доўга не мог у гэта паверыць: яго спісалі ў запас у той самы момант, калі ён амаль зразумеў, што адбываецца.

Няясна таксама, чыя гэта была ініцыятыва.

Ён пагаварыў пра гэта з М. Нагадаў прынцыпы і дамоўленасці, якія закладаліся напачатку.

Важныя людзі настойваюць на замене складу, сказаў тады М. Такім тонам, што было ясна – пытанне, хто такія гэтыя важныя людзі, наіўнае і недарэчнае.

Пры гэтым М. блытаўся і не глядзеў яму ў вочы.

І тут Багдан зразумеў.

М. сам баяўся будучыні і хацеў, каб *яго туды ўзялі*. Хаця і без Багдана.

***

На адным з семінараў ён выпадкова падслухаў размову *бухгалтараў*. У гэтай размове яны абмяркоўвалі *нашых змагароў,* якія думаюць, што прыйшлі *навечна*.

Яны былі ўпэўнены, што ў іх усё атрымаецца значна лепей. І разважалі, у які момант было б зручней *канчаткова абнавіць кіраўніцтва партыяй*.

Гаварылі пра тое, што трэба распусціць гэты страшна дарагі і неэфектыўны *піянерлагер*. Што складаецца амаль напалову з фанатыкаў, местачковых дурняў і гарадскіх вар'ятаў.

Пра тое, што новыя партыі мусяць быць кампактнымі і функцыянальнымі. Што там мусіць быць партыйная эліта, функцыянеры-паліттэхнолагі і закансерваваныя актывісты. Якіх абуджаюць толькі пры патрэбе, на выбарчыя кампаніі, *на ганарарнай аснове*.

І што хопіць ужо трымацца за мову, як за любімую цацку.

Урэшце, яны гаварылі такім тонам, як быццам усе гэтыя гады – пачатак абуджэння, канец імперыі, змаганне – былі толькі прыступкай, для таго, каб прыйшлі яны і нарэшце ўсё стала нармальна.

Канечне, у гэтай размове было многа наіўнай маладой зухватасці. Жадання знайсці, адваяваць сабе месца ў свеце. Які цябе зусім не чакае. І ўсё ж было там яшчэ штосьці, што прымусіла насцеражыцца.

Яны гаварылі так, як быццам пытанне пра кіраўніцтва партыяй ужо вырашанае. Як быццам хтосьці, хто мае ўладу, сапраўдную ўладу (важныя людзі!?) прыняў рашэнне. І паставіў кропку.

Гэта магло значыць толькі адно. Што і М., і іншыя *ўжо таксама спісаныя*.

І гэта быў не проста канец *яго гісторыі*.

А канец усяго.

Канец змагання. Канец партыі. Канец эпохі.

***

Адзінае, што грэла і цешыла, – думка, што ён нарэшце пабачыцца з Эвай Дамінікай. А можа, нават і з Францішкам.

Яны не сустракаліся ўтрох цэлую вечнасць. З таго моманту, як усё пайшло наперад, занадта хутка, каб думаць і азірацца.

Зрэшты, шмат з кім ён не бачыўся дзесяцігоддзямі.

Некалькі год таму ён выпадкова перастрэў Эву Дамініку. На вуліцы. Адну. Яны міла ўсміхнуліся адно аднаму, здалёк памахалі рукамі – і разышліся. Але раптоўна ў сэрцы зашчыміла, накаціла ўспамінам, і ён вярнуўся, дагнаў, доўга выбачаўся. Запрасіў у кавярню, замовіў віскі і чырвонага, дарагія стравы.

Гаварыў многа, спачатку весела, нават крыху занадта. А потым раптоўна засумаваў, нечакана для сябе прызнаўся, што ўсё шэра і безнадзейна, і ён трымаецца з апошніх сіл.

Яна сядзела і слухала. У пэўны момант узяла яго за руку, як дзіцёнка. А потым сказала: шкада, што мы тады так хутка разбегліся, па сваіх кармах.

І што цяпер з намі няма Францішка.

Ён ведае, як уздымацца.

***

Можа быць, Францішак меў рацыю, і тое, што адбываецца, тлумачыцца *не адсюль*?

Нашэсце "галодных духаў"? Ён спрабаваў прыгадаць іх размову ў інтэрнаце. Францішак расказваў пра аднаго шведа, які амаль усё жыццё быў геніяльным інжынерам, а скончыў тым, што хадзіў па Лондане і размаўляў з анёламі.

Яны распавялі яму пра розныя рэчы. Пра неба і зямлю, пекла і рай, пра Бога.

Пра тое, што мяжа паміж гэтай і той рэальнасцю вельмі тонкая, і што больш за ўсё трэба баяцца галодных духаў, якія не ведаюць, што яны памёрлі і якія харчуюцца *негатывам*, адмоўнымі чалавечымі эмоцыямі.

І калі мы дазваляем сабе патануць у іх, духі злятаюцца, як крумкачы на поле бітвы.

Ён раптоўна падумаў, што еўрапейская палітыка і ёсць сёння такім полем бітвы. І пакуль выйграюць тыя, хто ў стане *сабраць іх найбольш*.

Краіна Еўропа: карабель, абцяжараны тамасам, злымі і галоднымі духамі, паволі апускаецца на дно акіяна гісторыі.

***

Трэба пачаць усё спачатку, падумаў ён: з простых, ясных рэчаў, у якіх немагчыма памыліцца.

Напрыклад, выкладаць гісторыю. У школе. У невялікім мястэчку пад Менскам.

Мець свой дом. З садам і невялікім гародчыкам.

Садзіць бульбу і гуркі, разам з усімі. Раз на год фарбаваць плот.

Нарэшце ўзяць шлюб і нарадзіць дзетак.

Укарэніцца, урасці ў глебу. Стаць часткай ландшафту: як старое дрэва альбо лясная дарога, што вядзе да крыніцы. А можа быць, нават і сваёй, маленькай легендай.

***

Так, лясная дарога. Яна ўсё ж такі скончалася не тут, мусіў быць яшчэ адзін кавалак шляху. Можа быць, самы важны.

Ён адарваўся ад успамінаў і зноў угледзеўся ў раздарожжа наперадзе. Завёў рухавік і крануўся. Машына сама выбрала кірунак, направа, у гушчар, туды, дзе амаль нічога не праглядалася.

## 3.

Месца было прыўкраснае. Як быццам яго стварылі адмыслова. Як сюды патрапіў, ён не памятаў. Ехаў, арыентуючыся на інтуіцыю, на ўнутранае пачуццё, заварочваў, калі здавалася гэта вартым. Што дзіўна, амаль заўсёды знаходзіўся працяг, выглядала, што дарога не скончыцца ніколі, так што ён амаль з палёгкай выбраўся на невялікую, зарослую травой і хмызам, забалочаную на ўскрайку паляну.

Далей дарогі не было.

Але быў пах, які за доўгія гады вандровак Багдан пазнаваў беспамылкова. Пахла вадой. Наперадзе мусіла быць лясное возера. І калі пашэнціць, з крыніцай.

Сапраўды, усё так і было, Багдан пакінуў машыну і, прадраўшыся праз хмызняк, убачыў сцежку, якая вяла далей. Пад нагамі хлюпала і калыхалася, было крыху страшна. Сцежка відавочна была кладкай, і вельмі даўняй. Ён зрабіў кій і прамацваў дарогу, бо часам яна абрывалася, сыходзіла пад ваду, і тады прыходзілася ўзважваць кожны крок наперад.

Але пах вёў напрасткі, і ўрэшце ён выйшаў на зарослы рэдкім лесам сухі ўзгорак.

Наперадзе адкрылася возера, празрыстае і ўтульнае. Яно было забалочанае толькі з аднаго, далёкага боку. З іншых вада выходзіла ў пералесак, сухі, чысты, з некалькімі пясчанымі пляжамі.

Гэта было тое, што ён шукаў. Тое, што яму снілася апошнімі месяцамі.

Адзіная праблема – сюды не было як пад'ехаць. Трэба пакідаць машыну і перацягваць рэчы па кладцы. Па якой і аднаму было ісці небяспечна. І ўсё ж – пасля невялікага роздуму – ён адважыўся.

Выбраў для стаянкі невялічкую палянку між соснамі, на ўзвышшы. Выцягнуў з машыны раскладанкі: крэсла і столік, перацягнуў на выспу, разам з прыпасамі. Паставіў намёт, вызначыў месца для вогнішча.

З дровамі тут не было праблемы: сухадрэвіны ляжалі паўсюль, не трэба было нават кудысьці ісці. За паўгадзіны ён зрабіў запас на тыдзень, а можа і больш.

Распаліў вогнішча, хаця асаблівай патрэбы не было.

Уладкаваўся ў фатэлі.

Надыходзіў надвячорак, усё навокал заціхла і супакоілася.

Раптоўна ён адчуў спакой і цішыню ўнутры сябе. Як быццам бы хтосьці прыйшоў у пакой і нарэшце выключыў радыё, якое гучала так доўга і так гучна.

Тут не паўставала аніякіх іншых думак. Увогуле ніякіх думак.

Ён не заўважыў, як патрапіў у сутонне.

***

Вогнішча гарэла роўна, можна было прасядзець усю ноч.

Падумалася, што тут можна было б застацца, і не на тры дні, а на месяц, а можа, нават і болей.

Быў толькі першы вечар, а ён адчуваў спакой і бяспеку, як быццам хтосьці нябачны ахоўваў яго тут.

Звычайна ў лесе нават з вялікай кампаніяй бывала трывожна. Асабліва ўначы, калі адыходзіш ўбок, па патрэбе, і раптоўна застаешся адзін, у чужой і халоднай цемры.

Але тут месца было відавочна намоленае, як яны казалі. Хаця і не ясна кім і калі. Не было аніякіх слядоў турысцкай прысутнасці: рэштак вогнішча, пластыкавых бутэлек, яміны са смеццем.

Ён распрануўся і асцярожна ўвайшоў у ваду. Было нават цяплей, чым на беразе. Возера дымілася, вада была падобная да цёмнага люстэрка.

Ён лёг на спіну і, павольна падграбаючы, выплыў на сярэдзіну.

Адчуў, як вада змывае ўсё: успаміны, думкі, пачуцці.

Усё гэта сцякала, распушчалася ў возеры, пакідаючы яго пустым і шчаслівым.

А яшчэ ўверсе свяцілі зоры, як ніколі ў жыцці.

***

Месца сапраўды было *адмысловым*.

Гэта была вялікая выспа, аддзеленая ад зямлі шырокім пасам зараслага хмызам балота. Кладка была зробленая даўно, яна ўтравела і утрываліла, і ўсё ж наўрад ці хто рызыкнуў бы ісці праз яе ўвесну альбо ўвосень, пасля дажджоў.

Возера атачала выспу з трох бакоў і ўзвышша, на якім ён паставіў намёт, нагадвала рубку карабля.

Ён абышоў выспу цалкам, знайшоў шчаўе і чабор, а таксама зарасці арэшніка і нейкія чырвоныя ягады, на далёкім канцы выспы.

Нацягаў камянёў і абклаў вогнішча. Зрабіў навес, лаўкі. Падумаў што будзе вяртацца сюды кожны год. І што гэтае месца будзе ягоным сакрэтам.

У ім відавочна была загадка.

Яно было аж занадта прыгожае. Падрыхтаванае. Як быццам перад ягоным прыездам хтосьці добра папрацаваў над ландшафтам.

Гэта мог быць стары схрон, дзе калісьці хаваліся людзі.

Можа быць, партызаны. А можа, і акаўцы. Ці ўвогуле штосьці больш старое.

Тады тут мусілі быць зямлянкі, замаскаваныя, альбо нават засыпаныя. Зрэшты, невялікія ўзгоркі і маглі быць зямлянкамі. Але пагоркі былі тут паўсюль, і ўваход знайсці досыць складана. Можна зрабіць некалькі раскопаў, на спробу. З іншага боку, гэта маглі быць старыя пахаванні – і тады лепей нічога не кранаць, не турбаваць памерлых.

Ён прыгадаў адну гісторыю. Пра настаўніка, які сышоў у лес разам з выпускным класам менскай гімназіі. Падчас апошняга паўстання. Эва Дамініка расказвала яму пра гэта, вельмі даўно.

Пра нейкі схрон у пушчы, дзе яны хаваліся амаль дваццаць год. І дзе мусілі застацца іх запісы.

***

На другі дзень думак не было ўвогуле. Свядомасць была чыстая, як быццам яе добра вымылі.

Ён прачнуўся на дасвецці, распаліў вогнішча. Згатаваў каву, уладкаваўся ў фатэлі і заціхнуў на пару гадзінак, сузіраючы *абуджэнне прыроды*.

Потым сняданак і крыху гаспадаркі.

Узышло сонца, ён пайшоў да возера, купацца. Купаўся амаль да абеда, пасля схаваўся ў цень разлеглых соснаў і ядлоўца.

Прыгадаў пра кнігу, ён прыцягнуў яе на выспу разам з прыпасамі.

Было прыемна разгарнуць старонкі са знаёмымі персанажамі. Сунь У-кун, князь малпаў, суправаджае мніха Сюань Цзана у ягоным падарожжы. Змагаецца з пярэваратнямі, духамі.

Ужо чым чым, а духамі і пярэваратнямі кніга была набітая пад завязку. І што цікава, пярэваратні не былі чымсьці чужым і варожым. Збольшага, гэта звычайныя людзі, якія дазволілі сабе патануць у крыўдзе, помсце, нянавісці. І душы якіх прымалі пачварныя формы. Іх можна было вярнуць да сябе, у чалавечы свет. Дзеля гэтага і былі патрэбныя будыйскія сутры.

А яшчэ кніга нагадвала яму пра Францішка і Эву Дамініку. І адну цудоўную ноч, што здарылася з імі ў далёкую эпоху.

Ён падумаў: увесь час, пакуль яна была з ім, пакуль ён вазіў яе ў падарожжы, гэтая ноч суправаджала яго, як талісман. Не кніга, а тая ноч была талісманам!

***

На трэці дзень прыйшла саламандра і кінулася ў агонь.

Ён назваў яе для сябе саламандрай, хаця гэта была жамяра, падобная да саранчы альбо багамола. Яна ўскочыла ў вогнішча і ўмомант згарэла, пераўтварылася ў жменьку попелу.

Саламандры наадварот, з агню выходзяць, прыгадаў ён.

Ён сядзеў у фатэлі тварам на захад. Крыху збоку, за спінай гарэла вогнішча.

Раптоўна падумалася: у чалавека няма столькі словаў, каб проста назваць усе падрабязнасці аднаго летняга вечара.

Убачыць і апісаць усё. Усё разнатраўе і разналессе. Адмысловыя гукі і даўкія пахі. Расказаць пра ўсіх казюрак, якія абуджаюцца, выпаўзаюць у вечаровую прахалоду.

Пералічыць усіх матылькоў, што выпырхваюць свае дзівосна асіметрычныя танцы. Падзякаваць стрыбаўкам, што наразаюць паветра роўнымі долямі.

А яшчэ недзе непадалёку крэкаюць качкі. Ды і лес за возерам ажывае пасля дзённай спякоты, там пачынаюць выпаўзаць на свет божыя стварэнні.

Усё вакол цвіркоча, ціўкае, стракоча... жыве.

І зусім нічога не ведае – і не хоча ведаць – пра чалавека. Пра яго ідэі, эмоцыі. Перажыванні.

***

Ішоў чацвёрты ці пяты дзень, ён не памятаў дакладна. Можна было пачынаць думаць пра вяртанне.

Былі пэўныя сімптомы. Раз-пораз у свядомасці выплывалі ўрыўкі размоваў альбо нейкая забытая эмоцыя. Пачыналі паціху прыходзіць успаміны.

І ўсё ж вяртацца не хацелася.

Ён спазніўся з тэрмінамі, і цяпер адзін дзень анічога не вырашаў.

Ён прайшоў да машыны і вярнуўся, прыцягнуўшы рэшту прыпасаў. Хапала яшчэ як мінімум на тыдзень, а калі добра эканоміць, дык і на два.

Праўда, было адчуванне, што кладка змянілася. Ён памятаў, што яна ішла каля старога, даўно высахлага дрэва, а тут дрэва заставалася збоку, а кладка ішла напрасткі.

І яна была больш свежая і нейкая больш топкая, як быццам бы яе падмывала плынню.

На наступны дзень ён вырашыў пазваніць і прабачыцца за спазненне. Перанесці прыезд на тыдзень. Паспрабаваў выйсці са сваёй выспы, але так і не знайшоў кладкі.

Яна знікла.

Там, дзе ён ішоў у мінулы раз, была чыстая твань, без аніякіх слядоў і прыкметаў таго, што было ўчора.

Напачатку падумаў, што гэта жарт. Потым – што людзі так не жартуюць.

Няясна, куды ўсё падзелася. Магчыма, падводная плынь паціху размывала грунт, і кладка засталася пад вадой, апусцілася.

Але калі ён паспрабаваў прайсці ўчарашнім шляхам, амаль адразу праваліўся па пояс і ледзьве выбраўся з твані.

Паўгадзіны сядзеў на беразе, сэрца шалёна білася. На момант яму здалося, што ён чуе *там* нейкія галасы ці нават варушэнні.

Падумалася, што выспа *не хоча яго адпускаць*. Прыгадаў гісторыі з дзяцінства, пра драпежныя кветкі, якія заманьваюць свае ахвяры, а потым закрываюць пялёсткі.

Ён крыху спалохаўся гэтае думкі і адагнаў яе ад сябе.

Увесь наступны дзень ён спрабаваў знайсці выйсце. Нават звязаў невялікі плыт і падплыў да другога берага. Але там берага не было ўвогуле. Толькі водарасці, хмыз і топкая хіжая твань.

***

Запасаў было як мінімум на тыдзень, а можа і на два-тры, калі эканомна. Дзякаваць богу, ён перанёс усё ў лагер.

Былі яшчэ бутэлькі віскі, якія ён так і не скарыстаў.

Можна было спадзявацца на цуд. На тое, што яго знойдуць, заўважаць. Усё ж такі месца было прыўкраснае і сюды раз-пораз мусілі патрапляць людзі.

Альбо на тое, што *вернецца кладка*.

Трэба было яшчэ раз пралічыць усе варыянты і выбраць штосьці адно. І пачаць дзейнічаць.

Магчыма, выйсце было недзе побач, і толькі ягоная мітусня не дазваляла яго ўбачыць. Найперш трэба супакоіцца, падумаў ён. І крыху пачакаць.

А яшчэ можна паваражыць на кнізе. Загадаць старонку і нумар радка. Калі *Падарожжа на Захад* было талісманам, у кнізе мусілі быць падказкі.

Цяпер ён дачытае яе да канца, у гэтым ужо не было аніякіх сумневаў.

***

Прайшоў тыдзень. Ці амаль тыдзень, ён ужо заблытаўся з днямі і начамі.

Там, у Менску, яго ўжо, пэўна, шукалі.

Набліжаліся выбары, і ягонае знікненне будзе патрактаванае адназначна.

Магчыма, ужо напісаны новы сцэнар. І надрукаваныя плакаты, з якімі перад галасаваннем будуць выходзіць на Плошчу. І гэта нават не будзе свядомай хлуснёй: ніхто сапраўды не ведаў, што Багдан збіраецца ехаць раней і па іншым маршруце.

Зрэшты, ён сам зрабіў усё, каб заблытаць сляды.

І нават калі ён урэшце здолее выбрацца адсюль, наўрад ці яму будуць рады. І наўрад ці павераць. Гісторыя з выспай была неверагодная – аж занадта.

Ніхто не паверыць, што ўсё гэта не было запланавана. І астатнія зніклыя адразу патрапяць пад пытанне.

Хіба толькі, калі б яго *шукалі і знайшлі,* а не ён сам выбраўся.

Але ці хтосьці сапраўды падумае пра яго? Будзе хвалявацца, шукаць, а не проста цынічна пакарыстаецца ягоным знікненнем?

Першым, канечне, будзе гэты гадкі сайцік, *плахішы*, як яны іх называлі міжсобку.

І ўсе гэтыя бухгалтары і менеджары – яны, пэўна, ужо аж падскокваюць ад радасці. Сапраўды, такі падарунак лёсу перад кампаніяй.

Магчыма, яго вернуць у Сойм і нават узновяць у Радзе.

І тут ён з'яўляецца. Радасны і спакойны. Пасля адпачынку.

Можна было б пратрымацца пэўны час. Можа, нават да канца выбараў. Каб не сарваць кампанію.

Але тады ўжо пэўна ніхто не паверыць.

Ён не адразу дазволіў сабе прамовіць тое, што прасілася на язык, што лагічна выцякала з сітуацыі.

Смерць была б самым лепшым выйсцем. Смерць на выспе, *шчаслівая смерць*.

***

Паўсюль былі нейкія гукі: шэпты, стогны, няўцямныя мармытанні. Яны гучалі прыцішана, як быццам крыху здалёк. Але ніякага здалёк тут не было, яны гучалі проста ў яго галаве.

Калісьці ён сказаў, што гатовы да такога лёсу. Гатовы сысці нават у пекла, калі будзе такая патрэба.

Яны стаялі ў кавярні і гаварылі. Назву кавярні ён забыў, памятаў толькі, што гэты было штосьці зусім простае, амаль банальнае.

І гэта была важная размова.

Яны спрачаліся пра вызваленне. Пра тое, ці варта было Арфею спускацца ўніз, па Эўрыдыку.

Ён тады сказаў, што варта, і насамрэч у Арфея няма выбару. І дадаў, што сам гатовы заплаціць гэты кошт, калі *такое* здарыцца.

Францішак жа гаварыў пра ўзвышэнне. Пра пустату нябёсаў. Пра тое, што выбар заўсёды ёсць.

І што спускацца насамрэч нікуды непатрэбна. Бо свет, як ён існуе ва ўяўленні звычайнага чалавека, і ёсць пекла.

І што менавіта ад гэтага пекла спрабаваў вызваліць чалавека прынц Гаўтама.

***

Хаця ўсё было не так, як у Арфея.

Напачатку яны ўзвышаліся. І тады, калі збіраліся на спеўкі, і тады, калі сустракаліся ў Гістарычным клубе. Набіралі вышыню. Назапашвалі карму.

А далей, напэўна, быў ужо толькі спуск.

Уніз, у Аід. У краіну ценяў.

У якой яны, маленькія цынавыя жаўнерыкі, вядуць сваю апошнюю вайну. Іх усё меней. І адзін за адным яны прападаюць. І цемра вакол усё больш густая.

Магчыма, ён ужо застаўся адзін.

Апошні герой са смешнага комікса пра змаганне.

Хто будзе паміраць апошнім, калі ласка, патушыце святло, – прыгадаў ён словы з нейкага амерыканскага фільма.

Святло патухла само.

Вакол варушацца хіжыя і страшныя істоты, мілыя пачварынкі, якія тут у сябе дома.

І ясна, ніякай Эўрыдыкі.

***

Затое было дзве бутэлькі віскі, пра якія ён амаль забыў.

*Хрэнушкі вам*, падумаў Багдан. *Будзем выбірацца.*

***

Запаліліся агні.

Праўда, зусім не там, дзе яны маглі з'явіцца і дзе ён іх падсвядома чакаў. Не на палянцы, дзе стаяла машына і куды тэарэтычна маглі даехаць, турысты ці нават мясцовыя рыбакі.

Агні свяцілі на другім баку возера.

Да таго ж, там чуліся галасы.

Як быццам бы людзі сабраліся каля вогнішча, сядзелі і пра штосьці гаварылі. Там не магло быць вогнішча і людзей, гэта ён разумеў.

Ён зусім не баяўся, бо ўжо адчуў гэтае месца сваім. Ведаў тут кожнае дрэва, кожны пагорак.

Віскі заставалася на донцы, ён дапіў да канца, і затрымаў дыханне, каб супакоіцца. Яно зрабіла сваю справу – зноў пацяплела ўсярэдзіне, думкі сталі яснымі і вясёлымі.

І раптам яму ўсё стала зразумела.

Кніга сапраўды была талісманам. Адганяла злых духаў.

А цяпер, у патрэбны момант, і Сунь У-кун, вялікі князь малпаў з сябрамі прыйшоў яму на дапамогу! Гэта яны сталі лагерам на другім баку возера і рыхтавалі ўцёкі.

Усё, як абяцаў Францішак, падумаў ён. Адкуль ён ведаў?

Падумаў таксама, што найперш трэба настроіць сваё сэрца.

Так, сэрца! Яно мусіць быць адважным, – і пяшчотным. А галоўнае непахісным. Усе нашыя бітвы мы выйграем альбо прайграем менавіта там, у сэрцы, прыгадаў ён чыесьці словы.

Што б далей ні здарылася, сэрца мусіць заставацца выспай, крэпасцю.

Падумаў таксама, што мусяць быць месцы ў памяці – ягонай памяці, з якіх можна патрапіць у *іншую будучыню*. І калі ён прыгадае, адчуе гэтае раздарожжа, можа прачнуцца зусім у іншым часе. А магчыма, і *іншай асобай*.

Агні свяцілі так, як быццам бы яны свяцілі проста ў яго свядомасці, а зусім не на балотцах за возерам.

Яшчэ раз услухаўся. І не толькі ў галасы і шэпты навонкі.

Штосьці змянялася ўнутры яго. Надышоў момант, калі трэба было прымаць рашэнне.

Ён падняўся, знайшоў плыт, спусціў яго на ваду і асцярожна паплыў наперад.

## 4.

— Хлопчыкі мае, вы зусім сп'янелі, — сказала Эва Дамініка ціхім шэптам, сама сабе, і ў гэтым шэпце чулася складанае, можа быць, нават занадта складанае сугучча.

Там відавочна было захапленне, крыху замілавання, каліўца трывогі,

і ўсё гэта змяшана з радасцю, якая бывае ад раптоўнага – і ўсё ж такі даўно чаканага – падарунка.

Гэтыя два хлопцы, якія выпадкова сустрэліся на калідоры пару гадзінаў таму, цяпер сядзелі перад ёй, і яны былі ўжо *амаль закаханыя*, яна адчувала гэта беспамылкова.

Адчувала па-свойму, нейкім дзіўным пачуццём, якое нібыта *спала стагоддзямі* і цяпер прачнулася ў ёй, і вяло, і падказвала.

Гэта былі *яе мужчыны*, яна ведала тое дакладна.

Адзін, прыгожы класічнай прыгажосцю, але пры гэтым тонкі і надзейны, раз-пораз яна кідала позірк на ягоны профіль, такіх выбіраюць аднойчы і назаўсёды, і кахаюць усё жыццё. Ідуць разам, праз усе перашкоды, і ніколі не шкадуюць.

І другі, няўлоўны і ўсюдыпрысутны, як дождж з маланкамі, асаблівы і крыху звар'яцелы. З ім хацелася б цалавацца, раптоўна падумала яна. І рабіць розныя мілыя рэчы, якія назаўтра будзеш прыгадваць з няёмкасцю – танчыць голай на стале, блукаць пад дажджом увесь дзень.

Яшчэ ўчора яна думала пра шэрасць і невыразнасць вонкавага, знешняга свету, які вабіць і спакушае толькі тады, калі глядзіць з будучыні. А калі прыходзіць у цяперашчыну, рассыпаецца ў друз, у пыл, і праміnae занадта хутка.

А тут усё раптоўна пачало складацца, і само сабой, без аніякіх высілкаў з яе боку.

У сэрцы зашчыміла – яна падумала, што магла б і не паверыць, прамінуць гэтыя дзверы. Магла б сядзець на дні нараджэння, слухаць размовы ні пра што. Дурныя жарты, заляцанні. І тады яе жыццё склалася б зусім па-іншаму.

Але яна штосьці адчула ўнутры, паднялася і выйшла, і апынулася там, дзе яе чакалі.

У галаве круцілася мелодыя, знаёмая аднекуль, хаця яна і не магла прыгадаць адкуль. Яна міжволі адбівала такт, хацелася знайсці фартэпіяна і прайграць.

Дастала з торбы сшытак і занатавала некалькі фрагментаў. І тады зразумела: *гэта была яе ўласная, яшчэ не напісаная, музыка.*

***

Багдан расплюшчыў вочы і асцярожна агледзеўся. Ён сядзеў на падлозе, абапіраючыся спінай на рэшткі фатэлю. Ён адключыўся зусім на пару секундаў, але штосьці адбылося за гэтыя секунды, ён быў гатовы паклясціся.

Большасць рэчаў захаваліся такімі, якія яны й былі. Але некаторыя змянілі месца, а іншыя – нават форму.

Шафа каля сцяны падазрона нахілілася. Вялікі плакат, шэдэўр агітацыйнага мастацтва – *жыць і вучыцца па-ленінску!* – споўз са сцяны ўніз. Двухпудовая гіра, якая стаяла ў далёкім куце, перамясцілася на пару метраў бліжэй.

Яны танчылі танец дэрвішаў, гэта апошняе, што ён памятаў.

Эва Дамініка выцягнула са стосу кружэлку Равэля, яны засмяяліся: што яна робіць у скрыні для агітатара і прапагандыста, было незразумела, а Францішак сказаў, што гэта насамрэч старажытны суфійскі танец, і што, калі яны не супраць, можна паспрабаваць *тэхнікі экстаза.*

Яны былі ўжо гатовыя да гэтага вар'яцтва. Напачатку смешна, але паступова рытм падпарадкоўваў, прымушаў рухацца ўсё хутчэй і хутчэй. Сэрца выскоквала з грудзей. Было адчуванне: яны падышлі да краю магчымага.

А потым свядомасць адключылася і засталася толькі музыка, і радасць і неверагоднае шчасце.

Што было перад гэтым, прыгадвалася з цяжкасцю.

***

Ён прыйшоў за паўгадзіны да шостай і ўладкаваўся ў кафетэрыі насупраць інтэрната. Узяў каву з малаком і стаў за стойку каля вакна.

Кава была гідотная, як толькі магла быць савецкая кава з малаком. Але больш нічога не было, а яму было патрэбна спакойна пастаяць каля вакна, за стойкай, і прыгледзецца.

З вакна быў бачны фасад і крыху ўнутранага дворыка. Як у фільмах пра шпіёнаў, падумаў ён, і яму стала смешна.

Далей жа ўсё пайшло нават занадта добра, і ён расслабіўся.

Ён дачакаўся кубінцаў, калі тыя вярталіся з крамы з поўнымі торбамі. Ён ведаў, што яны пакідаюць бутэльку піва на вахце, і вахцёр, – аднарукі Джо, як называлі яго студэнты, – адразу падымаецца і нясе яе ў лядоўню. А тая стаіць у пакойчыку каменданта, наперад па калідоры і крыху ўбок ад вахты. Тры-чатыры хвіліны, як мінімум.

У гэты момант можна прайсці незаўважаным, і ты амаль прывід, цябе няма.

Ён ужо аднойчы сюды прыходзіў. Яны вырашылі нарэшце заняцца агітацыяй і прапагандай і раздрукавалі на старой машынцы дзесяць экземпляраў "Пагоні" Багдановіча.

Ён пакінуў іх на падваконні, напрыканцы калідора, там, дзе звычайна палілі. Тады ўсё засталося без водгуку, ці мала хто любіць Багдановіча, да таго ж на калідорах забывалі і не такія рэчы.

Гэтым разам усё мусіла быць больш сур'ёзна.

***

Багдан ведаў, што трэба быць асцярожным. Першы гістфакаўскі інтэрнат меў благую славу. Усё, што гаварылася ў інтэрнацкіх пакоях, а часам нават і на калідорах, – адразу рабілася вядомым у дэканаце.

Асцярожнасць стала часткай яго натуры, асабліва пасля таго, як іх заўважылі. Пачалі выклікаць на камсамольскія сходы, у парткамы, а некаторых нават у першы аддзел.

Яго таксама правялі па ланцужку, але ў першым аддзеле маладзенькі лейтэнанцік у цывільным не ламаў камедыю, а адразу сказаў, што тут пахне нацыяналізмам, і калі б такое было ва Украіне, з ім бы не цацкаліся, а паставілі б да сценкі, як бандэраўца. Падзякуй, што з табой увогуле размаўляюць, хлопча.

Багдан пакрывіўся, але праз хвіліну рашуча нацягнуў маску і сказаў, што ўсё зусім не так, як здаецца. Тое, за што ўчора хвалілі на сходах і насценгазетах – сёння за гэта хочуць ламаць ногі, тут ён нахіліўся да лейтэнанціка як да свайго, толькі з-за таго, што хтосьці прачнуўся не ў гуморы, і вырашыў, што пахне не так, як звычайна.

Яны ўсяго толькі адраджаюць народныя традыцыі. Фальклор, спевы,

танцы. Інфармацыя пайшла ўжо на самы верх, засталося пачакаць зусім крыху. Разбяруцца без нас, і па справядлівасці. Галоўнае не бегчы наперадзе ўсіх у такіх справах.

Ён глядзеў на лейтэнанта як чалавек, які ўсё разумее, і лейтэнант засумняваўся. Гістфак быў нашпігаваны чыімісьці дзеткамі, якія многа ведалі і, галоўнае, увесь час давалі інфармацыю на самы верх. І тады бясконцыя званкі начальства, праверкі, рэвізіі ды іншая трасца.

Тут было месца з сюрпрызамі, яшчэ памяталася гісторыя першага года. На якой ён ледзь не зламаўся.

Паступіў сігнал на студэнта – на семінарах прапагандуе буржуазных аўтараў, чытае і перадае самвыдат. Сігнал быў ад старасты, якога яны распрацоўвалі ўжо каля года. Раз на месяц стараста прыносіў доўгія справаздачы, дзе падрабязна апісваў хто што сказаў і з кім сустракаўся.

Буржуазныя аўтары хутчэй за ўсё былі ўзятыя з часопіса “Замежная літаратура”, а самвыдат – перадрукаваныя на машынцы песні Высоцкага ці Акуджавы. Цягнула максімум на вымову на камсамольскім сходзе.

Яму была патрэбная рэальная справа, а не гэтая дзіцячая фронда. Справа, што была б сапраўдным пачаткам ягонай кар’еры. Выкрыццё антысавецкай групы, як мінімум. Але ўсё рэальнае было ў далёкіх сталіцах. Зрэшты, можна было дапамагчы. Паспрыяць, падштурхнуць. Надаць форму.

За тыдзень антысавецкая група была гатовая.

Са студэнтамі праблемы не было, стараста назваў пяць прозвішчаў. А вось кандыдатуры выкладчыкаў трэба было ўзгадняць. На кіраўніка групы ён намеціў аднаго дацэнта, які толькі вярнуўся з Нью-Ёрку і, акрамя спецкурса па Вітгенштайну і дарагіх несавецкіх касцюмаў, частаваў некаторых студэнтаў у курылцы замежнымі цыгарэтамі.

Але калі ён прыйшоў з гэтай ідэяй да начальства, тое не надта узрадавалася. І праз некалькі дзён лейтэнант зразумеў, чаму. Справы дацэнта ў сваім архіве ён не знайшоў, а на запыт па інстанцыях яму адмовілі без тлумачэння прычынаў. Гэта магло значыць толькі адно: дацэнт быў старэйшы за яго па званні, і ў Нью-Ёрку займаўся не толькі Вітгенштайнам.

***

Багдан выскачыў тады з гэтай сітуацыі амаль без наступстваў.

Калі не лічыць заваленай сесіі, з двума траякамі, бо ў галаве нічога не затрымлівалася.

Але цяпер было лета, і ўсё неяк пацяплела, расплылося, выглядала менш сур’ёзным. І яму захацелася яшчэ раз прайсціся па месцах злачынства і ўрэшце зрабіць тое, у чым іх так хацелі абвінаваціць.

Ён не сумняваўся, што яны маюць непахіснае алібі. Якраз таму, што менавіта на іх першых і мусіла ўпасці падазрэнне. Толькі самагубцы маглі адважыцца на такое – і ён у думках глядзеў на лейтэнанта і абсалютна шчырым голасам дадаваў – але мы ж не самагубцы, мы ўсяго толькі адраджаем народныя традыцыі.

Ён разлічыў дакладна. Вычакаўшы хвілінку пасля кубінцаў, адчыніў дзверы. Аднарукі Джо яшчэ не вярнуўся, дзесяць крокаў наперад, налева, наперад і зноў налева. Вось і ўсё. Падняўся на трэці паверх, прайшоўся па калідорах.

Прыслухаўся.

Улётак было пятнаццаць. На белых аркушах чырвоным фламайстрам пад трафарэт быў выведзены сказ:

КРАІНА Ў КРАТАХ!

Пакінуў дзве на кухні, тры рассаваў па партах у пакоі для падрыхтоўкі. Потым падумаў, што можна засоўваць пад дзверы і гэта самае эфектыўнае. Праз колькі дзён народ пачне вяртацца, і тады гэты сюрпрыз выбухне.

Як бомба Мазанік, падумаў ён і ўсміхнуўся.

Ён спыніўся напрыканцы калідора, у невялікім закуточку каля вакна, выцягнуў цыгарэту, запаліў.

Справа была зробленая і зробленая паспяхова. Цяпер можна было адступаць. Дачакацца вясёлай кампаніі і выйсці разам з імі, каб не свяціцца.

І ўсё ж штосьці было не так.

Была яшчэ адна рэч, больш важная, якую ён пачынаў разумець толькі цяпер.

***

Эва Дамініка выйшла папаліць на калідор, і тады пабачыла гэтую постаць.

Правагалася крыху, павярнуць у другі бок, прайсці паўз яго – але штосьці ў незнаёмцу выклікала давер: ён стаяў на месцы, якое ёй адразу спадабалася. Прытуліўся ў куце якраз так, як яна любіла рабіць – амаль схаваўшыся ад усіх і ў той жа час з выклікам.

Твар быў аднекуль знаёмым.

Яна падышла і папрасіла прыпаліць, забыўшыся схаваць запальнічку.

Запыталася па-беларуску. *Ці можна прыпаліць папяроску?* Гэтая папяроска прагучала неяк зусім несур’ёзна, амаль какетліва. Як цытата з фільма, альбо як пароль.

Чалавек ля вакна паглядзеў на яе са здзіўленнем, узяў яе руку і падпаліў яе цыгарэту яе ж запальнічкай.

І адказаў – таксама па-беларуску. *Калі ласка.*

Цяпер ужо не было ніякіх сумневаў, гэта быў Багдан.

Яму відавочна было няёмка, быццам бы яго заспелі за чымсьці зусім асабістым. Яна ўбачыла, як у яго дрыжаць рукі, калі ён падпальваў цыгарэту. Хацела сказаць, што яны сустракаліся, хаця й не знаёміліся – на спеўках, што гэта яна...

Але не паспела.

– А я Вас ведаю, – сказаў ён.

Вы дух пані Катарыны, адной менскай шляхцянкі канца васямнаццатага стагоддзя. Якраз тут, на гэтым месцы, была Вашая сядзіба.

Пра Вас ходзяць легенды ў інтэрнаце.

Гавораць, што вы блукаеце па калідорах і спакушаеце тутэйшых хлопчыкаў. Асабліва тых, якія не ведаюць і не хочуць ведаць тутэйшай гісторыі. А потым яны прачынаюцца ўначы, на руінах старога замку, сярод прывідаў і духаў.

Дарэчы, Ваш партрэт ляжыць у запасніках Музея, якраз цяпер яго збіраюцца выставіць.

Але тут, у жыцці, Вы значна маладзейшая.

Ён відавочна не пазнаў яе і гаварыў як з незнаёмай дзяўчынай. Зрэшты, гэта не дзіўна. Яна была на спеўках усяго некалькі разоў. І прасядзела на

заднім шэрагу, прыслухоўваючыся. Там быў патрэбны іншы голас і іншыя спевы, не такія, якім іх вучылі ў кансерваторыі.

Рукі дрыжаць, – яшчэ раз падумала яна. І голас быў нейкі няўпэўнены, як быццам бы ён думаў пра нешта сваё.

Трэба было адказваць. Нарэшце пазнаёміцца, хаця й пры такіх дзіўных абставінах.

– Усё гэта праўда, але не зусім. Я – Эва Дамініка. Катарына – мая малодшая сястрычка.

Я не магу запрасіць Вас у свой маёнтак, хаця мне і вельмі хочацца. Прынамсі, не адразу. У гэтым свеце ён ужо даўно не існуе, а ў той вам яшчэ рана.

***

Ён перааценіў сітуацыю.

Гэта ў заходніх раманах мудрыя следчыя адкідаюць першыя, самыя відавочныя гіпотэзы.

А нашыя, савецкія следчыя трымаюцца за такія версіі аберуч. Ды яшчэ падганяюць пад іх саму рэальнасць. І калі тая ўпіраецца, не згодная – тым горш для яе.

Ён зразумеў усё, што адбылося.

Ён сам, без аніякага прымусу, падставіў сябе і сваіх сяброў, а таксама справу, якой яны займаліся. І якая была надзвычай важнай, гістарычна важнай – і не толькі для іх асабіста.

Лейтэнант не будзе адкідаць занадта відавочную версію. А радасна перасаджае ўсіх і закрые справу. І пойдзе абмываць наступныя зорачкі на пагонах.

У пэўны момант ён злавіў сябе на памкненні вярнуцца. Сабраць усё, што магчыма. Нават калі штосьці застанецца, гэта не будзе выглядаць як антысавецкая акцыя.

Ён літаральна прымусіў сябе застацца на месцы.

Адступленне было ганебным.

Трэба ісці далей. Наперад. Шукаць іншае выйсце.

Таму, калі да яго падышла дзяўчына і папрасіла прыпаліць, ён зразумеў, што гэта шанец. Удваіх выбірацца прасцей, на парачкі менш звяртаюць увагі. Да таго ж, яна спытала па-беларуску, а значыць была свая. Можна дамовіцца, прыдумаць легенду.

Але тут паўстала яшчэ адна постаць.

І яна ішла ў іхні бок.

***

Чалавек ішоў па калідоры, злёгку хістаючыся. Амаль плыў у паветры. Як быццам ён быў п’яны, альбо проста не ўпэўнены да канца ў сваім выбары. З’явіцца ў гэтым часе і месцы ці знайсці для матэрыялізацыі больш вясёлую эпоху.

Ён падышоў да іх і спыніўся.

*Паэт і арыенталіст-аматар*, сказаў ён, вытрымаўшы паўзу. І працягнуў руку для знаёмства.

Багдан прамаўчаў. Усё пачынала нагадваць тэатр абсурду. Спачатку *прыпаліць папяроску*, потым *арыенталіст-аматар*. Верагоднасць сустрэць на калідоры першага інтэрната чалавека, які звернецца да цябе па-бела-

руску была зусім малая. А *арыенталіста-аматара* дык і зусім знікомая, тысячная доля працэнта. І гэта прымушала насцеражыцца.

Але Эва Дамініка прыняла выклік.

*Нікому не вядомая спявачка*, назвалася яна і працягнула руку ў адказ.

Багдан зразумеў, што не мае выйсця. І што план адыходу, які пачынаў складацца ў яго галаве, адкладаецца на няпэўны тэрмін.

*Проста герой*, сказаў ён. Пакуль на свабодзе, але ўжо заўтра мае ўсе шанцы патрапіць у месца, дзе звычайна й сканчаюць сваё жыццё проста героі.

Нарэшце, сказаў чалавек і ўсміхнуўся.

Я чакаў нашай сустрэчы стагоддзямі.

***

Францішак потым кляўся, што ён сапраўды плыў у паветры, практыкуючы *сакрэтныя даоскія тэхнікі хады праз рэальнасць.*

У яго былі ключы ад Ленінскага пакоя і два літры мадэры, якую ён прывёз з Крыму.

І гэта цалкам мяняла справу.

## 5.

Не баішся заўтра прачнуцца на руінах? – запыталася Эва Дамініка.

Яе голас канчаткова аддзяліўся ад яе. І яна са здзіўленнем услухоўвалася ў свае ўласныя інтанацыі.

Пра сядзібу я не жартавала. Эва Дамініка Вайтовіч мая прабабка, і яна мела маёнтак недзе тут, пад Менскам. Пра яе бацьку, Севярына Вайтовіча, расказвалі легенды.

Ён знік без следу ў апошнія месяцы паўстання. І звёў з сабой увесь выпускны клас менскай гімназіі. Афіцыйна гэта лічылася фальклорнай экспедыцыяй, але папаўзлі чуткі, што насамрэч яны ідуць шукаць Каралеўства.

Улады, праўда, вырашылі, што яны сышлі да інсургентаў. І будуць прабівацца праз Польшчу ў Аўстра-Вугоршчыну. Выставілі заслоны на ўсіх дарогах. Але нікога не было. Яны проста зніклі.

Урэшце яны вярнуліся. Праз дваццаць год, пасля амністыі, – працягнула яна. І нічога нікому не тлумачылі.

Мне цяжка ўявіць, што адчувала прапрабабка, калі ён нечакана з'явіўся на парозе. Напачатку, хутчэй за ўсё не паверыла. Падумала, што гэта толькі сон, і крыху засмуцілася. А потым наватералякалася – падумала, што памёрла і яны сустрэліся *як духі*, – ужо на тым беразе. Яны ўсе тады чыталі Сведэнборга.

Яе вярнулі да прытомнасці пахі і водары роднага краю, – расказвала яна потым. Яна раптоўна зразумела, што *духі не бываюць такія брудныя і не пахнуць, як мужыкі.*

Ва ўсёй гэтай гісторыі засталося дзве загадкі.

Што за Каралеўства яны шукалі.

І дзе іх запісы, што паўсталі за гэтыя гады.

Запісы потым шмат хто шукаў. У розных архівах. Па сямейнай легендзе, яны пакінулі іх на выспе, пасярод ляснога возера, каб потым вярнуцца.

***

– Што вы там шэпчацеся, даражэнькія, – Францішак расклаў абрус проста на падлозе і скончаў прыгатаванні.

Шклянкі былі напоўненыя, сыр пакроены, да ўсяго быў дададзены кавалак сала, цыбуліна і хлеб, ён рабіў усё гэта радасна і цырымонна, як быццам гэта быў ягоны дзень нараджэння, на які нарэшце завіталі *госцейкі дарагія.*

Запрашаю на сціплы *сымпазіён*, сказаў ён урачыста.

Парменід ужо ў дарозе, і Платон, і цені некаторых вельмі старых кітайцаў будуць з намі.

Сакрат, праўда, затрымаецца, ён зараз на бяседзе ў Агатона. Вы мусіце памятаць Агатона. Мы былі там у мінулую нашую сустрэчу. У адным з пяпярэдніх жыццяў.

***

Прапаную выпіць за Караткевіча, – сказаў Багдан, крыху з выклікам, уважліва гледзячы на Францішка. За чалавека, які вярнуў народу Айчыну.

Быў ужо трэці тост, і можна было пачынаць высвятленне, хто ёсць кім у гэтай кампаніі.

У яго быў цэлы набор такіх *праверачных* тастоў, для незнаёмых.

Звычайна гэта спрацоўвала: хтосьці з разуменнем усміхаўся, хтосьці пытаўся, хто такі Караткевіч, і чаму айчыну трэба вяртаць. Некаторыя прыгадвалі нашую агульную бацькаўшчыну і вялікі савецкі народ. Далей амаль заўсёды пачыналася дыскусія.

У гэтых далейшых спрэчках Багдан не ўдзельнічаў і толькі пасля падыходзіў да *некаторых*, знаёміцца яшчэ раз.

Але тут з ім ніхто і не збіраўся спрачацца, ён быў сярод сваіх.

Дамініка глядзела іранічна, як быццам бы ён сказаў штосьці, што і так усе ведаюць. І пра што не прынята гаварыць наўпрост.

Францішак усміхнуўся, радасна, прыязна і таксама крыху іранічна.

І за народ, – сказаў ён, працягваючы тост. – Які ніяк не можа зразумець, што яму рабіць з такім *шыкоўным падарункам.*

***

Першы тост быў за нечаканае спатканне – у гэтым жыцці, – удакладніў Францішак, другі – за Эву Дамініку і за прыўкраснае як такое.

А пасля трэцяй усё раптоўна паплыло: у галаве зашумела, рэчы вакол сталі цёплымі і знаёмымі, і Багдан нарэшце расслабіўся.

За апошнія гады ён звыкся сябе кантраляваць, і цяпер адчуў, як гэта ўсё ж такі прыгожа: пацiху сплываць разам з усімі ў плыні часу, не спрабуючы пралічваць, што адкрыецца там, за паваротам.

Проста ўглядацца ў свет, поўны загадак.

Тут ён быў сярод сяброў. І сяброў вельмі старых. Францішак штосьці казаў пра папярэднія спатканні, у мінулых жыццях. Багдан сапраўды меў дзіўнае адчуванне дэжа вю, як быццам бы гэта ўжо адбывалася.

Праўда, заставаліся яшчэ іншыя.

Тыя, хто хадзіў па вуліцах, кіраваў аўтобусамі і трамваямі. Стаяў каля станкоў на фабрыках і заводах, альбо за трыбунамі на плошчах і скверах. Заставаўся народ, які не ведаў, што яму рабіць з шыкоўным падарункам.

***

У галаве ўсё яшчэ шумела, але думкі былі яснымі.

Яны нават не здагадваюцца, сказаў ён.

Ад іх схавалі самае істотнае. Радзіму. Мову. Мінулае і будучыню.

Трэба ім дапамагчы – расказаць, вывесці з цемры. Даць ім магчымасць самім усё ўбачыць.

Гэта можна рабіць толькі разам.

Калі мы разам, мы непераможныя.

І літаратура нам вельмі патрэбная.

Толькі не тая, прыкарытная. Лёкайская.

Літаратура павінна гаварыць праўду. Зрываць маскі.

Яны сядзяць у сваіх часопісах і выдавецтвах і думаюць толькі пра тое, што на іх век хопіць. І дзеткі іх ужо пасканчалі расейскія школы, з ангельскім ухілам. І дома яны ўжо даўно перайшлі на расейскую.

Самае дзіўнае – яны нас ненавідзяць.

Бо мы прыйшлі тады, калі яны ўжо здаліся і нікога больш не чакалі.

Прыйшлі як выратаванне, але і як помста.

***

Паслухайце, сказаў ён. Паслухайце *гэта.*

Я сніў, што дождж зацяты перасціх,
І промень коса ўпаў на горад мокры
І заблішчэў на лужынах, на вокнах,
На дахах, на асфальце, на лісці.

І там, дзе панавала кагадзе
Здранцвенне, – там завесы зарыпелі,
І горад змрочны пасвятлеў ад белі
Святочных шатаў выбеглых людзей.

І з кожнай вулкі, кожнага двара
Я чуў іх смех і плакаў сам ад шчасця,
А недзе спеў забыты нараджаўся...
У тую ноч мне сніўся вольны край.

Гэта Караткевіч? – запыталася Эва Дамініка.

Не, гэта адзін малады геній, сказаў Багдан. З нашых. Алег Мінкін. Ягоныя вершы трэба ведаць на памяць.

***

Вольны край! Вы разумееце гэта – *вольны край*!

Засталося зусім няшмат часу, і нашая задача – стаяць да смерці, не паддавацца на спакусы.

Дарэчы, мы заснавалі арганізацыю.

Тайную. Штосьці накшталт масонаў. Толькі без гэтых дурацкіх рытуалаў. Цыркулі, нажніцы, мантыі, усё гэта ў дупу, цяпер не да гэтага.

Галоўнае – трымацца разам. Калі вам будзе патрэбная нейкая дапамога, скажыце, і мы будзем побач.

Пароль – *Тэрмапілы.*

***

Багдан гаварыў важныя рэчы і прамаўляў упершыню наўпрост, без канспірацыі і праверак. Без абачлівай асцярожнасці, да якой ён звыкся за апошнія гады.

Праўда, гучала ўсё гэта неяк па-дзіцячы.

І ягоныя суразмоўцы паводзілі сябе адпаведна.

Эва Дамініка глядзела на яго радасна, і крыху заклапочана. Яна ўзяла яго руку ў сваю і трымала. Нібыта ён ляжаў у ложку з высокай тэмпературай і трызніў. А яны зайшлі яго праведаць.

Францішак зноў усміхнуўся, гэтым разам *амаль сур'ёзна*.

Ну ты й разышоўся, сказаў ён. Гэта мадэра шуміць. У тваёй галаве.

І дадаў пасля невялікай паўзы.

Мы таксама будзем стаяць да смерці. А можа быць, і пасля яе.

Толькі *мы страшнейшыя за масонаў*.

Мы – *мадэрністы*.

***

Францішак гаварыў ціха і, як быццам, няўпэўнена. З мяккай і пяшчотнай іроніяй. Нібыта пагаджаўся і ў той жа час пярэчыў.

Але з маскамі трэба абыходзіцца больш паважна. Хто мы без масак? Мілы трыснёг, які гойдаецца на ветры. Якому чамусьці здаецца, што ён у цэнтры. І што ўвесь свет абарочваецца вакол яго.

У тэатры чалавечага лёсу выбар маскі – самае важнае, што з намі здараецца.

Зрэшты, тое, што мы называем сваім Я – і ёсць адной з масак. Якую мы лепім усё жыццё. І якую напрыканцы трэба здымаць і пакідаць.

***

Дрэва ведае, як быць дрэвам.

А чалавек не. Ён толькі вучыцца быць чалавекам. Ён заўсёды ў дарозе. І дарога заўсёды ў ім.

***

Маска – гэта яшчэ ахова, засцярога.

Зрыванне маскі з іншага – не толькі няветліва. Але і небяспечна. Ніколі не ведаеш, хто апынецца пад маскай – чалавек ці шатан.

Ведаеш, па зямлі ходзіць многа пярэваратняў, галодных духаў, у чалавечым абліччы. Палююць. Чакаюць момант.

Чалавек без маскі, без апранахаў – гэта голая малпа на голай зямлі. Яна напалоханая, яна не разумее, што тут робіць.

Усё, што яна можа – крычаць ад жаху, разумеючы, што яе чакае. Чым усё скончыцца.

***

Гэты крык у нас песняй завецца, пяшчотна ўдакладніла Эва Дамініка.

***

Караткевіч – зусім не той, хто ведаў. Але той, хто любіў. І ён заплаціў за гэта, самы высокі кошт, які толькі магчымы.

Хтосьці прыходзіць у гэтае жыццё з іншага, каб шукаць сутнасць рэчаў. Хтосьці – каб змагацца і перамагаць. Хтосьці – каб дапамагаць іншым. Каб іх вызваляць – з галечы, прыніжанасці. Альбо больш радыкальна – з ланцугоў рэальнага.

А хтосьці – каб любіць. Так, як ён, кожнае імгненне гэтага жыцця.

Ён пакінуў пасля сябе прыгожую мару – для тых, для каго мары штосьці значаць.

***

Ты хочаш расказаць ім *пра герояў*.

Ты і сам гатовы прыняць гэты кон.

Толькі ў часы Калі-Югі, калі нізкае шэрае неба навісае і ціснe, яго няма куды прыкласці.

Няма анічога гераічнага ў свеце, што можна выбраць і зрабіць. Акрамя як узарваць яго, раструшчыць на аскепкі. І потым паспрабаваць сабраць з кавалкаў іншы свет, крыху больш шчаслівы.

Але гэта справа багоў, калі яны толькі вырашаць вярнуцца.

Пагадзяцца паспрабаваць яшчэ раз. Сярод нас. З намі.

Калі ты ўсё ж такі выбярэш *гэта*, мусіш быць разам з імі ў іх свеце. У іх прыніжанасці, пакуце.

Мусіш быць гатовым, што цябе палюбяць, але ніхто за табой не пойдзе.

Што цябе ўрэшце прададуць. Забудуць.

Паставяць помнікі хіжым і тупаватым пачварам. І пачнуць спяваць пра іх песні.

***

Што рабіць з астатнімі? Анічога.

Іх трэба пакінуць самім адрабляць сваю карму. Шукаць толькі тых, хто гатовы. Хто патрабуе іншага.

Раскідваць знакі на паплавах і ўзгорках. Трымаць свой тон. Збіраць тых, хто адгукаецца.

Немагчыма вызваліць чалавека насуперак яго волі. Можна толькі дапамагчы вызваліцца – самому.

Можам выйсці на калідор і праверыць. Паспрабуем там знайсці чалавека. Ліхтар запалены, і ўжо не першае стагоддзе.

Можа быць, у другіх жыццях яны баранілі айчыну. Чыталі старыя кнігі. Спявалі і танчылі.

Але ў гэтым перад імі раскладаецца іншы пасьянс. Размеркаванне, пажадана ў сваю вёску. Спачатку настаўніцтва, потым, праз пару год, завуч альбо нават дырэктар школы.

А некаторыя і далей, у райкам інструктарам. А потым і сакратаром.

Зрэшты, кожны робіць свой выбар.

Ведаеш, браце, чалавек нараджаецца з пэўнай формай душы. І нават калі ўсё зменіцца, яны зусім не кінуцца за табой паміраць за бацькаўшчыну.

Яны проста пачнуць шукаць сабе іншыя гаркамы і абкамы. І знойдуць, можаш мне паверыць. У гэтым свеце складана знайсці настаўніка, прасветленага, а гаркамаў і абкамаў – як *гразі*.

***

Голас Францішка ўсё яшчэ гучаў у яго галаве. Ён хацеў штосьці сказаць, запярэчыць, але замест гэтага запытаўся, як яны плануюць адсюль выбірацца.

Інтэрнат даўно зачыніўся, унізе спіць аднарукі Джо, дзверы замкнутыя. Яны ўжо прапусцілі момант, калі маглі сысці незаўважна.

Канечне, можна сядзець усю ноч, ён зусім не стаміўся. Проста на калідорах раскіданыя улёткі – *краіна ў кратах*, – і калі іх зранку знойдуць, усім свеціць крымінальны артыкул. Антысавецкая агітацыя і прапаганда. У групавой форме.

Ён сказаў гэта, і адразу стала лягчэй, напруга адступіла.

Ён быў упэўнены, што ўтрох яны знойдуць выйсце.

Эва Дамініка стаяла каля вакна, усміхалася, думала пра штосьці сваё. Як быццам не пачула, ці не зразумела.

Францішак быў падазрона спакойны, нават вясёлы.

А мы і не збіраемся спускацца ўніз, да аднавокага Джо, сказаў ён.

Наадварот, мы будзем узвышацца.

Мы зробім паветраны шар.

***

Так, паветраны шар, сказала Эва Дамініка.

Дакладна тое, што трэба.

***

*Вар'яты*, пяшчотна падумаў Багдан.

Ён зусім супакоіўся. Шумець у галаве перастала, але заставалася пачуццё радасці, ён адчуваў, што падсвядома шукаў такой прыгоды. І цяпер быў згодны *амаль на ўсё*.

Было, праўда, няясна, ці Францішак моцна п'яны і не разумее, што адбываецца, ці ў яго ёсць нейкі план. Усё-такі гэта ён завёў іх сюды. Гэта ягоны сімпазіён і ягоная мадэра.

У абласной бібліятэцы была біяграфія Фердынанда фон Цэпеліна – нечакана для самога сябе сказаў ён. З краслюнкамі і матэматычнымі разлікамі. Яшчэ дарэвалюцыйная. Не ведаю, як яна патрапіла туды.

Я магу зрабіць паветраны шар за тыдзень.

У нас няма тыдня, – сказала Эва Дамініка. – У нас ёсць толькі некалькі гадзінаў, да світанка.

***

З намі будзе яшчэ Чарлі Паркер, – сказаў Францішак. – Разам з духавым аркестрам беларускай вайсковай акругі.

Але гэта высветліцца толькі ў канцы палёта.

Ён сустрэне нас на прыгожай і бязлюднай выспе, граючы пра канец лета, шчасце амаль пражытага жыцця, і пра птушку, якая нечакана вяртаецца з выраю.

А потым усе злятаюць на верталётах у невядомым кірунку. Пакідаючы нас адных, з мурашамі і драконамі.

***

Ты штосьці казаў пра выспу? – запыталася Дамініка. – Хіба мы ляцім на выспу?

Гэтым непазбежна сканчаюцца ўсе ўцёкі, сказаў Францішак. *Выспа, людскі паратунак, неакрэслены тут твае межы.* Куды б ты ні скіроўваўся, ты ўсё адно патрапляеш туды.

Бязлюдная выспа. Тры рабінзоны. Мы збіраем зярняткі, змагаемся з драконамі, мурашамі і беларускай доляй. Усё пачынаем нанова.

Мы будзем як богі.

Ты народзіш нам хлопчыка і дзяўчынку.

Двух хлопчыкаў, сказаў Багдан. Яго відавочна зацікавіла такая перспектыва. Ён падпоўз бліжэй і паклаў галаў ёй на калені.

Для выжывання хлопчыкі больш карысныя. Дзяўчатак адкладзем на потым.

Гэта магчыма, сказала Даmініка, запускаючы руку ў ягоныя валасы. Калі вельмі пастарацца. Ёсць толькі адна праблема.

Я не змагу між вамі выбраць. Да канца жыцця.

Зрэшты, і не хачу. Вы будзеце лепшымі мужчынамі, у маім гарэме. І адзінымі, каму я буду вернай заўсёды, дадала яна. І чамусьці засмяялася.

Толькі не забіце адзін аднаго. Гэта было б недаравальна – пакінуць мяне адну, на выспе. З драконамі і мурашамі я яшчэ дам сабе рады, а вось беларуская доля...

***

Мы будзем сябраваць, – сказаў Францішак. Хаця і будзем трымацца паасобку. Мы надта розныя, каб змагацца, нават за дзяўчыну. Праўда, Багдане?

Спачатку трэба вярнуць мову, – сказаў Багдан ужо аднекуль здалёк. – Без мовы ўсё гэта не мае сэнсу.

***

Яны знайшлі ў шафе прайгравальнік і вялікую скрыню з кружэлкамі. На скрыні быў надпіс: *у дапамогу агітатару і прапагандысту.*

Падборка была адмысловая. Старыя рэвалюцыйныя песні, запісаныя з сімфанічным аркесткам, чатыры кружэлкі. Прамова Леаніда Ільліча Брэжнева на XXIV з'ездзе КПСС. Малер, дзевятая сімфонія. Прамова Леаніда Ільліча Брэжнева на XXV з'ездзе КПСС. Булат Акуджава, песні з кінафільмаў. *Балеро* Равэля. *Паэма экстазу* Скрабіна. Аўтэнтычны палескі фальклор з экспедыцый Інстытута славяназнаўства Акадэміі навук СССР. І канечне, Ала Пугачова.

Пачалі з фальклору. Потым перайшлі да Акуджавы. Потым спявалі варшавянку, надрыўна і гераічна, са слязамі на вачах.

А потым Францішак прапанаваў танец дэрвішаў. Ён сказаў, што Балеро напісанае на аснове старых суфійскіх гімнаў. І, калі ў іх атрымаецца, яны патрапяць туды, дзе ўжо няма словаў.

Напэўна, у іх атрымалася, бо пасля танца Багдан заціх без словаў, з шчаслівым тварам, прыладкаваўшыся на дыванку каля шафы.

Далей быў канцэрт па заяўках.

Калі Францішак адважыўся запрасіць Эву Даmініку на танец, грала *італьянскае рэвалюцыйнае*. Яны пачалі досыць бадзёра, потым запаволіліся, напрыканцы ж перасоўваліся пад адно ім чутную музыку.

Мадэрка была зусім неблагая, сказаў Францішак, чамусьці паўшэптам.

Яшчэ крыху засталося, сказала Эва Дамініка. Трэба дапіваць і знікаць як найхутчэй, пакуль нас не вылічылі.

Я ўжо працую над гэтым, сказаў Францішак. Ёсць пэўныя тэхнікі. Надзвычай сакрэтныя. Якія дазваляюць мяняць месцамі фрагменты рэальнасці.

Францішак казаў сур'ёзным голасам, і было няясна, ці ён працягвае свае жарцікі, ці сапраўды ёсць план і яны такі ўцякуць з гэтага *фрагмента*.

А яшчэ ягоная рука, што ляжала на таліі, спусцілася крыху ніжэй.

І гэта яе хвалявала.

***

Ужо гадзіну ў дзверы перыядычна грукалі і крычалі, праз роўныя адцінкі часу.

Напачатку яны не звярталі ўвагі, проста заціхалі на хвіліну і працягвалі цалавацца далей.

Побач у куце спаў Багдан, і, дзіўная рэч, яна адчувала, нават ведала, што магла б цалавацца з ім, а магчыма, і цалуецца цяпер у ягоным сне, і ў гэтым не было анічога крыўднага альбо няправільнага, проста гэта былі яе мужчыны і яна мусіла быць з імі разам, што б ні здарылася.

Яна адчувала, што яны ніколі не змогуць забыць гэтую сустрэчу, але і падысці занадта блізка ўжо не атрымаецца, і гэта працінала яе пачуццём шчасця і жалю адначасова.

А яшчэ яна верыла Францішку: калі той паабяцаў, што ўсё складзецца добра і яны патрапяць на волю *яшчэ да світанка*, дык так яно, пэўна, і будзе.

## 6.

Горад Мінск жыў у гэты дзень насычаным гаспадарчым і культурным жыццём і зусім не здагадваўся пра падзеі, якія мусілі здарыцца пад вечар у інтэрнаце нумар адзін, на вуліцы *Свярдлова, 34*. У ленінскім пакоі на трэцім паверсе, дзе і разгортваецца асноўная дзея нашага маленькага хатняга кіно.

Найперш крыху агульнага плану.

Перад намі адзін з апошніх гадоў Імперыі, з яе томнай насычанай атмасферай заняпаду. Савецкая цывілізацыя дасягнула сваёй поўніцы. Дэкарацыі жыцця крыху абтрапаліся, але спектакль ішоў поўным ходам.

Некаторыя лічылі, што ў такія часы лепей жыць у глухой правінцыі, каля мора. Але мора на ўсіх не хапала, туды патраплялі пераважна вайсковыя пенсіянеры. І большасці даставалася проста глухая правінцыя.

Жыццё было ясным і прадказальным, таму самыя адчайныя прагнулі жахлівых глыбіняў. Што там, у гэтых глыбінях, ніхто не ведаў, не было пэўнасці, што яны ўвогуле існуюць, але там прынамсі мусіла быць цяплей, чым на паверхні.

І ўсё ж самыя абачлівыя заўважаюць некаторыя прыкметы заняпаду.

Нейкая неахайнасць і заблытанасць.

Некаторая паспешлівасць, як быццам бы жыццё не паспявала ўкласціся ў сваю форму. Ды і форма састарэла, парэпалася, стала абыякавай да ўсяго.

Піянеры ўсё яшчэ маршыруюць па парках і скверах імя Горкага.

Тралейбусы і аўтобусы развозяць пасажыраў на безыменныя заводы і фабрыкі. Дысідэнты сядзяць на цесных куханьках і лаюць савецкую ўладу.

Усё ідзе па плану, калі можна назваць гэта планам: старэчы голас з тэлеэкрана, цудоўнае, мілае кіно ў апошні дзень года, салат аліўе, размовы пра адпачынак, страх смерці...

Дачы, на якіх растуць гурочкі і памідоры...

Але жыццё пераліваецца праз край, яго становіцца ўсё больш і больш, – там, за межамі дазволенага, – і яно само пачынае закісаць, шукаць новых сцежак.

І – чаму б і не – тварыць новыя формы.

***

Мы на паветраным шары, сказала Эва Дамініка гучным шэптам. Час узлёту прыйшоў! Скінуць баласт!

Багдан расплюшчыў вочы. Здавалася, ён прылёг на дыванок паўхвіліны таму і незаўважна праваліўся ў салодкую непрытомнасць. А потым далёкі голас абвясціў узлёт, і ён вымушаны быў вярнуцца.

Ён не адразу зразумеў, дзе ён, і пару секунд проста ўглядаўся ў карцінку, што адкрывалася перад вачыма.

Яму прымроілася выспа, і ён, самотны і роспачны, паўзе праз багну, уначы, сярод сляпнёў і камароў *з іншай эпохі.*

І яшчэ цьмянае адчуванне пражытага жыцця, як быццам ён штосьці выбраў, і далей доўга ішоў на самоце сярод чужых людзей.

І не было там аніякай надзеі і радасці, толькі сумны абавязак ісці наперад, запаўняючы сваім целам аднастайныя каморы дзён.

У тым, пражытым, жыцці яны разам, утрох больш не сустракаюцца. Разыходзяцца па сваіх кармах.

Няясна было толькі адно: ці ён сапраўды прачнуўся і ўсё гэта яму прыснілася, ці гэта наадварот агонія, апошнія секунды, у якія ён патрапіў ва ўспаміны, і праз хвіліну ён заціхне ў спакоі, пасярод начной багны.

Ён быў не гатовы заціхнуць, гэта было напісана на твары. Эва Дамініка адчула ягоную пераляканасць, прытулілася і сказала: усё будзе добра, мы цябе не пакінем.

Так, дзякаваць богу, усё было больш весела. Гэта быў толькі сон.

Прайгравальнік спяваў рэвалюцыйную песню, ціха, амаль шэптам, спыняўся на момант і зноў пачынаў, як быццам мусіў разам з усімі трымаць канспірацыю.

Багдан запрасіў Эву Дамініку на танец, яна была зусім п’яная і вясёлая, сказала, што іх выявілі і Францішак рыхтуе шляхі адыходу.

Францішак стаяў каля вакна, трымаючы ў руках кнігу. Цяжкую, у характэрнай вокладцы, з поўнага збору Маркса і Энгельса.

Побач былі падрыхтаваныя наступныя: яны ляжалі акуратным стосам на сярэдзіне пакоя. Крыху збоку стаяла гіра, і гэта давяршала карцінку.

Багдану раптам стала весела.

Што ты збіраешся рабіць? – запытаўся ён, проста каб паверыць, што ўсё гэта рэальна.

Мы ўзлятаем, – сказаў Францішак спакойным голасам. Узвышаемся. Набіраем вышыню. Трэба набраць вышыню ад самага пачатку, максімальную, каб потым не заблытацца ў жыцці.

Каб узляцець, трэба скінуць баласт, гэта лагічна. Тое, што цябе найбольш абцяжарвае. Прыгнятае. Апускае, цягне ўніз. *Тамас*, адным словам.

Усё вельмі проста. Ты бярэш аб'ект ў правую руку і высоўваеш яго ў фортку.

Ён расчыніў фортку і высунуў навонкі руку з кнігай.

Потым расціскаеш пальцы. Гэта прыводзіць да адпускання аб'екта долу. Паводле ўсіх фізічных законаў, а таксама спадзяванняў здаровага розуму, кніга, як род фізічных целаў, мусіць упасці.

Зрэшты, не заўсёды.

Некаторыя кнігі, тыя, што вераць у фізічныя законы, сапраўды падаюць.

Але, магчыма, некаторыя ўсё ж такі іх парушаюць.

Гэта надзвычай міла з іх боку, – заўважыла Эва Дамініка.

Давай лепш пачнем з гіры, – асцярожна сказаў Багдан. – Уверсе яна нам не спатрэбіцца.

***

Спачатку прыходзілі суседзі скардзіцца на гучныя спевы.

Аднарукі Джо толькі выслухаў, запісаў нумар пакоя ў сшытку, ды так і не скрануўся з канапы: калі яму тут унізе не было нічога чуваць, значыць музыка была не гучная. Напрыканцы лета на музыку прыходзілі скардзіцца з розных паверхаў па чатыры-пяць разоў за ноч, і аднарукі Джо даўно перастаў бегаць па паверхах, толькі запісваў у сшытак нумары пакояў і перадаваў на наступны дзень камендантцы, якая прызначала штрафнікам розныя папраўчыя работы на карысць інтэрната.

Зрэшты, сезон яшчэ не пачаўся, быў канец жніўня, калі ўсе з'язджаюцца, і ў гэты час інтэрнат заўсёды буяў і буйстваваў, трэба было гэта проста перажыць, бо ў верасні ўсё заціхала.

Але тут было штосьці незразумелае, і таму трывожнае. Штосьці, што не патрапляла ў звыклыя гісторыі.

Адныя гаварылі пра рэвалюцыйныя гімны і інтэрнацыянал, іншыя пра нейкія народныя песні, пра валоў, *якія ішлі ў Крым тай рыкалі,* пра *шынкарачку маладую.*

Да таго ж спевы нібыта ішлі з ленінскага пакоя, а туды ніхто не мог патрапіць – ключы былі ў пакоі каменданта, а пакой быў замкнёны.

Потым хтосьці заўважыў кнігі. Яны выляталі з трэцяга паверху і кладліся акуратным стосікам унізе, на тратуары.

Гэта быў Поўны збор твораў Маркса і Энгельса.

Было штосьці містычнае і прыгожае ў тым, як яны выляталі з форткі, праз рэгулярныя адцінкі часу.

Але калі за імі вылецела *Малая зямля*, адразу ў колькасці дзесяці экземпляраў, і разляцелася матылькамі па ўсім ходніку, стала зразумела, што дабром усё гэта не скончыцца.

А потым упала гіра.

Гэта стала апошняй кропляй. Пра яе палёт расказвалі потым легенды. Гаварылі, што за хвіліну адчулі, што нешта адбудзецца.

Некаторыя сцвярджалі, што чулі, як яна ляцела зверху, рассякала паветра з ціхім шыпеннем. І калі яна ўгрызлася ў зямлю побач, было такое адчуванне, што будынак інтэрната падскочыў уверх на пару сантыметраў.

Увесь, цалкам, разам з усімі паверхамі, мэбляй, студэнтамі, Аднарукім Джо. І калі апусціўся назад, на зямлю, гэта быў ужо зусім іншы будынак, пільны савецкі інтэрнат, які стаіць на варце, сочыць за парадкам і сувора карае тых, хто дазваляе сабе *такое*.

Пасля гэтага ўсё адразу заварушылася.

Прыбеглі дворнікі са скаргамі і пытаннямі.

Зазірнуў міліцэйскі патруль, якога выклікаў хтосьці асабліва пільны са студэнтаў.

Пазваніла камендантка, якую пабудзілі з пытаннем, *што ў вас там адбываецца, халера ясная*.

Аднарукі Джо зразумеў, што трэба ўзначальваць крыжовы паход, і падняўся з канапы.

Напачатку падышлі да дзвярэй і пачалі грукаць. Ніхто не адчыняў. Пайшлі ўніз, забралі ключы ў пакоі каменданта і адчынілі дзверы. Карціна, што адкрылася, была не для людзей са слабымі нервамі.

У пакоі стаяў характэрны пах, было ясна, што тут пілі віно. І *з асаблівым цынізмам*.

Шафа была адчыненая, два крэслы паламаныя.

Але не гэта было галоўным.

У пакоі нікога не было.

Праверылі ўсё. Нават знайшлі ключы і адчынілі вялікі стары сейф, хаця ён быў і недастаткова вялікі, каб там можна было схавацца.

Шукалі нейкіх знакаў, магчыма слядоў.

Яшчэ паўгадзіны таму ў пакоі гучаў голас – прыгожы дзявочы голас, які спяваў штосьці знаёмае.

Пра гэта казалі суседзі, але цяпер ужо неяк няўпэўнена і нават амаль напалохана.

А сляды сапраўды былі, і дастаткова многа.

На падлозе ляжаў чатырнаццаты том з Поўнага збору твораў Вядома Каго.

Прайгравальнік быў яшчэ цёплы, кружэлка з рэвалюцыйнымі песнямі ляжала побач.

На дошцы быў замацаваны вялікі ватман, на якім вялікімі дзіцячымі каракулямі было напісана:

КОММУНИЗМ НЕ(ИЗ)БЕЖИМ.

Унізе быў намаляваны сінім фламастарам кітайскі іерогліф *чун* (zhūn).

屯

Пасля яго стаяла шаснаццаць клічнікаў.

!!!!!!!!!!!!!!!!

Справа каляровымі алоўкамі дамалявана многа зялёных чалавечкаў і падпісана:

`Беларускі народ вітае іншапланетнікаў.`

Што за хрэнь? – аднарукі Джо пачухаў патыліцу і некалькі хвілінаў разглядаў маленькіх зялёных істоткаў. У яго было дзіўнае адчуванне, што ў пакоі хтосьці прысутны. І гэты невядомы глядзеў на іх валтузню са свайго мейсца. З цікавасцю, і крыху паблажліва.

У свядомасці з’явілася думка, якую Джо адганяў як мог, але якая зноў і зноў вярталася, невядома адкуль.

І ўжо не адпускала.

*А што, калі сапраўды прыляцелі?!*

***

На тым жа ватмане быў намаляваны вялікі паветраны шар, што імкліва ўздымаўся ў неба. Шар быў намаляваны прафесійна, з веданнем дэталяў і прапорцыяў.

У кошыку былі тры постаці: адна жаночая і дзве мужчынскія.

Джо потым кляўся, што адна з мужчынскіх постацяў на малюнку хітра ўсміхнулася і падміргнула яму.

Гэта быў Францішак.

Алена Ігнацюк



...шведска-беларускі слоўнік
для яе – як малітоўнік...

# Слухаць мора

### *Я ДУМАЛА...*

І я казала –“ё”–
на рэпліку жанглёра.
Я думала маё –
паветра тут і мора.
І готландскі пейзаж,
сабор сярэднявечны...
І рыцар-гот, і паж,
ружовасць Дамы стрэчнай....
Балтыйскія дажджы
знайшлі Сярэднявечча.
На готландцаў плашчы
накінулі. І *веча*
сабралі... ў гонар дню,
каб ратаваць тут мову...
Не шведскую – *маю* –
з радзімнага загону.

Крычалі: “Беларусь!
Дзень Добры! Прывітанне!”
Мне думалась, чамусь...
пра моўнае выгнанне.

### *МАРЫ ХЕЛЬДЫ*

Мора Готланда – ўсё паэціцца.
Пералівамі хваляў свеціцца.
А на беразе людзі месцяцца –
ловяць сонца – шар... Дзень карэціцца.
У *таверне* я... Час манеціцца.
Бы з вады марской, верш – сяледзіцца.
А дэсерт ў меню – кавай шведзіцца.
Шчасце – соладам... Мне б агледзецца...
Востраў з раніцы – разбукеціцца.
Дожджык рэдзіцца. Двор праменіцца.
Хельда з выгляду –
ўся манжэціцца.

### *ХЕЛЬДА ВУЧЫЦЬ МОВУ БЕЛАРУСКУЮ*

Хельда вучыць мову беларускую –
не халдэйскую, не этрускую...
Шведска-беларускі слоўнік
для яе – як малітоўнік.
Нібы ловіць вестку з Беларусі,
дзе ляцяць над Пінай гусі...
Хельда – са стакгольмскім тварам –
*Сведэнборга* пераклала
і па-беларуску тэкст чытае:
“шлюб... нябёс... анёл... вітае”.
А на востраве – шматмоўе.
Хельда кажа: “На здароўе!
Еш, Алена, *Флюндру з кеса* –
і дапішаш сваю п’есу”.
Разам з готландскім надвор’ем –
на зімоўе – як прыслоўе:
Ярка – Bright. Vaskert – прыгожа...
Хельда ў Пінск прыедзе. Можа!?.

### *ДОЖДЖ І МОРА*

Дождж і мора... Новым творам
забаўляўся вады Геній.
Хвалям ён даваў найменні:
*Хельда, Сюзан* ці *Півона*...

Дождж абводзіў сілуэты,
бы графітавым алоўкам:
*Ружы, вожыкі, паэты* –
з дзіўнай готландскай гаворкай...
Усё ў вадзе цвіло лілова:
нават я – без парасона,
храм з гадзіннікавым звонам,
і старонкі “Дзеяслова”,
што чытаў блакітны Геній –
дух вады... ў сваім натхненні.
Дождж для готландскага лета
адусюль збіраў паэтаў.
Ім дарыў, як мандарыны,
агні Visby... І дажджыны
ў мора падалі шарамі...
як жаўцелі ліхтарамі...
...
Зноў анёл маўклівы – з воску–
выпраўляў маю прычоску.

## ***ЛОСЬ І СТАКГОЛЬМСКІЯ ВУЛІЦЫ***

*Дз. Плаксу і Ан*

Вецер волю маю ўраўнаважвае.
Стрынберга голас чуецца.
З вострава выйшаў – маўклівы-паважлівы –
Лось на стакгольмскую вуліцу.
*Ан* мне раскажа пра тое, што згубіцца –
вернецца і не забудзецца.
Дзіва вялікае спее – не блудзіцца...
Лось... І стакгольмскія вуліцы...
Злучаны з помнікам *Густава Першага*
думамі – звер... І я – пінская...
Дзень заснавання Стакгольма – *для лепшага...*
Лось мой танцуе пад хмарамі нізкімі.
Вось, ля музея Стрынберга-класіка,
як краязнавец, спыніўся... Чагось?
Мне б адшукаць тую зорную пасеку,
выйшаў адкуль ўраўнаважаны Лось.

Бяжыць сцежка *карынфскім* арнаментам...
Маім позіркам зведзена з ваз:
тых – распісаных *вечнасці талентам...*
Лін[1] маўчыць. Не маўчы, Зміцер Плакс!

---

[1] Лін – паэт з антычнага міфа, настаўнік Арфея і Мусея, служыў Гераклу; адлюстраваны на адной з грэчаскіх ваз.

### *СЛУХАЦЬ МОРА*

*Ружы, дзеці і сабакі*
мора слухалі, і страхі
зніклі дзесь за хваляй ўцешнай.
Крок – другі па набярэжнай –
і наладзіўся *пікнік*...
Тых, хто ўведаў пералік
сваякоў сваіх стакгольмскіх,
а па твару – з роду Ёрскіх...
На траве, пад піск мангала,
*Хельда з ветрам* танцавала.
Паразносіў вецер пахі...
Смачна елі... І сабакі
мора слухалі. Лічылі
рухі птушак, што вучылі
сваіх дзетак ведаць межы.
Ружа белая ля вежы
мора слухала таксама
і на густ свой пераймала
подых хваль...

### *СЫХОД ЖНІЎНЯ*

Злыдзень-вецер над вадою
жніўных красак шле змяркание.
*Фрэя* рыбнаю лускою
крые спеў свой – заклінанне.
Вада стужкай б'е мне ў твар
і прарочыць подых сцюжы,
бы згубіў свой звон званар?
Яшчэ ўчора былі ружы!
Гарызонта ніць-палоска,
сонца-шар ляціць з-за хмар...
да вады. Чарнее ў плёсках
дзень надзей маіх і мар.
Сыход жніўня... Невядома –
ці абсохнуць хваляў слёзы?
Ды здаецца, што нанова
*Фрэя* леціць свае косы.

* * *

Аблокі – азёрамі,
рэкамі, райскімі гушчамі –
                                        вострава блізкага...
Я ў самалёце (названым у гонар Кандзінскага).

Зямля ласкуткамі – як коўдрай – блакітна-зялёнаю...
Зямля гарадамі – як шоўкам ў чырвоных укропінах...
*Мне ланч падае сцюардэса,*
а я аблачыну ў ёй бачу – знаёмую:
здаецца, у пацалунку адным зліваецца з воблакам,
вельмі падобным да Гобліна.
Няўжо яна з небам дамоўлена –
*у самалёце мне ланч падаваць...*

## МОРА ТЭКСТ

Мора тэкст – нібы верша радкі,
што выводзіць рука сімваліста.
Штыль пачнецца з нядзелі – такі...
Мая губіцца ў хвалях маніста.
Толькі ж мора ўлюбёнае ў смех
адной готландкі, нібыта *Фрэі.*
Абяцае шчаслівы ёй век:
гладзіць бела-зялёныя веі.
Камяні на ўзбярэжжы ў рады...
І здаецца – да іх дакрануцца –
ператворацца ў *готаў* тады.
Явяць мору аскал свой. Парвуцца
струны ветру. Ды лебедзя лёт
ахіне мой пагляд ад хваль часу.
Толькі *Фрэя* ў палоне прыгод...
Разам з морам падоўжыла фразу...

## НУДАТАН

*Блакітныя, жоўтыя, белыя ружы...*
Вецер балтыйскі.
                    Ля готландскай лужы
нос мокры вожыка
                    ў дні Nydatan.
Кропіны дожджыка...
Водзіць па вулцы
                    мяне фея *Ан.*

Шыбіны вокнаў – жывымі малюнкамі...
Візбювец кожны ўпрыгожыў свой дзень:
вазамі, лялькамі, дзіва-карункамі –
намаляваўся *лапландскі алень*!

* * *

*Лене Пастэрнак*

Цені ад вежаў сабора – памкнёныя –
падаць у мора бліскучымі рыфмамі:
з хвалямі хочуць зліваццa – зялёнымі...
Бераг свой ўчуць – бы ў Авідыя... рымляне.
Дом літаратараў і журналістаў...
Вецер вартуе шалёны... Знаёма!
Грукае ў дзверы – з піскам і свістам –
*Карлсана* (Ліндгрэн) шукае... для Рона...
Мо, для Ірыны, ці Малгажаты?
Будуць чакацца новыя даты,
новыя тэмы і прывілеі,
(так, па-шляхецку!) ад готландскай *Фрэі.*

А на каменьчыках мора адбіліся
піктаграфічныя знакі. Ёсць след!?
Госці балтыйскага цэнтра здзівіліся,
бо незнаёмы знайшлі дыялект...

## ТАК ЗДАЛОСЯ МНЕ!

Вулкі вузкія – бягуць-кружацца.
Вакол ратушнай плошчы ружацца.
Я куплю сабе ляльку з войлака –
абярэгам мне – ў колер воблака.
Visby з вечара – рэстараніцца...
Пледам вогненым  укрываецца
немка з Гамбурга... Прадчуваецца:
вецер Балтыкі спыніць раніца.
Госці Готланда – больш нардычныя
твары – вострыя, артыстычныя...
І за сны свае – плацяць кронаю:
з гербам Швецыі і каронаю.
Бел-Баранчыкі[1] тут – скульптурамі–
не слязлівымі, не панурымі...
Разам з кветкамі яны ведаюць:
калі рыцары сілу мераюць
і ля замкавых валоў снедаюць;
як аса ляціць – кірмашовая,
як душа пяе– безграшовая...
Ці драўляныя туфлі носяцца...
І на готландцы *энен* косіцца –
на марскую даль *сіняй раніцы.*
Свята Готланда. Пачынаецца.

[1] Баранчык – сімвал Готланда

Вінцэсь Мудроў



...Вось яно як... свойчас мы з Мішкам урокі белмовы зрывалі, а мой дзядзька, аказваецца, праз тую мову загінуў. Гэта што такое трэба напісаць, каб тыцнуць у сэрца нажніцамі?...

# Гісторыя хваробы

***Апавяданне***

На трэцім уроку мяне заўсёды цягне на сон. Сёння ў нас трэці ўрок геаграфія. Я сюд-туд правальваюся ў сонную замарач, нечыя цьмяныя твары плывуць перад вачыма, прастору поўняць гэткія ж цьмяныя пахі, і аднекуль здалёк далятае абрыдлы голас геаграфічкі: “Да дошкі пойдзе Дасюлін”.

Я ачомваюся. Дасюлін з неахвотаю ўстае, гучна ляскае вечкам парты і пашчэнкі мае рассоўвае адчайны позех.

– А можна без грукату? – падае голас геаграфічка і, прычакаўшы Дасюліна, тыцкае яму ў руку ўказку. – Напачатку скажы – калі ты абкарнаеш свае пэцалы? Зарос, як Галуза з Шутовічам.

Чувакі, якіх згадвае геаграфічка, вучацца ў дзясятым класе і носяць фрызуры “пад бітлоў”.

– Маўчыш? Зусім ад рук адбіўся, – прамаўляе геаграфічка з пагрозлівай інтанацыяй, але потым мяняе тон, і ў голасе ейным чуецца з’едлівае задавальненне: – Ну

тады пакажы нам асноўныя эканамічныя цэнтры Вугорскай Народнай Рэспублікі.

Мішка, праўдападобна, не ведае дзе знаходзіцца сама Вугоршчына. Указка паўзе спачатку ў бок Балтыйскага мора, потым рашуча скіроўвае на поўдзень і няўпэўнена застывае пасярод жоўта-брунатнай падковы Карпат. Мапа, што вісіць на дошцы, адмысловая. На ёй не падпісаны ні гарады, ні краіны. Паспрабуй, знайдзі тут прамысловыя цэнтры.

Настаўніца ўдыхае паветра, каб паўшчуваць Дасюліна, ды тут з расчыненай фрамугі далятае мерны шоргат і хтосьці гучна загадвае:

– Цягніце, ... вашу маць!

Я хаця й сяджу каля вакна, але толькі цяпер заўважаю напятую вяроўчыну. Вяроўчына злёгку матляецца ў бокі – яе нехта тузае – і за вакном, захінуўшы на нейкі час дзённае святло, паўзе чырвоны, збіты з негабляваных брусоў транспарант.

“51-я га-да-віна Вя-лі-кай Кастрыч...” – чытаю я задам наперад словы заклiку, геаграфічка ляпае даланёй па стале, патрабуючы цішыні, і ляпанне тое заглушае доўгачаканы званок.

– Задзяўбла ўжо сваёй Вугоршчынай, – выдыхае мне ў спіну Мішка Дасюлін. – Нарадзілася там, ці што? А можа пятнаццаць сутак сядзела... за дробнае хуліганства?

Мы выходзім у калідор, і я тузаю сябра за рукаво: геаграфічка (па сумяшчальніцтве яна яшчэ й наша класная кіраўнічка) сунецца следам, і можа пачуць Мішкавы праклёны.

– А хай чуе, Палуёнас-Палуянчык недаробленая...

Летась класная, Надзея Мікітаўна Палуянчык, пабралася шлюбам з мужыком па прозвішчы Ёнас, і з тае нагоды атрымала падвойную мянушку.

Падчас пярэрвы ўсе бягуць у буфет, але мы з Мішкам нікуды не бяжым. Стаім на сходах, назіраючы, як два дзядзькі – відаць, тыя самыя, што мацавалі транспарант, – спускаюцца праз люк са школьнага даху.

– Гляньма, замок не павесілі, – сябрук бліскае белымі як на падбор зубамі, дае лёгкага выспятка недаростку, што таўчэцца пад нагамі, і калі дзядзькі збягаюць долу, шпарка ўзбіраецца па прымацаванай да люка жалезнай лесвіцы. Следам, азірнуўшыся, узбіраюся і я.

Волкі вецер налягае на спіну, казыча шыю і тут жа дзьмухае ў твар, ды так хвацка, што на вочы наплывае слязіна.

Адсюль, з пляскатага даху, горад выглядае аграмадным і незнаёмым. Немаведама адкуль – ці то з зямлі, ці то з нізкіх папяловых хмараў цэдзіцца сіняе святло, і гэтай сінечай палеяныя навакольныя будынкі, згалелыя дрэвы, якія атачаюць школьныя майстэрні і тонкая стужка ракі на даляглядзе.

Мяне раптам ахоплівая вострая радасць. Я пацiраю рукі, спрабуючы ўцяміць – з чаго гэта радуюся, і сябрук, таксама пацёршы далоні, захоплена шапоча:

– Да вакацыяў – тры дні засталося...

На доле гучыць званок, і дах прыкметна дрыжыць ад прыглушанага тупату. І хаця мы прамерзлі на ветры, лезем у паддашкавы люк без ахвоты. Бо каму ахвота вяртацца з паднябеснай вышыні ў прыцемны клас.

– Пятровіч зноў будзе душыць пятлёй магнітнага гістэрэзісу, – бурчыць сябрук, патрапляючы ў тон маіх думак.

Наступны ўрок у нас фізіка, а выкладае яе Пятровіч – адзіны настаўнік, якога я паважаю.

У суботу надарылася неспадзеўка: перагарэў наш стары “Нёман”. І гэта пры канцы футбольнага сезона! Акурат сёння мае куміры – мінскія дынамаўцы – гуляюць дома з растоўскім СКА. І вось я сяджу ў Мішкавай хаце і гляджу футбольны матч. Тэлевізар у Мішкі класны: “Тэмп-7”! Экран ці не ў два разы большы за “нёманскі”. Аднак усё псуе Мішкава бабуля. Бабулі 87 гадоў, і яна ўвесь час прагне з кімсьці пагаманіць. І хаця ні я, ні ўнук яе не слухаюць, старая ўголас, з усхліпамі, згадвае як з іхняй вёскі бралі людзей на расейска-японскую вайну.

...Леанард Адамаў прарываецца па правым фланзе... перадае мячык Мустыгіну... мы з сябрам ускокваем з крэслаў і разам хапаемся за галовы: мячык пасля ўдару мінскага форварда ляціць міма брамкі.

– А ў якім жа гэта было годзе? Ці то ў чацвёртым, ці то ў пятым? – мармыча за нашымі спінамі бабуля і пасля паўзы, пад час якой растоўскі брамнік выбівае мячык у поле, дадае: – Відаць, у чацвёртым... тады яшчэ гарачае лета было...

– Бабуля... – з інтанацыяй абарванай лаянкі гукае Мішка, – дай нам паглядзець футбол!

– А я што, не даю? – бабуля гучна смаркаецца ў хусцінку. – Гэта ж ажнуль у Манчжурыю людзей павезлі... Хведзька Ліхаманаў вунь з адарванай рукой вярнуўся, а Ваньку Залатуху дык зусім забілі... А які танцор быў! На вячорках калодкі да ботаў прывяжа, мазгочыць па падлозе...

– Бабуля, – плаксіва стогне ўнук, ды тут “Дынама” ізноў ідзе ў атаку і Мішка, ужо акрыялым голасам, прамаўляе: – Паглядзі лепш гульню!

– А што тут глядзець! Бегаюць як ашалелыя... А чорны вуньдзека – гэта хто?

– Суддзя, бабуля, суддзя, – бязгучна, аднымі вуснамі шэпча сябрук, выцягнуўшы шыю і ўтаропіўшыся ў экран. Ды дзіва што! Белагаловы Сахараў прарываецца па цэнтры, абводзіць адразу двух армейцаў і мячык – я нават не ўгледзеў, якім чынам, – залятае ў сетку растоўскае брамкі.

– А-а-а, бляха! – крычым мы з Мішкам, захоплена абдымаемся, і сябрук хуткагаворкай, перакрыкваючы футбольнага каментатара, гарлае: – Памятаеш, у 65-м, першая гульня ў Мінску... забілі нам тады, с-сукі... цяпер вось атрымай!

– Зусім мальцы здурнелі, – мармыча бабуля, спалохана хрысціцца, але мы не звяртаем на яе ўвагі. – Менчукі вядуць з лікам 1:0, і рэшту гульні даглядаем стоячы – нічога, апрача футбола, не бачачы і не чуючы.

Задаволеныя – дынамаўцы выйгралі, хай і з мінімальным лікам – выкульваемся з сябруковага пад’езду і Мішка, згадваючы фільм “Цырк”, які нядаўна круцілі па тэлевізіі, махае рукамі і пытаецца:

– Цяпер ты разумееш?

– Цяпер разумею! – адказваю я, таксама, з маршавым імпэтам, махаючы рукамі.

Гаворка, вядома, пра 87-гадовую бабулю.

– Вось у такіх цяжкіх умовах даводзіцца жыць, глядзець футбол і вучыць фізічныя законы, – Мішка нездарма згадвае фізіку; нашая школа адзіная ў горадзе, дзе гэты прадмет, дзеля педагагічнага эксперыменту, вывучаюць

паглыблена. – Праўда, бывае і цікавыя рэчы кажа, – сябар зыркае на вокны сваёй кватэры, – сёння японскай вайной даймала, а ўчора ўвесь вечар пра немцаў ды партызанаў балакала. Ведаеш, чаму немцы да Масквы дайшлі? Таму што, як кажа бабуля, ніхто за савецкую ўладу ваяваць не хацеў. Думалі, пры немцах калгасаў не будзе, новае жыццё пачнецца. І толькі як пабачылі, што немцы горшыя за камуністаў, тады толькі ў лес падаліся.

Прызнацца, я штосьці падобнае чуў і ад маці, але не надаваў таму ўвагі, і вось цяпер адчуў у сэрцы, якое толькі што трапятала ад радасці, нейкую халодную паныласць. Паныласць гэтая выплывала з цёмных кутоў двара; струменіла мляўкім святлом ліхтароў; яе нёс, разам з папяровым смеццем, гарэзнік-вецер, які цяпер, познім вечарам, стаў яшчэ больш няўрымслівым і рашучым.

Да майго дому ідзем разам. Мішка наогул гатовы цягацца хоць да ранку, балазе маці пайшла ў начную змену, а бацька, інжынер-будаўнік, знаходзіцца ў замежнай камандзіроўцы. Будуе горад Дархан у братняй Манголіі. Без бацькі сябрук, як кажа класная, зусім ад рук адбіўся: з'ехаў на тройкі ды стаў адрошчваць валасы. Праўда, яны ў яго пакуль не такія даўгія, як у бітлух – Галузы і Шутовіча.

Па дарозе абмінаем школу. Школьны гмах зліваецца з цемрай і ад таго здаецца аграмадным цыклопам, які глядзіць на нас сваім адзіным вокам – асветленым вакном. Святло гарыць на першым паверсе і ў кволай, што ў той дзяжурнай аптэцы, яснасці кратаецца чыясьці пахілая постаць.

Мы падыходзім бліжэй.

За сталом сядзіць старая вахцёрка і штосьці вяжа: у руках ейных цьмяна бліскаюць вязальныя пруткі.

– Пазнаеш? Гэта тая карга, што мяне ў школу не пускала, – бубніць ля вуха Мішка Дасюлін. – У суботу сябрук забыўся зменны абутак і цёткі-прыбіральшчыцы затрымалі яго каля школьных дзвярэй. – Чым бы яе пужнуць? – Мішка зыркае пад ногі, выглядаючы каменьчык каб шпурнуць у шыбу, ды раптам б'е кулаком у далонь і бяжыць некуды ўбок, ляпаючы рукой па школьным падмурку.

Хвілю стаю ў непаразуменні, маракуючы – куды гэта ён?.. і якім чынам збіраецца пужаць каргу? – і толькі калі сябрук спыняецца каля пажарнай лесвіцы, што вядзе на дах, становяцца зразумелымі ягоныя планы.

Лесвіца высока, рукой не дастаць. Я згінаюся, Мішкава калена балюча цісне на хрыбетнік, потым, другім каленам, Мішка чапляе мяне за вуха і, нарэшце, хапаецца за ніжнюю парэнчу. Мацаю звінячае вуха, гляджу ўгару і шчыра зайздрошчу сябру. Лезці ў цямноцці на школьны дах па пажарнай лесвіцы, якая, да таго ж, уся праіржавела і гучна рыпіць – на такое ў нашай занюханай школе мала хто здольны. Штосьці ляціць згары, я адскокваю ў бок і на асфальт з гучным рэхам падаюць Мішкавы кеды – адзін, потым другі...

Мне нічога не застаецца, як прыхавацца за рог майстэрняў і адтуль цікаваць за цёткай у асветленым вакне. Старая вяжа, раз-пораз адкідваючы нітку ўбок, і толькі на імгненне пакідае варушыць пруткамі ды салодка пазяхае. Змагаючыся з хваляваннем, таксама спрабую пазяхнуць і ў гэты момант вахцёрка адцягвае нітку і рука яе – на кароткае імгненне – застывае ў паветры. Цётка наструнена тузае падбароддзем, прыслухоўваецца і неўзабаве, кінуўшы на стол вязанне і страсянуўшы наастачу пакуллем сівых валасоў, знікае з відавоку.

На першым паверсе паволі, як бы з неахвотаю, запальваецца святло і школьны гмах скаланаецца ад зычнагалосага званка. Самы час сігануць дахаты, але ў руках маіх смярдзючыя Мішкавы кеды і я, увабраўшы галаў у плечы, бягу на паўсагнутых да лесвіцы.

Званок неўзабаве сціхае, я ціснуся спінай да падмурка, каб прыхавацца ў прыцемку і на супрацьлеглым баку школы азываецца легкавушка. Ці не міліцыя?!

Чорт ведае колькі часу прамінула, пакуль над галавой не зарыпела жалеззе і сябрук – з неверагоднай вышыні – абрынуўся долу. І вось мы ўжо ляцім, як адурэлыя, у бок майстэрняў і Мішка, на хаду насунуўшы кеды, задышліва выдыхае:

– З перапуду... пад стол залезла... потым ужо святло ўрубіла!

Дзверы, як заўсёды, адчыняе маці.

– Дзе гэта цябе носіць супраць ночы?

Ні слова ні сказаўшы, іду на кухню, дастаю з лядоўні бутэльку малака і прагна, са стогнам глытаю гаючую халадзёнку.

– Хто там за табою гнаўся? – цяпер ужо пытаецца бацька.

– У футбол гулялі...

Маці ідзе разаграваць кашу (ізноў, відаць, панцак... як я яго ненавіджу!), а я падаюся да свайго пісьмовага стала. Над сталом вісіць табліца чэмпіянату СССР па футболе. На перакрыжаванні мінскага “Дынама” і растоўскага СКА малюю тлустую адзінку.

– Што, выйгралі? – пытаецца бацька, прыклаўшы вуха да радыёлы. – Пасля таго, як перагарэў тэлевізар, бацька цэлымі вечарамі сядзіць ля прыймача ды слухае варожыя радыёстанцыі.

– Йес! – лаканічна адказваю бацьку, сліню хімічны аловак і малюю яшчэ больш тлусты нуль.

– Хто забіў – Малафееў ці Мустыгін?

– Сахараў, – адказваю, наструніўшы нюх, і задаволена крэкаю. – З кухні цягне духавітым пахам грэчкі, а грэчку я люблю.

Доўга спрабую заснуць – сплю я ў святліцы, на старой канапе, – але сон не йдзе і сэрца па-ранейшаму ўлякнута б’ецца ў грудзіне.

Усё ж такі малайчына Мішка! Я б да такога нават не дадумаўся – убіцца ў школу праз паддашкавы люк. А да люка трэба яшчэ па іржавай лесвіцы лезці. А па ёй, відаць, як школу збудавалі, ніхто і не лазіў... Нечакана ў душы, пад самым сэрцам, пачынае ціхенька стагнаць трывожна-салодкая думка: а страшнавата сядзець ноччу ў пустым будынку...

Мінулай зімой у нашай школе ладзілі вечар сустрэчы з выпускнікамі. І вось адзін выпускнік, ладна кірнуўшы ў сваім былым класе, пабег па лесвіцы ды так шпарка, што праскочыў першы паверх і па інерцыі рынуў далей – у цёмны закутак, дзе прыбіральшчыцы захоўваюць сваё начынне. Грымнуў там швабрамі ды вёдрамі, паваліўся і ўстаць ужо не здолеў. Так і заснуў, пад галаву мокрыя анучы падклаўшы. Сярод ночы прачнуўся, пайшоў у прыбіральню і так напужаў вахцёрку, што тая потым пачала заікацца...

– Што робяць, сволачы, – перарывае думкі сцішаны бацькаў голас. – Сволачамі бацька называе чэхаў, пра якіх дзень да ночы распавядаюць замежныя радыёстанцыі.

Я прыслухоўваюся, але нічога не чую, апроч дакучлівага зумкання глушылак.

– Ма! – клічу я маці, якая ўжо сцішылася ў спальні.

– Ну што табе?!

– А праўда, што напачатку вайны ніхто за савецкую ўладу ваяваць не хацеў?

Я пытаюся маці, але ў адказ чую насцярожлівую бацькаву кашляніну. Адхінуўшыся ад прыймача, бацька глядзіць у мой бок.

– Хто табе такое сказаў?

– Мішкава бабця.

– Гэта тая... дзевяностагадовая? Зусім старая з глузду з'ехала, – бацька аддзімаецца і двума пяцярнямі прылашчвае валасы на галаве – заўсёды так робіць калі хвалюецца. – Ты ж глядзі, нікому не пераказвай гэтую брахню.

– Якую брахню! – гэта ўжо маці прыспаным голасам азываецца са спальні. – Я сама бачыла тых салдат. Цэлы тыдзень паўз нашу хату ішлі. Брудныя, галодныя, страшныя... "Усё, – казалі, – больш ні сталінятаў, ні калгасаў не будзе... ідзем дахаты".

– Яшчэ адзін Дубчак знайшоўся... Што ты сыну антысавеччыну пляцеш? Хочаш каб і у нас тут, як у Чэхаславакіі, контррэвалюцыя паднялася?

– Божухна, які дурны! – апалым голасам выдыхае маці.

Бацька яшчэ хвіліну шнарыць па эфіры, потым сунецца на кухню і ўжо адтуль гукае:

– Ты свайго брата-паэта згадай! Дабалбочацеся, што і за вамі прыйдуць!

Я ляжу з заплюшчанымі вачыма, слухаю, як бацька скрабе лыжкай, вычэрпваючы з рандолі рэшткі грэцкай кашы, і бачу асветленае вакно і пахілую постаць вахцёркі.

– Ма!

– Ты дасі мне сёння спаць? – маці рыпае спружынамі матрацу, – мне ўставаць а шостай. – Маці працуе медсястрой у палікрініцы і ўстае з цёмнага рана.

– А чаму старыя цёткі вахцёркамі працуюць? Ім што, пенсіі не хапае?

– Пражывеш ты... на калгасную пенсію...

Маці зморана ўздыхае і народжаны тым уздыхам непрыемны скразнячок кранае душу.

...Летась мы ўсім класам ездзілі ў Маскву. Цэлымі днямі цягаліся па сталіцы, а ўноч спалі на матах у адной з тамтэйшых школ. Школа была старая, ці не дарэвалюцыйнай пабудовы. Аднае начы мы з Мішкам раздурэлі, не давалі нікому спаць, класная нас і выставіла ў калідор. Селі ў цёмным калідоры на лаву, прыслухаліся і дурыкі вомігам выпетрыліся з галоваў. Нам падалося, што там, на верхнім паверсе, нехта ёсць, нехта сцішана ходзіць па рыплівай падлозе. Крокі былі ледзь чутныя, але вось памацнелі, гулка азваліся на лесвічнай пляцоўцы, а калі зашоргалі па сходах, мы з Мішкам рынулі ў спартзалу, дзе спалі аднакласнікі, леглі на свае маты, з галавой накрыліся коўдрамі...

А можа й дарма Мішка лез у школу?

Я стаю на ганку, чакаючы Дасюліна, мерзну і мяне працінае халодны

пот і пачынаюць біць дрыжыкі. Хвілінаў праз дзесяць да ганку падыходзяць Галуза й Шутовіч з 10-га "А". За імі, па старой завядзёнцы, рушыць збой дзевяцікласнікаў, пасярэдзіне якога прыкметна вытыркаецца кудлатая Мішкава галава.

Галуза з Шутовічам вялікія аматары ансамбля "Бітлз". З тае нагоды адгадавалі даўгія валасы – дзесьці да паловы вуха, – і дырэктар школы Тэлесфор Данатавіч Дунчонак (школьная мянушка Бздунчонак) на кожнай лінейцы пагражае бітлухам выключэннем са школы, калі тыя не падстрыгуцца.

Перад тым, як пераступіць парог, Галуза з Шутовічам зачэсваюць валасы за вушы, прыўздымаюць каўняры, наструньваюць насы. Дзерык наш – былы вайсковец і па старой вайсковай звычцы кожную раніцу голіцца ды пырскае на твар нязменны "Шыпр". Па тым адэкалонным смуродзе, што потым лунае ў паветры, Галуза з Шутовічам і вызначаюць – ёсць дзерык у школе, ці яшчэ няма.

Мы пераступаем, следам за бітлухамі, школьны парог, і калідор скаланае пагрозлівы вокліч:

– Шутовіч з Галузам! Да заняткаў не дапускаецеся!

Дзерык стаіць пасярод калідора, шырока рассунуўшы ногі, і школьная малеча з двух бакоў пужліва абмінае яго, шоргаючы плечукамі па сценах.

– А вы не маеце права адхіляць нас ад заняткаў, – мармыча Галуза, і дзерык па-бацькоўску насмешліва выдыхае:

– Гляньма, законы ты ведаеш, а вось правілы савецкіх школьнікаў ведаць не жадаеш. Зараслі з Шутовічам – вачэй не відаць!

– А што, правілы рэгламентуюць даўжыню валос? – падае голас Шутовіч.

– У правілах напісана, што вучні павінны мець ахайны выгляд! – Бздунчонак роблена пасміхаецца і зыркае ў той бок, дзе стаім мы з Мішкам. – Вунь, гледзячы на вас, ужо і дзевяцікласнікі пачалі зарастаць!

Мы з Мішкам выскокваем на ганак. Волкі вецер працінае навылёт і мяне ізноў бяруць дрыжыкі: гарачыя, несупынныя.

– Чаго трасешся, гэта ж ён пра мяне казаў, – Дасюлін устурбавана прылашчвае валасы, і школьную будыніну скаланае званок.

– Учора на даху прасіфоніла! – гучна, як на перагаворным пункце, крычу сябру на вуха, адчуваючы, як па целу разліваецца млявасць і пачынае шчыміць патыліцу.

Следам за намі на парог выкульваюцца кудлатыя небаракі.

– Бл-ляха, кантрольная па алгебры, а Бздунчонак на заняткі не пускае, – цэдзіць скрозь зубы Шутовіч, і Дасюлін запабежліва хапае яго за рукаво.

Хлопцы адыходзяць убок; Мішка штосьці тлумачыць Шутовічу, паказваючы рукой угору, той святлее з твару і махае Галузу. Тулячыся да сцяны, тройца бяжыць да пажарнай лесвіцы і праз імгненне я назіраю, як Шутовіч, трымаючы ў зубах важкую тэчку, лезе ўгору, а за ім, узбіўшыся на Мішкавы гарбень, чапляецца за парэнчы Галуза.

Ззаду гулка бухаюць дзверы і мы бяжым з сябрам па калідоры. Калідор пусты, калі не лічыць фізрука Лазкова, які стаіць каля шатні.

– Бздунчонак паставіў, – шапоча праз плячук Мішка Дасюлін і задаволена хіхікае.

Фізрук мае мянушку Вакзал (хтосьці даўмеўся прачытаць ягонае прозвішча наадварот) і, як лічаць многія настаўнікі, не мае клёку ў галаве. Вось і цяпер: чувакі ўжо ў класе, пішуць кантрольную, а гэты ёлупень пільнуе іх каля ўваходу.

– Заўтра да Галузы йду... запрашаў... хочаш, разам пойдзем, – Мішка заварочвае на сходы і я за ім ледзь паспяваю. Ногі робяцца ватнымі, таму спыняюся, пераводжу дых.

Сястра Галузіна скончыла маскоўскі інстытут і паўгода стажыравалася ў Індыі. Адтуль прывезла кружэлку з двума песнямі "Бітлз". Цяпер уся школа падбіваецца пад Галузу, каб тую кружэлку паслухаць. А яшчэ паглядзець на партрэт Тэлесфора Данатавіча ў багетавай аправе, які Галуза павесіў над сваім ложкам. Дзеля хохмы, вядома. Фотаздымак – Дунчонак стаіць ля моўніцы і чытае нейкае спавешчанне – чувак зняў з гарадской Дошкі гонару.

Цёткі-прыбіральшчыцы мыюць падлогу, гучна бразгаюць вёдрамі.

– Ці чула ты, што ноччу ў школу лезлі? – на падлогу пляскае мокраяануча.

– Ідзі ты! А чыя была змена?

– Пракопаўны. Перапудзілася так, што ў больніцу адвезлі, на "хуткай". Дачка во званіла, казала, ляжыць у цяжкім стане...

Мішка таксама спыняецца.

– Чуў? – шапоча сябар, калі я, ужо зусім знямоглы, узыходжу на трэці паверх. – Вось дык пужнулі... Ты ж нікому не казаў... пра маю вылазку?

Я матляю галавой і галава пачынае гарэць і слых поўніцца замарачным звонам.

Першы ўрок у нас фізіка. Выкладчык, Леанід Пятровіч, – клёвы дзядзян. За спазненні ніколі не ўшчувае і наогул ніколі не павышае голас. Ці не таму ён адзіны ў школе настаўнік, які не займеў мянушкі і ўсе скрозь называюць яго Пятровічам. У мяне, дарэчы, па фізіцы адны пяцёркі, дарма, што займаемся па праграме дзясятага класа.

Пятровіч штосьці піша на дошцы, мелькам азіраецца на дзверы і махае нам рукой, маўляў, хутчэй сядайце.

Я плюхаюся на сваё месца, цісну да вушэй далоні і аднекуль з глыбіняў свядомасці да мяне далятаюць малітоўныя словы: "Толькі б не памерла!" Ямчэй сціскаю вушы, спрабуючы ўцяміць сэнс пачутага, і скрозь шум ды звон да мяне далятаюць такія ж далёкія і незразумелыя словы: "Запішам тры асноўныя групы: дыямагнетыкі, парамагнетыкі і ферамагнетыкі..." Я згадваю раптам, пра што хацеў спытаць маці: пра свайго дзядзьку-паэта, які патануў напярэдадні вайны. Хто гэта там да яго прыходзіў? Мяне падхоплівае, як той вятрыска на даху, імкліва-урачысты сон, я панурваюся ў чорны атрамант забыцця і тут жа ўсплываю з замарачнага прадоння.

– Ты што, заснуў? – нехта кратае мяне за плячук.

Я расплюшчваю вочы. Увесь клас запытальна, нават з трывогай глядзіць на мяне і я адчуваю на лобе дотык сухой і халоднай рукі.

– Э-ээ, браток, дык у цябе тэмпература, – прамаўляе Пятровіч, – давай хутчэй дадому, у пасцель.

...На першым паверсе мяне сустракае неспакойны дырэктараў голас:

– Загадчыца сталовай усё перагледзела: нічога не прапала...

Іншым разам я прыхаваўся б, каб не патрапляць дзерыку на вочы, але цяпер, не чуючы ног, шыбую па калідоры да шатні. Бздунчонак, на шчасце, мяне не бачыць: ходзіць на пару з мажным міліцыянтам, тузае зачыненыя на зіму вокны.

У шатні доўга шукаю сваю куртку і напаўголасу, сасмяглымі вуснамі шапчу: “Толькі б не памерла...”

Ключ доўга не патрапляе ў шчыліну, нарэшце скрыгоча ў замку, я налягаю на дзверы, скідваю куртку і, ужо амаль непрытомны, валюся на канапу. Канапа круціцца пада мною, дыван на сценцы разліваецца страшнай плямай, замарачна дрыжыць і мяне цягне на ваніты. Але самае страшнае – гэта дрыжыкі. Мяне калоціць як мае быць, нават сківіцу курчыць. Нацягваю кодру да падбароддзя, потым накрываюся з галавой. Ляжу хвіліну і вокраччу паўзу ў спальню, сцягваю кодру з матчынага ложку...

Коўдры ціснуць грудзіну, стрымліваюць дыханне, але паратунку няма: мяне па-ранейшаму трасе.

У галаве злым вятрыскам праносяцца малюнкі учарашняга дня, пакідаючы ў душы дакор і шкадаванне. Учора ў нас была фізкультура. Наш 9-ты “А” маршыруе па зале і мы з Мішкам раз-пораз азіраемся на Ленку Новікаву. Нізкарослая таўстуха адстала ад шыхта, і тупае, махаючы рукамі не ў такт хадзе. Мішка Дасюлін таксама пачынае махаць рукамі неўпапад нагам і Вакзал дзьме ў свістульку, загадваючы ўсім спыніцца.

– Новікава, колькі разоў паказваць?! Правая нага ідзе ўгору, абедзве рукі ідуць управа, левая нага ідзе ўгору, рукі ідуць улева...

Расплюшчваю вочы – столь над галавой падае на мяне, я ўлякнута змежваю павекі і бачу школьны калідор, але не наш, а той маскоўскі, у канцы калідора кволіцца жоўценькая лямпачка, я іду ў той бок намагаючыся не рыпець масніцамі, і там у цьмяным святле бачу драўляную падобную на ночвы труну і сівыя пасмы нябожчыцы, што віснуць да падлогі... Чаму ў вахцёркі такая несамавітая труна віруе ў галаве страхотная думка і тут жа згадваю, што гаротніца атрымлівала калгасную пенсію і на лепшую грошай не сабрала...

Нізкая столь ляціць на мяне, я прахопліваюся і не разумею: дзе я і што са мной? Сэрца парывіста клякоча ў горле, само горла перасохла і галава расколваецца ад болю. Мне горача. Я спіхваю з сябе цяжар коўдраў, расшпільваю пінжак, потым кашулю і хворую чмуру развейвае панічны матчын голас:

– А дзетухна... а што з табой? – маці стаіць, сашчапіўшы рукі, і ўбачыўшы, што я жывы, знясілена аддзімаецца. – Гляджу – дзверы расчыненыя і куртка ляжыць на падлозе... Ледзь не самлела з перапуду...

Маці кранае мой лабешнік.

– Гарыш увесь. Зараз табе што-небудзь дам.

Гэтага “што-небудзь” – пігулак, мікстуры ды розных прыпарак у маці цэлая шафка. Прынесла з паліклінікі.

Не распранаючыся, адно зняўшы хустку, маці шыбуе на кухню, шамаціць пушачкамі ад лекаў, нарэшце піхае мне ў рот дзве гаркавыя пігулкі і дае іх запіць не менш гаркавай мікстурай.

– І дзе цябе так праняло?

– На школьным даху, – шапчу гарачымі вуснамі і прыкусваю язык, зразумеўшы, што сказаў лішніцу.

...Праз паўгадзіны мне становіцца лягчэй. Столь ужо не падае долу, канапа стаіць непарушна і дыван не расплываецца бруднай плямай. І толькі тупа баліць і кружыцца галава.

Я клічу маці.

– Ма!.. Вось ты спужалася, убачыўшы маю куртку, а можна памерці з перапуду?

– Можна, калі сэрца кволае, – маці сцярожка сядае на край канапы.

– У нас у пасёлку, гэта яшчэ да вайны было, хлопец жыў, на пяць гадоў за мяне старэйшы. Ён якраз з братам маім сябраваў. І вось аднойчы прыбягае позна ўвечары як не свой: расхлістаны, без шапкі. Трасецца ўвесь і нічога сказаць не можа. За шаптухай пабеглі, тая свянцонай вадой пырснула, грамніцу запаліла. Тады толькі пачаў языком варочаць. Ішоў, кажа, паўз французскі курган і штосьці яму там падалося. Курган у нас стаяў, непадалёку ад чыгункі. Казалі, там французаў хавалі, за часамі Напалеона, і, нібыта, раз на год, увосень, мерцвякі з магілаў паўставалі. Якраз восень была. Карацей, прымроілася яму нешта – ён і кінуўся ў хмызы. Аж чуе, нехта ззаду бяжыць... дагнаў і шапку здзер з галавы... Мы адранку пабеглі з Пецькам, старэйшым братам, на тое месца. Глядзім, вушанка на кусце вісіць, за сук матузамі пачапіўшыся. Ад той пары хлопец марнець стаў... З хаты не выходзіў, ні з кім не размаўляў, а перад самай вайной памёр, малады зусім.

– А хто гэта да дзядзькі Пятра прыходзіў? – пытаюся я, згадаўшы бацькавы словы. – Старэйшага матчынага брата таксама пахавалі перад вайной: патануў у возеры.

– Хто прыходзіў... – маці чарговым разам ўздыхае, – савецкая ўлада прыходзіла. Ды ён жывым не даўся: зарэзаўся нажніцамі.

– Як зарэзаўся? Ты ж казала – патануў.

Маці моўчкі лашчыць мяне па галаве.

– А што ён такога зрабіў? Ну, вершы пісаў...

– Таму і прыйшлі, што пісаў... ды яшчэ па-беларуску, – маці падхопліваецца на ногі, – у мяне ж на пліце ліпавы адвар выкіпае!

Вось яно як... свойчас мы з Мішкам урокі белмовы зрывалі, а мой дзядзька, аказваецца, праз тую мову загінуў. Гэта што такое трэба напісаць, каб тыцнуць у сэрца нажніцамі?

Я ляжу з заплюшчанымі вачамі з адчуваннем, што лепшы сябар Мішка знянацку аддаліўся, счужанеў і што нейкая глыбокая, напоўненая іржавай вадой мяжа аддзяліла мяне ад усяго мінулага жыцця. У тым мінулым бесклапотным жыцці засталіся Мішка Дасюлін, савецкая ўлада, кастрычніцкія транспаранты, Тэлесфор Данатавіч Дунчонак, наша класная – Надзея Мікітаўна Ёнас і ўсе астатнія настаўнікі... Хаця не, не ўсе... Пятровіч! Вось хто мог бы стаць дырэктарам школы! Той бы ніколі не ганяў за даўгія валасы. Але ж хто яго паставіць... Штосьці каротка рыпнула, і мне падалося, што гэта, зманліва і таямніча, адчынілася брама будучыні. Але насамрэч гэта маці, выходзячы з кухні, рыпнула дзвярыма.

– На, выпі, – матчына далонь падбіваецца пад патыліцу, я глытаю цеплаваты адвар і ён ценькім цурком ліецца ў вушы. – Ліпа з мёдам... адразу палягчэе.

Заўтра Галуза з Шутовічам зноў узлезуць на пажарную лесвіцу. Калі не заўтра дык паслязаўтра Бздунчонак іх перахопіць. Пагоніць, відаць, са школы. А калі яшчэ вахцёрка памрэ... Я страсянуў галавой, адганяючы

страшную думку... Да вакацыяў засталося два дні. Магчыма, дзерык і не злапае чувакоў; пасля вакацыяў люк зачыняць на замок і пра Мішкаву вандроўку ўсе забудуцца – з гэтай шчаснай думкай камнем панурваюся ў вір трывожнага сну; і вось ужо бачу асфальтавы дворык, чую тужлівы гуд машыны па гуку, пазнаю раздзяўбаны “Газ-51”, на якім дзесяцікласнікі вывучаюць аўтасправу і які штодня ездзіць па школьным двары, мутны чад засціць вочы і немагчыма ўгледзець, хто гэта там едзе ў кодабе машыны, выціраю вочы далонямі і пазнаю Бздунчонка, “газон” павольна едзе па двары, я сыходжу ўбок, каб даць яму дарогу, і ў гэтае імгненне дзерык стукае кулаком па кабінцы ды выставіўшы руку гарлае – Вунь яны! – толькі цяпер заўважаю Галузу з Шутовічам, якія ўзбіраюцца па пажарнай лесвіцы, нечакана Галуза, што ўздымаецца першым, зрываецца, ляціць долу, я спалохана прахопліваюся і грудзіну кранае прыкры холад... Пануе ціша, ад якой закладае вушы і кружыцца галава. У мяне такое адчуванне, што я лячу на арэлях.

– Ма!

– Што, дзетухта! – маці, у сваёй падзертай начной кашулі, падбягае да канапы, мацае маю вільготную чупрыну. – Увесь жа ж мокры... зараз цябе пераапрану.

– Ну, як ён там? – пытаецца праз якую хвіліну бацька са спальні.

– Спі ты ўжо... – маці сцягвае з мяне мокрую майку, насоўвае сухую, прымушае ўзняцца з канапы. – Пастой крыху, бялізну змяню.

Я стаю, не адчуваючы пад сабою ног, потым падаю на канапу – маці нават не паспела заслаць новую прасціну, – і маё бязважкае цела ляціць ў кірунку цёмнай спаруды з адзіным светлым вакном пасярэдзіне. Асветлены прастакутнік павялічваецца ў памерах і ў душы нараджаецца адчуванне шчасця: цётухна-вахцёрка сядзіць, схіліўшы сівую галаву, і ў руках яе цьмяна бліскаюць вязальныя пруткі.



Уладзімір Мароз



...Ўсё ж нарэшце якім-небудзь днём
Дабярэмся да краю туману...

# Край туману

### ТУМАНЫ НАД БАЛОТАМ

Туманы над балотам стаяць
Паўнаўладнымі сведкамі дзеі.
Дзе знайсці ў непрагляднасці гаць,
Каб дабрацца да выспы надзеі?

Туманы над Айчынай стаяць,
Тут не згледзець нікога й нічога.
Адплыла ў недасяж дабрадаць,
Адвярнуліся конча ад Бога.

Брамы спрэс на замках, хоць крычы,
Адамкнуць іх ніяк не ўдаецца.
Ды згубіліся ў багне ключы –
Б'ецца-рвецца збалелае сэрца.

Дзе падзеліся светлыя дні,
Хто забраў, за якія правіны?
Аб стваральным духоўным агні
Засталіся адно што ўспаміны.

Ды нічога не зробіш – брыдзём
У вусцішнасці крыўды й падману.
Ўсё ж нарэшце якім-небудзь днём
Дабярэмся да краю туману.

## *ПАСЛУХАЙЦЕ*

Спрадвечную лучнасць жыцця спазнаём
Як светлымі крочым шляхамі:
“Дзе ўтрох зберацеся вы ў імя Маё,
Там Я ў той жа час разам з вамі”.

Не бойцеся душу для сябра адкрыць,
Лавітву вядзе сваю рыбар.
Адкіньце без роздуму: “быць ці не быць?” –
Не ваш гэты зманлівы выбар.

Вам быць і трымацца, і жыць, і любіць
Насуперак злому закляццю.
Духоўная повязь сатчэ сваю ніць,
Зратуе Яго дабрадаццю.

## *ВОЛЬНА-БЕЛА-ВОЛЬНЫ ТРЫПЦІХ*

*1.*
Першыя радкі бясспрэчна прывядуць да заключных,
Што будзе паміж імі – невядома.
Пустэча ці вышыня глыбінная,
Думка спелая ці словы банальныя?
Табе гэта таксама невядома,
Але ты гоніш неслухаў сваіх наперад,
Маючы спадзеў, што стануць яны паслухмянымі,
Выспеляцца ў светлую паэзію.
І гэта будзе ўжо напісанае не табой –
Бо і сам не пазнаеш сваіх радкоў,
Хоць толькі што яны былі табе знаёмымі,
Твая рука выводзіла іх на паперы.

Рука – прылада, а думкі і словы хто даў табе?
Адкуль яны – з душы ці з высі?
Насамрэч, гэта адно і тое ж,
Калі ведаць закон амбівалентнасці.

*2.*
Лёгка пісаць вольныя вершы –
Льга схавацца за ўяўнай шматзначнасцю,
Зацеміць сэнс мелкай глыбокадумнасцю,
Не абцяжарвацца рытмамі і рыфмамі,
Што ёсць ўсё ж вышэйшым знакам паэзіі.
Цёмны падштурхоўвае на шырокую дарогу
І радуецца, калі паддаешся спакусе.
Бо адлітае ў паэтычную форму
Ёсць перамога над нячыстым, сканчэнне ўлады яго.
Як жа ліхому не хочацца быць зрынутым,
Адпрэчаным, адкінутым, пераможаным! –
Ён тады курчыцца і енчыць роспачна.

Але табе зусім не да яго,
Бо прагнеш акрэсленых рытмаў і жывых рыфмаў,
Прагнеш святла і гармоніі радка і жыцця,
Адпрэчваеш разладдзе душы.

*3.*
Няхай сабе стане трыпціх,
Няважна, што вольны, без рытмаў і рыфмаў,
Сведчаннем трохразоўя адвечнага,
З ім мажліва аковы знайсці для нячыстага.
Так што рана ўзрадаваўся, даражэнькі,
Бо ад першых радкоў пойдзем за заключных
Дарогай простаю, не зацемненай уяўнасцю.
Скажам аб тым, ува што шчыра верым:
Дабро адолее зло, так наканавана,
І справа нашая – спрыяць незваротнаму руху,
Знямоглым духам аддаваць любоў,
Не патрабуючы ўзамен ані кроплі.

Кожнаму дадзена свабодная воля
Зрабіць правільны ці адваротны выбар,
Кожны мае сваю прыладу дзеля гэтага.
Табе дадзена слова, то не змарнуй яго і шануй.

## *ВЕРШЫ ЮРЫЯ КУЗНЯЦОВА*

Кніга – гэта жыццё, прачытаеш – і долю спазнаеш
Песнятворцы, які свае вершы ў натхненні складаў.
Разам з думкай высокай у вырай яго адлятаеш,
Дзе адкрыццяў багата, але і растурзаных спраў.

Разважанні твае – адгалоссе ягонага болю,
Звышшчымлівай тугі адкрыццё перальецца за край.

Па яго запавету душу адпускаю на волю –
У паднеб'і свабоды шырока і вольна гуляй.

Спазнаю Кузняцова, расійскага светач-паэта,
Помню нашу гамонку ў метро аглушальным начным.
Ён пакінуў наш свет, ды сягоння не варта аб гэтым,
Як душа азірнулася, тут засталася – аб тым.

Ён цяпер размаўляе шчымліва-самотна са мною
Словам шчырым сваім у палон забірае душу.
Яго споведзь паслухаю ціхай часінай начною –
Потым горка-сваё наўздагон пракрычу, напішу.

## *АМЕРЫКАНСКАЯ МАРА*

Сыйдзе цяжарная хмара,
Адбарабаніць дажджом.
Амерыканская мара
Нас зачапіла крылом.

Вырай далёкі, нязнаны
Браму сваю адчыніў,
Аж на той бок акіяна
Сына з сабой падхапіў.

Тамака ў новым у свеце
Цэняцца розум і спрыт.
Цягнуцца нашыя дзеці
Здаць спакушальны іспыт.

Гэтак бывала спрадвеку –
Бралі навуку сыны.
Госпадзь даваў чалавеку
Рознай пазбыцца маны.

Толькі б сябе не забыцца,
Хто ты сам будзеш, адкуль.
Жывіць дзяцінства крыніца,
Помніцца мова пакуль.

Вернешся, толькі надыдзе
Выратавальніцкі час.
Скруха з зямлі нашай сыйдзе,
Прышласць пакліча ўсіх нас.

### ПАКАЯЛЬНАЕ

Вершаў, браце, даўно не пішу –
То й нявартa падманваць нікога.
Я з сабою сваё ўсё нашу –
Што ад Бога ёсць, што ні ад Бога.

Толькі цёмнае цісне мацней –
І са шляху раз-пораз ды збочыш.
У абдымках спакусы лацвей,
Хоць паддацца нягоднай не хочаш.

Апраўданне – слабы чалавек –
Цешыць вуха салодкай ілжою.
Так і чыніш над любасцю здзек,
І душу пакрываеш іржою.

Талент свой у зямлю закапаў
Ці згубіў, клаі збіўся з дарогі?
Чарада недаробленых спраў
Дадае непазбыўнай знямогі.

Прыпыніся, згадай аб зямлі
Той, радзіннай, што моцаю жывіць.
Не счакаюць, каб мы не змаглі
У змаганні за роднае выжыць.

### КАРДЫЯГРАМА

Кардыяграма – сардэчная гама,
Лёс яе грае на струнах душы.
Шлях па жыцці – то пагорак, то яма,
Доля з нядоляю спрэс спарышы.

Боль і адхланне, удар і пяшчота –
Толькі чамусьці вось першага больш.
Крышыцца жорстка бяззбройная цнота,
Што можа стацца ад гэтага горш?

Хоць ты зусім не жыві і не думай –
Зло пераможна па свеце ідзе.
Вырвацца з путаў бясконцага тлуму
Здольны-не здольны? – адказ без надзей.
Сэрца баліць – і нікуды не дзецца,
Як не ўцякай на свой хутар жывы.
Хутка зямля ў пекнату апранецца,
Дасць супакой зеляніна травы.

Можа, тады ачуняеш душою,
Хоць на хвілінку суцішыцца кроў.
Светлы праменьчык гуляе з табою –
Злое адпрэчыць адзіна любоў.

### РОДНАСЦЬ

Супакой, неспакой, сувымернасць
Нашай роднасці крэўнай з табой.
Не сурочыць высокую вернасць
Жорсткіх будняў вястун-лістабой.

Не накрые штодзённая замець
Першапуткі кахання імжой.
Яна з намі, пяшчотная памяць,
Праз гады, што сплываюць вадой.

Мы з табой, а ўсё дзесьці наўзбоччы,
Праўдай толькі любові шляхі.
Нашы светлыя дні, нашы ночы
У бязлітасным свеце ліхім.

Паглядзі, як агмень наш палае,
Хіба можна яго затушыць?
Сядзем побач, пара залатая
Без супынку снуе сваю ніць.

### САМЫ КАРОТКІ ДЗЕНЬ

Снег на часіну праблізнуў –
Вось ужо й знаку няма.
Дзень найкароцейшы блізка,
Восень яшчэ ці зіма?
Тут вось і сонца знянацку
Госцем жаданым прыйшло.
Як зіхатлівую цацку
Дзецям у рукі дало.

Сам не прыспешвай марозы –
Холаду й так аж зашмат.
Проста люляй свае крозы
Ты незалежна ад дат.

Проста ўдзячны будзь Богу
За свой настрой дарагі,
Што даступіў да парогу
Без аніякай тугі.

Словы суладдзя з табою –
Рупна кладзіся, радок.
Здасца няпэўнасць без бою
На пераможны твой крок.

Гэтак адужаць ты ў стане
Самую доўгую ноч.
Дзень новы знакам паўстане –
Шляху наперад не збоч.

### *ЧЫН ШЛЯХУ*

Калі жыццё натхненню не спрыяе,
Штодзень турботаў марных цераз край –
Зняверышся: душа не акрыяе,
Хоць ты яе нячысціку прадай.

За недасяжным воку небакраем
Жаданай выспай непазбыўны рай.
Ты не сябруй з самотай і адчаем,
А паратунку ў радасці шукай.

Знайдзі шляхі, з сабою каб у згодзе
Жыць дзень пры дні ў паганскім карагодзе,
Адкінь сумнеў у зверхнасці любві.

Спатолі знакам аркушык паперы,
Сцяной ад свету адгародзяць дзверы –
На светлы плён, Гасподзь, дабраславі.

проза

Аляксей Чубат



...чаму б не прыняць удзел, не праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю?..

# Кашаль

***Апавяданне***

Максім кашлянуў скрозь сон, прачнуўся і прыкрыў рот рукой. Жонка не пачула і працягвала спаць. Кашаль паўтарыўся, Максім сеў на ложак, ледзь стрымліваючы ўдушлівыя гукі. Потым злез, уставіў ногі ў тапачкі і пайшоў у ванну. Шчыльна зачыніў дзверы, уключыў ваду, і яго нібыта прарвала. Кашаль быў глыбокі, рэзкі, да болю ў грудзях. Максім стараўся кашляць не гучна, але гэта давалася цяжка – вада амаль не прыглушала гукаў.

Адышла макрота, і, здаецца, палягчэла. Максім прапаласкаў рот, выцерся ручніком, памыў рукі і патупаў у спальню.

– Што з табой? – спытала жонка. – Ты кашляў? Памерай тэмпературу.

– Ды ўсё добра... На тое і жывы чалавек, каб пакашляць.

– А, ну глядзі сам.

Раніцай, калі ён прачнуўся, жонка ўжо варажыла на кухні. Трэба было ісці на працу, і таму ён хуценька ўстаў, зрабіў некалькі фізічных практыкаванняў.

На кухні працаваў тэлевізар. Дыктар распавядаў пра чарговую дэманстрацыю пратэсту ў суседняй краіне. Паліцыя прымяніла сілу, некалькі параненых.

– Што з табой было такое ўначы? Ты дакладна добра сябе адчуваеш?

– Так, нават вельмі... Можа, лёгкія назбіралі пылу на працы, вось і выйшла гэта ўсё ўначы – цела, яно ж самаачышчаецца. І ты ж, бывае, чыхаеш час ад часу, але гэта не азначае, што ты захварэла, так?

– Ну так, чыхаю. Але ж у цябе нейкае зацяжное кашлянне было... Ну, напэўна, ты маеш рацыю – хвалявацца няма чаго.

– Калі паўторыцца – схаджу да ўрача, зацягваць не буду.

– Добра, сядай снедаць.

Максім з'еў два яйкі, пасмажаныя з крабавымі палачкамі, жонка прыгатавала і нейкую салату. Яна прапанавала яму яшчэ "ўкусіць катлетку", але Максім адмовіўся. Выпіў кубак кавы з цукеркамі й пайшоў апранацца.

Жонка выйшла ў вітальню, паправіла яму шалік – на двары першы холад восені – пацалавала.

Максім пашыбаваў на працу – пехатой яго шлях звычайна займаў хвілінаў сорак. З гадамі ён змяніў таўкатню ў аўтобусе на спакойныя пешыя прагулкі.

Задрынькаў мабільны тэлефон. Максім узяў трубку:

– Максе, я зараз у краме, табе набыць чаго-небудзь да кавы? – голас супрацоўніцы быў, як заўсёды, ветлівы. – Можа, цукерак ці халвы?

– А, прывітанне, Зоя. Вазьмі, калі ласка, тых цукерак, у жоўтай абгортцы, якія я часцей за ўсё набываю.

Траплялася, што Зоя званіла з падобнымі пытаннямі, калі побач знаходзілася жонка. Тая ставілася да гэтых тэлефанаванняў спакойна. Ага, заўтра, якраз у выходны, дзень нараджэння жонкі, згадаў Максім.

– Зоя?

– Так?

– Набудзь, калі ласка, бутэльк.., г-х.., бутэль...ку шам...па..., г-х, г-х, г-х.., ..ка..., – і ён моцна закашляў, не здолеючы прадоўжыць.

– Максім, Максім Іванавіч, што там з табой?

– Й-а.. пера..званю, – выціснуў ён і націснуў "адбой".

Кашлянне ўзялося. Раз, другі, трэці, ён захацеў удыхнуць паветра, абаперся на плот, але кашаль зноў рэзка вырваўся, ногі ў Максіма падкасіліся. Каб ён не трымаўся, упаў бы ніцма.

Адышла макрота жоўта-зялёнага колеру, потым яшчэ раз. Ён выпраміўся, некалькі разоў рэзка глыбока ўдыхнуў, нібы ўсхліпваючы, і пашыбаваў далей. Калі падыходзіў да працы, тэлефон ізноў даў голас.

– Дык што там з табой? – спытаў трохі ўсхваляваны голас Зоі.

– А, гэта ты. Прабач, забыў ператэлефанаваць, доўга кашляў.

– Дык гэта кашаль цябе так? Прыходзь, будзем лячыцца, піць гарбату.

Зоя жыла амаль побач з працай, і калі ён прыйшоў, была ўжо на месцы.

– Што ты, ужо паспеў прастудзіцца – восень жа толькі пачынаецца, – ад яе, як звычайна, ішла хваля добразычлівасці.

– Драбяза, напэўна. На тое і жывы чалавек, каб... – ён спатыкнуўся на сваёй думцы. Зняў верхнюю вопратку, сеў, уключыў кампутар, правёў далонямі па твары зверху ўніз, моцна прыцiскаючы iх. – Што чуваць?

– Ды ўсё па-старому, зараз гарбаты пап’ем.

Максім зайшоў на сайт навiнаў.

– Бач ты, у iх зноў тэракт. Цяжка, канечне, кантраляваць такую вялікую тэрыторыю.

– Чула. А ў Азіі чарговы ўрад скінулі.

– Ого, а ў Еўропе імігранты захапілі будынак урада, – праінфармаваў калегу Максім, чытаючы чарговы гучны загаловак.

– Трымай гарбату, – Зоя паставіла каля яго вялікі кубак, паклала на сподачак цукерак.

Зазваніў унутраны тэлефон. Зоя зняла трубку, выцягнулася, і твар у яе таксама выцягнуўся і зрабіўся засяроджаным.

– Шэф выклікае, пытанні па справаздачы, – сказала яна роўным голасам, устаючы з-за стала. – Пайду. – Затрымалася на хвіліну каля люстэрка і выйшла з кабінета.

Вярнуўшыся праз гадзіну, убачыла кабінет пустым. На сподачку ляжалі абгорткі ад цукерак. Праз хвіліну Максім таксама ўвайшоў у кабінет: твар у яго быў бялейшы, чым звычайна, валасы – узмакрэлыя, хада – няўпэўненая. Ён зірнуў на Зою, узяў мабільнік, папстрыкаў тэлефоннай кнігай і націснуў “выклік”.

– Ало, паліклініка? Ці можна запісацца да тэрапеўта.

– Што, зноў прыціснула, – спытала Зоя, калі ён скончыў размову.

– Так. Запісаўся на шэсць трыццаць, адразу пасля працы.

Напрыканцы працоўнага дня Максім узяў у Зоі бутэльку шампанскага, развітаўся i пасунуўся ў паліклініку. Таксама пехатой – горад быў невялікі.

У паліклініцы чарга была з некалькіх чалавек, і праз паўгадзіны ён патрапіў на прыём. Урач задаў традыцыйныя пытанні: “На што скардзіцеся”, і гэтак далей. Потым пачаў слухаць з дапамогай эндаскопа. Слухаў уважліва, пільна, нават больш, чым звычайна.

– У лёгкіх ніякіх хрыпаў няма. Але вам трэба прайсці дадатковае абследаванне, зрабіць рэнтгенаграфію лёгкіх і здаць аналіз на макроту. Дзіўна, канечне, што ў вас няма тэмпературы.

– А што, лепш было б, каб яна была?

– Прынамсі, дыягназ быў бы больш зразумелы ўжо зараз.

– А што ў мяне можа быць, доктар?

– Цяжка сказаць, давайце пройдзем абследаванне. Вы сапраўды добра сябе адчуваеце? Я маю на ўвазе агульны стан.

– У цэлым добра.

– Тады давайце так: абавязкова здайце сёння аналізы, выхадныя правядзіце дома, пажадана ў спакойным стане, добра ешце. А ў панядзелак абавязкова прыйдзіце да мяне.

Максім здаў аналізы, прайшоў абследаванне – усё, як раіў яму зрабіць доктар, і пашыбаваў да хаты.

Прачнуўся Максім позна. Да ночы ён чытаў Чака Паланіка, і, калі б вочы не пачалі самі заплюшчвацца, дачытаў бы раман да канца. Жонкі побач ужо не было: “Відаць, клапоціцца пра віншавальны стол”. Вый-

шаў з пакоя, агледзеўся – сапраўды, у кватэры ён быў адзін. “У краму пайшла”, – падумаў Максім. Ён паставіў на стол шампанскае, паклаў побач падарунак, які набыў загадзя. Перад выхадам з кватэры напісаў запіску: “Хутка буду” – збег па сходках і накіраваўся ў кветкавую лаўку. Доўга не думаючы, набыў пяць чырвоных руж, побач, у шапіку з газетамі, узяў цэнтральную газету і раёнку. Па дарозе пагартаў раёнку, і на адной з апошніх старонак яго вочы сустрэлі цікавую абвестку. Заўтра на Галоўнай плошчы мусіў адбыцца пікет супраць магчымай вайны суседніх краінаў, запрашалі ўсіх жадаючых. Пікеты і мітынгі, колькі сябе памятае Максім, заўсёды праходзілі мірна, ды і былі ў асноўным прысвечаныя барацьбе за мір. Раз-пораз Максім наведваў такія, як ён казаў, “мерапрыемствы”. Нядзеля планавалася вольнай, і таму ён вырашыў схадзіць глянуць на пікет.

Ноч прайшла спакойна, і раніцай у Максіма мільганула думка, што ён дарма хадзіў да ўрача. Перакінуўшыся падчас сняданку некалькімі словамі з жонкай, ён рушыў на пікет.

На гэты раз прыйшло каля дваццаці чалавек. Адзін з іх, відаць, завадатар, голасна выкрыкваў антываенныя лозунгі, астатнія падхоплівалі яго словы, і гучнае “Не – вайне!” разляталася па ўсім квартале. Паліцыі побач не было, як не мелася яна прысутнічаць і ў іншыя разы – такія акцыі заўсёды праходзяць мірна.

– Максіме, здароў-быў, вось ужо не думаў цябе тут пабачыць! – гучна сказаў нехта нібыта ззаду і злева адначасова. Максім павярнуўся – то быў яго былы начальнік па працы, які пайшоў на павышэнне ў іншую арганізацыю. – Ты ж у нас – праца-дом, дом-праца. Няўжо і табе закарцела горла падзерці?

– Ды не, я так – прайсціся, развеяцца, мітынг жа “за мір” – чаму б не прыняць удзел, не праявіць, – Максім паўсекунды ўспамінаў словазлучэнне, – сваю грамадзянскую пазіцыю?

– Мірны, але моўчкі мір не адстаіш, таму давай, не стой слупом, далучайся: “Вайне – не!”, “Вайне – не!”, “Вайне – не!”

“Вайне – не!”, – крыху гучней, чым звычайна, сказаў Максім. – “Вайне – не!”, – атрымалася ў яго ўжо з націскам. “Вайне...гкне, ...гхне...”, – кашаль нечакана ўзняўся зноўку. Горла стала дзерці, лёгкія забалелі, перахапіла дыханне. Некалькі моцных кашлянняў, мошкі пачалі круціцца ўваччу, далягляд павярнуўся неяк на бок, і Міхась абаперся абедзвюма рукамі на плячо знаёмага. Камяк жоўта-зялёнай слізі выляцеў з горла і пляснуўся на куртку былога начальніка.

– Бляха, – не стрываў ён, але спахапіўся, усміхнуўся, і, стрымліваючы гідлівасць, выцер насоўкай брыдкасць. – Што з табой, браце, захварэў?

– Так, нап...пэўна, – выціснуў Максім.

– Ва ўрача быў?

Максім кіўнуў.

– Глядзі – бо гэта нядобрая хвароба. Мая... каханая... распавядала, што ў іх на працы адзін вось так харкаў-харкаў, ды і памёр. Таму ты глядзі, не запускай. А, вось яшчэ, успомніў, хто ж гэта мне казаў, што дзяўчына адна... – знаёмы зірнуў на збялелы твар Міхася і спыніўся. – Ну пайшлі, правяду цябе трохі.

Да аўтобуснага прыпынку Міхась ачуняў і дахаты паехаў адзін.

Жонкі дома не было, таму ён паснедаў у самоце. Кашаль спыніўся, але ўнутры нешта свярбела, і цяжка было сказаць, фізічны гэта боль ці які іншы. Максім высунуў шуфляду, дзе жонка захоўвала лекі, дастаў супакаяльнае, наліў у шклянку вады з-пад крана і выпіў адну таблетку. Трохі пасядзеў і выпіў другую, потым – трэцюю. Ён ужо пацягнуўся па наступную, як раптам зазвінеў тэлефон. На чацвёрты званок ён рэзка устаў і зняў трубку.

– Слухаю.

– Гэта з паліклінікі вас турбуюць. Служба падтрымкі пацыентаў. Хочам паведаміць, каб вы не хваляваліся, у вас добрыя аналізы. Вы – здаровы.

– Дзякуй.

– Але, калі жадаеце, можаце адпачыць некалькі дзён дома – выпішам вам “даведку аб неабходным адпачынку”.

– Дзякуй.

– Усяго вам найлепшага.

– Да пабачэння.

Максім пастаяў хвіліну каля тэлефона, пасля паклаў таблеткі ў шуфляду, падышоў да канапы, прылёг і ўключыў тэлевізар.



Максім Баравік



...Я чалавек!.. Я чалавек, на жаль...
І я зусім не лепшы ў сваім родзе...

# Не згіну!

* * *

Дзіўна,
чаму снег,
падаючы,
засыпае асфальт,
машыны,
мякка кладзецца на
каўняры,
капелюшы
і ніяк
не хоча
трапляць
на падстаўленую небу
далонь?
Чаму мітусіцца ў паветры,
мінаючы яе?

А можа гэта я
проста
не адчуваю
марознага казытання
сняжынак,
што хутка растаюць,
пераўтвараючыся
ў бліскучую ваду?
А можа на вуліцы
даўно ўжо
і не зіма?
Можа, настала вясна,
вясна
Свабоды?
Можа, таму і снег,
адчуўшы Волю,
падае так,
як яму захочацца,
баючыся загінуць
ад такой
халоднай і няўдзячнай
чалавечае
цеплыні?..

* * *

Пакуль маю
Бога,
Бацькоў
і
Айчыну,
Не згіну!..

* * *

Маёй слязою захлынуцца далі,
Мой голас вецер разнясе па ўсіх дарогах,
Маёй рукою перапішуцца скрыжалі,
Ў якіх і сам мо буду роўны толькі Богу.

Я абшчаплю навек прасторы свету,
Выкідваючы прэч кавалкі смецця.
З зямнога праху Бог стварыў Паэта
Магутным богам у малым сусвеце.

* * *

Зноўку дождж сінявокай жывіцай
Размаўляе з астылай зямлёй.
Калі з неба імжа церусіцца –
Значыць, хутка настане спакой.

Дождж спадае табе на вейкі,
Твайго твару пяшчоту п'е.
Дождж – дзівак неразумны нейкі:
Усё плача і слёзы лье,

Стогне з неба, штукар ліслівы,
Ўсё галосіць у змакрэлай журбе.
Я б у свеце быў самым шчаслівым,
Каб хоць кропляй кранаўся цябе,

Ахінаў лёгкай хмарай без краю
У грымотна-дажджынкавы спеў...
Мне твае валасы пахнуць маем
Пасля звонкіх халодных залеў.

Не заб'е громам свет навальніца,
Не ўстрывожыць бязлітасна сон...
Калі сэрца тваё раздажджыцца,
Я аддам табе свой парасон.

* * *

Давай сёння сустрэнемся ўвечары,
Там, на месцы спатканняў колішніх.
Хочаш, я напяку табе печыва
З дзьмухаўцовым сочывам сонечным?

Твае вочы такія халодныя,
Засмучоныя, беззаганныя,
Як паўшар'і зямнога геёіда,
Па экватары разарванага.

Не марозь майго сэрца туманамі,
Не палі яго позіркам ветаха.
Ты мяне абдымі лепш, каханая,
Ахіні гэтай ночкаю летняю.

Пацалунак, табою народжаны,
Па ўсім целе цяплом расцякаецца.
Бачыш, наша каханне ўстрывожана
З прасціны небакраю ўсміхаецца?

Ты цалуй, не спыняйся, мілая,
За ўсе дні, што расстаннем азмрочаны.
Твае вусны, такія шчаслівыя,
Дзьмухаўцовым мне пахнуць сочывам.

* * *

Запомні гэту ноч, і поўні злое вока,
І на маёй шчацэ яе сівы прамень.
Запомні росны пах і цішыню навокал,
Ў якой няма мяне.

Запомні словаў рух і ўздыхаў жарсны плёскат,
І на сырой траве двух целаў лёгкі цень.
Запомні гэту ноч і поўні злое вока –
Забудзь толькі мяне.

* * *

Як дамавінай зробіцца зямля,
Цвінтарным пахам – неба, крыжам – сонца.
Я апынуся на каленях ля
Нязнанае дарогі ў бясконцасць

І наастачу ў свет зірну, амаль
Як на распяцце перад смерцю злодзей.
Я чалавек!.. Я чалавек, на жаль...
І я зусім не лепшы ў сваім родзе...

Мой лёс – яшчэ сляпое немаўля,
Што стукае ва ўлонні часу ножкай.
Як дамавінай зробіцца зямля,
Я буду ў ёй струхлелай, згнілай дошкай.

* * *

Хоць бачу начамі халодныя сны
І песні спыняю мінорным акордам,
Я вымалю ў Бога дзве кроплі вясны:
Уласнай душы і майму народу!..



дэбют

Алесь Брагінец



...добрае помніцца доўга,
дрэннае – яшчэ даўжэй...

# Возера, дзе расце доўгі-доўгі чарот

***Апавяданне***

Бывае так – успаміны пра тое, што здарылася некалі, доўгія гады не даюць табе спакою. Тое ніяк не хоча забыцца, як бы ты ні хацеў, усплываючы ў самы нечаканы момант твайго жыцця. Добрае помніцца доўга, дрэннае – яшчэ даўжэй, жахлівае – не забываецца НІКОЛІ.

**1.**

Я расплюшчыў вочы... На мяне праз фіранку пазірала высокае блакітнае летняе неба.

“Як добра, калі не трэба тэрмінова ўставаць і пхацца ў праклятую, сумную школу, дзе класны кіраўнік – Антон Барысавіч – заўсёды на мяне лаецца. А чаго ты, каб у цябе спытаўся, лаешся? Мо ў цябе жывот баліць? Ну, не разумею я тваю алгебру з геаметрыяй! Ну і што з таго? Не-е-е, вызверыцца, выцягне худую, жоўтую, як сасновая жэрдка, шыю, і насуплена паглядае з-пад сваіх

рудых касцяных акуляраў, начэпленых на доўгі чырвоны з плямамі нос. А яшчэ, калі вельмі злуецца, трасе ніжняю губой, як Шэшкава кабыла, якой на воз цётка наперла зашмат бітонаў з малаком (каб забраць усё адным махам і не цягнуцца па вёсцы яшчэ раз). Ён, пэўна, думае пра сябе, што самы разумны на свеце – нібы які старац. Разумны? Як жа! Памятаю, гэтай вясной мы з хлопцамі патаўклі яго трохлітровыя слоікі з бярозавікам, дык ён – нязгрэба, нават не зразумеў, хто гэта зрабіў! А патаўклі за тое, што ён майго сябра (Андрэя) так тузануў каля дошкі, што той бухнуўся галавой аб падваконне і разбіў нос. Андрэй і так – недамерак – нешта не расце, і на адной назе ад нараджэння мае замест пяці ўсяго толькі чатыры пальцы... А гэты “сухар” яго аб падваконне... – свіння наздратая!!! Ой, нешта я зусім разышоўся. Аж у скронях закалаціла! Трэба ж, так настрой сапсаваў мне, а сам пра гэта нават і не ведае. Хопіць пра школу! Хопіць! Наперадзе летнія вакацыі – безліч дзён, якія можна пражыць як заўгодна! І кожны дзень – прыгоды, ды што там дзень, кожную хвіліну штосьці новае, непаўторнае мусіць адбыцца... Толькі нешта не спіцца... Мо пайсці паглядзець якое кіно?.. Але не, шкада губляць час. Трэба накапаць чарвякоў ды з’ездзіць роварам на возера”, – думаў я ў сваё дванаццатае лета.

– Уставай ужо, пародуха!

– І табе, баба, добрай раніцы, – злазячы з канапы, адказаў я. – Нашто ты, баба, такая злосная? Паглядзі – якая раніца сонечная. А яшчэ ў школу не трэба, рабі што сабе хочаш!

– От і добра, калі не трэба, бяры лісапед і едзь у магазін па хлеб. Пэўна, ужо павінны з Любані прывезці. Ды скоранька чухайся, а то людзей напрэ – гадзіну там стаяцьмеш. Яшчэ бывае, што трасцу чаго ўхваціш – адны Дардонавы кідуны па сем боханаў хапаюць!.. Толькі глядзі – гарэлага не набяры, бо будзеш сам яго і кікаць, – павучала мяне баба Насця.

– Ой, баба, можа, я заўтра з’ездзіў бы... – спрабаваў адчапіцца я.

– Д-дурань! Заўтра сыбота! Не возьмеш – да панядзелка без хлеба сядзецьмеш. Едзь ужэ... тады паснедаем.

Яно б не сказаць, што мне было лянота ехаць па хлеб, але так пачынаць вакацыі нешта не вельмі хацелася. Трэба пачынаць такую важную справу з нечага больш істотнага, чым паездка ў краму. Ну, дый чорт з ім! Яшчэ сваё вазьму, толькі ж першы дзень вялізнага лета!

“Уга, колькі людзей каля крамы назбіралася! Так і ёсць, накаркала старая – размялі хлеб, мабыць ужо і не куплю нікольки”.

– ... я ж кажу – не збірайцеся! Магазін сёння не працуе! Абакралі нас – хлеба не будзе! Людзі, ці то вы аглохлі ці паслеплі? Зараз міліцыя з раёна прыедзе. Разыходзьцеся па хатах! – раўла на натоўп гандлярка Света.

Ніхто не зварухнуўся. Каля прыступак крамы я заўважыў кавалкі шкла, тры скамечаныя пачкі “Астры” і некалькі танных цукерак-“падушачак”, аблепленых чорнымі мурашамі.

– А чым дзяцей карміць? Вумная такая! Не ўвесь жа хлеб вынеслі! – крычаў нехта з натоўпу.

– Ого! Бачыце, як шыбу патаўклі? Няўжо ніхто не чуў? Ай-яй-яй! А рашотку як скурожылі, мабыць, трактарам цягнулі? – спытала ў некага шчарбатая бабулька, абапіраючыся на шэры, зашмальцаваны, крывенькі кіёк.

– Светка, а чарніла ё? Дай хоць пляшку, трэба ж жука патравіць! – ці то пытала, ці то патрабавала кабета ў чырвонай хустцы.

– То хіба, цётка, вы жука віном травіце?

Натоўп гучна рагатнуў.

– А мілыя мае, каб вы рагаталі над сваёй труной! Без пляшкі Грышка і атруты не развядзе, а пурскаць і тым больш не будзе! То дасі ці не?

– Я ж кажу – пайшлі ўсе прэч адсюль! Міліцыя сказала – у магазін нікога не пускаць і нічога не чапаць! – злосна сказала Света, бразнуўшы жалезнымі дзвярыма.

– От, падзярэнька, набо што ніхто замуж не бярэ! Каму яна такая патрэбна, ну пажджы ж, узгадаеш ты мяне! Давядзецца цяперака да Галавастага ляцець – па самагон.

У натоўпе я заўважыў свайго сябра Мішку Сіўца.

– Слухай, а што тут здарылася? – запытаў я.

– Дарэмна яна пра міліцыю сказала, цяперака дакладна ніхто дадому не пойдзе, будуць чакаць тэатра, – быццам бы не пачуў мяне Міша.

– Ды што адбылося? – зноў пытаю я.

– Як "што"? Магазін абчысцілі! Зараз міліцыя павінна прыехаць. Будзеш чакаць? Я то буду! – паглядзеў на мяне Мішка, прымружыўшы ад сонца левае вока на круглым загарэлым твары.

– Не, не буду... я на возера на ровары сабраўся ехаць... А знаюць, хто ўлез?

– Ну ты даеш! Каб жа зналі! Адкуль?

– А дзе цяпер хлеба ўзяць?

– Ха! Не ты адзін такі! Відаў? – патрос у паветры парожняй сеткай-жабрачкай" Міша. – Мо аўталаўку прышлюць?

**2.**

Возера ў нас з гісторыяй! Кожны ведае, што яно ўзнікла дзякуючы майму старэйшаму брату, які, пасвіўшы з бабай каровы, падпаліў вялізнае поле ўшчэнт сухога, высокага трыснягу. Палала дай Бог! Старшыня калгасу прымушаў маіх бацькоў пасля працы браць вёдры ды шкандыбаць тушыць тое балота. Гарэла, мабыць, з паўмесяца, нягледзечы на намаганні калгасу і таты з мамай. Ніколі не забуду шалёныя, крывавыя вочы той чорнай каровы, якая "ўляцела" па самае чэрава ў шэрае пекла, нема раўла з паўгадзіны, сабраўшы даярак з трох фермаў і вяскоўцаў з усяе "Садовай" вуліцы. Падступіцца да жывёліны было нельга, хоць зверху расла зялёная трава, праз якіх пятнаццаць-дваццаць сантыметраў – плавіўся камень. Урэшце карова тыцнулася мысаю ў траву і замаўчала. Яе выцягнулі бульдозерам, накінуўшы жэрдкаю вяроўку на шыю. Калі тушу цягнулі, мама закрыла далонню мне вочы, але я бачыў праз пальцы белыя палоскі костак замест каровіных ног. Шкада жывёлу...

Назаўтра экскаватар пракапаў ад рэчкі канаву, якая заліла тую нізіну. Праз якіх пяць-шэсць год мы там ужо цягалі на вудачку добрых ліноў. Азярына атрымалася што трэба – глыбокая, шырокая, толькі купацца там было немагчыма – багна засмоктвала нават каля берага. Старэйшыя хлопцы спрабавалі мераць глыбіню на плыце – даўжэзныя палкі пахаваліся не дастаўшы дна.

Асабліва мне падабаецца вудзіць у спякотнае сонечнае надвор'е, калі промні вады хоць неяк прабіваюць глыбокую ваду. Тады можна бачыць, як павольна праплываюць вялікія карасі і ліны, чорныя, як вада, таямнічыя, як здані. Ненатуральна доўгі чарот абступаў усё возера, насылаючы цень на

ваду, паплаўкі, рыбака. Лавіць рыбу можна было толькі ў невялікіх плямах, ці як у нас завуць – вокнах, якія робяць граблямі, выграбаючы азёрную ціну і раску на бераг. Восенню чарот жаўцеў, рабіўся сухім і лёгкім, з вялікімі мяцёлкамі наверсе. У непагадзь з моцным ветрам чарот ператвараўся ў жывую істоту і мог гаварыць сіпатым-свісцячым голасам з наваколлем... Тады рабілася страшна, адразу ўзгадваўся выпадак з дзядзькам, які ўтапіўся тут мінулай восенню. Я добра яго ведаў з-за таго, што кожную раніцу сустракаў яго, ідучы ў школу. Ён рабіў слесарам у калгасным аўтапарку. Высокую, тонкую, крыху згорбленую постаць я заўважаў яшчэ здалёк. Сабака, такі ж стары, сівы і кудлаты, як гаспадар, заўсёды плёўся побач. “Пушок” – звалі яго загальцы, толькі добра не помню, сабаку ці мужыка.

Яго жонка моцна піла. Тоўстая, панурая, з чырвоным тварам, заўсёды лаяла матам свайго старэйшага сына, бо той быў вельмі непаслухмяны і гарэзлівы. Любіў збіваць птушыныя гнёзды, вешаць катоў і сабак у школьным лесе. Пальцы на яго руках былі ў бародаўках.

Аднаго разу мы ў апошні навучальны дзень пайшлі класам у лес, каб там на свежым паветры нам выставілі выніковыя адзнакі па ўсіх прадметах. Кожны ўзяў з дому хто што: кавалачак сала, хлеб з маслам... Выбралі добрую сонечную палянку, паскідалі ранцы, паселі. Антон Барысавіч адкрыў журнал і пачаў называць прозвішчы, выніковыя адзнакі за чвэрць і агульную за год. Не паспеўшы дачытаць першага вучня, ён спыніўся і сказаў, што калі нехта хоча ў прыбіральню, то можна адысці крыху ў лес, не трэба саромецца. Тады і я адчуў смурод, што йшоў аднекуль з лесу.

– Вучні, збірайцеся і пайшлі ў школу, зноў “Пушкоў пасынак” сабаку падвесіў! – сказаў наш класны, загарнуўшы журнал.

Як мы яго адразу не заўважылі? Ён вісеў літаральна за дзесяць крокаў ад нас. Невялікі, чорнага колеру, з вывернутай аблезлай галавой і белым языком, працятым жоўтымі ікламі.

У “Пушка” і гэтай “чырванатварай” цёткі былі яшчэ двое агульных дзетак. Якіх я зусім не помню, бо яны згарэлі ў хаце, калі “Пушок” быў на працы, а цётка пайшла на дойку, каб некага там падмяніць.

Пасля гэтага яе разбіў інсульт. Праз нейкі час аправілася, але гаварыць ужо не магла, толькі заўсёды махала рукамі, нібы хацела затушыць той агонь, які паўгода таму пусціў пад адкос іх жыццё. Людзі казалі, што яна звар’яцела. У верасні “Пушковага пасынка” забралі ў спецшколу, што ў Вілейцы, больш яго я ніколі не бачыў. Усе гэта, відаць, і прымусіла “Пушка” зайсці ў цёмную, глыбокую ваду возера, дзе расце доўгі-доўгі чарот.

**3.**

– Клявае?! – пачуў раптам я за спінай.

– Не “клявае”, а “клюе”! І чаго ты так равеш, дурань? – павярнуўшыся, адказаў я.

“Ну, канечне! Так яно мусіць і быць. Толькі чаму так адбываецца заўсёды менавіта са мной? За што і калі, а галоўнае – каго я прагнявіў?”

На сцяжынцы стаяў абуты ў зімовыя боты і брудную ватоўку Толя Сафоненка. “Гэты доўга не адчэпіцца. Не люблю, калі хтосьці замінае мне лавіць! Прыпрэцца, сядзе ззаду і пайшло-паехала: “Колькі злавіў?”, “На што клюе?”, “Ці даўно сядзіш?” А Толя, трэба вам сказаць, трохі прыдуркаваты, з дзяцінства ці як – не ведаю. Адно скажу дакладна: яму больш за сорак, а ён выглядае, як юнак...”

– На хлеб ці на чарвяк? – зноў запытаў Толя.

“І якая яму, прабачце, к д’яблу розніца, на што ў мяне не клюе. Не клюе і ўсё тут! Хоць на хлеб, хоць на чарвяк – што ні пачэпіш – дуля!”

– Ты, Толя, ехаў куды ці так бадзяешся? – не вытрымаў я.

– Я? Як то бадзяюся? Не-е-а, я кароў пасу! – дрыготкім голасам адказаў той.

“Пакрыўдзіўся. Ну і чорт з табой, хутчэй пойдзеш”.

Але я памыляўся. Толя сеў на траву і пачаў нешта мурлыкаць сабе пад нос. Праз хвіліну мычання раптам закрычаў:

– Ой, вот учора варэнне еў, сам варыў у печцы, смаката-а-а!

“Ну, усё – рыбалкі не будзе!”

– Якое варэнне, Толя? Ягад яшчэ не нарасло! Хіба ты яго з крапівы варыў? Якія, блін, ягады ў траўні!

– На што мне твае тыя ягады?.. Устаў я, значыцца, сярэдначы. Накінуў кухвайку, выйшаў на двор і давай лыжкай люмінавай зоркі збіраць ды ў слоік кідаць. Як бач, поўненькі напхаў, дажа не ўсе паўлазілі... Ну тады насыпаў сахару і на печ варыцца... Яшчэ цёплае паеў з батонам, – з задавальненнем распавядаў Толік, паглядаючы на мяне даверлівымі дзіцячымі вачыма.

“Так, цяпер дакладна – трэба зматваць вуды ды ехаць дадому. Шкада? Як піць даць шкада! Нават з паўгадзіны не пасядзеў. А што рабіць? Толя глухаваты, таму раве, як вол. Рыба, якая і была, сышла адсюль”.

– Слухай, а ці не трэба табе каровы заварочваць? Пэўна, ужо дасюль у калгасным жыце ласуюцца? – паспрабаваў схлусіць я.

– Якія каровы? – здзіўлена запытаў Толя, калупаючы пальцам вялізную дзірку ў старым галіфэ.

– Як “якія”! Ты толькі што казаў, што каровы з маці пасеш!

– Не-е-а не пасу, з дзяцінства кароваў не пас. Мы сваю карову ўзімку прадалі. А маці раніцай у космас паляцела. У магазіне хлеба няма, дык там, у космасе, дакладна ё!

“Цьху! Распусціў я вушы. Хто б яму дазволіў бы каровы пасвіць.Трэба прыдумаць нешта іншае”.

– Ты, Толя, пайшоў бы дадому, мо маці твая з космасу прыляцела? Цябе шукае?

– Не-е-а, так хутка не абернецца, я лепш з табой тут пасяжу! Бач, як новыя штаны прадраў? А не, гэта ж мне врагі прастрэлілі, елі ўцёк ад іх у каноплі...

“От, ёлупень! Не, дзякуй, за павагу! Пасядзіць ён тут!”

Я забраў вуду і паехаў па сцежцы ў адваротны бок. Дадому я дакладна не збіраўся. Хацеў зайсці за чарот ды пасядзець, пакуль гэты блажэнны дадому не пацягнецца.

– Эй, ты куда? А хіба гэта твой лісапед? Эй, друх! – крычаў наўздагон Толік.

Пракраўся я досыць далёка ў чарот, які з гэтага боку стаяў трохметровай суцэльнай сцяной. Давялося кінуць велік у крапіву, а сам – у чарот! От, толькі кеды намачыў.

Пакруціўшыся, Толя пашкандыбаў да хаты. Я з палёгкай уздыхнуў.

Выцягваючы нагу з вады, якая ўжо даставала амаль да каленяў, я зачапіўся за нейкі пасак і як стаяў, так і боўтнуўся ў возера. І якая, запытацца, сволач навязала тут вяровак? Давялося выкручваць ды класці на траву ўсё адзенне. Апякаючыся крапівай, басанож, усцягнуў на сцежку свой велік. Закінуў вуды і стаў чакаць. Чамусьці не клявала. Паспрабаваў выцягнуць пасак з возера, каб яшчэ хто не “пакупаўся”. Але ён паддаўся не адразу.

Давялося перакінуць вяроўку праз бярозавы сук і добра пацягнуць. Падымаючы клубы чорнай муці, груз павольна падыходзіў да берага. Цяжка ўявіць маю разгубленасць, калі я ўбачыў брудны пяньковы мяшок, прывязаны за гарлавіну. У такія мяхі мы капаем бульбу, тата заве іх “кітайскімі”.

Дрыжачымі пальцамі развязаў тугі вузел. Змесціва мяха было наступнае: гарэлка “Руская” – пяць паўлітровых пляшак, “Маскоўская” – дзевяць, але маленькія, пяць вялікіх цёмных бутэлек з нечым (налепкі размоклі і паадставалі), хутчэй за ўсё, нейкае віно, кансервы ў бляшанках розных памераў – банак дзесяць-пятнаццаць (адразу лічыў, пасля кінуў). Апошнімі дастаў пяць прыгожых, пузатых бутэлек з доўгім горлам і іншамоўнымі налепкамі. Цікава, чаму гэтыя налепкі не паадставалі ад вады?

– Санька-а-а! – раптам пачуў я.

“Ага, Слівец Мішка. А хто яшчэ з ім?”

– Мабыць, яго тут няма!

Па голасе я пазнаў Дзіму, Мішкавага аднакласніка. Яны абодва старэйшыя за мяне на адзін год. Я з Дзімам не надта сябрую, бо ён крадзе ў бацькі цыгарэты і курыць. Потым палыном трэ рукі, каб не смярдзелі тытунёвым дымам. Я сам спрабаваў, нешта мне не надта спадабалася, шчыра кажучы, зусім не спадабалася. Але я ўзрадаваўся, калі пабачыў іх.

– Хлопцы! Сюды! – крыкнуў я.

– Ну, што я табе казаў, Дзіма, – тут ён!

– Злавіў што? – запытаў Мішка, падыходзячы да мяне.

– Ага, бач, які “ўлоў”, – тыкнуў я вудай у бутэльку.

– Ого, – сказаў Мішка.

– Нават, ого-го! – паправіў Дзіма.

– Тут, у мяшку ляжала?

– Не па вадзе плавала! – важна сказаў я, адчуваючы сябе героем.

– Далёка ад берага?

– Далёка. Глядзі, колькі вяроўкі наматаў!

– Мо там яшчэ што ёсць?

– Табе, Мішка, гэтага мала?

– Ці не з сяльмага гэта дабро? Пацаны, гэта ж каньяк! Жахнем па трохі? – пстрыкнуў пальцам па шыі Дзіма, узяўшы ў рукі прыгожую бутэльку.

**4.**

... – не-а, Дзіма, што ні кажы... ік... а гэтае віно ўкуснейшае за твой каньяк... ік... як “бондараў” вінаград, такое ж салодкае і пахучае... ік!

– А-а, гэта той Бондар, дзе ты шорты падраў, уцякаючы цераз плот. Помніш, Мішка?

– А то, во мне тады ўляцела ад маці за шорты з майкай... ік... новенькія былі. Вот Бондар... ік... ва ўсім вінаваты. Шчытай, вінаградам сваім курэй корміць... ік... а нам за пазуху вінаграда пашкадаваў набраць... ік!

– А мне, хлопцы, лепш падабаецца вось гэта цягучае і салодкае, мабыць, з персікаў, – працягнуўшы Мішку бутэльку, сказаў я.

– Ага, так-та ты тры пляшкі спаскудзіў пакуль выбраў! А гэта куды? Як іх цяпер дадому пацягнем без коркаў? – сказаў Дзіма прыкурваючы недапалак.

– Нічога я не па-пас-папа-ску-дзіў, яны амаль поўныя!

– Ат, ціха вы, газетай заткнем і добра! Наогул, прапаную ўсё віно тут выпіць! Да вечара пратразвеем і дадому... Ого! Ат персікавага і ікота

прапала, пакаж, Саня, якая бутылка, сабе такую вазьму! Дзіма, адкрый сардзіны!

– А тую банку ты ўжэ ўпёр? Ой, яна ж у мяне! Ха-ха...

– От, цікава, а чаму Бондара – “аднаглазы Джэк” завуць? А, хлопцы хто знае? – запытаў я, зручней уладкоўваючыся на траве.

– З-за-за таго, што ў яго адно вока сцяклянае!

– Ні трындзі, Мішка, чаго не знаеш! Вока не можа быць сцякляным, бо калолася б! Напэўна, пласцікавае! Мне маці гаварыла, што ён яшчэ маладым хлопцам вока пацяраў. Самапал рабіў, ці яшчэ якую храновіну... Бах! І ўсё... Блін, а краснае лепш устаўляе, чым вашае жоўтае пойла.

– О, ціфцелі! Саня, будзеш?

– Не-е-е, поўны жывот усяго... Ух! Нават устаць не магу. Па ходу я – п’яны!

– Таму што ты піць не ўмееш. Мы з Мішкам можам яшчэ столькі засадзіць і хоць бы хны! Да, Міша?

– Ага! Помніш, як пілі брагу каля “Мэшынай” калонкі? Трохлітровік палажылі!

– Помню! Яшчэ помню, як ты тады замест дома ў дзецкі садзік ублудзіў і там спаў пад плотам! Пакуль бацька цябе з фанарыкам не знайшоў! – зайшоўся рогатам Дзіма.

– Ідзі ты! Гэта “Трубчыха” прыдумала! Ні было такога! Я дома ў верандзе спаў! Паняў!

– “Паняў-паняў”. А ў яслях качэлі хто – мо я абрыгаў?! Ці Саня? – зноў зарагатаў Дзіма.

Мы рагаталі так, што, мабыць, было чуваць у Татарцы (суседняй з Загаллем вёсцы). Бо неўзабаве пачулі трэск сухога галля.

– Ціха! Блін! Хтось крадзецца? Міша, гэта ты так рагочаш, што нехта пачуў! Заўсёды ты так, усіх “папаліш”! Ці ў клубніку з табой, ці ў агурцы, пастаянна заляціш! – шыпеў Дзіма, падняўшыся на на калені.

– Нічога я не рагачу! Табе здаецца, нікога там няма! – хістаючыся, адказаў Міша. – Я шчас туды парожні “фаўст” кіну, каб табе даказаць!

– Ні нада хлопцы, кідаць, гэта я! – спатыкаючыся аб дзербалознік, выпаўз з крапівы Толя.

– Бляха! Гэтага толькі тут і не хапала! Усім па вёсцы разнясе, што мы хованку нашлі! – сказаў Дзіма.

– Ну хай сабе гаворыць... Віна амаль і не засталося, а гарэлку ніхто і не піў! Хай сабе забіраюць. Ці, ведаеце што, мы можам самі ў магазін занесці, ну тое, што засталося. Мо нам за гэта што дадуць? Ну... ці пахваляць...

– Дурань, ты Міша! Нам за гэта ведаеш што можа быць?

– Ну і што?

– Усё што хочаш! Толькі не пахвальба. Там міліцыя спытае, чаму адразу не сказалі? От і добра, што цябе на другі год пакінулі, мо хоць розуму набярэшся! Толя, а табе што тут трэба? Чаго ты сюды прысунуўся? – не сунімаўся Дзіма.

– А мяне аграном сюды адправіў, каб я паглядзеў, як кукуруза ўзышла! – хлусіў Толік.

– Ха-ха-ха, – зарагаталі мы ўтрох.

– Пэўна, Толік, гэта тая кукуруза, з якой ты варэнне варыў! – ледзь праз смех выдаў я.

– Ладна, Толя. Хадзі да нас, вып’еш сапраўднага каньяку, – прапанаваў Міша, уплятаючы рыбную тэфтэліну. – Дзіма, налі Толіку!

– Куды? Хай са ствала смокча! Самі так п’ем. Толя, рыбу будзеш?

Толік імгненна прысеў на траву, зняў шапку-вушанку і пачаў зубамі грызці пляшачны корак.

– Што ты робіш? Нож жа ё! На! Ух, кудлаты чорт! – Мішка працягнуў сцізорык. – Корак запіхвай у бутэльку, так не дастанеш!

– Ну як Толя, смачна? Га? Добрае віно? На рыбіну...

– А хлеб ё? – спытаў Толя, жуючы сардзіну. – Ух, як пяршак у Галавастага, толькі нечым тхне! Мабыць, з гнілога жыта гналі...

– Якое жыта, гэта каньяк-напітак багоў! – падняўшы палец уверх, сказаў Міша.

– Якіх багоў?

– Тых, Толя, якія на гары былі, як яе там...., а чорт, забыў, карацей, яны там толькі каньяк і смалілі.

– Слухай, Толя, адгадай загадку. Вось бачыш пачак “Паміру”, тут намалёваны горы. Бачыш?

– Бачу!

– Ну тады паспрабуй тут знайсці мядзведзя! Толькі глядзі ўважліва. Хлопцы, не падказваць!

– Нешта не находжу я тут ніякага мядзведзя, – сказаў Толя праз хвіліну.

– А ён, Толік, за горы сраць пайшоў!!! – рагатаў, качаючыся па траве, Дзіма.

– Пацаны, так жарка, можа, скупнёмся? – прапанаваў Дзіма, здымаючы кашулю.

– Я не папруся, мне лянота, – сказаў я.

– А ты, Мішка? Нырнём!

– Гразішча тут! Тут толькі Дадонавы дзеці купаюцца. А вунь там, каля бярозы можна! Толькі там глыбока. А ты, Толя, пойдзеш? Хай бы хоць майткі твае памыліся! – смяяўся Міша, сцягваючы з ног шкарпэткі.

– Я ў возеры не мыюся, я баню дома строю... з бярэзніку... цёплу-у-ю!

– Ну і сядзі тут, сцеражы дабро! Эх, была-не была! – сказаў я, кінуўшы майку на траву, – трэба апаласнуцца.

Утрох мы селі на бярозу, якую амаль што зваліў у возера вецер. Яна высахла, і можна было спусціць ногі ў ваду, не заходзячы ў возера. Потым пачалі хістацца і пырскацца, а потым... я помню толькі халодную, чорную ваду ў мяне над галавой.

**5.**

Я апрытомнеў на беразе. Вакол мітусіліся нейкія людзі. Побач ляжаў Мішка. Я нават не адразу пазнаў яго. Нейкі зусім чужы, абыякавы белы твар. Гэты “твар” нешта спрабуе мне сказаць, але я нічога не чую. З носу у мяне капае кроў. Пасля бачу мокрага Толіка, чамусьці без зімовых ботаў і сваёй “вушанкі”. Ён махае рукам і крычыць... ці мне здаецца?

Дзіму знайшлі толькі пад вечар вадалазы. Каб не было з намі хворага на галаву Толіка, магчыма, яны дасталі б з возера і нас. Так бывае ў жыцці, што дапамога прыходзіць ад таго чалавека, які сам у ёй мае патрэбу. Прыдуркаваты Толік уратаваў нас, выцягнуўшы на бераг. Пасля нарабіў такога крыку, што прыбеглі пастухі.

З таго часу мінула амаль дваццаць гадоў, але я больш ніколі не лавіў рыбу ў возеры, дзе расце доўгі-доўгі чарот...



## Віслава Шымборска



...А ў нас вечна ўсё не так,
бо на нас звініць каўпак –
і мы слухаем да скону
звон ягоны...

# Канец і пачатак

## *Вершы з розных кніг*

### *БАНАЛЬНЫЯ РЫФМЫ*

Якое дзіва: пахне ружа,
і неба ў лужы – цуд на цудзе,
а потым больш, любы дружа,
бо серада – і пошта будзе,
а потым больш: ліст пад вечар,
канверт не рвецца, сэрца б'ецца,
а потым больш: да сустрэчы
тры дні... два дні нам застаецца,
а потым больш: апранацца,
бо спакаваная валізка,
а потым больш: "на дванаццаць
адзін плацкартны" – шчасце блізка,
а потым больш: я ў вагоне,
махае ўслед таполя з вязам,
а потым больш: бо сутонне
і гэтай ноччу будзем разам,

*Пераклад з польскай мовы – Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

а потым большы: сходы кружаць,
а потым большы: “ці чакае?”,
а потым толькі ты і ружа.
– Яна ж такааая дарагааая!

## ЦЫРКАВЫЯ ЖЫВЁЛІНЫ

Пад мазурку скачуць мядзведзі,
леў – праз вогненныя абручы.
Малпа ў жоўтай накідцы на ровары едзе.
Пугай ляскаюць цыркачы.
Грае маршык. Танчаць сабачкі.
Пуга ляскае ўсё люцей.
Слон з графінам становіцца рачкі...

І мне сорамна за людзей.

Граў аркестр, не шкадуючы струн.
Гучна пляскаў турыст і тутэйшы.
Толькі цень ад рукі, што трымала бізун,
на арэне рабіўся даўжэйшы.

## ФАРС-ВАДЭВІЛЬ

Перш каханне наша пройдзе,
потым век і два стагоддзі,
потым зноў мы будзем разам –

калі блазанка і блазан,
улюбёнцы гледачоў,
нас сыграюць у тэатры.

Будзе фарсік з вадэвілем,
трохі танцаў, трохі спеваў,
будзе смех і біс, і брава –
маю пэўнасць.

Будзеш клоўнам амаль што:
гэты пафас, гэты гальштук,
гэта рэўнасць.

Ты каханнем ачмуроны
ад падэшваў да кароны.
Сэрца б’ецца: “Ах, люблю!”
І карона – на зямлю.

Што хацелі – не сказалі.
Развітанне, смех у зале.

За сем рэк, за сем лясоў
ад сябе сябе схавалі.

І нібыта не даволі
нам сапраўдных мук і болю,
добрым словам дабівалі.

Потым выйшлі на паклон
атрымаць апладысменты.
Гледачы сыходзяць спаць,
абсмяяўшы нас дашчэнту.

Яны будуць жыць, любіць,
піць і есці хлеб надзённы,
тыгра ім з рукі карміць.

А ў нас вечна ўсё не так,
бо на нас звініць каўпак –
і мы слухаем да скону
звон ягоны.

## ЯШЧЭ

У запламбаваных вагонах
па Польшчы едуць імёны,
а колькі цягнік ехаць можа
і дзе канец падарожжа –
ня ведаю, і не пытайце.

Імя Мотл кулакамі б'е ў сценку.
Імя Роза заходзіцца ў енку.
Імя Сара крычыць разам з імем
Аарон: "Хоць глыточак нам, гінем!"

Супыніся, бо імем Давіда
тут завецца параза й агіда,
ты зрабілася імем пакут,
для жывых надта цяжкае тут.

Хай бы ймя сына польскім было,
бо чарнявых знаходзяць хутчэй,
ад дабра аддзяляючы зло
па імёнах і форме вачэй.

Супыніся. Хай сын будзе Лех.
Супыніся, яшчэ жывая.
Супыні... Ноч гучыць, нібы смех,
рэха колаў у рэйкі ўбівае.

Над краінаю хмара з людзей,
з хмары дожджык ідзе, ўсё радзей.
Дробны дожджык слязінкаю з вейкі.
Ў чорным лесе губляюцца рэйкі.

Так-та-так, грукочуць колы. Лес вялікі.
Так-та-так, чорным лесам едуць крыкі.
Так-та-так, далятае да вушэй,
Так-та-так, як плача ціша ўсё цішэй.

### АБДУМВАЮ СВЕТ

Абдумваю свет, выданне другое,
папраўленае і дапоўненае:
дурням – на смех,
журлівым – на плач,
лысым – на грэбень,
сабакам – на поўню.

Ёсць раздзел –
Мова Жывёл і Раслін,
слоўнік, каб ты
разумеў усё жывое:
скажаш: “Дзень добры!” –
і ты не адзін,
бо гаварыў
з рыбай, птушкай, травою.

Як, прадчуваная,
робіцца словамі
музыка лесу,
пяяная совамі!
Як фармулюе нам
вожык апорыі!
Думалі, спіць.
А ён бачыць гісторыі.

Час мае ўладу
(ў раздзеле другім)
распараджацца ўсім добрым, благім,
ён на зямлі стаўся богам, каторы
рухае горы, асушвае моры,
кружыць па небе планеты і зоры –
толькі каханкаў яму не змагчы,
надта ўжо моцна спляліся ўначы,
покуль іх душы ў часу й прасторы,
як верабейкі, сядзяць на плячы.

Старасць –
як прыпавесць пра ліхадзея.
Нас, вечна юных, яна не кране.
Кроў ад пакутаў
не халадзее.
Смерць (раздзел трэці)
прыходзіць у сне.

Хай табе сніцца
мелодыя ціхая
ветру, якім тут ніхто
больш не дыхае.
Ты як маленькая іскра,
што гасне да такту.

Смерць надыходзіць, заўсёды такая ж:
ружа ў руцэ, і чым болей сціскаеш,
тым незваротней коле да костак,
і на зямлю ападае пялёстак.

Свет – ён выключна такі. Толькі так
жыць. І памерці ў ягоным святле.
А ўсё астатняе – гэта як Бах,
граны глухім
на піле.

## ***В'ЕТНАМ***

Як цябе завуць, жанчына? – Не ведаю.
Колькі табе гадоў, адкуль ты? – Не ведаю.
Чаму вырыла сабе ў зямлі нару? – Не ведаю.
Даўно тут хаваешся? – Не ведаю.
Чаму ты ўкусіла мяне за палец? – Не ведаю.
Ты ж ведаеш, мы цябе не пакрыўдзім. – Не ведаю.
Ты ўвогуле на чыім баку? – Не ведаю.
Цяпер вайна, мусіш ведаць. – Не ведаю.
Дзе твая вёска? Яшчэ існуе? – Не ведаю.
Гэта твае дзеці? – Мае.

## ***ПРАМОВА Ў БЮРО ЗНАХОДАК***

Я страціла пару багінь па дарозе з поўдня на поўнач,
страціла шмат багоў па дарозе з усходу на захад.
Раз назаўсёды ў небе згасла маё сузор'е.
Знік пад вадою мой востраў, потым другі і трэці.
Нават дакладна не ведаю, дзе падзеліся кіпці,
хто маё футра носіць, хто схаваўся ў мой панцыр.

Калі выпаўзала на сушу, пазбылася ўсіх сваякоў,
адно пазванок у спадчыну застаўся спакон вякоў.
Я скінула столькі скураў, не лічачы ног і костак,
столькі разоў галаву губляла – і не адну.
Даўно на ўсё гэта заплюшчыла трэцяе вока,
махнула на ўсё плаўнікам і ўмыла ў вадзе галіны.

Як вобмаль мяне засталося ад колішняй – смех дый годзе!
На ўсе бакі разляцелася, развеялася, як сон...
Адзінкавая асоба ў пакуль чалавечым родзе,
што толькі ўчора ў трамваі забыла свой парасон.

## КІРМАШ ЦУДАЎ

Цуд самы просты:
тое,
як шмат самых простых цудаў.

Цуд найзвычайнейшы:
ўночы нябачныя брэшуць сабакі.

Цуд, адзін з вельмі многіх:
малая бязважкая аблачынка,
але засланяе цяжкі велізарны месяц.

Цуд – нават шмат у адным:
у вадзе адбіваецца вольха,
і тое, як левы бок вольхі робіцца правым,
і тое, што вольха расце вершалінай уніз,
але, хоць вада вельмі плыткая,
не дасягае дна.

Сённяшні цуд:
як слабы й памяркоўны ветрык
робіцца ў буру віхурай.

Цуд першы-лепшы:
каровы – гэта каровы.

Чарговы, нічым не горшы:
гэты, не іншы сад,
з гэтай, не з іншай костачкі.

Цуд без чорнага фрака й цыліндра:
уверсе лапочуць крыламі белыя галубы.

Цуд, бо ну як яшчэ гэта назваць:
сонца сёння ўзышло а трэцяй пятнаццаць,
а села ў хвіліну на першую.

Цуд, што не дзівіць нас, а дарма:
на руцэ
пальцаў, і праўда, меней за шэсць,
але больш за чатыры.

Цуд, варта толькі зірнуць:
гэты свет – ён паўсюль.

Цуд дадатковы,
як дадатковае ўсё на свеце:
тое, чаго й не ўявіць, але мы ўяўляем.

## *ХТОСЬЦІ ЛЮБІЦЬ ПАЭЗІЮ*

Хтосьці –
значыць не ўсе.
Нават не большасць, а меншасць.
Не лічачы школаў, дзе трэба,
ну, і саміх паэтаў,
выйдзе хіба што два чалавекі на тысячу.

Любіць –
але таксама любяць і суп з макаронай,
любяць блакітны колер і кампліменты,
любяць дым цыгарэтаў і джынсы старыя,
любяць зрабіць па-свойму,
любяць палашчыць сабаку.

Паэзію –
толькі вось чым ёсць паэзія.
Хісткае надта пытанне,
паставіш – можа і ўпасці.
Я гэтаксама не зведала ў ёй ні драбінкі,
проста трымаюся, як за драбінкі.

## *КАНЕЦ І ПАЧАТАК*

Пасля кожнай вайны
хтосьці мусіць прыбрацца,
бо ніякі парадак
не зробіцца сам сабой.

Хтосьці мусіць расчысціць дарогі,
прыбраць з іх друз,
каб маглі праехаць драбіны,
поўныя трупаў.

Хтосьці мусіць корпацца
ў попеле на руінах,
у спружынах канапаў,
у бітым шкле,
у крывавых ашмётках.

Хтосьці мусіць прынесці
бэльку й падперці сцяну,
хтосьці ўставіць шыбы,
павесіць новыя дзверы.

Тут здымаць нецікава,
бо праца займе гады,
дый фатографы ўсе
цяпер на іншай вайне.

Хтось адновіць масты,
а хтось адбудуе вакзалы.
Рукавы – на шматочкі,
так часта іх будуць закосваць.

Той, з мятлой у руках,
яшчэ згадвае, як было.
Гэты ківае ў адказ галавой,
не адарванай снарадам.
Але хутка ўжо з'явяцца тыя,
якім такія размовы
патроху пачнуць надакучваць.

Хтосьці зрэдку яшчэ
адкапае ў кустах
іржою паедзены доказ –
і зацягне на металалом.

Але тыя, хто ведаў,
пра што тут вялося,
паволі саступяць месца
тым, хто ведае мала.
Хто ведае яшчэ меней.
І нарэшце – зусім нічога.

У траве, якой зараслі
ўсе памылкі і ўрокі,
хтосьці мусіць сабе ляжаць,
жуючы сцяблінку,
пазіраючы на аблачынку.

## КОТ У ПУСТОЙ КВАТЭРЫ

Памерці – так нельга з катом.
Што ён будзе рабіць
у пустой кватэры?
Лезці на сценку?
Блукаць сярод мэблі?
Нібы нічога тут не мянялі,
а ўсё змянілася.
Нібы нічога не рушылі з месца,
а ўсе не на месцы.
І вечарамі лямпа ўжо не гарыць.

Крокі чуваць на сходах,
але не тыя.
Рука, што кладзе на талерку рыбу,
таксама не тая рука.

Нешта не так тут ідзе,
не так, як звычайна.
Нешта не робіцца тут,
як павінна.
Нехта быў сабе, быў,
а пасля знік раптоўна
і ўсё, няма.

Паабшуканыя шафы.
Пааблажаныя паліцы.
Спраўджана пад дыванамі.
Насуперак забароне,
параскіданыя нават паперы.
Што яшчэ можна зрабіць?
Толькі спаць і чакаць.

Хай мне цяпер толькі вернецца,
хай толькі прыйдзе.
Ён у мяне запомніць,
як такое рабіць з катом.
Рухацца ў яго бок
зусім памалютку,
нібы й не надта хацелася,
на смяротна пакрыўджаных лапах.
І ніякіх там скокаў, ніякіх піскаў, хаця б спачатку.

## З УСПАМІНАЎ

Мы сядзелі, размаўлялі –
і раптам замоўклі.

На тэрасу выйшла дзяўчына,
такая прыгожая,
занадта прыгожая
для нашага спакойнага жыцця тут.

Бася ў паніцы зірнула на мужа.
Крыстына сама не заўважыла,
як паклала далонь на рукі Збышку.
А я падумала: пазваню табе,
скажу, каб не прыязджаў яшчэ пару дзён,
бо абяцаюць дажджы.

І толькі Агнешка, удава,
шчыра ўсміхнулася прыгажуні.

### ***ДАЛОНЬ***

Дваццаць сем костак,
трыццаць пяць мышцаў,
каля дзвюх тысяч нервовых клетак
на кожным кончыку нашых пяці пальцаў.
Гэтага цалкам дастаткова,
каб напісаць "Майн Кампф"
або "Віні-Пуха".

### ***ДА ЎЛАСНАГА ВЕРША***

У найлепшым выпадку
цябе, мой верш, будуць уважліва чытаць,
каментаваць і вучыць напамяць.

У горшым выпадку
цябе проста прачытаюць.

Трэцяя магчымасць –
цябе сапраўды напішуць,
але праз хвіліну выкінуць у сметніцу.

Ты маеш яшчэ адно выйсце –
знікнуць ненапісаным,
нешта радасна муркаючы сабе пад нос.

Францішка Уршуля Радзівіл



...Мараль тут простая:
у знешнасці бычынай
Няпроста часам распазнаць мужчыну...

# Выкраданне Еўропы

А с о б ы:

Е ў р о п а
1-я П а н н а
2-я П а н н а
3-я П а н н а
4-я П а н н а
Б ы к, ён жа Ю п і ц е р
А р л е к і н
Л а у р а

*Пераклад з польскай мовы – Наталлі РУСЕЦКАЙ.*

*Сцэнічная адаптацыя – Сяргея КАВАЛЁВА.*

## ІНТЭРМЕДЫЯ ПЕРШАЯ

На авансцэне з'яўляюцца А р л е к і н .

А р л е к і н (*гучна*). Шаноўнае спадарства! Пані і панове! Ад імя яснавельможнай княгіні Яемосці Францішкі Уршулі Радзівілавай з Карыбутаў Вішнявецкіх,

ваяводзінай віленскай, вялікай гетманавай Вялікага Княства Літоўскага маю гонар запрасіць вас у Нясвіжскі тэатр на прадстаўленне “Шчаслівае няшчасце, або опера Еўропы”. На прадстаўленне паводле п’есы, уласнаручна напісанай нашай міласцівай пані і прысвечанай яе мужу, яснавельможнаму князю, Ягамосці Міхалу Казіміру са слаўнага роду Радзівілаў гербу “Трубы”, ваяводзе віленскаму, вялікаму гетману Вялікага Княства Літоўскага! Нашаму шляхетнаму пану, ліцвінскаму Гектару, славянскаму Геркулесу, які з Божай ласкі шчасліва пачынае сорак чацвёрты год свайго веку на радасць блізкім і ўсёй Айчыне! Нашае прадстаўленне ўганаравалі сваёй прысутнасцю славутыя госці, найважнейшыя асобы Вялікага Княства Літоўскага! (*Кланяецца ў залу*). Вітаем у зале паноў-міністраў канцлера Яна Фрыдэрыка Сапегу, маршалка Паўла Караля Сангушку, кашталяна Міхала Казіміра Агінскага, пісара Антонія Міхала Паца, харунжага Гераніма Фларыяна Радзівіла, стражніка Антонія Пацея, мечніка Януша Аляксандра Сангушку, чашніка Людвіка Гервазыя Аскерку, лоўчага Міхала Антонія Сапегу, крайчага Марціна Мікалая Радзівіла. Вітаем нашых гасцей ваяводу люблінскага Тамаша Замойскага, ваяводу бельскага Антонія Міхала Патоцкага, генерала яе імператарскай вялікасці Лювэна і палкоўніка князя Валконскага! Асабліва цёплыя вітанні нашым пекным паням: Тэклі Вішнявецкай з Радзівілаў, Барбары Радзівіл з Завішаў, Ганне Радзівіл з Мыцельскіх, Караліне Радзівіл з Пацеяў і іншым, іншым, іншым – менш заможным, але не менш прыгожым! (*Узіраецца ў залу*). А вунь там збоку прыткнуўся гандляр Шмуйла, які па зручнай цане прадаў яснавельможнай княгіні тканіну для дэкарацый ды касцюмаў і за гэта атрымаў прывілей пажыццёвага наведвання нашага тэатра. Вітаем цябе, Шмуйла!

Публіка вітае Шмуйлу воплескамі. Тым часам на авансцэну няспешна выходзіць Л а у р а з кошыкам у руках. Убачыўшы дзяўчыну, Арлекін замаўкае і аблізваецца як кот на смятану.

А р л е к і н (*радасна*). А гэта мая нарачоная Лаура. Яна не князёўна, не ваяводзіна і нават не шляхцянка, але каб вы толькі ведалі, панове, якая гэта цудоўная дзяўчына і як я яе кахаю!.. (*Летуценна*). Чамусьці паэты параўноўваюць прыгожую дзяўчыну з духмянай кветкай, альбо з зіхатлівай зоркай. Як на мой просты розум, гэта няўдалыя параўнанні. Жартаўніцу Лауру я параўнаў бы са шклянкай свежага малака, якую хочацца выпіць летнім ранкам, альбо... з кольцам далікатна падсмажанай кілбаскі, пададзенай на абед. Так і хочацца яе ўкусіць! (*Узяўшы сябе ў рукі*). Такім чынам, шаноўнае спадарства, “Выкраданне Еўропы”! Гісторыя знакамітая і надзвычай павучальная...

Л а у р а (*перапыняе Арлекіна*). Арлекіне, ніякіх гісторый, пакуль не выканаем загад княгіні!

А р л е к і н. Які загад, любая мая?

Л а у р а. Перад пачаткам прадстаўлення пані Францішка прапануе гледачам разгадаць некалькі загадак.

А р л е кі н (*занепакоена*). А што за загадкі?

Л а у р а. Вершаваныя загадкі ўласнага сачынення яснавельможнай княгіні!

А р л е к і н. Вершаваныя? Уласнага сачынення княгіні? (*У адчаі*). Яны ніколі не разгадаюць!

Л а у р а (*здзіўлена*). Чаму?

А р л е к і н. Ты ведаеш, якая сёння сабралася публіка? Паглядзі, хто сядзіць у зале!

Л а у р а (*няпэўна*). За кожную разгаданую загадку гледача чакае каштоўны падарунак ад пані Францішкі.

А р л е к і н. Ды хоць усе скарбы свету! (*Нервова ходзіць па авансцэне*). Я разумею яшчэ, каб загадкі былі кшталту: “Два кольца, два конца, посередине гвоздик!” Але напісаныя самой княгіняй...

Л а у р а (*сярдзіта*). У такім разе, спектакль ніколі не пачнецца. І я ніколі не выйду за цябе замуж. (*Надзьмуўшыся, адварочваецца*).

А р л е к і н. Але чаму?

Л а у р а (*уздыхае*). Бо мяне выганяць са службы, а цябе – з тэатра. (*Убок*). Выйсці замуж за акцёра – шаленства, але за беспрацоўнага акцёра – звычайнае глупства!

А р л е к і н (*да публікі*). Міленькія, родненькія, дапамажыце! Я разумею, што вы прыйшлі ў тэатр адпачыць, парагатаць, выпіць у антракце шампанскага. Але я вас вельмі прашу: пастарайцеся. Напружце свае мазгі і адгадайце гэтыя няшчысныя загадкі. Выратуйце беднага акцёра. (Спускаецца ў залу.) Я веру: вы зможаце. (*Узіраецца ў твары гледачоў.*) Вось, напрыклад, ты. Альбо ты. (*Да Лауры*). Лаура, давай загадкі! Яны згодныя!

Пачынаецца разгадванне загадак. Лаура вымае з кошыка скрутак паперы, чытае загадку. Гледачы спрабуюць разгадаць, Арлекін за спіной Лауры падказвае на мігах разгадку. Таму, хто адгадаў, Арлекін дае падарунак, а Лаура тым часам вымае з кошыка чарговы скрутак з загадкай.

Л а у р а (*чытае загадку*):

То, як з хмары, дробны дождж з глянцу праліецца
То з касматасці густой бляск табе ўсміхнецца.
Па-майстэрску палюсы ходзяць і ківаюць,
Моваю сваёй без слоў трапна прамаўляюць.
Як схаваюцца яны, свет вакол знікае,
Так імгненна крые іх засланка жывая.
Іх разумны чалавек і звер дзікі мае.
Хто іх першы назаве, першы адгадае?

Арлекін спачатку на мігах, а потым шэптам падказвае гледачам: “Вочы”. Гледачы адгадваюць загадку, Арлекін аддае падарунак.

Л а у р а (*чытае наступную загадку*):

Для патрэбы ўсе мяне чорным аздабляюць,
Я маўчу, а праз мяне шмат паведамляюць:
Часам маю я ў сабе розныя дэкрэты,
І праекты, і правы, і яшчэ сакрэты,
Мне каханне аддае таямніцы сэрца,
Раз – сяброўства, раз – вайна праз мяне вядзецца.
Чым танейшая, тым я лепшая для справы.
Скажа хто я, без праблем згадчык дасканалы.

Арлекін зноў на мігах, а потым шэптам падказвае гледачам: “Папера”. Гледачы адгадваюць загадку, Арлекін аддае падарунак.

Л а у р а (*чытае чарговую загадку*):
Я сяджу ў цеснай і доўгай вязніцы,
Слушна трымаюць мяне ў таямніцы,
Толькі я выйду – кідаюся ў вочы,
Злую прыгоду заўжды напрарочу.
Быць сарамлівай і сціплай не ўмею,
Ды, калі голая, я чырванею.

Арлекін зноў на мігах, а потым шэптам падказвае гледачам: “Шпага”. Гледачы адгадваюць загадку, Арлекін аддае падарунак.

Л а у р а (*чытае апошнюю загадку*):
Гэта цуд сэрца, што дзве цытадэлі
Высяцца поруч сярод чыстай белі,
Ззяюць рубінамі іх бастыёны,
Кшталтам зусім, як абрысы Белоны.
Што ж трэба ведаць пра крэпасці тыя?
Іх не здабудзеш аблогамі злымі,
Толькі калі арсенал запалае,
Хай прэтэндэнт на пажар паспяшае.

А р л е к і н (*сам адгадвае апошнюю загадку*). Жаночыя грудзі! Мне належыць узнагарода! (*Выхоплівае з рук Лауры падарунак.*) Усе загадкі разгаданыя, можна працягваць спектакль! (*Да публікі*). Дзякуй, даражэнькія! Як я вас люблю!

Л а у р а (*пакрыўджана*). А мяне?

А р л е к і н (*пранікнёна*). Цябе, Лаурачка, я кахаю. (*Убок, строга*). У нашай роднай мове гэтыя словы маюць розныя значэнні. (*Да Лауры*). Цяпер ты выйдзеш за мяне замуж?

Л а у р а (*какетліва*). Магчыма. Але спачатку – паслухаю оперу. (*Адыходзіць гуллівай хадой*).

А р л е к і н. Так, так, опера! (*Абвяшчае оперу*). Шаноўнае спадарства! Пані і панове! Зараз вы пабачыце – а яшчэ і паслухаеце – оперу яснавяльможнай княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл “Шчаслівае няшчасце, або опера Еўропы”. Гісторыя простая, а надзвычай павучальная, асабліва для маладзенькіх паненак, якія шукаюць моцных пачуццяў і даюць звесці сябе першаму лепшаму. Сюжэт оперы выкладзены ў наступным Summa summarum. (*Адкашліваецца, разгортвае скрутак пергаменту і спявае фальшывым голасам*):

Адну гісторыю вам зараз раскажу я:
Аднойчы панна маладая, прыгажуня
Гуляла берагам у карагодзе служак.
(У хвалях рэчак ціхіх чэрці ходзяць гужам.)
І гэтак сталася, што ўбачыла нябога
Быка на беразе – бычыну племяннога!!!
А для прысутных, пэўне, гэта не ў сакрэце,
Як небяспечна стрэць быка слабой кабеце,
Што лепей будзе, не чакаючы развязкі,
Сігаць гародамі, губляючы падвязкі!

Але тады цвіла вясна і ветрык гойсаў.
Было паненцы усяго шаснаццаць вёснаў.
Яна даверлівай была, адкрытай, шчырай,
Не мела досведу ў адносінах з бычынай.
А што далей было, убачыце вы самі.
Дадам, што паннaчку Еўропай называлі.

Аднекуль даносіцца чароўная музыка, мілагучны дзявочы спеў: “Але тады цвіла вясна і ветрык гойсаў. Было паненцы усяго шаснаццаць вёснаў. Яна даверлівай была, адкрытай, шчырай, Не мела досведу ў адносінах з бычынай...”

Заслона ўзнімаецца, Арлекін згортвае скрутак і сыходзіць.

## Сцэна першая

Гледачам адкрываецца ідылічны малюнак магнацкага парку над ракой. Па ўзбярэжжы няспешна прагульваецца Еўропа ў таварыстве яшчэ чатырох дзяўчат.

Е ў р о п а:
Дзеванькі любыя! Вы паглядзіце,
Хораша як! Ціха рэчка бруіцца!
Хваляй ласкаваю бераг цалуе
На хуткаплынных глыбінях віруе,
Дорыць у спёку сваю прахалоду,
Вабіць, нібы абяцае прыгоду.
Так прыцягальна зіхціць і плюскоча,
Хочацца ў плынь серабрыстую скочыць!

П а н н а I:
Часта прывабнай бывае вадзіца

П а н н а II:
Лепей не лезці, бо можна ўтапіцца.

П а н н а III
Люстра вады шмат каго захапляе.

П а н н а IV
Неасцярожных рака паглынае.

Е ў р о п а:
Кожны, як хоча, няхай памяркуе,
Хто пажадае, ў рацэ зануркуе.
Іншыя з берагу будуць дзівіцца
І захапляцца празрыстай крыніцай.
Столькі вакол прыгажосці ў прыродзе!
Дык заспявайма, дзяўчаты, у згодзе.

П а н н а I:
Песня вясёлая хай разліецца!

П а н н а II:
Па-над прасторам усцяж панясецца!

П а н н а III:
Птушкай народзіцца звонкагалосай!

П а н н а IV:
І даляціць да самюткіх нябёсаў.

Х о р п а н е н а к:
Дзень сонечны цудоўны!
Вятрыска неўгамонны
Разносіць спевы нашы
Над рэчкай і над пашай.

Нам добра тут жывецца,
Спакойна сэрца б'ецца:
Без клопатаў штодзённых,
Без хіжых маладзёнаў.

Мы цешымся свабодай,
Раздоллем і пагодай.
Навошта нам каханне?!
Гуляйма да змяркання!

## Сцэна другая

Нечакана з рачных хваляў вылазіць на бераг вялізны чорны Б ы к. Абтрасае з сябе ваду і ўтароплівае вочы проста на П а н е н а к. Паненкі таксама заўважаюць быка, крычаць, лементуюць, мітусяцца.

Е ў р о п а:
Ах, пачвара! Дух займае!
Бык жахліва выглядае!
Косіць чорным бычым вокам,
Ціха падыходзіць бокам,
Настаўляе рогі грозна.
Уцякаць, напэўна, позна.
Ах, не збегчы, не схавацца,
І ніяк не ўратавацца!

П а н н а I:
Бегчы трэба ва ўсе ногі!

П а н н а II:
Бо узніме бык на рогі!

П а н н а III:
Жудасны такі бычына!

П а н н а IV:
Што супроць яго дзяўчына?!

П а н н а I:
Нас ніхто тут не пачуе!

П а н н а II:
Не паможа, не ўратуе!

П а н н а III:
Падыходзіць! Не чакайма!

П а н н а IV:
Што ёсць сілы уцякайма!

Спалоханыя паненкі вішчаць і ўцякаюць ад ракі. Толькі Е ў р о п а стаіць нерухома і як загіпнатызаваная глядзіць на прыбыша. Бык палохае і адначасова прыцягвае яе. Нечакана Бык разварочваецца і сыходзіць – відаць, пакрыўджаны непаважлівымі паводзінамі паненак.

## Сцэна трэцяя

Пабачыўшы, што Б ы к сышоў, П а н е н к і супакойваюцца і ўсцешаныя вяртаюцца на бераг. Толькі Е ў р о п а не радуецца, яна не можа адвесці вачэй ад хваляў, у якіх знік Бык.

Е ў р о п а:
Знікла з вачэй таямнічая постаць.
Бык не прыходзіў, каб нас напалохаць.
З выгляду страшны, суровы, пануры,
Ён памяркоўнай быць можа натуры.
Быча, вярніся да нас, адмяніся!
Ты паслухмяным, лагодным з’явіся!
Мы прывітаем цябе і з дарогі
Пышна аквецім і шыю, і рогі.

Прываблены пяшчотным спевам Еўропы Бык вяртаецца. Еўропа робіць знак дзяўчатам, каб паводзілі сябе ціха.

П а н н а I:
Вяртаецца! Я млею ад трывогі!

П а н н а II:
Баюся! Настаўляе грозна рогі

П а н н а III:
Я не хачу са светам развітацца!

П а н н а IV:
Ой, ці не лепей будзе нам схавацца?

Е ў р о п а:
Але глядзіце – ён зусім лагодны.
Дык пераможам страх неверагодны.
Пайду я першаю, прылашчу звера.
Такі спакойны, варты ён даверу.

Еўропа адважна падыходзіць да Быка. Бык застаецца стаяць на месцы, адно касавурыцца на прыгажуню. Еўропа спачатку асцярожна, а потым усё смялей гладзіць Быка.

П а н н а I:
Не давярайма гэтакай пачвары!

П а н н а II:
Бо ваяўнічасць у яго на твары!

П а н н а III:
Памалу! Надта блізка не хадзіце!

П а н н а IV:
Ой, усміхаецца, дзяўчаты, паглядзіце!

Е ў р о п а:
Пакуль не паказаў акрутны нораў,
Давайце паспрабуем угаворам
Яго ўлагодзіць, ласкаю прынадзіць.
Ці можна мне, Бычок, цябе пагладзіць?
Сам падстаўляе шыю, хіліць голаў!
Магутны, дужы, а пакорны, як шаўковы!
Падобны да ляснога бога – Пана,
Якому сэрца аддае любая панна.
Нясіце стужкі, кветачкі-бутоны,
Вяночкі плесці будзем і фестоны!

П а н н а I:
Ён рукі ліжа, як цалуе! І міргае!

Е ў р оп а:
Пяшчота звера дзікага кранае.

П а н н а II:
Вось кветкі, стужкі, ланцужкі, кляйноты.

П а н н а III:
Гірлянды будуць ладнае работы!

Е ў р о п а:
Я апляту вянкамі пышна рогі,
Вы – аздабляйце шыю, плечы, ногі.

Еўропа з дзяўчатамі ўпрыгожваюць Быка. Той не супраціўляецца, паводзіць сябе пакорліва і лагодна

П а н н а I:
Не чула я, не бачыла такога:
Звер дзікі абярнуўся у ручнога!

П а н н а II:

Бо слова добрае такую сілу мае:
Натурыстых у ціхіх замяняе.

П а н н а III:

Каго любоў і дабрыня сагрэе,
Той сэрцам і душою ласкавее.

П а н н а IV:

Ён ад самоты мог тут занудзіцца,
Цяпер ад радасці – увесь ласніцца!

Е ў р о п а:
(*зусім асмялеўшы*)

Паслухайце, калі так спрытна сесці,
На спіне мог бы ён мяне пранесці.
Ласкава шыю гне, па-ціху крочыць –
Дапамажыце мне хутчэй ускочыць!

Дзяўчаты дапамагаюць Еўропе забрацца на спіну Быка.

П а н н а I:

Ах, як прыгожа! Важна выглядае!

П а н н а II:

Ідзе спакойна, паню не скідае!

П а н н а III:
(*устрывожана*)

Ён азіраецца, на ношу пазірае!

П а н н а IV:
(*спалохана*)

Глядзіце, сёстры! Ён бяжыць, знікае!

Бык разварочваецца і з Еўропай на спіне кідаецца ў рачныя хвалі.

Е ў р о п а:

Ратуйце!
Людзі!
Гвалт!
Дапамажыце!
Зрабіце нешта!
Што вы ўсе стаіце?!

Х о р:
(*панны лямантуюць*)

Леты нашы, вёсны!
Нейкі цуд дзівосны
Адбыўся!

Ціхі Бык рахманы
Гэтак нечакана
Змяніўся!

Мо ў бычынай скуры
Бог ліхой натуры
Хаваўся:

З паняю за мора
На бяду нагора
Сарваўся!

Хто нам дапаможа?
Бацьку мы не можам
Прызнацца.

Дзе шукаць ратунку?
У якім кірунку
Падацца?

## ІНТЭРМЕДЫЯ ДРУГАЯ

На сцэне з'яўляецца Арлекін, падыходзіць да лямантуючых дзяўчат.

А р л е к і н. А ці не казаў я вам, што забавы з дзікай бестыяй прыкра заканчваюцца для даверлівых паненак? Будзьце ж разумнымі дзяўчынкамі і не бярыце прыкладу з вашай легкадумнай сяброўкі. Усё, прадстаўленне скончана. Заслона! (*Робіць знак рукой нябачнаму машыністу сцэны. Заслона павольна апускаецца*). А мараль з нашай гісторыі выкладзена ў наступным *motto*:

Цікаўнасць не адну душу згубіла,
Нязнанай прыгажосцю спакусіла.
А хто за ценем зваблівым памкнуўся,
Адразу ж у турботах апынуўся.
Бо хто на небяспеку не зважае,
Нібы матыль у полымі згарае!
Каб у жыцці вам не расчаравацца,
Здалёку лепей ад быкоў трымацца!

З залі чуваць незадаволены шум, крыкі абурэння гледачоў. На сцэне з'яўляецца раз'юшаная Л а у р а.

Л а у р а (*рукі ў бокі*). Як "усё"? Ты здзекуешся?

А р л е к і н. Але ж дарагая мая...

Л а у р а. А дзе вялікае каханне? Дзе шчаслівы фінал? (*Плача*).

А р л е к і н (*апраўдваецца*). Разумееш, гэта камічная опера.

Л а у р а. І ты думаеш, пасля такой камічнай оперы я пагаджуся выйсці за цябе замуж? Пасля тваіх зласлівых насмешак над жанчынамі – бачыць цябе не хачу!

А р л е к і н. Якія насмешкі, дарагая? Ты ж ведаеш, як я люблю жан-

чын, а асабліва такіх маладзенькіх і прыгожых дзяўчат як ты. (*Спрабуе абняць Лауру*).

Л а у р а (*адштурхоўвае Арлекіна*). Я сказала – не падыходзь! Па табе усім дзяўчатам адно ў галаве – як хутчэй выйсці замуж. Усё адно за каго: хоць за быка!

А р л е к і н (апраўдваецца). Але ж гэта алегорыя! Старадаўні міф!

Л а у р а. За гэтым міфам схавана твая агідная мужчынская сутнасць! Не пайду за цябе! Увогуле не выйду замуж! (*Абражаная да глыбіні душы, сыходзіць*).

А р л е к і н (*у адчаі*). Лаура, даруй! (*Апраўдваецца ці то перад Лаурай, ці то перад гледачамі*). Гэта быў толькі жарт. Нявінная імправізацыя. (*Крычыць*). Пані і панове! Прадстаўленне працягваецца! (*Робіць знак рукой аркестру*). Расчараваныя гледачы плачуць, падманутая гераіня раве як карова, а дзікі бык раптоўна ператвараецца ў бога Юпітэра!

Гучыць урачыстая музыка. Заслона ўзнімаецца

## Сцэна чацвёртая

Вачам гледачоў адкрываецца рэзідэнцыя Юпітэра, схаванаю ў адным з маляўнічых марскіх курортаў. Е ў р о п а стаіць адна на беразе мора і голасна плача.

Е ў р о п а:

Адна рабіць што буду я ў краіне дзікай?
Зламысны звер мяне з зямлі радзімай выкраў,
Пакінуў тут на беразе пустынным
А сам уцёк у зараснік раслінны.
Чаму мяне не пахавалі ў моры хвалі?
Чаму мяне даўгія рогі не працялі?
Свой лёс ліхі гатова я праклясці!
У чым віна мая? За што мне ўсе няшчасці?
Багі! Юпітэр! Ах, Дыяна і Юнона!
Той Бык не быў маім сужоным-нарачоным,
А мне так дзіўна, нібы сон мой перарваўся,
Нібыта кінуў той, хто мне ў каханні кляўся!
Сляпы Амур глыбока сэрца раніў.
Навошта мне такое дзіўнае каханне?

З'яўляецца Б ы к. Набліжаецца да Еўропы і – о, цуд, – скідвае з сябе убранне і перад вачыма здзіўленай дзяўчыны і яшчэ больш здзіўленых гледачоў з'яўляецца Юпіцер у сваім сапраўдным абліччы!

Ю п і ц е р:

Цябе, Еўропа, не забуду, не пакіну!
Мяне краса твая навекі паланіла!
Ярмо каханне мне на шыю залажыла,
Яно Юпітэра ў быка перамяніла!
Бычына – дзікі звер, яму чужыя словы,
Таму ён звычаем старым наладзіў ловы.
За ўсе пакуты – вось табе узнагарода:
Імя тваё вядома будзе між народаў,
Хачу за тое, што цябе я знёс употай,
Адну чацвётрую зямлі назваць Еўропай!

Е ў р о п а:

Ах, не патрэбныя мне слава, уладанні!
Я толькі марыла пра шчырае каханне!
Каб мой сужонак быў ласкавы, клапатлівы,
Каб мы усё жыццё з ім пражылі шчасліва!

Ю п і ц е р:

Дзяўчатак-служак я табе назад вяртаю.
За жарты ўсе свае цябе перапрашаю.
Як сапраўды мяне кахаеш і шануеш,
То усміхнешся мне зычліва і – даруеш!
І верыць хочацца, што так яно і будзе.
А шчасцю нашаму няхай зайздросцяць людзі.

З'яўляюцца дзяўчаты служкі, радуюцца шчасцю Еўропы. Разам з імі з'яўляецца на сцэне і А р л е к і н.

Х о р
(*усе разам*)

Бура сціхне, злагаднеюць хвалі.
Разам з імі знікнуць нашы жалі.
Дзякуем за шчасныя мы лёсы,
Спевы нашы чуюць хай нябёсы.
Хай усе нягоды адыходзяць,
А любоў усіх людзей пагодзіць,
Радасцю яна заменіць гора,
У імгненне асалодзіць горыч,
Бо ніхто кахання не адпрэчыць,
Раны ўсе яно само залечыць
І пакуты ўсе узнагародзіць,
Добрыя адносіны народзіць,
Сэрцы назаўсёды паяднае,
Бо каханне ўсё перамагае!
Жыць каханне ў вечнай славе будзе,
Покуль не звядуцца ў свеце людзі!

А р л е к і н (*да гледачоў*). А мараль з нашай гісторыі, шаноўныя спадарыні, вельмі простая: нават са звычайнага быка – пры ўмелым выхаванні і адрабінцы цярплівасці – можа атрымацца добры муж!

Х о р
(*усе разам*)

Мараль тут простая: у знешнасці бычынай
Няпроста часам распазнаць мужчыну,
Але пры ласцы – клопаце нядужым
Бык можа стацца дасканалым мужам!

На сцэну выбягаюць шэсць Х л о п ч ы к а ў-Б ы ч к о ў, дзяцей Юпітэра і Еўропы, і пачынаюць вясёлы тэмпераментны танец.

З а с л о н а



Рыгор Барадулін



...каму верхам, каму нізам –
гэта будзіць камунізам...

# Гаваркое слова,

## *альбо Жыццё, як яно ёсць...*

### ЦУД

Рыгор Барадулін – чарадзей беларускай паэзіі.

Што такое паэзія? Сярод іншага – гэта выяўленне магчымасцяў мовы. Ці інакш: паэзія – гэта мова ў яе вяршынным выяўленні.

Рыгор Барадулін – чарадзей беларускай мовы.

Параўнайце тое, што мы чытаем у сённяшніх (беларускамоўных, якія засталіся) газетах, на беларускамоўных (якія ёсць) інтэрнетных сайтах з тым, што напісана ў "Руме", "Нерушы", "Вечаллі", іншых кнігах Рыгора Барадуліна. Не па змесце, а па лексіцы параўнайце, граматыцы, сінтаксісе. Гэта не проста якасна адрозныя, гэта розныя мовы. І не толькі таму, што адна празаічная, другая паэтычная: яны розняцца так, як розніцца штучнае і натуральнае. Прычым, паэтычная мова (у канкрэтным выпадку – мова Барадуліна), якая найдалей ад гутарковай, выглядае натуральнай, а мова празаічная (газетна-інтэрнетная), якая да гутарковай найбліжэй – штучнай. Такой, нібы на ёй пішуць і размаўляюць

не носьбіты мовы, а замежнікі, перакладчыкі. І такую няўклюдную, машынную (гуглаўскаю) мову ўсё большая частка яе карыстальнікаў пачынае ўспрымаць як натуральную – і як натуральную скарыстоўваць: менавіта на ёй многія аўтары пішуць сёння і прозу, і вершы.

Мова спрашчаецца. Машынізуецца, нібы спраўджваючы тэорыю "лінгвіста-марксіста" Н.Я. Мара: "Будучыня мовы – мысленне, якое вырастае ў вольнай ад прыроднай матэрыі тэхніцы".

Гэта датычыць не толькі нас, працэс сусветны. Шмат дзе (у тым ліку ў нас) ён накладваецца на працэс выцясненне роднай мовы – і абодва працэсы, супадаючы, паскараюць адзін аднаго.

Усё гэта небяспечна. Вельмі. І калі б толькі для літаратуры – такой бяды. Нават калі б толькі для мовы...

Прырода мовы, нягледзячы на тое, што быў такі найвыбітны мовазнаўца, як Вільгельм Гумбальдт (як і прырода чалавека, нягледзячы на тое, што быў такі найвыбітны прыродазнаўца, як Чарльз Дарвін), дасюль застаецца загадкавай. У набліжэннях да разгадкі першынство належыць таму ж Гумбальду, які і па сёння – найбольшы аўтарытэт у мовазнаўстве. "Мова народа ёсць ягоны дух і дух народа ёсць ягоная мова – цяжка ўявіць сабе нешта больш тоеснае" – вось асноўная канцэпцыя Гумбальдта, якую падзялялі ўсе вядучыя лінгвісты свету, у тым ліку гэтакі аўтарытэтны вучоны ў славянскім свеце, як А. Патэбня. Менавіта Гумбальдт увёў паняцце "моўная свядомасць народа" і сцвярджаў, што як чалавек (народ) стварае мову, гэтаксама і мова стварае чалавека (народ). Кожная мова апісвае вакол народа, якому яна належыць, круг, выйсці з якога можна толькі ў тым выпадку, калі ступіш у круг іншы.

З гэтага вынікае: іншы круг – іншая мова. Іншая мова – іншы народ.

Каб было больш зразумела, як пад уплывам іншай мовы мы можам стаць (па свядомасці, па менталітэце) не тымі, хто мы ёсць, прывяду прыклад (найблізкі) з гісторыі ўплываў.

На сучасную рускую мову (якую люблю і супраць якой, як і супраць любой іншай мовы, нічога не маю) вялікі ўплыў аказала не толькі мова царкоўнаславянская (з якой увайшлі ў рускую, да прыкладу, дзеепрыметнікавыя, якія цяжка вымавіць, словы і словазлучэнні: предшествовавшее произошедшему), але і цюркскія мовы. Найбольш відавочны гэты ўплыў у сучасных рускіх прозвішчах: Иванов, Петров, Сидоров. Этнічна рускія прозвішчы, якія ўзніклі да часоў Залатой Арды і захаваліся ў фальклоры, іншыя: Илья Муромец, а не Муромцев. Тут што істотна? Тое (і яно выяўляецца, адчуваецца ў мове), што Муромец – чалавек сам па сабе, самастойны, а Муромцев – не зусім. У цюркскіх мовах не толькі імёны, але і ўсе рэчы абавязкова суадносяцца з асобай, якой належаць. Без канкрэтызацыі таго, каму яны прыналежныя, ні чалавек, ні рэч як бы і не існуюць. Усімі і ўсім нехта павінен валодаць, над усім і ўсімі гаспадарыць. Шах, бай... цар. Гэтакі менталітэт – і ён зафіксаваны ў мове. Яно не добра і не кепска, проста яно так ёсць. Там, на Усходзе. Але ці яно супадае з тым, чым ёсць мы?.. Тут, на Захадзе.

Мы на мяжы кругоў. Пытанне ў тым, ці хочам мы застацца тымі, хто мы ёсць? Беларусамі. Еўрапейскім народам у еўрапейскай дзяржаве.

Сёння ўсё часцей можна пачуць: час нацыянальных дзяржаў прамінуў. На змену ім прыходзяць цывілізацыйныя дзяржавы, якія развіваюцца больш паспяхова. Найпершы прыклад: Кітай.

Добра, няхай так. Але я не чуў і не чытаў, каб хто-небудзь у цывілізацыйным Кітаі сказаў ці напісаў, што час адмовіцца ад нацыянальнай мовы.

Ніхто не даводзіць такога і ў Еўропе. Наадварот, вунь як французы з немцамі, нарвежцы з фінамі ашчаджаюць свае мовы, змагаюцца з іншамоўнымі ўплывамі! Ды ўсе народы ў сённяшнім свеце, у якім культура падмяняецца цывілізацыяй,

менавіта з дапамогай нацыянальнай культуры і мовы змагаюцца за саміх сябе, і толькі беларусы саміх сябе супраць.

Чаму? Бо ў нас, як кажуць землякі Барадуліна, «добрыя галовы, толькі з патыліцы зачэсаныя?..»

Вільгельм фон Гумбальдт не для ўсіх аўтарытэт. Хоць бы па той прычыне, што не ўсе ў нас яго чыталі, а нехта нават не ведае, што такі быў. Для некага аўтарытэт Іосіф Сталін, які таксама, пра што нават у песні спяваецца, “у мовазнаўстве ведаў толк”. Ён крытыкаваў вышэйзгаданага “лінгвіста-марксіста” Н.Я. Мара і вось з якіх пазіцый: “Мова адносіцца да грамадскіх з’яў. Яна нараджаецца і развіваецца з нараджэннем і развіццём грамадства. Яна памірае разам са смерцю грамадства”.

Няма мовы – няма народа. У гэтым Сталін ведаў толк.

Хіба гэта не тыя ж кругі Гумбальдта?.. Круг існавання – і круг знікнення.

Для таго, каб мы не зніклі, Бог пасылае нам такіх чараўнікоў, як Рыгор Барадулін, які і боскімі малітвамі, і паганскімі заклёнамі ў “Маўчанні перуна”, “Міласэрнасці плахі”, “Евангеллі ад Мамы” аберагае нашу мову, а значыць, і народ. Тое самае ён робіць і ў “Вушацкім словазборы”.

Я проста купаўся ў чысцюткай, як вушацкае возера Вечалле, беларускай мове, чытаючы рукапіс гэтай кнігі. Колькі слоў, ані ў якіх слоўніках не зафіксаваных, якое мы да таго, што ёсць, яшчэ багацце маем! Крэў (вывернутае дрэва), начніцы (бяссонне), недамаўлянкі (намёкі), пярэка (хто ўсім пярэчыць), руя (гайня, чарада). А як граюць, бліскаюць (бліс ды ясь!) гаваркія словы ў прыказках, прымаўках! «У сваёй хаце і качарга маці», «Грэх у мех, а сам наверх», «Язык у роце, як чорт у балоце», «Ён моўча, а дума войча». Ці якія моўныя россыпы ў запісаных Барадуліным аповедах простых людзей проста пра жыццё: «Кішка ў кішку лезе ад голаду... Жыццё такое: хлеб госць... Памяць мне заарала (забылася). Гэтак ён ваяваў: рылі акопы, а ён бабам у лапаты ручкі ўстаўляў... Уперад ён піў па дзелу, а пасля так... Хачу дамоў, як вады напіцца».

У Барадуліна болей за дзве сотні нататнікаў з вершамі і самымі рознымі запісамі. Самому яму апрацаваць іх рукі не даходзілі, таму трэба сказаць самыя добрыя словы Наталлі Давыдзенка, якая гэта зрабіла – і з’явіўся “Вушацкі словазбор”. Цуд.

Я ўжо неяк пісаў, што Рыгор Барадулін нездарма называе сябе крывічом, бо ўвабраў у сябе ці не ўвесь крывіцкі дух, удыхнуўшы з ім усю мову крывіцкую. Ён адзіны беларускі паэт, які існуе толькі ў мове і выключна ў ёй. Існуе гэткім жа неверагодным цудам, якім сама мова існуе ў пабураным – альбо дасюль не створаным – беларускім свеце. І ў гэтым свеце Барадулін робіць тую працу, якую ў іншых светах робіць народ: моваствàральную. І яшчэ аберагальную, бліскуча скарыстоўваючы і тым самым захоўваючы тое, што народ ужо стварыў, і за што некалі скажа дзякуй свайму Паэту.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

## *Слова ад “Дзеяслова”*

***Прапануем увазе чытачоў фрагмент з новай кнігі Рыгора Барадуліна, якая неўзабаве пабачыць свет – запісы расповедаў жыхароў Вушаччыны. Натуральна – захаваўшы ў правапісе асаблівасці жывога маўлення гэтых людзей. Астатнія часткі гэтай унікальнай, фактычна навуковай, працы Рыгора Іванавіча – Устойлівыя выразы, Параўнанні, Народны каляндар, Звычаі, Прыкметы, Стравы, Лекаванне, Праклёны й грозьбы, Дзіцячыя гульні, Хуткамоўкі, Загадкі і інш. – чытайма ў кнізе “Вушацкі словазбор”, якая неўзабаве выйдзе!***

# ГАВАРКОЕ СЛОВА, альбо ЖЫЦЦЁ, ЯК ЯНО ЁСЦЬ…

Нашы імёны: Якута, Парвен, Сахон (Сафрон), Цыцыля, Макрэда, Піліп, Стахван, Касцюк, Змітра (Змітрок), Аўдоцця, Аміллян (Міллян), Ігнат, Лукаш (Лукан), Нікіпар, Салівей, Тумаш, Хвядос, Лаўрэн, Іллюк, Агата, Цярэшка, Пятрок, Трахім, Паўка, Хведар, Праксэда, Купрыян, Патап, Аляксей (Лёхта), Анця, Галя, Люцэя, Колюсь, Вікця, Яўхім.

Абсецім бабу й пытаім… Лаўку ссунуць, сноп саломы пад галаву, папонкай пакрыюць – і спі… Дзясятым годам пашла служыць… У дзесяць пагібель вымыла слязьмі… Даўней па жэбрах хадзілі (жабравалі). З макавае зярнятка хлеба ня бачылі. Буракоў відам ненавіджу змалку. Кішка ў кішку лезе ад голаду. Вялікая лыжка дзяцей не разганяіць, а малая разганяіць. Жыццё такое: хлеб – госць… Гэта ж нада – атправіць па старца́х! Яна прасіць міластыньку хадзіла… Пашлі ўтрох, і на́ймітка была дзеўка. Ты даўніну сваю ўспамінаў. Памяць мне заарала (забылася).

Гэтак ён ваяваў: акопы рылі, а ён бабам у лапаты ручкі ўстаўляў…

Насаву́ белыя падпярэжуць паясом (накшталт плашча). Брызінтоўкі – чаравікі парусінавыя былі.

Адзін кацёл у паўтара вядры, а другі ў вядро. Мукі кадзь – селядоўка. Хлеб пякуць на аіру ці на клённіку – кляновых лістах. …Як шашча́, мука (паточаная шашалем), пшаніца не прыстаець ні к чаму, пустая, няма цяжару, клёку, клейкаці. Надаела мне гэта печыва – хлеба німа, пячы і пячы (лапуны, пірагі, сачні). Раней гарохавікі пяклі нейкія і елі... З рыбай юшка, з грыбамі юшка (поліўка). Залетась слаба было з закрасамі. Бульба па-цыганску – печаная ў прысаку. Катлеты са здыхлі́ны.

На сіта ўсе смакі сеюць. Смакоцце – самы смак, цымус, марцыпаны. Проша піць гарбату без цырымоніі (без цукру ці з гузікам за шчакой).

Чужога на локаць не дасталося.

Навошта сыту́ю патэльню мазаць, калі з яе і так сала цячэць? Топкае сала такое (растапліваецца на патэльні). Напрышчыш бліноў, і добра. Яечня круцілася на скавародзе (ад тлучшу).

А я мядзведзя мяса ела. Мядзведзь панадзіўся ў авёс. Ну як там дзед яго падпілнаваўся. Мяса салодкае, з прарасцю, слой мяса, слой сала. Пад'ела дасыта́… У нас яшчэ заслонка (кавалак) сала ёсь. Леташняе сала белае, і не ёлкае, і не салёнае. Надты (вялікі) шматок… Мой неяк забіў казу дзікую, што падушка, тлустая. А з дзічынай (мясам дзікай казы) такая капуста смачная. Настолькі хлеб адзешавеў проці жыроў, чаго век не было.

Нам жа трэба канчаты ножык. Удрабіш капусту дробна, патаўчэш, яна і добра будзіць. На каштаванне звары́ць, на паспытак. Цэлае досвіцце варыла. Не высыпай муку, апылішся… Купіш вуксус, ксенцыю гэту. Вытлуміла мне саўсім зробіць тое. Бутылку рубцаватую бяры. Як спяшаешся, тады нічога ня найдзіш. Наўпралік ідзі. Гразка йсці ў туфлях. Надзеў рагаці́ну, плашч нейкі, не прыстаець да яго (не пасуе). Пакуль зойдзіш, дык абцямнееш (будзе цёмна). Бывала, калі што трэба, дык абгаляпую ўсю вёску (абабегаю галопам). Прыступна йсці ў гэтых ботах. Трыбушыцца бот…

Распытала – вочы наверх лезуць. Пачула – як агарнуў мяне вожах (жах). Вочачкі па яблычку, зрэначкі па йгрушынцы. Яшчэ горш устрашэла. Ляцела, свету не відаючы. Пад дзень ужо віднелася. Сонца яшчэ было (дзень).

Сёння так укава́ла, так умёрзла, як у глыбокую восень. Думала, што карчаком злезу, так азалела. У галаве стала бла́жыць. Калі й прынемагуся...

Такую светніцу ехаць! Валя ехала, яшчэ ей п'ятку (пяць рублёў) дала. Калі хочуць – я ім шчуджу́. Я б правяла́, што пільней трэба. Якая мне грозьба ехаць? Не трымай грошы ў калашы́.

Давалі палонічкі і лыжачкі. Пакуль стаяла, асталіся лыжачкі. Вочарадзь як узялася – не хваціла мне. Нада будзіць прыпілнаваць, калі будуць прадаваць. Кажаць: дзешавога не бяры мне на плацце.

Прыцямнелася ўжо. Зорка-серабрыначка… Іду дамоў і слязьмі ліюся. Прышла дамоў ужо цемнавата. Хлеба не было, дык я мяса троху пажвакала. Калапенькі (каноплі) добра каб былі – варыць чай. Робіла-робіла, прышла ў хату, пажывілася й спаць лягла. Вот так і вечар мой скруціўся. Хоць ты вочы зашый – не хачу спаць. Толькі дагары ці ніц спаць магу.

На́перад заехаў. Ён меўся нанач дамоў прыехаць. Жджы-пажджы, а яго ўсё німа. Няеўшы выездзіў увесь горад. Кажа: “Замарыўся я ў дарозе, траха-траха не памёр”. За хархопкі (вархопкі) ды дамоў.

Шчабятухі бацька прывёз (самагонкі, гарэлкі). Апетыт на ўздыме! У мяне яшчэ стакан юрухі (бражкі) ёсь. А там ужо качарга завязалася (каша заварылася). Давайце на першую руку вып’ем скоранька. Раздзялі, каб пароўну было. Якая тут чарка – рыб’я вочка… Цаляком палажылі селядцы. Пасля селядца на ваду брахаць будзіш (сабака, як аб’есцца, п’е, а потым брэша на ваду ад злосці, што зноў піць хочацца). Ты ўсё выпі, ты яшчэ ня нашчылася.

Ты будзіш рыбу пярчыць ці цыбуліць? Налупіла бульбы, надрала й напякла бліноў стог. Слабы з яго ядун. Трошку цірне́ць адчапнога, кажаць: “Вот наеўся, аж вочы поўнымі сталі”. Місачку чуць-чуць змучыў. Кажа: “Што ў мяне жывот – тры полкі?” Да свяжы́ны падрыхтуем гарэлку. Кароўскае масла. З маслам і га.но смашна. Чорны хлеб за ўсё смачней, ён жытны́. Павячэралі за ціхаю гадзінаю.

Паспрабуй троху прасыры́ць ручнік і вытры. А гэты рушнік стары – яму рваццa нада. Насцілка (капа) была памытая. Яна знава́ такая. Усё было памытае, але туды-сюды – драбязы троху і сабралася.

Вурдаль – кашынае імя. А гэта наш Вурдаль ці ні на ўлоў пашоў? А Кундаль, Шпырка – гэта сабака. Сабака нічога, добры цяўку́н… Цяпер кошка будзіць каціцца. Дзе яна іх выкаціць? Яна ёй кіндзе́ль каўбасу. Кот мурлу́ заводзіць. Каток-цёпленькія лапкі. Балесь на яе (кошку), два ўжора з’ела (ужор – рыбка, якую глынуў шчупак). Дохля яе бяры, хай сядзіць.

Як адвячорак, цямнеіцца – ужо папы́ ў кутках сталі (цені; папы ў цёмным, чорным). Як толькі кошка вяркне – у мяне вочы па гэтай лямпачкі. У хаці халодна, вядома ж – без мужчыны. Падушачку троху прыле́чу – сагрэю. Лёг бы заснуў шараю гадзінай (як цямнее, дождж ідзе).

Чаму сырасць? – з падсцення холад пачаў ісці. Яго хата розікам стаіць – адчынена (ад разінуць). Нічога німа ў хаці – як перуном вы́смаліла. Шыхалом усё стаіць, адно аднаму не прылігаіць. Дом там – адно шы́халле, старызна. Хай вецер прадзьмухнець. Хата стаіць, як сарока без хваста: без хлявоў, без сяней. Старая хата, а няўжо яму маладую даваць? Біў-біў прусоў, павыбіваў усіх чыста.

Увесь двор белы – закі́далі гру́дкамі (снежкамі). Хатка, як родная матка, залез на печ, гудзі й коміну памагай, комін гудзіць, і ты гудзі, ногі за каптур задраўшы. Валюх-валюх з печы… У чужой печы й нязграбна робіць. Гляджу – у бакоўку ходжана… Летам горача, а ў хаці ўсё ж лятней.

Жыў ня буду, а хату пастаўлю! У мяне бёрны ёсь. Сасновыя дошкі на падлозі доўжай ляжаць. Стромка стаіць страха. Сценкі грубіной (таўшчынёй) два метры. Хоць бы цвік! Страха расплыла́ся як ластаўка. Туды й сцёку ня будзіць.

Запалку выскрабнуць... Хату запалілі, а яна паку́лай імшоная, дык уся лабавая сцяна абгарэла. І хлеў жа настолены (са столлю), зімой цёпла. Хлеў зашчытны такі, дашчаны, ня мшоны, але ўдвоя. Скачаць па дзянніку – між хлева і хата загарадка, – там заўсёды дзель відна. Схадзіла ў подсціл, прама тынянку (паветку) нагрузіла. Нясу, язык высунуўшы… Хай яна згарыць, такая гарадзьба, каровы ўсю бручку з’елі (дрэнна плот паставілі). Думаю: доўга свінні выламіцца, тады й рады не дасі... Казулька – слуп з падпорай. У мяне ў калодзежы толькі трэцяя часць вядра чэрпаіцца.

Не ўвярэдзішся, калі й ты занясеш кацельчык. У сталоўцы вагі прадажныя, а ў малочнай атпускныя. Дзень, ад ліха два ты папрацуіш…

Штогод усё далей мой дом становіцца ад захода (старэе).

Мама казала пра наш пяты паверх: “Сядзі, як пад небам, і жджы, калі Бог душу забярэць”. Башня, ды такая выш (вышыня)! Што такое – два пакоі, а жыць недзе…

Хачу дамоў, як вады напіцца…

Вот гэты маладзік і прадзержыць мароз. Цяпер гэты за́веі якраз усхадзіліся… Пачнуцца скора сівяры́ (на вясну). Вясна холадам адстоіць.

Вязуць, тураць і тураць на базар. Сколькі пераварачываіцца машын, прама разміну нет. Ямачка вы́дрыгалася (па бруку калёсы ехалі).

Пад вясну было, дзе пратaлачак ёсь, дзе німа. Пойдзем, Галя, з табой, я буду ісці, а ты надо́зар. Адліга ўдарыла, і дарога паслізела. Не на шасцерыку ездзіць тут (на шасці конях). Наўзгалёп нясецца на кані. На дыбы́ конь надта браў.

Дзяржы караме́ц (корм), а то карова скора ацеліцца. Кароўка ўжо на часёх (на цясёх; гатовая цяліцца), нада ж кадзіць, глядзець.

На работу яна хапліваа. Прыры́ўкамі шыла – пры́хваткамі. Ён мяне, чуць шарэлася, разбудзіў. Дзевер атсаветаваў купляць парасёнка, што свіння пяршачка (першы раз парасілася).

Учора сонца выясня́лася, дык са стрэх капала. Дрэвы пабелены вакол паяском, як падвязкі ў дзяўчат. На гэтай рабоце здорава не звырэдзішся (не натрудзішся, не ўмаешся). Ужо ў вочы вясна лезіць – цёмна вачам на вуліцы. Цяпер вароны ня робяць гнёздаў. Учора цяплей было – сонца прысвечвала. Маладая травіца паадскаквала. Пагода – аж трасецца! Пагода такая цёплая, хоць агуркі сей.

У такую зямлю дзіца пасадзі – вырасціць. Мама тлумачыла: рунь зазелянела, адскочыла (як адскочыць, так і зазелянее). Ужо большае – варона хаваіцца. Жыта ў пуку́. Высыпаіць. Красуіцца. Ужо ў жыці пяткі наліліся (бярэцца зярно). Налілося. Як наліецца – і пачынаіць спець. Жыта ўжо забурэла – выспела. А бываіць – жыта зраслося, счарнела, згніло… Пшаніца зімавая ці летка.

Лапка кропу, пер’іна часныку, каліва бульбы, вочка парэчкі, вянок цыбулі, хвост морквы.

Я сабе ціплюкоў (пісклянят) купіла з кубатара (інкубатара). Малыя кураняты ўсе белыя, толькі якія чорныя будуць, яны жаўцей. Пеўнае яйцо – дзе ёсь зародак, але ёсь і пустое. Курыцу зарэжаш, яна якраз леташніца.

Дождж троху прасыры́ў зямлю. Раскасмаце́ла кветка. Пагода пад’ясне́лася. Маладняк вішэннік пашоў. Ві́шына Зойцы цяніла (кідала цень). Трэба, каб кожная бульбінка была адба́бленая – адарваны пупок (расток). Відошна (на выгляд) хворыя агуркі.

У цябе ж выгода кругом – і пожня, і луг. Цяпер на лугу хоць лажыся (суха). Няпутаная, простая кабыла. Каню падвяжуць балалайку, а ён ходзіць – блын-блын. Э, брат, каня стрыножыла (кульгае, ступае на тры нагі). Канёк з любога вядра піць ня будзіць.

Прынясу трусам мех травы, сыплю-сыплю, і мяха мала. Шэрых гусей прыганялапрыганяла, прыгукала. Мы кармілі гусей дасыта́, дык і смашнае мяса было.

Каза ў аіры порацца цэлы дзень. Козы, халера іх ведаіць, можа, папалявалі, гладка перасталі даваць малако. Казлянятачкі-лібінятачкі… Асянчына болей па балацявінках расцець, бяз зёлак, посная, парожняя. Канюшына па калена. Пагода – толькі сена сушыць. Добра, як сухата, пагода. Я лепі любіла сена падаваць, як таптаць (на возе). Яўхім водпуск с сягонняшняга дня ўзяў, паехаў сена старацца.

Такая жара, што сем партоў можна змяніць. Удушні́лася – упацела, душна стала. Нічога не расло, дажа трава вы́велася. Сена стажар’ем пастала ў кармушцы (дрэннае). Такая жара была, дык вужы ў двор хадзілі піць.

Карова можа ўпіць гвозд, а свіння ня можа, яна зубамі есь. На малако гэты раз прабач, прынясу заўтра. Карова хвост дугой трымаіць. Тожа такая красівая, маладзенькая і з трэцім цялёнкам. Для збродлівай каровы бразготка. Каля рэчкі маркоўнік, перамерзніць, тады салодкі, абы карова з’ела – так абдула, разагнала. Кароўка добрая, алі скінула, можа, ру́неі аб’елася, два месяцы неданасіла. Такая бесталковіца вышла.

Чаго ты лындуеш (лянуешся)? Шавяліся, каб не завяліся (вошы). А ўжо буду старацца, аж язык замакрэіць.

А там круглы Дзе́менчык (возера), як вока. Каля яго журавіны й вужы. Ён ляжыць у сонцы, ніхто яго не чапаіць. Там астроў (востраў), а ўнізе возера. Як ты паедзіш? – хваля вялікая. А нічога, бруячок там маленькі. Рыба ідзець на жы́рава… Лазіць усю ноч па ўловах. Шчуку кукуюць, васцямі колюць, васцямі закалоў шчуку. Не мае гады па рыбу хадзіць – у вырай збірацца пара…

А на двары такая дабрата! Дождж ідзець ды паравіца (парыць). Грамніцкі бор пад Дзе́менцамі. Вышла ў край берага (у лесе). А соснік паваляўся, сухастой, прайсці неяк, шышкі ў ногі колюцца, за́вальняў многа. На самы лабяк вышлі – дзіва што пячэць. Мох суханькі такі – сівачок. Нечапаны бераг чарніц! У лашчаку ягады сядзелі. Ваўкі вачмі паслі яе. Гойкала-гойкала, і сабраліся. Баялася, што воўк напаткаіць. Ідзі, касмацень чортаў! (На ваўка.) Сабакі ях-ях, пакаціліся па пнях, а ваўкі – за сабаку… Распусціць глотку, па лесе ходзячы, крыкам сваім… А пасля, відаць, знайшоў сваіх (парасятка дзіка), уціхся.

Ячмень ужо плечы выставіў – так саспеў. Дождж як уліў! Заліўны дождж. Там авёс палеглы. Жыта, хоць яго лічы (кожнае зерне). Пшаніца адборная, хоць бусы рабі і вешай маладой на шыю. Гэты год пчолам гадзіла (было сонечнае надвор'е). Пчала як прамы́слая.

Скорчыўся быў парсюк, вочы поўсцю зараслі. У парсюка вочы напалавіну відаць, з ілба на вочы вісіць. На кнаразоў крычала-крычала свіння, як хлеў не парвала. Леташняя свіння яблыкаў ня ела, а сёлета які аглодачак – з'есь. Адной мешанкі мала парсюку.

Грыбы завуцца: казялькі, пясчанкі, кабылы. Ну, болей у грыбы не пайду, пакуль гужам не пачнуць расці. Знайшла цэлыя выр'і грыбоў. Грыбы адны чарвіныя, яблыкі – чырвяныя. Пасля Узвіжання йдзі ў лес і ўвідзіш вужа, а на Узвіжання хаваюцца.

Я і там порк, і там порк – нет бульбы. Бульбоўнік высах дасуха́. Тоўстае калі'ўе, аж зямля патрэскалася. Капала будьбу – адны галовы. Прыпёрла, бульба, як качанне (а пра малую – як арэхі). Сёлета бульбы харошыя. Захмурэла штось…

Яравыя яблыкі, восеньскія, калі ярыну жнуць, бель гэта. Яблыкі нагамі штырылі (было шмат). Ядраная капуста – адзін шчолак. Увосень і верабей піва варыць (усяго багата). Трахім сад калавурыў (вартаваў) на Кавалёве. Сёлета на ўсё гола, яблыкаў німа.

Ветрык халаднаваты падыха́іць. Лісця ня высахла, я яго мала й награ́біла. Работа па мне верх паняла́. Бядзяць мяне прымаразкі. Да, сягоння ўжо засвяжыла. А вецер гэткі маразяны ўвосень. Ужо белыя мятлікі лётаюць, зіма.

Шпак перад адлётам пажыў, пагадаваў дзяцей, папіў-паеў, трэба ляцець-ляцець…

Прытарабачыць карчоў. Напляжыць хвоек на дровы. Запарыўся ўпухавую. Конікам адпрог будзіць. У гэнай пілы зубы ядавітыя, як у цігры. Спарней бы было, каб мяльчэй парэзаць. Бяздушныя дровы (духу няма). У мяне дроў надойдзіць (хопіць). Вада замёрзла, зверху была сабраўшыся. Ня дай бог падмяцелле.

Разгаілі салому, разбілі, разнеслі. Абмылі парсюка цёплай вадой і ў цялятніку паслалі на саломі. Азадак напалавіну адсеклі, а цы́біна асталася.

Як карову старую вядуць на ўбой, усё роўна што сын матку…

Ну й запрогся мароз! Гэткі мароз-кіпун! Во мароз, сала неяк урэзаць. Во як ты ўту́шкавалася (ухуталася). Мароз – духу неяк схваціць.

Трахім расказваіць, як жэніцца шляхта: “Ён стаіць сівы, як абіз'яна, а яна, як мачынка, гарыць”. Маладое каханне (першае). Ну, дзеўка, не жывацей, калі я да цябе дабяруся! Дзяўчына, як жалуд, у яе языка ня трэба пытацца. Сала многа, хлеба ёсь, вы́бушнела дзеўка. Ну, гэта Карабанішка – гонкая дзеўка, хоць на ей вішні аббірай (такая высокая). Доступу не было к ёй. Ёмкі хлопец (спрытны, дужы). Ён ўсё з падходкамі да яе. Казырыцца яна супраць яго. Сваты ў розгляды прыехалі.

Доўгі хлопец, хоць сабак вешай. Дзяўчына з кароткай шыяй, як мяшок завязаны. Гэну тону не павернеш (пра таўстуху). Яна здаровая, як ласіца, белая морда – прыгожая

баба... Ура́дная баба (паглядная). Відаць, к яе нейкі начальнік прыходзіў – медаль на грудзях баўтаіцца. Утрэскаўся, як чорт у ра́бую карову.

Маці ездзіла, зыск дзелала, што й дзе. Хто ж гэта першы здумаў (пусціў чутку)? Маці галасіла голасма. Няўжо ён сабе дзеўчыну ня можа знайсці, няўжо на іх звод звёўся (перавяліся)? Цяпер дзеўкі носяць прычоскі, як палонікі (апалонікі), а самі тонкія, як свісцёлкі.

Ёй хоць прысаку на пяты насып, усё роўна будзе крычаць "люблю!". Нявогляддзю пойдзіць (без агледзінаў). Дзеўкі аж на лыткі сс.ць – так замуж хочуць. Тая толькі жджэць з арміі, якую не бяруць. Чорная, нялюдская (непрыгожая, нехлямяжая), алі цяпер выладнела. Гадоў пяць яшчэ пая́лавае, дык ніхто ня возьмець. Шаўчукова ўжо замужніца (выйшла замуж). Прадавала дзявоцкую красату, а купляла жаноцкую ташнату.

Добрае прыроддзе: матка-работніца, век не сварыліся; бацька-работнік, нічога ня браў. І не прыгажавітыя – кру́гам каля маткі зайшлі замуж.

У сяле жывуць, а іх жа ніхто замуж не бярэць. А бацька і мяжу закосіць, як косіць, і сена чужое заграбець. У Зараценне на сяло ня ходзяць, і бацька, робяць.

Дзе там за вамі згледзіш… Пашоў хлопец у блыт, найшоў гэту сухабздзеліну. Грудзі, як у петуха калені. Яна, як воўк, такая паджарыстая, даўгалытая. А, сыночак, ты мяне адразу з хаты выгань, а то яна мяне выганіць!..

Укінуў некалі мне ў кішэню цукерку, а яна ўся прыстала. Да таго ўкахалася маё сэрцайка ў цябе… Каб ён адзін прышоў, дык табе ласкавей было б.

Як сказала, што ён праг па мне, шалеў, дык я лахі пад пахі й пабегла. Прычапіўся, ну хоць ты задавіся. Што ён па табе – галаву завяжаць? А тады слухай як: навя́ліўся на мяне… Ён пачаў і рукамі, і нагамі, і ўсякімі спасабамі… Як ён у хату, я б за вілачнік, і да дарогі на ім выехаў бы! Забірай шарла́цце і топай дамоў. Ты мне ўстыў, апраціveў. Ён майго га.на ня варты! У мяне кароткі завароткі!

Як ажаніўся, зусім абесталковіўся. Абасваі'ла хутка (сваім лічыць). Ён яе шанаваў, як вока. Мужа прыспала (усыпіла), а сама пашла гуляць. Ру́чная – блядзюга, а зручная – работніца. Гэта ўжо рэшата – у гулявой дзеўкі, што й пасеіна адна не задзержыцца. Бацька п'яніца, матка тожа не адкініць. Там у яе ці цынковая прыдзелана, ці дзеравянная, як толькі трываіць (пра гулёную нявестку-ўдаву). І розум бы мела, каб такую нявестку спасціла з свету.

Развіля́ем такім зробіўся, разгіндзяем. Як заву́рыць качалку, яна лясь-лясь – заляскатала. Чаго ты на яе зверышся? Як даў у палічку, усе стаканы ў цу́ры, чашкі – у цурачкі. А яна гак яму палкай па плячох. Што ты, дурны – біць вокны, алі есь ейную душу?.. Я ж яе браў высокую, чарнабрывую… Ну чаго ты, раскапе́ха (з адкрытым ротам)?

За пнём галава, за калодай ногі, добра, калі ў хаце які шаве́ль ёсь (каханак, сюбар). Першая жонка цяплейшая. Каб ён еў, што яна ў яго першая. Як паўлітра на стале, тады "жоначка, ласачка", а калі німа – гатоў на адным зубу перакусіць. А яна слязамі ліецца… Работай і так загружан, а тут яшчэ трэ абузу мець такую – не цалавацца! (Скарга п'янага.)

Уперад ён піў-піў па дзелу, а пасля так… Прыдзіць, набраўшыся як казелька. Укачаецца, увяргеніцца. П'яны ляжаў, міліцыя прышла, морду яму адкапалі, паглядзелі – жывы… Вазьмі яго (п'янага мужа), а то яго абе́руць. У балоце цецярук балбочаць "не, не", аж гэта Полька мужыка клянець…

Прышоў дамоў, а жонка: "Каб цябе пярун забіў, каб арак з'еў!.." Жонка другая, як учарашні булён. Як стала выклінаць, як столь зубамі ня грызла. Жывая турма! Прыходзіць дамоў – жонка ўжо ў козыр, задзіраіць нос. Табе, як благой скуле, ня ўгодзіш. Як памрэць жонка, ня ўспомніць сце́пліцца, а за яго ўсе гужам…

А Кабякова свякроў з языка не спускала, мыла языком... Нашто ты звягаеш кожны дзень? Ты ж яе ніжаш (прыніжаеш) перад ім. Камень ня выцерпіць, калі-небудзь што й скажаш у адказ. Відаць, свякроў дрэнная, калі нявестка вочы не паказала.

Здзень штаны ды, калі дастаніш, укусі сябе за той! (Цешча зяцю ў час сваркі.) Тады

пярэплат станавіла (не хацела, каб жылі разам), а цяпер зводзіць. У яе ўсё роўна цыган за душой сядзіць, – і мучаіць совісь. На ўзмірэнне ходзіць да зяця… Зяць Вользе адбіў палец – крыві повен вайлак нацякло. Складай слёзы ў руку ды лічы, колькі выціснула.

Яна двух зразу радзіла, а послі панясла ды, відзіш, аборт зделала, а яшчэ – кінула, можа, дзяўчынка будзіць. І вырадзіла ўсіх, і здаровая… Добкініха была кандзідатам у парцію, зробіла аборт, і яе выкінулі. У мяне ж іх не сям'я – толькі два (пра дзяцей). Ты мой сынок-ласунок. Жаўна-жаўна, вылецела з га.на (нарадзілася). Паглядзі на малую, там тае адрэчча (у той род пайшла). Яна тваё га.но глядзіць (даглядае малое).

У бярозавай люльцы, у дашчаніках спіць малы. Рачком спіць, на каленачках. Якраз як авадзень водзіцца (калі спаць хоча). Часы тры галасіў, яму рады не было даць. Ты мне сканаць не дасі… Як убачыць бацьку – ні з рук. Узяла волю такую па ім, што жыць ня дасць. Узяў яго бэндзі на плечы й нясе.

Дзед Салівей, а малы заве Салавей. Ну, бі ладкі. Я цябе зарагу рагамі! (Гуляюць з малым.) Яна яго пад пахай выгадавала. Увідзіў малы валасапед, як клубок з каляскі – і за ім. Я качу як сіла, а ён лезіць. Але я ўкуліла яго ў каляску й адпёрла дамоў… Росту на яго не было (не рос). Ён гуляў на дварэ, як увідзіў, што йду – у ёкат: разам ісці. Разгача пад ср.ку даць неслуху.

Якую вы яе няце́лую прывезлі (унучку), попа – былінка. Ня гэту – гэну лялечку трэба пакласці ў ложак. Што ты ўцішылася (сціхла, змоўкла)? А ты думала – яе добрую прачнеш? То запірала, то зацінала (не хацела есці). Хлеб з сахарам есь, а стравы лій ці ня лій – ня будзіць. Еш суп, каб ты параніў! Ты ей так выкруглі яйцо (у яешні). Цяпер унучка саўсім другая, лепшая – троху палюднела, памурнела, куды там, пабольшала. Няхай свой смак збудзіць і атойдзіцца ад стала. Троху адклевала дзеўчына.

Шалёнка носіцца (малая). Так прыхітрыцца (унучка), і прыходзіцца браць з сабой. Малец, як вірун. Узяў бы рэмень ды скнэбліў яго рэмнем. Такія недагодныя мальчонкі. Вужлаўё малое, вужэ́лкі малыя (хуліганы, неслухі). Вот вазьму розгу ды як адхварашчу! Цябе таўкачом у ступе не спаймаіш – жых-жых (шустры). Ласкамі душу выміць. Дзе я табе вазьму – з калена выламлю? Не кракадзілься!.. Мая ўнучачка, ты ўжо так збрахала, што й сабака так ня збрэшыць.

Валачэць рабёнка, а ён рыла́ты такі. За прыборамі гонісся, а дзеці не дагледжаны. Шалёная дачка й недапечаны сын. Воччым нейкі – заросшы вочы поўсцю. З Генем у дудкі пашоў. Гілюе да дванаццаці гадзін ночы хлопец. Вучыцца на сабак брахаць. Асталоп – асінавы лоб… Чужыя дзеці скора растуць, армію адслужваюць і турму адседжваюць. Сынок ты мой, ужо на галаве бальшакі, як за Дземенцам (возерам). Як ні хаці, а ўжо сорак гадоў на дварэ.

Як вы прыехалі, свята нашло! Падзяліцца па душах з некім. У іх святковыя насовы (белыя, святочныя). Гэта не знарочысты звычай. Як даўней Піліп іграў на йскрыпку, на гармонь. Пакуль жа ён наламаў пальцы – найграў, навучыўся. На йскрыпку ў яго лепі выходзіла. Чарку за ўсе святкі выпіла. Ня стол, а геаграфія харчу! Кій на кій толькі вадзіць (болей нічога). І калі хто аднекваіцца: “Не хачу, мне многа, я ня вып'ю”, – тады кажуць: “Хай табе ва́дзіць”. Вот падсміяць любіць, пад'ілдыкнуць. Пахахаталі б на повен рот.

На адпеў нідзе не прыходзілася пяяць. Дзе ня можаць спяваць голасам, там пяець гавядзінай. Паркуйцеся – разбірайцеся па па́рах. От ты перадаў, даў духу! Гармонь вальсам іграіць, а ён “Каробушку” вядзець. Галосіць іскрыпка. Цэлы дзень невыводнае вяселле.

З Пецькі я не здзівіла, а з цябе. Ты ж дык ей сває́йшая (большая радня). Калі ладу нет, дык ты навя́зный (навязваешся). Можа б, мы перарадзілі з ёй… Аблупі боты венікам шашкучым. Каб паўчаса назад, дык бы і нагадзіўся агурок, выпіла б паўчаркі. У арміі ясі-ясі, а на жываце сем складак. Дома булёну насёрбаішся – жывот, як лоб, зробіцца.

Яна мяне за ларок па сакрэт вядзе. Прачутка пашла… Такая праўда, як у рэшаці вада. Як пачнуць што весці, зграбуся й пайду. “Ой, маніш!” – “Каб я маніў, за мной бегалі б”. Яна плёткі не пляцець. І ўпіркі̆ не хадзілі (не спрачаліся). Ці ты мне мяжу перадраў, ці ў

гарох наср.ў, за што мне на цябе сердзіцца? Плюнь ў вочы – я проці цябе ніколі талкоў ня маю… Просьбы, мольбы – неяк адмовіць. Я табе на выгодзе стану (прыгаджуся). Прама ўся з хітрасці сшыта. Я ей ня ўмоўчала: “Хай табе вочы вялікі стануць, як табе маё ўсё вяліка”. Хай яна яго не спажывець. Ды я іх усіх на вока звяду й дакажу! Няхай яе раздуіць, жабу, як лапаць. Усё ж думаш, што яна пачалавечыцца (стане чалавекам).

Спяшаіць, аж крыссі разлягаюцца. Вот дало ж яму ўзяць гэтую бутэльку! Усюды пападзецца – не к вушаку, дык к прабою. Спяшаіць, аж яйцы мокрыя. На абкладзінах быў і напіўся (на Дзяды, бывае, абкладаюць магілкі). Недзе курыцы клюнуць – усю морду збіў мёрзлай касціной. Куляўся б ён на галаве, калі б яна была. Розум па запатылку (патыліцы) цячэць. Добрая галава, толькі з патыліцы зачэсана. Закруціў носам, быццам хрэну панюхаў. Наліў сабе, стакан абгладзіў і выпіў. Піць ён любіць, а сваёй ня кініць людзям. Закускі той возьміць, што сто галоў на рубель.

Гандлюіць, як цыган конямі. Недзе нешта махляруіць. Так і глядзіць, каб пухлянуць чаго-небудзь. Хведар коні краў – канавод. Ім жа нада было ўкрасці, каб дзевер не ўвідзіў. Цішэчкам прынёс. Мацюжыннікі адзін аднаго не баяцца, разам крадуць, а адзін другога не выказаваюць. Як там робіў, многа грошы прытаіў. Хай ім будзіць нос (застануцца з носам). Хай жа троху агутаецца (супакоіцца) рэвізія, і я падам заяўленне. Саследавана: атамкнута і ўзядзены веласіпед.

Чалавек ты чалавек, улез ты сюды, як арак у сетку. У яго й у падуме німа. Як на мокрае цяля навалiліся. Тады ён вымкнуўся сказаць. Яны б яго ўхайдокалі зайцамі (загналі). Падоліла (пашчасціла) табе, што такога не сустрэў. Дажы́лага чалавека ў цюрму садзіць! Расстроілася, як узяло мяне за душу. Яна стаіць, а слёзы пырх-пырх. Мужчына, дык ён і на слёзы крапчэй. За Ігната пашла ў прысягу (прысягнула ў судзе) Арцёміха, і была Піліпам цяжарная. Быў суд, але яны яго спынілі.

І кот жывець, і сабака жывець – у кожнага свая доля. З якіх шчэ́пеняў тут жыць будзіш? Грошы ні ў дугу німа. Пенсія малая – пальцам вымакаіш. Браўшы добрае, трэба аддаць добрае. Яна сама ня есь, прама ўсё сям'і шчадзі́ць. Табе добра, ты й так у дзверы ня лезіш.

Чабатарыха паджма́ла некуды. Ногі шалды-шалды, адна за адну закідываіць. Пашла, як на той свет (дужа доўга хадзіла). За гарэлкай пашла, у лужыну ўбадзюлілася, чуць не залілася. Цягнецца, як тры чвэрці да смерці. Бабы качоргі мянялі й то барышы пілі. Стаканчык з кружаўцом (малянкоўскі) выпіваіць не аддыхая. Якая ж крапосць (моц), каб цябе хвіля-бура задавіла! У яе вялікі непарадак у галаве, каб быў парадак, так бы ня робіла. Сколькі я там выпіла – “пад спадніčку” (значыцца, у стакане было наліта да абадка). Літр яны вып'юць і закуску тваю ўходзяць.

Іванковіч, што галава бальшая ў жонкі. Сівый, як яблана. Ходзіць, як конь па кукурузі. Мне і з галавы выцюкнула, што гэта ён… П'яны ўзяў лісафет за руль, яго лісафет павёў. Панеслася душа ў рай, а ногі ў міліцыю. Глядзі джагнешся ілбом аб тратуар.

Рабаццё (рабацінне) пабіла яго шароцце, твар не відаць. Валасы парадзелі, і пяколкі сталі бальшымі. Валасоў німа, толькі каля вушэй халмачкі̇. Прэць яму жывот пад нос, ён ня відзіць за жыватом наперад нічога. Вылупіў вочы, як заяц се́ручы. Ото распанеў, ліха яму! У сухіх у касцях болі жымаласці (клёку). Мужчына абы крыху лепш быў за чорта – сем прыгажунь возьміць. Энная жонка. Масце́рыцца каля яго (прысуседжваецца). Яна такая баба-гаваруха. Навідку сядзяць. На адзіне́ жывець чалавек, адна хата. Хто сціха спросіць, хто атвеціць?

Усё шчырэю, каб скварка даўжэйшая была. Ем уволю, роблю ўволю. І баню сымшыў, і хату аблажыў. Гэтак робіў і святы дзень, і будзінь дзень. Як уеўшыся, чалавек пры целі. А ў яго ложка пасрэбраная (багаты). Грошы ў добрай шанасці ляжаць. Любей жа, як ёсь, чым ня ёсь. Рублёўку даў. Як сто рублёў – кружок, як пяць – маладзічок (старая пра парэформенныя грошы 1961 г.).

Гульбай – вечны калека. Ужо развінціўся, зробіўся нейкім басяком, а не чалавекам. Брат яго за міліцыянера быў. Яму яшчэ як заўець. Як работаць – хворы, а як піць, дык

і здаровы з ім не сап’ецца. Туль-туль і ў сталоўку. Ачмут у галаву зайшоў. Яму кароў у хлеў заганяць даверыць неяк. Такі няцямкі, убачыць пяць раз і не запомніць. З ім толькі га.но есці, не падзяліў, дык у морду шлёпнуў, і ўсё. Бог, як у пень, душу ўсадзіў (пра недарэку). Яго вочы ніколі не прасыхаюць ад гарэлкі. Ня слёзы капаюць, а гарэлка. Губы сінія, як у кур́ыцы пад хвастом ссінеіць (у п’яніцы). Дзіва што, тры дні зáпал п’ець. Выставіўшы свой посмак (казёл), сц.ць яму на галаву. Прама сіллём ліюць гарэлку. Хай па ім вошы ходзяць, каб я пашла к яму на хаўтуры.

Багатыр такі, так яго так, – язык ад шчаўлю паскіпаўся. І зжыліся гладка, нічога німа, ані цыбулінкі, ані ў што ўкрышыць. Літрагу на стол выставіў. Яна ў кукш́ын узяла ўліла самагонку. Такі вэрхал – чорт босы не пяройдзіць. У хаці пыл і акно замуцянае. Я ўжо з пуця збілася. Ацверазела гладка. Ты й не цверазілася. Бялізну так памыла, што сабака аббрэшацца (бо калі дрэнна памыта – сабака брэша). Шлында ты шлында, шлындаіш ты цэлы вечар – шлып-шлып. Пілі, пакуль у штабель ня склалі. Смерць на носе, а ўсё чорта строіць…

Старая: “Тады й машыніст гэты прыехаў, машыну на двары паставіў”. Я толькі-толькі прыдзяўбаўся. На машынах ездзіў, у аварыі пападаў, а цяпер яна ўладзіла яго на той, што з вялікай дзюбай (экскаватар). Да той лужыны нават і свіння не падыходзіць, дзе камбайнёр мыецца. Дзе просьбай, дзе грозьбай сабярэш людзей. А што – у яго мала гэтых прыводнікаў?

Яны шыбка йдуць – размахаліся. Звядзець хахлы, а тады вярэць вёрам. Біцца пачнуць – голасу надзелаюць. У будыніну глянулі – бораюцца. Іх проста пад’юшылі, нацкавалі. Як даў, дык санкі (сківіцы) набок. Лепяка ўляпіў яму. Залявоніў па вуху. А той як ухліпнуўся (маўчыць). Качаліся-качаліся (бораліся), але ён наверх. Разануў іх нажом, – дык некаторых вы́гаілі. Ім так сказалі сталовачныя (работнікі сталовай). Гэта гэткая дзіч над людзьмі!.. Збілі былі цыганоў, цыганкі іх ачу́лілі. Цыганка круць-верць, спадніца ўспузырылася.

Калі чорная галава й голы, а калі белы, як у парсюка шарсцінне. Каля алешніка двое белых, голых, іду са старажоўства, аж спужалася. У мяне шкура пашэрхла, на яго гледзячы (голы на марозе мыўся).

Еду такую даль, мне нада столькі ляпацца-бразгацца. Клапоўня, а ня станцыя. Раі расклад напісаў, дык там адгледзіцца. Барткевічыха прадала сваю хату, ужо ў Мінск адбіраіцца. На таргі ўзялі, калі адзін столькі, другі болі. Тут, дзе прадажны дом (крама), пагаманілі з ей. Марковічава прасіла даведацца, ці ёсць футра на шубку. Клышко кавёр сабе зажыў (купіў)… Ехаў у Ленінград на нейкае падучэнне. Ад яго ні ўшчынку, ні ўспамінку. Цыбулю прыслалі, – елі й гаварылі, што смачней за цукар. А чаго слёзы? Расчуліліся… Паехалі ў Хахлаччыну. Церахоўшчына (на Браншчыне), дзе сланечнік завецца сон. Каб гэта знáта было, дык усё б з’іначылася. У мех сабралі вархопкі – і дамоў. Канчайце вы ўжо тут сваё жыццё, куды ўжо ездзіць па свеці. Едуць абы-чаго…

Ты ж малады, а як пастарэіш, дык і варона нос дась. Тваё здароўе пры табе. Зубы ж не дзіравыя, можа, амаль (эмаль) знасілася. Кароста вельмі набірушчая. Слоік сала топленага ад кішок… Астарэла, асівела, ей гадоў-гадоў. Сухая, старая, галавáтая такая. Каб яна хоць соўгалася тут па хаці. Зжыла век, дзяцей пагадавала, а цяпер гарод стаў ей нізкім. І гэта ейнай сіле нада насіць. Калі ўжо ў яе сэрца зжы́лася, дык якая яна будзе жы́харка. Яна яшчэ задáўніла хваробу. Зяўкала ротам, як рыбіна. Вочы ей зачыніла, рукі звязала, каб не разышліся. Рана белы свет пакінула. Яна ж сама галоўку паклала. Старасць іх забрала.

Станіць труднавата ў грудзях, тады неяк дыхаць. Боль уваліць такая, што качаішся. Да дня дакачалася, дзянёк стаў – і пашлі мы ў больніцу. Двая́ніць у вачах. Здароўе нецікавае. Трошку прыцінаіць, прыгрызаіць хвароба. Так банкамі спіну саставілі – курыцы німа дзе клюнуць. Каб ня банкі, дык зусім бы апурхла. Трудная хвароба. Троху адгладзілася. Семдзесят год ужыла. Відаць, з лёдам пайду разам (памру).

Сёлета пад вясну было. Выгала ў Асоўскай каля хаты, ён сядзіць к сонцу й спіць.

У яго ўжо галава зработалася. Чуць дзверы ссіліў зачыніць. Падцягнула нагу, і нага гэта ня стала чуць. Як ступай у задніцу – перастаў хадзіць. Яна ўслу́жывала каля яго (хворага) кажную мінуту. Яму дыхаць сцінаіць. Расіца на ілбе. Склыгаіць зубамі. Усё ў ім вы́трупехла ўнутры, усё струхлела. Трое сутак паляжаў, бяз мовы астаўся.

На магільніку многа накладзена людзей. А што нас там – мяды чакаюць?.. Красноў і цяпер пекліцца. Жахотная доля. У кажнага сваё гора, дзень так, а дзень гэтак. Усе жывуць роўна, на два абеды ніхто не паспяваіць. Бяз гора нічога не бываіць. Цяпер праўду ваўкі з’елі, цяпер праўды нет ні ў кога. Цара (Хрушчова) усё роўна як у ж.пе спа́рылі. Каму верхам, каму нізам – гэта будзіць камунізам. Га́рдых Бог з неба скідаваіць. Усім ўсё ладно ня зробіш. Ужо свет звярнуўся набок.

Добра, калі сабака сябра, а за ўсё горш, калі сябра – сабака. Ня стаў сябе ніжэй падэшвы. Хлеб – самая цэннасць, спрадвеку-веку…

*Занатавана за Акулінай Андрэеўнай Барадулінай і землякамі (г.п. Ушача)*

Гугалешнікі былі, туды кароў пасцілі. Раслі грыбы чорныя, мачонікі, па ельніку. Гэта мясціна называлася Зады, на гэтым баку Чорнага рова.

Цыбуля прапала, адзін маток. Калі бачыш чарку, дык і цыбуля мяса. Расказвае: “Дзед, пірог пякуць, ці дадуць нам?” – “Дзе там, наша справа толькі ляды драць”. У нітку выцягнуся, алі зроблю.

У балахоне ад дажджу лазіць. Паехала жонка ў Полацк, варыў парасяці бульбу, у акулярах, няголены… Доўга чапурыўся, у капелюшы, пад гальштучкам, – такія звычайна пры штабах.

*Пётр Аляксандравіч Трафімаў (г.п. Ушача)*

Вечарам у райком сабралі, старшыні без сямей, адступаюць самі. Мы на коні й паехалі… Стог на тым месцы, дзе тады расстрэльвалі. Вывелі бацькоў і сына. Маці сына пад сябе: страляй разам! Так і зратаваўся, а бацькоў забілі.

Вы хоць на скамейку прыхініцеся. Кусток жасміну пасадзіла, тут чалавек сем ляжыць у гародзі. Партызаны раптам з лесу як ру́хнулі… Прыехалі партызаны (туды, дзе ваявалі): “Гэта ж ня той лес!” – “Дык вы ж забыліся, што новы лес вырас”.

Ногі баляць, мучаюся з нагамі, адслужылі ногі…

*Жыхары в. Забораўна*

Вецярок такі ўжо калючы. Скора сібірскія маставікі (маразы) прыдуць. Месяцаў на пяць дарога. Гарачыя гады вырабатаў. Гадоў шасцярню таму назад. Чалавек грузны, а каля пчол хаданіны многа. Я рана есці не магу, не хачу, пакуль вы́хаджуся.

Я ж спаткаўся з людзьмі, Дамэнта з Гаравых, а Тарэнта багат – тры катлы калатухі ў яго заўсягды на загнеце варыцца… Такі жмундзяк-жмундзіла. А родні (сямейнікі) гэты сядзяць каля печы. Ён знаіць, дзе ста́чыць і як (канцы звесці).

Возера Баравёнак ля Забораўна, адзінае возера, дзе яшчэ ракі ёсць. Сухія акуні – возера, дзе многа зброі на дне. Агуновіч пытаецца ў Мікалая Мікалаевіча, ці ёсць нямецкія крыжы ў лузе. У нас іх быць ня можа, бо немцы тут доўга не папасаваліся.

*Жыхары в. Гразь*

Зжылася ўжо… Зямля роўная, не нада на горы гэтыя ўзлязаць (пераехала жыць да дачкі Валянціны). А тут другі свет. І вяселле перабыла Колева, усё было добра.

Як я першы раз ішла замуж, было мне 23 гады…

Ці здаровенек Міколка?

*Ганна Рыгораўна Быкава (в. Ваўчо)*

Спалі на палацях на сені. Мама цестам аблепіць, абмажаць дзюравы кацёл, і можна варыць. Кацёл пабеляны (паліваны). Стаўбун насоліць грыбоў. Я салёных не падабала. І свіней, і кароў, і авец пасцілі. Мой брат, быкаўскі, бедны, гараваў.

Танцы: маладыя аж у ляпёшку біліся. У нядзелю ўжо збілася – не танцавала ўжо.

У Селішчах, у касцёле, у кляштары, быў дзетдом.

Мясцовыя партызаны хаваліся ў кустах. Як зайцы – з аднаго куста ў другі. А немцы, – ён ў хлеў, яго матка гноем засыпала… Абышлі ўсе лясы – і Красны бор, і Вухвіцкі бор – і не найшлі нікога.

Калі гналі кароў з Прусіі. Танцы. Салдаты, нашых восем дзяўчатак. Стаяць купкамі, абадраныя, галодныя. А полькі расфуфыраныя. Да нашых каб хто, адзін нейкі спытаўся й адыйшоўся. Адна як загалосіць, як па нябожчыку. І ўсе праз дзверы…

Вырабатавала й пенсію, і гады свае вырабатавала. Зайздросцяць, што добра жыву, мужык у мяне ня п’ець. Дзяннік свой каля хаты абгарадзіў. У гародзі сама пару́ся памалу. А колькі мяне Шурка (муж) вытрудзіў!

Шы́ферына лопнула была. Шупчаць дошкі, ад сырасці дзіркі. Можа, скінуць, знізюць цану. Там дровы абы-якія падбор – усё нейкае падбіраюць. Не ўторкнулі тэлефон ў хату, не правялі. Вада трубамі ані пахніць. А ў мяне як на тую халеру газ кончыўся. Я тады здуракавала, не купіла. Кацялок (галава) знасіўся… Я недадукрыла, што ўзяць. Так у галаве заматылі́ла, што забылася. На скорым часе лепі, чым калі задаўніцца.

Як прыйшлося, зімы нават неданасіла. Як я зіма не люблю… Не магу ўходаць цэлую місу. Я адной рыбай магу пражыць. Я гэта ня ўходаю (на чарку). У нас ўсе параспіваныя… Яны там кухарнічаюць. Ужо падаграваіцца вада, сіпіць. Нарэдчас люблю цукерку ўзяць. Добра ў вас, алі пайду памалу.

Як замуж за Шурку йшла, быў кот Васіль. Хадзіў дзесяць гадоў. Апошні раз – з адным вокам. А вясной як пайшоў – і загінуў, болей як дзесяць гадоў… Кяў-кяў – і да бацькі. Кот сышоў на ўсё лета, толькі прыйшоў, снег назаўтра пайшоў. І праўны прыйдзіць. Як пайшоў і не вярнуўся, недзе лу́нуў. Такі лавушчы кот быў, за зіму восем пацукоў злавіў. Тужыўся-тужыўся, а пацук зароў дзіччу.

Загадавала катка маладога. Ён адма́лі не прывучаны да ласкі. У хаці не стыкаецца кот ні ноччу, ні ўдзень. Гайсаіць, можа, дзе птушак пілнуіць, па ўловах ходзіць. Ашчыці́лі пуню, каб кот ціплукоў не цягаў. Ён знаіць пару́, прыходзіць есці. Глядзіць мне ў вочы, каб дала яму што добрае, хоць і німа дужа чаго такога. Як сабака, кулік-кулік за мной. На вакнах будзіць сядзець кот. На шчытку, на пяколку ён спіць. Кот як сойдзіць, яго ніколі дома німа, а кошка дому пілнуіцца. Грабалася, грабалася кошка, калі пачуіць, што там шапчыць. Мышка ляжыць, ня кра́таіцца. Як мышка кранецца, а яна за ей. Пакуль мышку не загуляіць.

Такі кот (сіамскі), як аблі́заны, такі гладкі. Мой бы кот ня даўся павадок надзець. Мой кот адма́ля апантаны, а ваш спакойны. Скружыцца на прыпалі́ кот, любіць на прыпалах ляжаць. Так расспаўся ў цёпленькім кот, як нежывы. Коцік, ты выспаўся, цярэбісся, ідзі пахаладайся. Адзін кот сырую бульбу еў, а другі шалупкі. Пайшоў кот у сені, сціхся-сціхся й здох. Як карова худая, вылінаваіць. І кот лінуіць.

Пагода стала, апагодзілася. Вясной снег далоў, лес распускаецца. Ня спаўшы, дык спадарожылася. Так прыйшлося спадарожнічаць. Калі йду не саўсём памалу. Дарога добрая, высахшая цяпер, такая сушка. Сонца зайдзіць, а пякота пячэць, пякотка такая. Можа, к начы наляціць дождж.

Пасля дажджу можа зноў апагодзіцца. Сонца німа, хмарната́ цэлы дзень. Можа, дождж падрабнеіць, нешта ён да самага вечара. Макрата такая, усюды мокра. Сёлета неяк і прасушыць. Летась так высушу, аж ўсё хрупчыць. Во варта табе! Яна такая тоўстая зробілася, таўстая стала.

Грыб перастоіў, перарос. Грыбоў вядро й рыбы сетку. Сядзіць выкрыпываіць з сеткі. Ён траву ў кашэль кладзець. Саджонікі – саджаны лес. Ня трэба ў лес хадзіць, грыбы пад бокам. Толькі снег далоў абсохніць з Міколы, як зіма надыходзіць.

Сёлета ні на вошта ўроды (ураджаю) німа. Дзве слівіны на слівіні, а так цвілі. І дробненькая бульба й тэй німа. Фунтавыя дулі, як зваліцца – разаб'ецца. Доўга не састоіць, кожны год як абсыпана яблыкаў. Бе́ліна (белы наліў) увосень была сопкая, як бульбіна. Яны дрэнныя яблыні не вадзілі, не садзілі. Падкрадваюць яблыкі. У яго яблыкі да вясны, знаіць, як захаваць. І да рыбы, і да палявання, да ўсяго адма́лі здатны. Двое сабак паляўнічых.

Цяпер і ў зуб не бярэць. Душа чалавек! Які ён ветлы, які харошы. Такі ён ветлы, усё роўна як родны. Калі яму выпадзець прыехаць?

Жыццё ня склалася. Не набяруцца, кажны год купляюць абуванне. Непрыяціўся ён, што развёўся сын. Не зрадніліся добра. Яна яго ўсё грызла́-грызла. Дужа непрыхільная, нявятлівая. Сваіх клянець, курэй клянець, карову клянець. Як сучка пачнець круціцца. Шумна, гамна. Па хаце толькі трэтар ідзець, толькі грукатня па хаце йдзець. Як ляпнулі дзвярыма, кот аж падскочыў. Як псіх тады ўзарваўся. Ні за вошта завядзецца, алі хутка злосць адходзіць. Яшчэ нічога, лёгак. Усе быкаўцы́ казалі (з вёскі Бычкі). А губернатарам даваў у хры́бет. Слухаюць, што ў вушы кладзець. Стараўся ўсімі сіламі ўсім глотку заторкнуць.

Узяла прыма́ку, у яго тры жонкі ў Полацку. Біць яшчэ ня біў, але падскакаваіць. Грошы німа, пабяжыць на сяло, адарлаіць (пазычыць), пенсію на даўгі аддаець. Дзве сумкі яму набудуіць. Абы змахлярнічаць. Баяўся, што мальцы яго абаб'юць. Прыйдзіць і на яго хіба. У мужчыны адна слязіна пакацілася й тая назад вярнулася.

Каму салжэш, а душы не салжэш…

Падношаную машыну купяць, паездзяць, потым новую купляюць. Машына адна за адной у размін ідуць.

Дзён дзесяць пабыў цвярозы, так для сходства добры. Для сходства (сходзяцца) пагаварыць, схадзяся, добра, адзін аднаго паважаюць. Сабраўся (выпіў) добра на вяселлі. Пайшлі на кватэру дагуліваць вяселле. Такая пулькаценькая, вочкі такія вялікія. Тады меліся за ей ехаць, з радзілкі забіраць. Пажаніліся нямыя, а дзеці ў іх былі гаваркія. Глухія – яны тады крыклівыя. І жонка акрывела, яна не крыўляка, яна будзець самастойнай дзяўчынай. Ад чыстай душы.

Яна мяне згледзіла. Яна ж такая тарапка́я. Для сходства яна добрая (для прыёму). Для сустрэчы яна была нічога, ня дужа каб прыхільная. Ад мяне адчужы́лася. Я не чапаю яе воўсенькі.

Мне абрыдзілі яны. Усе параспіваліся. Кажны дзень смажуць і смажуць (п'юць). Спі'тыя ўсе. Сядзіць на кура́чках. Чаго ка мне асва прычапілася? Адштурну рукой. Пакусалі, цэлае гняздо асоў, рукі красныя, успухшыя.

Я ж ня віджу зда́леку, сонца на захадзе. Як ішла, дзяўбанулася нагой, аж гузак ускочыў. Ратуначку крычу. Нага спохлая была й красная. Абляпіхай нагу загаіў. Сэрца маё калацілася без канца. Кохлік яго збіў, але-ткі выжыў. Галадуха, яму яшчэ болі на вушы пала. Аперацыю робілі аднаму вуху. Болькі пад пахай насадзіліся.

А тут адзін пень ад зуба. Троху ногі параўнаваць (расхадзіцца). Як халодна, тады болі ўвальваюць у спіну. Сяджу-сяджу, а як крануся – боль хапае. Як кратаюся, шавялюся, тады лягчэй. Далі нейкага мазідла – мазаць карак.

Абы Бог здароўя яшчэ даваў памалу шавяліцца.

Яна ўжо збіраецца к смерці. Екатала перад смерцю. Усе разумныя, а паміраюць дуракамі. На магільніку прышэльцы розныя. Як былінка ў полі асталася, нікога роднага, блізкага, толькі два суседы людскія. Няхай таму Бог паможаць, хто яго любіць…

*Валянціна Уладзіміраўна Быкава (в. Ваўчо)*

Усё жыццё ня так спрытна жылося селяніну. Лыко́выя лапці былі. Жыў красняцкі пан (двор Краснае). Хадзілі да яго ў падзённікі. Пан банкуе… Яці́ яго па корані! Ганкі́ ганяў у Рыгу, корнікам быў. За вуллё кожнае падаткі плаці. На мяне націнаў бацька, каб я быў настаўнікам.

Нікому ж не хацелася галаву складаць. Галава пырсь уверх, паляцела (снарад разарваўся). Увачавідзь усё зробілася. Бурлісты Днепр…

Заапарк разбамбілі (везлі эшалонам), і мядзведзь уцякаў з хлопцамі. Яны сядуць, і ён – глядзеў за самалётамі… Мядзведзь лажыцца так, каб перад світанкам чуць, як пеўні пяюць…

Белай алехі шмат. Пярэйдзем рэчку цераз кладзі. А там перахростак. Як я прыйшоўшы быў… Прадрогаўся па дарозе. Машыны жыхаюць і жыхаюць. Да Воўча даехаў, тады ў Воўчы сеў. Салдат падмог у машыну пасадзіць.

Сажонка каля дарогі, елачкамі абсаджана. Усвéжа ехаць (уцэла). Як траханец мяне па ямках. Пусцішся – і йдзеш, і йдзеш.

Зарасло, занясло ўсё, скора ў хату самі дровы прыйдуць. Замасціў фанерай. Троху прыпарадчу. Глінянка – гліняная печ у лазні. Каторую ня ссілю, самі будзеце ліць бочку. Хапае жаркай вады ў лазні. Згніў кузаў у пýтрухі, дык я яго за лазовыя кусты выкінуў. Дні́шча іржой пераесць. Суседзі на мяне вурчаць.

Гарод з гародай (ізгародай, ізгародам). Ужо справіўся сад вырасці. Пайду ў сад, пабяру яблыкаў. З’ёмныя яблыкі. Далуках ляжыць толькі шалупка – восы выядаюць ігрушы. Суха – плугоў ня ўгоніш у зямлю, а цяпер адмачыла. Баронку падчапіў.

Рушаная зямелька дожджыку просіць.

Як аракі ўсе трудзяцца. У сена ездзілі. Заўтра хлопцы паедуць, хоць троху паскрабаюць карове сена. Косы падстрайваю, іструім косы. Чарáначкі касцяныя аблапіліся ў нажы. Якую грабіну зробілі б, дык і з нечага. Страсянка – страсалі салому з сенам. Запаносіў парасёнак. Скастрыш парасёнка. Воліка скастрылі. Калі свіння гудзіць, ей ня трэба ніякі кнур. Які конь красівы стаў, як яго адпасвіў. Вала за хвост абсіліць, каня муты́ліць кожны дзень. Як пень які ў лесе рос.

Як пятух закокаець, куры бягом. Курыца аж крылля расставіць – ляціць. Яны таго не нанясуць яец, колькі шкоды наробяць. Петухоў сеч не люблю. Цвердаватая каровіна.

Ячмянёк засушыла гэты год. Ячмяні прапалі. Ад сухаты́ й бульбе добра не было. Каліва яшчэ зялёная, значыць, бульба яшчэ расцець… Пры зáмарзках ужо.

Няма ахвоты да работы. Упаўвека ўжыўшы… Я ўжо работаў для вясёласці. Я тварыў дзяламі. Як закурыш – усю нуду разаб’еш, час перавядзеш па-добраму. Заглушу рыбу. Закідваюць тоні (сеткі). Навуджваў рыбы. Возера заплыло бузой. Рыба станіць сы́тая, неўваротная. Акушок (акунёк) – той як дурань бярэць. Жаўцяк у рыбе вэнджанай не заводзіцца.

Ветлівенькі такі чалавечак. Шчырасцю кожны бярэць. Ён малец рукаты. Шкураціна якая – прыносіць шкурацінкі мне. Ад сям’і адбіўшыся, трэба ж слухаць некага старэйшага. Розум малады – палявы, вецер і бяжыць, і звіжжыць... Ты ж троху вопытны, абабіты малец. Як ты ім у душу ўпаў!

Падхухýліцца (прычапурыцца) і ў клуб. Яна такая закукярэчыца (закапылістая)! Ня дужа любіў памаўзаваць па чужых істопках (па чужых жонках). Чалавек стараўся, каб хоць як к жыццю. Прысватыш такі. Маўчалівам чалавеку дрэнна саўсім быць. Цалуемся-мілуемся… Абнятку (абдоймы) арганізаваць… Давай я цябе паціскаю… Мужык кажа жонцы худой: “Іскрыпачка мая, балабайка мая!..”

Як задубарыцца (заўпарціцца) яна. Варону й злавіў (правароніў). І смешна, й пацешна. Жонцы трэба мець дысцыпліну перад мужам. Надуюцца адзін на аднаго, як мяхі. Што вы тырчыцё?

Любілі чарку пацягнуць. Гарчакý ў рот набраць (выпіць). Чарак пяць абсадзіў. Ёрш тваю на корані! Ён за буіэлькай блыху ў Маскву пагоніць. П’ець па-вар’яцку. А морда здаровая стала, аж вочы пазапахалі (апухлі). А яна пражыцца па ім. Забутэліцца так можна, што ад гарэлкі памрэш. Ён запіўся сільна крэпка ды скавенчыўся (замучыўся). І сам рот разінуў (памёр) не парой яшчэ. Матка ў роў (у плач).

У яе срадства (радні) ня было. Яна ўзялася гарэлку піць. Яна й абдужала яе. Набіра́цца

як бэля. Бацькі удýбкі з ей. Зблыталася й сыйшлася з нейкай блытаўкай. Такая змяістая баба. Калі сячэш дрэва, трэскі далёка не ляцяць (яблыка ад яблыні…).

Тожа блэнда, ейныя транты пазбіраў. Зношаная- пэразношаная кашуля. Стаяла б стоцьма. А яна мне й будзіць па-свінску казаць. Мне адразу цюкнула. Ёрш яе на корань! Яна мне тут пільна ня трэба саўсіў.

Усё глядзяць, каб сабе. Некаторыя прыхітрыліся. Закупіцца (адкупіцца) – і харош. Во й спёрся (адгаварыўся). У іх спайка (хаўрус) была. Хватаў, абхватваў (абіраў) людзей. Чужой бядой пачынеіць радавацца.

Гарэлка заводзіць у заблýд іх. Жанчыну заб'ець, а пасля знахальнічаець. Камень яму на грудзі, такой падле! Ня бойся звера, а бойся благога чалавека.

Чорт прыйшоў з балота, накруціў круцёлак. Як успомніць – слёзы пусціць. А мы ўжо былі зажыліся. Паціхоньку каля дому скрáбаўся. Унукаў прыгадоўваю… Застаўся адзін, як кст, як помнік.

Магу знаёмага раздзяліць (пазнаць) на адлегласці. Слуханне слабейшае, ня так чую. Што ўжо чакацца, калі ўжо зямлёй пахнеш. Сэрца ў адпачынак як пойдзець, тады кепска. Я захварэў бягом. Недамоглы нейкі стаўся. Нядумана я папаў. У мурах не магу дыхаць. Урачыха лухаўкі ўзяла, абслухала-абслухала мяне ўсяго. Як ножам разане. Рука як аграблінá зробілася. Ляпа не хацела разявацца. Таблетку выпіў – трошку аддало.

Не да вясёласці, а трэба слухаць, што болька гаворыць, ты ж ей падчыняешся. Толькі пачынаець абціхацца хвароба, новае зноў. Я такі драміла цяпер. Усё ўжо маё ўрачэнне (захапленне) кончылася. Можа, троху адкрэўлю (папраўлюся). Паглядзіцца, як будзець, можа, і прайдуся. Пайду на калідор, смаканý папяросіну. Я занудзеў (засумаваў) тут. Варваноў (вырванцаў, унукаў) маіх прышлюць. Памёр бы, каб ня мучыўся, толькі шкода тых ягнятак (унукаў).

Калі б не ўпатаропках, я б рады даў. Клыбае памалу. Куды намерыла, туды і йдзе. Сядзяць седма. Дыб-дыб – хадзіць ня можаць. Што з гэтым касталыгам (на мыліцах) зробіш, калі ён не чалавек, а палавіна чалавека (інвалід). І гэны рот разінуў (памёр). Памерла – прыкапалі. Патрывожыў маю душу. Нечага думаць, калі з зямлёй шэпчаш. Мне ўжо бяссмертнік (бестэрміновы пашпарт)далі.

Да скуранога ўрача павялі. Такую цяжбу (непамыснасць) пераносіць чалавек, і паспагадаць некаму. Ці ад Бога, ці ад злога. Грамнічную свечку палілі па табе (паміналі, думалі, што памёр). Яны цябе з бяды выведуць бягом. Будзеш дужа салодкі – зліжуць, а будзеш дужа горкі – выплюнуць. Ніколі ня ткайся (не суйся). Адзін з агнём, другі з вадой – так трэба жыць (сябрам). Вось я напуціў вас (наставіў), на шлях даў параду. Ад Бога ўтайкі няма.

*Аляксандр Аляксандравіч Каваленка (в. Краснае)*



Уладзімір Някляеў



…найпершая якасць, якая вызначае эстэтычны,
мастацкі ўзровень паэзіі,
ёсць этычны, чалавечы ўзровень паэта…

# Знакі прыпынку

* * *

Савецкі Саюз не аблайвае сёння хіба лянівы: суцэльны ГУЛАГ, імперыя зла... Так, СССР быў і ГУЛАГам, і быў імперыяй. Але не толькі. У ім былі яшчэ, апроч усяго іншага, найвялікшыя ў чалавечай гісторыя літаратурныя падмосткі — ад Хабараўска да Брэста. І на іх стаялі паэты. У канцэртных і тэатральных залах, у палацах спорту, на стадыёнах. Стадыёны раўлі, выбухалі авацыямі, заміралі ў знямелай цішыні.

Дзе і калі яшчэ было такое?..

Паэзія ў той час была хутчэйшай за сам час. Як вецер перад цягніком.

* * *

Паслясавецкая будоўля новага савецкага мінулага.

* * *

*Працяг. Пачатак у №№ 59-60, № 63.*

Спектаклі па п’есе Карнейчука «Фронт» ставіліся ў 1942 годзе не толькі ва ўсіх чатырох, колькі іх працавала тады ў Маскве, тэатрах, спектакль быў пастаўлены і ў Берліне.

Барыс Пастарнак схадзіў на мхатаўскі спектакль, сказаў: «Калі б такімі п'есамі можна было выйграваць бітвы, я б глядзеў іх штодзённа. А калі нельга, дык нашто іх ставіць?..»

Немцы ў 42-м годзе нават прамову Сталіна да 25-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі надрукавалі. З купюрамі, але надрукавалі.

* * *

Што робіць воін, — пытаецца Кастанэда, — калі бачыць, что яму канец?.. Ён робіць *тое самае*.

Гэта называецца *бездакорнасць*.

* * *

Гейдар сцвярджае, што ёсць ГЭТА, і ёсць ІНШАЕ. І ўсё.

Але і ГЭТА, і ІНШАЕ — не ЎСЁ.

* * *

Жывеш сабе — і ты маркіз дэ Гіз.

* * *

«Данос слугі перажыве Вальтэра», — казаў грамадзянін Фушэ, міністр паліцыі ва ўрадзе Дырэкторыі, які ўсё ведаў пра даносы. «Худы з земляністым тварам трупа і душой дэмана, драпежным носам, усмешкай у тонка сціснутых губах, з валасамі і бровамі без колеру і бясколернымі, рыбінымі вачыма», — як апісвае яго Бамаршэ. І відаць з апісання, як першы драматург Францыі баіцца галоўнага паліцыянта, бо ў Фушэ на Бамаршэ — шафа даносаў.

Бамаршэ казаў: «Калі выдаць сапраўды поўныя зборы твораў нашых пісьменнікаў, дык самым аб'ёмістым у многіх будзе апошні том з залатым цісненнем: «Даносы».

* * *

На майго бацьку пісалі і пісалі даносы. Усё маё жыццё, ад самага дзяцінства, пазначанае чорнымі меткамі гэтых даносаў і ўсім тым, што было за імі. Крыкамі бацькі: «Падлюкі! Сукі!..» Стрэламі з пісталета — калі ён дазнаваўся, што зноў нехта нешта на яго «намаляваў». Праз гэта – мая нянавісць да сексотаў. Данос для мяне – тое, у чым выяўляецца чалавечая подласць.

* * *

Патэлефанавалі з радыё «Свабода» з просьбай сказаць што-небудзь пра «Крыніцу», першую і другую — у службе аналітыкі надумалі рабіць нейкі матэрыял...

Не сказаў нічога, а ўспомнілася адно: як ляжаў у шпіталі, амаль нерухомы — і прышоў Р. па мой подпіс пад лістом у гараж, каб выпусцілі адтуль рэдакцыйную машыну: пакатацца ім закарцела. У мяне рука паралізаваная, а ён кладзе на маю руку сваю — і ў дзве рукі мы выводзім подпіс...

У той дзень я не ведаў яшчэ, што гэтаксама, паклаўшы адзін аднаму руку на руку, і ўсе разам паклаўшыся на руку С., яны напісалі на мяне данос.

З тым Р. пабег — і за ўвесь час, пакуль качаўся я ў шпіталі, болей ні разу і ні з чым не забягаў.

Хоць бы дзяжурны яблык прынёс.

* * *

Я стрымана адношуся да Алеся Сцяпанавіча Разанава – ён стрымана адносіцца

да мяне. Прычына – у тым, што сталася ў рэдакцыі «Крыніцы» ў 1999 годзе. Магчыма, тое, што сталася, мы абодва перабольшылі: яно не павінна было стаць прычынаю ўзніклай паміж намі стрыманасці. Магчыма. Цяпер позна разбірацца. І без патрэбы, бо ўсё гэта – пыл над дарогай, які няхай праз стрыманую, але ўсё ж павагу адзін да аднаго, найперш да таго, што кожным зроблена, мы стараліся асабліва не ўздымаць. Так, мы, аддаляючыся, разыйшліся, але разыйшліся ў адным накірунку. І, калі будуць лічыць па вялікім рахунку, нам залічыцца дарога, а не пыл над ёй.

* * *

Найпершая якасць, якая вызначае эстэтычны, мастацкі ўзровень паэзіі, ёсць этычны, чалавечы ўзровень паэта.

Маецца на ўвазе не тое, што паэт не п'е, не паліць, не гуляе, а тое, што ён не боўтаецца ў часе, як г... ў палонцы.

Што верны ён не прызначэнню і таму, хто прызначыў, а Прадвызначэнню і Таму, хто прадвызначыў.

Што бессаромна цалуе ён усе патайныя пагоркі, далінкі і плаўныя схілы каханай, але не падлізвае нічый азадак.

Што мае ён свае перакананні і прынцыпы — і на тым стаіць.

Што сярод рэчаў, трантаў і ўсяго, што ён прадае, каб неяк жыць, няма прададзеных сяброў.

Што сярод напісанага ім няма даносаў...

«...і сярод ненапісанага таксама даносаў няма», — як дадаваў звычайна Уладзімір Караткевіч.

* * *

Грузін сябе найлепей пачувае, з'еўшы шашлык з віном, а беларус — зжэршы беларуса з г...ом.

Своеасаблівасці нацыянальнай кухні.

* * *

Ніл Гілевіч на з'ездзе (пісьменніцкім, 13-м) падышоў у перапынку і сказаў: «У вас, Уладзімір Пракопавіч, занадта жорсткая пазіцыя».

Гэта праз Зянона Пазьняка, якога я перад тым (на радзе) прапанаваў вылучыць ад Саюза пісьменнікаў кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Чамусьці Гілевічу (і не аднаму яму) усё, што сыходзіць ад Пазьняка, здаецца заўчасным, радыкальным, а значыць, тым, што можа ў выніку пайсці не на карысць беларушчыне. Хоць насамрэч усё наадварот.

Я сказаў Н. С., што адзіная мая жорсткая пазіцыя — не мець жорсткіх пазіцый, так што я не зусім разумею, пра што ён, на чым і разыйшліся.

* * *

Пачаў пісаць ліст Барадуліну — спачатку са страшнага сну, пасля распісаўся, стаў разбірацца і са з'ездам, і з тым, што яму папярэднічала, але не дапісаў і не адправіў, зразумеўшы: без толку.

«Грыша,

прыснілася, нібы другім разам, чаго не можа быць, і я так і сніў, што таго не можа быць — *і толькі мы ўдвух* — Міхася Стральцова хаваем, і ты кладзешся раптам на дамавіну ягоную, кажаш: "Закапай і мяне, Валодзя..."

Як закапаць, калі ты жывы?.. Дык мёртвага, — ты даводзіш, — закапаць не штука, во ты жывога закапай, усё адно ж некалі закопваць, не табе, дык некаму, чаго чакаць,

на некага работу перакладваць?.. І так неяк проста, як праўду, гэта прамаўляеш, аж я й не ведаю, што мне рабіць, і чапляюся за тое, што так няправільна: аднаму двух закопваць. Ты пытаешся, а як правільна? — а так, Грыша, правільна, як ёсць: удвух аднаго пахаваем, а пасля ўжо, некалі, на пару з некім — аднаго з нас... Разумею, што кажу абы што, бо няма ў гэтым аніякіх правіл, я б мог і раней за цябе папрасіцца, і ні закапаным быць, ні закопваць не страшна, але жах як не хочацца аднаму заставацца — і такая палёгка, калі ты, паківаўшыся, усё ж згаджаешся, што так сапраўды няправільна: аднаму двух... І мы ўдвух, як мае быць, даводзім да ладу Стральцоўскі грудок, і адно толькі ніякавата, што я цябе нібыта абдурыў...

Ледзь не пазваніў табе ўночы, прачнуўшыся спалохана, але перахрысціўся: пра што казаць? Пытацца, ці жывы?..

Ты жыві, калі ласка, доўга, добра?..

Перасіліўся я апошнім разам у Мінску — і халера ўсялякая сніцца, і чорт ведае пра што думаецца. Але здараецца і пра някепскае падумаць: пра цябе, сівы мой дружа... Тут са мной твае *Палыновыя санеты*. “І зразумееш на чужых вятрах, што толькі дома ты і быў адзіны. Цяпер, як гук забытае лаціны, наводзіш на сябе самога страх”. І не наводзіў бы, дык сам наводзіцца... Але такой бяды, адолеем.

Я казаў табе пры чужаземцах, што ты найпершы (*вялікіх і геніяльных* пакінем тым, каму надта ўжо хочацца) паэт ва ўсёй беларускай паэзіі, дык так яно і ёсць. Гэта такая ж праўда, як і тая, што я цябе, абдурыўшы ў арыфметыцы, не закапаў...

Але чаму Міхась Лявонавіч прысніўся, як ты думаеш? Раней я ніколі яго не сніў — ні жывога, ні мёртвага. А тут і не зразумеў, які ён... Дамавіна ж і пустой магла быць?

“Мне цяжка быць самім сабой былым. Жарсць сватае маю світанак шэры.Я ўжо цяпер, як беспрытульны дым, перад якім пазачынялі дзверы”.

Іншым разам, ведаеш, здаецца, што і я ў паэзіі не п’яным пеўнем пракукарэкаў, але ты пацалаваны Богам, Рыгор Іванавіч, і я не зайздросны праз гэта, а шчаслівы... Дзякуй Богу, што пацалаваў Ён беларуса, надта ж мала іх, беларусаў, Ім пацалаваных. Але ж не Ён вінаваты ў тым?.. Самі ўсё думаем, што абцалуемся з усімі, і нас ні за што абцалуюць, і з д’яблам хітруем.

Я здагадаўся ўрэшце, чаму мне Стральцоў прысніўся. Мы з ім пра Купалу ўсё гаварылі і гаварылі, пра смерць Купалаву, у Каралішчавічах аднойчы — ночы тры запар. Я кінуў на тры тыя ночы *не даваць яму піць, каб пісаў*, нічарта ён і да таго тым разам не пісаў, мы пілі, пілі і таўклі, таўклі словы. Ты ж помніш: п’янка яго не змоўчвала і не адурняла, ён Купалу ўсяго ў любым стане напамяць чытаў. Гаварыў ён не толькі за мяне болей, але і талкавей, бо і быў талкавейшы, але ён не ведаў, хто забіў Купалу, а я тады ўжо ведаў — і толькі праз веданне гэтае мне ўдавалася ўтрымлівацца з ім на роўных, на кожнае ягонае слова не разяўляць рот. Таму, мусіць, я нават па п’янцы не прагаварыўся, не сказаў яму, *хто*, ды ён і не пытаўся, думаў, што сам ведае, кажучы: *нехта са сваіх*. І зараз я нібыта *мушу* яму сказаць, бо ён мне прысніўся, і сказаць праз цябе, бо ты і прысніўся, дзіўна прысніўся разам з ім, і ты ў мяне пра гэта ў музеі Купалавым пытаўся: Купалу забіў *вершнік без галавы*, К. забіў Купалу, Грыша, скінуў Івана Дамінікавіча ў лесвічны пралёт, данос на яго напісаўшы.

Я казаў табе, скуль мне тое вядома, а калі сам быў спытаўся ў Александроўскай: “Як я, Ларыса Пампееўна, магу ведаць, што гэта праўда?” Александроўскай яна перахрысцілася: “Хрыстом Богам клянуся”. І сказала, што не толькі ад Панамарэнкі, але і *сама* гэта ведае.

Во каля гэтага ў тую ноч і кружылі мы з Міхасём Лявонавічам...

Якія былі ў Купалы прычыны канчаць жыццё самагубствам? Ніякіх. Ды яшчэ гэтак, сторч галавою, з лесвіцы — пры, так бы мовіць, звычцы да харакіры...

А ў гэбістаў былі прычыны скончыць з ім? На той час — не. “Партызаны, партызаны, беларускія сыны...” Але ж раней *хацелі* скончыць і *помнілі*, як яно не ўдалося... *Такое такімі* не забываецца, аднак каманды ніхто не дае, а без каманды нельга, дык каб жа хто-небудзь узяў ды ўгадаў, што каму хочацца, бо да таго ж: што з гэтым нацдэмам далей рабіць?.. І знайшоўся той, хто ўгадаў: штатны стукач, якога раздзірала зайздрасць. Той самы, які ўжо даносіў, які шмат чаго ведаў — і таму шмат што ўгадваў *за* і *пра* сваіх гаспадароў. У той момант ведаў найперш тое, што яго ўпікнуць хіба толькі за *перавышэнне паўнамоцтваў*, але даруюць і пакінуць служыць. І яму даравалі, і яго пакінулі на службе, і мы — і ты, і я — з ім за руку здароўкаліся. Вось што ў нашай літаратуры сядзіць, Грыша, вось чаму яе Бог не цалуе, адварочваецца... А калі пацалаваў некага асобна, дык дзякуй і маліся, маліся і дзякуй, што абраў, што выбраў — і нічога болей не прасі...»

* * *

З ліста Ігара Шклярэўскага да Станіслава Куняева (калі яны яшчэ сябравалі):

«Прочел рецензию Абрамыча (Барыса Слуцкага, які падтрымліваў Шклярэўскага ад самага ягонага прыезда ў Маскву – *У.Н.*). Я его люблю и уважаю, но он совершенно не понял мой мир. Природа, свобода слов и чувств, мысль во плоти, в чешуе, в росе, в порыве — для него это не мысль, ему надо рассуждение, то есть голая формула, нужны философские потуги и намеки... истинный поэт хрен ложил на все рассуждения... Я разозлился страшно и Абрамычу напишу... он не понимает самого пронзительного — пространство и жизнь, костер и ледяное небо...»

Прыкладна тое самае я напісаў некалі ў лісце да Р., але так і не адправіў ліст, парваў. Бо Куняеў, рускі нацыяналіст, хоць і балюча, перакошана, але сябраваць умее (таму і надрукаваў у «Нашем современнике» ўспаміны да юбілею Шклярэўскага «В нашей дружбе и волчьей и нежной...»), а касмапаліт Р.(ніякі ён не беларускі нацыяналіст) — не. Ніяк.

А ўвогуле я пісаў і рваў лісты і да Быкава, і да Барадуліна, і да...

Напішаш, падумаеш — і парвеш.

Парванае не застаецца.

* * *

Актрыса Ранеўская тэлефануе раніцой паэтцы Ахматавай і кажа, што ёй сніўся Пушкін.

— Зараз жа еду, — адказвае Ахматава.

Калі мроіць нейкую супольнасць, трызніць нейкім (паэтавым над побытавым) узроўнем адносін, дык гэтакім.

* * *

У Алега Чухонцава: «Кыё! Кыё! По колена стоя в воде...» Колькі энергіі ў гэтым «кыё» і страшнага зместу. А зусім жа не слова. Гук, крык.

* * *

У паэме «Дванаццаць» радок «Шоколад миньон жрала» прыдуманы жонкай Блока. У яго было: «Юбкой улицу мела».

Дзеля такой праўкі варта было ажаніцца.

* * *

Чалавека можна выхоўваць у праўдзе колькі заўгодна — гэта не шкодзіць яму маніць.

* * *

Там, дзе ты не сам герой, там няма герояў.

* * *

«Не кожнаму жыццё да твару». Ежы Ленц.

* * *

Калі ў адно сабраць усе заключэнні пра вырад чалавецтва, дык яно паўстане даўно і канчаткова звыраднелым.

Характэрная дэталь: аўтары заключэнняў гэтых, напісаных у розныя часы, пераважна сталага веку. Каля мяжы вырадү, альбо ўжо на ёй...

* * *

Сюжэт. Бацька і сын – адвакаты. І за савецкім часам усё ў іх файна, а за паслясавецкім – яшчэ лепш. Грошы не пераводзяцца.

«Але ўсё да пары, – вучыць бацька сына. – Таму, калі ўхапіў рубель – трымай. Каб ніхто не вырваў: ні жывы, ні мёртвы. Помні: усё, апроч грошай, пясок».

Бацька памірае. Сын, каб грошы не вырваў мёртвы, падлічвае, як правесці бацьку ў апошні шлях найтаней. Спальвае яго ў крэматорыі. Урну з прахам забірае дахаты.

Злодзеі залазяць у кватэру. Шукаюць золата. Знаходзяць пясок, пыл нейкі ў урне. Высыпаюць на падлогу.

– У, зладзюгі! Абрабавалі ды яшчэ пяску столькі ў хату нацягнулі!..

І падмятаецца падлога – і ўсё жыццё ў сметніцу.

* * *

Сюжэт. З рэальнага жыцця (вёска Лідзіна Старасельскага сельсавета Шклоўскага раёна).

Маленькі, гарбаты, апрануты ў фрэнч і галіфэ, запраўленыя ў боты, з пугай за халявішчам і складзенай газетай у руках – Пятро Каспячэнка. Збірае па хатах малако і возіць у раён на малаказавод.

Жонка – на дзве галавы вышэй за яго, здаровая, жылістая. Ён напіваецца штодня, кожнага разу яе мяцеліць. Спрабуе ў пысу даць, дастаць не можа, камандуе:

– А ну зэдаль сюды!..

Яна прыносіць зэдаль, ён стае на яго. Жонка падстаўляецца і просіцца: «Пеця, ну не бі, ну не бі...» Ён у пысу ёй, у пысу! Калі, п'яны, падае, яна падымае і шкадуе: «Ой, Пеценька мой, моцна пабіўся?..» І нясе ў ложак.

У хаце, парог у якой – тры бярвяны, за якія кожны раз чапляецца і завальваецца п'яны гаспадар, жывуць усе разам: карова, свіння, гусі з курамі. Гаспадар ні чарта па гаспадарцы не робіць, толькі малако возіць ды газету чытае.

У горад ездзіць! Граматны! Адзін такі на ўсю вёску. І яна цягае яго ўсё жыццё на сабе, каб ён яе лупіў...

* * *

Беларусь – лікёра-трактарны завод.

* * *

Дыялог.

– Ды я... ды вас... – жабай пачаў надзімацца Кныш.

– Не лопні у порткі, – сказала Вера.

* * *

Чалавек і сам памылка, і створаны пераважна для памылак.

* * *

Цярпенне ў мяне з нагамі. Можа пайсцi.

* * *

Можна было б напісаць нешта пад назвай «Папярэдні раман». Спасылаючыся ў ім на тое, што нібыта ўжо вядома з папярэдняга рамана.

* * *

Самапераробка Купалы:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі,
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі!

Курганы пасля праўкі становяцца *нягодамі*, а славяне робяцца *народамі*.

* * *

Шмат без чаго, напісанага Купалам, можна было б абыйсціся, а без самога Купалы — не.

* * *

9 ліпеня 2006 года мастакі Уладзімір Вішнеўскі і Рыгор Сітніца наладзілі ў Крэўскім замку каралеўскае свята. Каранавалі караля паэтаў. Пасадзілі на трон — Вольга трымала над галавой караля вянок...

Потым сабралі і ўмуравалі ў сцяну замка 60 камянёў.

Так мае шэсцьдзесят гадоў пакладаліся ў шэсць стагоддзяў.

* * *

Стрыечны брат памёр. Яўген Магер. Ён маладзейшы за мяне амаль на дзесяць гадоў, а вось...

З усіх братоў ён быў найбліжэй мне. Можа, праз тое, што мы абодва «галавой стукнутыя». І ў метафарычным, і ў найпраставым сэнсе. Мяне дзядзька некалі над парожным каменем падкінуў і не злавіў, а трохгадовы Жэня зрынуўся з трэцяга паверху шпіталя, з якога вырашыў уцячы.

Вось уцёк адусюль...

Займаючыся матэматыкай (кандыдат навук), ён быў паэтам.

Чаму ён першы?..

У царкве, калі адпяялі, я памаліўся за астатніх братоў і папрасіў Бога, каб браў па чарзе.

* * *

У дзяцінстве я прыдумаў штосьці геніяльнае. Нешта такое, з чым чалавецтва магло б зрабіць гэткі самы крок наперад, як з вынаходніцтвам кола. Але я забыўся: што?..

Запомнілася іншае. Такое, на што чалавецтву напляваць. Напрыклад, як Клаўдзія Шульжэнка, па радыё абавязкова народная артыстка СССР, спявала: «Не говорите такие слова, я ведь могу рассердиться!..» І я думаў: »А хто ёй кажа такія словы? Народнай артыстцы СССР? Ленін ці Сталін?.. І што будзе, калі яна раззлуецца?..»

Цяпер пытанне: ці мог такі хлопчык прыдумаць нешта кшталту кола?..

* * *

Бліскучая фраза (хутчэй за ўсё французская прымаўка) у фільме Жана-П'ера Жэнэ «Амелі»:

*Калі палец указвае ў неба, толькі асёл глядзіць на палец.*

* * *

Вось тэкст:

«Пясняр вёскі (маецца на ўвазе Купала – *У.Н.*), прыкаваны к зямлі змалку, жывучы ёю, думаючы аб ёй наяву і ў сне, большую вагу сваіх думак пасвячае ідэалу жадання зямлі, свабоднае працы на ёй. (Слабак ён, вынікае, пясняр вёскі, хай нават ён Купала – *У.Н.*). Работнік якраз мала ўспамінае аб гэтай рэчы: праца паднявольная ў фабрыцы ці майстэрні родзіць жаданне палепшыць яе варункі, скінуць гвалтоўнасць яе характару, аслабіць. У беларускай літаратуры прадстаўніком гэтага настрою з'яўляецца Цішка Гартны. Фундаментальны матыў яго песні — гэта пачуццё сваёй сілы, сіла ўсяго рабочага класа, які творыць скарбы свету. Вось чаму ўсе мукі яго жыцця — нічога перад яго сілаю і не падрываюць у ім веры і надзей. Зварот чыстых ідэй у дзела — упорна працаю — захапляе ў Цішкі Гартнага сваёю вераю і непарадатнасцю».

Тэкст сапраўды захапляе *непарадатнасцю*.

Хто гэта і пра каго?..

Гэтак Зьміцер Хведаравіч Жылуновіч, першы старшыня беларускага часовага ўрада, ён жа пісьменнік Цішка Гартны, кажа ў лекцыі, прачытанай студэнтам Беларускага народнага ўніверсітэта ў Маскве ў 1918 годзе.

Згадаў я гэты тэкст і вярнуўся да яго, каб заканспектаваць, чытаючы артыкул Ніла Гілевіча пра самога сябе пры публікацыі «Лысай гары» ў газеце «Народная воля». І хоць артыкул *непарадатны*, а ўсё ж не надта арыгінальны: усім і ўсяму ў нашай літаратуры нешта папярэднічае.

* * *

Якубовіч неяк казаў мне, што падштурхоўваў Лукашэнку, каб той у знешняй палітыцы да нечага, як вагон да цягніка, прычапіўся: ці да прагабрэйскай палітыкі (бо гульні з ісламскімі краінамі Бліжняга Ўсходу небяспечныя, ЗША за іх могуць пакараць), ці, на выбар, да палітыкі прапапскай, пакуль жывы Караль Вайтыла.

Вайтыла памёр, застаўся адзін варыянт, без выбару...

На нармалёвых стасунках з Ізраілем, канечне, можна было б рабіць палітыку. Хоць бы настальгічную... Ну, калі ўжо Хаім Вейцман, першы ізраільскі прэзідэнт, з Моталя.

* * *

Бураўкін у каторы раз распавядае пра тое, як яны з Вярцінскім збіралі подпісы пад лістом у абарону Быкава. Але гэтым разам ва ўспамінах ягоных усплывае даволі цікавы эпізод з Іванам Навуменкам, маім суседам.

Навуменка ліст адразу не падпісаў, пабаяўся... Бураўкін жа з Вярцінскім пастанавілі завершыць збор подпісаў у нейкі там дзень (Бураўкін сам мне памятае, у які?) апоўначы. І ўсё, кропка. Хто падпісаў, той падпісаў. І раптам апоўначы тэлефануе Навуменка: «Генадзь, я перадумаў, хачу падпісаць». — «Хацець ты, Іване, — адказвае Бураўкін, — можаш, але падпісаць — не. Раней трэба было падпісваць, калі мы табе гэта прапаноўвалі, а цяпер позна». І кладзе слухаўку, каб спаць.

Але тут тэлефануе Алесь Адамовіч: «Слухай, толькі што Навуменка са мной

гаварыў, ты яму ліст падпісаць не даеш, дык няхай падпіша...» Бураўкін і яму адказвае, што позна, бо ёсць наконт гэтага дамоўленасць. І ёсць прынцыпы ўрэшце рэшт... Зноў кладзецца спаць, але яго падымае званок у дзверы: Адамовіч з Навуменкам. Адамовіч кажа: «Дай ты яму гэты ліст падпісаць, бо да раніцы тэрор будзе...»

Навуменка падпісаў і сказаў:

— *Цяпер я магу жыць у згодзе с сумленнем.*

Я перапытаў: «Так і сказаў?» — і Бураўкін кіўнуў: «Слова ў слова. Вось такі быў некалі Іван...»

* * *

Ляжу ў адной шпітальнай палаце (дыягназавалі прадінсультны стан) з Аляксандрам Сімуравам, колішнім карэспандэнтам «Праўды» ў Беларусі. Зараз яму (жнівень 2007) 86 гадоў — і ён, як кропельніца над ім ці вуця пад ягоным ложкам, поўны ўспамінаў. Слухаю — і яшчэ раз лаўлю сябе на думцы пра дэтэрмінаванасць таго, што і як мы помнім.

Ёсць дзве легенды пра двух беларускіх партыйных функцыянераў як пра ратавальнікаў і абаронцаў беларускіх літаратараў. Адна пра першага сакратара партыйнага ЦК Панцеляймона Панамарэнку, нібыта ратавальніка многіх, найперш Коласа і Купалы, другая — пра сакратара ЦК па ідэалогіі Аляксандра Кузьміна, ратавальніка Быкава і Адамовіча. І калі Колас з Купалам сваю ўдзячнасць Панамарэнку ніяк не засведчылі, дык і Быкаў, і Адамовіч, згадваючы ў сваіх запісах Кузьміна, хоць і стрымана, але кіўнулі: так, удзячныя. За ўзнагароды, за тое, што выдавацца дапамагаў...

У Сімурава з Кузьміным нешта, мусібыць, некалі не склалася (хоць абодва яны Аляксандры Трыфанавічы). І Сімураў, лежачы насупраць мяне на шпітальным ложку, згадвае зусім іншае.

— Калі ўсчалася валтузня з Быкавым праз аповесць «Мёртвым не баліць», звоніць мне Кузьмін: «Зайдзі!..» Прыходжу, яшчэ ў парозе стаю, а ён адразу: «Трэба Быкава ў “Праўдзе” адмяцеліць. І наогул у цэнтральнай прэсе біць яго часцей, бо ён гэткі ж вораг, як Сахараў ці Салжаніцын. А для нас яшчэ і большы».

Кажу Сімураву, што, магчыма, Кузьмін дым пускаў. Наўмысна для Масквы... Бо я таксама яго з большага ведаў, і па натуры не выглядаў ён на чалавека, які ў адно вуха кажа адно, а ў другое — другое.

Сімураў кажа: «Добра, давайце пра натуру... Калі жывы быў першы сакратар ЦК, начальнік Кузьміна і ўсяе Беларусі Машэраў, былы нібыта партызан і нібыта герой, дык Кузьмін ініцыяваў стварэнне філіялу музею Вялікай Айчыннай вайны ў Расонах. У школе, дзе калісьці Машэраў настаўнічаў. Музей мусіў распавядаць пра гераічную партызаншчыну, а значыць... зразумела, пра каго. І Кузьмін невылазна ў Расонах сядзеў, каб найхутчэй разгарнуліся новыя старонкі кнігі па гісторыі партызанскай вайны. А загінуў Машэраў — і не трэба ніякіх новых старонак, ніякіх музеяў. Бо Ціхан Кісялёў, які змяніў Машэрава, не надта Пятра Міронавіча любіў, паколькі надта доўга быў другім у ягоным цыбатым цені. І калі дырэктар музею прыехаў у Мінск прасіць грошы, якіх зусім мала ўжо трэба было, каб усё да ладу давесці, Кузьмін пагнаў яго ў каршэнь: які, на хрэн, музей, хто там, на хрэн, герой?..

Больш за тое: калі на гібель Машэрава амаль ніяк не азвалася Масква, і нават папаўзлі чуткі, што аўтакатастрофу беларускаму кандыдату ў Палітбюро ЦК КПСС наладзіў КДБ, дык Кузьмін пра тое, што ніякі Машэраў не герой, публічна заявіў на рэгіянальнай нарадзе карэспандэнтаў цэнтральных газет, якая праходзіла ў Мінску. Калі б, маўляў, героем быў, дык не адмаўлялі б яму тройчы ў прысваенні афіцэрскага звання. Ён жа спачатку ў запечны сядзеў, а пасля ў

немцаў быў. Што ж ён у іх рабіў, калі не супрацоўнічаў? І бацьку ягоны пасадзілі яшчэ да вайны як антысаветчыка...»

Сімураў не выдумляе, ён праўду ўспамінае. Але ці ўспомніў бы ён гэтую праўду, калі б Кузьмін з ордэнам яму дапамог ці з якой прэміяй, нейк аблашчыў?.. Наўрад ці. А калі б і ўспомніў, дык маўчаў бы, як поўная вуця пад ягоным ложкам.

Між іншым, Генадзь Бураўкін прагаласаваў некалі супраць прысуджэння яму (Сімураву) Дзяржаўнай прэміі БССР за кнігу пра Балгарыю. І Сімураў да гэтай пары слова ў слова (хоць сам жа не чуў, нехта яму пераказаў) памятае тое, што прамовіў Бураўкін: «Калі кніга пра Балгарыю, дык няхай балгары і даюць яму прэмію, пры чым тут Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка?..»

Такое не забываецца. І Сімураў ледзь стрымліваецца, каб не ўспомніць пра Бураўкіна «з усёй цеплынёй», але асцерагаючыся, што я магу пераказаць, кажа толькі, некуды ў шпітальную столь гледзячы: «Няпросты чалавек Генадзь Мікалаевіч...»

* * *

Выпісаўся са шпіталю і паехаў на лецішча да Бураўкіна. Адсвяткаваць ягоны 71 дзень нараджэння. Па дарозе згадаў, як святкавалі 70, і як мяне гняло, што ўсе пастарэлі. І ён, і Рыгор, і... Карацей, як праз гэта набраўся, і таму ні чарта болей не помню, апроч таго, як гняло, і як праз гэта набраўся.

Гэтым разам не піў, а Генадзь Мікалаевіч выпіў. Не так, як я мінулым разам, але ўсё ж... І пачаў казаць мне, калі ўжо падняліся з-за стала і на вуліцы шашлыком закусвалі, што ўсё правільна я рабіў, спрабуючы некалі Лукашэнку на наш бок перацягнуць. Удала ці няўдала рабіў — гэта іншая справа, але правільна. Шкада, што не давёў усё да нейкага лагічнага канца. Зноў жа, невядома, да якога...

Думкі такія з'явіліся ў галаве Генадзя Мікалаевіча пасля таго, як Вітаўт Кіпель давёў яму, што зацятая канфрантацыя з уладай — не самае лепшае, а самае горшае з таго, што мы, літаратары, маглі зрабіць і зрабілі на шкоду Беларусі і беларушчыне. Васіль Быкаў, ён, я... Тую ж самую памылку дапусціў перад намі Зянон Пазьняк, і гэта стала нібыта ўзорным стылем паводзін апазіцыі, а насамрэч — рамантычнай дуратой. Сапраўдная палітыка — гэта перш за ўсё гнуткая сістэма дамоўленасцяў і кампрамісаў. Такім шляхам чалавецтва і прыйшло да дэмакратыі, якая і ёсць не што іншае, як сістэма кампрамісаў. І калі б мелі мы хоць нейкі палітычны досвед, нейкую школу дэмакратыі, мы б таксама пайшлі гэтым шляхам. Дамаўляліся б з уладай, каб не ўсё беларускае згубіць, каб нешта змяніць да лепшага.

Прыблізна тое самае (толькі ўжо не пра мяне, а ўвогуле пра нейкую нескарыстаную магчымасць) Бураўкін паўтарыў, калі да нас падыйшоў Аляксандр Старыкевіч. Той катэгарычна не згадзіўся: «Нічога і ніхто, ні вы і ні Быкаў не змаглі б зрабіць, каб нешта ў Лукашэнку змянілася. Так што няма пра што шкадаваць».

Ён адышоў, а Генадзь Мікалаевіч наліў па кілішку: «Давай вып'ем і падумаем...»

*(Працяг будзе)*

Данута Бічэль



...з людзьмі не падзелішся болем,
але можна да людзей прыгарнуцца,
калі дзяліцца з імі дабрынёй...

# Ніна Мацяш і сяброўкі яе святога жыцця

20 верасня Ніне Мацяш споўнілася б 70 гадоў. Большую частку жыцця яна жыла на калясцы. 19 снежня 2008 года памерла ноччу ў сваёй пасцелі. Бог забраў яе ў свае ясноты, дзе ўсе душы крылатыя. Так мы наіўна ў гэта верым. Яна сціпла адсвяткавала сваіх 65 гадоў, падрыхтавалася да вечнасці, усё прадумала сама. Я размаўляю з Нінай у самоце, як пры жыцці з ёй размаўлялі. Што там казаць, я сумую па яе бескарысным сяброўстве.

Дзяўчаты, якія нарадзіліся невылечна хворымі, святыя пры жыцці.

Паэткі, з якімі я сябравала, – Ніна Мацяш і Ларыса Геніюш, былі святыя. А Зоська Верас была сувязной паміж беларусамі і Маці Божай Вастрабрамскай...

Ніна Мацяш не выходзіла замуж. Мама забараніла сваім хворым дочкам. Іх было тры, што з дзявоцтва хварэлі: Аня, Марыя, Ніна. Сястра Люба нарадзілася здаровай, але загінула ў аўтамабільнай катастрофе. Самая малодшая Галена доўгі час жыла з мужам далёка ад Белаазёрска, вярнулася ў родную хату

пасля смерці бацькоў... Жывуць яшчэ Зіна, Вольга і брат Мікалай. Аня і Марыя сядзелі на крэслах і шылі людзям адзенне, з гэтага мелі заробак. Мама іх ранкам апранала, мыла і карміла, усё жыццё, як маленькіх. Аня і Марыя нікуды не выязджалі з Ніўкаў. Невылечная хвароба *міапатыя* усім ім перадалася па жаноцкай лініі, яны не ведалі той хворай са свайго роду, якая пакінула ім хваробу, або не казалі пра яе, бо яна ні ў чым перад імі і Богам не вінаватая... Сутнасць хваробы ў тым, што паступова атрафіраваліся мышцы...

Ніна скончыла інстытут замежных моваў, палову вучобы яна хадзіла і нават бегала на сваіх нагах, а пасля прыйшлося перавесціся на завочнае аддзяленне... Яна працавала ў Белаазёрскім тэхнікуме, навучэнцы прыходзілі па яе перад заняткамі і адвозілі на працу на калясцы, атрымала кватэру ў Белаазёрску недалёка ад тэхнікума і жыла адна... Мама залішне любіла сваіх дзяўчат з усім іхнім нясцерпным болем, каб, не дай Бог, не балела яшчэ мацней... А былі яны такія прыгожыя з твару, такія разумныя і чыстыя душой, што знаходзіліся хлопцы, якія хацелі насіць іх на руках... Але мудрая і спакойная мама лічыла, што гэтае жаданне ў мужчынаў хутка мінае. Не хацела аддаваць сваіх хворых дзяўчат ні ў чые рукі. Але Сымон з Кірынэі дапамог Езусу данесці крыж на Галгофу. Гэта ведала Ніна, таму паспрабавала жыць асобна ад мамы, сабраўшы вакол сябе духоўных сёстраў...

У адным мама Ніны не памылялася: чым мацней баліць, тым глыбейшае, шчымлівейшае паэтычнае слова... Ніна была паэткай болю.

На Ваша “ты” сказаць Вам “ты” не смею.
І калі позірк позіркам злаўлю,
як птушанё, спалохана нямею.
Я не кахаю Вас. Я Вас люблю...

Вогнішча разгараецца, калі падкідаюць сухія дровы, жыццёвыя сілы спальваюцца, калі мацнее боль. Ніна шукала духоўнай энергіі, каб трымацца, а боль не адпускаў. Прыкаваная да каляскі, шмат чытала. Збірала мудрасць усяго свету ад прачытаных кніг, пачала збіраць, песціць і гадаваць свае слоўцы. Мама гаіла яе боль песняй. Не вылечвала, але суцішвала. З людзьмі не падзелішся болем, але можна да людзей *прыгарнуцца*, калі дзяліцца з імі дабрынёй...

Жаданне як мага меней браць ад людзей, як мага болей рабіць самой простую работу: варыць ежу, лупіць бульбу, каб пальцы не мярцвелі, увесь час імі варушыць, перабіраць, плесці з нітак, укладаць пярынкі, лісткі, карэньчыкі, пялёсткі, – гэта маўклівыя вершы болю. Ніхто не выказаў такой мудрасці, што боль – гэта шчасце. Боль заўсёды палюе на шчасце, падсочвае, нападае, цэліць знянацку і нішчыць. Але ў шчасці можна вытрываць нейкі час нават боль. Ніна вытрывала ўсё жыццё. Не прыходзіла да яе думка, каб скочыць. Якая сіла кіравала яе духам? Яна магла падзяліцца гэтай сілай з сябрамі і з усімі людзьмі. Ад таго, што дзялілася, духовая сіла не слабела, а мацнела.

Нехта браў яе на рукі, пераносіў з пасцелі ў каляску, з каляскі ў ванну. Нехта пераносіў яе на сядзенне ў машыне. Яна цалавала яго ў шчаку. Хто меў патрэбу яе насіць на руках, той ведаў, што гэта пацалунак цярпення... Святыя стыгматы – пацалункі Бога. Ніна з перыйка складала ўзоры свайго болю.

Яна прыдумала такое ціхае святое жыццё, нібы наіўную гульню, – ездзіць з пісьменнікамі па свеце, куды іх запрашалі, нібы без яе там не абыйшлося б. Спяваць з пісьменнікамі песні, якія спявала мама, нібы без Ніністых песень разбурыцца пісьменніцкая суполка. Так наіўна гэта гучыць, ды рассыпалася пісьменніцкая сям’я, калі не стала Ніны Мацяш. Ніна яднала бездапаможных, слабых пісьменнікаў у магутную сям’ю. Мела духоўныя сілы перасесці з каляскі ў крэсла паміж Ларысай Геніюш і Валодзем Калеснікам, каб яны маглі праз яе

хворыя плечы паразмаўляць... Ніна сядзела там, дзе паміж імі праходзіла лінія фронта. І магла яна сесці паміж мудрымі хітрымі баязлівымі старэйшымі і амбітнымі маладзейшымі, смелымі смеласцю, не праверанай на справе.

Дзяўчаты – сэйсмографы болю. Ніна паклікала дзяўчат у сваю бяду, Галіна, Марыя і Света прынялі гэтае запрашэнне па дарозе да збаўлення. Яны прыдумалі гэты шлях як гульню дзяўчынак-падлеткаў у класікі, – у вачах людзей гэта выглядала весела... Ездзілі з Нінай па белым свеце – то адна, то другая... У Готу ў Цюрынгіі запрасіў Ніну сябра, які там жыў, каб паказаць Ніне Еўропу. Яна там напісала верш “Рандо для Марыі Новік”: *Касіла Мар’я канюшыну у Ярашэўскага ў садочку...* Вось такая рамантыка – ехаць у Нямеччыну, каб там касіць канюшыну. Магчыма, у Дзімы Ярашэўскага была гэтая сучасная каса на электрычнасці ці на бензіне? Але я ўяўляю Марыю Новік са звычайнай касой. Па дарозе з Готы заехалі ў Парыж. Ніна ў калясцы, як каралева, за ёй яе прыгожыя маладыя фрэйліны, Анелькі-абаронкі...



*Ніна МАЦЯШ.*

“У кожнага з нас маецца свой алфавіт, каб ствараць паэзію”, – піша Ніна. Каб узаконіць гэтае моўнае наватворства, Ніне было зручна ўзяць сабе ў заслону “набліятку” – бяру гэты тэрмін у двукоссе, бо ніхто гэтак не гаворыць, але ж гэта па-беларуску! Віслава Шымборска валодала неабмежаванымі магчымасцямі метафары, іншасказання... У перакладах вершаў Шымборскай Ніна знаходзіць апраўданне свайму словаскладанню: гэтыя “праплешкі самым скрайчыкам сцежкі, готык-небадотык, палянай, добра вядомай, але ўжо не падобнай да бачанай зрана”... Не знячэўку, а знечаку...споцем – не ўпоцемку, “аддар, лёгкіх мянлівых аблачынак, густападна адвольным віраваннем сняжынак... і шчымотна-верадна і невымоўна-ўтульна ў знячэўку растуленай прорве самоты...”

І не трэба доўга шукаць, каб на такую мову наткнуцца, такая мова спрэс усюды – і ў Ніны Мацяш і ў Віславы Шымборскай, якая Ніне, будучы набліяткай, перадавала кнігі з уласнаручным надпісам.

Дзяўчаты прытуліліся да болю паэткі, палічылі, што Ніна і Слова – гэта сінонімы. Яны падтрымалі прыдуманую Нінай гульню ў словы, як у фанцікі, навыдумлялі столькі новых словаў, чытаючы некаторыя вершы, бярэ сумнеў, на якой гэта мове, няўжо, на паляшуцкай? Не, на Нінінай. Яе анёлкі і цяпер размаўляюць на Нінінай мове, а ў іх ёсць дзеці: у Галіны ёсць дачушка і школа ў Белаазёрску, у якой яна выкладае беларускую мову, у Марыі ёсць студэнты Бярэсця і некалькі сіротаў, якіх яна прытуліла, дапамагла ім вырасці, стаць на ногі, каб яны раз’ехаліся па свеце. Святлана – адна са студэнтак, яе духоўная дачка. Святлана лётае па Птушынай Дарозе Ніны Мацяш, стварае версеты, якія трымаюцца на адной рыфме, на адной метафары. Маці памерла дваццаць гадоў

таму назад, бацька Аркадзь так любіў маці Броню, што пайшоў за ёй у тую вандроўку праз пяць гадоў, пакінуўшы сваіх дзяцей на волю лёсу... Святлане было каля дваццаці, і неяк яна затрымалася на дваццаці гадах – маміна і Божая сірата. Мусіць, таму, што яе поле дзейнасці – слова, медытацыя, магчыма, містыка... 5 сакавіка Святлана патэлефанавала мне і пачала чытаць вершы са слязінай смутку і шчасця пра маму Броню, якія скяліся ў яе ў той ранак. Прачытала і кажа:

– Мама памерла дваццаць гадоў таму назад якраз у гэтую гадзіну, таму я плачу. 7 сакавіка Святлана таксама прачытала крыху вершаў у тэлефон, у гадзіну, калі маму хавалі... Праз нейкі час, рыхтуючы ў Белаазёрску “Бабіна лета з Нінай Мацяш”, Святлана мне пачытала ў мабільнік вершы Васіля Дэбіша пра маму, мы з ёй ачышчальна паплакалі.

Калі я кажу, што Святлана спынілася на сваіх дваццаці гадах, не думайце, што я лічу яе зялёным падлеткам. Яна духоўна расце, паглыбляецца ў творчасці, набіраецца ведаў, вопыту і кшталту, святасці, дабрыні і мудрасці, але пры гэтым застаецца паэткай, умее захапляцца і расчульвацца расінкай на лістку, песняй зялёнага коніка, і захоўваць глыбока ў сэрцы пах смалы мамінай труны і тое адчуванне, як яна са скрынкі даставала паштоўку ад брата Генадзя, у якой ён віншаваў маму са святам, калі мама ляжала ў труне. Бог дае Святлане столькі шчырасці, цнатлівасці і безабароннасці, і ўсю дзявочую пяшчоту яна беражэ для таго, каб гадаваць адно дзіцятка роднае Слова.

Я не ведаю лацінскай мовы, у малітоўнічку “Ойча наш” у “Нешпарах на нядзелю і ўрачыстасці” чытаю малітву – “Рэспансорый”:

Хай Імя Божае будзе праслаўлёнае...
Хай Імя Божае будзе праслаўлёнае.
І цяпер, і заўсёды.
І цяпер, і заўсёды будзе праслаўлёнае...
Хвала Айцу, і Сыну, і Святому Духу...
Хай Імя Божае будзе праслаўлёнае...

Гэтае лацінскае слоўца, аблашчанае духоўнымі тлумачальнікамі, як заключная птушыная песня, калі канчаецца цемра і хмаркі прапускаюць на ўсходзе сонечныя праменьчыкі – гэта водгук дня на цемру начы, такое ўскліканне або шэпт на вуха сусвету, а яшчэ тлумачыцца як “адказы аракула ў сувязі з наплывам сусветнай пошасці, мору”... Гэтае слова падыходзіць, каб даць назву версэтам Святланы, – адказы на ўшанаванне духоўнай спадчыны Ніны Мацяш, *responsorius contus* прыдуманай мовы. Прыдуманай у цярпенні, у нясцерпнай адзіноце, гайдаючы боль у калясцы. Пад канец жыцця Ніна стамлялася ўвесь дзень працаваць, а класціся ў ложак было таксама нязручна, мусіла пасля паўдня падрамаць у калясцы, паклаўшы галаву на стол...

Тулюся сонным болем да шчакі.
Мне снілася: у жыце з васількамі
мяне чакае мама...

Гэта верш Святланы. Дзяўчаты прыязджалі да Ніны з Бярэсця, калі яна кліч клікала, што без іх ужо ніяк не справіцца, – разваліўся той парадак, які ёй патрэбны, бо не скочыш і не знойдзеш неабходную рэч, калі навалілася мора лістоў і розных прадметаў... Ніна была святой, і такога грэху, якім грашу я, – грэху самотнай гардыні – Ніна Мацяш не ведала.

“Бойся спазніцца са словам харошым...”

І дзяўчаты, Ніціны абаронкі, цяпер збіраюць, камплектуюць, тлумачаць і плануюць выдаць слоўнік Ніціных наватвораў.

Гэта ад Тамары Уладзіміраўны Ліс я пачула: “Займу сваё месца”, – так яна кажа

і займае сваё месца за каляскай дачушкі Даркі, каралевы болю Паўночных Афінаў, ці мястэчка Залесся, што каля Смаргоні... Адарка прыслана Богам прадаўжаць Нінін містычны шлях цярпення. 20 снежня 2008 года хавалі Ніну, па волі сяброўвыдаўцоў першай кнігі вершаў і прозы Дар'і Ліс "Вясновы jazz" я павінна была паехаць у Смаргонь на сустрэчу з Адаркай. Не магла гэтага праігнараваць, там усё было падрыхтавана, скліканы людзі... Адарка годна прадаўжае Нінін пакутны шлях. Церпіць з пакорай і спакоем, атуленая любоўю бацькоў і блізкіх людзей. На радыё "Рацыя" кожны дзень гучыць яе голас зранку і пасля паўдня. Часам страшна робіцца – такая маленькая дзяўчынка ў сваёй падлеткавай калясцы заступаецца за пакрыўджаных перад зграяй чыноўнікаў. Кожны дзень кідае ў эфір мініяцюрныя аповеды – як агністыя камяні горкай праўды пра надзённыя справы. Паўнавартасныя здаровыя дзецюкі зрываюцца ў запоі на такой рабоце, Адарка сама сябе не падводзіць. Ёй трэба сказаць тое, што яна кажа, трэба выходзіць на святло з усмешкай, сведчыць сілу духу, дзяліцца з сябрамі.

Малітву Адаркі запісала Галіна Калевіч у рэпартажы ў часопісе "Ave Maria", калі Адарка знаходзілася ў Мінску на пакутнай рызыкоўнай аперацыі, якая ўдалася, таму мучэнні Адаркі паспяхова прадаўжаюцца на шчасце бацькоў і сяброў:

Божа, дай мне розум і душэўны спакой –
прыняць тое, што я не ў сілах змяніць,
мужнасць – змяніць тое, што магу,
і мудрасць – адрозніваць адно ад другога...

Адарка ідзе да людзей так, як Маці Тэрэза з Калькуты, – заўсёды з усмешкай, спакоем, не паказваючы, што цяжка ёй даецца гэты спакой. Гэтак жа, як Ніна Мацяш. Яны адна з другой не сустрэліся, не паразмаўлялі. Мабыць, Ніна ўжо не мела сілы шукаць сабе сяброўак на калясках, а ў Адаркі не было смеласці самой звярнуцца да Ніны, залішне высокі аўтарытэт быў у Ніны Мацяш у літаратуры. Адарка стварае камп'ютарную маладзёвую мову, так цяпер ствараюць сваю дзіўную мову маладыя свету, ім трэба неяк гаварыць іначай – скароты тыпу чэл, пазл, фішка, радкі "мой верш – кампрамат". І стылістыка мовы ў Адаркі дзіўная, нібы няправільная, а няма да чаго прычапіцца. Ніна стварала мову лагодную, кветкавую, любоўную, паляшуцкую, Адарка – блогерную, маладзёвую. Працэс развіваецца. Заўважце, я разважаю пра людзей з мястэчак і вёсак. У сталічныя справы не ўмешваюся, я і не ведаю, што там ствараецца. Чую, што там цяпер выдаюць замежныя прэміі, адбываюцца фестывалі і ўсё такое святочнае і вясёлае, чаго мы пазбаўленыя. І ўжо наўрад ці змагла б злучыць гэтыя розныя літаратурныя плыні каралева болю Ніна Мацяш. Але Адарка ў сталічных імпрэзах удзельнічае. Яна мне расказала, як да сямідзесяціпяцігоддзя Міхася Стральцова праходзіў сусветны фестываль паэзіі, у якім Адарка чытала свае вершы і пазнаёмілася з Валодзем Някляевым...

На Вялікдзень мне патэлефанавала Адарка са свайго Залескага фальварка, сабакі яе брахалі, кошкі яе мяўкалі, птушкі яе спявалі, яна выехала на калясцы на сонейка. Адарка мне сказала, што ў Мінску ёсць дзяўчынка на падлеткавай калясцы, ёй шаснаццаць гадоў, выдала кнігу прозы ў выдавецтве "Логвінаў"... Гэтая дзяўчынка такая ж шчаслівая, як і Адарка, бо ў яе таксама ёсць любячыя тата, мама і людзі, якія ёй дапамагаюць жыць. Ксеня Шталянкова – імя пачула ад Адаркі ў тэлефоннай размове, магу напісаць з памылкамі...

На Берасцейшчыне шмат паэтаў. Гайдаюцца, як птушкі на "Жырандолі", зусім не імкнуцца ў сталіцу, каб займаць там добрыя пасады ці першыя месцы ў літаратуры. Чэрпаюць вёдрамі мёд на пасецы ў Міколы Папекі, у сябрыне каля "Берасцейскага вогнішча" або на "Дзядзінцы", папіваюць сабе тую пчолкавую салодкую прэмію. Ніна іх будзіць напрадвесні, выпускае на канюшыну, а восенню склікае ў вулей... І кажа: "Два дні і ночы праляцелі, як дзве пчолкі..."

Так яны паміж сабой бавяць час. Нібы яшчэ па-савецку, але па-сямейнаму, па-паляшуцку...

Марыя Новік так, як мама Адаркі, добрую частку дзён свайго дзявоцтва прастаяла “на сваім месцы” за каляскай Ніны. Увідочнены анёлак. Цярплівая, спакойная і добрая. Дапамога Ніне ў літаратурных вандроўках выпрацавала стыль паводзін Марыі ў жыцці і працы. Неяк яна вызвалялася ў Берасцейскім універсітэце, калі адбываліся пісьменніцкія з’езды, якія ў мінулым праходзілі па тры і чатыры дні. Калі на паседжаннях усе стамляліся і *кладавіліся* адпачываць – хто ў сяброў у гасцях, хто ў гатэлі, у Марыі пачыналася самая асцярожная праца, каб дапамагчы Ніне памыцца... Бог даваў сілу насіць Ніну на руках. Дапамагалі хлопцы, ды болей прыходзілася самой. Але цяпер дзяўчаты ўспамінаюць зусім не тое, як было цяжка, кажуць, Ніна давала ім болей, чым яны ёй. Кажуць, што і цяпер Ніна дапамагае ў хвіліну выпрабавання так, як пры жыцці... Дзяўчаты зусім не думаюць пра тое, каб выдаць уласную творчасць. Святлана ўклала кнігу сваіх вогненных снежкаў “Матчынае дрэўца” і ляжыць яно ў дзяржаўным выдавецтве. Мне часта бывае вусцішна, што вершы, якія трымаюцца на адной рыфме і на адной метафары ці гіпербале, парассыпаюцца і пагубляюцца, як бурштыніны ў марскім пяску. Яна іх, мусіць, не ўсе і запісвае. Яна імі цешыцца і плача. Вобразы Святланы Варонік адшчэпліваюцца ад яе душы праменнем, асколкамі святла, разлятаюцца месячнымі зайчыкамі.

Цяпер у іх на літаратуру зусім няма часу. Яны даглядаюць Зосю Калеснік. У снежні і пачатку студзеня Марыя ўладкавалася каля Зосі ў шпіталі... Не кожная дачка знаходзіць час, каб ратаваць сваіх бацькоў у рэанімацыі. У шматлікіх зборніках Берасцейшчыны прозвішча Марыі Новік можна сустрэць у пераліку рэдакцыйнай калегіі і сярод укладальнікаў. Яна робіць усё, каб дапамагчы другім: Без твайго святла музыка ўцякла...

У поўнач, калі моцна балела фізічнае цела, Ніна ўпершыню за прабыванне на балесным троне беларускага слова-агню горка заплакала ўголас. Падумала: адна дома, ніхто не пачуе, наплачуся перад смерцю. Але Бог заўсёды чуе і бачыць. Святы Францішак прыслаў да Ніны святую Клару, яна дала Ніне лекаў на супакаенне. Ніна заснула. Прысніла сон развітання стомленага цела, якое адступіла перад думкай, яснай і мудрай да апошняй хвіліны.

Святы Францішак схіліўся над яе самотным дзявочым ложкам, узяў за руку: “Будзь благаславёна, праз сястру нашу Маці Зямлю, якая цябе пахавае, суцешыць квітненнем зёлак... Дрэнна паміраць у муках смяротных – а каго даганяе Смерць у Найсвяцейшай Волі Божай, таму крыўды не чыніць! І нічога не бойся... ты вызвалена ад хваробы свайго роду!”

Словы Святога Ніна пачула праз сон. Памерла ў сне, падрыхтаваўшыся да вечнага сну свядома, гэта высокі прывілей, дадзены Богам.

З вялікім спакоем душы адыходзіла туды, куды імкнулася, – да новага, лепшага свету, дзе можна хадзіць басанож па росных кветачках святога Францішка ў гародчыку Ларысы Геніюш...

І любіць ажно да болю,  
як матулін голас,  
Беларусь, і сонца, й долю, –  
лёс мой, цяжкі колас...

Ніна Мацяш збірала вырай краснапёрак, рыбак з серабрыстай луской, яркачырвонымі плаўнікамі, на хвалях Белага возера, дзе яна любіла плаваць на спіне. Трэба было толькі, каб нехта занёс яе на хвалі і асцярожна паклаў на ваду, далей яна рабілася самастойным плыўцом. Аднойчы рызыкнула – і выпадкова адкрыла ў сабе гэтую здольнасць... У Чорным возеры (не блытайце з Чорным морам!),

дзе стаялі хаткі-хованкі паляўнічых на дзікіх птахаў, Ніна любіла падкормліваць тлустых плямістых шчупакоў...

А яшчэ Ніна ўмела рабіць нечаканыя падарункі. У Гародні я пазнаёміла Ніну з маім суседам Алёшам, яна прыязджала да Алёшы на масаж. Спынялася ў мяне, калі я мела добрую кватэру з шырокімі дзвярамі ў залу, з прасторным калідорам. Тады яна яшчэ хадзіла з тым, хто асмельваўся яе трымаць у паясніцы, каб не згарнулася, як кніга. Пасля Ніна спынялася ў гатэлі-інтэрнаце "Гроднаэнерга", які ёй браніравалі праз Бярозаўскую ДРЭС.

З ёй прыязджала Марыя Новік або Галіна Скарына. Я тады навучылася ад іх гатаваць такую страву – мяшанку з гароднiны, першую і другую стравуў адным чыгуночку. Алёша рабіў масаж Нінінага цела па шэсць гадзінаў з перапынкамі. У яе было моцнае сэрца. Пасля такіх масажоў Ніна сама паднімала ногі на табурэтку.

Пасля Алёша ездзіў у Белаазёрск, нібы адпачываў там у прафілакторыі, але рабіў масаж Ніне...

Перагледзела лісты, якія Ніна пісала. Прывяду ўрывак з ліста за 16 лютага 2000 года, дзе яна піша канкрэтна пра сваіх родных:

"На мінулым тыдні пахавалі мы цётку Аляксандру, якую любілі, малодшую бацькаву сястру. Пражыла 95 гадоў, да апошняга хадзіла па хаце з кульбачкай, прасіла работы – хоць боб палушчыць, без акуляраў усмыкала нітку ў іголку, такі выдатны зрок мела, і чула няблага. Уночы села ў пасцель, уключыла святло, а потым адкінулася да сцяны – і ўсё. Ва ўсіх светлы смутак па ёй. Нікому не збрыдла, нікому за скуру не ўлезла. "І тут ты мяне выперадзіла", – рэакцыя бацькі... Яму дзевяноста восьмы. У суботу Коля прывозіў яго да мяне памыцца. Памаленьку цёпае з кульбачкай ды з мыліцай. Папрасіў карту, каб агледзець межы Беларусі, "бо ўжо забыўся, дзе якія ў нас суседзі"...

Аднойчы Ніна з Ніўкаў прыслала мне гарбуз. Пляменніца Ніны выйшла замуж у Скідзель, яна і прывезла гарбуз у Гародню. Гарбуз заняў увесь стол. Я тады не пісала ні вершаў, ні апавяданняў, таму што стол займаў гарбуз, я ім любавалася. Ён быў чырвоны ў палосы-мерыдыяны, ніхто са скульптараў прыгажэйшага глобуса не стварыў, але гарбуз не быў нейкай там скульптурай, у чарадзейны спосаб гарбуз быў жывой істотай. Мне з гарбузом не было самотна. Але патэлефанавала Ніна і загадала, каб гарбуз я разрэзала, выбрала семкі, пасушыла, падпражыла, а гарбуз пачала варыць і есці...

Цяпер у мяне з'явілася такая гульня ў гарбузы: калі мае сяброўкі пытаюцца, што мне падарыць, я адказваю – гарбуз. У мінулую восень адзін гарбуз мне пераслала са свайго агарода Эля Багдановіч з Воранава. У Элі была ў гасцях наша агульная сяброўка Валя Войцік. Эля патэлефанавала з Воранава і кажа:

– Валя не хоча завезці табе гарбуз, кажа, што ён цяжкі.

– А ты падвязеш Валю да аўтобуса на сваёй машыне?

– Падвязу.

– То папрасі кіроўцу, каб паклаў гарбуз у багажнік, а я яго ў Гародні забяру. Думаю, што ў багажніку шмат гарбузоў не будзе, не пераблытаюцца.

У гасцях у мяне Валя ела гарбузовы суп і гарбузовую кашу. Думаю, што і яна цяпер у Мінску просіць сяброvак, каб прывозілі ёй гарбузы.

Прывяду яшчэ маленькі ўрывак з ліста Ніны за 20 траўня 2000 года:

"Калісьці думкі хутка йшлі на словы, а зараз думкі самі ў сабе" (Кастэнка). Душа – інтэлект і пачуцці – у нейкім трансавым стане. Звонку чалавек як чалавек, а ўнутры – самнамбула. Учора, седзячы ў вучылішчным бярозавым дворыку, зноў назірала, як чмель, ужо не ў першы раз, спатыкліва аблізваў рэдкую, без ніводнай кветачкі траву, дзікі сівец. Чаго там шукаў, як ачмурэлы? Адляціць – і зноў галавою аб былкі бомкаецца, тупа і няўцямна. І нават амаль не гудзе. Рыхтык, як я. Чмелю – акацыя ў квеце, мне – людзі ды падзеі,

мог бы быць неблагі ўзятак, ды толькі для мёду і раса патрабуецца. Можа, і Божая.”

Мы найчасцей чуем і назіраем, як перадаецца ад людзей да людзей злосць. Дабрыня перадаецца гэтак жа, як і злосць, толькі невідочна. Святасцю можна заразіцца, як грыпам. Святасць – матэрыяльная рэч, яе можна перадаваць з рук у рукі, з вуснаў у вусны, пасылаць па пошце ў канвертах, па электроннай пошце, па радыёхвалях і ў віртуальнай прасторы, праз вялікія адлегласці і праз час, у невядомасць. Можна ўневідочніцца да стану духаў, прывідаў, да стану анёлаў. Можна пакінуць нашчадкам слова без ценю і голасу.

Калі думаць пра паэтак Ларысу Геніюш і Ніну Мацяш, уяўленне малюе дзве агністыя паралельныя прамыя лініі-прамяні, што палыхнулі з пустэчаў болесцяў праз беларускае цемрыва... Ларыса ўцягнута гісторыяй у палітыку, пранесла жаночую годнасць паміж зняволеных пакутнікаў. Перад тым пражыла прыгожае дзявоцтва сярод сёстраў і братоў у любячай сям’і ў фальварку і грамадскае жыццё ў Празе ў асяроддзі нацыянальна-свядомай эліты, дзе набывала барваў еўрапейскага кшталту яе глыбоканародная паэзія.

Ніна была шчаслівай, пакуль не захварэла, у сям’і сярод сёстраў і брата Колі, любячых бацькоў, у казачным закутку беларускага Палесся, на лапіку поля, абмежаванага глыбокім ровам, абсаджаным дрэвамі і кустамі, – у райскім садзе. Абедзве мелі жаданне і патрэбу асветнай дзейнасці, сумаўлення з беларускімі людзьмі, жаданне рабіць ім дабро, не крыўдзіць іх, шкадаваць, як малых дзяцей, прабачаць ім дрэнныя ўчынкі іх абмежаванасці і нежадання думаць і ўзнімацца да яснага разумення сваёй нацыянальнай адметнасці, вартасці. Жыць навідавоку ў згодзе з цэлым светам.

У Ніны Мацяш былі дзве недасягальныя мэты – паправіцца і дачакацца незалежнай дэмакратычнай Краіны, дзе людзей будуць паважаць за іх працу і талент, дзе людзі будуць мець права на свабоду слова, на ўтварэнне сваіх грамадскіх структураў без фанатызму, дагматызму, без інтрыг, ілжы, дзе панаваць будзе шчырасць, любоў, дзе паэзія будзе пазбаўлена продажу, бо святая.

Ніна пражыла 65 гадоў. З яе хваробай так доўга пражыло зусім мала людзей, ёсць статыстыка, якую ведаюць лекары... На дзень нараджэння патэлефанавала ёй, яе не было дома. Ездзіла ў Бярэсце на сустрэчу з сябрамі і чытачамі... Вярнулася, набрала мой тэлефон. Была вельмі стомленая, казала, што баляць ёй ногі, што ёй холадна, што ледзь трымаецца, але набрала ўсе тэлефоны, хто да яе пазваніў у той дзень... На мой дзень нараджэння мы размаўлялі даўжэй. Ніна сказала мне, нібы зрабіла афіцыйную заяву:

– Данусь, я пайду ўжо. І ты мяне не ўгаворвай. Я не хачу чапляцца за жыццё, не хачу больш ніякага лячэння, ніякіх працэдур. Я стамілася. Мне баліць шыя, каб трымаць галаву. У мяне сядае, хрыпне голас. Чуеш, як я размаўляю? Наймацней баліць сэрца... Я ўжо і так жыву болей, чым мае сёстры Аня і Марыя.

Я не ведала, што ёй сказаць. Падумала, што яна проста дрэнна сябе адчувае сёння, а заўтра можа ўсё змяніцца. Так і са мной бывае. Я спытала ў яе пра нешта прыемнае, што ў той момант прыйшло мне ў галаву:

– Ніна, ты памятаеш хлопчыка, які табе падабаўся, калі ты вучылася ў школе?

– Так, быў у восьмым класе Сашка, светлы такі, чысты хлопчык. На фотцы ў канцы навучальнага года ён стаў каля мяне...

– І які яго лёс?

– Не ведаю. Думаю, добры.

– Вы з ім хоць калі патанцавалі?

– Не, ён прыходзіў у школу з вёскі за сем кіламетраў, не заставаўся на танцах...

Нават не мроячы пра шчасце, Ніна стварыла прыгожыя вершы пра каханне – ад таемных салодкіх прадчуванняў да поўні асалоды душы і светла-сумнага прамінання... Пра высокую долю ў асяроддзі сяброў і свету, складзеную на ахвярнік нацыянальнай культуры, пра высокі дух адзіноты, пра глыбіні родавага карэння, якімі мацуецца дух на скрываўленай зямлі...

Пра сваё здароўе Ніна думала толькі, як пра цудоўнае выздараўленне:

– Калі б Бог даў мне магчымасць пахадзіць па зямлі нейкі час, не мае значэння – колькі, а пасля памерці, я згадзілася б без вагання...

– А калі проста пахадзіць і зноў сесці ў каляску?

– Не, гэта невыносна, гэта прыняць немагчыма.

Самы прыгожы верш пра Ніну Мацяш напісала полацкая сяброўка Ірына Жарнасек:

***УСПАМІН***

З усіх нашых сходаў
пісьменніцкіх
засталіся
трывала ў памяці
кветкі
на прыполе
Ніны Мацяш

*Гародня*

Сяргей Панізнік



...праз 45 гадоў запісы
пра львоўскія знаходкі
ўбачаць свет...

# У цэнзарскім полымі

***З нагоды адной не-публікацыі***

***Залатая творчая сенажаць калыхала мяне ў Львове чатыры гады – з 1964 па 1974-ы. І хаця я быў курсантам вайсковай вучэльні, дазвалялася пасля самападрыхтоўкі выбягаць у горад. А цікавілі мяне бібліятэчныя, музейныя, архіўныя схроны багатага на духоўныя набыткі Львова. Прымалі мяне і на кватэрах І. Свянціцкага (Святыцкага, Свяціцкага), І. Крыпякевіча, У. Лучука і А. Сенатовіч... Анісся Мацвееўна, удава І. Свянціцкага, даверліва пакідала мяне ля гары старадаўніх кніг у яе пакоі.***

***І сёння адчуваю дрыжыкі: гартаў рарытэты з Прагі, Вільні, Заблудава, Куцейна, Магілёва, Супраслі... Перафатаграфаваў наат каля сотні старонак з "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага, пра якую ў Мінску не гаварылі яшчэ гадоў дзесяць.***

***Таму цэнзар у часопісе "Полымя", куды я пераслаў з Львова свой артыкул "сумежжа сэрцаў і дум", паклапаціўся, каб не дапусціць сабраную мной інфармацыю да рэгласу.***

***Ох, я ж згадаў у тэксце Купалаўскі верш “Там”, не паправіў напісаную ім жа назву Менска. Не спадабаліся цэнзару радкі пра правы беларускай мовы, прызнанне за беларусамі нацыянальнай самабытнасці і самастойнасці. Нельга было выступаць “у абарону беларускага народа”, згадваць Пагоню…***

***Ці не на пачатку 1968 года рэдактар аддзела крытыкі і літаратуразнаўства часопіса “Полымя” Рыгор Васільевіч Шкраба цішком перадаў мне старонкі карэктуры, якія цэнзар не дапусціў да друку. То – хоць праз 45 гадоў запісы пра львоўскія знаходкі ўбачаць свет…***

***Далучаю да публікацыі і фотаздымкі адкрыццяў на залатой сцяжыне маладосці.***

## СУМЕЖЖА СЭРЦАЎ І ДУМ

Ніці ўзаемнасці, пачуцці роднасці і дружбы, што так ярка вызначыліся паміж братнімі беларускім і ўкраінскім народамі пры Савецкай уладзе, узнікалі, мацнелі з даўніх часоў. У гэтым артыкуле сёння хочацца расказаць аб тым, як глядзелі на нас, беларусаў, і як ставіліся да беларускай культуры і лепшых яе прадстаўнікоў нашы суседзі з поўдня.

Я пакарыстаюся толькі матэрыяламі з фонду музеяў і архіваў Львова.

### З падстрэшша рук Скарынавых…

У фондах былога “Нацыянальнага музея” у Львове мне трапіла ў рукі зайздросна абношаная скарынаўская кніга. Першыя старонкі яе, відаць, былі настолькі непапраўныя, што невядомы ўладальнік кнігі замест скарынаўскіх гравюр зрабіў рознакаляровымі фарбамі свае малюнкі. Іх было тры. І толькі змест надпісаў застаўся ранейшы ў кнізе прытчаў цара Саламона, бо яна была “выложона на руский языкъ докторомъ Францішкомъ Скорынинымъ сыном изъ славного града Полоцька”.

Вядома, што яшчэ ў 1568 годзе “Біблію” Ф. Скарыны перапісвае на Украіне Васіль Жугаёў. Высветлена, што, пачынаючы з 1865 года, у Львове з’яўляюцца працы, прысвечаныя дзейнасці самога Скарыны: Я. Галавацкі – “Некалькі слоў пра біблію Скарыны” (“Науковий сборник”, 1865 г.); А. Петрушэвіч – “Ф. Скарына-выдавец у Празе” (“Слово”, 1875 г.); А. Вахнянін – “Аб доктары Францыску Скарыне і яго літаратурнай дзейнасці” (1879 г.) і інш.

З заходнеўкраінскай бібліяграфіі пра слаўнага сына беларускай зямлі можна назваць і такія працы: А. Канчалоўскі – “Кароткі агляд гісторыі кнігадрукавання на Русі” (“Новий Галичанин”, 1890 г.), А. Ярэмчэнка – “Доктар Фр. Скарына, яго жыццё” (Літературно-науковий вісник”, 1923 г., кн. XI); І. Агіенка – “Першы рускі друкар і гуманіст” (Літопіс”, 1924 г. № 12-15). Яго ж – “Гісторыя ўкраінскага друкарства” (Львоў, 1925 г.); І. Свяціцкі – “Пачатак кнігадрукавання на землях Украіны” (Львоў, 1924 г.), “У памяць 350-годдзя першай друкаванай кнігі” (Жолква, 1924 г.).

І. Свяціцкі пісаў: “Біблія Скарыны ў абласцях украінскага народу – асабліва на Пакарпацці і Падняпроўі, ды і ў Вільні – становіцца ўзорам за новага народнага напрамку ў царкоўна-навучальным пісьменстве”.

Свае меркаванні пра Скарыну выказвалі М. Грушэўскі, І. Франко, М. Вазняк.

### “Просвіта” зачынае новы дзень…

“Просвіта” – культурна-асветніцкая арганізацыя, якая выдавала ў Львове з 1887 года аднайменны каляндар. З першай кніжкі календара мне запомніўся такі верш:



*Тытульны ліст Статута Вялікага Княства Літоўскага з Беларускай кнігоўні І. Свянціцкага (Львоў).*

На Волині, Белай Русі
пливуць хмари байраками...
Ой, не хмари – Налипайко
править войском-козаками...

Далей невядомы паэт піша, што аж да Нёмана і Буга “грозно стало на землиці”, беларускія і ўкраінскія казакі храбра ваююць супроць агульных ворагаў.

Каляндар час ад часу знаёміў сваіх чытачоў з жыццём паўночных суседзяў. Так, у кніжцы за 1888 год надрукаваны артыкул “Русіны”, дзе ідзе гаворка і пра беларусаў, пра межы беларускай мовы.

У нумары “Просвіти” за 1913 год я знайшоў апавяданне “Недуга над недугами” – з кнігі Сержпутоўскага “Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў”. З Беларускай пераклаў Міхайла Латоцкі. У 1914 годзе каляндар змясціў апавяданне “Як аслеп Прахор” – “з білоруського”.

Акрамя “Просвіти” пра беларусаў пішуць і другія львоўскія выданні. Так, львоўская вячэрняя газета “Галичанин” у № 68-69 за 1893 год за подпісам “С.К.” змясціла артыкул “Вялікдзень у беларусаў” з тэкстамі нашых валачобных песень”. У № 122 ад 4 (16) чэрвеня 1893 года надрукаваны невялікі допіс “Дзе складзена “Слова аб палку Ігаравым”. Вучоныя-філолагі сцвярджаюць, – гаворыцца ў ім, – што найстарадаўны рукапісны помнік “Слова аб палку Ігаравым” напісаны ў межах сучаснай Мінскай губерні і носіць адзнаку паўночна-заходняга вымаўлення, гэта значыць беларускага”.

## ...Прыхільнае слова суседзяў

“Пачынаючы з 1906 года, – піша ўкраінскі гісторык Д. Дарашэнка ў кнізе “Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне”, – ва ўкраінскай прэсе – і ў наддняпранскай, і ў галіцкай – з’яўляюцца раз-пораз артыкулы пра беларускі рух, поўныя шчырай сімпатыі, з’яўляюцца пераклады беларускіх аўтараў, каб пазнаёміць з імі ўкраінскае грамадства”.

У гэтай кнізе аўтар даследуе творчасць Багушэвіча, Лучыны, Купалы. Усе вершы падаюцца ў арыгінале.

У 1906 годзе з Пецярбурга ў кіеўскую рэдакцыю часопіса “Нова громада” свой артыкул “Два беларускія паэты” прыслаў Аляксандр Русаў (1847 – 1915 гг.) – бацька ўкраінскай славістыкі, этнограф, фалькларыст. Надрукаваны артыкул у 11-м нумары часопіса.

Тут прыводзяцца вершы Я. Лучыны, Мацея Бурачка. “...І з таго мы бачым, – цытую Русава, – што як Бурачок, так і Лучына – сапраўдныя паэты свайго народу. Як і іншыя беларускія пісьменнікі... трымаюцца ў сваёй творчасці простай мовы народнай. А гэта найярчэйшая адзнака таго, што калі з’явіцца магчымасць вольна выдаваць кніжкі беларускія і вучыцца па школах роднаю моваю, то мы пабачым сярод беларускай інтэлігенцыі нямала пісьменнікаў, што панясуць свет навукі і ведаў у той бедны край, дзе варожкі ды шаптухі, як гэта паказваюць беларускія апавяданні, маюць яшчэ вялікую сілу і калечць людзей.

Пажадаем жа і мы, каб хутчэй насталі часы сапраўднай волі для беларускай мовы і каб хутчэй заглянула сонца і ў іхняе аконца”.

## “Шчырапаважаны прафесар...”

І ўсё ж першы, хто найбольш сумленна, цёпла і шчыра расказаў украінцам пра наш народ, быў львоўскі вучоны Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі (Свянціцкі). Даследчык славянскага свету, збіральнік скарбаў народнай культуры, у тым ліку – беларускай (доктар І. Свяціцкі быў заснавальнікам і дырэктарам “Нацыянальнага музея”, дзе збіраліся экспанаты для спецыяльнага Беларускага аддзела) – ён з’яўляецца піянерам беларусістыкі на Украіне і адным з прыкметных дзеячоў еўрапейскай беларусістыкі.

Так у 1908 годзе з’яўляецца яго першая праца, прысвечаная агляду здабыткаў нашай літаратуры, – “Адраджэнне беларускага пісьменства”, брашура на 58 старонках. Тут аўтар упершыню ва ўкраінскім друку згадвае Максіма Багдановіча. Ён ужо два гады быў знаёмы з беларускай эмігранткай у Львове – Цёткай. І. Свяціцкі стаў яе шчырым сябрам, дарадчыкам, настаўнікам, хоць і быў адных год з Алаізай Сцяпанаўнай. У згаданай працы Іларыён Сямёнавіч прыводзіць вершы са зборнікаў Цёткі, што выйшлі ў 1906 годзе ў Жолкве.

“Адраджэнне беларускага пісьменства” – гэта, паводле слоў І. Свяціцкага, “чыста інфармацыйны артыкул”, што меў на мэце пазнаёміць шырэйшыя кругі чытачоў са становішчам і імкненнямі нашых найбліжэйшых братоў, а прытым указаць, хоць не прама, і на іх блізкае спарадненне з намі як становішчам, так і ідэйным жыццём”. Заканчвае аўтар двума вершамі: “Што ты спіш?” Маркі Бяздольнага (Я. Купалы) і “Там...”. Трэба адзначыць, што гэтыя вершы Янкі Купалы былі ўпершыню надрукаваны іменна ў кнізе І. Свяціцкага, за што 8 сакавіка 1908 года царская цэнзера забараняе яе ў Расіі.

У 1914 годзе І. Свяціцкі друкуе артыкул “Асновы адраджэння беларускага пісьменства”. Цікавава разважае тут аўтар пра культурнае жыццё нашага народу, піша пра творчасць Купалы, Коласа...

Праглядаючы асабісты архіў І. Свяціцкага, яго ”беларускую” бібліятэку, я знайшоў цікавыя дакументы. Напрыклад, у адным лісце Інбелкульту І. Свяціцкі прама ўказвае на тое, што яго продкі паходзяць з Беларусі.

Ён на працягу свайго жыцця збірае кнігі па псіхалогіі, літаратуры і мастацтве Бкеларусі. У 1905, 1906, 1908 гадах бывае ў Беларусі. У музеі на вуліцы Драгаманавааказаліся беларускія гістарычныя акты, рэдкія кнігі палемічнага зместу XVI-XVII стагоддзяў, партрэты, абразы, розныя царкоўныя рэчы. Ды сённяшняга дня ў музеі захаваліся слуцкія паясы, пергаментныя рукапісы, частка пражскіх выданняў Скарыны і яго віленскія кнігі, беларускія старадрукі з дваццаці нашых друкарняў. Усяго ў музеі каля сотні асобнікаў беларускіх старажытных кніг.

У асабістай бібліятэцы І. Свяціцкага ёсць кнігі Шэйна, Федароўскага, Раманава, Нікіфароўскага, Пічэты... Беларусіяну прадстаўляюць кнігі з друкарняў Берліна, Варшавы, Пецярбурга, Вільні. Тут жа – падшыўкі “Нашай нівы”, маладнякоўскія выданні, навуковыя працы Інбелкульта... Як бы ўсе гэтыя матэрыялы ўзбагацілі фонды нашых музеяў!

У кастрычніку 1926 года І. Свяціцкі па запрашэнні Інбелкульта наведвае Беларусь. У выніку гэтай паездкі ў яго бібліятэцы з’явіліся дзесяткі новых кніг, падпісаных аўтарамі. Прыводжу назвы кніг і аўтографы:

А. Дудар. “Сонечнымі сцежкамі” – “Паважанаму І. Сьвяціцкаму ад маладнякоўца. Менск, 25.X.1926 г.”

А. Гурло. “Сузор’і” – “Прафесару Сьвяціцкаму. 26.X.26 г. А. Гурло”.

З. Бядуля. “Апавяданні” – “Высокашаноўнаму прафесару Іларыёну Сямёнавічу Сьвяціцкму на добры ўспамін ад З. Бядулі. 25. X. 26 г.”.

Ёсць у бібліятэцы І. Свяціцкага і два аўтографы Янкі Купалы. На другім томе збору твораў “Шляхам жыцця” напісана рукой нашага паэта: “Шшырапаважа-

наму праф. Іл. С. Сьвяціцкаму. З прывітаннем Янка Купала. Менск, 19.ІІ.27 г.” На кнізе “Спадчына” – яшчэ адзін купалаўскі надпіс: “Шчырапаважанаму праф. Сьвяціцкаму. З прывітаннямі Янка Купала. Менск, 19. ІІ. 1927 г.”.

Пасля паездкі І. Свяціцкага ў нашу рэспубліку з’явілася яго новая праца – “Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі” (1928 г.). Кругі рабочага люду праніцаюцца самасвядомасцю і звязанай з ёй самапашанай. “Права беларускай мовы – тварыць беларускую навуку, а раўнапраўнасць беларускага народу... толькі ўзвялічвае яго вагу ў міжнародным палітычным жыцці”.

У раздзеле “Два сонцы беларускага пісьменства” І. Свяціцкі аналізуе творчасць Я. Купалы і Я. Коласа.

## Далёкі звон скрыпкі

Мне пашчасціла сустрэцца ў Львове з чалавекам, які добра памятае нашу Цётку. Анісся Мацвееўна Свяціцкая, успаімнаючы сустрэчы з Алаізай Сцяпанаўнай у тыя далёкія гады, расказала мне многа цікавага.

І вось яе ліст. Зноў пра нашу паэтэсу:

“Кожны раз, калі я ўспамінаю пра Цётку, мне становіцца маркотна і неяк не па сабе. Па сутнасці, яна – трагічнае з’явішча на фоне беларускай культуры.

Заўсёды як быццам вясёлая, нават свавольная, таленавітая, у адзін і той жа час і паэт, і комік, і вучоны – у заўсёднай мітусні і заўзятасці, яна як быццм хацела забыць усе дробязі свайго цяжкога жыцця, сваю невылечную хваробу.

Раз я бачыла яе прыгнечанай, хворай, з перавязаным горлам. Яна не жартавала, як заўсёды, не называла мяне кацапачкай (на маю радасць – яна мяне ніколі не называла цёткай). Вось гэты яе вобраз, утоены для чужога вока, астаўся ў маёй душы. І я чамусьці заўсёды, як успамінаю аб гэтым, адчуваю як быццам дакор свайму сумленню. Можа быць, таму, што мы, людзі, неяк не паспяваем аказаць нават сябру належную увагу і пашану, калі яшчэ не позна”.

На самай жа справе сям’я Свяціцкіх памагала Цётцы, чым магла. І мы вельмі абавязаны сябрам Цёткі, якія зрабілі неацэнныя паслугі хвораму чалавеку ў гады цяжкай эміграцыі. Сям’я Свяціцкіх была тым цяплом, якое саграваў зацятае сэрца Алаізы Сцяпанаўны, вяртаючы яго да жыцця, надзеі і працы для Бацькаўшчыны.

## “А хто там ідзе?..”

У 1909 годзе выйшла з друку невялічкая кніга Івана Пятровіча Крыякевіча – “Беларусы”. Змест яе – зварот да гісторыі Беларусі, паказ адвечнай супольнасці двух народаў-братоў”.

Асаблівую ўвагу надае аўтар літаратурнай і грамадскай дзейнасці Я. Купалы. “Творы Купалы, – піша ён, – гэта гарачы заклік у абарону ўсіх прыгнечаных, кліч да барацьбы за лепшую долю беларускага народу”. І. Крыпякевіч упершыню не толькі на Галіччыне, але і на ўсёй Украіне падае тут пераклады вершаў Я. Купалы на ўкраінскую мову. Першы – “А хто там ідзе?”.

Пераклад выканаў львоўскі паэт і публіцыст Мікіта Шапавал. У кніжцы І. Крыпякевіча змешчаны яшчэ адзін купалаўскі верш у перакладзе – “Памяці Шаўчэнкі”.

Дарэчы, у перакладзе М. Шапавала ў “Літературно-науковим вісніку” за 1909 год з’явіліся вершы М. Багдановіча “Над магілаю”, “Прыйдзе вясна”, Я. Купалы “Спі, браце”, “Вольха”, а таксама Гальяша Леўчыка, Мацея Крапіўкі (Цёткі. – *С.П.*)

## У абарону народа

Уладзімір Міхайлавіч Гнацюк (1871 – 1926) – выдатны ўкраінскі фалькларыст і этнограф. Ён быў вядомым славістам, перакладчыкам, выдаўцом і папулярызатарам літаратуры славянскіх народаў. Усё сваё жыццё У. Гнацюк цікавіўся фалькларыстычнай творчасцю братніх славянскіх народаў, пракладваў між імі надзейныя масты дружбы. Ён збіраў не толькі ўкраінскую народна-паэтычную творчасць, але і рускую, і беларускую, цікавіўся даследаваннямі пра культуру беларускага народа.

У сям'і славянскіх народаў, гаварыў у свой час У. Гнацюк, беларусаў ведаюць менш за ўсё таму, што яны не маюць свае дзяржаўнасці і штораз залічваюцца то да палякаў, то да русіян, то да ўкраінцаў. Такое стаўленне да беларускага народа ён называе аперацыяй на жывым арганізме, і зазначае, што для кожнага неперадузятага даследчыка няма сумненняў у справе прызнання за беларусамі нацыянальнай самабытнасці і самастойнасці.

У. Гнацюк рашуча выступае супраць прыніжэння нацыянальнай годнасці беларускага народа (рэцэнзія на працу М. Косіч). Ён рэцэнзуе кнігу нашага этнографа М.Я. Нікіфароўскага "Очерки прстонародного житья-бытья Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности". Асабліва высока цаніў ён фундаментальнае даследаванне Я. Карскага "Белоруссы", а таксама матэрыялы з жыцця беларускага народа фалькларыста і этнографа М. Федароўскага. З Я. Карскім У. Гнацюк меў перапіску.

У зборніках "Этнаграфічныя матэрыялы з Угорскай Русі", "Украінская народная славеснасць", "Матэрыялы для украінскай этнаграфіі", у шматлікіх фалькларыстычных працах, надрукаваных у "Запісках" навуковага таварыства імя Шаўчэнкі, У. Гнацюк часта параўноўвае ўкраінскі фальклор з беларускім, указваючы на агульныя матывы і ўзаемаўплывы.

А вось яшчэ адна кніга ў абарону беларускага народу. Гэта "История Белой Руси и белороссы" М. Антаневіча, якая выйшла ў 1908 годзе. Дужа спачувальна піша ён пра зямлю, якая на працягу ўсёй сваёй гісторыі была ў цэнтры еўрапейскіх спрэчак.

Пра характар беларуса аўтар піша, што ён вызначаецца добрым мяккім норавам. "А ветлівасць беларуса незвычайная. Ён звяртаецца так далікатна, што перад табою паяўляецца не бедны селянін ў лапцях, а ветлівы і ласкавы чалавек, які засароміць нашага інтэлігента".

М. Антаневічу даспадобы фальклор беларусаў. Ён прыводзіць у кнізе тэксты многіх нашых народных песень.

## Ластаўкі з Беларусі

Яшчэ пры жыцці М. Багдановіча яго артыкул пра беларускае адраджэнне быў перакладзены на ўкраінскую мову. Асобнай кніжкай "Білоруське відродження" было выдадзена ў Вене ў 1916 годзе. На Галіччыне мелі вялікую цікавасць і да іншых прац М. Багдановіча, такіх, як "Галіцкая Русь", "Чырвоная Русь", "Угорская Русь", "Львоў"... Некаторыя з іх, што выйшлі асобна, і цяпер можна ўбачыць у львоўскіх бібліятэках.

Украінскія пісьменнікі не асталіся ў даўгу перад беларускім паэтам. Першай ластаўкай, што пераляцела з Беларусі на Украіну, назваў М. Драй-Хмара зборнік вершаў М. Багдановіча "Вянок", які выйшаў у Кіеве ў 1929 годзе. Перакладчык а ўступным артыкуле кажа: "Чаму, – запытае дапытлівы чытач, – мы Багдановіча, а не кагосьці іншага перасадзілі ў першую чаргу на ўкраінскі грунт? А вось чаму: па-першае, ён адзін з тых пісьменнікаў-класікаў, што тварылі аснову беларускай мастацкай літаратуры; па-другое, ён – выдатны майстра слова, які чула адгукаўся

на ўсе праявы нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення беларускага народа; па-трэцяе, ён з надзвычайнай любоўю ставіўся да ўкраінскай літаратуры...”

Кніжка “Вянок” выйшла ў 1929 годзе. Але гэта не першае значнае азнаямленне ўкраінскіх чытачоў з паэзіяй Багдановіча. У часопісе “Воля”, які выходзіў у Вене, з кастрычніка 1920 па красавік 1921 года надрукаваны 23 вершы нашага паэта: (“Чуеш гул? Гэта сумны, маркотны лясун...”, “Паміж пяскоў егіпецкай зямлі”, “Возера”, “Досі ўжо працы” і другія). Да таго ж, тут змешчаны чатыры вершы Я. Купалы, па аднаму вершу Ясакара, Коласа. Перакладчык усіх вершаў – Аляксей Ярэмчанка.

Ён жа ў верасні 1921 года надрукаваў у гэтым часопісе “Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры”. Спачатку А. Ярэмчанка гаворыць пра вытокі беларускай літаратуры, пра вялікага беларускага гуманіста і піянера друкарскай справы Ф. Скарыны, які кінуў прамень свайго генія на ўвесь Усход Еўропы. Аўтар таксама даследуе творчасць Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа. Пра М. Багдановіча ён пісаў так: “Неацэнная заслуга М. Багдановіча ў тым, што ён пашырыў кола тэм беларускай літаратуры агульначалавечымі тэмамі і цалкам новымі формамі верша і напрамкам творчасці, да яго зусім не знанымі ў беларускай паэзіі. Ён ведаў у працэсе творчасці тое, чаго не маглі ведаць паэты-самавукі, і таму свядома ішоў такім шляхам творчасці, па якім, пры аднолькавых здольнасцях ад прыроды, без асветы і адпаведнай падрыхтоўкі не заўсёды мог бы ісці нават вялікі геній. Максім Багдановіч, – піша перакладчык, – гэта высокі, паэтычны талент, вялікі майстра слова, які валодае тайнаю рытму і гармоніі, паэт-філосаф... З яго смерцю беларуская літаратура панесла балючую, незаменную страту, бо такія вялікія таленты, як М. Багдановіч з’яўляюцца раз на стагоддзі...”



*“Евангелие учительное” з Еўя пад Вінняй (Львоў).*

І яшчэ адна знаходка. У аддзеле рукапісаў Львоўскай дзяржаўнай навуковай бібліятэкі захоўваецца невялічкая кніжачка пад назвай “Беларусь”, выдадзеная літаграфічным спосабам у Берліне ў 1922 годзе. Аўтар перакладаў – той жа А. Ярэмчанка. “Каб хоць крыху азнаёміць наша грамадства з маладой беларускай паэзіяй, яшчэ мала знанаю сярод украінцаў, яшчэ мала вядомаю ўвогуле, але якая паспела ўжо стварыць значныя мастацкія каштоўнасці, – выдаю гэты невялічкі зборнік перакладаў беларускіх паэтаў, якія зачаравалі мяне сваёй бадзёрай вераю маладосці, поўнай глыбокага пачуцця лірыкай”, – пісаў А. Ярэмчанка ў прадмове.

Кніжачка раздзяляецца на чатыры часткі – “Акварэлі”, “Беларусь”, “З мінулага”, “Лірыка”. У ёй – 17 вершаў М. Багдановіча, чатыры вершы Я. Купалы, два вершы Я. Коласа, па вершу С. Плаўніка, Г. Леўчыка.

## Вокны ў свет

Часопіс “Вікна” (лістапад 1927 – верасень 1932 г.) быў літаратурным органам рэвалюцыйных пісьменнікаў Заходняй Украіны, якія на першай нарадзе 12 мая 1929 года аб’ядналіся ў групу “Горно”.

Часопіс шырока асвятляў дасягненні не толькі ўкраінскай культуры, а і тагачаснай прагрэсіўнай балгарскай, польскай, нямецкай. У той жа час на старонках часопіса змяшчаюцца матэрыялы з Беларусі.

Чэрвень 1928 года. У аддзеле літаратурнай хронікі паведамляецца пра наведванне Харкава беларускімі пісьменнікамі Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цішкам Гартным, Міхасём Зарэцкім і Міхасём Чаротам.

Сёння для нас асабіста цікавая будзе заўвага, што ўсе выступленні нашых пісьменнікаў былі зняты на кіналенту. Можа, і захаваліся дзе гэтыя кадры?

У майскім нумары "Вікон" за 1930 год надрукавана: "Орган беларускіх пралетарскіх пісьменнікаў "Маладняк" змясціў доўгі інфармацыйны артыкул пра "Вікна" і "Горно", напісаны прафесарам П. Бузуком. ("Некалькі слоў аб літаратурным жыцці Заходняй Украіны" – "Маладняк", лістапад-снежань 1926 г.)

У дзесятым нумары за гэты ж год у часопісе "Вікна" надрукавана апавяданне М. Чарота "Кірмаш".

Нумары часопіса былі тымі самымі вокнамі, праз якія прабіваліся звесткі аб жыцці Заходняй Беларусі, дзе цэнзура была асабліва жорсткая.

Пра гэта сведчыць і "Ліст з Беларусі", змешчаны ў пятым нумары "Вікон" за 1931 год. Прыслаў яго ў рэдакцыю Янка Чабор. "Пра сучаснае жыццё Заходняй Беларусі" мала пішацца ў часопісах... Час ад часу толькі з'яўляюцца ў газеце кароткія нататкі пра новыя арышты ці пра новыя палітычныя працэсы... Не дзіва, што ў такіх абставінах культурнае жыццё заходнебеларускага пралетарыяту знаходзіцца ў застылым стане... Пралетарскай беларускай прэсе запламбіраваны вусны. А сілы ў нас, хоць слабыя, але ёсць. І калі няма ў нас пакуль што магчымасці аднавіць сваю палітычную прэсу, то трэба нам арганізываць свой літаратурны часопіс, які б згуртаваў ля сябе заходнебеларускіх пісьменнікаў.

І гэтым шляхам звяртаюся да ўсіх тых маладых і старэйшых беларускіх пісьменнікаў, якім дорага пралетарская справа: АДГУКНІЦЕСЯ! Звяртаюся да тых беларускіх студэнтаў, якім варожа фашысцкая ідэалогія: ПАДАЙЦЕ СВОЙ ГОЛАС!.. Дамо нашым рабочым і сялянам мастацкае, класава начыненае слова! Чакаю вашага голасу, таварышы!

З пралетарскім прывітаннем – Янка Чабор".

Часопіс "Вікна" чыталі ў Польшчы, сярод эмігрантаў у Заходняй Еўропе, Амерыцы. Яго чытачамі былі і беларусы. Аб гэтым сведчыць толькі факт. У верасні 1931 года ў раздзеле "Старонка чытача" змешчаны ліст А. Грамака з горада Клецка. Гэты ліст быў набраны па-беларуску, у ім, між іншым, пісалася: "Адсутнасць у Зах. Беларусі сял.-раб. Прэсы зусім пазбаўляе вестак аб жыцці нашых братоў на ўсходзе. Гэта пустое месца мог бы часткова запоўніць ваш часопіс, змяшчаючы артыкулы аб творчасці тых пралетарскіх пісьменнікаў..."

Рэдакцыя, на жаль, не змагла адгукнуцца на прапанову чытача з Беларусі. Ужо ў 1931 годзе нумары "Вікон" выходзяць з мноствам пустых аркушаў, на якіх стаіць толькі адно слова: "Сканфіскавана". У 1932 годзе выдаваць часопіс стала яшчэ цяжэй. Апошнім выйшаў вераснёўскі нумар, ушчэнт парэзаны цэнзурай.

## Новыя сігналы

Тыднёвік "Sygnały" выходзіў у Львове з 1 сакавіка 1934 года. 1 жніўня 1938 года ў 50-м нумары тыднёвіка змешчаны артыкул Севярына Сасноўскага "Новая кніжка Максіма Танка" (з партрэтам паэта). Гэта – рэцэнзія на кнігу "Пад мачтай" (у 33-м нумары ішла размова пра дзве папярэднія кнігі нашага паэта).

А 15 жніўня выйшаў "беларускі" нумар тыднёвіка. На першай старонцы гэтага нумара надрукаваны артыкул Станіслава Грынкевіча "Пра псіхічны склад беларуса". Далей ідуць артыкулы – А. Навіны "Адараджэнне беларускай літаратуры" (з партрэтамі Купалы і Коласа", Ежы Путраменка "Максім Танк і беларуская паэзія" (з партрэтам Танка), Рыгора Шырмы "Беларуская народная песня" (з партрэтам Шырмы).

У гэтым, 75-м нумары тыднёвіка, ёсць чтыры вершы М. Танка ў перакладзе К. Яворскага і Е. Вайнтраўба.

З давераснёўскіх 1939 года публікацый назаву яшчэ артыкул Я. Шутовіча "Сучасная беларуская літаратура", што быў надрукаваны 15 красавіка 1938 года ў львоўскім часопісе "Назустріч". Тут жа падаецца і верш Я. Купалы з кнігі "Безназоўнае" ў перакладзе "С.Г." – "Покинем спадщину мы для потемків...".

## На братняй зямлі

Новыя часы, новыя весткі. Пасля вайны Якуб Колас выступае ў львоўскім часопісе "Жовтень" з артыкулам пра Івана Франка, а П. Ахрыменка расказвае пра ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі савецкага перыяду. Крыху раней І. Дзенісюк у "Жовтні" (1963 г., №5) друкуе артыкул "Тарас Шаўчэнка і беларуская паэзія".

Львоўскі вучоны Р. Нудзьга ў "Полымі" (1967 г., №4) піша пра беларускую песню за мяжой. Між іншым, Рыгор Нудзьга гаварыў пры сустрэчах, што ён мае матэрыял на цэлую кніжку, якая магла б быць выдадзена ў нас. У вучонага захоўваецца і некалькі лістоў Якуба Коласа.

З гадамі ўсё больш на ўкраінскіх паліцах збіраецца кніг беларускіх пісьменнікаў. На ўкраінскую зямлю яшчэ раз прыходзіць і паэт Максім Багдановіч.

Адзін з ініцыятараў перакладу яго творчай спадчыны – выкладчык Львоўскага універсітэта Іван Аксенцевіч Дзенісюк. У другім нумары "Жовтня" за 1967 год у раздзеле "Са скарбаў сусветнай паэзіі" змешчаны яго артыкул пра М. Багдановіча "Святло высокай зары". Тут жа – 31 верш нашага паэта пад агульнай назвай "Смолоский серця". Пераклады вершаў удала зрабілі У. Лучук, В. Чабаненка, І. Гнацюк, Е. Асечкін, У. Лазарук, Р. Лубкіўскі, І. Калынец, І. Стасіў, А. Сенатовіч, М. Валашчук, М. Пігуляк, Г. Кочур.

У гэтым жа годзе ў Кіеве ў серыі "Перліни світової лірики" выходзіць кніга М. Багдановіча з прадмоваю І. Дзенісюка. Цікава зазначыць, што на найбольш выдатныя творы М. Багдановіча (напрыклад, на "Пагоню") івнаваў своеасаблівы конкурс лепшага перакладу. У кіеўскім выданні "Пагоня" ідзе ў выдатным перакладзе львавяніна Рамана Лубкіўскага...

Уладзімір Лучук, Раман Лубкіўскі, Ігар Гнацюк – найбольш актыўныя перакладчыкі беларускай паэзіі. Іх стараннямі ў "Жовтні" (1964 г., №9) падрыхтавана вялікая падмборка вершаў і апавяданняў беларускіх аўтараў. З іх удзелам для "Анталогіі дружбы" часопіса "Жовтень" (1967 г., №1) створаны новыя пераклады з беларускай паэзіі.

Самы актыўны ўдзел прынялі У. Лучук і Р. Лубкіўскі ў святкаванні 75-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. Р. Лубкіўскі ў часопісе "Дніпро" (1966 г., №12) змяшчае пяць сваіх перакладаў багдановічаўскіх вершаў з прадмовай, якую назваў "Речнік прірeчeних". Пераклады У. Лучука былі надрукаваны ў львоўскіх газетах.

Цікавы вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, адбыўся ў львоўскім "Доме вучоных" 9 снежня 1966 года. Ён быў праведзены Клубам інтэрнацыянальнай дружбы пры Львоўскім універсітэце і Беларускім зямляцтвам – студэнтамі шасці навучальных устаноў горада. Выкладчыкі ўніверсітэта К. Трафімовіч (беларус паходжаннем) і У. Маторны разам з другімі прадстаўнікамі навукі і культуры Львова пакінулі ў кнізе водгукаў такія словы пра багдановічаўскі вечар:

"Нам радасна, што мацнее наша дружба з Вамі, дарагія браты! Сённяшні вечар вялікага паэта Беларусі Максіма Багдановіча, яднае нас з Вамі яшчэ болей".

"Хай довічною буде наша дружба!" – запісаў у гэтай незвычайнай кнізе водгукаў Раман Лубкіўскі.

Эдуард Дубянецкі / Віктар Жыбуль

# "Мастацкі густ" vs "безгустоўнасць" – хто каго?

## Слова ад "Дзеяслова"

***Кажуць, што пра густы не спрачаюцца. Але гэта толькі кажуць. А насамрэч – спрачаюцца, і яшчэ як! І спрэчка гэтая даўняя і бясконцая.***

***Паўгады праляжала эсэ "(Р)Эвалюцыя мастацкага густу", у "рэдактарскім партфелі". Гэта не першы артыкул Эдуарда Дубянецкага, дзе аўтар, кандыдат гістарычных навук, культуролаг і паэт, адстойвае, так бы мовіць, традыцыйна-кансерватыўны погляд на літаратуру і мастацтва (гл. ранейшыя тэксты, што друкаваліся ў "Дзеяслове": "Бляск і ўбогасць беларускага літаратурнага мадэрнізму", №43, "Хаатычна-фрагментарная культура: шлях у бездань або падмурак для росквіту?", №49, "Шызафрэнізацыя культуры ў эпоху глабалізацыі", №55).***

***Пры яўнай палемічнасці, а часам – і найпраставай скіраванасці да дыскусіі, – так і не з'явілася ніводнага водгуку-адказу ад прыхільнікаў іншых сістэмаў эстэтычных каштоўнасцяў ды мадэляў творчасці (авангардысцкай, постмадэрновай, эксперыментальнай і г.д.).***

***Падазраючы, што і гэты тэкст можа застацца без збалансавальнага адказу, мы звярнуліся да паэта, даследчыка беларускай паэтыкі 1920–30-х гадоў, кандыдата філалагічных навук Віктара Жыбуля з прапановай выкласці сваю пазіцыю адносна ўзнятых у тэксце спадара Дубянецкага праблемаў. Дзякуючы гэтаму адказу, у выніку дыскусія сягнула куды далей і глыбей за высвятленне тэарэтычных аспектаў пытання добрага густу...***

***Вырашаць жа, "хто каго", як заўсёды, вам, Чытачы!***

# Эдуард Дубянецкі

## (Р)Эвалюцыя мастацкага густу

*Добры густ найперш*
*азначае ступень пераборлівасці,*
*а не патрэбнасць у выключэннях.*

Уістан Х'ю Одэн

Кожны геніяльны Твор – заўсёды Падзея. Прычым як Падзею яго варта ўспрымаць у розных аспектах і сэнсах: і як асабісты творчы поспех, удачу канкрэтнага мастака, і як адмысловы падарунак сваім вучням, паслядоўнікам, прыхільнікам, і як пэўны ўклад у скарбонку нацыянальнага і сусветнага мастацтва, і, урэшце, як унікальнае пасланне творцы ў Будучыню.



*Эдуард ДУБЯНЕЦКІ.*

Адметным тут з'яўляецца тое, што Падзеяй такі найвыдатнейшы Твор не абавязкова становіцца з нагоды яго шырокага прызнання ў мастацкіх і пазамастацкіх колах. Ён такім становіцца ўжо па самім факце свайго напісання і абнародавання, нават калі адразу і не атрымлівае вялікага розгаласу. Бо колькі прыкладаў ведала гісторыя, калі сапраўды вялікія Творы не маглі ацаніць належным чынам сучаснікі і замест іх гэта даводзілася рабіць нашчадкам! Лёс самых лепшых мастацкіх твораў – не кануць у Лету (як тое заўжды бывае з пасрэднымі творамі), а стаць сапраўднай жамчужынай у скарбніцы сусветнай культуры.

У мінулым, асабліва пачынаючы з перыяду Новага часу (прыблізна з 15-16 да пачатку 20 ст.) геніяльныя мастацкія Творы з'яўляліся даволі часта, нягледзячы нават на тое, што агульная колькасць прафесійных творцаў у параўнанні з сённяшнім часам была нашмат меншай. Аднак затым, на працягу Найноўшага часу агульная сітуацыя ў мастацкай сферы пачала даволі марудна, паступова, але заўважна мяняцца ў горшы бок, паколькі агульнапрызнаныя найвыдатнейшыя Творы (менавіта з вялікай літары!) з'яўляліся ўсё радзей і радзей, і паўзы паміж такімі "з'яўленнямі" станавіліся больш доўгімі. Ды і, вобразна кажучы, выкарыстаная тут намі вялікая літара паступова пачала змяншацца – у сэнсе таго, што Творы сапраўды геніяльныя паступова змяняліся выдатнымі ці проста таленавітымі, а на змену былым найбуйнейшым талентам (Геніям) прыходзілі ў лепшым выпадку проста буйныя Таленты, а ў горшым – пасрэднасці ды шматлікія паслядоўнікі-эпігоны. Натуральным наступствам гэтага было тое, што нягледзячы на няўхільнае павелічэнне колькасці прафесійных мастакоў (праўда, многія з іх былі звычайнымі рамеснікамі ад мастацтва), сапраўдныя мастацкія Падзеі здараліся ўсё радзей, а самі мастакі станавіліся ўсё больш "дробнымі".

Асабліва заўважнай гэтая трывожная тэндэнцыя стала ў другой палове мі-

нулага стагоддзя і ў пачатку новага тысячагоддзя, калі створаныя ў папярэднія часы геніяльныя Творы геніяльных Творцаў пачалі ўспрымацца як недасягальныя творчыя вяршыні. Каб не быць галаслоўным, варта адзначыць, што найлепшыя, неператзыйдзеныя літаратурныя творы 20 ст. былі напісаны пераважна ў яго першыя два-тры дзесяцігоддзі – прыгадайма хаця б найлепшыя раманы Джойса, Фолкнера, Мана, Пруста, Кафкі, Вульф, Набокава, паэмы і вершы Эліёта, Рыльке, Апалінэра, Лоркі, Фроста, Блока, Мандэльштама, Цвятаевай і інш. Натуральна, што і ў пазнейшы перыяд з-пад пяра найбольш таленавітых аўтараў выходзілі выдатныя творы, але ж іх аўтары ў параўнанні з вышэйназванымі Тытанамі-першапраходцамі найчасцей не ўражвалі празмернай арыгінальнасцю і маштабнасцю свайго творчага даравання. Дарэчы, штосьці падобнае можна сказаць і пра сітуацыю ў беларускай літаратуры, бо нашы найвялікшыя Творцы-пачынальнікі (Багдановіч, Купала, Колас, Гарун, Жылка, Дубоўка, Пушча, Гарэцкі, Чорны і інш.) менавіта ў тыя ж першыя дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя стварылі такія несумненныя шэдэўры, мастацкі ўзровень якіх застаўся недасягальным амаль для ўсіх творцаў наступных пакаленняў.

На маю думку, узнікненне такога феномена своеасаблівага здрабнення асобных творцаў у прыватнасці і ўсяго сусветнага мастацтва ў цэлым абумоўлена некалькімі прычынамі. Адной з найбольш важных было тое, што на працягу 20 ст. у стаўленні да мастацтва і яго прызначэння адбыліся кардынальныя змены, што знайшлі адлюстраванне ў беспрэцэдэнтнай, імклівай "прафанізацыі" мастацтва, з якога амаль канчаткова "зляцеў" вэлюм містычнасці, сакральнасці. І яшчэ вельмі істотнай прычынай з'яўляецца, на маю думку, своеасаблівы "дзявяты вал" (а мо, ураган, шквал!) безгустоўнасці, што абрынуўся на працягу мінулага стагоддзя на краіны Старога і Новага свету і "накрыў" практычна ўсе віды і сферы мастацкай дзейнасці. Дык у чым жа праяўляецца гэтая безгустоўшчына, дзе трэба шукаць глыбінныя падставы яе неверагодна шырокага распаўсюджання ў сённяшнім свеце і якія наступствы можа мець гэты працэс для далейшага развіцця сусветнай і айчыннай культуры? Зробім спробу адказаць на пастаўленыя пытанні ў гэтым эсэ.

## Мастацкі густ vs безгустоўнасць – хто каго?

Але спачатку, відаць, варта коратка разгледзець тыя тэрміны і паняцці, што будуць выкарыстоўвацца ў нашым артыкуле. Сярод іх найбольш важнымі, ключавымі з'яўляюцца "густ", "мастацкі густ" і "мастацкая безгустоўнасць". Першы з названых тэрмінаў – *густ* – можна вызначыць як здольнасць чалавека ўспрымаць і разумець прыгажосць, хараство і гармонію ў жыцці прыроды і чалавека, а таксама ў мастацкіх артэфактах. Варта падкрэсліць, што ўпершыню тэрмін "густ" у эстэтычным сэнсе як чалавечую здольнасць спасцігаць прыгожае ў творах мастацтва быў выкарыстаны яшчэ ў сярэдзіне 17 ст. іспанскім філосафам і тэолагам Бальтасарам Грасіянам у ягонай працы "Кішэнны аракул, або Навука разважлівасці" (1646). Аўтар кнігі слушна падкрэсліваў (прычым яго словы актуальныя і для сённяшняга дня), што "для густу, гэтаксама як і для розуму, патрэбна культура", прычым "супольнасць людзей добрага густу" – вялікае шчасце".

У цэлым густ заснаваны на своеасаблівай пераборлівасці індывіда ў выбары таго, чым захапляцца, што адмаўляць, што ненавідзець, а таксама ва ўменні адрозніваць прыгожае ад брыдкага, гарманічнае ад хаатычнага, змястоўнае ад бессэнсоўнага, натуральнае ад штучнага, урэшце, добрае ад кепскага, прыстойнае ад непрыстойнага. У такім разуменні густ як эстэтычная катэгорыя суадносіцца, збліжаецца з асобнымі этычнымі катэгорыямі – найперш такімі, як дабро, праўда, любоў, справядлівасць, шчырасць, прыстойнасць. Таму выключна важную ролю

ў фарміраванні і "шліфоўцы" добрага густу адыгрываюць працэсы сацыялізацыі і інкультурацыі (далучэння да сферы культуры) кожнага чалавека, а таксама яго няспынная самаадукацыя і духоўнае, інтэлектуальнае самаўдасканаленне.

Другі з названых тэрмінаў – *мастацкі густ* – азначае ўласцівую чалавеку здольнасць беспамылкова і хутка вызначаць найбольш прыгожае, па-мастацку каштоўнае ў свеце шматлікіх культурных феноменаў, а таксама адмысловае майстэрства "адсейвання" ўсялякага псеўдамастацкага шалупіння. Чалавек, які валодае добра развітым мастацкім густам, вызначаецца абвостраным пачуццём меры, уменнем тонка адчуваць і цаніць прыгажосць і ўнутраную гармонію ў разнастайных артэфактах мастацтва (паэтычных і празаічных творах, жывапісных работах, кінастужках, тэатральных пастаноўках, музычных творах, помніках архітэктуры). У свой час вельмі хораша і дакладна апісаў сутнасць творчай дзейнасці і адметнасць мастацкага густу сапраўдных Творцаў выдатны беларускі паэт Уладзімір Жылка ў наступным чатырохрадкоўі:

Песняры, мастакі і музыкі,
Хараства і сугучнасці слугі,
Закаханыя ў буру і громы
І з душой, як збаночкі лілеяў...

Шчаслівы "ўладальнік" добрага мастацкага густу – гэта звычайна адукаваны, высокадухоўны індывід, альбо, скажам так, чалавек з "тонкай скурай" (узгадайма тут назву аднайменнага фільма французскага рэжысёра Франсуа Труфо). Праўда, такі "тонкаскуры" чалавек, атрымліваючы сапраўдную асалоду ад сузірання мастацкіх шэдэўраў, амаль аднačасова можа адчуваць своеасаблівы "быційны дыскамфорт" у рэальным жорсткім свеце, які пачынаецца практычна адразу па-за межамі пэўных ачагоў высокага мастацтва.

Што датычыцца трэцяга з вышэйназваных тэрмінаў – *мастацкая безгустоўнасць* – то ён можа быць вызначаны як адсутнасць або надта слабая выяўленасць добрага густу, ці, іначай кажучы, як істотнае адхіленне (па-навуковаму – дэвіяцыя) ад агульнапрынятых канонаў эстэтыкі і часткова этыкі. Уяўляецца, што парушэнне мастацкага густу можа быць як неўсвядомленым з боку мастака працэсам, прыкрай выпадковасцю, так і свядомым, мэтанакіраваным дзеяннем, арыентаваным на прыцягненне павышанай грамадскай увагі да сваёй персоны і да свайго твора, а таксама на атрыманне вядомасці (хай і скандальнай!) у больш-менш шырокіх мастацкіх і пазамастацкіх колах. Поўная ці частковая адсутнасць мастацкага густу можа нівеліраваць, дэвальвіраваць творчыя знаходкі мастака, "знізіць планку" творчасці апошняга, а часам у нейкім сэнсе і ўвогуле спляжыць шматфарбную карціну мастацкага свету творцы.

Прычым тут варта яшчэ мець на ўвазе, што мастацкі густ і мастацкая безгустоўнасць не толькі могуць існаваць/суіснаваць паралельна, адасоблена, але часам, так бы мовіць, вядуць паміж сабой своеасаблівую гарачую ці халодную вайну, нібыта "аспрэчваюць" сваё права на павышаную ўвагу да іх, на прызнанне іх важкай з'явай чалавечага жыцця. Такая адмысловая дуэль – *густ vs безгустоўнасць* – працягваецца ўжо вельмі даўно (прыгадаем хаця б гісторыю з абвінавачаннямі геніяльных паэтаў Авідыя і Бадлера ў нібыта амаральным змесце некаторых іх твораў) і звычайна праходзіць з пераменным поспехам. Як ні прыкра казаць, аднак у сённяшнім свеце ўсё часцей і часцей перамагае, на жаль, не вытанчанае, бездакорнае ва ўсіх сэнсах мастацтва, а якраз безгустоўна-прымітыўнае псеўдамастацтва. Аднак нельга з гэтай нагоды ўпадаць у адчай і роспач, бо розныя грамадскія і культурныя працэсы маюць маятнікавы характар, а таму ёсць пэўная (хаця і не надта глыбокая) вера ў тое, што калісьці гэты адмысловы "мастацкі маятнік" пачне ўрэшце рухацца ў супрацьлеглы бок

і сапраўднае высокае мастацтва зойме належнае яму месца ў іерархіі маральна-духоўных і эстэтычных каштоўнасцяў чалавецтва.

Адчуваю, што тут хтосьці можа запярэчыць мне з той нагоды, што развàжанні пра добры і дрэнны густ – справа надта суб'ектыўная, бо са старажытных часоў вядома лацінскае выказванне "De gustibus non est disputandum" ("Аб густах не спрачаюцца"). Канечне, у кожнага чалавека ёсць (ці, прынамсі, павінна быць) сваё меркаванне пра прыгожае і брыдкае, уласнае адчуванне і пачуццё меры дазволенага. Аднак усё ж такі некаторыя найбольш важныя, фундаментальныя характарыстыкі густу і безгустоўнасці павінны, як мне здаецца, прызнавацца практычна ўсімі людзьмі, якія яшчэ цалкам не згубілі здаровага сэнсу і адэкватнага ўспрымання рэчаіснасці.

Дык вось, прааналізаваўшы развіццё сусветнага і айчыннага мастацтва (уключаючы сюды не толькі элітарную творчасць, але і ўзоры масавай культуры) у мінулым стагоддзі і ў сучасны перыяд, можна з пэўнай доляй умоўнасці вызначыць некалькі найбольш тыповых, асноватворных праяваў і адначасова разнавіднасцей мастацкай безгустоўнасці.

Перш за ўсё гэта празмерныя *вульгарызацыя мастацтва* – г.зн. актыўнае "насычэнне" ўласна мастацкай і калямастацкай прасторы разнастайнымі творамі, што характарызуюцца пошласцю ва ўсіх яе праявах, а таксама прамой ці ўскоснай звязанасцю з некаторымі фізіялагічнымі працэсамі чалавека. Сярод апошніх самую павышаную ўвагу набываюць сэкс (ва ўсіх яго натуральных і выродлівых формах), харчаванне ў "звязцы" з выдаленнем прадуктаў жыццядзейнасці арганізма і ўрэшце працэс памірання, што ўскосна можа сведчыць пра некрафільскія схільнасці мастака. І сапраўды, на працягу 20 – пачатку 21 стст. створана проста безліч нізкапробных мастацкіх ці псеўдамастацкіх твораў (вершаў, раманаў, аповесцяў, жывапісных і графічных работ, тэкстаў прадстаўнікоў рок-музыкі і "папсы"), якія з хваравітым смакаваннем і непрыхаванай развязнасцю "апяваюць" усе магчымыя віды сэксуальных перверсій, полавыя органы мужчыны і жанчыны, садамазахізм, фізічны і духоўны гвалт. Па сутнасці, падобныя творы адкрыта насаджаюць пахабшчыну, наўпрост ці прыхавана прапагандуюць разбэшчанасць, усёдазволенасць, грубасць, амаралізм, а таксама культывуюць адмоўнае стаўленне да традыцыйных маральна-духоўных каштоўнасцей.

Яшчэ адным яскравым сведчаннем безгустоўнасці з'яўляецца шырока распаўсюджаны ў розных відах культуры – найперш у папулярнай музыцы, масавай літаратуры, мадэрнісцкім і постмадэрнісцкім жывапісе – г.зв. *кітч (кіч)*. У сучасны перыяд вельмі актыўна дзейнічаюць г.зв. "зоркі кіча", сярод якіх ёсць мастакі, кампазітары, спевакі, рэжысёры, архітэктары, мадэльеры і інш. Яны самі (і іх творы) нярэдка ўяўляюць сабой узор бяздарнасці, нікчэмнасці і нахабства, але гэтыя "кітчавікі" прыкладаюць усе магчымыя намаганні для найхутчэйшай "раскруткі" і найдаражэйшага продажу сваіх нізкапробна-пошлых мастацкіх "прадуктаў".

Таксама да ліку тыповых праяваў безгустоўшчыны адносіцца і т.зв. "*брыдотызацыя мастацтва*", якая азначае павышаную ўвагу да, умоўна кажучы, цёмных, брудных, нават брыдкіх бакоў чалавечага жыцця і выяўляецца ў даволі частым выкарыстанні ў мастацкіх творах брыдкаслоўя (чаго варты толькі адзін расійскі "мат"!), празмерна падрабязным апісанні жыцця рэальных і выдуманых "кепскіх" персанажаў (алкашоў, наркаманаў, таксікаманаў, забойцаў, прастытутак, вампіраў, вурдалакаў, пярэваратняў, выродкаў і інш.), а таксама ва ўзгадванні ўсялякага бруду і шматлікіх "не-эстэтычных" жывёл і насякомых (таму нярэдкім фонам такіх твораў становяцца сметнік, гразь, вантробы, пацукі, жукі, тараканы, жабы і да т.п.). У выніку ўзмацнення такой тэндэнцыі, верагодна, ужо цяпер можна казаць не толькі пра прыгожае, але і пра брыдкае пісьменства.

У дадзеным кантэксце нельга не сказаць і аб такой негатыўнай з'яве, як

*прымітывізацыя мастацтва*, што праяўляецца ў стварэнні вялізнай колькасці нізкаякасных ці проста графаманскіх твораў, якія вызначаюцца аднастайнасцю тэмаў, прымітыўнасцю сюжэтаў, банальнасцю вобразаў і параўнанняў, крайняй спрошчанасцю характараў герояў, беднасцю творчай фантазіі, небагатай лексікай і г.д.

Акрамя таго, неабходна яшчэ адзначыць і такія праявы безгустоўшчыны, як:

– надта вялікая пафаснасць, рытарычнасць, а часам і простае рэзанёрства (пустое шматслоўе) пры апісанні розных падзеяў, з'яваў і персанажаў, што найчасцей успрымаецца чытачамі, гледачамі як адлюстраванне сацыяльна-палітычнай заангажаванасці і пэўнай няшчырасці мастака;

– неахайнасць формы і цьмянасць зместу канкрэтнага мастацкага твора, што ў сваю чаргу нярэдка выяўляецца ў адсутнасці амаль усялякай сувязі, узгодненасці паміж рознымі часткамі тэксту, незразумеласці творчай задумы мастака, няяснасці мэты напісання твора і яго галоўнага аўтарскага "пасылу";

– неадпаведнасць выбраных аўтарам мастацкіх сродкаў для раскрыцця пэўнай тэмы – напр., выкарыстанне бадзёрага рытму пры асвятленні трагічнага сюжэту, ці, скажам, нагрувашчанне ўсялякіх штучных, манерных і псеўдаглыбакадумных слоў і вобразаў, ці (калі казаць пра папулярную музыку) вельмі распаўсюджанае сёння выкананне спевакамі быццам бы сумных песняў з непрыхаванай усмешкай на твары...

А цяпер узнікае неабходнасць зрабіць адно невялікае дапаўненне і ўдакладненне. Паколькі большая частка гісторыі нашай краіны ў мінулым стагоддзі прыпала на савецкі перыяд, то ў той жа час сфармаваліся і некаторыя адмысловыя рысы ўласна "савецкай безгустоўнасці", ці, інакш кажучы, безгустоўшчыны, уласцівай "гома савецікусу". Да іх адносяцца: прымітыўнае апяванне, бяздумная апалогія сацыялістычнага ладу; штучнае, наўмыснае ўзвялічванне ў сваіх творах тагачасных кіраўнікоў савецкай дзяржавы; адносна шырокае выкарыстанне ў творах камуністычных догмаў, разнастайных ідэалагічных клішэ, стэрэатыпаў (пра ўзмацненне класавай барацьбы, пра фармаванне "адзінага" савецкага народа, пра хуткую пабудову камуністычнага грамадства і інш.). Нездарма ў пачатку 1950-х гадоў выдатны турэцкі паэт Назым Хікмет смела выказваўся аб тым, што ён цярпець не можа вершаў, дзе таварыша Сталіна параўноўваюць з сонцам, прычым гэта "не проста кепская паэзія, гэта дрэнны густ".

Вышэйназваныя асноўныя прыкметы безгустоўнасці таксама могуць кімсьці аспрэчвацца, аднак яны, узятыя ў сукупнасці, могуць даць досыць добрае агульнае ўяўленне пра безгустоўны мастацкі твор. І таму нават калі хтосьці скажа, што ў якім-небудзь творы няма, напрыклад, пошласці, дык пры ўважліва-строгім разглядзе гэтага опуса патэнцыйна можна будзе знайсці некаторыя іншыя праявы безгустоўшчыны. А часам бывае і так, што амаль усе пералічаныя прыкметы могуць мець месца нават у адным асобна ўзятым літаратурным тэксце, які ў такім выпадку нельга ўвогуле назваць мастацкім творам. І наадварот, такі твор, у якім не сустракаецца ніводная з названых прыкметаў, можна, як правіла, назваць па-мастацку вартым і каштоўным.

Аўтараў твораў, для якіх уласцівы разгледжаныя праявы безгустоўшчыны, аніяк нельга аднесці да ліку сапраўдных "служкаў хараства і сугучнасці" (паводле Ул. Жылкі). Апошніх у нашым сённяшнім мітуслівым, напаўвар'яцкім свеце засталося вельмі мала – ды і тое гэта пераважна асобныя прадстаўнікі старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Сённяшняя ж творчая моладзь свядома ці неўсвядомлена часцяком імкнецца, наадварот, разбурыць традыцыйныя ўяўленні пра прыгажосць, прыстойнасць, каб тым самым прадэманстраваць сваю нібыта надзвычайную арыгінальнасць, самабытнасць альбо, скажам так, сваю "круцізну" як нібыта геніяльных мастакоў. Хаця, зразумела, можна знайсці прыклады і адва-

ротнага працэсу, калі найбольш таленавітыя маладыя людзі настойліва, упарта і часам пакутліва, праз творчыя няўдачы і хібы, спрабуюць знайсці ў саміх сабе і навакольным асяроддзі “новую гармонію” і “новыя сугучнасці”...

У дадзеным кантэксце ў цэлым можна пагадзіцца з наступным меркаваннем Рыгора Семашкевіча, выказаным ім у эсэ “Зашчымела слова, зашчымела...” (1975), аб тым, што “ў добрых вершах, напісаных на адным дыханні, безгустоўшчына ці непісьменнасць сустракаюцца рэдка. Яны густа засяляюць вершы цьмяныя, невыразныя па сваёй задуме, калі слоўным шлакам трэба запоўніць пустоты пачуцця ці думкі”. Праўда, тут хацелася б зрабіць адно невялікае ўдакладненне. Здаецца ўсё ж такі, што далёка не ўсе цьмяныя вершы “густа заселеныя” безгустоўнасцю і непісьменнасцю. Нярэдка бывае і так, што ў такіх творах практычна немагчыма знайсці праявы кепскага густу, але аднак, разам з тым, бывае надта цяжка адшукаць у тых жа творах хоць які-кольвечы сэнс і заўважыць праявы аўтарскай эмацыйнасці, пачуццёвасці.

Не выклікае здзіўлення той факт, што асобныя творцы патэнцыйна могуць апраўдваць наяўнасць у сваіх творах некаторых праяваў безгустоўнасці свабодай творчасці (без усялякіх абмежаванняў і забаронаў) і правам аўтара на любыя эксперыменты, вольнасці. Так, безумоўна, кожны мастак павінен заўжды захоўваць унутраную свабоду, аднак пры гэтым нельга цалкам адмаўляцца ад агульначалавечых духоўных каштоўнасцяў, ад выпрацаваных тысячагоддзямі развіцця чалавецтва маральна-этычных і эстэтычных нормаў. Тым больш, што ствараць мастацкія феномены з наяўнасцю, так бы мовіць, высокадухоўных элементаў нашмат цяжэй, складаней (паколькі трэба валодаць выключным прафесійным майстэрствам, мастакоўскай інтуіцыяй, развітай фантазіяй і вытанчаным густам), чым прадукаваць мноства безгустоўна-бессэнсоўных нізкаякасных артэфактаў культуры.

Што датычыцца іншых відаў мастацтва (эстрадная музыка, жывапіс, графіка, скульптура, кінамастацтва і інш.), то там таксама можна знайсці безліч безгустоўных, прымітыўных, нізкапробных опусаў, якія тым не менш іх стваральнікамі падаюцца як нібыта якасная мастацкая прадукцыя. Скажам, сённяшні стан беларускай эстраднай музыкі ў параўнанні з 1970-80-мі гадамі, калі на творчым узлёце знаходзіліся “Песняры”, “Верасы”, “Сябры”, “Чараўніцы”, В. Вуячыч, Т. Раеўская, С. Кульпа, Н. Багуслаўская, Н. Мікуліч і інш. варта, відаць, лічыць не проста рэгрэсам, а сапраўднай катастрофай – прычым, як у плане якасці музычнага матэрыялу, так і тэкстаў песень. Апошнія найчасцей проста жахлівыя ў сваёй банальнасці, прасталінейнасці, шаблоннасці, манернасці і адсутнасці шчырасці. Таксама ў вельмі незайздросным стане зараз знаходзіцца айчыннае кіна- і тэатральнае мастацтва, жывапіс, дзе практычна адсутнічаюць сапраўды яркія па форме і глыбокія па змесце творы і дзе амаль не засталося найвыдатнейшых Творцаў (а тварылі ж яшчэ адносна нядаўна незабыўныя і непаўторныя В. Тураў, М. Пташук, В. Рубінчык, В. Цвірка, І. Басаў, М. Селяшчук, А. Ісачоў, В. Раеўскі, В. Маслюк, а тыя Асобы, якія яшчэ працягваюць тварыць, ужо відавочна прайшлі пік сваёй творчасці...

## Праз рэвалюцыйныя ўзрушэнні да эвалюцыйных зменаў

Этычныя і эстэтычныя каштоўнасці (а разам з імі і мастацкія густы) асобнага індывіда і розных супольнасцяў людзей не могуць быць ва ўсе гістарычныя перыяды аднолькавымі, нязменнымі, застылымі. Наадварот, яны амаль пастаянна, хаця часам і не надта заўважна, відазмяняюцца, трансфармуюцца. Прычым гэтыя густы, каштоўнасці могуць змяняцца двума асноўнымі шляхамі – эвалюцыйна (г.зн. пастУпова, марудна) або рэвалюцыйна (рэзка, кардынальна і хутка). Досыць умоўна першую разнавіднасць трансфармацыі можна назваць Эвалюцыяй густу, а другую,

адпаведна, – Рэвалюцыяй густу. Тое, якая з гэтых разнавіднасцей дамінуе ці будзе дамінаваць у пэўны час, у пэўнай краіне ці рэгіёне, звычайна залежыць ад сукупнага ўздзеяння геапалітычных, сацыякультурных і этнапсіхалагічных фактараў.

Калі казаць пра мінулае стагоддзе, то варта зазначыць, што тады адбылося некалькі адмысловых Рэвалюцый мастацкага густу, якія прама ці апасродкавана закранулі і айчынную культурную прастору. Найбольш магутнай была Рэвалюцыя, якая адбылася ў пачатку 20 ст. і мела ледзь не планетарны маштаб, прычым неадназначны ўплыў на яе характар і змест аказалі тагачасныя войны, паўстанні і сацыяльныя рэвалюцыі.

Галоўнымі прыкметамі і праявамі гэтай “мастацкай Рэвалюцыі” можна лічыць наступныя:

– узнікненне на розных кантынентах свету вялікай колькасці ўсялякіх мадэрнісцкіх мастацкіх кірункаў і плыняў (напр., “сімвалізм”, “футурызм”, “экспрэсіянізм”, “імпрэсіянізм”, “сюррэалізм”, “дадаізм”, “імажынізм”, “акмеізм”, “ультраізм” і інш.), што ў сваю чаргу прывяло да сапраўднага мастацкага перавароту, да радыкальнага абнаўлення ўсёй тагачаснай мастацкай прасторы ў сэнсе яе “напаўнення” новымі незвычайнымі вобразамі, сюжэтамі, тэмамі, арыгінальнымі формамі і жанрамі мастацкіх твораў;

– істотнае пашырэнне межаў мастацкага густу, што праявілася, скажам, ва ўзмацненні містычных, эзатэрычных настрояў і адпаведных ім пошукаў новай вышэйшай гармоніі і прыгажосці (найперш у сімвалізме), у мастацкім “апяванні” вялікіх гарадоў, фабрык, заводаў і ў своеасаблівым кульце тэхнікі, машын (асабліва ў футурыстаў), а таксама ва ўвядзенні ў мастацкі ўжытак цэлага шэрагу неалагізмаў – вынайдзеных творцамі новых слоў і паняццяў;

– беспрэцэдэнтны “выхад” на арэну сусветнага мастацтва жанчын-творцаў (у першую чаргу паэтэс), якія змаглі глыбока і арыгінальна выказаць у выдатных мастацкіх творах уласна жаночыя думкі, эмоцыі, перажыванні, пачуцці. Менавіта найбольш таленавітыя жанчыны-паэткі (напр., М. Цвятаева, Г. Ахматава, М. Лохвіцкая, С. Парнок, Д. Агусціні, Г. Містраль і інш.) змаглі “прывіць” своеасаблівы густ на фіксацыю і выяўленне ў мастацкіх творах самых тонкіх, інтымных рухаў чалавечай душы, а таксама досыць заўважна ўзбагаціць тагачасныя сродкі мастацкай выразнасці.

Другая спецыфічная Рэвалюцыя густу адбылася ўжо ў канцы 20 ст., але ў адрозненне ад першай глабальнай, яна мела лакальны характар і была непасрэдна звязана з тагачасным крахам камуністычнай сістэмы і марксісцка-ленінскай ідэалогіі, распадам краін т.зв. “сацыялістычнага лагеру”. Гэтая лакальная Рэвалюцыя таксама прывяла да своеасаблівай лібералізацыі мастацкіх (і не толькі) густаў, да пошуку новых сродкаў мастацкай выразнасці. Аднак адным з яе істотных адрозненняў ад папярэдняй Рэвалюцыі быў значна меншы маштаб таленту шматлікіх творцаў-“рэвалюцыянераў” і больш нізкі ўзровень большасці створаных опусаў.

У тыя часы ў краінах былога СССР адбыўся сапраўдны злом мастацкіх густаў – калі творцам было больш не трэба пісаць пра будаўнікоў камунізму, пра праявы класавай барацьбы, пра нібыта перавагі савецкага ладу ў параўнанні з краінамі “загніваючага” Захаду, пра слаўныя ваенныя і працоўныя перамогі прадстаўнікоў адзінага савецкага народа, і да т.п. Своеасаблівая дэмакратызацыя і лібералізацыя мастацкіх густаў прывяла да таго, што стала магчымым адкрыта і смела пісаць у публіцыстычных і мастацкіх творах пра розныя негатыўныя сацыяльныя з’явы – т.зв. “сацыяльныя язвы” (напр., п’янства, наркаманія, прастытуцыя, беспрацоўе, экалагічныя праблемы). Паралельна з гэтым на авансцэну мастацтва пачалі выходзіць прадстаўнікі розных мадэрнісцкіх і постмадэрнісцкіх плыняў, што заканамерна прывяло да прыкметнага абнаўлення тагачаснай мастацкай прасторы.

У цэлым, вышэйназваныя Рэвалюцыі (як гэта зазвычай і бывае) мелі як “светлы”,

так і “цёмны” бок, прычым гэтыя “бакі” найчасцей праяўляліся практычна адначасова, суіснавалі ў своеасаблівым супярэчлівым адзінстве. Светлым бокам любой “мастацкай Рэвалюцыі” можна лічыць тое, што падчас яе адбываецца прыкметная мадэрнізацыя культурнай прасторы, станаўленне і росквіт творчасці многіх самабытных аўтараў, а таксама з’яўляецца мноства арыгінальных мастацкіх артэфактаў – вершаў, аповесцяў, раманаў, твораў музычнага і выяўленчага мастацтваў.

У сваю чаргу, цёмны бок такіх Рэвалюцый праяўляецца ў досыць шырокім распаўсюджанні ўсялякіх праяваў безгустоўшчыны, дысгарманічнасці, прымітывізму, пошласці і вульгарнасці, а таксама ў своеасаблівым “крыжовым паходзе” некаторых творцаў супраць прыгажосці. Напрыклад, падчас першай з названых Рэвалюцый пачатку 20 ст. падобныя негатыўныя праявы можна было “сустрэць” у многіх творах малаадораных прадстаўнікоў асобных мастацкіх плыняў – найперш футурызму, сюррэалізму, дадаізму, кубізму. Таму заканамерна, што, напрыклад, у італьянскім “Маніфесце футурызму” (1909) была адкрыта абвешчана яго “антыкультурная, антыэстэтычная і антыфіласофская” накіраванасць. Тагачасныя футурысты найчасцей уяўлялі сабой прыклад нястрымнага бунтарства і анархічнасці, агрэсіўнага бунту супраць культурных традыцый і агульнапрынятых этычных і эстэтычных каштоўнасцяў, а таксама непрыхаванай нянавісці і пагарды да прадстаўнікоў іншых, супрацьлеглых па сваіх мастацкіх арыентацыях плыняў – асабліва да сімвалістаў.

Дарэчы, даволі падобную па свайму характару “барацьбу” мастацкіх густаў вялі паміж сабой у 1920-я гг. розныя літаратурныя аб’яднанні Беларусі, напр., “Маладняк” і “Узвышша”. Тады многія опусы найбольш зацятых і рашучых “маладнякоўцаў” уяўлялі, строга кажучы, узор безгустоўшчыны і пафаснага прымітывізму, што было непасрэдна звязана з жаданнем членаў гэтай арганізацыі “ідэі матэрыялізму, марксізма і ленінізма ажыццявіць у беларускай мастацкай творчасці” (паводле іх уласнай творчай дэкларацыі). У той жа час творы “ўзвышэнцаў”, наадварот, дэманстравалі нярэдка вытанчаны густ, гарманічнасць і прыгажосць мастацкай формы, што было абумоўлена схільнасцю сяброў суполкі да арганічнага спалучэння рэалістычных пачаткаў са смелым наватарствам, да шырокага выкарыстання сімволікі і лепшых традыцый аўтэнтычнага фальклору, класічнай літаратуры...

Падчас “мастацкай Рэвалюцыі” канца 20 ст. адначасова з пэўнымі пазітыўнымі зрухамі адбылося, на жаль, досыць заўважнае пашырэнне шматаблічнай, так бы мовіць, постсацыялістычнай (постсавецкай) безгустоўшчыны і пачала ўзмацняцца своеасаблівая *дэпрафесіяналізацыя* мастацтва. Апошняя выяўлялася ў тым, што паступова ў розных відах мастацкай творчасці (найперш у літаратуры, папулярнай музыцы і кінамастацтве) на першы план пачалі не толькі выходзіць, але і спрабаваць “правіць баль” далёка не самыя адукаваныя і таленавітыя асобы. Усё гэта, бясспрэчна, тармозіла развіццё нацыянальнай культуры і ў пэўным сэнсе прывяло да некаторай дэвальвацыі мастацтва ў вачах звычайных спажыўцоў духоўных каштоўнасцей, што ў сваю чаргу спрычынілася да яшчэ большай маргіналізацыі (выцясненню на задні план) культуры ў паўсядзённым грамадскім жыцці.

Улічваючы ўсеахопнасць і невыкараняльнасць безгустоўшчыны практычна ва ўсім свеце і ва ўсіх сферах мастацтва, можна было б нават сцвярджаць, што ў пачатку 20 ст. адбылася (паралельна з Рэвалюцыяй густу) адмысловая “Рэвалюцыяй безгустоўнасці”, якая з тых часоў не толькі не скончылася, а нават паступова ўзмацнялася, разгортвалася. Іначай кажучы, гэтая, так бы мовіць, нахабная “рэвалюцыянерка Безгустоўнасць” аказалася дужа трывалай, жывучай і неаднойчы спрабавала заняць зусім не належнае ёй месца “на покуці” сусветнага мастацтва, і ўрэшце паспяхова “дажыла” да сённяшніх дзён. У звязку з гэтым паўстае заканамернае пытанне: а якімі ж глыбіннымі прычынамі была абумоўлена сама гэтая “Рэвалюцыя безгустоўшчыны”?

На мой погляд, да ліку найбольш важных прычынаў, дэтэрмінантаў беспрэцэдэнтнага росквіту мастацкай безгустоўнасці ў 20 – пачатку 21 стст. можна аднесці наступныя. Па-першае, гэта празмерная *атамізацыя* людзей, што праяўляецца ў іх нарастаючай адчужанасці, раздробленасці, няўхільнай дэвальцыі каштоўнасцяў кахання, дружбы, сямейнага жыцця. Дарэчы, да ўзмацнення названай атамізацыі ў немалой ступені, на мой погляд, спрычыніліся шматлікія сацыяльныя і прыродныя ўзрушэнні (г.зв. гарачыя і халодныя войны, рэвалюцыі, паўстанні, перавароты, стыхійныя бедствы, тэхнагенныя катастрофы), колькасць якіх у 20 ст. была значна большай у параўнанні з папярэднімі вякамі. Сацыяльныя і прыродныя катаклізмы, пертурбацыі пераканаўча пацвердзілі надзвычайную крохкасць і неабароненасць чалавечага жыцця, што ў выніку вымушала кожнага чалавека разлічваць на ўласныя сілы і нярэдка выклікала жаданне "схавацца" ад жорсткага і несправядлівага вялікага свету ў сваім больш-менш утульным і ціхім маленькім унутраным свеце.

Адным з вынікаў названай атамізацыі з'яўляецца тое, што многія людзі бываюць часта проста не ў стане адчуваць сваю глыбінную паяднанасць з прыродай і ўмець захоплена любавацца яе незвычайнымі з'явамі ("ды што мне тая прырода – лепш буду любавацца сабой!"), а таксама паўнавартасна, адкрыта і шчыра кантактаваць з іншымі людзьмі. У сваю чаргу, такая сітуацыя можа прыводзіць да ўзмацнення інфантыльнасці, некамунікабельнасці, нават асацыяльнасці індывіда, прадвызначаць яго непрыхаванаую непавагу да іншадумцаў, няўвагу да патрэбаў і перажыванняў блізкіх і незнаёмых людзей (узгадайма выдатную аповесць Альбера Камю з сімвалічнай назвай "Чужаніца"). Акрамя таго, у падобных выпадках нярэдкім бывае паступовае ўзмацненне цынізму, а таксама нежаданне прызнаваць агульнапрынятыя этычныя, эстэтычныя каштоўнасці і адчуваць адказнасць за свае паводзіны перад самім сабой, сябрамі, сям'ёй, урэшце перад грамадствам.

У той час як для гарманічнага і духоўна багатага, творча-стваральнага жыцця чалавеку патрэбна, метафарычна кажучы, своеасаблівае "судакрананне душ". Апошняе паняцце азначае ў дадзеным выпадку "дакрананне", дотык (хай сабе і віртуальны) душы асобнага чалавека да душаў іншых людзей, да таямніц прыроды, у выніку чаго звычайна і ствараюцца найбольш высокамастацкія творы. Амаль уся гісторыя сусветнай літаратуры пераканаўча пацвярджае, што сапраўдныя мастацкія шэдэўры стваралі найперш тыя геніяльныя Асобы, якія змаглі глыбока асэнсаваць і яскрава, па-мастацку пераканаўча апісаць разнастайныя прыродныя з'явы (у звязку з чалавечым жыццём), складаныя сацыяльныя праблемы, феномены індывідуальнага і грамадскага быцця.

Па-другое, яшчэ адной важнай прычынай Рэвалюцыі безгустоўшчыны можна лічыць надзвычайную, неверагодную для мінулых стагоддзяў *эгацэнтрызацыю* мастацтва. Яна выяўляецца найперш у празмерным самалюбаванні і самаўсхваленні (т.зв. "мастацкі нарцысізм") многіх творцаў, у іх хваравітай увазе да любых сваіх перажыванняў, трызненняў, падсвядомых імпульсаў, схільнасцяў (ажно да вычварэнскіх!), што ў сваю чаргу прадвызначае навязлівае імкненне як мага больш падрабязна апісваць усё гэта ў сваіх опусах. Трагедыя такіх здольных ці пасрэдных аўтараў-эгацэнтрыстаў палягае ў тым, што з аднаго боку, яны не могуць пісаць пра што-небудзь іншае, акрамя "пакутаў" сваёй душы, паколькі не бачаць, як гаворыцца, далей уласнага носа і проста не ведаюць псіхалогіі іншых людзей, не разумеюць сутнасці грамадскіх працэсаў. Адносна такіх надзвычай эгаістычных мастакоў (ды й не толькі іх!) можна ўзгадаць незабыўны мандэльштамаўскі радок "мы живем, под собою не чуя страны". А такая нячуласць да вострых праблем жыцця народа звычайна досыць заўважна зніжае мастацкую вартасці і значнасць напісаных твораў. А з другога боку, мастакі-эгацэнтрыкі часта не могуць усвядоміць, што іхняя творчасць (з-за гэтай абмежаванасці) цікавая можа быць толькі

вельмі нязначнай колькасці такіх жа закамплексаваных і празмерна амбіцыйных мастакоў і нешматлікім фанатам такіх творцаў.

У выніку названай эгацэнтрызацыі ў розных відах мастацтва (найперш у літаратуры і жывапісе) пачаў дамінаваць звышсуб'ектыўны пачатак, у той час як у папярэднія гістарычныя перыяды амаль усе найлепшыя творы мелі відавочна больш аб'ектыўны характар. Прычым пад аб'ектыўнасцю тут, калі казаць сцісла, маецца на ўвазе жаданне і ўменне мастакоў усебакова паказваць жыццё чалавека не толькі на лакальна-індывідуальным, але і на шырокім, нярэдка нават глабальным фоне грамадска-палітычных і сацыяльна-эканамічных працэсаў.

У цэлым пра такую беспрэцэдэнтную эгацэнтрызацыю/суб'ектывізацыю мастацтва яскрава сведчыць узнікненне ў пачатку 20 ст. і ў далейшым досыць шырокае распаўсюджанне такіх адмысловых плыняў і цячэнняў сусветнага мастацтва, як "плынь свядомасці", "сюррэалізм", "экспрэсіянізм", "дадаізм", "эгафутурызм" і інш. З аднаго боку, названыя і ім падобныя плыні даволі істотна "рассунулі" межы тагачаснага мастацтва, дазволілі больш поўна выявіць адметнасці чалавечай псіхалогіі і мысленння. А з другога боку, больш-менш актыўнае развіццё названых плыняў прывяло да стварэння не толькі сапраўды яркіх, незвычайна-вобразных твораў, але і наўпрост спрычынілася да ўзнікнення мноства нізкаякасных, прымітыўных, а падчас і проста безгустоўных мастацкіх опусаў. Агульную сітуацыю досыць заўважна пагоршылі шматлікія малаадораныя і амаль бяздарныя паслядоўнікі, вучні (а па шчырасці сказаць, эпігоны) найлепшых прадстаўнікоў названых вышэй "-ізмаў".

Лічу, што своеасаблівым апагеем безгустоўшчыны можна, відаць, лічыць вядомы манерна-бессэнсоўны пяцірадковы "верш" рускага паэта-футурыста (дарэчы, аднаго са стваральнікаў "зауми") Аляксея Кручоных: "Дыр бул щыл // убешщур // скум // вы со бу // р л эз". Прычым названы аўтар яшчэ меў нахабства самаўпэўнена сцвярджаць, што "ў гэтым пяцірадкоўі больш рускага нацыянальнага, чым ва ўсёй паэзіі Пушкіна". І варта сказаць, што ў тагачасны перыяд многія паэты-футурысты спрабавалі (і часам паспяхова) зрабіць сабе "імя" і набыць вядомасць у літаратурных і не толькі колах менавіта творамі падобнага кшталту і скандальна-эпатажнымі заявамі, паводзінамі.

На беларускай зямлі такая псеўдамастацкая творчасць тады, на шчасце, не прыжылася, але асобныя надта экстравагантныя і эпатажныя асобы дзейнічалі і тут (напр., Паўлюк Шукайла). Апошні, лічачы сябе і сваіх прыхільнікаў "самымі чыстакроўнымі футурыстамі", самаўпэўнена заяўляў, што "мы ломім усе старыя літаратурныя традыцыі і каноны, робім літаратуру новай рэвалюцыйнай фармацыі". І вось вам, паважаныя чытачы, дзеля лепшага разумення таго, што і як "ламаў" гэты айчынны футурыст, прывяду тыповы прыклад з яго верша пад назвай "Ветру" (1927): "...Не сябра мне ты па маштабу, дунеш – і Еўропа слухае. Я ж у балоце, як жаба, – квакаю для вёскі віславухае". Ну што ж, пасля такіх праграмных заяваў і такіх опусаў П. Шукайлу можна небеспадстаўна лічыць своеасаблівым родапачынальнікам айчыннай мастацкай безгустоўнасці, якая асабліва расцвіла ў наступныя дзесяцігоддзі. Праўда, Пані Гісторыя ўсё даволі хутка расставіла на свае месцы, і ў выніку абсалютная большасць твораў такіх, так бы мовіць, "кручонаўцаў" і "шукайлаўцаў" заслужана канула ці абавязкова кане ў Лету...

І па-трэцяе, нельга не назваць і такую істотную прычыну пашырэння безгустоўшчыны, як надзвычайная *камерцыяналізацыя* мастацтва, што знаходзіць адлюстраванне ў арыентацыі многіх творцаў і іх агентаў, спонсараў, прамоўтэраў, прадзюсераў на атрыманне як мага большага прыбытку. Усе гэтыя людзі не столькі клапоцяцца пра ўласна мастацкія вартасці твораў, колькі пра найхутчэйшы і найдаражэйшы продаж сваёй "прадукцыі", арыентуючыся пры гэтым на вядомы з по-

знесавецкіх часоў цынічны прынцып “піпл схавае”. Інакш кажучы, некаторыя віды мастацтва (найперш кіно, папулярная музыка і масавая літаратура) ператварыліся сёння ў своеасаблівыя камерцыйныя ўстановы, арганізацыі, якія распрацоўваюць і рэалізуюць свае “мастацкія бізнес-праекты”. І заканамерным вынікам падобнага падыходу з’яўляецца незлічоная колькасць прымітыўных, безгустоўных і амаль бессэнсоўных кінафільмаў, серыялаў, тэатральных пастановак, твораў жывапісу, графікі і скульптуры, эстрадных песень, тэлеперадачаў і г.д.

Дарэчы, як ні дзіўна гэта можа прагучаць, практычна ўсе вышэйназваныя прычыны, дэтэрмінанты ўзлёту безгустоўшчыны ў большай ці меншай ступені звязаны паміж сабой; яны нібы “падпітваюць”(падсілкоўваюць), узаемадапаўняюць адна адну. Скажам, калі творца з’яўляецца чалавекам надзвычай эгацэнтрычным, амбіцыйным і “прабіўным”, ён хутчэй за ўсё будзе актыўна прапаноўваюць свае творы розным прадстаўнікам г.зв. бізнесу ад мастацтва, а тыя, калі іх задаволіць якасць прапанаванага “прадукта”, будуць усяляк падтрымліваць такога індывіда і ў далейшым умела, тонка накіроўваць яго працу ў патрэбнае (найбольш прыбытковае для іх) рэчышча. Або наадварот, гэтыя бізнесмены са сферы масавай культуры могуць самі досыць актыўна шукаць і знаходзіць “творцаў” з амаральнымі схільнасцямі і кепскім, вульгарным густам, будуць як беспярэчна выконваць любыя загады багатых “лялькаводаў“, так і прыцягваць да сябе грамадскую ўвагу ўсімі магчымімі сродкамі – скандаламі, нецэнзурнай лаянкай, стрыптызам, псеўдараманамі са знакамітасцямі, іншымі эпатажнымі выказваннямі і выхадкамі...

Вяртаючыся да тэмы рэвалюцыйных і эвалюцыйных зменаў, хачу адзначыць, што для грамадства і для асобнага індывіда больш прымальнай, відаць, з’яўлялася б не Рэвалюцыя, а менавіта Эвалюцыя густу. Апошняя па сваёй іманентнай сутнасці ўяўляе сабой паступовасць, няспешнасць, адмысловую “ціхую плынь” (тут прыгадваецца аднайменная назва аповесці Максіма Гарэцкага), якая, у адрозненне ад злому падчас Рэвалюцыі, звычайна захоплівае з сабой усё лепшае са старога, традыцыйнага, але ж нярэдка і прыўносіць нямала свайго, новага, свежага. Увогуле, Эвалюцыя звычайна дазваляе пазбегнуць непажаданых для стваральнікаў і спажывальнікаў культуры радыкальных пераўтварэнняў (з усімі іх адмоўнымі наступствамі), а таксама паступова і ў адносна мяккай форме адаптавацца да новых абставінаў. Падчас эвалюцыйнага развіцця ніколі не адбываецца адмысловага “кіпення/бурлення” (узгадайма знакамітую нямецкую “Буру і націск”) мастацкага жыцця, а наадварот, культурнае развіццё вызначаецца найчасцей не павышаным дынамізмам, а павольнасцю.

Відавочна, што найбольш плённым культурнае развіццё народаў бывае ў мірныя часы, калі творцы могуць спакойна абдумваць свае мастацкія планы, няспешна тварыць і правіць свае тэксты, затым друкуючы іх і цярпліва чакаючы часу свайго прызнання. Таму найлепей было б кожнаму мастаку не ўступаць у прамыя сутычкі са сваімі, так сказаць, супернікамі па мастацкім полі, а настойліва і мэтанакіравана культываваць у сваёй душы і распаўсюджваць у свеце прыгожае, светлае, гарманічнае, арыгінальнае і змястоўнае.

У той жа час любыя рэвалюцыі (сацыяльныя і мастацкія) з’яўляюцца для большасці творцаў сапраўднай фрустрацыяй, моцным псіхалагічным стрэсам, сур’ёзным выпрабаваннем. І ў такой сітуацыі далёка не кожны мастак здольны хутка пераарыентавацца і ўдала прыстасавацца да змянення ўмоў існавання і пры гэтым не “разгубіць” свой творчы патэнцыял. Да таго ж, у мінулым многія мастакі, нязгодныя з рэвалюцыйнымі зменамі ў мастацкай і іншых сферах, былі вымушаныя або з’язджаць у эміграцыю, або прымаць новыя “правілы гульні” і тварыць у адпаведнасці з навязанымі кімсьці падыходамі. У абодвух выпадках такія форс-мажорныя абставіны не самым лепшым чынам адбіваліся на ўзроўні мастацкай творчасці дзеячаў культуры. Хаця, зразумела, у асобных выпадках

магло быць і наадварот, калі той ці іншы мастак (нягледзячы на ўсе знешнія складанасці) лёгка засвойваў новыя тэндэнцыі і ствараў надзвычай яркія, арыгінальныя артэфакты культуры.

Улічваючы ўсе адмоўныя, негатыўныя наступствы росквіту безгустоўшчыны, сёння патэнцыйна можна было б у якасці аднаго з магчымых шляхоў, сродкаў культурнага аздараўлення прапанаваць т.зв. "Контррэвалюцыю мастацкага густу". Апошняя па сваёй сутнасці арыентавана на актыўнае, наступальнае супрацьдзеянне сённяшняй безгустоўнасці, на бескампрамісную барацьбу з ёй і яе шматлікімі праявамі ў сферы мастацтва. Аднак адразу варта сказаць, што гэты шлях хутчэй за ўсё будзе непрымальным, паколькі ён аб'ектыўна можа прывесці да ўзмацнення канфрантацыі, супрацьстаяння прадстаўнікоў розных мастацкіх суполак і прыхільнікаў розных этыка-эстэтычных каштоўнасцяў. А любое жорсткае супрацьстаянне, як правіла, не спрыяе натхнёнай творчай дзейнасці і адпаведна не прыводзіць да ўздыму нацыянальнага мастацтва. Але больш падрабязна пра некаторыя найбольш прымальныя шляхі, метады і сродкі выпраўлення неспрыяльнай сітуацыі ў сферы культуры пагаворым у заключнай частцы артыкула.

## Разарваць зачараванае кола мастацкай безгустоўнасці

Адным з самых непажаданых магчымых наступстваў мастацкай безгустоўнасці можна лічыць тое, што апошняя нярэдка стварае адмысловы "эфект заражэння" – г.зн. калі іншыя творцы (найчасцей неафіты ад мастацтва) падхопліваюць падобныя "безгустоўнасці", рэтранслююць іх ва ўласную творчасць, а затым выстаўляюць напаказ такія нізкапробныя творы (падчас іх апублікавання і ўсялякіх чытанняў, слэмаў, прэзентацый, выставаў) ды і ўвогуле ледзь не ганарацца імі. Прычым нярэдка своеасаблівы прыклад безгустоўшчыны паказваюць, на вялікі жаль, дастаткова вядомыя, "раскручаныя" і быццам вельмі аўтарытэтныя пісьменнікі. У выніку атрымліваецца пэўнае "зачараванае кола безгустоўнасці", калі ў яго межах кепскі густ нібыта "праходзіць" кола ад ініцыятараў, "першапраходцаў-безгустоўнікаў" праз мноства іншых творцаў і прыхільнікаў такога мастацтва і ў рэшце рэшт зноў вяртаецца да тых жа "пачынальнікаў". Такім чынам, гэткае дзіўнае кола замыкаецца і працягвае зноў круціцца, паступова захопліваючы ў свой абсяг-прасцяг усё новых і новых творцаў, чытачоў, слухачоў.

Дзеля таго, каб вырвацца з вышэйназванага "кола безгустоўнасці", трэба прыкласці максімум намаганняў, каб спачатку спыніць (ці хаця б прытармазіць) хуткае кручэнне-вярчэнне названага кола, а затым разарваць яго і "насыціць" вызваленую мастацкую прастору сапраўды высокадухоўнымі і якаснымі творамі. Акрамя падобнага "насычэння", вельмі важна ў тых выпадках, калі нізкаякасныя творы ўсё-такі друкуюцца, ні ў якім разе не прапагандаваць і рэкламаваць іх, а наадварот, усяляк замоўчваць або строга, абгрунтавана крытыкаваць. А паралельна з гэтым варта было б усяляк падтрымліваць іншых аўтараў – стваральнікаў па-мастацку каштоўных артэфактаў культуры; інакш кажучы, актыўна займацца "белым піярам" такіх творцаў, іх пэўнай раскруткай з дапамогай розных сродкаў масавай інфармацыі (найперш Інтэрнэт-сайтаў і перыядычнага друку) і айчынных, замежных спонсараў, мецэнатаў. Калі гэта ўдасца зрабіць, тады вялізная на сённяшні дзень прастора айчыннай безгустоўнасці будзе няўхільна змяншацца-сціскацца і разам з тым будзе паступова (хай сабе і марудна!) павялічвацца-пашырацца прастора высокага, чыстага духу і адпаведнага апошняму выкшталцонага мастацтва.

І яшчэ хацелася б сказаць аб адным надзвычай простым і дзейсным метадзе пераадолення безгустоўнасці ў сферы айчыннай культуры. Як сведчыць гісторыя сусветнай культуры, сапраўднае высокае мастацтва практычна заўсёды было "заснавана" не толькі на вытанчаным, бездакорным гусце і павазе да маральна-этычных

і эстэтычных каштоўнасцей, але і на павышанай самакрытычнасці мастака, на яго ўменні заўважаць і выпраўляць разнастайныя недахопы і хібы ўласных твораў. Такая бязлітасная (у добрым сэнсе!) самакрытычнасць мастака заўжды была і будзе непераадольным бар'ерам на шляху тыражыравання банальнасці, пошласці і вульгарнасці. Нездарма яшчэ тры з паловай стагоддзі таму той жа Б. Грасіян падкрэсліваў, што "захвальваць, выказваць захапленні – прыкмета абмежаванасці разумення і густу". Тут можна было б дапоўніць названага аўтара (бо пры ягоным жыцці такога, відаць, не сустракалася!) у тым сэнсе, што ў сучасны перыяд стала пашыраным не толькі захвальванне з боку калег, прыхільнікаў і паслядоўнікаў творцы, але і яго "самазахвальванне", самаабвяшчэнне сябе геніяльнай асобай. А гэта, на маю думку, яшчэ горш, бо па сутнасці пазбаўляе аўтара магчымасці цвяроза глядзець на свае небездакорныя творы і адэкватна ацэньваць сваё рэальнае месца ў айчынным мастацтве, што ў сваю чаргу робіць амаль немагчымым далейшае творчае самаразвіццё мастака.

Лічу, што сёння як ніколі раней, кожнаму мастаку варта карпатліва "ўзрошчваць" у сваіх душы і розуме тую пераборлівасць, пра якую ў свой свой час казаў класік англамоўнай паэзіі 20 ст. У.Х. Одэн (гл. эпіграф да гэтага эсэ). Прычым пажадана, каб гэтая "пераборлівасць" у выкарыстаных сродках мастацкай выразнасці была не памяркоўная, лагодна-кволая, а вельмі строгая, бескампрамісная, што павінна выяўляцца ў напружанай працы мастака па скарачэнню, удасканаленню, шліфоўцы сваіх твораў, а таксама па адсячэнню ў іх усяго неістотнага, ненатуральнага, безгустоўнага. Менавіта такі падыход можа быць спрыяльнай глебай для стварэння мастацкіх шэдэўраў, якія змогуць стаць асновай для плённага развіцця нацыянальнага мастацтва. Такая адмысловая "шліфоўка" мастацкага густу павінна ўсімі зацікаўленымі асобамі – пісьменнікамі і чытачамі – успрымацца як (выкарыстоўваючы вядомае лацінскае выказванне) "Dura necessitas" – "Суровая неабходнасць"...

Праўда, усё ж, відаць, не трэба перабольшваць "дэманічную" ролю безгустоўнасці ў духоўным жыцці соцыума. Бо, з аднаго боку, у сучасным свеце практычна любое мастацтва (асабліва, на жаль, элітарнае) не з'яўляецца надта запатрабаваным людзьмі, не вельмі моцна ўплывае на іх паўсядзённае жыццё і знаходзіцца найчасцей на перыферыі грамадскай свядомасці. А з другога боку, безгустоўнае мастацтва, як ні парадаксальна гэта можа прагучаць, само сабе можа аказаць "мядзвежую паслугу", паколькі ў адказ на яго беспрэцэдэнтны наступ, на яго адмаўленне прыгожага і культывацыю брыдкага патэнцыйна можа ўзрасці творчая актыўнасць найбольш таленавітых мастакоў, здольных на стварэнне сапраўды якасных і каштоўных мастацкіх твораў. Больш за тое, своеасаблівым працягам, наступствам натуральнай рэакцыі рашучага непрымання ўсяго нізкага і безгустоўнага можа стаць прыкметны прыток у сферу мастацтва немалой колькасці адораных людзей, якія раней па розных прычынах не займаліся мастацкай творчасцю. Улічваючы вышэйсказанае, уяўляецца, што паступовае накапленне "крытычнай масы" безгустоўнасці ў рэшце рэшт патэнцыйна магло б прывесці (па вядомаму прынцыпу "адмаўлення адмаўлення") да пэўных пазітыўных зрухаў у развіцці нацыянальнай культуры. Але ж гэта толькі гіпатэтычнае меркаванне, бо ў рэчаіснасці ўсё можа адбыцца зусім не так і падзеі могуць разгортвацца ў адваротным напрамку...

***

Такім чынам, праблема мастацкага густу і безгустоўнасці з'яўляецца надзвычай складанай, шматаспектнай, у чымсьці дыскусійнай праблемай, якая, тым не менш, "не церпіць" пасіўна-раўнадушнага, абыякавага да сябе стаўлення і патрабуе пільнай грамадскай увагі. Відавочна, што сёння неабходна як мага хутчэй

прымаць нейкія канкрэтныя, так бы мовіць, аздараўляльныя захады, таму што ў іншым выпадку “дзявяты вал безгустоўнасці” будзе працягваць няўхільна нарастаць, што ў канчатковым выніку можа прывесці да вельмі непажаданых і нават катастрафічных наступстваў для нацыянальнай культуры.

У канцы нашага эсэ хацелася б нагадаць, што яшчэ ў канцы 19 ст. вядомы расійскі філосаф і паэт-сімваліст Дзмітрый Меражкоўскі ў сваёй працы “Аб прычынах заняпаду і аб новых плынях сучаснай рускай літаратуры” (1893) пераканаўча паказаў, што ў тагачасны перыяд расійскае прыгожае пісьменства перажывала сапраўдны крызіс. Але, тым не менш, паэт-мысляр з надзеяй адзначаў, што “тайныя парасткі новага жыцця, новай паэзіі слаба і непераможна прабіваюцца на свет Божы, пакуль на паверхні дасягае апошняй мяжы трыумф літаратурнай пошласці і дзікунства”. І сапраўды, неўзабаве пасля гэтых яго прарочых слоў (вось што значыць сапраўдны Паэт!) у культуру прыйшла цэлая плеяда бліскучых творцаў, у выніку чаго пачаўся неверагодны мастацкі ўздым, які пазней назвалі “Сярэбраным векам”. У звязку з гэтым можна і нам, відаць, выказаць асцярожнае спадзяванне на тое, што сучаснае беларускае мастацтва ў бліжэйшай перспектыве, магчыма, усё-ткі зможа пераадолець разнастайныя псеўдамастацкія выкрунтасы, хібы і праявы безгустоўнасці. Аднак для такога гіпатэтычнага будучага культурнага ўздыму жыццёва неабходна, каб для ўсіх сапраўдных творцаў самым яркім маяком падчас іх плавання ў бурапенным моры мастацтва з’яўляўся добры ГУСТ...

## Віктар ЖЫБУЛЬ

### Ці варта залазіць на шафу, альбо Што трэба ведаць (р)эвалюцыянерам мастацкага густу

Напісаў, як мне здавалася, палемічны водгук на эсэ Эдуарда Дубянецкага “(Р)эвалюцыя мастацкага густу”. Перачытаў тое, што ў мяне атрымалася, потым перачытаў яшчэ раз згаданае эсэ, – і зразумеў, што магістральнай тэме, абазначанай у эсэ, я акурат не супярэчу. Большасць з тых, каго можна назваць удзельнікамі літаратурнага працэсу, усё ж імкнецца – кожны ў меру сваіх схільнасцяў, здольнасцяў, разуменняў – зрабіць свой унёсак у паляпшэнне, удасканальванне літаратуры: нехта сваёй творчасцю, нехта канцэптуальнымі распрацоўкамі, нехта арганізатарскай і выдавецкай дзейнасцю... А Эдуард Дубянецкі вырашыў прапанаваць сваю тэорыю змагання за добры мастацкі густ, якая таксама працуе на **агульную справу** – паляпшэнне і ўдасканальванне. Тут, як кажуць, усё, што ні робіцца, – да лепшага.

Пазіцыя аўтара, яго сапраўдная ўлюбёнасць у літаратуру і заклапочанасць яе лёсам, безумоўна, заслугоўваюць павагі. Імпануе і ўменне аўтара паставіць сябе на месца свайго апанента. “Адчуваю, што тут хтосьці мог бы запярэчыць мне...”, “вышэйназваныя асноўныя прыкметы безгустоўнасці таксама могуць кімсьці аспрэчвацца...” альбо “...асобныя творцы патэнцыйна могуць апраўдваць...” – гэтыя фразы сведчаць пра гатоўнасць Э. Дубянецкага да палемікі, і я спадзяюся, што на мой тэкст з нагоды ён не пакрыўдзіцца. З нейкімі пунктамі эстэтычнай праграмы аўтара я цалкам згодны, з нейкімі паспрачаюся, а з нейкімі спрачацца не выпадае, бо аўтар у эсэ сам аспрэчыў сябе. Але болей у маім тэксце не палемікі, а, так бы мовіць, літаратуразнаўчага дапаўнення: калі Эдуард Дубянецкі ў дадзеным выпадку ўзяў на сябе функцыю тэарэтыка-эстэтыка, то я выступлю як гісторык літаратуры і прыадкрыю або нагадаю некаторыя факты з гэтай самай гісторыі літаратуры (найперш беларускай), а з іх, я спадзяюся, можна вывесці і

пэўныя карысныя высновы. Магчыма, мая публікацыя натхніць сп. Эдуарда на новыя роздумы, а магчыма, і дапаможа скарэктаваць сваю "стратэгію змагання", бо адчуваю, што да ўзнятай праблемы – у прынцыпе, даволі актуальнай – аўтар яшчэ будзе звяртацца.

Пачнем з таго, што сам па сабе літаратурны працэс не стаіць на месцы, ён характарызуецца дынамікай, якая выяўляецца сярод іншага ў змене эстэтычных парадыгмаў. І Э. Дубянецкі гэта ўлічвае: "Этычныя і эстэтычныя каштоўнасці (а разам з імі і мастацкія густы) асобнага індывіда і розных супольнасцяў людзей не могуць быць ва ўсе гістарычныя перыяды аднолькавымі, нязменнымі, застылымі", – слушна зазначае ён. Аўтар прызнае ўласцівасць мастацкага густу істотна пашыраць свае межы, але ў той жа час спрабуе ўсталяваць над кожным творам "уважліва строгі разгляд", з-пад якога не павінна выслізнуць аніводная "праява безгустоўшчыны". Абраўшы адпаведны тон, аўтар становіцца ў нейкую позу "шукальніка заганаў" і піша, напрыклад, наступнае: "Нярэдка бывае і так, што ў такіх творах практычна немагчыма знайсці праявы кепскага густу, але аднак, разам з тым, бывае надта цяжка адшукаць у тых жа творах хоць які-кольвечы сэнс і заўважыць праявы аўтарскай эмацыйнасці, пачуццёвасці". Асабіста я, знаёмячыся з пэўным творам мастацтва, звяртаю ўвагу найперш на яго станоўчыя якасці – нават калі твор мае і недахопы. То бок – як аптыміст і чалавек з пазітыўнай жыццёвай устаноўкай – гляджу на яго як на "шклянку напалову поўную", а не "напалову пустую". Вядома ж, я згодны з сп. Эдуардам наконт патрэбы ва ўдасканаленні мастацтва, і лічу, што межаў гэтаму ўдасканаленню няма. Але мне здаецца, калі мы будзем наўмысна займацца вышукваннем у творах адмоўных праяваў, дык рызыкуем стаць падобнымі да персанажа аднаго з анекдотаў: нейкі мужчына (паводле аднаго з варыянтаў анекдота – пісьменнік) скардзіўся, маўляў, з ягонага вакна бачная жаночая лазня, і гэта яму замінае нармальна жыць і працаваць. Прыехала камісія, паглядзела: "Дык нічога ж не бачна! Вокны на 2/3 зафарбаваныя". На што мужчына адказаў: "А вы на шафу залезьце!" Насамрэч кожны (прынамсі, свядомы, дарослы) чалавек, сустракаючы штосьці неадпаведнае свайму густу, можа ў любы момант адкласці ў бок кнігу, пераключыць тэлевізар на іншую праграму, пакінуць глядацкую залу і г. д. Такі сродак абароны ад непажаданых уплываў вельмі дзейсны, хоць, вядома ж не ўніверсальны. Бо што, напрыклад, у такім разе рабіць з безгустоўшчынай у архітэктуры – з усімі гэтымі навабудамі, якія вырастаюць у цэнтры горада, часам нават на месцы помнікаў даўніны? Заплюшчваць вочы? Ну тады з улікам тэмпаў руйнавання гістарычнай забудовы (як мы можам бачыць на прыкладах Мінска, Гародні, Гомеля) Беларусь рызыкуе ператварыцца ў краіну сляпых...



*Віктар ЖЫБУЛЬ.*

Згаданы мной шлях "духоўнай самаабароны" з'яўляецца, так бы мовіць, індывідуальным – чалавек сам асабіста вырашае, лезці яму на тую "шафу" ці

ўсё ж такі лепей устрымацца. Калі ж нехта спрабуе абараніць не толькі сябе, але й іншых – такая справа выглядае ў чымсьці высакароднай, але ў чымсьці і рызыкоўна-сумнеўнай. Каб за яе ўзяцца, трэба сапраўды выбудаваць штосьці кшталту шкалы крытэраў, сфармуляваць вызначэнні мастацкага густу і безгустоўнасці, што Эдуард Дубянецкі і зрабіў. Аднак, сістэматызуючы нешта ў такой галіне, як літаратура і мастацтва, трэба быць заўсёды гатовым да "супраціўлення матэрыялу" – да таго, што ў сістэме абавязкова ўзнікнуць выключэнні, і да таго, што гэтых выключэнняў можа назбірацца даволі шмат, і нават да таго, што сярод выключэнняў апынуцца і такія, якія здольныя паставіць пад сумнеў усю сістэму. Усё ж мастацтва грунтуецца на вялікай сукупнасці індывідуальных чыннікаў, і калі мы паспрабуем сканструяваць для мастацкага густу нейкі Пракрустаў ложак, то рызыкуем зашчаміць у ім і сёе-тое лішняе. Эдуард Дубянецкі сам жа ж і згадаў, што, маўляў, геніяў Авідыя і Бадлера калісьці абвінавачвалі ў амаральнасці – значыцца, творчасць гэтых паэтаў папросту не ўкладалася ў чыюсьці (пэўных носьбітаў пурытанскай маралі) сістэму "густу – безгустоўнасці". А што датычыць пераборлівасці – то яна ў дадзеным кантэксце можа не толькі мець розную ступень выяўленасці, але і ахопліваць абсалютна розныя сферы эстэтычнага – усё залежыць ад індывідуальных рысаў і мастацкага светапогляду рэцыпіента: калі аматар рэалістычнай літаратуры наўрад ці возьмецца чытаць авангардысцкі твор, дзе "аўтар усё адно выпендрываецца", дык прыхільнік авангардызму не прасякнецца цікаўнасцю да "занадта зразумелага" верша з рыфмамі кшталту "сонца – бясконца" альбо "доля – воля".

Змагаючыся з безгустоўнасцю, Эдуард Дубянецкі змяшаў разам рэчы рознага парадку: разам з папсой, парнаграфіяй, графаманіяй, прымітывам, рытарычнай пафаснасцю, банальнасцю, нудотным шматслоўем пад крытычны нож патрапілі і апісанне жыцця "кепскіх персанажаў" (а калі гэта зроблена таленавіта?), "неахайнасць формы і цьмянасць зместу" (а калі гэта наўмысны прыём?), "няяснасць мэты напісання твора" (калі гэта верш, напісаны паводле натхнення, то пра "мэту" казаць не заўсёды і выпадае) і г. д. А між тым, літаратары, якіх Эдуард Дубянецкі называе "нашымі найвялікшымі Творцамі-пачынальнікамі", якраз не цураліся, напрыклад, "цьмянасці" ў паэзіі і адстойвалі правы паэта на пэўную незразумеласць, адкрыта сцвярджаючы самакаштоўнасць падсвядомага (інтуітыўнага) у мастацкай творчасці:

У гэтым мкненні невыразных дум
Неразгаданым бы хацеў застацца.
Я сцежкай маладжаваю іду
Да новых і нязнаных станцый.
*(Я. Пушча), [1].*

Ці ж я буду скардзіцца на крыўду:
у душы паэта – чорт зламае карак .
*(У. Дубоўка), [2].*

Для 1920-х гг. такія паэтычныя маніфестацыі выглядалі вельмі смелымі, калі ўлічыць, што савецкая аглабельная крытыка не драмала і шукала чарговай нагоды напасці на тых, чыя творчасць хоць нейкім чынам не адпавядала савецкаму літаратурнаму канону...

Усё ж такі варта размяжоўваць безгустоўнасць, спароджаную эстэтычным бяссіллем, і "безгустоўнасць" як свядомы бунт супраць спробаў навязаць творцам пэўныя эталоны "мастацкага густу", як адна з праяваў (хай сабе і не для ўсіх прыемная) мастацкага змагання за свабоду творчасці і ажыўленне літаратурна-мастацкага працэсу. Я наўмысна ўзяў у другім выпадку слова "безгустоўнасць" у двукоссе, бо менавіта ім аперуе ў сваім эсэ Эдуард Дубянецкі. У мастацтваз-

наўстве ж і літаратуразнаўстве для гэтага ўжо даўно існуе прапанаваны калісьці Зарай Мінц тэрмін *антыэстэтызм*, які ў эсэ, аднак, ні разу не сустракаецца. Антыэстэтызм з'яўляецца адной з рысаў авангарднай паэтыкі і адным са сродкаў пашырэння сферы эстэтычнага, бо акрэслены падзел рэальнасці на прыгожае і агіднае авангарду не ўласцівы. Оскар Уайльд у канцы XIX ст. напісаў: "Няма кніг маральных або немаральных. Ёсць кнігі, добра напісаныя або напісаныя дрэнна. Вось і ўсё" [3]. Пазней падобную думку развіў Уладзімір Набокаў: "Мастацтва ведае, што няма нічога на свеце простага ці абсурднага ці пачварнага, што не можа, пры пэўным асвятленні, стаць прыгожым" [4]. Антыэстэтызм у большасці выпадкаў узнікае як рэакцыя на закансерванасць традыцыі, на панаванне пэўных літаратурна-мастацкіх стэрэатыпаў, а разам з гэтым – на стэрэатыпнасць чытацкага / глядацкага ўспрымання. Праблема ўспрымання з'яўляецца вельмі істотнай у кантэксце творчай практыкі авангардыстаў, для якіх увогуле ўласцівая павышаная камунікатыўнасць як паэта, так і яго тэксту – адсюль і імкненне да свядома арганізаванага скандалу, эпатажу публікі.

Максім Багдановіч калісьці пісаў:

> Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
> Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
> Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
> Не збудзіўшы святога сумлення.
>
> Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
> Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
> Як ударыш ты ім, – ён, як звон, зазвініць,
> Брызнуць іскры з халодных каменняў [5].

За стагоддзе, якое прамінула з часу напісання гэтага верша, сэрцы людзей мякчэйшымі не сталі, нават наадварот: з актыўным развіццём электронных рэсурсаў, агульнай інфармацыйнай перагружанасцю людзі робяцца менш успрымальнымі да паэзіі. Гэта неаднойчы змушала самых розных творцаў задумацца пра сродкі вырашэння гэтай праблемы. Памятаецца, нехта з заходніх тэарэтыкаў мастацтва сфармуляваў варыянт выйсця наступным чынам: "Мастак малюе на палатне. Глядач не рэагуе. Мастак малюе на гледачу". Гэта не абавязкова трэба ўспрымаць літаральна: мы бачым трапную метафару мастацтва, арыентаванага на павышаную камунікацыю, часам – з імкненнем шакаваць, уразіць – магчыма, недзе пераходзячы і мяжу дазволенага. Калі М. Багдановіч вымярае якасць мастацкага працэсу эстэтычнай вартасцю самога твора мастацтва (слабы верш не знойдзе водгуку ў сэрцы чытача, а моцны – наадварот, выкліча "іскры"), то ў другім выпадку аснова ацэначнага крытэру – ступень рэакцыі гледача (чытача), незалежна ад яе (рэакцыі) станоўчай ці адмоўнай прыроды. Але, нягледзячы на такое адрозненне, у чымсьці Багдановіч і той замежны тэарэтык усё ж сыходзяцца: яны абодва ўспрымаюць чытача як суўдзельніка творчага працэсу, чакаючы ад яго абавязковай павышана-эмацыйнай рэакцыі на літаратурна-мастацкі твор. Іншымі словамі, і ў першым, і ў другім выпадках гаворка ідзе пра аднаўленне парушанага адзінства аўтара і рэцыпіента, ператварэнне апошняга ў суўдзельніка творчага акту. Так што і ў тых, хто творыць "паэзію чыстай красы", і ў тых, хто імкнецца шакаваць брутальнымі фантасмагорыямі, па сутнасці, адна мэта – актуалізацыя мастацтва як такога. І ў першых, і ў другіх аднолькава баліць душа за стан літаратуры і мастацтва. І тыя, і іншыя хочуць, каб людзі чыталі кнігі, наведвалі мастацкія галерэі й канцэртныя залы. Яны працуюць на тую **агульную справу**, пра якую я сказаў яшчэ ў першым абзацы. Проста падыходзяць да гэтага з двух розных бакоў.

Што адсутнасць мастацкага густу і антыэстэтызм – з'явы ўсё ж такі рознага

парадку – паспрабуем давесці на прыкладзе, прыведзеным у кнізе даследчыцы Наталлі Крыловай “Медны век: Нарыс тэорыі і літаратурнай практыкі рускага авангарду” (2002): «У 1917 годзе авангардны мастак Марсэль Дзюшан выставіў на нью-ёркскай выставе ў якасці мастацкага аб’екта звычайны пісуар пад назваю “Фантан” (па тым часе акцыя дастаткова скандальная, таму аўтару ўрэшце было адмоўлена ў экспазіцыі). А двума гадамі пазней, у 1919 годзе, у Пецярбургу адбыўся з’езд вясковай беднаты, дэлегаты якога пражывалі ў Зімнім палацы. Вось як апісваў вынік іх перабывання ашаломлены М. Горкі: “Калі з’езд скончыўся і гэтыя людзі з’ехалі, дык высветлілася, што яны не толькі ўсе ванны палаца, але і вялізную колькасць сеўрскіх, саксонскіх і ўсходніх ваз загадзілі, скарыстоўваючы іх у якасці начных гаршкоў. Гэта было зроблена не па сіле патрэбы, – прыбіральні палаца аказаліся ў парадку, водаправод дзейнічаў. Не, гэтае хуліганства было выяўленнем жадання сапсаваць, зганьбаваць прыгожыя рэчы”. У першым выпадку пісуар выстаўляецца як мастацкі аб’ект. У другім – мастацкі аб’ект выкарыстоўваецца як пісуар» [6].

Вядомы філосаф і культуролаг Міхаіл Эпштэйн, аналізуючы гэтыя два выпадкі, справядліва звяртае ўвагу на прынцыповую розніцу паміж разбурэннем мастацтва і стварэннем антымастацтва: «Ужыванне сеўрскіх ваз у якасці начных гаршкоў – акт найчысцейшага нігілізму, які мае сацыяльную прыроду: стаўленне цёмных, некультурных мас да стварэння “арыстакратычнага” мастацтва. Іншая справа – мастак, які “кашчунна” перасоўвае межы свайго мастацтва ў сферу нізкага, агіднага. Мастацтва тым самым скідвае сябе з узвышанага пастамента, добраахвотна прыніжае сябе, выклікае скандальную рэакцыю (замест звыклага піетэту і глыбокай пашаны)» [7].

Можа, для кагосьці паміж гэтымі дзвюма з’явамі прынцыповай розніцы і няма – маўляў, і тое “безгустоўшчына”, і гэта “безгустоўшчына”, а якая ў іх там прырода – гэта ўжо неістотна. Толькі вось Эдуарду Дубянецкаму такое неадрозніванне саслужыла кепскую службу, уносячы ў ягоную трактоўку літаратурна-мастацкага працэсу пэўныя супярэчнасці.

Так, аўтар піша, што безгустоўныя творцы абсалютна справядлівым і заканамерным чынам (паводле жадання самой Пані Гісторыі!) знікаюць у Лету. І сам жа ў якасці “самых безгустоўных” прыводзіць у прыклад асобаў, якіх забытымі ніяк не назавеш, і – мала таго – без якіх уявіць сабе літаратурны працэс даволі цяжка. І хоць у савецкія часы іх сапраўды спрабавалі асудзіць на зыбыццё, з гэтага, як паказвае практыка апошніх дзесяцігоддзяў, нічога не атрымалася.

Скажам, літаратурная спадчына Аляксея Кручоных (аднаго з найбольш нешанаваных Э. Дубянецкім аўтараў) апошнім часам выдаецца і перавыдаецца, ладзяцца прысвечаныя яму навуковыя канферэнцыі, у тым ліку міжнародныя. І гэтая ўвага да творчасці паэта-завумніка не з’яўляецца проста нейкай прымхай “людзей з сапсаваным густам”. “Кручоных адным з першых паставіў і па-свойму спрабаваў вырашыць пытанне пра зусім новыя прынцыпы існавання літаратуры як мастацтва слова ў кантэксце рэалій, узніклых менавіта ў ХХ стагоддзі, пра ўзаемадачыненні літаратуры з іншымі відамі мастацтва і іншымі галінамі чалавечага быцця” [8], – зазначыў расійскі філолаг і педагог Сяргей Красіцкі. А што датычыць вядомага “Дыр бул щыл...” – праграмнага твора “заумной” паэзіі – дык на яго варта зірнуць у агульналітаратурным і светапоглядным кантэксце, а не толькі з пункту гледжання абуранага “абывацеля” (=“прыхільніка класічнай паэзіі”), эпатаваць якога і ставіў мэтаю А. Кручоных (ды як трапна: стрэлы, пушчаныя ім, аказваецца, дасягаюць сваёй мэты і праз сто гадоў!).

Усё ж такі аніводная новая плынь або тэндэнцыя ў літаратуры і мастацтве не ўзнікае проста так, зніадкуль. Мастацтва – гэта быццам адзін вялікі арганізм, у якім сверб і пачырваненне ў адным органе могуць сігналізаваць пра непаладкі

ў іншых. Кожная (нават дробная) літаратурная з'ява прадыктавана патрэбамі ўсяго літаратурнага працэсу. Адмаўленне пэўных літаратурных тэндэнцый рэдка калі адбываецца без сцвярджэння чагосьці. Адпаведна, яно яшчэ не з'яўляецца і падставай залічваць аўтара ў "родапачынальнікі безгустоўшчыны". І любыя "фармалістычныя выкрунтасы", "скандальна-эпатажныя заявы, паводзіны" – гэта не толькі "свавольствы" нейкага асобна ўзятага авангардыста, гэта яшчэ і рэакцыя на пэўныя з'явы ў літаратуры і мастацтве. Сваімі творамі, маніфестамі, дэкларацыямі футурысты сігналізавалі пра неабходнасць абнаўлення моўных і вобразна-выяўленчых сродкаў тагачаснай паэзіі. Улавіўшы гэтую асаблівасць, вядомы пісьменнік і крытык Карней Чукоўскі ў 1914 г. пісаў: «Прыгажосць заняволіла ўвесь свет, і Кручоных – першы паэт, які выратаваў нас ад яе спрадвечнага прыгнёту. Вось таму нязграбнасць, шурпатасць, слінявасць, крываскурасць, коснаязыкасць, смурод так вабяць яго <...>. Яму ўжо і смяхунчыкі [маецца на ўвазе верш Веліміра Хлебникова "Заклятие смехом". – *В. Ж.*] гадкія, у іх жа яшчэ засталася прыгажосць. *Смехунчики* ёсць бунтам толькі супраць розуму, а *дыр бул щыл зю цю э спрум* ёсць бунтам і супраць розуму, і супраць прыгажосці! Тут найвышэйшае вызваленне мастацтва» [9].

Вядома ж, тут ідзе размова ўжо не пра тую прыгажосць, "якая ўратуе свет", а пра прыгажосць стэрэатыпную, зацяганую, сапсаваную шматлікімі штампамі і таму – абясцэненую, пра якую іншы паэт-футурыст Давід Бурлюк напісаў: "ПОЭЗИЯ – ИСТРЕПАННАЯ ДЕВКА / а красота кощунственная дрянь" [10]. Адначасова "заумью" футурысты пашыралі ўяўленне аб успрыманні паэтычнага твора, якое дагэтуль зводзілася амаль толькі да лагічнага асэнсавання.

Акрамя таго, наяўнасць "зауми" ў пэўнай літаратуры сведчыць пра тое, што гэтая літаратура дасягнула такога ўзроўню, пры якім класічная традыцыя паспела не толькі замацавацца і ўвайсці ў канон, але і перацячы ў стадыю інэрцыйнага развіцця. Аднак Эдуард Дубянецкі, падобна, не ўлічвае гэты момант, бо называе "заумь" "апагеем безгустоўшчыны" і цешыцца з нагоды таго, што "на беларускай зямлі такая псеўдамастацкая творчасць тады, на шчасце, не прыжылася...". Упэўнены: калі б беларуская літаратура два папярэднія стагоддзі не мела перашкодаў для свайго развіцця і развівалася з такой інтэнсіўнасцю, як, скажам, расійская, то "заумь" у той ці іншай форме прыжылася б і на нашай глебе. Прынамсі, яна была ў адным кроку ад гэтага. Напісаў жа ў сярэдзіне 1920-х Уладзімір Жылка:

І ўшчэнт закаханасці поўныя,
І таго што не выкажаш мовай ,
Мы пяройдзем мяжу ў невымоўнае,
За рубеж чалавечага слова [11].

А Максім Танк, пазнаёміўшыся ў 1935 г. з творамі футурыста Веліміра Хлебнікава, хаўрусніка А. Кручоных па "заумной" словатворчасці, зазначыў: "Мне здаецца, што падобнымі эксперыментамі могуць займацца паэты, перад якімі ніколі не стаяла пытанне: быць ці не быць іх мове? Аж зайздросна, што ёсць на свеце пісьменнікі, якіх ніколі не трывожыла гэта праблема" [12]. Але ўсяму свой час. "Заумь" пастукалася ў дзверы нашай літаратуры тады, калі тая сапраўды адчула ў ёй патрэбу, – пры канцы ХХ стагоддзя. У 1910 – 1920-я ж для яе былі актуальнымі іншыя прыблемы і задачы.

Змагаючыся з "безгустоўшчынай" у беларускай літаратуры, трэба было знайсці і "ахвярнага казла", каб ускласці на яго ўсе грахі за заняпад беларускага прыгожага пісьменства. У ролі такой лялькі для біцця (інакш не скажаш, бо ў эсэ гэта адзіны прыклад з усёй багатай на імёны айчыннай літаратуры) апынуўся Паўлюк Шукайла – паэт з і без таго нешчаслівым лёсам, расстраляны ў 1939-м. Чаму менавіта ён? А таму што, бачыце, іншыя стваралі "безгустоўшчыну" неўсвядом-

лена, а Шукайла – свядома, тэарэтычна абгрунтавана, называючы сябе “самым чыстакроўным футурыстам”, а футурызм, падобна, не ўваходзіць (ці не зусім уваходзіць) у сістэму мастацкіх каштоўнасцяў спадара Дубянецкага. Нездарма “родапачынальнікам айчыннай мастацкай безгустоўнасці” (ні больш, ні менш!) ён зрабіў паэта-авангардыста Шукайлу, а не, скажам, каго-небудзь з паэтаў-нашаніўцаў. Яшчэ б: яны для Э. Дубянецкага, напэўна, увасабляюць найлепшае ў літаратурнай традыцыі. А між тым нашаніўцаў абвінавачваў у безгустоўнасці Вацлаў Ластоўскі яшчэ ў 1913 г. – за добры дзясятак гадоў да з’яўлення ў літаратуры Паўлюка Шукайлы. Вось што ён пісаў: *“Спомніліся мне вершы нашых беларускіх паэтаў, каторыя заместа ўслаўляць нашу, папраўдзе бязмерна харошую прыроду, абесслаўлялі яе”*. Прыводзіў аўтар і прыклады такога мастацкага абясслаўлення, якое разумеў відавочна як штосьці неадпаведнае “добраму густу”:

«Куры, свінні, гною кучы
Напаўняюць кожны кут.
Вокны затканы анучай,
Так і кажуць: “Ўсюды бруд”».

“Край наш бедны, край наш родны,
Гразь, балота ды пясок!”

“Невясёлая старонка
Наша Беларусь,
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі: дрозд ды гусь...”

“Край ты мой родны,
як выкляты Богам” [13].

Ластоўскі не згадвае прозвішчаў аўтараў, але назваць іх не праблема. Толькі адзін (першы) з працытаваных вершаў належыць забытаму, “кануламу ў Лету” паэту-пачаткоўцу Я. Мурашку. Астатнія аўтары – асобы вядомыя і прызнаныя: Якуб Колас, Янка Купала і Максім Багдановіч. (Ну як вам такая кампанія “родапачынальнікаў безгустоўшчыны”?) Артыкул В. Ластоўскага, аднак, скіраваны не на тое, каб адмежаваць, адсячы, скасаваць, сапхнуць у Лету нейкую частку літаратурных набыткаў, а на тое, каб пашырыць яе ідэйны, тэматычны, вобразны і фармальны дыяпазон. Гэтай публікацыяй у 1913 годзе Вацлаў Ластоўскі распачаў на старонках “Нашай Нівы” вядомую літаратурную дыскусію, у якой узняў пытанні, што, па сутнасці, часткова судакранаюцца і з сённяшнімі пытаннямі Эдуарда Дубянецкага. У цэнтры ўвагі В. Ластоўскага – праблема абнаўлення літаратуры, вымярэння творчасці беларускіх паэтаў “меркай еўрапейскай”, адлюстравання імі “красы свайго народа і краю”. І ў эстэтычным светапоглядзе В. Ластоўскага гэта арганічна суіснавала з яго вядомым творчым credo:

Формаў трупехлых я вораг дасконны,
сцежак стаптаных не зношу ў тварэнні;
новым імкненням даць новыя формы,
новыя словы і дум выражэння
стаўлю я мэтай [14].

Займаючы пазіцыю змагара з “трупехлымі формамі” (прыкладна як і П. Шукайла, толькі больш вытанчанага), В. Ластоўскі глыбока ўсведамляў аб’ектыўныя патрэбы культурнага развіцця свайго народу, і адна з іх – гэта патрэба літаратурна-мастацкага плюралізму.

Пазней, пасля змены эстэтычнай парадыгмы, гэтая самая праблема выспела і ў шэрагах “Маладняка”. З’яўленне ў «найбольш зацятых і рашучых “маладнякоўцаў”»

шматлікіх “узораў безгустоўшчыны і пафаснага прымітывізму” Эдуард Дубянецкі звязвае з «жаданнем членаў гэтай арганізацыі “ідэі матэрыялізму, марксізма і ленінізма ажыццявіць у беларускай мастацкай творчасці” (паводле іх уласнай творчай дэкларацыі)». Можна доўга разважаць пра тое, наколькі жаданні саміх маладнякоўцаў супадалі з жаданнямі камуністычнай партыі, ад якой іх арганізацыя мусіла моцна залежаць. Зазначым толькі, што светапогляд “500 з лішкам” чалавек (а менавіта столькі было ў “Маладняку” ўвосень 1925 г.) даволі няпроста падагнаць пад нейкі адзіны шаблон. Шырока разгарнуўшы сваю дзейнасць у рэспубліцы і нават за яе межамі, “Маладняк” прэтэндаваў на ролю гегемона-манапаліста беларускай літаратуры, і нядзіва, што ў яго колах выспявалі іншадумныя настроі, якія неаднойчы прыводзілі да расколу арганізацыі, выхаду з яе членаў і стварэння імі новых творчых суполак – больш эстэтычна акрэсленых, чым “Маладняк”. Гэтыя іншадумцы, кажучы словамі самога Э. Дубянецкага, і былі “найбольш зацятымі і рашучымі” ў выяўленні сваіх мастацкіх пазіцый, якія акрэсліліся яшчэ ў часы сяброўства ў “Маладняку”, а потым прывялі да стварэння, з аднаго боку, “Узвышша”, а з другога – “Беларускай Літаратурна-Мастацкай Камуны” пад кіраўніцтвам гэтак неўпадабанага Э. Дубянецкім Паўлюка Шукайлы. І ўзвышэнцы, і літкамунаўцы (так-так, менавіта ў спалучэнні разам!) сваім выхадам з “Маладняка” і стварэннем сваіх суполак ізноў паднялі на паверхню праблему плюралістычнасці ў беларускай літаратуры. Бо гэта быў не проста выхад часткі сяброў з буйной літаратурнай арганізацыі – гэта быў выхад за межы літаратурнага мэйнстрыму ў два розныя бакі: узвышэнцы сваёй практыкай давялі, што эстэтычны крытэр стаіць па-за ідэалагічным і значна вышэй, а літкамунаўцы – што нават не адхіляючыся ад “ідэй матэрыялізму, марксізму і ленінізму” можна пісаць інакш – звяртаючыся да творчых эксперыментаў, разлічваючы на сцэнічнае выкананне і г. д.

Шчырае жаданне сп. Дубянецкага неяк абгрунтаваць вызначальную ролю П. Шукайлы ў зараджэнні і развіцці айчыннай безгустоўнасці – і тым самым прынізіць, дыскрэдытаваць яго ў вачах чытачоў – нельга лічыць удалым. Эдуард Дубянецкі цытуе верш “Ветру” (1927), знойдзены, напэўна, у анталогіі “Расстраляная літаратура” (2009): “...Не сябра мне ты па маштабу, дунеш – і Еўропа слухае. Я ж у балоце, як жаба, – квакаю для вёскі віславухае”. Я б, напрыклад, і не зразумеў бы, што ж безгустоўнага ў гэтых радках, калі б аўтар не раскрыў вышэй катэгорыю “брыдкага”, у якую, паводле яго класіфікацыі, уваходзяць, аказваецца, і такія нявінныя прыродныя стварэнні, як пацукі, жукі, тараканы і жабы (ледзьве не ў адным шэрагу з матам, алкашамі і прастытуткамі!). Прычым, калі ўдумацца, параўнанне сябе з жабай у дадзеным выпадку – яўна не на карысць аўтарскай самаўпэўненасці і самаўзвялічвання Шукайлы, а якраз наадварот. І чым гэтыя радкі горшыя, напрыклад, за такія: “О, не! Па вёсках вунь лахудрых / Аўсы камуне б’юць паклоны. / Дык, песня, раскудлач жа кудры / Ў вясковым аблавухім клёне” [15]? Ды нічым: яны належаць фактычна да той самай вобразна-стылістычнай парадыгмы. Аднак іх аўтара – Язэпа Пушчу – аўтар адназначна залічвае да класікаў, а вось яго сучасніку не пашанцавала.

За што яшчэ так неўпадабаў Эдуард Дубянецкі Паўлюка Шукайлу? Ага, за тое, што апошні абвяшчаў ломку “ўсіх старых літаратурных традыцый і канонаў”, стварэнне “літаратуры новай рэвалюцыйнай фармацыі”. А цяпер паглядзім, як гэта стасуецца з агульнымі тэндэнцыямі ў беларускай літаратуры 1920-х гг. – хоць бы нават з творчасцю тых, каго аўтар эсэ вылучае як “нашых найвялікшых Творцаў-пачынальнікаў” і, адпаведна, згадвае як прыклады “вытанчанага мастацкага густу”. Гэта, паводле Э. Дубянецкага, – “Багдановіч, Купала, Колас, Жылка, Дубоўка, Пушча, Гарэцкі і інш”. У наш час яны і сапраўды ўспрымаюцца як адзін хрэстаматыйны шэраг класікаў, а між тым перад намі – прадстаўнікі двух розных літаратурных генерацый: умоўна кажучы, нашаніўскай (Купала, Колас,

Багдановіч, Гарэцкі) з аднаго боку і маладнякоўска-ўзвышэнскай (Жылка, Дубоўка, Пушча) з другога. Апошнія належалі да аднаго пакалення з Шукайлам і, трэба сказаць, не нашмат адставалі ад яго ў радыкальным выяўленні сваёй эстэтычнай пазіцыі. Язэп Пушча, напрыклад, у працы "Вобраз у беларускай паэзіі" (1924) – праграмным артыкуле беларускага імажынізму – пісаў: *«Вобразнасць спатыкаем мы і ў старэйшых нашых паэтаў, як у Якуба Коласа, Янкі Купалы і іншых, але неабходна падкрэсліць, што вобразы ў іх паэзіі выглядаюць нясмела, баючыся, і займаюць другазначнае месца, а з гэтае прычыны значнага этапу ў гэтым кірунку яны не далі. Але вось з рэвалюцыйным навевам шумна забуяніла на ніве беларускай паэзіі аб'яднанне паэтаў "Маладняк" зялёным верхалісцем сваіх вобразаў»* [16]. Калі ў друку Я. Пушча даводзіў свае эстэтычныя перакананні яшчэ тактоўна і інтэлігентна, то на вусных выступленнях выказваўся больш разняволена: так, на вечарыне, што праходзіла пад дэвізам "У рожкі са старымі", ён *«тлумачыў, як трэба разумець вобраз у мастацкай творчасці і, між іншым, зазначыў, што нашы старыя паэты, як Я. Купала і Я. Колас і інш., яшчэ толькі "гутаюцца ў калысках", што "балота іхняе творчасці зацягнулася цінаю", а "Маладняк" дае "новае" і "вечнае"»* [17]. Прапагандуючы "густую", ускладненую вобразнасць, паэт абраў сабе нават адпаведны псеўданім: ён, бачыце, не нейкі там адзінокі, кволы Колас, ён – цэлая магутная Пушча! Сучаснікі пісалі пра яго: «Паэта, які **ва ўмовах Беларусі** першым сваім зборнікам "Раніца рыкае" ўдарыў па літаратурных машчох, гвіздануў па заскарузлых трантах фармальнай стар'ёўшчыны» [18].

А вось як выказваўся пра сяго-таго з сваіх літаратурных папярэднікаў Уладзімір Дубоўка: *«адзін паэта, які прэтэндуе на нейкае незвычайнае значэнне ў Беларусі, напісаўшы тысячы радкоў, звязаных прымітыўнымі дзіцячымі дзеяслоўнымі рыфмамі, стаў вольна ці нявольна на чале гэтых* ***сыкуноў*** *(*працаўнікаў маладнякоўскай эстэтыкі – *В. Ж.)... Смехам і жартамі праводзяць цяпер гэткіх "дзеячоў"»* [19]. У творчых адносінах Дубоўка быў вельмі патрабавальны і да сябе, і да іншых. Ён заклікаў маладнякоўцаў: *"Наша задача працаваць над сабою, працаваць..."*. Аднак – дзеля чаго? *"...Каб запраўды замяніць старую літаратуру новаю"* [20]. Вось якое неадназначнае жаданне падштурхоўвала У. Дубоўку да ўдасканалення сваёй творчасці!

У пэўным сэнсе з ім быў салідарны і Уладзімір Жылка. *"Мкнем напярэсціг, навысціг удалей, / Вечнасці наперарэз... / У далі ўсё далей і далей для далей / Рушыць і крышыць экспрэс"* [21], – напісаў ён у вершы "Экспрэс", прысвечаным "Маладняку".

Скідваць нашаніўцаў з "парахода сучаснасці", хай сабе нават ўмоўна, было справай нялёгкай і патрабавала пэўнай смеласці. Нашаніўцы былі на той час збольшага яшчэ жывыя і паводле ўзросту зусім не старыя, пры выпадку маглі і адказаць узаемнасцю. Як, скажам, Якуб Колас у фельетоне "Трыумф" ці алегарычнай навеле "Купальскія светлякі" з цыклу "Казкі жыцця".

Але пэўнае эстэтычнае супрацьстаянне зусім не азначала нейкую канфрантацыю паміж творцамі ў рэальным жыцці – найчасцей адносіны паміж імі захоўваліся прыязныя і вызначаліся ўзаемапавагай. Язэп Пушча пісаў, узгадваючы Якуба Коласа: *«Калі мы у дарогу выйшлі, / Схіляліся пад цветам яблыні і вішні, / Была вясна, / Агонь паэзіі не гас. / Паэт да нас / Заходзіў на "Узвышша" / Саграэцца, / І нас саграэць сваёю ласкай. / Я помню вечар урачысты майскі: / Ад глыбіні душы і сэрца / Мы паднімалі поўны кубак / За свой народ савецкі, за вясну / І за здароўе / Роднага Якуба»* [22]. Калі ўважліва пачытаем успаміны сучаснікаў пра Паўлюка Шукайлу, то заўважым, што і ён далёка не заўсёды выяўляў сябе нігілістам у дачыненні да літаратурных папярэднікаў. *"Памятаю, пасля нейкага спектакля група беларускіх пісьменнікаў вячэрала ў адным з менскіх рэстаранаў. За сталом сядзелі Купала, Колас, Гартны, Чарот, Шукайла і яшчэ нехта. Настрой быў вясёлы.*

*Жартавалі.*

*– Ну як, Паўлюк, твая справа з футурызмам? Пішаш? – падсмейваўся нехта з Шукайлы. А той жартам:*

*– Гэта справа будучыні. Я цяпер пішу артыкул супраць старога рыззя ў паэзіі.*

*Якуб Колас злёгку ўсміхнуўся і сказаў:*

*– Паўлюк мае на ўвазе мяне з Янкам.*

*А Шукайла грымеў гучным голасам:*

*– Сучаснасць выкіне старое на сметнік.*

*Можна было б падумаць, што ён сапраўды не цаніў класікаў. А колькі разоў мне даводзілася слухаць, як Шукайла з асаблівым захапленнем, артыстычна чытаў вершы Купалы і Коласа!*

*Аднойчы ён шчыра сказаў свайму прыяцелю:*

*– Якуб Колас – народны паэт. Гэты гонар куды большы, чымся насіць імя пралетарскага паэта. Міхасі і Цішкі пойдуць у нябыт, а Колас застанецца вечным"* [23].

Увогуле, падобнае амбівалентнае стаўленне да класікаў было ўласцівае і авангардыстам іншых краін першай трэці XX ст., што ў дачыненні да рускай літаратуры прасачыў у сваім артыкуле прафесар Юрый Арліцкі. Так, нягледзячы на заклікі "кінуць Пушкіна, Дастаеўскага, Талстога і інш. і інш. з Парахода Сучаснасці" і "антыпушкінскую скіраванасць футурыстычнай рэвалюцыі", прадстаўнікі футурызму – кожны па-свойму – выказвалі да асобы А. Пушкіна павагу альбо зацікаўленасць: В. Хлебнікаў неаднойчы называў Пушкіна ў сваіх спісах вялікіх людзей, І. Севяранін у кнізе "Медальёны" напісаў пра яго "Поэт, действительный в любые времена", А. Кручоных адну са сваіх кніг назваў "500 новых острот и каламбуров Пушкина" (1924), В. Каменскі прызнаваўся, што "ўпіваўся кнігамі, завучваў на памяць Пушкіна, Лермантава, Някрасава", "мы не меней за іншых ведалі каштоўнасць і Рафаэля, і Пушкіна" і г. д. [24].

Як можна пераканацца хоць бы нават з прыведзеных прыкладаў, аспрэчванне пэўных тэндэнцый у творчасці папярэднікаў – бадай адна з натуральных патрэбаў, якая перыядычна ўзнікае на шляху развіцця літаратурнага працэсу як аб'ектыўная неабходнасць, а для авангарднай паэтыкі яна з'яўляецца неад'емнай асаблівасцю. І тое, што Шукайла "ламаў старыя літаратурныя традыцыі і каноны" – гэта была тыповая рыса агульнай эстэтыкі маладнякоўцаў. Змена літаратурных пакаленняў і – у шырэйшым сэнсе – эстэтычнай парадыгмы рэдка калі праходзіць спакойна, "бязбольна", амаль заўсёды – з дыскусіямі, спрэчкамі, супрацьстаяннем, адмаўленнем, якое часта мела характар чыста сімвалічны: "старым традыцыям", нягледзячы на тое, што Шукайла заклікаў іх ламаць, ад гэтага горш усё адно не стала, як нічога не зрабілася Пушкіну, Талстому, Дастаеўскага ад "скідвання" іх з "парахода сучаснасці". Дык ці варта так баяцца – тым болей, сёння – авангардысцкіх дэкларацый першай трэці XX ст., ставіцца да іх як да чагосьці непрымальнага, злачыннага ў дачыненні да прыгожага пісьменства?

Праблема ж Паўлюка Шукайлы – не ў антыэстэтызме і эпатажнасці некаторых яго вершаў, і не ў тым, што сваімі "жабамі" і "віславухімі вёскамі" ён мог абразіць чыйсці вытанчана-цнатлівы густ. І не ў тым, што аспрэчваў мастацкія вартасці твораў папярэднікаў. А ў тым, што ён не здолеў выбудаваць цэльную эстэтычную сістэму. Бо побач з вершамі, дзе ўсё ж ёсць пэўныя знаходкі (ці спробы знаходак), дзе пазнаецца Шукайла, сустракаюцца і, напрыклад, такія: *"Даволі стагнаньня, / Даволі няволі, / Пара да змаганьня, / Да лепшае долі! / На пана працуем – / Крывавая праца. / Нам турмы будуюць, / Сабе – палацы"* [25]. Верш напоўнены голымі заклікамі, вобразна-выяўленчыя сродкі бедныя, індывідуальны стыль тут не пазнаецца.

Аднак сама па сабе футурыстычная заяўка паэта з'яўляецца прыкметным пунктам (пунктам, але, на жаль, не адрэзкам) шляху развіцця беларускай літаратуры. Па-першае, без творчай практыкі Паўлюка Шукайлы закон эстэтычнага плюралізму быў бы парушаны. Па-другое, паэт прымусіў літаратурную грамадскасць загаварыць пра беларускі футурызм, прычым прыклад Шукайлы апынаецца карысным у кантэксце сучаснага культурнага дыялогу. Я, напрыклад, схіляюся да думкі, што кожная літаратура развіваецца сваім асаблівым, індывідуальным шляхам, але пры гэтым ёсць і штосьці агульнае, нейкі культурны код, што збліжае, яднае паміж сабой літаратуры розных краін. Футурызм з'яўляецца агульнапрызнаным кірункам еўрапейскага авангарднага мастацтва, і таму не выклікае здзіўлення, калі падчас літаратурных сустрэч замежныя калегі пытаюцца, ці быў на Беларусі сюррэалізм?.. дадаізм?.. футурызм?.. Тут можна было б адмоўна захітаць галавой, развесці рукамі альбо проста сказаць, маўляў, нашую культуру гэта не зачапіла. Але, быццам выратавальная саломінка, на памяць прыходзіць Паўлюк Шукайла. Нехта ўзбагачае літаратуру шматтамовікамі класічных твораў, а нехта ставіць у ёй толькі адну кропку. Але яна апынаецца кропкай судакранання з іншымі літаратурамі ці нават (даруйце за містычную асацыяцыю) з паралельнымі сусветамі.

Цяпер жа хацелася б закрануць бадай самы сумнеўны і неадназначны аспект эсэ. "Пані Гісторыя ўсё даволі хутка расставіла на свае месцы, і ў выніку абсалютная большасць твораў такіх, так бы мовіць, "кручонаўцаў" і "шукайлаўцаў" заслужана канула ці абавязкова кане ў Лету...". Увесь драматызм сітуацыі ў тым, што нашую літаратуру заўсёды імкнуўся кантраляваць нехта зверху, яна часта рабілася закладніцай палітычных абставінаў, таму звычайна Пані Гісторыя ўсё расстаўляла на месцы гвалтоўнымі метадамі. Такая вось суворая кабета ў скураной куртцы і з рэвальверам. То прымушала паэтаў скіроўваць творчую энергію на стварэнне палітычных агітак (кажучы словамі самога ж Эдуарда Дубянецкага, на "прымітыўнае апяванне, бяздумную апалогію сацыялістычнага ладу"), а то і фізічна вынішчала. Хіба ж Эдуард Дубянецкі, гісторык па адукацыі, не ведае гэтага? Ведае і разумее! У адным з мінулых артыкулаў ён дакладна вызначыў сутнасць таго, што адбывалася: "Але, на вялікі жаль, творчыя пошукі асобных з вышэйназваных надзвычай і іншых адораных беларускіх паэтаў былі гвалтоўна спынены ў выніку масавых бальшавіцкіх рэпрэсіяў і ўзмацненьня цэнзуры. І можна толькі здагадвацца, якога ўзроўню магла б дасягнуць беларуская літаратура ў XX ст., калі б не было тых нечуваных рэпрэсіяў і існавала сапраўдная свабода творчага самавыяўленьня" [26]. А вось у цяперашнім эсэ пра мастацкі густ аўтар чамусьці старанна абыходзіць тэму рэпрэсій. Так, напрыклад, ён піша пра класікаў беларускай літаратуры, якія "...**менавіта ў тыя ж першыя дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя** стварылі такія несумненныя шэдэўры, мастацкі ўзровень якіх застаўся недасягальным амаль для ўсіх творцаў наступных пакаленняў". Што ж такое здарылася пазней, пасля чаго літаратура "пагоршала", эсэіст чамусьці не дагаворвае. Пішучы пра "феномен своеасаблівага здрабнення творцаў", аўтар не кажа, што ў беларускай сітуацыі гэтае здрабненне было перадусім **колькасным**: пад нож сталінскай машыны патрапілі як прызнаныя таленты, так і не выяўленыя ў літаратуры пачаткоўцы. І нават з сямі згаданых Э. Дубянецкім "нашых найвялікшых Творцаў-пачынальнікаў" чацвёра сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій і былі альбо фізічна знішчаны (як расстраляны М. Гарэцкі і памерлы ў высылцы У. Жылка), альбо доўгія дзесяцігоддзі не мелі магчымасці займацца творчай дзейнасцю (як У. Дубоўка і Я. Пушча). І "ў Лету" паэты траплялі таксама пераважна не "натуральным шляхам", а таму што пра іх **загадвалі** маўчаць. Рэпрэсіі супраць творцаў 1-й паловы XX ст. адбіліся і на мастацкім узроўні наступных пакаленняў пісьменнікаў, бо знішчаны (або схаваны, "зацэментаваны") быў культурны грунт, на якім іх таленты маглі б узгадавацца.

Пра некаторых загадваюць маўчаць і дагэтуль. Дастаткова прыгадаць параною, што ахапіла 6-7 гадоў таму многія дзяржаўныя выданні, – не згадваць у друку пэўных пісьменнікаў, якія дзесьці ў чымсьці выявілі нелаяльнасць да цяперашняй улады. Да таго ж, сёння ў Беларусі практычна немагчыма абараніць дысертацыю па творчасці пісьменнікаў-эмігрантаў; альбо не пажадана, каб у яе назве фігуравала, напрыклад, слова "авангардызм" – г. зн. пад замоўчванне падпадае цэлая культурная тэндэнцыя. Калі кажу пра гэта замежным калегам, тыя не вераць, робяць вялікія вочы: "Няўжо ў вас там у Беларусі сапраўды такое магчыма?" Так, на жаль, магчыма. І яшчэ не такое. "Гарачая ці халодная вайна", пра якую піша Эдуард Дубянецкі, працягваецца.

Аўтар эсэ верыць, што «калісьці гэты адмысловы "мастацкі маятнік" пачне ўрэшце рухацца ў супрацьлеглы бок». Хацелася б таксама спадзявацца, што гэта адбудзецца не пад стваламі рэвальвераў, а сваім натуральным шляхам.

Спасылкі:

1. Пушча, Я. Збор твораў. У 2 т. / Прадм. Л. Мазанік. – Мінск: Маст. літ., 1993. – Т. 1. Вершы, паэмы, артыкулы. 1922 – 1930. С. 43.
2. Дубоўка У. О Беларусь, мая шыпшына... : Выбранае / Уклад. Дз. М. Давідоўскага, З. К. Пазняк. – Мінск: Маст. літ., 2002. С. 34.
3. Уайльд О. Портрет Дориана Грея. - Минск: Выш. шк., 1984. С. 5.
4. Набоков В. В. Эссе и стихи из журнала "Карусель" [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.modernlib.ru/books/nabokov_vladimir_vladimirovich/esse_i_stihi_iz_zhurnala_karusel/read_1/ . Дата доступу: 28.05.2013.
5. Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. Мінск: Навука і тэхніка, 1992. С. 126.
6. Крылова Н. Очерк теории и литературной практики русского авангарда: Учебное пособие. Петрозаводск, 2002. С. 34.
7. Эпштейн М. Искусство авангарда и религиозное сознание // Новый мир. 1989. № 12. С. 223.
8. Красицкий С. О Крученых // Крученых А. Стихотворения, поэмы, романы, опера. СПб: Академический проект, 2001. С. 7.
9. Чуковский К. Лица и маски. СПб.: Шиповник, 1914. С. 128.
10. Бурлюк Д., Бурлюк Н. Стихотворения. СПб.: Академический проект, 2002. С. 170.
11. Жылка У. Выбраныя творы. Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. С. 89.
12. Танк М. Лісткі календара. Мінск: Беларусь, 1970. С. 21.
13. Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск: Бел. кнігазбор, 1997. – С. 273.
14. Тамсама. С. 209.
15. Пушча Я. Збор твораў: У 2 т. Т. 1. – С. 37.
16. Тамсама. С. 263.
17. Тамсама. С. 364.
18. Шукайла П. Літаратурнае сёньня // Росквіт. 1928. № 2. С. 50 – 51.
19. Гайдукевіч [Дубоўка] У. "Раніца рыкае": Агляд вершаў Я. Пушчы, а таксама адказ на некаторыя соймаванкі // Маладняк. 1925. № 8. С. 15 – 16.
20. Бюлетэнь Пленуму Цэнтральнага Бюро ўсебеларускага аб'яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў "Маладняк". 21-23 сакавіка 1925 г. Менск: Выд. ЦБ "Маладняка", 1925. С. 18.
21. Жылка У. Выбраныя творы. Мінск: Бел. кнігазбор, 1998. С. 74.
22. Пушча Я. Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Вершы. Паэмы. Пераклады. Крытычныя артыкулы. 1930 – 1963. – Мінск: Маст. літ., 1994. С. 73.
23. Крушына Р. Выбраныя творы. Мінск: Бел. кнігазбор, 2005. С. 278 – 279.
24. Гл.: Орлицкий Ю. Пушкин с нами? // Новое литературное обозрение. 1999. № 36. С. 235 – 261.
25. Шукайла П. Братам-беларусам: [Верш] // Малады араты. 1925. № 5. С. 4.
26. Дубянецкі Э. Бляск і ўбогасьць беларускага літаратурнага мадэрнізму // Дзеяслоў. 2009. № 6 (43). С. 304.

Ева Лявонава



…неўсвядомлены, спантанны ўчынак
абяртаецца для яго самога знішчальнай,
невыноснай душэўнай мукай, бясконцай жудой,
няспынным болем і маркотай,
па сутнасці – вар'яцтвам…

# "А душа падумала і здрыганулася…"

## *Творчасць Максіма Гарэцкага ў святле еўрапейскага літаратурнага досведу (на прыкладзе апавядання "Рускі")*

На мяжы XX-XXI стагоддзяў нашай навукай многае зроблена па вывучэнні творчасці Максіма Гарэцкага, у тым ліку з прыцягненнем айчыннага, еўрапейскага і сусветнага літаратурнага кантэксту. Пра ўвагу М. Гарэцкага да сусветнай літаратуры, перадусім рускай, і сусветнае значэнне яго ўласных твораў пісалі практычна ўсе гарэцказнаўцы. Тым не менш, для кампаратывісцкіх росшукаў, асабліва ў святле эстэтычнага вопыту заходнееўрапейскіх мастакоў слова, літаратурная спадчына беларускага класіка па-ранейшаму ўяўляе сабой неабсяжную і надзвычай удзячную глебу, што і хацелася б паказаць на прыкладзе маленькага па аб'ёме – але не па значэнні – апавядання "Рускі".

Апавяданне "Рускі" датуецца, паводле аўтарскага запісу, 1915-м годам; упершыню апублікаванае ў № 1 часопіса "Полымя" за 1925 г., яно, як мяркуюць даследчыкі, па першапачатковай задуме павінна было ўвайсці ў мастацка-дакументальную кнігу "На імперыялістычнай вайне" (1926), аднак засталося самастой-

ным творам. У свой час апавяданне, як вядома, уключалася ў школьныя хрэстаматыі. Ад апублікавання і да сёння (за выняткам, зразумела, перыяду маўчання вакол творчасці М. Гарэцкага) яно неаднойчы – у той ці іншай ступені – прыцягвала ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў. У прыватнасці, Антон Адамовіч разглядаў яго ў сваім манаграфічным даследаванні творчасці М. Гарэцкага, апублікаваным у 1928 г. Некалькімі дзесяцігоддзямі пазней М. Кенька скажа пра апавяданне “Рускі” як пра адно з “вышэйшых дасягненняў” беларускага празаіка – нароўні з такімі яго творамі, як “Літоўскі хутарок”, “Генерал”, “На этапе” і іншыя; у іх, па словах літаратуразнаўцы, “аўтар выступае як гуманіст, ён пратэстуе супраць ператварэння вайны ў гульню лёсамі мільёнаў простых людзей, якія не маюць адзін да аднаго ніякай варожасці” [8, с. 402]. Высокія ацэнкі апавядання “Рускі” сустракаюцца, па сутнасці, ва ўсіх прысвечаных М. Гарэцкаму працах (варта заўважыць, аднак, што сама па сабе тая ці іншая ацэнка любога твора яшчэ не ёсць яго аналізам і далёка не заўсёды ім суправаджаецца).

Асаблівай увагі заслугоўваюць роздумы Алеся Адамовіча над гэтым апавяданнем; вучоны пераканаўча даводзіў, што “Рускі”, гэтаксама як і кніга “На імперыялістычнай вайне”, апавяданні “Літоўскі хутарок”, “Генерал”, “Хадзяка” і іншыя, патрабуюць не толькі і нават не столькі сучаснага **ім** кантэксту, колькі сучаснага **нам**, што названыя творы асацыятыўна сягаюць у “сённяшнюю сістэму імёнаў, твораў, літаратурных пошукаў і стыляў – Васіль Быкаў, Янка Брыль, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў (ды і ўся сучасная літаратура аб вайне)” [2, с. 8]. Зыходзячы яшчэ і з таго, што цалкам антрапацэнтрычная проза М. Гарэцкага, прысвечаная падзеям Першай сусветнай вайны і яе трагічным наступствам для чалавека, ёсць свайго роду мастацкім папярэджаннем, мастацкай перасцярогай нашчадкам, не прыслухацца да слоў А. Адамовіча было б недаравальна. Неабходна дадаць: гэтая “сённяшняя сістэма імёнаў, твораў, літаратурных пошукаў і стыляў” мусіць быць разгорнутай да эстэтычных пошукаў не толькі сучасных беларускіх пісьменнікаў, але і замежных майстроў XX ст.

Зрэшты, апавяданне “Рускі” неаднойчы і цалкам абгрунтавана ставілася крытыкамі і літаратуразнаўцамі побач з сусветна вядомымі творамі замежных аўтараў аб Першай сусветнай вайне – А. Барбюса, Э. Хэмінгуэя, Э.М. Рэмарка, Л. Франка і іншых (праўда, часта пры гэтым аказвалася як бы ў ценю кнігі “На імперыялістычнай вайне”). Ёсць усе падставы для высвятлення агульнага, універсальнага і асаблівага, самабытнага ў апавяданні М. Гарэцкага і творах іншых, больш аддаленых па часе, слынных пісьменнікаў свету, што звярталіся да тэмы вайны. Зразумела, творы тыя былі выкліканы да жыцця рознымі войнамі, але ж, з іншага боку, Васіль Быкаў недарэмна сцвяржаў у сваёй кнізе мемуараў “Доўгая дарога дадому” (2002): “Ваенная сутнасьць наогул наўрад ці мяняецца праз стагоддзі... Мінае час, і ўсе зліваюцца ў адно ёмістае і ненавіснае людзям азначэньне – вайна” [6, с. 278]. Выдатна гэта ўсведамляў яшчэ Э. Хэмінгуэй, пачаўшы ў разгар Другой сусветнай, праз два гады пасля апублікавання свайго рамана пра іспанскую трагедыю “Па кім звоніць звон” (1940), працу над анталогіяй “Людзі на вайне”, у якую, поруч з фрагментамі з Бібліі, з твораў Віктора Гюго, Стэндаля, Гі дэ Мапасана, Рэдзьярда Кіплінга, з рамана “Вайна і мір” Льва Талстога, уключыў і ўрыўкі з напісанага яго сучаснікамі – Уільямам Фолкнерам, Рычардам Олдынгтанам, са свайго рамана аб “страчаным пакаленні” “Бывай, зброя!”, знаходзячы ва ўсіх гэтых кнігах шмат сугучнага.

Яшчэ раней літаральна аб тым жа самым марыў, відавочна, і М. Гарэцкі, калі пісаў у сваёй агляднай працы “Беларуская літаратура пасля «Нашае Нівы»”: “Дагэтуль не даследавана пытанне, як беларускія паэты і пісьменнікі прынялі імперыялістычную вайну. А ў сувязі з гэтым пытаннем цікава было б прасачыць у сусветнай гісторыі літаратуры, як, наогул, уплывае на літаратурную творчасць

вайна, рэвалюцыя і ўсякая вялікая катастрофа ў жыцці людзей. Каб толькі збольшага ўзяць усе лепш вядомыя прыклады ад Дантэ і да нашых дзён, дык можна сказаць, што творчасць пісьменніка ў часе катастрофы залежыць ад таго, як яго індывідуальнасць успрымае катастрофу, і ад таго, у якой меры катастрофа зачапіла яго асабістае, класавае і нацыянальнае жыццё" [17, с. 193].

Аднак гэтым разам мы, "застаючыся" ў пачатку XX стагоддзя, спынімся на аналогіі, бадай, самай нечаканай – з навелай "Ператварэнне" ("Die Verwandlung", 1912) Франца Кафкі. Дзесяццю гадамі старэйшы за беларускага творцу (3 ліпеня гэтага года сусветная культурная грамадскасць якраз адзначала 130-годдзе з дня нараджэння славутага аўстрыйскага мастака слова), ён пятнаццацю гадамі раней за яго і памёр – у 1924-м ад сухотаў. Па сімвалічным супадзенні, ён апублікаваў сваю навелу менавіта ў год напісання М. Гарэцкім апавядання "Рускі" – у 1915-м.

У аснову сваёй навелы Ф. Кафка паклаў сюжэт з ператварэннем чалавека ў "пачварную жамяру". Сама па сабе такая метамарфоза не была яго вынаходніцтвам; у міфах і казках розных народаў дастаткова шырока распаўсюджаны ініцыяльныя формулы, якімі распачынаюцца аповеды пра сівую даўніну: "гэта было тады, калі людзі яшчэ былі жывёламі" або: "гэта было тады, калі жывёлы яшчэ былі людзьмі" [18, с. 91]. Вядомы расійскі даследчык фальклору і міфаў Е. Меляцінскі пісаў пра міфалагічных "татэмных продкаў" – "прабацькоў або стваральнікаў адначасова і пэўнай пароды жывёл (радзей раслін), і чалавечай групы, якая разглядае гэтую пароду жывёл як свой татэм", інačай кажучы – як "сваю радзіну". Е. Меляцінскі заўважае, што гэтыя людзі "ў выпадку неабходнасці лёгка ператвараюцца ў адпаведны від жывёліны" [18, с. 65]. Паводле росшукаў вучонага, у фальклоры карэннага насельніцтва Афрыкі і Амерыкі матывам ператварэння часта суправаджаюцца прыгоды трыкстараў (міфалагічных махляроў; руск. – плутов). Магчымасць ператварацца была ўласцівая і насельнікам Алімпа.

Праўда, метамарфоза героя Ф. Кафкі, камівояжора Рыгора Замзы, у вялізнае насякомае вельмі адрозная ад вышэйзгаданых ператварэнняў – яна нечаканая, фатальная, цягне за сабой незваротныя драматычныя наступствы для персанажа і завяршаецца яго смерцю. Па сутнасці, чытач тут мае справу з аўтарскім міфатварэннем, з сюжэтам, з'яўленне якога было абумоўлена цэлым шэрагам прычын: і непаразуменнямі самога Кафкі з сям'ёй, найперш з бацькам, і ўласнай фізічнай немаччу, і няўпэўненасцю ў сваіх пісьменніцкіх здольнасцях, і панавалай у Аўстра-Венгрыі атмасферай суцэльнага адчужэння напярэдадні Першай сусветнай вайны, настроямі адзіноты і бездапаможнасці перад блізкай і непазбежнай катастрофай. Апошняя акалічнасць, пры ўсёй паглыбленасці Ф. Кафкі ва ўнутраныя праблемы, мела для яго выключна важнае значэнне. Не будучы палітычна ангажаванай асобай, ён, аднак, разумеў: "Кожнае сапраўднае мастацтва – дакумент, сведчанне" [13, с. 560]. Ф. Кафка сачыў за падзеямі ў Еўропе, блізка да сэрца прымаў сучасныя яму сацыяльна-гістарычныя катаклізмы. "Вайна, рэвалюцыя ў Расіі і беды ўсяго свету ўяўляюцца мне разводдзем зла. Гэта паводка. Вайна адчыніла шлюзы хаосу" [13, с. 562], – гаварыў ён чэшскаму музыканту і літаратару Густаву Яноўху. У час вайны, паводле яго слоў, "усё духоўнае заглушаецца і душыцца фізічным, жывёльным" [13, с. 563]. У сувязі з вядомай кнігай нямецкага празаіка Леангарда Франка "Чалавек добры!" пра Першую сусветную Ф. Кафка заўважыў: "У большасці сваёй людзі зусім не злыя. Людзі паводзяць сябе кепска і наклікаюць на сябе віну таму, што гавораць і дзейнічаюць, не ўяўляючы сабе наступстваў сваіх слоў і ўчынкаў. Яны лунатыкі, а не злодзеі" [13, с. 559]. Сам пісьменнік, які востра адчуваў уласную несумяшчальнасць з варожым, агрэсіўным светам, адрэагаваў на вайну навелай "У калоніі для зняволеных" (1914, апубл. 1919).

Вышэйпрыведзеныя выказванні Ф. Кафкі вельмі істотныя, бо дадаюць падставаў успрымаць сюжэт таго ж "Ператварэння" не толькі як своеасаблівы

аўтакаментарый, але і як парадыгму чалавечага існавання ў памежных, смяротна небяспечных абставінах, а значыць, тым больш дазваляюць разглядаць навелу поруч з апавяданнем М. Гарэцкага, у якога сюжэт хоць і цалкам належыць рэальнасці, але ў сэнсавых адносінах, як будзе далей паказана, выходзіць за межы канкрэтнага выпадку.

Дарэчы, сітуацыя ператварэння вельмі часта распрацоўвалася нямецкамоўнымі пісьменнікамі і жывапісцамі напярэдадні, у перыяд Першай сусветнай вайны і адразу пасля яе, асабліва экспрэсіяністамі (п'есы Эрнста Толера "Ператварэнне", 1917-1919; Людвіга Рубінера "Без гвалту", 1919; апавяданне "Бацька" з кнігі Леангарда Франка "Чалавек добры!", 1916; серыя гравюр Эрнста Барлаха "Ператварэнне Бога", 1912 і інш.). Ва ўсіх гэтых творах акцэнтаваліся перажыванне чалавекам жудаснай рэчаіснасці і ўсведамленне ім сваёй віны і адказнасці за развязанне сусветнай бойні. Гэтаму ж перыяду, відавочна, належаць і творы аўстрыйскага і беларускага пісьменнікаў.

Звернемся, аднак, да апавядання М. Гарэцкага "Рускі". На шляхах Першай сусветнай вайны, на нейкай забытай Богам пазіцыі, "у часе доўгага і спакойнага стаяння ў зацішку малаважнага фронту" [8, с. 155], перасякуцца лёсы двух салдат – мабілізаванага ў расійскае войска селяніна-беларуса з Магілёўшчыны і "аўстрыяка" (па нацыянальнасці, мяркуючы па яго гаворцы, украінца). Забавіўшыся блізу аўстрыйскіх пазіцый у пошуках якога-небудзь "пажытку" ў дадатак да ўбогага пайка ("пажыткам" гэтым стаўся дзясятак незаўважаных гаспадаром і свіннямі бульбін), на зваротным шляху беларус нечакана сутыкнецца з аўстрыйскім салдатам. Агаломшаныя ворагі хутка, аднак, апамятаюцца, выкажуць лагодныя намеры, павітаюцца за руку, "як даўныя сябры", і, паклаўшы стрэльбы, падзеляць між сабой аўстрыякавы хлеб ды гарэлку і махорку беларуса. Час разысціся, але абодва пачуваюцца прыкра, і аўстрыяк прапаноўвае беларусу выбар: "Чы веды менэ до Русіі, чы разойдэмся", на што той адказвае так, як і варта было чакаць у такой сітуацыі: "Не, братка, ідзі сабе да сваіх". Зноў паціснулі адзін аднаму руку, нават ужо і "завярнуліся ў свае бакі", ды "бліснула" салдату-беларусу "ў галаве", каб жа "не спазніцца і каб пасля не шкадаваць, што быў воронаю..." [8, с. 156]. І гучыць услед аўстрыяку раптоўны стрэл (апавядальнік невыпадкова паўторыць, акцэнтуючы тое, што стрэл зроблены быў беларусам неяк неўсвядомлена, "без дум": "І раптам бліснула яму ў галаве..."; "...толькі бліснула яму так у галаве..."), і нядаўні "братка" (і ад слова "брат", і ад слова "братанне", бо што як не асабістае братанне адбылося паміж аўстрыякам і беларусам?) падае ніцма, выдыхаючы з апошнімі словамі "безнадзейную крыўду" на свайго забойцу. А той "з апалым сэрцам" нахіляецца над мёртвым, хрысціцца, абмацвае кішэні нябожчыка, адчуваючы брыдкасць з-за свайго блазнавання, "быццам не ворага забіў, а якога свайго" [8, с. 156, 157].

З таго часу "чалавек... *перамяніўся*" [8, с. 157] (вылучана намі. – *Е.Л.*); *ператварыўся* – з не меншымі падставамі маглі б сказаць мы. Неўсвядомлены, спантанны ўчынак абяртаецца для яго самога знішчальнай, невыноснай душэўнай мукай, бясконцай жудой, няспынным болем і маркотай, па сутнасці – вар'яцтвам, і ад гэтага "ператварэння" ўратаваць гаротніка не ў стане ніякія дактары. "Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!.." – бесперастанку крычыць ён у шпітальнай палаце, калі "пачынае забіраць хвароба" [8, с. 157].

(Дарэчы, складзіся сітуацыя іначай – і аўстрыяк М. Гарэцкага мог бы апынуцца сярод тых палонных, амаль "наскіх хлопцаў", пра якіх ідзе гаворка ў апавяданні М. Лынькова "На чырвоных лядах": "Аўстрыйцы касілі, грэблі сена, сушылі, складвалі ў стагі", вучылі мясцовых дзяўчат сваім скокам, няньчыліся з дзецьмі, спявалі тужлівыя песні – "аб бацькаўшчыне, аб матках сваіх, аб нявестах" [15, с. 372, 373].)

Ужо сама мова твораў аўстрыйскага і беларускага пісьменнікаў ёсць падмуркам для аналогій. Пра стылёвы аскетызм Ф. Кафкі з яго "ціхай рэвалюцыяй" (А.В. Карэльскі), яго стрыманасць і нават сухаватасць, поўную адсутнасць нейкай мастацкай аздобы ў яго прозе, лапідарнасць і традыцыйнасць яго моўных структур нямала сказана германістамі. Нешта блізкае сцвярджаюць літаратуразнаўцы і на адрас беларускага пісьменніка. "Усё ў ім проста, будзённа, звычайна" [17, с. 123], – пісаў І. Навуменка пра "Літоўскі хутарок", а мог бы тое ж самае сказаць і наконт апавядання "Рускі". М. Стральцоў звяртаў увагу на адсутнасць у творах М. Гарэцкага, "празаіка строгага", "шырокай, разгалінаванай фразы са складанай сістэмай кіравання, падпарадкавання, сузалежнасці... Эканомнасць фразы – вось найпершы паказчык яе эстэтычнай прыдатнасці, і тут заключана ўсё: ступень змястоўнай і эмацыянальнай інфармацыі, насычанасць музычнай аркестроўкі і г. д." [17, с. 178]. І. Чыгрын таксама характарызаваў мову М. Гарэцкага менавіта перыяду напісання "Рускага" як дакладную і сціслую [гл.: 17, с. 181]. Падобны пункт гледжання месцяць у сабе працы і іншых даследчыкаў мастацкай спадчыны пісьменніка.

У абодвух выпадках галоўныя героі – самыя звычайныя ва ўсіх адносінах людзі: у Ф. Кафкі – сціплы камівояжор, у М. Гарэцкага – "чалавек з акопаў" і селянін у адной асобе. У працяг традыцый М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, А. Чэхава, заходнееўрапейскіх аўтараў размова і ў навеле, і ў апавяданні ідзе пра так званага "маленькага чалавека", які апынуўся ў незразумелых, нязвыклых для сябе, выключных абставінах.

Што ж да саміх сітуацый ператварэння, то найперш працытуем пачатак кафкаўскай навелы, у якім да будзённага проста, нават па-натуралісцку дэталёва выкладаецца жахлівая ява: "Аднойчы раніцою Рыгор Замза ачомаўся ад неспакойнага сну і раптам заўважыў, што ён у сваім ложку ператварыўся ў пачварную жамяру. Лежачы на панцырна-мулкай спіне, ён бачыў, калі толькі трошкі падымаў галаву, свой выпуклаваты, карычневы, падзелены на дзве часткі дугападобнымі плеўкамі, жывот, на версе якога ўсё яшчэ трымалася... коўдра. Шматлікія і танюсенькія – калі параўнаць з усім астатнім – ножкі ў беспарадку мітусіліся ў яго перад вачыма" [14, с. 57].

А цяпер згадайма паводзіны Рускага пасля таго, як ён "перамяніўся", стаў жывым трупам, іншымі словамі – пасля яго ператварэння: ён, гаворыць апавядальнік, "упадабаў ляжаць на зямлі з раскінутымі нагамі і рукамі" [8, с. 157], пераймаючы, імітуючы позу, у якой сустрэў сваю нечаканую смерць забіты ім "братка"-аўстрыяк. Калі ўдумацца, ці ж не нагадвае нават фармальна, нават вонкава апісанне гэтага распластанага на зямлі, тварам да неба, "з раскінутымі нагамі і рукамі", чалавека, што падсвядома ідэнтыфікуе сябе з ахвярай ўчыненага ім няпраўдзівага забойства, тую самую кафкаўскую агідную і бездапаможную жамяру, у якую ператварыўся Рыгор Замза?

Не кажучы ўжо пра сутнаснае, экзістэнцыяльнае напаўненне жудаснай метамарфозы, якая адбываецца з героямі Кафкі і Гарэцкага і якая ў абодвух творах ёсць вызначальнай сюжэтнай акалічнасцю. З той толькі розніцай, што ператварэнне ў Кафкі – умоўнае, а ў Гарэцкага – цалкам рэальнае, пры тым што ў абодвух выпадках яно, як будзе паказана далей, закранае сферу свядомаснай і падсвядомаснай жыццядзейнасці персанажаў.

Экзістэнцыяльнай насычанасці свайго сюжэту Кафка, відавочна, дасягае праз спалучэнне-сутыкненне нечуванага абсурдызму, умоўнасці з падрабязнасцямі побыту, дэталізацыяй звыклага існавання героя, але найперш – праз зааморфны код, робячы гэта дзеля выкрыцця ненатуральнасці, неразумнасці, алагічнасці светабудовы, якая не суадпавядае сапраўднай чалавечнасці, гуманнасці ды і простай логіцы.

М. Гарэцкі, застаючыся на цалкам кожнадзённай, рэальнай глебе і ў рэчышчы

рэалістычнага мастацкага слова, дасягае анталагізацыі свайго аповеду іншым шляхам – праз адсылкі да хрысціянскіх пастулатаў, да Бібліі, надзвычай істотныя ў алюзіўным патэнцыяле апавядання “Рускі” (як і, заўважым, наогул усіх твораў беларускага пісьменніка). Сугестыўна ў апавяданні прачытваецца алюзія на старазапаветнае паданне пра Каіна і Авеля, або, іначай, пра першае ў гісторыі чалавецтва братазабойства (алюзіі на біблейскі міф пра Каіна і Авеля скрозь дадуць аб сабе знаць у сусветнай літаратуры XX ст., з беларускай уключна, – да прыкладу, у творах Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Караткевіча, Вячаслава Адамчыка, Васіля Быкава, Алеся Разанава, Канстанціна Міхеева, Андрэя Курэйчыка і інш. [гл.: 16]). Забіты Авель, але Бог чуе яго “голас крыві” і абрынае ў прадонне самога забойцу, Каіна; апошні, забіўшы брата, забівае гэткім чынам і сябе, бо, паводле знаўцы Старога Запавету, сакральна, “містычна ўсе людзі ёсць нібы адзін чалавек... той, хто губіць блізкага свайго, губіць самога сябе” [21, с. 67]. Гэта добра ўсведамляў славуты аўтар містэрыі “Каін” Дж. Байран. На пытанне братазабойцы:

...ці не магу я ўласнай смерцю
Прах брата ажывіць? Чаму б і не –
Няхай ён сёння ж вернецца ў жыццё,
А я ў зямлю сыду халодным прахам...
Бо цяжка мне блукаць з жыццём сваім... –

Анёл, пасланец Бога, адказвае:

Забітага ніхто не ўваскрасіць.
Што зроблена, таго назад не вернеш.
Ідзі за днямі ўслед і пі да дна
Свой кубак гора, вызначаны лёсам [4, с. 329].

Пры ўсёй нятоеснасці з байранаўскай інтэрпрэтацыяй, такі ж незайздросны лёс і ў героя М. Гарэцкага. Думка аб тым, што ўсе людзі – нібы адзін чалавек і кожны чалавек – нібы ўсё чалавецтва, ускосна гучыць і ў самім апавяданні, прычым, што важна, думка гэтая паяўляецца ў галаве менавіта забойцы: “Аж рукі трохі дрыжэлі, і было брыдка, што так блазнуе, *быццам не ворага забіў, а якога свайго*” (вылучана намі. – *Е.Л.*) [8, с. 157]. Дарэчы, з біблейскім паданнем звязваў семантыку апавядання “Рускі” і Алесь Адамовіч, маючы на ўвазе душэўную драму героя пасля ўчыненага ім забойства: “Застаўся толькі чалавек – нібы першы на зямлі, той, што забіў...” [3, с. 310].

Паказальна, што, як і біблейскі Каін, “чалавек з акопаў” у М. Гарэцкага быў чалавекам якраз ад зямлі, земляробам, селянінам. Зноў узгадаем Біблію: “І цяпер пракляты ты ад зямлі... больш не стане яна даваць табе сваёй сілы...” (Быц 4:11, 12) [5]. Не дае яна “сваёй сілы” і Рускаму, нават яго ўласныя апошнія сілы забірае: упадабаўшы ляжаць на зямлі, ён “зазябіў сабе грудзі”, з чаго і быў адпраўлены ў тылавы шпіталь.

Да вобразаў Каіна і Авеля М. Гарэцкі, дарэчы, апелюе і самым непасрэдным чынам, але ў іншым, больш раннім творы – праз неспакойна-трывожныя рэфлексіі безыменнага персанажа апавядання “Што яно?” (1913): “Што там на ім (на “месіку”. – *Е.Л.*)? Горы, сцені ці Каін з вядром густа-чорнай, запечанай крыві Авеля? Што там?” [8, с. 92].

Канцэптуальна важна ў абраным намі кампаратыўным ракурсе, што і ў Ф. Кафкі, і ў М. Гарэцкага героі ўяўляюць сабою персаніфікацыю комплекса віны. У аўстрыйскага пісьменніка праблема віны мела перадусім вытокі асабістыя; як вядома, ён праз усё сваё нядоўгае жыццё пачуваўся вінаватым перад сям’ёй, асабліва перад дэспатам-бацькам, сам быў жывым увасабленнем амбівалентнасці, раздвоенасці, існаваў – паводле яго ўласнага прызнання – у стане “не смерці,

а вечнай пакуты паміранне". Неадольнае пачуццё віны будзе перажываць і яго герой Рыгор Замза.

У той жа час, на што вышэй ужо была звернута ўвага, навела Ф. Кафкі не была адно мастацкай сублімацыяй яго інтымных перажыванняў, іначай не ўспрымалася б яна цягам усяго XX стагоддзя як метафара рэчаіснасці, як універсальная выява існавання чалавека ў небяспечным, жорсткім свеце. Бясспрэчна, мае рацыю вядомы расійскі германіст У.Д. Сядзельнік, калі піша: "...логіка прамінулага "кафкаўскага" або "кафкіянскага" стагоддзя не вытрымала выпрабавання на слушнасць. Але галоўнае – у гэтых часткова запазычаных у жывога жыцця, часткова сканструяваных вобразах і малюнках таілася не падлеглая раскрыццю загадка быцця і небыцця..." [20, с. 281].

Сам аўтар "Ператварэння" заўважаў, што "Замза не з'яўляецца цалкам Кафкам", што наогул уся "сучаснасць – гэта змяненне і ператварэнне" [13, с. 548, 554]. "Мы пачынаем разумець, – пісаў Герман Гесэ, – што Кафка быў адзінокім папярэднікам, што ён нашмат раней, чым мы, спазнаў пякельную пакуту вялікага духоўнага і экзістэнцыяльнага крызісу..." [11, с. 244-245]. Насамрэч, праблема віны ў навеле ў рэшце рэшт засланяецца іншай праблемай – трагічнай адзіноты чалавека сярод людзей і безвыходнасці гэтага становішча. Ды і сама віна героя Ф. Кафкі падаецца выразна амбівалентнай: з аднаго боку, Рыгор Замза не апраўдаў надзей сям'і; з іншага – чытач бачыць і віну сям'і перад Рыгорам, якога яна звыкла ўспрымала як сродак здабывання матэрыяльных дабротаў і ад якога бязлітасна адвярнулася пасля бяды, якая напаткала яго.

Гэтаксама неадназначнай уяўляецца праблема віны (наогул аднаго з тыповых пачуванняў герояў М. Гарэцкага на вайне) Рускага. З аднаго боку, ён забойца, і забойства гэтае тым больш страшнае, што ў асобе аўстрыяка ён пазбаўляе жыцця сапраўды, у пэўным сэнсе, "свайго" – славяніна, украінца, "брата". З іншага боку, яшчэ большая віна ляжыць на тых, хто навязаў яму ненатуральныя, ненармальныя правілы паводзінаў, згвалтаваў яго душу, маральна яго і мільёны такіх, як ён, дызарыентаваў, намогшыся чалавека ад зямлі *ператварыць* у "чалавека мілітарызаванага" (гэткае вызначэнне новага, народжанага вайною антрапалагічнага тыпу прапанаваў у свой час расійскі філосаф М. Бярдзяеў), асудзіўшы на немач, на бязмежную пякельную нуду, кажучы словамі Антона Адамовіча (прамоўленымі, праўда, на адрас персанажа іншага апавядання М. Гарэцкага – "Рунь") – на "нашэнне ў сабе глыбокай псыхолёгічнай трагэдыі"[1, с. 43].

М. Гарэцкі, як вядома, неаднойчы будзе трактаваць вайну як самагубства, пісаць пра яе атрутны ўплыў на чалавека. Асабліва недвухсэнсоўна гэты матыў прагучыць у шматлікіх эпізодах кнігі "На імперыялістычнай вайне", у адчайнагоркіх роздумах Лявона Задумы: "А ўсе скаты двухногія. Хай жыве вайна – знішчэнне скатоў скатамі! Мы не людзі, мы – быдла..." [9, с. 57]; "А я ж пасабляю, не – не пасабляю, а сам разам з другімі старанна забіваю людзей. Забіваю такіх жа нявольнікаў, як сам. Што гэта я раблю? Пакуль што я не адчуў усяе глыбіні гэтага жаху! Не адчуў, а толькі думаў, што тут – вялікі страх, і жудасную сутнасць гэтага страху я зразумею толькі некалі пасля..." [9, с. 71-72]. Пры гэтым неабходна падкрэсліць: у адлюстраванні вайны як прычыны духоўнага і маральнага дзікунства проза М. Гарэцкага паўстае ў рэчышчы сусветнай літаратуры ў лепшых яе пісьменніцкіх постацях і творах. У якасці прыкладу спашлёмся на раман расійскага мастака слова Барыса Пастарнака "Доктар Жывага" (1957; упершыню апублікаваны на Захадзе), які мае нямала судакрананняў з творамі М. Гарэцкага пра Першую сусветную вайну. "Я яшчэ заспела час, калі мелі сілу паняцці мірнага папярэдняга стагоддзя... – кажа гераіня рамана Б. Пастарнака. – Смерць чалавека ад рукі іншага была рэдкасцю, надзвычайнай, нечуванай з'явай. Забойствы, як думалі, сустракаліся толькі ў трагедыях, раманах з жыцця

сышчыкаў і ў газетных дзённіках здарэнняў, але не ў паўсядзённай рэальнасці. І раптам гэты скачок з ціхамірнага, бязвіннага існавання ў кроў і крыкі, павальнае вар'яцтва і здзічэнне кожнадзённага і штогадзіннага, узаконенага і ўхваленага смертазабойства" [19, с. 429].

У творах і Ф. Кафкі, і М. Гарэцкага мае месца нейкая дзіўная, незвычайная ўстойлівасць сюжэтнага развіцця, вельмі нетрадыцыйна пададзены прынцып суадноснасці ў ім дынамікі і статыкі. І Рыгор Замза, і Рускі ўнутрана ачалавечваюцца – парадаксальным чынам – пасля факту вонкавага расчалавечвання. Замза, набыўшы пачварнае аблічча, нашмат вастрэй адчувае і сорам, і гора, і спагаду да родных, і дакоры сумлення, прагне – як ніколі раней – прыналежнасці да сямейнага кола (у той час, як сям'я ўнутрана, калі дазваляльна так сказаць, ажывёльваецца). І Рускі, па факце забойства, учыненага "без дум", нібы ў стане паўсну, па ўнутраным пачуванні таксама ачалавечваецца, сумленне не дае яму спакою, раздвоеная душа ірвецца і курчыцца ў невыносных пакутах. Як тут не ўспомніць словы апавядальніка з твора М. Гарэцкага з красамоўнай назвай "Дзве душы" (1918-1919): "І душа дваіцца. Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую..., цяпер цвярдзееець, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасці і нават жорсткасці... Ёй не шкода, і яна не здрыгнецца... Ёй не шкода. А тая, другая, падумала і здрыганулася" [7].

Адпаведна, абодва творы адметныя выключным мастацкім псіхалагізмам, але асаблівага кшталту. І ў "Ператварэнні", і ў "Рускім" героі паказаны ў стане свайго роду дуалізму свядомасці і падсвядомасці; кожны з іх, кажучы словамі Германа Гесэ, – "чалавек еўрапейскага крызісу" [10, с. 315]. Як і ў аўстрыйскага празаіка, так і ў беларускага знаходзяць увасабленне два канфлікты – знешні і ўнутраны. Прычым першы падкрэслена лакалізаваны, ён толькі запачаткоўвае сюжэт: у Ф. Кафкі гэта канфлікт паміж чалавечай сутнасцю і жывёльнай знешнасцю героя; у М. Гарэцкага ён традыцыйны да банальнага і сам па сабе зразумелы – паміж салдатамі ваюючых адна з адной армій, такім чынам – ворагамі па вызначэнні. Другі ж канфлікт, унутраны, займае ў кожным з твораў цэнтральнае месца, доўжыцца з краю ў край аповеду і ўяўляе сабою гісторыю перажывання персанажамі сваіх трагедый, гэткіх непадобных і падобных у адзін і той жа час. Пры гэтым псіхалагізм у Ф. Кафкі ў большай ступені ўніверсалізаваны, чым у М. Гарэцкага, які ніколі не выпускаў з-пад увагі ні нацыянальнага, ні сацыяльнага, ні асобаснага статусу сваіх персанажаў. Вось чаму І. Навуменка меў усе падставы сказаць пра М. Гарэцкага як пра "псіхолага ў самым высокім значэнні" [17, с. 123] гэтага слова.

Ёсць і яшчэ адна акалічнасць, якая збліжае класікаў аўстрыйскай і беларускай літаратур, – гэта вялікая ўвага да творчасці Ф. Дастаеўскага. Рускі празаік быў любімым пісьменнікам Ф. Кафкі ("кроўным сваяком", па ўласным яго прызнанні); у мастацкіх творах апошняга адчувальны яго ўплыў, у дзённіках і лістах скрозь згадваюцца яго раманы. У пэўным сэнсе працягам і развіццём традыцый Ф. Дастаеўскага была і творчасць М. Гарэцкага; невыпадкова таксама будучыню беларускай літаратуры ён звязваў (да прыкладу, у артыкуле "Развагі і думкі") з эстэтычнымі дасягненнямі накшталт прыналежных рускаму класіку. "Уласная творчая практыка М. Гарэцкага пацвердзіла плённасць вучобы ў вялікіх рэалістаў" [17, с. 152 ], – гаворыць М.І. Мушынскі, называючы ў ліку гэтых "вялікіх рэалістаў" і Ф. Дастаеўскага. Зрэшты, цяжка назваць працу, датычную спадчыны беларускага празаіка, дзе б на гэты факт не звярталася ўвага. І сапраўды, сам лад мыслення на мяжы з філасофіяй, хаця і праз пасярэдніцтва мастацкіх вобразаў, збліжае М. Гарэцкага з Ф. Дастаеўскім. Апавяданне "Рускі" ў гэтым сэнсе – не выключэнне. Тая ж сітуацыя "злачынства і пакарання", што і ў аднайменным творы рускага празаіка, тая ж раздвоенасць героя, той жа разрыў паміж свядомасцю і падсвядомасцю, тая ж катастрафічная перабудова асобаснай структуры персана-

жа ў выніку разбуральнага зваротнага ўдару па псіхіцы. Праўда, высакародны і далікатны Радыён Раскольнікаў учыняе забойства не тое што не “без дум”, а якраз з-за адданасці ідэі, але праз маральны закон, праз біблейскую запаведзь “Не забі” пераступаюць абодва. У Ф. Дастаеўскага досыць часта сустракаецца выраз “твар перакуліўся” (“лицо опрокинулось”); насамрэч жа і ў Раскольнікава, і ў Рускага “перакульваецца” душа. Гэтую акалічнасць па-свойму – у сувязі з ранняй творчасцю М. Гарэцкага – адзначаў яшчэ Антон Адамовіч: “Ставячы на першае месца ў сваёй творчасьці псыхолёгізм, Максім Гарэцкі не абмінае і псыхолёгіі ненормальных людзей, людзей – хворых псыхічна, што часта становіцца нават мэтаю мастакоў-псыхолёгаў, як, прыкладам, Дастаеўскага, і што зьбліжае яго з гэтым апошнім” [1, с. 43].

Не выключана, што і першавытокам сюжэтнай асновы “Пер態тварэння” Ф. Кафкі мог паслужыць адзін з эпізодаў рамана Ф. Дастаеўскага “Ідыёт” – публічная споведзь Іпаліта Цярэнцьева (“Мое необходимое объяснение”), няшчаснага васямнаццацігадовага юнака, хворага на сухоты, чыё існаванне з гэтай прычыны абяртаецца раздвоенасцю паміж жыццём і смерцю і які помсціць астатнім людзям за іх здароўе і за сваю асуджанасць, у нейкі момант нават становіцца цынічным прапаведнікам філасофіі ўсёдазволенасці. “Забіць каго заўгодна, – разважае Іпаліт, – хоць дзесяць чалавек разам, або зрабіць што-небудзь самае жахлівае, што толькі лічыцца самым жахлівым на гэтым свеце, то ў якое становішча ўкляпаўся б перада мною суд з маімі двума-трыма тыднямі тэрміну” [12, с. 414].

Экспрэсіўна-метафарычным адлюстраваннем усёй бездані адчужэння Іпаліта ад іншых людзей, ад жыцця як такога паўстае сон героя, у якім ён бачыць “жахлівую жывёліну, нейкую пачвару. Яна была накшталт скарпіёна, але не скарпіён, а агідней і нашмат жахлівей... Я яе вельмі добра разгледзеў: яна карычневая і шкарлупістая, паўзун, даўжынёй вяршкі з чатыры, каля галавы таўшчынёй у два пальцы, бліжэй да хваста паступова танчэй, так што сам кончык хваста таўшчынёй не больш за дзясятую частку вяршка. На вяршок ад галавы з тулава выходзяць, пад вуглом у сорак пяць градусаў, дзве лапы, па адной з кожнага боку..., так што ўся жывёліна ўяўляецца, калі глядзець зверху, у выглядзе трызубца...” і г. д. [12, с. 391]. Сам Іпаліт патлумачыць і сэнс свайго сну: “Нельга заставацца ў жыцці, якое прымае такія дзіўныя, крыўдныя для мяне формы” [12, с. 413]; Кафка ж у адным з лістоў да Мілены Ясенскай (за чатыры гады да смерці) напіша: “...ты лішні крок баішся зрабіць на гэтай ашчаціненай пасткамі зямлі...” [13, с. 473]. Відавочна, у Ф. Кафкі апісанне знешнасці Рыгора Замзы пасля ягоператварэння вельмі нагадвае выяву брыдкага тарантула з відзяжу Іпаліта. Ускосна з ім асацыіруецца і апісанне Рускага пасля здзейсненага ім забойства, хаця падасновы апісанняў і самапачуванняў у выпадку з героем Ф. Дастаеўскага, з аднаго боку, і з героямі Ф. Кафкі і М. Гарэцкага, з другога, прынцыпова розныя. У Ф. Дастаеўскага стан раздваення персанажа (у сне, а не наяве, як у Ф. Кафкі і М. Гарэцкага) паміж жыццём і смерцю, свядомасцю і падсвядомасцю абяртаецца імаралізмам апошняга, а затым – яго няўдалай трагікамічнай спробай самазабойства.

Варта, дарэчы, заўважыць, што і ў М. Гарэцкага ёсць твор, адзін з эпізодаў якога нашмат бліжэй да вышэйпрацытаванага відзяжу Іпаліта, чым апісанне Рускага. У апавяданні “Габрыелевы прысады” (заверш. 1917, апубл. 1918) хворы маленькі Габрусік бачыць дзіўны сон: “Не быў гэта сон у звычайным разуменні, бо, здаецца, ніводнае пачуццё, ні паасобку, ані разам, не мела тут удзелу, а было нейкае асаблівае пачуццё ўсяго “я”, усяе душы, усяго цела. Сніў... не, не сніў, а ўсёю істотаю чуў нешта аграмаднае, масіўнае, і разам каравае, з гострымі, колкімі, цвёрдымі, як скаліна, краямі. І яно складала ўвесь свет. Быў часткаю яго... Яно было ўва ўсім яго целе. І наўкола ва ўсякай істоце... Нейкі жах ахопліваў ад таго, што чуў у сабе гэтую каравую, чорна-бліскучую грамадзіну... (Далей – кароткае

пачуванне таго, “як з яе, бязвобразнае і безабразнае”, адбылося вытварэнне гармоніі і музычнасці, якое хутка мінае. – *Е.Л.*)... І знікае гармонія, ізноў жахае каравае, чорнае і аграмаднае, усясветнае...” [8, с. 213]. Цяжка адпрэчыць ураджанне – і ад гэтага снабачання ў апавяданні М. Гарэцкага, і ад “явы” ў навеле Ф. Кафкі – як ад своеасаблівых (магчыма, несвядомых) алюзій на Ф. Дастаеўскага; у кожным выпадку, і аўстрыйскі, і беларускі пісьменнікі не маглі не чытаць узгаданы раман рускага класіка.

Такім чынам, апавяданне М. Гарэцкага, як і навела Ф. Кафкі, мае якасці парадыгматычныя; у ім не толькі паказаны знішчальныя наступствы “вялікай вайны белых людзей” (Арнольд Цвэйг), але і прадбачыцца ці не самая значная драма ўсяго XX стагоддзя – пазбаўленне чалавека ўласнай волі, ператварэнне яго ў аб’ект бязлітасных маніпуляцый. Магчыма, усведамляючы нацыянальнае і ўніверсальнае гучанне “Рускага”, аўтар і адмовіўся ад першапачатковага намеру ўключыць яго ў кнігу “На імперыялістычнай вайне”, пакінуўшы яго самадастатковым і самастойным творам.

Літаратура:

1. Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. – Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. – 1464 с.
2. Адамовіч А. Класік беларускай літаратуры // М. Гарэцкі. Збор твораў: у 4 т. Т. 1. – Мінск: Маст. літ., 1984. – С. 7–44.
3. Адамович А. О современной военной прозе. – Москва: Сов. писатель, 1981. – 440 с.
4. Байран Д.Г. Выбранае / Пер. У. Дубоўкі. – Мінск: Дзяржаўн. выд-ва БССР, 1963. – 410 с.
5. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / Пер. В. Сёмухі. – Duncanville, USA: World Wide Printing, 2002. – 1534 с.
6. Быкаў В. Доўгая дарога дадому. – Мінск: ГА БТ “Кніга”, 2002. – 544 с.
7. Гарэцкі М. Дзве душы. Электронны рэсурс. – Рэжым доступу: www.knihi.com/Maksim_Harecki/Dzvie_dusy.html. – Дата доступу: 20.02.2013.
8. Гарэцкі М. Збор твораў: у 4 т. Т. 1. – Мінск: Маст. літ., 1984. – 446 с.
9. Гарэцкі М. Збор твораў: у 4 т. Т. 3. – Мінск: Маст. літ., 1985. – 399 с.
10. Гессе Г. Достоевский // Г. Гессе. Магия книги: Эссе о литературе. – Санкт-Петербург: Лимбус Пресс, 2010. – 336 с.
11. Гессе Г. Франц Кафка // Г. Гессе. Магия книги: Эссе о литературе. – Санкт-Петербург: Лимбус Пресс, 2010. – 336 с.
12. Достоевский Ф.М. Идиот // Ф.М. Достоевский. Собр. соч.: в 15 т. Т. 6. – Ленинград: Наука, 1989. – 670 с.
13. Кафка Ф. Америка. Процесс. Из дневников. – Москва: Политиздат, 1991. – 606 с.
14. Кафка Ф. Ператварэнне // Ф. Кафка. Прысуд: Апавяданні і мініяцюры / Пер. Л. Баршчэўскага. – Мінск: Маст. літ., 1996. – С. 57–114.
15. Лынькоў М. Над Бугам: апавяданні, аповесці, урыўкі з рамана. – Мінск: Маст. літ., 2002. – 446 с.
16. Лявонава Е.А. “Не адзінокі востраў...”: Васіль Быкаў і сусветная літаратура // Полымя. 2005. № 8. – С. 166–182.
17. Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. – Мінск: Маст літ., 1984. – 366 с.
18. Мелетинский Е.М. Избранные статьи. Воспоминания. – Москва: Рос. гуманит. ун-т, 2008. – 570 с.
19. Пастернак Б. Доктор Живаго. – Минск: Ураджай, 1990. – 576 с.
20. Седельник В.Д. Франц Кафка // История австрийской литературы XX века: в 2 т. Т. 1. Конец X1X – середина XX века. – Москва: ИМЛИ РАН, 2009. – С. 280–309.
21. Щедровицкий Д.В. Введение в Ветхий Завет: в 8 т. Т. 1. Книга Бытия. – Москва: Теревинф, 1994. – 288 с.

Анатоль Сідарэвіч



...прыстасаванцам ніколі не была
і не буду...

# Легендарныя факты і фактычныя легенды

***Зоська Верас. Я помню ўсё: Успаміны, лісты / укладанне, прадмова, каментар Міхася Скоблы. – Гародня – Wrocław, 2013. – (Гарадзенская бібліятэка; кн. 21)***

Водгук на гэтую кнігу можна было б пачаць з пахвалы Міхасю Скоблу. Добра працуе дзяцюк: летась выдаў у "Гарадзенскай бібліятэцы" ёмісты том эпісталярыю Ларысы Геніюш[1], а сёлета мы трымаем у руках не менш важкі том Зоські Верас. І ў дадатак маем інфармацыю, што М. Скобла рыхтуе да друку другі, не менш грунтоўны, зборнік твораў пісьменніцы.

[1] Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы: З эпісталярнай спадчыны (1964-1983) / уклад., прадм., камент. М. Скоблы. – Гародня–Wrocław, 2012. – (Гарадзенская бібліятэка; кн. 16). Гэта ўжо другі зборнік лістоў пісьменніцы. Восем гадоў таму выйшла кн.: Геніюш Л. Каб вы ведалі: З эпісталярнай спадчыны (1945-1983) / уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. – Мн.: Лімарыус, 2005. Акрамя таго, ладныя падборкі лістоў паэткі апублікаваныя ў: Геніюш Л. Выбраныя творы / уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2000; Геніюш Л. Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Проза. Лісты / уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. – Мн.: Лімарыус, 2010; Асоба і час. Беларускі біябібліяграфічны альманах. Вып. 4. – Мн.: Лімарыус, 2011. С. 216-244. І грэх не згадаць адмысловае выданне да 100-годдзя з дня нараджэння Л. Геніюш, укладзенае М. Скоблам: Асоба і час. Беларускі біябібліяграфічны альманах. Вып. 3. – Мн.: Лімарыус, 2010.




Можна сказаць, што З. Верас пашанцавала: з тае прычыны, што яна, народжаная Людвіка Сівіцкая, была дачкою ўраджэнца Горадні[2] і ўраджэнкі Горадзенскай губерні, сама нямала пажыла ў Сакольскім павеце і ў Горадні (у гэтым горадзе вучылася), пісьменніца і грамадская дзяячка атрымала права быць выдадзенай у “Гарадзенскай бібліятэцы”. Дый укладальнік кнігі, што ні кажы, чалавек горадзенскі. Калі б не “Гарадзенская бібліятэка”, дзе б выйшла гэтая кніга?

Як відаць з падзагалоўка, у кнізе надрукаваныя ўспаміны і лісты Зоські Верас. Таму што том выйшаў у “Гарадзенскай бібліятэцы”, ён мае пэўную асаблівасць: у ім змешчаныя выключна лісты да людзей, якія родам з Горадзенскай вобласці або жывуць у ёй: да Аляксея Анішчыка, Алеся Белакоза, Дануты Бічэль, Міхася Верацілы, Ларысы Геніюш, Аляксандра Госцева, Фёдара Ігнатовіча, Арсеня Ліса, Адама Мальдзіса, Мікалая Марцінчыка, Яўгена Петрашэвіча, Аляксея Пяткевіча, Янкі Саламевіча, Міколы Таранды, Вячкі Целеша і Уладзіміра Ягоўдзіка.

Кніга мае загаловак “Я помню ўсё”. Гэта словы самой З. Верас. Ведама, ніводзін чалавек не здольны ўспомніць усё, што з ім было на жыццёвым шляху, асабліва такім працяглым, як у нашай аўтаркі. Яна сама прызнаецца, што забыла пра пэўныя свае публікацыі, і дзякуе Сяргею Панізніку за тое, што ён знаходзіць іх ды такім чынам папаўняе яе бібліяграфію. Не памятала яна і ўсіх сяброў Горадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909-1914), у які ўваходзіла сама. Некаторыя імёны ёй нагадвалі ейныя карэспандэнты. Не раз яна ў розных сваіх тэкстах пярэчыла самой сабе. Бывала, што яна аспрэчвала відавочныя факты, вядомыя ўсім, хто больш-менш вывучаў падзеі 1917-1918 гг. у Беларусі і ў Менску. Пра некаторыя факты яна не хацела згадваць. Напрыклад, я так і не знайшоў у гэтай кнізе адказу на пытанне: дзе была Л. Сівіцкая ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года?

Парушыўшы традыцыю заўвагі і закіды рабіць пад канец рэцэнзіі, скажу: як і ў кожнай кнізе, у гэтым томе маюцца і памылкі набору, і памылкі ў каментарах, і проста моманты, якія належала б укаментаваць, але якія не каментуюцца.

Вось жа, амаль у суседніх абзацах на с. 23 мы сустракаем абрэвіятуры ГГБМ і ГГБК. Відавочна, што ў другім выпадку мы маем справу з памылкаю набору, бо і ў першым, і ў другім разе гаворка ідзе пра Горадзенскі гурток беларускай моладзі. Пра якія баі ў Сакольскім павеце ў 1921 годзе ідзе гаворка на с. 157? Савецка-польская вайна на той час ужо скончылася. Калі тут не памылка набору, дык варта было б зрабіць заўвагу. І ў тым выпадку, калі З. Верас абвяшчае Антона Грыневіча галоўным арганізатарам выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў нашаваконца” (с. 204), таксама. Або калі З. Верас піша пра дачку горадзенскага архірэя (с. 345). І ўжо конча трэба было б патлумачыць чытачам, што такое “проста агіднае, непраўдападобнае” здарылася 20 красавіка 1986 года ў Мінску, пра што З. Верас не адважылася пісаць М. Вераціле ў лісце ад 12 мая таго ж года (“Весткі не на лістоўную гутарку...”). Яшчэ жывыя сведкі тае падзеі – як пацярпелыя, гэтак і спраўцы.

На с. 27 напісана, што Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства, у якім вучыўся Аркадзь Смоліч, у 1915 годзе знаходзіўся ў... Кракаве

[2] І Зоська Верас, і Макар Краўцоў, і іншыя аўтары старое даты, якія мелі горадзенскія карані, карысталіся старою назваю горада – Горадзен, Горадна; адсюль і прыметнік “горадзенскі”. Люблю гэтыя словы і я.

(Аўстра-Венгерская імперыя). Тут ці то апіска самой Зоські Верас, ці то памылка набору, бо вядома, што інстытут быў эвакуяваны ў Харкаў. Або такі сказ на с. 38: "А колькасць гараджан расла". Не ведаю, што тут – зноў апіска аўтаркі ці зноў памылка набору, бо гаворка ідзе аб пражы. Як тае пражы, напрадзенай жанчынамі – бежанкамі і выгнанкамі, – стала шмат і не было куды яе збыць, Менскае аддзяленне Беларускага таварыства помачы пацярпелым ад вайны заснавала ткальню ў доме Русецкіх на Старажоўцы (у 1980-х З. Верас будзе адстойваць праўду пра пана Русецкага).

З. Верас піша аб Таварыстве помачы ахвярам вайны, але інфармацыя пра ўстаноўчы сход Таварыства мае загаловак "Беларускае таварыства па аказанню помачы пацярпеўшым ад вайны" (Наша Ніва. 1915. 22 траўня). Гэтак Таварыства названа і ў матэрыялах, апублікаваных у "Нашай Ніве" 28 траўня. Ды вось 5 чэрвеня назва інстытуцыі скарачаецца: цяпер яна проста Беларускае таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны. Так Таварыства названа і ў нумарах "Нашай Нівы" за 12 чэрвеня, 2 і 9 ліпеня 1915 г. Гэтая назва замацавана ў артыкуле "Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны" і ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (т. 1), і ў "Беларускай Энцыклапедыі" (т. 2). Укладальніку кнігі трэба было б звярнуць увагу на гэты факт.

Не магу я зразумець, што гэта за часовы Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) быў створаны пры ўдзеле Менскага аддзялення Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (БТДПВ), у які, паводле З. Верас, уваходзілі Язэп Варонка, Лявон Заяц, Павел Аляксюк ды іншыя (с. 47). Далей З. Верас сцвярджае, што той часовы БНК склікаў З'езд беларускіх нацыянальных арганізацыяў. Гэта даволі цікавая інфармацыя. Бо я чытаў у адной кніжцы Мікалая Сташкевіча, што ініцыятарам З'езду была Беларуская народная партыя сацыялістаў[3]. Мо і прыняў бы я гэтае паведамленне на веру, калі б не ведаў, што М. Сташкевіч – вельмі некарэктны гісторык і што БНПС заснавана ў траўні 1917-га[4], г. зн. пасля З'езду. Маецца ў літаратуры і іншая інфармацыя. Так, акадэмік Іларыён Ігнаценка пісаў, што ініцыятыву ў разгортванні падрыхтоўкі З'езду беларускіх арганізацыяў праявілі беларускія дзеячы, якія знаходзіліся ў Менску, і ўдакладняў: "Скліканне з'езду было  прызначана на 25 сакавіка 1917 г. Старшыня Менскай арганізацыі БСГ разаслаў беларускім грамадскім дзеячам адмыслова падрыхтаванае паведамленне з указаннем даты і месца правядзення з'езду"[5].

З прачытанага ў кнізе І. Ігнаценкі вынікае, што за царом Менскае аддзяленне БТДПВ служыла легальным прыкрыццём нелегальнага Менскага камітэта Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), які  адразу пасля звяржэння самадзяржаўя пачаў публічную дзейнасць. (Тут трэба нагадаць, што 25 сакавіка 1917-га, непасрэдна перад З'ездам, у Менску адбылася канферэнцыя арганізацый Грамады.)

Такім чынам, напісанае З. Верас пра часовы БНК можна лічыць фактычнай легендай.

Вядома, таму, што пісаў І. Ігнаценка, трэба знайсці дакументальнае абгрунтаванне, але ў літаратуры маецца ўскоснае пацвярджэнне праўдзівасці Ігнаценкавай інфармацыі. Апісваючы настроі беларускіх дзеячаў адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі, Зміцер Жылуновіч паведамляў: "Рубам стала патрэба падлічыць свае сілы, выказаць свае дамаганні... У розных гарадох вынікла думка аб з'ездзе. Падняліся абгаворы, дзе і як ды што. Пакуль судзілі ды вырашалі, Менск разаслаў

[3] Гл.: Сташкевіч М. Кастрычнік у Беларусі. – Мн., 1977. С. 31. Праўда, у кніжцы "На пути к истине» (Мн., 1983) М. Сташкевіч "далучыў" да справы склікання З'езду і БСГ.

[4] Гл., напрыклад: Беларуская Энцыклапедыя. У 18 т. Т. 2. – Мн., 1996. – С. 417.

[5] Игнатенко И. Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. – Мн., 1986. – С. 223.

тэлеграмы з запрашэннем на з'езд беларускіх грамадскіх дзеячоў у Менску на 25 сакавіка. Думаць не прыходзілася, і ўсе арганізацыі і асобныя дзеячы адгукнуліся й з'ехаліся ў назначаны дзень у Менск"[6].

Інфармацыя І. Ігнаценкі ды Зм. Жылуновіча дае мне падставу лічыць, што ва "Успамінах" З. Верас гаворка ідзе пра БНК, абраны З'ездам беларускіх нацыянальных арганізацый ў Менску 25-27 сакавіка (Я. Воронка ў яго не ўваходзіў).

Што гаворка ідзе пра БНК, абраны З'ездам, сведчыць і згадка аб Рамане Скірмунце. Раман Мар'ян Скірмунт не толькі, як піша З. Верас, бываў у БНК – яго, былога дэпутата Дзяржаўнай думы і члена Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі, абралі старшынёю гэтага прадстаўнічага органа, бо патрэбны быў чалавек, якога б ведалі ў расійскіх урадавых і палітычных колах. Аднак абранне буйнога памешчыка на пасаду старшыні БНК дало падставу левым і правым расійскім нацыяналістам ды "тоже белорусам" весці кампанію супраць беларускага вызвольнага руху, бо на чале, яго, маўляў, стаіць не толькі пан, але і паляк (як вядома, і расійскія, і польскія шавіністы ў адзін голас сцвярджалі, што тутэйшыя каталікі – спрэс палякі).

Чаму З. Верас называе Беларускі нацыянальны камітэт часовым? Мусіць, таму, што ён існаваў тры месяцы з хвосцікам – да ліпеньскага З'езду беларускіх нацыянальных арганізацыяў і партыяў, калі была створаная Цэнтральная Рада беларускіх арганізацыяў, фактычным кіраўніком якое стаў А. Смоліч[7].

З. Верас, мабыць, не згадала б пра БНК, але яна перахавала і вырашыла ўключыць у свае "Успаміны" пратакол З'езду беларускіх нацыянальных арганізацыяў 25-27 сакавіка, асобнік якога яна, як сама прызналася, выхапіла ў аднаго з сакратароў З'езду, Браніслава Тарашкевіча. Укладальнік кнігі мог бы зазначыць у каментарах, што гэта не першапублікацыя пратакола. Датаваць першадрук гэтага дакумента я не магу, але адзін яго асобнік захоўваецца ў знакамітым 21-м фондзе бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (адз. зах. 871, арк. 1-1а). У 1990 годзе пратакол быў рэпублікаваны ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва" (нумары за 7 і 14 снежня), а таксама ў часопісе "Спадчына" (№ 4. С. 29-33).

Тым, хто ведае гэтыя публікацыі, цікавы не так пратакол З'езду, як каментар да яго З. Верас.

Пішучы пра "часовы" БНК, З. Верас пытаецца: "Што ён рабіў?" І адказвае: "Канкрэтна нічога. Паседжанні, гутаркі, нарады, спрэчкі..." Заўважце: усё ў множным ліку. А легендарны "часовы" БНК "існаваў" ад сілы тры тыдні (3 сакавіка зрынуты царызм, а 25-га сабраліся канферэнцыя арганізацыяў БСГ і З'езд беларускіх арганізацыяў).

Чытаючы гэта ды іншае, я бачу з якой неахвотай З. Верас у сваіх "Успамінах" і ў лістах піша пра палітычную складовую сваёй дзейнасці, як яна стараецца больш увагі надаваць асвятленню культурніцкай ды харытатыўнай чыннасці. Што гэта так, сведчыць яе адказ А. Пяткевічу. Даследчык пытаецца: ці належала яна, Л. Сівіцкая, фармальна да Грамады? І атрымлівае адказ: "Тады ў нас ніякіх фармальнасцяў не было – не прымалі ніякіх легітымацый, нічога. А належалі амаль усе" (с. 388). Што ні кажы, а фармальнасці былі, і сяброўскія білеты былі таксама (адзін такі можна ўбачыць на 223-й старонцы 2-га тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"). А далей ідзе і зусім незразумелае: "У Менску ў 1917 г. быў

---

[6] З. Ж. Зьезд беларускіх нацыянальных арганізацый. 25 сакавіка 1917 г. // Полымя. 1925. № 6. – С. 202. Па абставінах таго часу Зм. Жылуновіч не мог напісаць, хто канкрэтна ўзяў ініцыятыву на сябе.

[7] Сутыкнуўшыся (у сувязі з абраннем Р. Скірмунта старшынёю БНК) з раз'ятранай антыбеларускай кампаніяй, БСГ на сваёй Петраградскай канферэнцыі 4-6 чэрвеня пастанавіла ініцыяваць скліканне З'езду беларускіх нацыянальных арганізацыяў і партыяў і на ім вырашыць "праблему Скірмунта".

сапраўды зьезд БСГ. Па аднаму чалавеку з Масквы, Пецярбурга, Бабруйска, ну і мы з Менска". Так, сапраўды ў кастрычніку 1917-га ў Менску адбыўся III з'езд БСГ, але не скажаш, што на ім было толькі па адным чалавеку з Масквы, Пецярбурга (дакладней – Петраграда) ды Бабруйска. Нават пра Менскую партыйную канферэнцыю 25 сакавіка гэтак не скажаш. Цытую далей. "А што рабілася? – перапытвае З. Верас свайго карэспандэнта, які хоча ведаць пра дзейнасць БСГ у Менску. І адказвае: – Адно што А. Смоліч выдаваў і рэдагаваў газету «Грамада»". Рыхтык гэтак ці амаль гэтак напісана і аб працы "часовага" БНК!

З. Верас абуралі не адно публікацыі кшталту знакамітага рамана-эсэ Алега Лойкі пра Янку Купалу ці тэксты Уладзіміра Калесніка пра заходнебеларускіх пісьменнікаў, яе трывожылі публікацыі гісторыкаў, якія ў архівах знаходзілі звесткі пра палітычную дзейнасць Л. Сівіцкай. З нагоды аднае такое публікацыі Вадзіма Круталевіча яна ў лісце да А. Пяткевіча пісала: "...я – усяго толькі работніца Камітэту помачы ахвярам вайны". Яшчэ адна фактычная легенда. Нам жа добра вядома, што старшынёй Менскай арганізацыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якая склікала З'езд беларускіх арганізацыяў 25 сакавіка 1917-га, быў кіраўнік Менскага аддзялення БТДПВ А. Смоліч, а сакратаром – Л. Сівіцкая (гл. с. 388 кнігі). Сябар Грамады, яна – ці то як дэлегатка, ці то як госця – прысутнічала на III з'ездзе партыі (с. 61 кнігі). Такім чынам, партыйныя справы яна ведала добра. З кнігі можна даведацца, што Л. Сівіцкая брала ўдзел у З'ездзе беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту, на якім была створаная Беларуская Цэнтральная Вайсковая Рада. Маецца ў кнізе і фота пропуску на гэты з'езд. У сваіх "Успамінах", на прыжыццёвую публікацыю якіх З. Верас, мусіць, не разлічвала, яна прызнаецца, што ў снежні 1917-га была дэлегаткай на Усебеларускі з'езд (у кнізе друкуецца фота яе дэлегацкага білета). З абодвух дакументаў можна даведацца, што Л. Сівіцкая была дэлегаваная на гэтыя форумы Выканаўчым Камітэтам Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацыяў (вайсковы з'езд) і Выканаўчым Камітэтам Вялікай Беларускай Рады (Усебеларускі з'езд). З "Архіваў БНР" мы ведаем, што Л. Сівіцкая была сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад БСГ[8]. Не ўсе, хто кантактаваў з З. Верас у 1960-1980-х гг., ведалі гэтыя легендарныя факты. Не ўсім яна магла сказаць пра гэта.

Імкненне З. Верас акцэнтаваць увагу на культурніцкім і дабрачынным аспектах сваёй дзейнасці і зацяняць яе палітычны аспект тлумачыцца проста: пісьменніца не хацела падстаўляць сваю галаву і галовы сваіх блізкіх. У лістападзе 1987-га яна пісала Міколу Таранду: "У іх рукі доўгія..." У каго "ў іх" – тлумачыць не трэба. Пра доўгія рукі напісана ў 1987-м, калі пачалася гарбачоўская перабудова. І нездарма. 6 чэрвеня таго года ў рэспубліканскіх газетах Беларусі ("Звяздзе", "Советской Белоруссии», «Сельской газете») і ва ўсіх абласных з'явіўся тэкст М. Сташкевіча "Людзі з мінулага". 12 чэрвеня тэкст быў апублікаваны ў «Літаратуры і мастацтве», 13 чэрвеня – у "Чырвонай змене", а 17 чэрвеня 1987 года – у газетах «Советская Литва» і "Czerwony sztandar" (Вільня). У тэксце сцвярджалася, што Язэп Лёсік ды Вацлаў Ластоўскі былі – ні многа, ні мала – здраднікамі, прыслужнікамі фашысцкіх акупантаў і ваеннымі злачынцамі. Галоўны ж удар быў скіраваны супраць Антона Луцкевіча і яго сыноў, а адзін з сыноў прэм'ер-міністра БНР, Лявон, быў зяцем З. Верас. "...мы тут перажылі дні трывогі", – прызнавалася пісьменніца ў лісце да М. Таранды. І задавала пытанне: ці не знойдзе "які-небудзь Сташкевіч" дарогу ў яе лясную хатку?

На жаль, гэты ліст З. Верас не пракаментаваны, асабліва інфармацыя аб нейкім

[8] Гл.: Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. І. Кн. 1 / уклад., падр. тэксту, уступн. арт., камент., пер., паказальн., кампутарны набор, макет С. Шупы. – Вільня–Нью-Ёрк–Менск–Прага, 1998. – С. 98, 194.

чародным арганізацыйным сходзе, але зараз я акцэнтую ўвагу на іншым. Калі такая трывога і боязь доўгіх рук ахапіла З. Верас і яе родных, блізкіх ды знаёмых[9] у 1987-м, дык што тады казаць пра саракавыя ды пяцідзясятыя?

З. Верас пашанцавала, што яе маці, цётка ды яна з мужам, Антонам Войцікам, купілі лапік зямлі сярод Панарскага лесу і з Каляёвай Калоніі ў Вільні, дзе было малавата зямлі для вырошчвання розных мёдадайных і лекавых зёлак, перабраліся з горада ў тыя Сарадзеры. Можа, таму, што жылі ў лесе, што яе муж быў не самым прыкметным віленскім беларускім дзеячам, а яна, Людвіка Зоф'я Сівіцкая[10], друкавалася пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі і стала афіцыйна Войцікавай, – можа, дзякуючы ўсяму таму ёй і ўдалося пазбегнуць гаротнага лёсу выгнанцаў і палітвязняў. А можа, спрацавала і тое, што муж, Антон Войцік (1898-1948), былы вязень Лукішак, быў у Літоўскай ССР чыноўнікам рэспубліканскага ўзроўню.

У адным са сваіх лістоў З. Верас пісала: "Я прыстасаванцам ніколі не была і не буду". Гэта сказана пра міжасабовыя адносіны. Усё ж дазволім сабе пэўную долю сумневу. Жыць, не прыстасоўваючыся да людзей, да варункаў жыцця, нельга, пагатоў у таталітарным грамадстве. Пасля 17 верасня 1939-га, а потым з ліпеня 1944-га ёй, сакратару Менскай арганізацыі БСГ, удзельніцы III з'езду партыі і Усебеларускага з'езду, члену Вялікай Беларускай Рады і Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, рэдактарцы беларускіх часопісаў, адміністратарцы газет Работніцка-Сялянскай Грамады і "Змагання", маці палітзэка Антона Шантыра, нічога не заставалася, як змоўкнуць, затаіцца й не згадваць уголас былое і людзей, якіх ведала і з якімі працавала. І нават хрушчоўская адліга, вяртанне з нявол сына ды ацалелых віленскіх беларускіх дзеячаў і іх дзяцей не маглі парушыць гэтага маўчання. Колькі б яно доўжылася – немаведама. Сама З.Верас у "Аўтабіяграфіі" прызнаецца, што "разбудзіў" яе А. Ліс. Тое адбылося ў 1961 годзе, калі малады аспірант завітаў у Вільню і завязаў знаёмства з "недабіткамі", як самі сябе называлі старыя віленчукі ды іх дзеці і як іх у адным з лістоў назвала З. Верас.

Так З. Верас пачала адкрывацца людзям свайго веку і новае даты. Адкрывалася асцярожна, з аглядкай. "Людзі прыязджаюць, пішуць, але ўсё гэта людзі новыя, незнаёмыя. Не ведаеш, якія ў іх пагляды, ці можна быць шчырым?", – пісала яна ўжо на пачатку 1980-х А. Пяткевічу. Толькі ў 1970-х яна напісала "Аўтабіяграфію" ды ўзялася за "Успаміны".

У адным з лістоў З. Верас сустракаецца выраз "бяскрыўдныя ўспаміны". Так, яна старалася рабіць у сваіх мемуарах акцэнт на культурніцкай і харытатыўнай дзейнасці. Быць таго не можа, каб падчас сваёй сустрэчы і ўсяночнай размовы З. Верас і Л. Геніюш не ўспомнілі, напрыклад, Васіля Захарку, але ў кнізе ягонае прозвішча згадваецца мімаходзь ці не два разы, дый тое з памылкаю: В. Захарка не быў сябрам першага ўраду БНР, як сцвярджае З. Верас (дый не яна адна). Скарбнік – гэта кіраўнік казначэйства, які падпарадкаваўся народнаму сакратару фінансаў (гэтую пасаду ў першым кабінеце БНР займаў Пётра Крачэўскі). Іншая справа, што ўжо ў той час В. Захарка быў даволі прыкметнаю асобаю.

У кнізе пару разоў называецца прозвішча, бадай, самага загадкавага сябра Прэзідыума Народнай Рады БНР, сфармаванай 13 снежня 1919 года, – Навума Козіча, з якім З. Верас сябравала (дарэчы, Козіча чамусьці няма ў Іменным паказніку). Але марна шукаць у тэкстах пісьменніцы (прынамсі ў гэтай кнізе) нейкія падрабязныя звесткі пра яго.

---

[9] "Ад часу публікацыі "твору" Сташкевіча і яго перадрукаў ва ўсіх магчымых газетах, – паведамляла З. Верас ў лісце да А. Мальдзіса, – у нас, у нашым доме ніхто з віленскіх беларусаў не бывае – ні нагой".

[10] Пра сваё двайное імя Зоська Верас піша ва "Успамінах" (гл. с. 64 кнігі).

Калі імя Н. Козіча сустракаецца ў кнізе эпізадычна, дык А. Смоліч згадваецца даволі часта. І вось, З. Верас атрымала ліст “ад нейкага зусім незнаёмага пісьменніка” (аўтара кнігі пра Максіма Багдановіча, Леаніда Зубарава), які просіць яе даць звесткі пра асобу Смоліча. “Я адказала, што [дам звесткі] ахвотна, але не лістоўна”, – напісала З. Верас у траўні 1987-га М. Таранду. “Маю біяграфію [А. Смоліча], бібліяграфію, здымкі і шмат лістоў. Няхай прыедзе з усім гэтым пазнаёміцца”. Вось так: падрабязна пісаць пра А. Смоліча яна не адважвалася. Будзем спадзявацца, што матэрыялы пра Смоліча, якія мела З. Верас (адных лістоў ад яго было больш за дваццаць), захаваліся, не згарэлі разам з лясной хаткай ў Сарадзерах.

Калі б былі іншыя палітычныя ўмовы, Л. Сівіцкая, пэўна, і ва “Успамінах”, і ў лістах згадала б, як паміж менскімі беларускімі сацыялістамі на чале са Смолічам і бальшавікамі, якія атабарыліся ў Менску, увесну 1917-га вынік канфлікт, як Смоліч публічна, у друку выступіў супраць Міхаіла Фрунзэ і запатрабаваў трацейскага сацыялістычнага суду над ім, як беларусы, згуртаваныя вакол БНК, запатрабавалі высылкі Фрунзэ з Беларусі, як беларусаў падтрымала Рада ўкраінскай грамады ў Менску, як Фрунзэ ўхіліўся ад удзелу ў трацейскім судзе... Калі б іншыя палітычныя ўмовы, магла б З. Верас напісаць і пра Беларускі сялянскі з’езд, на якім старшыняваў Смоліч, і пра іншае. Але пра тое можна пакуль што прачытаць толькі ў публікацыях бальшавіцкіх гісторыкаў.

“Успаміны” З. Верас скончыла пісаць у 1983 годзе. На год раней скончыла і аддала на захаванне Міхасю Чарняўскаму свае ўспаміны Л. Геніюш. Цікава параўнаць ступень адкрытасці абедзвюх аўтарак. Мажліва, З. Верас, у адрозненне ад многіх, не прадбачыла, не прадчувала хуткага канца бальшавіцкага рэжыму. Мажліва ў яе не было такога натхняльніка, як Уладзімір Караткевіч. Той у 1967 годзе (!) пісаў Л. Геніюш: “Час для публікацыі сапраўднай Вашай біяграфіі яшчэ не прыйшоў. І Вы пішыце яе. Без скідак. З усёй жорсткасцю і праўдай і да сябе, і да іншых, і да жыцця. Пішыце ў разліку на недалёкую будучыню”[11]. У З. Верас, як відаць, не было ўпэўненасці ў лепшай будучыні, тым больш хуткай.

На пачатку гэтай рэцэнзіі я пісаў, што іншы раз З. Верас пярэчыла самой сабе. Напрыклад, нельга не заўважыць супярэчнасцяў у інфармацыі пра Палуту Бадунову, якую яна падае ў лістах да А. Мальдзіса (с. 310), А. Пяткевіча (с. 323, 415, 416, 418) і М. Таранды (с. 390). Дзіўна чытаць сцвярджэнні З. Верас, што сацыялісты-рэвалюцыянеры Палута Бадунова, Клаўдзій Дуж-Душэўскі, Язэп Мамонька, Янка Чарапук і Мікола Шыла не належалі да БСГ. Дзіўна на першы погляд. З гэтых ды іншых людзей на той час, калі пісаліся лісты (другая палавіна 1980-х) усё яшчэ не былі знятыя абвінавачанні ў антысавецкай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай дзейнасці. Нашай пісьменніцы вельмі не хацелася апынуцца ў адной з імі кампаніі. Яе вельмі трывожылі публікацыі гісторыкаў. Таму яна й заяўляе А. Пяткевічу: Бадунова “была вялікая дзеячка, а я – усяго толькі работніца Камітэту помачы ахвярам вайны”. Яе вельмі ўстрывожыла прапанова М. Таранды публічна адзначыць ейныя 95-я ўгодкі. “Не выклікайце воўка з лесу...”, – піша яна свайму маладому карэспандэнту. Воўк – гэта партыйныя публіцысты і гісторыкі кшталту аўтара “Людзей з мінулага”.

Каюся, я, мусіць, няўважліва чытаў В. Круталевіча наконт партыйнасці Л.Сівіцкай, але М. Сташкевіч яшчэ ў 1970-х сцвярджаў, што Л. Сівіцкая (у кніжцы напісана: Л. Савіцкая) разам з Палутай Бадуновай, Тамашом Грыбам, Міколам Шылам, Навумам Козічам (у кніжцы: М. Козіч), Клаўдзіем Душэўскім ды іншымі ўваходзіла ў кіруючае ядро Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў

[11] Гл.: Асоба і час. Беларускі біябібліяграфічны альманах. Вып. 3. – Мн., 2010. – С. 361.

(БПС-Р)[12]. На жаль, М. Сташкевіч не даў пры гэтым спасылку на нейкі дакумент ці публікацыю. Але на гэты раз яго інфармацыю няма патрэбы правяраць.

Адмаўляючы сваю ідэйна-арганізацыйную блізкасць з беларускімі эсэрамі, пішучы, што з П. Бадуновай яна “можа, дзесяць слоў наагул гаварыла”[13], З. Верас спрабавала стварыць яшчэ адну фактычную легенду: БСГ і беларускія эсэры не мелі нічога супольнага.

Бадай, усім вядома, што ад самага свайго заснавання ў 1903 годзе Грамада была блокам марксістаў і народнікаў, сацыял-дэмакратаў і эсэраў пры кіруючай ролі першых. Увесну 1918-га паміж эсэрамі і сацыял-дэмакратамі выніклі супярэчнасці, што прывяло да выхаду з БСГ сябраў Цэнтральнага Камітэта партыі П. Бадуновай, Я. Мамонькі і М. Шылы, а з фракцыі БСГ у Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі – акрамя названых – Тамаша Грыба, Мікалая Пашковіча, Навума Козіча, Сцяпана Нямкевіча, Людвікі Сівіцкай і Аляксандра Карача. 1 траўня ў Радзе БНР была ўтвораная асобная эсэраўская фракцыя. І пра гэта можна даведацца не ад бальшавіцкіх гісторыкаў, а з даклада Т. Грыба, які надрукаваны не гэтак даўно ў “Архівах БНР”[14]. Пэўна, З. Верас не здагадвалася, што тэкст даклада ляжыць у Вільні, у Дзяржаўным архіве Літвы. А В. Круталевіч з М. Сташкевічам, пішучы пра Л. Сівіцкую як пра эсэрку, напэўна ж, мелі пад рукой дакументы, якія захоўваюцца ў мінскіх архівах.

Шкада, што М. Скобла не пракаментаваў адпаведныя мясціны з лістоў З. Верас да А. Мальдзіса, А. Пяткевіча і М. Таранды. Але возьмем пад увагу тое, што ён рабіў кнігу адзін і што ён усё-ткі скончыў філалагічны, а не гістарычны факультэт і адмыслова гісторыю беларускага марксізму і народніцтва не вывучаў.

Вядома, не толькі народніцтвам, але й народніцтвам таксама можна патлумачыць збліжэнне Людвікі Сівіцкай з Фабіянам Шантырам. Аднак не пра гісторыю іх кахання я збіраюся тут пісаць. Мяне больш цікавіць, у чым выражалася непавага Ф. Шантыра да ўдзельнікаў II сесіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацыяў (кастрычнік 1917 года). Непавага, мабыць, настолькі выяўная, што ён быў выключаны з фракцыі Грамады. З пратаколу III з’езду БСГ, які адбываўся таксама ў кастрычніку 1917-га, мы ведаем, што Шантыр (дарэчы, сам дэлегат) даслаў на адрас з’езду ліст, у якім “сумысля” абразіў і гэты партыйны форум. Такія паводзіны прывялі да таго, што 17 кастрычніка 1917 года з’езд выключыў Ф. Шантыра з Грамады. Удзельніца і II сесіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацыяў, і III з’езду БСГ, З. Верас, пэўна, магла б расказаць у сваіх “Успамінах” ці ў лістах аб дэталях гэтае справы, але нічога не сказала. Нават не згадала пра тыя падзеі. Наогул жа, інфармацыі пра асобу Ф. Шантыра ў кнізе, пра якую я пішу, што ні кажы, вобмаль.

Мажліва, аб канкрэтных прычынах выключэння Ф. Шантыра з партыі мы так і не даведаемся. Агулам жа кажучы, магу сцвярджаць, што ён хварэў на радыкальную левізну. Пра гэта сведчыць і ягонае жаданне стварыць паралельную Грамаду, і паводзіны на Усебеларускім з’ездзе, на якім ён, ужо выключаны з Грамады, двойчы без поспеху патрабаваў даць прадстаўніцтва левай частцы БСГ у рабочых органах гэтага форуму. Бальшавіцкі гісторык М. Югаў (загіне падчас сталінскіх чыстак) цытуе словы, якія Ф. Шантыр сказаў перад адкрыццём Усебеларускага з’езду: “Я не ведаў, хто будзе тут; я думаў, што будуць буржуазныя класы, а бачу сялян і салдат”[15]. Гэта вельмі каштоўная цытата, якая добра сведчыць пра сацыяльны склад З’езда. І цытата рызыкоўная. Югаву, пэўна, яе не прабачаць. Адначасна гэтая

[12] Гл.: Сташкевіч М. Непазбежнае банкруцтва (З гісторыі палітычнага краху нацыяналістычных партый у Беларусі. 1917-1925 гг.). – Мн., 1974. – С. 41-42.

[13] Так З. Верас пісала А. Пяткевічу 11 жніўня 1988 года, а 21 лістапада 1985-га ў лісце да А. Мальдзіса расказала, як разам з Вандай Лявіцкай (таксама членам Рады БНР ад БСГ, дачкою Ядвігіна Ш., будучай жонкай Язэпа Лёсіка) хадзіла да П. Бадуновай у госці.

[14] Гл.: Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. І. Кн. 2. – С. 1099.

[15] М. Ю. Аб БСГ у Малой Савецкай Энцыкляпэдыі // Бальшавік Беларусі. 1930. №№ 1, 2. – С. 178.

цытата сведчыць, наколькі ультралевы Ф. Шантыр быў прадузяты ў дачыненні да сваіх нядаўніх таварышаў па партыі.

Апошняя сустрэча Л. Сівіцкай з Ф. Шантырам адбылася 13 мая 1918 г. Лічу, што гэта дакладная дата, бо жанчыны такія даты запамінаюць. Для сябе і для чытачоў зазначу: сустрэча адбылася праз 12 дзён пасля таго, як беларускія эсэры пакінулі Грамаду. Аднак ультралевы Ф. Шантыр не далучыўся, як Л. Сівіцкая, да БПС-Р. І гэтая партыя здавалася яму недастаткова рэвалюцыйнай. У літаратуры можна прачытаць, што незадоўга да знакамітага "леваэсэраўскага мецяжу" Ф. Шантыр браў удзел у працы III з'езду расійскай Партыі левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў (28 чэрвеня – 1 ліпеня 1918 г.) і выступаў на ім[16]. Значыць, ён быў сябрам ПЛС-Р. Але і Партыя левых эсэраў не задавальняла яго. На гэты раз сваім стаўленнем да нацыянальнага пытання. Ёсць сведчанне, што Ф. Шантыр, які апынуўся ў Смаленску, спрабаваў (разам з 18-гадовым Гаўрылам Гарэцкім) стварыць беларускую леваэсэраўскую партыю[17]. Трэба думаць, што няўдалы арганізацыйны сход гэтай партыі адбываўся яшчэ да дэлегалізацыі бальшавікамі ПЛС-Р.

Зрэшты, аб дзейнасці Ф. Шантыра ў Смаленску Л. Сівіцкая магла і не ведаць. З "Успамінаў" відаць, што з лета 1918-га Л. Сівіцкая пачувалася як чужая сярод менскіх беларускіх дзеячаў, адышла ад актыўнай грамадскай працы. Гэта можна тлумачыць і тым, што БПС-Р, да якой належала яна, у той час не адыгрывала ключавой ролі ў Радзе БНР. (Старшынёю Рады заставаўся сацыял-дэмакрат Язэп Лёсік, а Народны Сакратарыят неўзабаве пасля сацыяліста-федэраліста Язэпа Варонкі ўзначаліў таксама сацыяліст-федэраліст Іван Серада. Вакол іх былі іншыя людзі.) Прычыну адчужэння можна тлумачыць і тым, што Л. Сівіцкая зацяжарала, а бацька будучага дзіцяці жыў і працаваў па другі бок лініі фронту – у Смаленску. Яны, Людвіка і Фабіян, так і не сталі жонкай і мужам дэ-юрэ. Пакуль не пачаліся абгаворы і кпіны, трэба было пакінуць Менск. І пад восень 1918-га Л. Сівіцкая разам з маці перабіраюцца ў свае Альхоўнікі, на Сакольшчыну. Зноў-такі, што змусіла яе, ейных маці і цётку праз пяць год пераехаць з Альхоўнікаў у Вільню? Ведама, жанчынам адным цяжка весці гаспадарку. Ведама, падрастае сын, яго трэба вучыць. А яшчэ абгаворы, кпіны, дакоры... Пра гэта аўтарка не піша, але між іншым згадвае і тамтэйшага ксяндза. О, ксяндзы тае даты ўмелі "дастаць" чалавека! Дый цяпер у некаторых гэта мілы занятак. (У дужках зазначу, што З. Верас, як мне помніцца, не жыла царкоўным жыццём. Дый у прадстаўленых М. Скоблам тэкстах гэтая тэма адсутнічае. А рэлігійнасць З. Верас не выходзіла за рамкі народных традыцый: Каляды, Вялікдзень... Сацыялістка, яна віншавала сваіх карэспандэнтаў з Першамаем, але з савецкімі святамі – ніколі.) І вось Вільня. Яе прывячаюць, яе прымаюць, яе ўладкоўваюць на працу Сымон Рак-Міхайлоўскі і Антон Луцкевіч. Тут кола даўніх знаёмцаў, "сваіх" людзей, тут беларуская гімназія для сына, тут спаткае яна Антона Войціка і будзе жыць жыццём замужняе жанчыны...

З. Верас, нагадаю, нават на пачатку гарбачоўскай "перабудовы" добра памятала пра доўгія рукі. Пішучы "Успаміны" і дзелячыся ўспамінамі ў лістах, яна старалася некаторых тэм пазбягаць, на канкрэтныя пытанні даваць агульныя адказы, пэўныя аспекты сваёй дзейнасці зацяняць. І ўсё ж чытачу, асабліва гісторыку (маю на ўвазе таксама гісторыкаў журналістыкі, культуры, літаратуры, мастацтва) кніга ўспамінаў і лістоў З. Верас будзе цікавая, бо з гэтае кнігі ён зачарпне нямала патрэбнае інфармацыі, знойдзе ў ёй пэўныя падказкі і арыенціры. А яшчэ чалавеку, не пазбаўленаму слыху, цікава будзе слухаць не сапсаваную саветызмамі беларускую мову. Жывучы сярод лесу, Зосьцы Верас удалося звесці кантакты з савецкай уладай і са стапрацэнтовымі савецкім людзьмі да мінімуму. Гэта мала каму ўдавалася.

---

[16] Гл.: Засинец В. П. Борьба большевиков Белоруссии против мелкобуржуазных партий (октябрь 1917 — январь 1919 гг.). Автореферат дисс. ... канд. ист. наук. – Мн., 1973. – С. 21-22.

[17] Гл.: Гарэцкі Р. Ахвярую сваім "я"... (Максім і Гаўрыла Гарэцкія). – Мн., 1998. – С. 82.

Леанід Галубовіч



...паэзія – гэта
неспасціжныя і нематэрыялізаваныя
пазнакі чалавечага светабыцця...

# “...І заставацца абяцаным”,
## *альбо Напрыканцы напісанага*

***Валеры Дубоўскі. На пачатку маўчання. – Мінск: Юніпак, 2013. – 180 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 44).***

Сёння паэзія, як і наша грамадства, знаходзіцца ў духоўным крызісе. Аднак кветкі, як і вершы, кажучы словамі Ахматавай, растуць з featureснага бруду... Не буду канкрэтызаваць. Паэты таксама вырастаюць з зацемненых глыбіняў грамадства. Па сутнасці, яны яго адлюстраванне. Але калі прыгледзецца да сённяшняга агульнага літаратурнага працэсу, то адразу ў вочы кідаецца яго разрозненасць і ўзаеманепранікальнасць. У некаторых выпадках можна нават сказаць закрытасць. Розныя пісьменніцкія саюзы, розныя погляды на грамадства, палітыку і нацыянальную культуру, розныя перыядычныя выданні і выдавецтвы, непараўнальныя магчымасці публічных сустрэч з чытачамі, размежаванасць у поглядах, паводзінах і прапагандзе творчасці старэйшымі і маладзейшымі пакаленнямі літаратараў...

У большасці з пералічаных выпадкаў такое становішча з’яўлялася б нармальным для дэмакратычнага грамадства, калі




б дзяржаўная ўлада была па-над усім і да ўсіх ставілася роўна, г. зн., з увагай, павагай і колькімагчымай падтрымкай. На жаль, пра падобнае мы можам толькі марыць, найперш я кажу пра СБП, хоць і ў СПБ справы таксама чамусьці не квітнеюць...

Таму, чытаючы розныя кніжкі і часопісы, нярэдка ледзь не правальваешся ў прастрацыю ад штучнай аўтарскай безасабовасці. Бясконцы шэраг шэрасці эмацыянальна стамляе мозг да бяздумнага ўспрыняцця прачытанага (даверу напавер). Безумоўна, Бацюшкаў мае рацыю: *мэта паэзіі – паэзія*. Але я не магу выключыць і таго, што задачай пэўнага накірунку і канкрэтнага аўтара можа быць і паэтыка. І павінна, дарэчы, быць асабліва ў тых выпадках, калі час і чалавек стаяць на парозе змены сваёй хоць бы толькі фармальнай сутнасці.

Нам пастаянна даводзяць, што ў нас сёння ёсць чатыры паэты: Р. Барадулін, У. Някляеў, А. Разанаў і А. Хадановіч. Астатнія – дадатак, бліжэйшы і аддалены – група пенсійнага інерцыйнага вершапісання і моладзевая пясочніца, дзе кожны паказвае свой голас, нораў і здольнасць не толькі да паэтычнай творчасці, але і да харызматычнага ўвасаблення любымі сродкамі... Электронныя сайты і сацыяльныя сеткі замяняюць колішнюю саюзапісьменніцкую “секцыю крытыкі”. Можна палічыць, пра каго колькі пішуць і згадваюць, выстаўляючы “фотафэйсы”, хто сам да гэтага штодня дадае свае пяць капеек, і вы лёгка зразумееце расклады тых ці іншых сіл і груповак у бясконцым змаганні за парнаскае лідэрства, няхай і часовае і ў нейкім сэнсе ўмоўнае, а ўсё *жж*... Што ж, ад адных паэзія, дзеля свайго выяўлення, вымагае пакут і балючага шчаслівага азарэння, ад другіх – філалагічнага досведу і клавіятуры...

Найцяжэй даводзіцца творцам, якія ад пачатку апынаюцца па-за межамі мной апісанага літаратурнага раскладу. Тым, хто, не выходзячы з сябе, вымыкае ў паэтычны свет, як тая няўтомная ластаўка, зляпіўшы ўласнае гняздо з ужо ўпомненага бруду ў зацененым падстрэшшы людскога дома, высака лунаючы падчас яснага надвор’я, і нізка, падразаючы маланкавым крылом зямную траву, перад непагаддзю і навальніцай... Напраўду, нібы пішучы пяром на ляту.

Такіх самабытных, самазахаваных, творцаў не так і мала. Мы даведваемся пра іх існаванне толькі тады, калі яны самі надумваюць (вядома, маючы такую магчымасць) адкрыцца нам альбо хтосьці, спагадлівы і дабрадушны, спрабуе іх адкрыць...

Зусім нядаўна я шчасліва натрапіў на кніжку вершаў невядомага мне Валерыя Дубоўскага “На пачатку маўчання”. У гэтай кнізе паэзіі (Рыгор Барадулін у кароткім уступным слове менавіта так і толькі так патрабуе называць яе, а не зборнікам вершаў), у якім, на жаль, а мо і на загадкавае дабро, няма пашыранай аўтарскай ці хоць бы якой сяброўскай згадкі пра жыццёвы і творчы шлях аўтара. Ёсць толькі фота і кароткая біяграфічная выкладка: “Літаратар, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва “Беларусь”. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску”. Мы амаль аднагодкі, аднак для мяне тут не знайшлося аніводнай зачэпкі, каб узгадаць хоць праз якое ўскоснае перасячэнне нашых жыццяў ці літаратурных інтарэсаў... Хіба што малая радзіма паэта – шклоўшчына – падштурхнула да іранічнай антытэзы, кшталту, што нават у адным месцы могуць нарадзіцца вельмі розныя па ментальнасці і светапогляду людзі. Беларусы па месцы нараджэння і беларусы па нацыянальнасці. Валеры Леанідавіч – з апошніх.

Нідзе дагэтуль я не сустракаў яго вершаў. Нават у анталогіі беларускай паэзіі

XX стагоддзя М. Скоблы “Краса і сіла” ані радка не аказалася. Ну, а ўжо ж калі і Міхась не адшукаў і не ведаў пра такога паэта, то я пагатоў...

Дык калі ж наш аўтар пачаў пісаць вершы? Даты пад імі не пазначаны (са зместу тэкстаў больш ці менш канкрэтны час таксама не надта ясна прачытваецца), але па сталасці стылю і вызначанасці формы можна меркаваць, што гэта здарылася даўно, хоць, на мой погляд, большасць вершаў былі даведзены да публікацыі ў апошнія гады. Ні ў адным з іх не адчуваецца пачаткоўскіх хібаў, пазнакаў вучобы ці абсалютнага пераймання папярэднікаў... Кніжка вырабілася адмыслова і, пэўна, не без кансультацый з вядомымі літаратурнымі калегамі, пазначанымі рэдактарамі, (вышэй упомненым Рыгорам Барадуліным і Уладзімірам Арловым). Не думаю, што такімі яркімі літаратурнымі імёнамі Валеры Дубоўскі хацеў прыдаць кніжцы пэўную паэтычную важкасць. Проста аўтару прыйшоў час выпісаць на адваротнай старонцы свайго чалавечага лёсу дабротную ва ўсіх сэнсах паэтычную споведзь свайго жыцця.

Трохі паразважаем пра самую сутнасць паэзіі. Як яна прыходзіць і выяўляецца? Думаю, тут у кожнага паэта, сыходзячы з яго ўласнага вопыту, павінны быць свае адказы. Але ёсць і пэўная цвёрдая аснова гэтай мастацкай з’явы, яе нязрушны канон, – талент аўтара. Калі з самага малалецтва свет, хоць і здзіўляе цябе, але падаецца ўсё ж недастаткова прывабным і табе хочацца па-свойму самаўладкаваць яго і разнастаіць, і зрэдзьчасу табе гэта ўдаецца ў сваіх мроях, тады ты і пачынаеш акрэсліваць тыя свае н*а*думы-одумы словамі роднай мовы... Паэзія – гэта неспасціжныя і нематэрыялізаваныя пазнакі чалавечага светабыцця... І контурная карта жыцця духоўнага, якую кожны можа размаляваць у свае колеры, адвёўшы ім свае межы, і пазначыць там пункты ўласнага віртуальнага месцазнаходжання... Гэта – мастацкае мысленне на краі шызафрэнічных абрываў... Так, мне здаецца, павінна вызначацца пазія па вялікім рахунку.

Я не схільны сцвярджаць, што нешта падобнае адбылося і адбываецца з Валерыем Дубоўскім. На мой погляд, тут першапачатковыя з’явы яго паэтычных праяўленняў адразу ж складваліся ў своеасаблівую архіўную скарбонку, дзе яны павінны былі вытрымаць пэўны тэрмін, каб сцвердзіць сваю былую каштоўнасць і падчас агульнай літаратурнай інфляцыі як уласныя споведзь і запавет... Насамрэч жа яны засталіся нязменнай каштоўнасцю толькі таго свайго канкрэтнага часу. Але, як кажуць вернікі, гэтыя рэчы былі так намолены аўтарам, што захоўвалі сваю лакальную святасць і ва ўсіх тых межах, дзе было магчымым іх нечаканае з’яўленне. Вось як у гэтай канкрэтнай кніжцы В. Дубоўскага “На пачатку маўчання”, якую ён выдаў ажно на 65-годдзе свайго жыцця. Безумоўна, у яго наконт гэтага былі свае ваганні і перасцярогі, аднак, па ўсім відаць, словы падтрымкі знаных літаратараў прыдалі яму творчай упэўненасці і адвагі...

Пачну з цытаты верша, які, калі і не падцвярджае мае, вышэй выказаныя, высновы, то, ва ўсякім разе, і не абвяргае іх катэгарычна і даастатку:

За жыццёвай
спазнанай высноваю
нам віднечаю
одум высвечвае:
што відочнае –
гэта часовае,
невідочнае толькі –
вечнае.

Вельмі яркая і глыбока сэнсоўная паэтычная страфа. Хоць гэта і ёсць увесь верш. Трэба адразу зазначыць, што творы В. Дубоўскага ў сваёй пераважнай большасці кароткія і лаканічныя, і нават шырэйшыя па тэксце перапыняюцца аўтарам не далей наступнай старонкі.

Вершы паэта вытрыманы ў традыцыйных формах, але, час ад часу, не цураюцца вызвольнага перастварэння, накідваючы на сябе разветраныя апранахі верлібра, свабоднага ці белага верша. І ўсё ж надта вольнічаць свайму вершу В. Дубоўскі не дазваляе, іншым разам складваецца ўражанне, што ён яго стрымлівае, прыглушаючы натуральныя эмоцыі і вычуванні на карысць пэўных сэнсазаключэнняў і філасофскіх высноў (я назваў бы гэта *лірычным мысленнем*). Прызнаем, што такі падыход не заўсёды дае станоўчы вынік. Але нельга не сказаць, што часта ў такіх *празаічных* выпадках на выратаванне паэту прыходзіць музыка верша, пэўны акцэнтаваны тон, адцененая алітэрацыя і ледзь праглядная патаемнасць. Менавіта *недамоўленасць* і *недаказанасць* найчасцей вырашаюць мастацкую грунтоўнасць шмат якіх твораў паэта. Як вось у гэтым, на першы погляд, здавалася б, прасталінейным вершы. Але насмельцеся стаць на яго плынь – і вы няўтонна пойдзеце па яго хвалі:

Урэшце
мне сэнс вядомы
і слоў,
і далёкіх дымоў.
Думаў –
дарога з дому.
Напраўдзе –
дарога дамоў.

У вершах В. Дубоўскага няшмат выразных прыкмет рыфмаў, але затое яны напраўду *рэдкія*, як, да прыкладу: *перамен – перамне* ці, як у толькі што працытаваным вершы, *дымоў – дамоў* і да т.п.

Горад і вёска, родавая і бытавая памяць – вось што не дае зарасці сцежцы памяці паэта, якая прыводзіць яго да вясніц неардынарных адкрыццяў. Уся гама перажыванняў і духоўна-душэўных суплётаў нацыянальнага чалавека набывае ў творах паэта выразныя пытанні, але так і не знаходзіць адназначных адказаў:

Шчасціўся:
сын разумны расце.
Саромеўся:
вершы навошта піша?
................................
Да памяці продкаў
на куце туліўся
за бел-чырвоным абрусам.
А матчынай мовы
ледзь не пазбыўся...
Быў чалавек
беларусам.

Па ўсёй разлозе кнігі адчувальна праяўляецца густоўны (ва ўсіх сэнсах) барадулінскі стыль і светаадчуванне. Не яўнае, а падспуднае. Нават цытаваць не буду, бо яно не ў словах і радках, а ў назапашанай ад частага чытання *біблейскай барадулінскай аўры*. А вось мысленне – разанаўскае і нават месцамі не асабліва прыхаванае:

Вага думак
у часе вагаецца.
Увасабляецца
то праўдай,
то няпраўдай.

І гэта не папрок. Хутчэй – задаволенасць ад выбару ў настаўніцтве (няхай і

ва ўскосным). Гэтыя дзве несупадаючыя, але паралельныя прамыя (барадулінская і разанаўская), як ні дзіўна, у самога аўтара гарманічна спалучаюцца і прыводзяць яго паасобныя лепшыя вершы ўшчыльную да багдановічаўскай “чыстай красы”:

У забыты сон
я нацянькі
вярнуся,
можа, й незаконна.
Збылога поўныя глякі.
Пачуцці.
Гукі.
Матылькі.
І ты –
нібыта заваконна.
................................
І што бязгрэшны –
не мані,
з усіх адна перадумова.
Не трэба
клятваў, слоў, ані...
Салёны вецер.
Камяні.
Сцяжынка.
Ўсё – пазажыццёва.
Збылое льецца
цераз край.
І не пытай,
каму заплочана.
Сабе, як жабраку,
падай...
Забыты сон.
Грачыны грай.
І ты.
Як вечнасць.
Зааблочана.

Апроч натуральнасці жыцця і кахання, паэта востра цікавяць пытанні быцця і вечнасці. Не застаецца не заўважанай яго сканцэнтраванасць на пэўных, сакральных, момантах жыцця... Часовае зямное і вечнае паднебнае ў сваім збліжэнні да магчымага адзінства адклікаюцца ў паэце прагай уласнай самадастатковасці і бесперапыннай спробы фіксацыі першабытнай непаўторнасці самой Прыроды, што пастаянна, як мантры, паўтараецца ў паэта выразам *нязбыўнага і збылога*...

Храм нікому
не перакрычаць.
Марна
крыкам заклікаць
нябёсы.
Тут прасветлай мілаты
пячаць,
тут сябе спрабуеш
распачаць
зноў,
маўклівы,
але шматгалосы.

І ўсё ж не адпускае зямное: разуменне, што свет *сатканы* (створаны) са

звычайных простых рэчаў, і што сам чалавек і ёсць тым унікальным светам, які, нібы паднебныя зоркі, нараджаецца і памірае...

На сподзеў –
з заўтра ў сягоння –
Найвышні
перакінуў ніць.
Анёлы,
зрынутыя ніц,
сябе ніяк мы
не дагонім.
Крыло баліць...
Крыло баліць...

Аднак як бы я ні намагаўся ўхвальваць гэтую познюю (магчыма, з гэтай прычыны і пераспелую) кнігу вершаў В. Дубоўскага, а ўсё ж звярыным загнаным духам сваім адчуваю, як не хапае ёй расцуглянасці і палёту (нічога не зробіш, жыццё ўсіх нас, рана ці позна, ставіць у аглоблі і падразае крылле)... Нездарма, калі чытаеш такія радкі В. Дубоўскага:

Толькі я тады жывы,
як сябе аспрэчваю.
Па жарстве ды па жвіры
пхнуся ўпарта да гары
ды дзіўлюся нечаму.

Як адразу ж, нібы той тапелец за саломіну, хапаешся за наступныя:

Нязмушана слова сваё
выгушквай.

Пажадаем жа паэту, каб тое лепшае (а яно ў кніжцы пераважвае), што ён мае ў сваім паэтычным набытку, цяпер, калі ён нарэшце адкрыўся нам такім як ёсць, прыбывала разам з няспынным часам, спалучаючы яго вопыт і важкасць з той дзіцячай шчырасцю і непасрэднасцю, якая і была ***“на пачатку маўчання”***. Бо паэзія такая штука, у якой, па шырока вядомых словах М. Ушакова, *“чем продолжительней молчанье, тем удивительнее речь”*. Будзем спадзявацца, што ў выпадку з В. Дубоўскім гэты класічны выраз не стане выключэннем.

# Крывіцкі апокрыф

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Злачынства, сэр: зборнік дэтэктыўнага апавядання / Уклад. Г. Янкута. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 468 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Бібліятэка часопіса “ПрайдзіСвет” “PostScriptum”).**

Канцэпцыя зборніка “Злачынства, сэр!” грунтуецца на меркаванні, што дэтэктыўнае апавяданне — неабавязкова жанр масавай літаратуры. У кнізе можна знайсці і так званы протадэтэктыў — апавяданне Э.Т.А. Гофмана “Мадэмуазель дэ Скюдэры”, у якім толькі-толькі з’яўляюцца першыя прыкметы жанру, які неўзабаве зробіцца ці не самым папулярным, і два апавяданні аднаго з бацькоў дэтэктыва Эдгара По, і класічныя творы прадстаўнікоў жанра Г.К. Чэстэртана і Э. Куіна, і апавяданне вядомага (праўда, зусім не гісторыямі пра крадзяжы і забойствы) чэшскага празаіка Карэла Чапэка, і твор амерыканца Ф. Стоктана “Панна ці тыгр?”, якое ўваходзіць у самыя знакамітыя анталогіі амерыканскага апавядання, і ўзоры сучасных мадыфікацыяў жанра — творы В. Такарчук, Д. Клугера, М. Бліні. Раздзел “Бясчынства, сэр!” змяшчае вядомыя класічныя пародыі на гісторы пра Шэрлака Холмса, напісаныя Б. Гартам, Р. Стаўтам, Ж. Жыраду і А. Аверчанкам, а таксама вялікую аповесць славацкай пісьменніцы Даніэлы Капітанявай “Забойства ў Жлуктаве”, у якой аўтарка прымушае самых знакамітых дэтэктываў усіх часоў і народаў расследаваць загадкавае забойства ў маленькім славацкім мястэчку Жлуктаў.

“Так, у нас тут, безумоўна, забіваюць. Ну, і крадуць усё, што кепска ляжыць альбо старанна ахоўваецца: дыяменты, лісты, партсігары, галёшы і грошы. А яшчэ ў нас смяюцца — бо, як гэта ні парадаксальна, нават забойства можа зрабіцца крыніцай добрага настрою. Прынамсі, для чытача”.




**Анатоль Івашчанка. Хай так. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 43).**

У другую кнігу Анатоля Івашчанкі ўвайшлі вершы, што складаліся цягам сямі апошніх гадоў. Халаднаватая метафізічнасць і адстароненасць, характэрныя вершам першага зборніка паэта, саступаюць месца пачуццёвасці, лірызму, а часам – і звароту да вострай сацыяльнай праблематыкі. Паэт запрашае выправіцца ў захапляльнае падарожжа: ад самоты – да свабоды.




**Сяргей Кавалёў. Крывіцкі апокрыф: п’есы. – Беласток: Prymat, 2013. – 160 с. – Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”.**

У кнігу знанага драматурга Сяргея Кавалёва, п’есы якога паспяхова ідуць на сцэнах многіх тэатраў Беларусі, а таксама за мяжой, увайшлі як новыя творы (“Крывіцкі аокрыф”), гэтак і новыя варыянты раней вядомых п’ес, створаныя для сучасных сцэнічных увасабленняў (“Віфляемская зорка”, “Авантуры Кубліцкага ды Заблоцкага”). Гэта восемдзесят шостая кніга беластоцкага літаб’яднання “Белавежа” і першая (!) – драматургічная.

Колішняя “дзеяслоўская” публікацыя рэцэнзіяў польскіх крытыкаў на п’есу “Вяртанне Галадара” ў чарговы раз засведчыла цікавасць нашых заходніх суседзяў да творчасці беларускага драматурга. Вось і гэты зборнік завяршае аглядны артыкул Беаты Сівек па творчасці Сяргея Кавалёва, напісаны па-польску. Тое ж, што зрэдзьчасу з’яўляецца ў беларускай перыёдыцы пра драматургію мае звычайна павярхоўны канстатацыйны характар. Мусім з жалем канстатаваць моцны заняпад драматургічнае крытыкі і запрашаем аўтараў, якім баліць гэтая тэма, да супрацы.



**Віктар Марціновіч. Сфагнум: раман / Пераклад Віталя Рыжкова. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 320 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 42).**

Віктар Марціновіч — адзін з самых паспяховых і, мажліва, самых спрэчных беларускіх аўтараў, і выхад ягонай чарговай кнігі стаецца новым эксперыментам і адметным прэцэдэнтам у айчыннай выдавецкай прасторы. “Сфагнум” адначасова з’явіўся на рускай мове, мове арыгіналу, на сайце 34mag.net, дзе размешчаны ў вольным доступе.

Аўтар прызнаецца, што спрабуе ў новым рамане ў лёгкай форме гаварыць пра складанае і глыбіннае. Ці ўдалося пісьменніку за “гангстэрскай камедыяй”, “за картамі, грашыма і двума стваламі ў беларускай правінцыі”, як акрэслілі жанр кнігі замежныя выдаўцы, схаваць раскрыццё важнай для беларусаў сацыяльнай і нацыянальнай праблематыкі? Маем мы справу з “лёгкім чытвом” альбо з вытанчанай стылізацыяй пад масавую культуру, з гульнёй у папулярны кантэкст? Адказаць на гэтыя пытанні можна, толькі непасрэдна пазнаёміўшыся з кнігай.




**Эва Суса. Снежны чалавек / Пер. са швед. Алесі Башарымавай. – Мінск: Юніпак, 2013. – 26 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”).**

У межах добра вядомай “Кнігарні пісьменніка” ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” заснавала новую кніжную серыю для дзяцей і падлеткаў “Каляровы ровар”. Першая кніга з малюнкамі — “Снежны чалавек” Эвы Сусы ў перакладзе са шведскай Алесі Башарымавай нядаўна пабачыла свет у выдавецтве “Юніпак”. Простая і мілая гісторыя сяброўства двух братоў Уна і Макса са снежным чалавекам аздоблена мастаком Бэнджамэнам Шо. Кніга мае вялікі фармат і добрую паліграфію.




**Усевалад Сцебурака. Бег па самаадчуванні. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 39).**

У новую кнігу Усевалада Сцебуракі ўвайшлі вершы і празаічныя зацемкі, напісаныя цягам апошніх гадоў. На гэтых 96-ці старонках можна знайсці гарадскія (“Здарова, мой горад!”) і вясковыя (“Восень — бурштын і мёд”) пейзажы, філасофскую (“Давай падлічым pro et contra”) і сацыяльную (“Зьмітру Дашкевічу да 31-га дня народзінаў”) лірыку, не кажучы ўжо пра вечную тэму кахання або кароткія рыфмаваныя гісторыі з жыцця гараджаніна. І нават аповед пра “пакаленьне last” замест пасляслоўя. І выслоўі-“ґемаркі” кшталту: “*Паміраючы, упэўніцеся, што вашае жыцьцё скончанае*”. Тут ёсць калі не ўсё, то многае, што дапаможа болей дазнацца пра Усевалада Сцебураку — як пра асобу і як пра паэта.

# Нашыя аўтары

**Алексіевіч Святлана** — празаік, драматург, публіцыст. Аўтарка дакументальна-мастацкіх раманаў «У вайны не жаночы твар», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва» і інш. Лаўрэатка літаратурнай прэміі «Трыумф». Нарадзілася ў 1948 годзе ў Івана-Франкоўску на Украіне. Цяпер жыве ў Швецыі.

**Бабкоў Ігар** — паэт, празаік, філосаф. Аўтар кніг «Solus Rex», «Герой вайны за празрыстасьць», «Адам Клакоцкі і ягоныя цені», «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Баравік Максім** – паэт. Студэнт 5 курса славянскага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ. Працуе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў СШ №135 г. Мінска. Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Крупках на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі. Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красаваць, наліваццa!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Ксты» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Жыве ў Мінску.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг: «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бічэль Данута** – паэтка. Лаўрэатка Дзяржаўная прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1984). Аўтарка зборнікаў паэзіі «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі», «Доля», «Ты – гэта ты», «Браткі», «Дзе ходзяць басанож», «Загасцінец», «Даўняе сонца», «А на Палессі», «Божа, мой Божа», «Снапок», «На белых аблоках сноў», «Стакроткі ў вяночак Божай Маці», «Ойча наш...»; кнігі нарысаў, мемуараў і эсэ «Хадзі на мой голас», кнігі прозы «Мост святога Францішка». Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Брагінец Алесь** – празаік. Скончыў Гомельскі гандлёва-эканамічны ўніверсітэт. Працуе ў гандлі, а ў вольны час піша прозу. Нарадзіўся ў 1981 годзе на Любаншчыне. Жыве ў Гомелі.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг: «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкі Эдуард** – гісторык, культуролаг, паэт, эсэіст. Аўтар кніг: «Таямніцы народнай душы», «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён», «Культуралогія», «Душы маёй няскончаны палёт» і інш. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Ігнацюк Алена** — паэтка. Аўтар кнігі «Нота “ля”». Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Асавец на Драгічыншчыне. Жыве ў Слоніме.

**Каско Алесь** — паэт. Аўтар кніг «Скразная лінія», «Набліжэнне», «45» і

інш. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцавіччыне. Жыве ў Берасці.

**Лявонава Ева** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры «Гісторыя замежнай літаратуры» філалагічнага факультэта БДУ. Аўтар 370-ці навуковых публікацый, шэрагу навуковых кніг, сярод якіх – «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX-XX стст.», «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт: Дапаможнік для студэнтаў», «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры». Нарадзілася ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Мароз Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Мудроў Вінцэсь** – празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Панізнік Сяргей** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Кастры Купалля», «Палявая пошта», «Чало і век», «Стырно» і інш., публіцыстыкі «Пасля вогненных вёсак...», прозы «Асвейская трагедыя» і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Бабышкі на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.

**Скрыпнічэнка Георгій** — мастак. Вучыўся ў Мінскай мастацкай вучэльні ў Іосіфа Эйдэльмана. Удзельнік выставаў з 1965 г. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Працы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах БСМ, Слуцкім, Мастоўскім, Лунінецкім краязнаўчых музеях, Магнітагорскім мастацкім музеі, фондах Міністэрства культуры Расіі. Нарадзіўся ў 1939 года ў Мікалаеве (Украіна). Жыве ў Мінску.

**Радзівіл Францішка Уршуля** – паэтка, драматург. З роду Вішнявецкіх, жонка М.К. Радзівіла Рыбанькі. Аўтарка вершаваных «Лістоў да мужа», зборніка «Збавенныя перасцярогі», «Камедыі і трагедыі». Нарадзілася на станцыі Чартарыйск Валынскай вобласці ў 1705 годзе, памерла ў 1753 годзе.

**Сідарэвіч Анатоль** — публіцыст, філосаф, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кнігі «Луцкевічы і Луцэвічы». Адзін з ідэолагаў адроджанай беларускай сацыял-дэмакратыі. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Доўгі Лес на Піншчыне. Жыве ў Мінску.

**Чубат Аляксей** – паэт, празаік. Аўтар кнігі вершаў «Гліняны чалавек». Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Вялейцы. Жыве ў Мінску.

**Шымборска Віслава** – польская паэтка, эсэістка, літаратурны крытык, перакладчыца. Аўтар кніг паэзіі «Для таго жывем», «Пытанні да сябе», «Заклікі да Еці» і інш. У 1996 годзе Нобелеўскі камітэт уганараваў В.Шымборску прэміяй “за паэзію, якая з іранічнай дакладнасцю адлюстроўвае ў фрагментах чалавечай рэальнасці гістарычны і біялагічны кантэкст”. Нарадзілася ў 1923 годзе ў мястэчку Курнік, непадалёк ад Познані. Памерла ў 2012 годзе.

**Ялугін Эрнест** – празаік**.** Аўтар кніг: «Сіндбад вяртаецца», «Без эпітафіі», «Острова», «Последний князь» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе на станцыі Асінаўка Аршанскага (цяпер у складзе Дубровенскага) раёна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**





У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.